№4 (77)
/ліпень-жнівень/ 2015

дзеяслоў

ЗМЕСТ

**Паэзія**

**Юрка Голуб.**
Готландскі нататнік. *Вершы.* / 5
**Святлана Раманава.**
Вызначэнне мастацтва. *Вершы.* / 59
**Алесь Каско.**
Цені і водбліскі. *Вершы.* / 70
**Мікіта Найдзёнаў.**
Не яго дзэн. *Вершы.* / 92
**Арцём Сітнікаў.**
Дабравешчанне Волі. *Вершы.* / 106
**Рагнед Малахоўскі.**
Рамантык гіне. *Вершы.* / 130

**Проза**

**Алесь Усеня.**
Дырэктар могілак, або Тры дні на тым свеце.
*Аповесць.* / 11
**Адам Глобус.**
Смерць ад вялікай любові.
*Кароткая аповесць пра захапленні.* / 65
**Алена Брава.**
Мёд Чорнага Месяца.
*Апавяданне.* / 81
**Сяргей Абламейка.**
Тастамент. *Два апавяданні.* / 98
**Уладзімір Сцяпан.**
Салдацкі гузік. *Запісы 1983-1985 гг.* / 115
**Віктар Казько.**
На кручку. *Нізка апавяданняў (Працяг).* / 137

**Дэбют**

**Зміцер Копаць.**
Слоік Свабоды. *Апавяданне.* / 170

**Пераклады**

**Тадэвуш Ружэвіч.**
Падзенне. *Верш і паэма.*
*Пераклад Сяргея Прылуцкага.* / 179

| | |
|---|---|
| **Памяць** | **Генадзь Бураўкін.** Апошняе сумоўе. *Сяргей Шапран – пра развітальныя сустрэчы з Генадзем Бураўкіным. (Заканчэнне).* / 189 |
| **Спадчына** | **Сяргей Чыгрын.** Яму сніліся Скарына і Міндоўг. *Творчы партрэт Міколы Арочкі.* / 211 |
| **Біяграфія** | **Сяргей Шапран.** Уладзімір Някляеў. Незавершаная аўтабіяграфія. *Старонкі новай кнігі. (Працяг).* / 231 |
| **Кантэкст** | **Юры Пацюпа, Вячаслаў Мартысюк.** Праўда дзесьці побач. *Пра атрыбуцыю і фальклярызацыю. (Заканчэнне).* / 246 |
| **Эсэ** | **Міхась Скобла.** Саркафагі страху. *З будучай кнігі.* / 262 |
| **Дыскусія** | Непрыдуманая літаратура / літаратура нон-фікшн у Беларусі – што гэта? *Круглы стол.* / 278 |
| **Згадкі** | **Славамір Адамовіч.** Мая Украіна. *Восем эпісодый аднаго жыцця.* / 294 |
| **Дыяспара** | **Сяргей Казак.** «Тут ёсць і жыве Беларусь!» *Беларуская прысутнасць на старонках украінскіх эміграцкіх выданняў.* / 315 |
| **Дослед** | **Ірына Шаўлякова.** Любіць Зеўса: сацыялогія літаратуры як “прываротная сіла”. / 321 |
| **Кнігапіс** | **Леанід Галубовіч.** Сляды ў сумётах. *Рэцэнзія на кнігу Таццяны Барысік.* / 326 |
| **Дзеяпіс** | *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова».* / 331 |

Юрка Голуб



...Хочацца дахаты. Збеглы сын...
Што цябе на палубе трымае?..

# Готландскі нататнік

### *ГУСІ НАД ВІСБЮ*

Дзе вятры прагрызлі мур
Крапасны – не з голаду,
Развязалі гусі шнур
Па-над дахам Готланда.

Ім даступны небасхіл,
Балтыка, тым болей.
Б’юцца крыламі ўнахіл
Вынаходцы волі.

На шляхі ім крапаў дождж.
Шанавалі Шалі.
Для палёту дужы – гож.
Слабкі – варты жалю.

Дзе пункціры значыў Воз
Над кудлатым морам,
Да парома поўз абоз
З выкладкаю мрояў.

...Гусі выраем ляцяць.
Лёс аблок гартаюць.
Адчуваеш дух зліцця
Сэрца і гартані.

## *АВЕЧАЯ АРАТОРЫЯ*

Гараскопы нам ілгуць.
Гаснуць хутка свечкі.
Візбу моўчкі сцерагуць
Сто бараноў і сто авечак.

Ім быццё – не забыццё,
Непадлеглым зграі.
На пастаўленых жыўцом
Поўсць каменна грае.

Рог крутога барана
Край мілосці кратаць.
Кожух прагнуць апранаць
Піраты і караты.

Атару вуліцы пасуць,
Хоць траў няма на бруку,
Выносяць бараны прысуд
Зламыснікам у друку.

Нябось, няма на свеце сёл,
Рэліктавых паселішч,
Каб там баран, а не асёл,
Авечцы сцежку сцеліў.

## *ШЫПШЫНА КАЛЯ СТАРАЖЫТНАЙ СЦЯНЫ*

Калі ішоў на самоце
уздоўж ахоўнай сцяны
у далечыні ад помных
сцежак,
насустрач
рушыла ...шыпшына.
Сустрэліся. Абняліся аберуч.
І не ўкалоліся.

А мяне захліснула зямлячае:
“О Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цвет!
У ветры дзікім не загінеш,
Чарнобылем не зарасцеш”.*

* З Уладзіміра Дубоўкі

## *ПАЭМА ВОКНАЎ*

Далёка за поўнач
іх святло падае ніцма
на блішчаста-ўзорыстыя
вісбянскія брукі.

Раніцай,
калі зара
кранае іх падаконнікі,
там адбываецца
містэрыя-цуд.

Распачынае яе марак
у бялюткай матросцы
і хвацка аддае чэсць
дню-камандору.

Пыхнуў чырвоным вуголлем
чыгунны прас,
рыхтык зняты з гарышча
роднага хутара.
Такім калісь карыстаўся
бацька-кравец.

Рыхтуецца да зорнага часу
паяльная лямпа,
падобнай смаляць вепрукоў
на зімовых падворках
паблізу Зэльвы.

Ляснымі сініцамі
заценькалі
гарлачыкі і сервізы,
графіны і келіхі,
нібы ў прадчуванні
будучых свят.

А за шыбамі на вуліцы
Knägränd
прашпацыравалі
белагрудыя пінгвіны,
ізноў пачалі барукацца
мядзведзі.

А на Uddens
засвяціліся марскія каменьчыкі,
як вочы,
удумлівага ката,
што прымастаколіўся побач.
І мінакам памахала ружаю
рабрыстая ваза.

І містэрыю-цуд
сталі далей раскручваць
кактусы
і
срэбны дзік,
мухаморы
і
слон-маруда,
ракавіны
і
нават воўк,
які нечакана падміргнуў табе
па-сяброўску.

І перад усім абмываў вокны
спагадны звон
з Domkyrkana –
храма з імем Святой Марыі.

### *НА ВОЗЕРЫ УЛВСУНДАХОН*

На скалах – квартал Вікінген.
Унізе – як лебедзі, яхты.
А возера, быццам агмень,
І свеціць не з бухты-барахты.

Вунь вікінг сядзіць на скале
І сам сабе, мабыць, даводзіць;
Не можа азерца скалець:
З каменнага, бач, радаводу.

Ды вольнаму воля аднак.
Не просіць плыўчыха падтрымкі:

Не лічыць сябе аніяк
Ахвярай халодных абдымкаў.

А вобак – не здолееў араць –
Прыкуты да воблака продак.
Пад сонцам зямлячкі гараць
На ложах са скальнай пароды.

Дзе ветразь прастору набыў,
А вока за хваляй сягнула,
Зышоў ледавік у нябыт,
А мачту вякі не сагнулі.

### *НА БАЛТЫЦЫ*

Адступае Балтыка назад.
Выспы сустракаюць і праводзяць.
Мора б'ецца лбішчам наўздагад
У крутыя рэбры цеплахода.

Мкне яму насустрач небасхіл.
Лёсы іх завязаны на вузел.
Хвалі задыхаюцца без сіл,
Быццам іх нячысцікі валтузяць.

Хоць схаваў трывогу капітан,
Вясялосць памножылі каюты.
Тут не кожны мора паспытаў,
Тут не кожны да яго прыкуты.

Але хвалі скачуць наўскасы,
Чайкі і гарлаюць, і трываюць.
Хочацца дахаты. Збеглы сын...
Што цябе на палубе трымае?..

### *СУСВЕТ*

Час прашыты свінцом.
Друз.
Анёл.
Запаветы.
Конік скок на сянцо
У гуменцы Сусвету.

Цуд адбыўся за ноч.
Адшукаліся згадкі.

Навальніца наўзбоч
Шкуматала палаткі.

Каранасты, трымаў
Дуб маланку за цуглі.
І грамы нездарма
Рэйды ладзілі цугам.

І зышлі, як арда,
З-за нябесных завесаў
Затаптаць на грудах
След каханых злавесна.

Стала раптам яснець.
Золак.
Воблакі.
Ціха.
Мы не ведалі ў сне,
Што загнулася ліха.

## *ПРА ЖЫЦЦЁ*

Забывалася бяда,
Як трава ў рыштоку.
Спаць начлежная буда
Не хацела штосьці.

Ноч спрыяла салаўям,
Гаю вушы звесіла.
Нам – у космасе гасцям –
Стане ўдома весела.

Я табе дашлю ліста,
Ці найлепш – паштоўку.
Сэрца маецца лятаць:
Што ж ты, сэрца... Зноўку?..

Пакладу табе ў канверт
Запаветны промень.
Будзе гэты запавет
Наша пошта помніць.

А сляза, як страказа.
Пахне неба кошанкай.
Нам жыццё – не драбяза.
Не вадзіца ў кошыку.

*Гродна – Вісбю – Гродна*

Алесь Усеня



...кожнаму сучаснаму беларусу
варта было б цюкнуць у левую скронь...

# Дырэктар могілак,

## або Тры дні на тым свеце

***Аповесць****

### Апошні прыпынак

У сёмым купэ дзявятага вагона цягніка “Мінск-Сімферопаль” сядзеў усяго адзін пасажыр. Дый не дзіўна: вясновае крымскае сонца яшчэ не дало абвестку, што прыйшоў час паплёхацца ў марскіх хвалях, папесціцца на жоўценькім пясочку. Да таго ж, газеты і тэлебачанне ўвялі ўсім у вушы, што ва Украіне да ўлады прыйшлі “бандэраўцы”. Яны, маўляў, як некалі архараўцы бацькі Махно, пераймаюць на дарогах аўтамабілі і нават робяць наскокі на цягнікі.

Пасажыра Міхася Піліпчука ні тое, ні другое не хвалявала. Ён і ў калядныя маразы мог паплаваць сярод ільдзінаў. І “бандэраўцы” не заганялі яму душу ў пяткі.

*Часопісны варыянт.

Калі ж і давядзецца ўсё-ткі сашчапіцца з кім, дык Піліпчук свайго не саступіць: кулакі, вунь, як шары для боўлінга.

Вылізаныя еўрапейскія пляжы Міхасю ўжо даўно абрыдлі, дый пачуваўся ён там, як певень у гусінай чарадзе: немцы ды ангельцы па-свойму нешта гергечуць, а Піліпчук у адказ нічога "кукарэкнуць" не можа, бо са школьнае праграмы ў клёпках аселі толькі словы "гут", "аўфідэрзэйн" ды парнуха ўзбагаціла ягоны лексікон слодычным крыкам-стогнам "дас іст фантастыш".

Таму, у рэшце рэшт, і аблюбаваў Міхась хай сабе замызганы, але блізкі па менталітэце Крым: там і мацюкнуцца можна, і згаладалай на жарсць маладзіцы пяшчотнае слова на вушка шапнуць.

Што тычыцца жарсці, дык у свае сорак з гакам Піліпчук мог даць фору таму самаму пеўню. Жонка ў ягоным блудзе вялікаю перашкодаю не была. Ціхмяная, зацюканая хатнімі справамі і двума хлапчукамі-падлеткамі яна здавольвалася тым, што раз на тыдзень, чамусьці па аўторках, Міхась моўчкі выконваў свой мужчынскі абавязак — і годзе.

А ў Крыме, падчас адпачынку, таіцца не было ніякага сэнсу, і Піліпчук "адкідваўся" там напоўніцу. Тым больш, што грошы ў ягоным партманэце не пераводзіліся. А ўсё таму, што Міхась меў уласную пахавальную фірмачку, быў у ёй дырэктарам. Бізнес хоць і не надта прыбытковы, але затое надзейны і пастаянны.

Магчыма, з-за таго, што навідавоку заўсёды былі вянкі і труны, апошнім часам Піліпчук стаў задумвацца пра ўласную смерць, дзе і пры якіх абставінах прышчыкам вынырне з-пад зямлі ягоная магілка. Здавалася б, такі бугай, рана яшчэ шукаць для сябе месца пад зямлёю, тым больш што на зямлі ў яго амаль райскае жыццё. Аднак жа Піліпчук разумеў, што і "бугай" можа скапыціцца ў любую хвіліну, бо з дахаў па-ранейшаму падаюць цагліны, а каналізацыйныя люкі не заўсёды закрытыя...

Па гэтай прычыне Міхась загадзя паклапаціўся пра сваё тагасветнае жытло. А як жа інакш? Хто ж, калі не ён сам, лепш ведае ўласныя прыхамаці? Дый немаведама, што дзеецца ў жончынай душы. Магчыма, яна, абражаная ягонымі ходкамі "налева", захоча адпомсціць і загадае скляпаць труну з якіх-небудзь неабгабляваных дошак. Зрэшты, гэта наўрад... Лепшы майстар-трунар фірмы цэлы месяц увіхаўся над персанальным заказам свайго начальніка. І труна атрымалася адмысловаю: дубовая, адлакаваная, абшытая ўсярэдзіне коўдраю з гусіным пухам, з вечка звісаюць залацістыя махры... Гэтае хараство Піліпчук надумаў абсталяваць і вентыляцыяй. Але пазней. Пакуль жа труна чакае свайго часу ў недасяжнай для чужога вока бакоўцы. Дай Божа, гэты час прыйдзе не скора...

Наконт месца для свайго апошняга спачыну Піліпчук таксама прыйшоў да пэўнай высновы. Аднастайныя і амаль бяскрайнія гарадскія могілкі яго не вабілі. Паўсюль панурыя пейзаж, ні дрэўца, ні зяленіва — адны каменныя глыбы ды пліты. Той самы горад у мініяцюры. А горад яму неўспадоб і пры жыцці.

Іншая справа — родная вёска Застарычы. З дзяцінства Міхась так прыкіпеў да яе душою, што, здаўшы ўступныя іспыты ў сталічны інстытут, першыя паўгода начамі плакаў. У Застарычах жылі ягоныя прашчуры, пахаваныя бацька і маці, і ўвогуле там куды ні плюнь — усюды радня. Калі жонка ці дзеці пасля смерці яго збэсцяць, дык усё адно будзе каму прынесці на магілу кветачку.

Праўда, з магілай, а дакладней, з месцам, дзе яна павінна з'явіцца, якраз і ўзнікла праблема. Могілкі, прытуленыя да ўскраіны вёскі, мяркуючы па ўсім, вельмі старыя. Пра гэта сведчаць векавечныя дубы, і найперш самы магутны з іх. Ён не такі гонкі, як астатнія, затое больш чым у чатыры абхваты. На вока цяжка вызначыць, колькі дубу гадоў, але Піліпчук мяркуе, што не менш як тысяча. Гэта значыць, столькі ж існуюць і вёска, і могілкі. Хутчэй за ўсё пад ім акурат і пахаваны чалавек, які на мяжы балота і лесу першым пабудаваў сваю падслепаватую хацінку.

Дагэтуль могілкі ніколі не пашыраліся, таму людзей хавалі на старых магілах: адзін на адным. І толькі нядаўна яны разрасліся ў той бок, дзе некалі былі бульбяныя ямы. Усіх, хто адышоў у нябыт апошнім часам, закопвалі менавіта на свежым участку. Гэта значыць, там, у маладзенькім сасняку, наканавана ўлегчыся і Міхасю. А яго такая перспектыва не ўсцешвала.

Піліпчуку хацелася знайсці прытулак пад тым самым каржакаватым дубам, прысуседзіцца да свайго першага прашчура. <...>

Учора быў Вялікдзень, і перад ад'ездам на адпачынак ён адскочыў у Застарычы, паклаў кветкі на бацькоўскія магілы. Увогуле ў тамтэйшых мясцінах няма завядзёнкі наведваць могілкі на Вялікдзень. Пафарбаваныя яйкі, пірагі ды моцныя напоі людзі нясуць туды на дзявяты дзень пасля галоўнага праваслаўнага свята — на Радаўніцу. Звычайна Міхась адмерваў коламі свайго легкавіка дзвесце кіламетраў таксама ў гэты дзень. Але склалася так, што сёлета ў ягоным напружаным працоўным графіку двухтыднёвая “фортка” акрэслілася раней, чым звычайна. Вось і давялося наведацца да родных магіл загадзя, на Вялікдзень. Ну, нічога, ніякага грэху ў тым нямашака. <...>

За акном манатонна мільгалі будынкі, дрэвы, палеткі. Ехаць належала доўга — ажно паўтара сутак, таму Піліпчук яшчэ да адыходу цягніка з вакзала пераапрануўся: парадную адзежу акуратна склаў у дарожную сумку, усцягнуў на сябе чырвоны спартыўны касцюм з блямбаю “Адыдас”, усунуў босыя ногі ў хатнія тапкі.

Трошкі адпачыўшы на чарговым прыпынку, цягнік са свежымі сіламі пачаў набіраць разгон. Дзверы купэ мякка, амаль бязгучна адсунуліся ўбок, і ў праёме акрэслілася зграбная постаць маладзіцы. Мужчыны звычайна ацэньваюць жанчын, так бы мовіць, з галавы да ног: спярша позірк упіраецца ў твар, у вочы, потым слізгае ніжэй, на імгненне спатыкаецца на грудзях і ўжо зусім бессаромна тармозіць на клубах і нагах.

У Піліпчука ж, як у адмысловага самца, позірк заўсёды рухаўся ў адваротным накірунку. Гонкія, стройныя ногі постаці, туга абцягнутыя выцвілымі джынсамі, сыходзіліся на шырокай чырве-клубах. Талія, прыкрытая лёгкай блакітнай кофтай, не мела пэўных абрысаў, таму Міхасёў позірк слізгануў па ёй без затрымкі. Затое на грудзях ён змусіўся не проста спатыкнуцца, а застыць — акурат гэтак падарожнік спыняецца перад крутымі ўзлобкамі. Нават цнатлівая кофта не магла ўтаіць тых “узлобкаў” (ды дзе там, сапраўдных эльбрусаў!), якія належала пераадолець. “І поўна пазуха цыцок...” — мільгнуў у Міхасёвым клёку радок вульгарнага вершыка. Хоць і з цяжкасцю, позірку нарэшце ўдалося пераваліцца цераз “узлобкі”, і ён спадзяваўся, што хоць трохі адпачне на твары. Марным быў той спадзеў... Ці не сама Памэла Андэрсан (для Міхася — узор жаночае прыгажосці) стаяла ў праёме дзвярэй. Бялявыя, раскіданыя па плячах валасы, кірпаты носік, пульхныя вусны, гарэзліва-юрлівыя вочы... Мена-

віта яны, вочы, падказалі Піліпчуку, што сексуальны сезон распачнецца трохі раней, чым ён ступіць на крымскую зямлю. Гэта была не дзяўчына, а менавіта маладзіца гадоў трыццаці — таго ўзросту, які разнявольвае, патрабуе неў

таймаванае, ненасытнае жарсці...

Піліпчук ускочыў з сядзення, каб перахапіць груваcткую сумку-вазок з рук маладзіцы. Яна, паблажліва ўсміхнуўшыся, успрыняла ягоны намер як належнае.

— Вы до Симферополя? — з выяўнай надзеяй у голасе запытаўся Піліпчук, штурхаючы сумку-вазок на верхнюю паліцу.

— Да. И вы, надеюсь, тоже? — пытанне прагучала настолькі шматабяцальна і з такою відавочнаю бессаромнасцю, што Піліпчук, сам не звыклы "цягнуць гуму", трохі сумеўся, перш чым імпэтна пацвердзіць:

— Да, конечно...

— Тогда давайте сразу познакомимся, — бесцырымонна мовіла маладзіца, хоць было б прыстойней, каб першым такую прапанову зрабіў мужчына. — Меня зовут Люсьен. А вас?

"Бач ты, Люсьен..." — іранічна падумаў Піліпчук. — Ды Люся ты, Люся з занядбанага беларускага райцэнтра. Няйнакш, таксама распачынаеш свой сексуальны сезон, дык загадзя ў ролю ўваходзіш..." Аднак жа, прымаючы ейную гульню, Піліпчук з пыхаю адказаў:

— Очень приятно. В таком случае я — Мишель. Впрочем, можно и Майкл...

З паўгадзіны яны нязмушана шчабяталі "ні аб чым". Прынамсі, і з гэтае пустапарожняе балбатні Піліпчук вывудзіў, што "Люсьен" — развядзёнка і былы скнара-муж, хоць і буйны бізнесовец, пакінуў ёй у спадчыну не "прывалаўскія мільёны", а трохгадовага спінагрыза, які зараз забаўляецца ў маці. Раней "жонка алігарха" аб'ездзіла ледзь не ўсе еўрапейскія курорты, а цяпер, во, даводзіцца здавольвацца Крымам...

— Может, по капельке? — з хітрынкаю ўваччу нарэшце запытаўся Піліпчук. — Так сказать, за знакомство...

— А что у вас есть? — Люся-Люсьен як чакала гэтую прапанову.

— Водочка, коньячок...

— Нет, я такие крепкие напитки не пью, — капрызна зморшчыла кірпаты носік маладзіца. — Предпочитаю мартини, на худой конец — шампанское...

"Арыстакратка ср...ная, мацьтваю! — злосна падумаў Піліпчук. — Раней, можа, і перападала таго марціні, а цяпер, нябось, і "чарнілу" радая. Аднак жа, бач, усё роўна цану сабе набівае..."

Агучыў жа ён зусім іншае:

— А вы знаете, будет вам шампанское! Хоть залейся! На следующей станции в небольшом городке наш поезд будет минут пятнадцать стоять — встречный пропускает. Там хороший буфет, я как раз и отскочу...

"Люсьен", мусібыць, спадзявалася, што "Мішэль" павядзе яе ў вагон-рэстаран, нават памкнулася зрабіць падказку, але ў апошняе імгненне запнулася, бо палічыла, што раскашэльваць спадарожніка зарана, а то можа спудзіцца.

— Ну, хорошо, — уздыхнуўшы, пагадзілася маладзіца.

Піліпчук таксама трымаў наўме вагон-рэстаран, але планаваў туды ходку бліжэй да начы, напярэдадні жарсных любошчаў. А ісці ў рэстаран цяпер, сярод белага дня, — толькі грошы на вецер пускаць, бо Люся, падобна, жлукта будзь-будзь, асабліва на дармаўшчыну, і адною ходкаю не абыдзешся. Дык няхай пакуль што смокча шампанскае тут, у купэ.

Як толькі цягнік суцішыў хаду, Піліпчук, па-змоўніцку падміргнуўшы спадарожніцы, у чым быў — у спартыўных штанах і тапках — таропка пасунуўся да тамбура.

— Сколько стоим? — на ўсялякі выпадак на хаду запытаўся ён у дзябёлай праваднiцы, якая ўжо была на пероне. — Пятнадцать минут?

— Да, не меньше, — абыякава адказала яна.

Як назло, у прывакзальным буфеце шампанскага не аказалася. Састарэлая прадавачка, скмеціўшы на твары пакупніка расчараванне і разгубленасць, спагадліва параіла яму на трасянцы:

— Вы, мужчына, еслі так карціць, можаце ў магазін забяжаць. Там точна есць. Тут недаляко — за вуглом цераз вуліцу і направа.

Часу яшчэ было ўдосталь, тым не менш Піліпчук куляй выскачыў з буфета, сігануў за вугал будынка і, не азірнуўшыся па баках, вылецеў на праезную частку вуліцы.

Запознены віск тармазоў, моцны ўдар, цела кулём адляцела да тратуара...

Да прытомнасці Піліпчук прыходзіў толькі двойчы — і тое на кароткі час. Спярша ў ягоную свядомасць пранік устрывожаны дыялог.

— Документы какие-нибудь при нём обнаружили? — гэта жаночы голас.

— В заднем кармане трико нашли только абонемент в бассейн, — паведаміў мужчына. — Пилипчук Михаил Кузьмич. И больше, кроме фотографии, никаких сведений. Ни города, ни адреса. Похоже, не местный, потому что бассейна у нас нет. Скорее всего, это пассажир какого-то проходящего поезда...

А ў другі раз, як здалося, аднекуль здалёк, да яго даляцела ўсяго адна фраза:

— Сердце остановилось! Делайте искусственный массаж!

Праз пятнаццаць хвілінаў доктар-маладзён, выцершы на сваім ілбе кропелькі поту, стомлена мовіў:

— Все, бесполезно. Пациент мёртв.

— А куда его теперь? — роспачна запыталася таксама маладзенькая медсястрычка.

— Ты что, первый раз замужем? — рыкнуў на яе доктар. — В морг, конечно. Боюсь, что там ему придется лежать долго. Еще неизвестно, когда отыщутся родственники, да и отыщутся ли вообще...

Гэтых слоў, натуральна, Міхась Піліпчук ужо не чуў.

## Куратар

Спярша ўсё выглядала менавіта так, як вычытаў Піліпчук у кнізе Раймонда Моўдзі “Жыццё пасля жыцця”. Навокал — цемра, наперадзе — кропачка святла, да якой ён ляціць з неймавернай, непадуладнай чалавечаму розуму хуткасцю. З кожным імгненнем кропачка набліжаецца, разрастаецца, неадольна вабіць да сябе, як святло ў канцы тунэля. Людзі, якія перажылі клінічную смерць і потым зноўку вярнуліся да рэчаіснасці, акурат і апісвалі ўсё як палёт па тунэлі. Але, падобна, яны памыляліся. Піліпчуку падалося, што гэта не тунэль, а бясконцая, бяскрайняя прастора, Космас, а адчуванне тунэля магло ўзнікнуць з-за таго, што вакол — беспраглядная цемрадзь.

Дзіўна, але нават тады, калі змрок застаўся ззаду і ўжо ўвесь абсяг быў заліты святлом, дагэтуль нязнаным, зусім не падобным да сонечнага, Піліпчук усё яшчэ імкліва ляцеў немаведама куды.

Палёт скончыўся нечакана і імгненна. У наступную хвілю Піліпчук ужо ўсвядоміў, што ён стаіць пасярэдзіне нейкага кабінета. Неверагодна: навокал не мелася ні сценаў, ні столі, ні падлогі, а адчуванне кабінета — было! Праўда, уяўнае памяшканне выглядала пустым, з мэблі бачыліся толькі контуры, абрысы шырокага канцылярскага стала. А вось той, хто сядзеў за ім, меў выгляд звычайнага, зямнога чалавека. Пакуль гэты чалавек, не зважаючы на наведніка, гартаў нейкія паперы ў тэчцы, Піліпчук паспеў добра яго разгледзець.

Мужчына сярэдняга веку, але дзялянку кароткіх сівых валасоў спераду пачаў ужо заваёўваць нахабны плеш. Запалыя шчокі, мясісты нос з лёгкім напылам чырвані, шчыльна сцятыя вусны, шырокае падбароддзе-цагліна... Піліпчука наведала блюзнерская думка: “Калі б табе яшчэ і бараду, дык акурат дзед Кірэй з нашае вёскі, асабліва пасля добрага перапою. А можа, і вы тут, на небе, Вялікдзень учора адзначылі...” Яно і праўда: твар чалавека за сталом выглядаў памятым і пакутным — акурат як раніцай у непахмеленага выпівакі.

Гаспадар кабінета быў захінуты ці то ў бялюткую прасціну, ці то ў рымскую тогу, звіслую да самых ног, уторкнутых у растаптаныя сандалі. Нарэшце ён адарваў вочы ад тэчкі з паперамі і, спадылба зыркнуўшы на Піліпчука, падаў голас:

— Прозвішча?

Міхась сумеўся. Чаго-чаго, а такога пытання ён не чакаў. Але ж трэба нешта адказваць...

— В детстве Гарбузом обзывали... Кругленький я был, как мячик... Это потом изменился. А в последнее время друзья Хароном шутя окрестили. У меня фирма...

— Годзе! — злосна перабіў яго нябесны жыхар. — Я ў цябе не пра мянушкі пытаюся! Прозвішча назаві!

Толькі цяпер да Міхася дайшло, што суразмоўца распачаў гамонку на беларускай мове.

— У мяне тут пазначана, што ты — беларус, — незадаволена працягваў пляшывы. — А я павінен зносіцца з наведнікамі на іх роднай мове. Дык беларус ты ці не?

— Да... так... беларус...

І ў дзяцінстве, і ў юнацтве Міхась размаўляў толькі па-беларуску. Дый ці магло быць інакш, калі ў вясковым асяродку заўсёды гучала “і звонкае “дзе”, і густое “чаго”? І ў школе ўсе прадметы выкладаліся на беларускай мове. Нават стаўшы студэнтам, Міхась яшчэ доўга не мог скінуць са свайго языка ні родных слоўцаў, ні характэрнага акцэнту. А скінуць іх ён імкнуўся апантана, бо студэнтаў-вяскоўцаў гарадскія аднакурснікі пагардліва называлі “колхозниками”. Паступова, спакваля Міхась дамогся свайго, у ягонай гамонцы беларускія словы праскоквалі ўсё радзей, і нават наведваючы бацькоў, маладзён гаварыў з імі “па-культурнаму”.

— Калі беларус, дык чаго сваёй мовы цураешся? — рыкнуў на Міхася гаспадар кабінета і, не хаваючы абурэння, працягваў: — Што ж там за тэрыторыя такая, што за кавалак зямлі? Толькі і назва — Беларусь, а беларускага не засталося і каліва. Раней гэтак не было, усе, хто тут стаяў, гутарылі са мною на мове, дадзенай ім на вечнае карыстанне. А апошнім часам адных пустадомкаў прымаць даводзіцца... Цьху! — гаспадар смачна сплюнуў.

Міхась хоць і пачуваўся прыгнечана, але аскабалак гумару ў ім усёткі варухнуўся: “Мусіць, там, на зямлі, твой плявок дажджом праліўся...”

— Дык якое прозвішча? — пляшывы трохі супакоіўся.

— Піліпчук...

— Ну, правільна, так і запісана.

— Извините... ой, прабачце, а вы што... усе языки... прабачце, мовы ведаеце? — Міхась гаварыў запінаючыся, з розгадам, каб дагадзіць гаспадару, згадваў, прымушаў вынырнуць на паверхню памяці беларускія словы. — Ці, можа, толькі па Беларусі ўпаўнаважаны?

— Ты за каго мяне лічыш? — зноўку “ўзвіўся” пляшывы.

— А сапраўды, хто вы? — нахабна пацікавіўся Міхась. — Анёл? Апостал Пятро? Ці, можа, сам Бог?

Нечакана пляшывы голасна, на ўсю глотку зарагатаў.

— Ну, развесяліў... Ты што, думаеш, у рай трапіў? І апостал Пятро цябе тут прывячае? Хаця б... Я сам Пятра ўсяго два разы бачыў, дый тое здалёк. Ці ж у яго стае часу, каб кожнага з вас увагаю надзяліць? Ну, насмяшыў...

Аднак жа было відавочна, што самалюбства пляшывага ўсцешанае тым, што гэты наведнік западозрыў у ім апостала, анёла і нават самога Бога. Таму напотым ён ужо вёў гамонку паблажліва, ва ўсякім разе больш спадылба не зыркаў.

— Дык пытаешся, хто я? Можаш называць мяне Куратарам — для цябе гэта і звыкла, і блізка.

Куратар перагарнуў апошні аркуш у тэчцы і, нібы падводзячы рысу, загадна прамовіў:

— Значыць, так, Піліпчук, ты прызначаны дырэктарам могілак. У родных Застарычах, дзе ты ўжо нагледзеў для сябе месца для магілы. Якніяк, а нейкі кіраўнічы вопыт маеш... Ты не зразумеў? — Куратар згледзеў разгубленасць Міхася.

— Ні ў зуб нагою... Увогуле нічога не цямлю: дзе я, хто я... Вы б трохі патлумачылі, Куратар...

— Вечная дакука з вамі! — раздражнёна мовіў пляшывы. — А ўсё таму, што Біблію не чыталі. А калі і чыталі, дык няўважліва. Там жа ўсё напісана! Вось ты Біблію чытаў?

Піліпчук сумеўся і вінавата прамармытаў:

— Гартаў адзін раз...

— Менавіта гартаў! А калі пачытаў бы хаця б першыя словы, дык не задаваў бы мне тут недарэчных пытанняў! “І сказаў Бог: створым чалавека паводле аблічча Нашага і падабенства Нашага...” Хіба ж не падказка для такіх, як ты?

— А якая ж тут падказка? Ну, сказана, што людзі па абліччы да Бога падобныя. Дык мы і ўяўлялі Усявышняга як дзеда з барадою... А як Ён жыве і як усё ўладкавана тут, на Нябёсах, людзі не ведаюць. Святары толькі даводзяць, што ёсць чысцілішча, ёсць рай, ёсць пекла...

— “Чуў звон, ды не ведаю, дзе ён” — здэцца, так у вас на Беларусі гавораць. І тут тое ж самае. Ёсць і чысцілішча, і пекла, і рай. Аднак людзі іх няправільна разумеюць. Калі Бог стварыў чалавека падобным да Сябе, дык, натуральна, і ўсё астатняе павінна мець такое ж падабенства. Цяпер зразумеў?

— Не зусім...

— Э-э, што з табою зробіш, давядзецца ўсё падрабязна разжаваць, балазе, сёння наведнікаў няшмат. — Куратар адклаў тэчку ўбок, адкінуўся

на спінку крэсла. — Вось як уладкавана жыццё на зямлі? Ад нараджэння да смерці чалавек жыве будзённа, звыкла, а бальшыня нават пачуваецца шчасліва. Прынамсі, мала хто імкнецца пакінуць тое жыццё самахоць, усе да апошняга імгнення чапляюцца за зямное існаванне. Калі чалавека падазраюць у якім-небудзь цяжкім злачынстве, яго арыштоўваюць, так? Так. І дзе ён знаходзіцца да суда, пакуль вядзецца следства? У следчым ізалятары! А потым ужо суд вырашае: невінаваты — апраўдаць, вярнуць да ранейшага жыцця, а калі віна чалавека даказаная, дык у турму яго. Адбыў злачынец свой тэрмін — і на волю. Калі выправіўся, усвядоміў свой грэх, дык і жыві побач з іншымі людзьмі да скону. А як зноў некага забіў ці згвалтаваў, дык ты ўжо рэцыдывіст, вяртайся за краты, залазь у зэкаўскую скуру, інакш кажучы, апранай робу, “паліруй нары” ад званка да званка ці чакай чарговае амністыі. І так можа быць не адзін раз — да тае пары, пакуль чалавек не выправіцца або не сканае...

— Вы хочаце сказаць, што нешта падобнае і тут, на Нябёсах? — агаломшана, з непрыхаваным здзіўленнем запытаўся Піліпчук.

— А то як жа! Усё ж створана “паводле падабенства”. А зямное быццё — нябесная копія, толькі паменшаная, прымітыўная, на ніжэйшым узроўні. Нябёсы — гэта і ёсць царства, у якім валадарыць Бог. У зямным сэнсе — рай. А насельнікі ў ім — душы. Калі душа ў нечым саграшыла, “здзейсніла злачынства”, яна павінна адбыць пакаранне. Душа заганяецца ў чалавечае цела, гэта значыць, на яе апранаюць зэкаўскую робу і накіроўваюць у турму, на “зону”. А зямля — гэта якраз і ёсць “зона”, калонія строгага рэжыму. Там, на зямлі, людзі за жыццё трымаюцца, хочуць праіснаваць як мага даўжэй, а адсюль, звысоку, назіраць за імі смешна... Гэта тое ж самае, што вольны чалавек дзівіцца, калі зэк не хоча выходзіць з турмы... Сам падумай: з чаго складаецца чалавечае жыццё? Спрэс — адны клопаты і праблемы, цяжкасці і перашкоды, якія ўвесь час трэба пераадольваць. Спярша прыкладаць намаганні, каб атрымаць веды ў школе ды інстытуце, затым — недзе працаваць, каб пракарміць сябе і дзяцей (хоць тая праца, магчыма, і нялюбая). І ўвогуле, усё існаванне ад калыскі да труны можна акрэсліць дзеясловамі: зарабіць, дастаць, дагадзіць, вылечыцца, заваяваць, дамагчыся... Зрэшты, за зямное жыццё чапляецца толькі цела, бо яму на “зоне” звыкла, камфортна. Там можна розныя плоцкія ўцехі атрымаць. А вось душа на зямлі пачувае сябе пагана. Ёй і хацелася б вярнуцца на Нябёсы, ды “роба”, плоць, не пускае. Гэта значыць, не адбыла яшчэ душа свайго пакарання, не скончыўся тэрмін зняволення...

— Дык, выходзіць, правільна робяць самазабойцы, калі рукі на сябе накладваюць? — прыйшоў да лагічнай высновы Піліпчук. — Яны ж забяспечваюць душам датэрміновае вызваленне!

— А вось і не ўгадаў! Самагубства прыроўніваецца да ўцёкаў з турмы. А за гэта даецца яшчэ большы тэрмін ці ўвогуле пажыццёвае зняволенне. І душа ўжо ніколі не вернецца на Нябёсы...

— Калі Нябёсы — гэта рай, дык што ж тады пекла? Дзе яно знаходзіцца?

— Няўжо не дапетрыў? Зямное жыццё — гэта і ёсць пекла. Ва ўсякім разе для душы, бо яна там пакутуе. Чалавечы розум, мазгі — гэта частка плоці, тая ж “роба”. І таму розуму не дадзена спасцігнуць свет, у якім жыве душа, бо гэта зусім іншае вымярэнне. Па гэтай прычыне розум і выдумляе розную бязглуздзіцу наконт пекла: смажаць на патэльнях, падвешваюць за ногі... Каму што баліць. Аднак жа боль у зямным уяўленні адчувае толькі плоць. І ніхто цела не “смажыць”, бо яно проста гніе ў магіле. А душэўны

боль зусім інакшы, і адчуваецца ён менавіта там, на зямлі. На Нябёсах жа болю няма. Нірвана. Спакой. Звыклы для душы стан. Нездарма святары на хаўтурах моляцца: "Супакой, Госпадзе, душу раба твайго..."

— Дык, выходзіць, я, душа пад назваю Піліпчук Міхась Кузьміч, ужо адбыў сваё зямное пакаранне і зараз трапіў у рай?

— Ага, хаця б!.. Да раю табе яшчэ, як... як да неба, і немаведама, ці трапіш ты туды ўвогуле.

— А куды ж яшчэ мяне могуць паслаць?

— Назад, на зямлю, толькі ўжо ў другое цела. Пасля вызвалення ўсякая душа найперш трапляе ў чысцілішча — тут святары акурат не хлусяць. Каб табе было больш зразумела, па-зямному гэта і ёсць следчы ізалятар. Уласна кажучы, у чысцілішчы акурат і праводзіцца следства, як паводзіла сябе душа на зямлі. Калі выправілася, не грашыла, дык тады ёй дарога ў рай. Калі ж, як пішуць у зямных казённых паперах, душа "не стала на шлях выпраўлення", яна асуджаецца на новы тэрмін і заганяецца ў другую "робу". Дый умовы зняволення ўжо могуць быць іншымі...

— Як гэта?

— А хіба на зямлі ўсе турмы аднолькавыя? Ёсць строгага рэжыму, а ёсць толькі "хімія". Няшмат душа награшыла ў папярэднім целе, да выпраўлення засталося зусім крышачку — дык у наступнай плоці ёй удостатку, так бы мовіць, абмежавання волі ці наогул хатняга арышту. А душы-рэцыдывістцы, якая грашыла налева і направа, і ўзмоцненага рэжыму мала. Ёй накануецца строгі ці асобы... Хіба ж ты сам не бачыў, што людзі на зямлі па-рознаму жывуць?

— Бачыў... Адзін у раскошы купаецца, а другі скарынку грызе...

— І як ты думаеш, чыя душа бліжэй да раю: таго, хто шыкуе, ці таго, хто гаротна жыве? Якая душа блізкая да выпраўлення?

— Тут і дурню ясна: хто жыве бестурботна, заможна, ні ў чым не мае патрэбы, той адбывае "хімію". Ягоная душа пасля гэтай "ходкі" на зямлю, мусіць, патрапіць у рай. А гаротнік-пакутнік, які жыве ў нішчымніцы, і ёсць той самы рэцыдывіст. Душа, пэўна, "страгача" атрымала...

— Памыляешся! Усё якраз наадварот! Чым больш уцех для цела, тым больш пакут для душы. Таму чалавеку і наканоўваюцца новыя выпрабаванні: багацце, улада, розныя спакусы. І калі душы-"рэцыдывістцы" не ўдаецца перадужаць плоць, яна будзе асуджаная на чарговую, як ты кажаш, ходку. А на долю душы, заселенай у цела бедака, спакусаў выпадае мала, і змагацца з імі лягчэй. Гэта і ёсць, лічы, "хімія"...

— Во як! Чым горш, тым лепш... Выходзіць, што душы, якія ўжо не на зямлі і яшчэ не на Нябёсах, знаходзяцца ў нейкім падвешаным стане?

— Менавіта так!

— Дык дзе ж іхняе прыстанішча, хай сабе і часовае? Дзе яны "жывуць" у чаканні чарговага прысуду?

— Я ж табе сказаў: у "следчым ізалятары". А знаходзіцца ён там, дзе пахавана апошняе цела, з якім была з'яднаная душа. У магіле — "камеры следчага ізалятара". А дакладней, у дамавіне, дзе ляжаць і дагніваюць рэшткі цела. Калі яшчэ ёсць хоць адна костачка, хоць адна малекула плоці, душа застаецца ў ёй — аж да тае пары, пакуль не адбудзецца новы суд.

— У дамавіне, кажаце? Дык не ўсіх жа ў дамавінах закопваюць. Скажам, ваяры, ахвяры злачынстваў...

— А што, хіба на зямлі бамжоў нямашака?

— А-а, зразумела...

Куратар палічыў, што Піліпчук, хай сабе і збольшага, ужо атрымаў досвед пра "іншы свет" (падрабязнасці выведае "ў працэсе"), таму вырашыў падвесці рысу:

— На могілках, у "следчым ізалятары", душы жывуць амаль гэтак жа, як і ў "турме", бо яны яшчэ цалкам не адышлі ад зямнога існавання: "ад зямлі адарваліся, а да неба не дасталі". Ім пакуль што ўласцівыя ўсе вартасці і заганы, якія мелі ў апошнім целе: дабрыня, шчодрасць, высакароднасць, хіжасць, злосць, сквапнасць... Карацей кажучы, увесь чалавечы набор. Таму на могілках, як і ў любым населеным пункце на зямлі, павінен захоўвацца парадак. Кажучы блатняцкаю моваю, сачыць за парадкам, верхаводзіць над душамі павінен "пахан". А ў нашых дакументах гэта праходзіць як дырэктар... І на Застарыцкіх могілках дырэктарам прызначаны ты.

— А што, дагэтуль там... "пахана" не было?

— Чаму ж, быў.

— І хто?

— Ты яго не ведаеш. Адбываў пакаранне на зямлі задоўга да цябе.

— І дзе ён цяпер? Зноў накіравалі на "зону"?

— Якраз не. Перад Вялікаднем адбыўся суд над ім, і душу цалкам апраўдалі. Цяпер яна ў раі, атрымала вечны спачын... Часова абавязкі дырэктара выконвае Раўлей. Але кіраўнік з яго нехлямяжы... Там увогуле няма дастойнай кандыдатуры. Таму ты для нас — як падарунак. Прыбудзеш на месца — Раўлей пра твае правы і абавязкі падрабязна раскажа. Ён ужо папярэджаны. Ну, што, ляці?

— Пачакайце, Куратар! — засакатаў Піліпчук, які яшчэ не спатоліў сваю цікаўнасць і адчуваў, што іншае магчымасці можа і не надарыцца. — Я ж так і не даведаўся, хто вы...

— Ну і тугадум жа ты, Піліпчук! Усё ж "паводле падабенства Нашага". Як уладкаванае жыццё на зямлі? Ёсць прэзідэнт, губернатары, старшыні райвыканкамаў. Ім належыць улада. Так і тут: Бог, анёлы, святыя... Але ж сам прэзідэнт ці губернатар рознаю драбязою, руціннымі справамі не займаецца. Для гэтага ў яго ёсць чыноўнікі, канцылярыя...

— Дык на зямлі ж тыя бюракраты-чыноўнікі сапраўдную ўладу і маюць! Бо ў прэзідэнта не да ўсяго рукі даходзяць.

— А хіба тут інакш? — усміхнуўся Куратар.

— Дык вы, мусіць, і ёсць той самы нябесны бюракрат? — выказаў здагадку Піліпчук.

— Нарэшце дапетрыў. Можаш лічыць мяне інструктарам аддзела размеркавання.

Цяпер ужо дакладна Піліпчук павінен быў адбыць "да месца прызначэння", але ў апошняе імгненне ён паспеў мовіць некалькі слоў, каб пацікавіцца:

— Скажыце, а маё цела што... там, на зямлі, пахавалі ўжо?

Куратар незадаволена зморшчыўся:

— Калі тое было? Толькі гадзіна мінула, як цябе машына збіла.

— Дык і чаму такая спешка? Я чуў, што пасля смерці душа яшчэ тры дні над зямлёю лётае. Развітваецца...

— Налётаешся яшчэ! Я ж табе сказаў: на застарыцкіх могілках няма дастойнай кандыдатуры. Іншым часам можна было і пачакаць, а цяпер нельга ніяк. Дзевяць дзён паміж Вялікаднем і Радаўніцай для душ на могілках вольніца. Ім дазволена зносіцца з тымі душамі на зямлі, якія

пакуль што ў жывых целах знаходзяцца. “Падследным”, так бы мовіць, цвёрдая рука патрабуецца, бо без належнага кантролю яны немаведама што вытварацьмуць. Вось ты і будзеш трымаць іх “у лейцах”.

— Дык я ж зусім недасведчаны...

— Раўлей падкажа!

Піліпчуку зусім не хацелася адразу ж узвальваць на сябе кіраўнічую ношку, і ён схапіўся за апошнюю саломінку:

— А дзе ж я там жыць буду, калі маёй дамавіны яшчэ ў зямлі нямашака? Дый цела недзе далёка...

— Тры-чатыры дні праіснуеш па-за межамі цела. Лічы, што ты ў камандзіроўцы... А там і цела падаспее. Мы ж дакладна ведаем, што тваю плоць пахаваюць у Застарычах. І наконт жытла ўсё прадугледжана. Ёсць там адна вольная “камера”... Мусіць жа, чытаў пра кастрычніцкі пераварот? Дык вось. За тры вярсты ад Застарычаў некалі пан Бараноўскі ў сваім маёнтку жыў — там і цяпер руіны засталіся. Аднаго разу пану нехта “шапнуў”, што заўтра раніцай застарыцкія мужыкі намерыліся маёнтак спаліць, а самога Бараноўскага сахарамі закалоць. Трэба ратавацца, уцякаць. Спярша Бараноўскі хацеў прыхапіць з сабою ўсе каштоўнасці, а пасля перадумаў. Час жа неспакойны, паўсюль бандзюкоў процьма, могуць пераняць дзе-небудзь... Значыць, каштоўнасці трэба надзейна схаваць. Пан быў упэўнены, што гэтая смута — часовая, неўзабаве ён вернецца і свой скарб дастане. А дзе выбраць схованку? У маёнтку ці паблізу? Дык мужыкі ж, бадай, усё навокал перавернуць-перакапаюць. Даў падказку Бараноўскаму ягоны конюх Яўсей. Ён пана любіў, бо той да яго як да свайго сямейніка ставіўся. Яўсей і параіў Бараноўскаму пакласці каштоўнасці ў труну і закапаць яе ў якой-небудзь свежай магіле: там ужо дакладна ніхто не шукацьме. Свежых магіл у Застарычах было ўдосталь, тады людзі ці паміралі, ці гінулі, як мухі. Труна акурат аказалася пад рукою. Дубовая, дыхтоўная ўсярэдзіне, з вытанчанаю разьбою паўзверх. Пан яе для сябе загадзя ў Вільні заказаў... Апоўначы Яўсей і Бараноўскі на кані прывезлі труну да застарыцкіх могілак. Свежы грудок абралі паблізу самага старога дуба — каб пасля не пераблытаць. Рыхлы пясок капаць было лёгка, але яны ўсё адно не паглыбляліся — можа, на метр які. Паклалі труну з каштоўнасцямі, прысыпалі, надмагільны камень на месца паставілі. Як быццам у магіле ніхто і не калупаўся... Дык вось, гэтая дамавіна, Піліпчук, і будзе табе часовым жытлом. Для могілкавых насельнікаў яна зараз нешта накшталт Дома культуры. Там розныя сходні праводзяцца, нарады... Сапраўдны палац! Не горшы, чым ты для сябе падрыхтаваў...

— А... пан Бараноўскі як жа? Гэта ж ягонае жытло...

— “Бамжуе” Бараноўскі. На досвітку яны разам з Яўсеем выправіліся ў бок Варшавы, куды пан сваю сям'ю абачліва справадзіў загадзя. А пад Гародняю іх і праўда перанялі бандзюкі. Абрабавалі, забілі... Іхнія целы пад лаўжамі згнілі. Так што пра дамавіну з каштоўнасцямі ніхто на зямлі не ведаў і не ведае. Ну, годзе, і так я з табою доўга забавіўся, — аблізваючы перасмяглыя вусны, рашуча сказаў Куратар, і каб паказаць, што размова сапраўды скончаная, устаў з-за стала. “А ты, мусіць, і праўда з пахмяла. На Вялікдзень, бадай, добра сербануў тут нектару ды амброзіі....” — паспеў яшчэ падумаць Піліпчук, перш чым невядомая сіла панесла яго зваротным шляхам...

## Раўлей

Па сваёй дыхтоўнасці дамавіна пана Бараноўскага сапраўды нагадвала палац. Дно (лічы, падлога) было спрэс усеянае дыяментамі, пярсцёнкамі, бурштынавымі пацеркамі, залатымі манетамі... Піліпчук не стаў засяроджвацца на чымсьці асобным, хоць жаночая дыядэма з безліччу брыльянтаў, якая ляжала паўзверх астатніх каштоўнасцяў, "крычала крычма", каб на яе звярнулі ўвагу. У зямным жыцці, безумоўна, Міхась найперш і кінуўся б перабіраць гэтае дабро, аднак тут, у "следчым ізалятары", яно падавалася нікчымным: жалязякі ды шкельцы — не болей.

А вось на што звярнуў увагу Піліпчук, дык гэта на месца, дзе знаходзіцца магіла: паралельна агароджы, прыкладна за сем крокаў на поўдзень ад таго самага дуба, да якога ён хацеў прысуседзіцца. Міхася ўсцешыла, што нават ягонае часовае жытло будзе паблізу векавечнага дрэва. А яшчэ ён скмеціў, што зарослы зялёным мохам надмагільны камень адметны ад іншых: зверху ён роўненька абрэзаны наўскасяк — быццам прыклалася нечая рука. Мусіць, і пан Бараноўскі меў гэты камень на ўвазе як арыенцір...

Не паспеў Піліпчук асвойтацца ў новым жытле, яе перад ім паўстала каржакаватая камлістая постаць дзядка. У яго быў смуглявы парэпаныпатрэсканы ад маршчын твар, які здаваўся злёгку выцягнутым — пэўна, з-за таго, што да самых грудзей звісала густая, ледзь не з каўтунамі барада. Пастрыжаныя ў кружок каштанавыя валасы з праборам пасярэдзіне клаліся на плечы. Шэрыя і трохі запалыя вочы абапал носа-бульбінкі не таілі ў сваёй глыбіні ніякай хітрынкі, хіба што ледзь прыкметную самоту.

Дзядок быў апрануты ў кароткую суконную світку белага колеру, якая шчыльна абхоплівала тулава і разыходзілася на сцёгнах двума клінамі з ушытымі ў іх кішэнямі. Нізкі стаячы каўнер абабіты цёмна-сінім шнурком накшталт вусоў. На нагах — "відушчыя" ліпавыя лапці без вялікага пярэдняга радка, але з рамяннымі аборамі. Піліпчуку ўжо даводзілася бачыць падобныя лапці, некалі дзед Павел нават спрабаваў навучыць яго, малечу, плесці гэты няхітры абутак, але тады занятак здаўся хлапчуку нудным і мудрагелістым.

Толькі цяпер, акінуўшы позіркам знешнасць дзядка, Міхась падумаў і пра ўласную адзежу. "А каб цябе чэрці пабралі! — моўчкі вылаяўся ён на самога сябе. — Дзед, вунь, пры поўным парадзе, мусіць, у тым, у чым яго ў труну паклалі. А я? У "трэніках", хай сабе і адыдасаўскіх, ды яшчэ ў тапках на босую нагу..."

Дзед і праўда з цікавасцю разглядваў Міхасёву апранаху, бо нічога падобнага яму бачыць не даводзілася: кім бы ні быў у зямным жыцці чалавек — начальнікам ці апойкам — перш чым пакласці ў труну, яго ўсё адно марафецілі, апраналі ў самы лепшы касцюм, а хто-ніхто ўдастойваўся і белай сарочкі з гальштукам.

Піліпчук заўважыў дзедаву цікаўнасць, таму паспяшаўся патлумачыць:

— Я тут па тэрміновым выкліку... У мяне і дамавіны нямашака. А як цела пахаваюць, дык прышлюць і прыстойную адзежу...

— Я ведаю, — стрымана мовіў дзед. — Мяне папярэдзілі...

— Папярэдзілі? А ты, уласна, хто такі? — Піліпчук даўмеў, што з гэтага і трэба было пачынаць размову з незнаёмым наведнікам.

— Раўлеем мяне завуць...

— А-а, тады ўсё зразумела. Куратар пра цябе згадваў. Дзіўны ён нейкі

быў, мусіць, з пахмяла, дык толкам нічога і не патлумачыў. Сказаў, што пра ўсе падрабязнасці ад цябе даведаюся. Ну, расказвай.

— А што расказваць? — Раўлей ніякавата пераступіў з нагі на нагу. — Не ўмею я шмат гаварыць. Ты лепш мяне распытвай, а я, што змагу, патлумачу...

— Ну, хай будзе так. Для пачатку я хацеў бы ведаць, што за кантынгент, так бы мовіць, тут аціраецца.

— Ды, лічы, усе нашыя, застарыцкія. Прыблудаў амаль нямашака.

— Гэта і дурню ясна. Я пра іншае. Пэўна ж, большасць з тых, хто тут пахаваны, прайшлі ўжо праз Страшны суд. Хто ў рай патрапіў, каго ў іншае цела на зямлю накіравалі... Мяне цікавяць цяперашнія насельнікі.

Раўлей сумна ўсміхнуўся:

— Што ты, які рай? З нашых за ўвесь час толькі дзясяткі тры душ туды трапілі. Апошнім, во, Рыба, твой папярэднік, перад Вялікаднем пад амністыю трапіў, дык і забралі яго на вечны спачын. А да етага ён тры ходкі “на зону” зрабіў...

— Тры?! — здзівіўся Піліпчук. — Чаму так многа?

— Ды ета, лічы, нішто. Некаторых і па сем разоў на новы тэрмін асуджалі.

— І цябе?

— І мяне. Двойчы...

— Нешта я нічога не петру... — разгубіўся Піліпчук. — Давай спачатку. Там, на зямлі, я чытаў у даведніках, што нашым Застарычам прыкладна пяцьсот гадоў. Так?

— Не так.

— А колькі?

— Калі па зямных мерках, дык больш за тысячу.

— Што значыць “па зямных мерках”?

— Тутака адзін год — як тысяча гадоў на зямлі.

— Во як! — усклікнуў Піліпчук, і адразу ж у ім саспела здагадка, якую ён паспяшаўся выказаць: — Куратар мне даходліва патлумачыў, што могілкі — нешта накшталт следчага ізалятара. А на зямлі ў СІЗА людзі, бывае, і па два гады сядзяць у чаканні суда. Дык значыць...

— Правільна разважаеш, — падхапіў ягоную думку Раўлей. — Каго могуць паклікаць на Страшны суд і праз тры тутэйшыя дні, а хто і паўгода свайго лёсу не ведае. Ета залежыць ад цяжкасці справы. Іншая душа столькі награшыла, што і за два гады як след ва ўсім не разабрацца. Дый анёлы-следчыя розныя бываюць. Бальшыня з іх, вядома, лынды не б’е, але ёсць і такія, што, як гаворыцца, і пальцам не варухнуць, пакуль пракурор, архангел Гаўрыла, ім у карак не насоўгае...

— І што, на нашых могілках таксама ёсць насельнікі, якія тысячу гадоў, прабач, цэлы год суда чакаюць?

— А то як жа! Праўда, такіх няшмат — тры-чатыры душы.

— І цябе, па ўсім відаць, не першы месяц тут мурыжаць...

— Амаль два месяцы.

— Калі ад нараджэння Хрыстова, дык, выходзіць, цябе недзе ў канцы васямнаццатага стагоддзя пахавалі. Так?

— Правільна вылічыў. Я свой апошні тэрмін адбываў, калі ў Расеі Кацька правіла...

— А чаму імя такое дзіўнае — Раўлей?

— Што ў ім дзіўнага? Тут і не такія ёсцека: Кабан, Руды, Камель... Раней жа ў нашых людзей нават прозвішчаў не было, на мянушкі азываліся.

— Раўлей — таксама мянушка?

— Ды не, ета людзі перакавэркалі-перайначылі! А так мяне Лаўрэнам завуць. Я нават і прозвішчам яшчэ паспеў разжыцца. Яно, дарэчы, такое ж, як і ў цябе — Піліпчук.

— Мы з табою, можа, і радня якая?

— Анягож! Тутака ўсе, лічы, радня. Спрадвеку нашыя людзі ў Застарычах ды блізкіх паселішчах таўкліся, адно з адным браліся... Але ў нас кожны сам па сабе. Хіба толькі “свежыя” насельнікі ад сваяцтва не астылі. Ну, бацька, маці, баба, дзед... І ўсё. Праўда, я чуў, што недзе на заморскіх могілках душы больш як да сёмага калена помняць і зважаюць, што некалі ў родных целах жылі. А мы, беларусы, пустадомкі нейкія... На нашых могілках зусім інакшы падзел. Роднасць адчуваюць тыя душы, якія ў адзін час на “зоне” былі. Яны ж там у аднолькавых умовах існавалі, дык і тутака ў іх агульныя інтарэсы, пагаварыць ёсць пра што...

— Можа, і варажнеча бывае?

— У-у, яшчэ якая! Усё як і там, на “зоне”. Да суда мы, лічы, тыя ж самыя людзі. Нездарма пры целах трымаемся, хай сабе ета і костачкі...

— З-за чаго часцей свары ўсчыняюцца?

— Калі агулам, дык няма паразумення паміж рознымі пакаленнямі. Але гэта двума словамі не патлумачыш. Сам потым сутыкнешся... А так па дробязях, з-за жытла грызуцца.

— Як гэта з-за жытла? У кожнага ж свая дамавіна ёсць! Можна сказаць, уласная хата!

— Лепш сказаць — была, — Раўлей з дакорам зірнуў на Міхася. — Каму, як не табе, ведаць, што да нядаўняга часу новыя магілы капаліся на ранейшых пахаваннях. Добра яшчэ, калі труну клалі паўзверх старое дамавіны. Часцей жа выкідвалі сатлелыя дошчачкі на паверхню...

— І дзе цяпер тыя, каго сілком выселілі, прытулак маюць?

— З-за етага ж і варажнеча. Стары гаспадар кажа новаму: “Калі ты маю магілу, мой кавалак зямлі гвалтам захапіў, жытло маё разбурыў, дык я цяпер да цябе перабяруся”. Большасць навасёлаў пагаджаецца, але не ўсе...

— І што, калі згоды нямашака?

— А дырэктар могілак навошта? — пытаннем на пытанне адказаў Раўлей. — Ён усе спрэчкі вырашае, калі трэба, і ўладу ўжыць можа. Лічы, што я пачаў распавядаць пра твае паўнамоцтвы...

— Пачакай з паўнамоцтвамі. Каб не скакаць з аднаго на другое, ты мне да канца пра жыллёвую праблему патлумач. Выходзіць, у адной дамавіне могуць быць два гаспадары?

— Чаму толькі два? У некаторых і па тры, і па пяць ёсцека. Ета ж колькі людзей у Застарычах за ўвесь час памерла! А могілкі — яны не безразмерныя... Маладзейшыя насельнікі называюць нашыя магілы... як ета... дай Бог памяць... такіх слоў я раней не чуў... во: нейкімі камунальнымі кватэрамі!

Піліпчук усміхнуўся: на зямлі яму самому давялося колькі часу пажыць у камуналцы. Таму ён і мовіў:

— Цяпер разумею, адкуль свары. Аднак жа, мне здаецца, апошнім часам пытанне наконт жытла востра стаяць не павінна. Для “новабудоўлі” ж новы ўчастак “на равах” адведзены. Дый я сам трохі парупіўся — плот бліжэй да дарогі перанёс...

— Яно так, — пагадзіўся Раўлей. — Але ад етай, як ты кажаш, нова

будоўлі насельнікам адна дакука. Бандыцкі ўчастак, усе туды паткнуцца баяцца. Але зноў жа потым сам пераканаешся... Ета добра, што цябе сюды своечасова прыслалі. На маладых, “свежых” ніякай управы не знайсці. А табе, іхняму сучасніку, лацвей будзе етую хеўру на месца паставіць. Як дырэктарам Рыба быў, дык ён так-сяк усіх у цуглях трымаў, хоць і яго “равы” дапяклі. А на мяне тыя адмарозкі зусім не зважаюць. Сілы ўжо нямашака трываць...

— Дык ты ж кажаш, што ў дырэктара ёсць пэўныя паўнамоцтвы, каб парадак забяспечваць.

— Паўнамоцтвы ёсць, але цвёрдасці мне не стае... Дый кіраўнічага вопыту — ніякага. Я ж пры апошняй ходцы ў пана парабкаваў, за сахою хадзіў...

— Ну, добра. Давай, выкладвай усе мае правы і абавязкі.

— А ета шмат часу не зойме, бо іх няшмат. Пра тое, што табе належыць апошняе слова ва ўсіх спрэчках, я ўжо сказаў...

— А калі хто не паслухаецца?

— Ну, ета наўрад. Хіба што дзве-тры зусім прапашчыя душы папярок нешта могуць сказаць. Конь там... Злодзей... я іхнія мянушкі называю, хоць яны і прозвішча маюць, бо са “свежых”. А так ніхто не пярэчыцьме. Ты ж ім характарыстыкі пісацьмеш для суда. Дый Куратар раз-пораз сюды наведваецца. Калі што якое, можаш яму на непаслушэнцаў паскардзіцца. Куратар іх як бачыш на выселкі пашле, у штрафны ізалятар.

— І тут такі маецца? Дзе ж гэта ён?

— Недзе далёка, ва ўсякім разе не на зямлі. Маладзейшыя яго, здэцца, нейкім Марсам абзываюць. Там, кажуць, ніводнай жывой душы нямашака, холад і пустэча...

“Во, нездарма людзі на Марсе жыццё шукаюць, — усміхнуўся сам сабе Піліпчук. — Аказваецца, яно там і праўда ёсць. “Штрафнікі” атабарыліся...”

...— А на еты Марс ніхто патрапіць не хоча, — працягваў Раўлей, — бо хто-кольвечы там ужо пабываў, а вярнуўшыся, пераказаў, як там “салодка”. Так што для непаслушэнцаў “пуга” ў цябе надзейная. Але ёсць яшчэ і сапраўдны “бізун”, які страшнейшы за любы штрафны ізалятар. Я маю на ўвазе дазволы на звальненне...

— На звальненне? Куды ж адсюль можна падацца?

— Ты мяне не перабівай, я і сам саб’юся... Лепш маўчы і слухай. Цяперака тут, на могілках, толькі мы з табою. Мусіць жа, ведаеш, што ў святочныя дні паміж Вялікаднем і Радаўніцай усім душам, тым лікам і самым грэшным, дазволена з падземнага жытла выбрацца на паверхню, каб пабыць побач з душамі, якія пакуль што на “зоне”. Для “свежых” ета важна, бо яны яшчэ ад зямнога жыцця не адвыклі, тамака іхнія роднасныя душы. Хоць пра нас, старажылаў, на зямлі мала хто помніць, але ўсё роўна, так бы мовіць, хочацца зрабіць глыток свежага паветра, пабачыць, якія змены адбыліся. Так што нават самыя старадаўнія душы, якія тут па году бавяцца, скарыстоўваюць еты шанец, вылазяць са сваіх сховішчаў. Аднак жа такая вольніца толькі ў етыя дні. Для “свежых” іх мала, ім карціць выбірацца на паверхню найчасцей. І такая магчымасць ёсцека. Дазвол на вылазку можа даць дырэктар могілкаў. Праўда, “зверху” нейкі... як яго... ліміт спушчаны: на ўсіх нашых насельнікаў усяго тысяча “звальнялак” за адзін зямны год. Вось дырэктар іх і выпісвае. Бывае, хто-ніхто і ў “самаволку” бегае, але ета небяспечна. Як пападзешся, дык адным штрафным ізалятарам не адкупішся. Суд літасці не мецьме, мала таго, што новы вялікі

тэрмін упячэ, дык яшчэ і ў самае паганае цела загоніць... Спытаешся, чаму "свежым" хочацца на паверхню патрапіць? Каб блізкім людзям пра сябе нагадаць, перадаць ім якую вестачку, а можа, і пра бяду, што насоўваецца, папярэдзіць. Як ні круці, а мы тутака ўсё ж бліжэй да Бога, чым тыя, што на "зоне". Дый Куратар раз-пораз нам асветніцка-выхаваўчыя лекцыі чытае. Не-не, ды часам абмовіцца мімаходзь, што пагражае сяму-таму з застарыцкіх на зямлі за грахі ягоныя цяжкія... Мусіць, ты ўжо здагадаўся, што з сябе ўяўляюць тыя "звальнялкі". Магчымасць патрапіць у сон да зямнога чалавека. Таму і сняцца людзям нябожчыкі збольшага "свежыя", а не старадаўнія. Вось прыгадай: хіба ж у зямным жыцці да цябе прыходзіў у сне які-небудзь прапрапрадзед?

— Маці, бацька сніліся, і тое не часта. Аднаго разу дзед Павел... А каб хто-небудзь з далёкіх, дык і праўда не.

— Во! Хто даўно чакае прысуду, той рыхтуецца да новага тэрміну на "зоне", ці, калі пашанцуе, да вечнага спачыну ў раі. І дзе, у якім целе давядзецца адбываць чарговае пакаранне — немаведама. Могуць на Беларусі зноўку пакінуць, а могуць і ў Амерыку саслаць... Дык навошта тады рупіцца пра нашчадкаў, нагадваць ім пра сябе, калі неўзабаве яны ўвогуле сатруцца з памяці? З-за таго нашыя стражылы і не прагнуць тых "звальнялак", тым больш у "самаволкі" не бегаюць.

— А ты прагнеш?

— Ані трошкі!

Піліпчук усміхнуўся:

— Я гляджу, Раўлей, ты абсучасніўся, вунь якімі словамі шпарыш: самаволка, ліміт, звальнялка... Мне здаецца, ад свайго пана калісь ты іх не чуў...

— Дык жа ад "свежых" набраўся! Раней у мяне мова ўвогуле зусім іначшаю была...

Звонку пачуліся нейкія гукі-гамана.

— Гэта што? — насцярожыўся Піліпчук.

— Нашыя з адведак вяртаюцца. Каб ты знаў: на зямлі дзень — у нас ноч. І наадварот. Вось чаму, дарэчы, тым, што на "зоне", мы ноччу снімся.

— Дык бывае ж, што і ўдзень хто-ніхто прыдрэмле, і яму нябожчык у сне прыбачыцца...

— Ета і ёсцека "самаволка". А цяперака, на Вялікдзень, для нас як быццам нямашака ні дня, ні ночы, бо калі яшчэ выпадзе сярод жывых пааціравацца. Праўда, як людзі спаць кладуцца, дык і нашыя ў свае дамавіны кіруюцца. Што ім там рабіць, калі зямное жыццё замірае? Дый самім трохі адпачыць трэба. Так што ўсе нашыя насельнікі вось-вось будуць у зборы. Я думаю, самы час правесці агульны сход, каб цябе, новага дырэктара, прадставіць. Бо як на зямлі зноўку развіднее, нікога сюды не загоніш, усе да жывых папруцца.

— Ну, табе лепш ведаць, — пагадзіўся Піліпчук. — Аднак жа... Можна крышку пазней? Я перад тым з бацькамі хацеў бы пабачыцца, хоць словам перакінуцца. І яшчэ з дзедам Паўлам...

— Разумею. Ты пакуль тутака пабудзь, а я іх паклічу. Мусіць жа, хочацца, каб сустрэча не на чужых вачах адбылася.

— Угадаў. Пазаві іх сюды.

## Сход

Першай у дамавіне акрэслілася постаць маці.

Белая паркалёвая сукенка, накінутая паўзверх яе блакітная кофта... Маці сама купіла гэтую адзежу загадзя, і калі Міхась у чарговы раз наведаўся ў Застарычы, наказала яму:

— У ёй мяне і пахаваеш....

— Ды што ты, мама? — паспрабаваў было запярэчыць Міхась. — Я цябе як каралеўну апрану!

— Не трэба як каралеўну. Мне і гэтага досыць.

Міхась насуперак волі маці не пайшоў. І цяпер трохі пашкадаваў аб тым: ці ж ведаў ён, што ў гэтай сціплай сукенцы маці давядзецца чакаць суда немаведама колькі часу...

Бацька і дзед Павел паўсталі амаль адначасна. Апранутыя яны былі аднолькава — у строгія чорныя касцюмы, бо ў вясковай грамадзе такая апратка лічылася самай ганаровай.

— А мой ты сыночак! — памкнулася маці да Міхася. — Хіба ж я думала-гадала, што сустрэнемся з табою гэтак хутка?

Бацька і дзед трымаліся стрымана, моўчкі стаялі з прыхаду. Зрэшты, яны і пры зямным жыцці не былі надта гаваркімі ды жвавымі. Да таго ж, пакінулі свае целы даволі даўно, а Міхась ужо засвоіў: з часам у душах сціраецца пачуццё чалавечай сваяцкасці.

Маці ж была “свежай”, мінулі ўсяго два зямныя гады, як крыж на яе магіле Міхась замяніў на мармуровы помнік. Таму яна і не магла стрымаць радасці: якая ж маці не будзе задаволеная тым, што сын, нарэшце, выйшаў з турмы?

— Ну, як вы тут? — вызваліўшыся з пяшчотных мацярынскіх абдымкаў, запытаўся Міхась, звяртаючыся да ўсіх адразу.

— Нічога сабе, грэх скардзіцца, — выціснуў праз сіта рыжых вусоў дзед Павел, хісткаю хадою наблізіўся да ўнука і працягнуў яму шырокую, як шуфель, далонь. Следам тое ж зрабіў і бацька. Яго таксама чамусьці хістала, як матроса на палубе.

Маці перахапіла недаўменны позірк сына і паспяшалася патлумачыць:

— Гэта ж яны, сынок, наглыкаліся ўжо...

— У якім сэнсе? — не ўцяміў Міхась.

— У простым. Ты ж ім на Вялікдзень у чаркі, што на магілах, гарэлкі па самыя абадкі наплёхаў. Дый маю не абмінуў. А нашто мне тая гарэлка? Я і пры зямным жыцці яе не смакавала, хіба што на вяселлях ды хаўтурах прыгубляла трошкі... А тутака гарэлка мне і пагатоў не трэба.

— Я думаў, гэта ўсё сімвалічна, для блізіру, — разгубіўся Міхась. — Хіба ж ужываюць душы звыклую ежу ды пітво?

— Не, што ты! — замахала рукамі маці. — Мы тут, так бы мовіць, святым духам сілкуемся. Адзінае выключэнне — гарэлка. Можна ейным пахам насыціцца. Таму для нас адна кропля — як паўлітэрка на зямлі. Дык ты, лічы, да наступнага Вялікадня гэтых апойкаў, — маці кіўнула ў бок бацькі і дзеда, — пойлам забяспечыў. Спадзявалася, што хоць тут адпачну... Ажно не... Дзед яшчэ нічога, меру ведае, а твой бацька толькі і швэндаецца з залітымі бельмамі... Адзін спадзеў, што там, на паверхні, застарыцкія алкашы нашымі чаркамі не пагрэбуюць, сабе ў гарлякі павыліваюць. А не, дык неўзабаве тая гарэлка вытхнецца...

— Во-во, вытхнецца! — асалавелым голасам уклініўся ў размову бацька.

— Дык было б няблага, каб хто-небудзь не толькі на Радаўніцу, але і на Дзяды нашыя магілы праведваў, абнаўляў у шклянках змесціва...

— Трасцу табе! — асадзіла яго маці. — Не слухай, сынок, плявузгае абы-што. Хай бы лепш хто-ніхто свечачкі ў царкве ставіў за наш спачын.

— А што, гэта сапраўды так важна? — здзівіўся Міхась. — Я меркаваў, што такім чынам святары сабе на хлеб зарабляюць...

— Можа, і так, але свечка ў царкве — пазнака таго, што там, на зямлі, цябе не забылі. Гэта значыць, у нечай душы ты пакінуў добры след, і на судзе ён залічыцца...

— Ат, не тлумі ўнуку клёпкі! — перабіў яе дзед Павел. — Навошта яму тыя свечкі? Хіба не бачыш, што для хлопца напрасткі высцеленая дарога ў рай? Задарма дырэктарам могілкаў не прызначаюць. Заслужыў, значыць! Ты, унучак, перад тымі суддзямі і за мяне слова замоў. Я ж цябе, малечу, калісь на плячах насіў...

"Памыляешся, дзед, — падумаў Міхась. — Не ўбачыць мне раю, як сваіх вушэй. За адны толькі ходкі "налева" ў наступным целе на якія-небудзь турэцкія каменяломні сашлюць..."

Аднак жа распавядаць дзеду пра свае грахі было не ў час. І каб стары не пакрыўдзіўся, не палічыў, што ўнук не жадае абцяжарвацца лішняю дакукаю, Міхась агучыў зусім іншае:

— Замоўлю, дзед, калі выпадзе.

Ім яшчэ шмат пра што належала перагаварыць, але ўжо спрацавала абвестка Раўлея, і ў "Дом культуры" на агульны сход цугам пацягнуліся насельнікі могілкаў.

— Адкладзём размову на пасля, — прапанаваў Міхась. — Часу ж у нас цяпер будзе шмат.

Спакваля дамавіна пачала напаўняцца месцічамі. Ліліпчук скмеціў, што душы кучкуюцца пэўнымі суполкамі. У самым куце збіліся ў гурт хмурыя постаці ў зіпунах з даматканага сукна — відавочна, самыя першыя пасяленцы могілкаў. Прыгорбленыя, яны ваўкавата зыркалі спадылба, быццам пачуваліся тут лішнімі.

Паблізу іх адзінаю гурмою трымаюцца дзецюкі ды жанкі ў зрэбных світках. На іхніх галовах — круглыя лямцавыя магеркі, абшытыя цёмна-сінім шнурком, ды чапцы, паўзверх павязаныя наміткамі накшталт цюрбаноў. "Гэта, мусібыць, наступнікі першых абарыгенаў, — падумаў Піліпчук. — А трохі бліжэй, пэўна, сучаснікі Раўлея, бо таксама ў світках са стаячымі каўнярамі".

Паперадзе іх згуртаваліся мужыкі ў белых палатняных сарочках, падперазаных шырокімі паясамі, ды жанчыны ў сукенках да каленяў, ці ў ваўняных панёвах-андараках з кабатамі. Не было сумневу, што іхнія целы леглі ў магілы незадоўга да кастрычніцкага перавароту ці адразу пасля яго, бо хто-ніхто яшчэ мае на нагах ліпавыя ці лазовыя лапці, а хтосьці ўжо абуты ў кірзавыя і нават хромавыя чобаты.

Самым аднастайным і шматлікім выглядаў натоўп з савецкіх часін: спрэс усе ў чорных касцюмах ды наваксаваных чаравіках, стракацела толькі жаночая вопратка. Дзіўна, але "савецкія" таксама трымаліся сцішана, як запалоханыя авечкі ў чарадзе. Зрэшты, чаго тут дзівіцца: яны і на зямлі жылі ў агульным паслухмяным статку...

Са шчыльных шэрагаў наперад праціснуўся Раўлей, стаў поруч з Піліпчуком.

— Землякі! — зычна выгукнуў Раўлей. — Сённяшні наш сход будзе кароткім. Я папрасіў вас сабрацца толькі дзеля таго, каб давесці, што на нашыя могілкі прызначылі новага дырэктара. Прашу любіць і мілаваць — Міхась. Прозвішча называць няма сэнсу, бо яно такое ж, як амаль у кожнага з нас. Пытанні будуць?

На нейкі час павісла прыгнечаная цішыня. Нарэшце падаў голас хтосьці з дарэвалюцыйнае гурмы:

— А чаму сам Куратар не прыбыў, каб прадставіць нам новага дырэктара? Падзея ж не шараговая...

— Як быццам ты, Ананій, не ведаеш! — з дакорам адказаў яму Раўлей. — У етыя дні тамака, “наверсе”, столькі святочных мерапрыемстваў, што Куратару дыхнуць няма як. Паабяцаў зазірнуць адразу пасля Радаўніцы.

— Дык і нашто такая спешка? — не здаваўся Ананій. — Няхай бы пасля Радаўніцы і прадставіў новага дырэктара. Колькі тутака засталося... Можа, мы яму проста ў вочы сваю нязгоду выказалі б...

— Ты што, з глузду з’ехаў? — раз’ятрыўся на яго Раўлей. — Якая нязгода? Калі тое было, каб да нашых меркаванняў “наверсе” прыслухоўваліся?

— А варта было б... — буркнуў Ананій.

— Не забывай, што ты раб Божы. А ў рабоў права голасу нямашака, — па-ментарску нагадаў яму Раўлей і ўслед прымірэнча дадаў: — Дырэктару, перш чым прыступіць да сваіх абавязкаў, трэба агледзецца, прызвычаіцца да новых абставінаў. Мусіць жа, етае меў наўме Куратар, прызначыўшы яго загадзя.

Нечакана ў падтрымку Ананія выказаўся цыбаты дзяцюк з “савецкіх”:

— Хай сабе мы і рабы, але годнасць маем! Чаму нельга было паставіць над намі больш самавітую, праверaную асобу? Таго ж Мікулу, напрыклад. Ды хоць бы і з нашых каторага, скажам, Андрэя-Беляна, ён жа на зямлі сельсаветам кіраваў. Ніколі не было, каб сысункі над старажыламі правілі. Маладзёны з “равоў” і так ужо распеpазаліся, нам усім, можна сказаць, на шыю селі. А гэты ж таксама з іхняе хеўры... Зусім жыцця не будзе...

З’едлівы папрок яўна прызначаўся Міхасю і, на добры толк, Піліпчук павінен быў даць грунтоўны, пераканаўчы адказ. Аднак з ягонае глоткі вырвалася толькі нешта няўцямнае:

— Чаму ж... я буду справядлівым... для мяне ўсе роўныя...

На помач яму зноўку паспяшаў Раўлей.

—Ты, Кірэй, прыкусі свой паганы язык! — вызверыўся ён на цыбатага. — Плешчаш немаведама што! Нездарма цябе на зямлі Саветы з каталажкі не выпускалі. Бо і тамака папярок уладзе ішоў. І чаго ты дабіўся? Згнаілі ў лагеры, ледзь жывым у Застарычы вярнуўся. Дык закрый сваю зяпу, іначай тутака і не тое зведаеш... — Раўлей трохі перадыхнуў, супакоіўся. — А Міхася, можа, таму і прызначылі, каб ён “равы” на месца паставіў. На зямлі і не на такіх управу знаходзіў! Не дазволіць абэлтусам пасылаць сябе нах, як папярэдніка Рыбу...

Раўлей, відавочна, сказаў бы нешта яшчэ, але за сценкамі дамавіны пачуліся гул і гамана.

— Што гэта? — схіліўшыся да вуха свайго абаронцы, сцішана запытаўся Піліпчук.

— Тыя самыя “равы”, — змрочна мовіў Раўлей. — Яны заўсёды прыходзяць на агульныя зборні калі ўздумаецца...

У тую ж хвіліну ў дамавіну ўварваўся шумны, вірлівы натоўп, а разам

з ім — і густое воблака перагарнага смуроду. Гэта старадаўнія занядбаныя магілы на Вялікдзень ці Радаўніцу ніхто не палівае гарэлкаю (таму і пачуваюцца іхнія насельнікі вечна цвярозымі), а “свежым” у свята заўсёды чарка перападае. Анягож, на зямлі яшчэ адбываюць тэрмін дзеці ды ўнукі, а хто-ніхто ўвогуле раней сваіх бацькоў сканаў, так што ёсць каму парупіцца.

Распіхваючы ўсіх, хто трапляўся на іхнім шляху, падпітыя дзецюкі напралом лезлі да “трыбуны”. Хто-ніхто з пакрыўджаных спрабаваў агрызнуцца, але тут жа атрымліваў кулаком у зубы. Наперадзе ў нахабаў рухаўся чырванаморды бамбіза, які ледаколам разразаў шчыльныя шэрагі месцічаў. Піліпчук распазнаў у ім Каня, свайго аднагодка і аднакласніка, які на зямлі смактаў “усё, што гарыць і не гарыць” — абы дурыла мазгі. А неяк сербануў цэлы літровы слоік метылавага спірту, немаведама дзе набыты, пасля чаго скапыціўся. Бальшыня людзей у Застарычах такому зыходу спадцішка радавалася, бо Конь не даваў праходу ні старому, ні малому: каму пусціць крывавую юшку, каму запусціць насаком пад ср...ку. Толькі зрэдчас Конь хадзіў “у брыгаду” — дый тое ад нуды, а не для таго, каб зарабіць такуюсякую капейчыну. Самагон і сала з цыбуляй на закусь ён нахабна вымагаў у аднавяскоўцаў. Мала хто асмельваўся Каню адмовіць ці запярэчыць, бо ў такім разе вымалёўвалася перспектыва атрымаць па чэрапе або па хрыбетніку. Дык чаму людзям не радавацца, што Бог пазбавіў іх ад гэткага тэрарыста? У Застарычах яшчэ “скрыпіць касцямі” маці Каня, замшэлая, сагнутая ў крук бабулька. Старая, відаць, прыносіць на магілу сына чырвонае яйка ды самагон, хоць Конь у свой час і ёй не аднойчы пералічваў рэбры...

За Канём ззаду, як сабачка за гаспадаром, церусіў ножкамі Злодзей, на хаду галёкаючы:

— Пастаранісь, граждане, пака рожы цэлыя!

Ад Злодзея таксама стагнала ўся вёска, хоць і па іншай прычыне: гэты плюгавы недаростак гроб пад сябе ўсё, што дрэнна ляжала, таму яму і прыляпілі адпаведнае *паганяла*. Уласна кажучы, Злодзей і ў магілу заўчасна трапіў з-за свайго ганебнага промыслу. Ягонае цела знайшлі ў яры блізу вёскі. У Злодзея быў праламаны чэрап. Зямныя следчыя забойцу не знайшлі дый не надта імкнуліся шукаць: Злодзей сваімі ўчынкамі ледзь не штодня даваў ім клопату. Зрэшты, насельнікі могілак ведалі, што Злодзея вутнуў жалезняком, ударыўшы па патыліцы, сусед Даніла, калі той цёмначы залез у ягоную стопку, каб разжыцца мехам бульбы.

— О, каво я віжу! — прагарлаў Конь, паўстаўшы перад Піліпчуком. — Здарова, Гарбуз!

Ён растапырыў ушыркі рукі і памкнуўся абхапіць імі былога аднакласніка, аднак Піліпчук грэбліва адхіснуўся. Конь быццам і не заўважыў пагарды, імпэту не суняў.

— Эта харашо, што цібя дзірэктарам назначылі! Січас мы ўсех эціх гаўнюкоў ваабшчэ на вушы паставім! — Конь павярнуўся да гурмы. — Ну, што, порхаўкі, даждаліся? Січас вы ў міня папляшаце!

— Папляшаце, падляцы! — вісклява паўтарыў за ім услед Злодзей і пагрозна выставіў свой дробненькі, як груша, кулачок.

Піліпчуку варта было ўжо зараз рашуча асадзіць гарлапанаў, адмежавацца ад іх, аднак ён зноўку збянтэжыўся, прамарудзіў, таму пасля невялікае паўзы даўгалыгі “савецкі” адчайна мовіў:

— А што я казаў? Яны ж адна хеўра. Цяпер капец нам усім... Няма чаго тут рабіць, і так усё ясна. Хадземце па дамавінах.

Насельнікі і сапраўды адрачона пасунуліся з “Дома культуры” — хто спехам, хто нетаропка. Піліпчук ужо акрыяў і голасна заклікаў іх застацца, аднак ягоны кліч заглушалі п’яныя вокрыкі “свежых” пасяленцаў...

## На паверхні

На зямлі развіднела.

Рэдкія жыхары Застарычаў, большасцю пенсіянеры, пачалі займацца сваімі будзённымі справамі. Яны не ведалі, што побач з імі аціраюцца душы памерлых землякоў, для якіх у гэтыя дні наступіла вольніца.

На могілках нікога не засталося, нават Раўлей, палічыўшы, што збольшага ён пазнаёміў новага дырэктара з тутэйшым жыццём-быццём, паімкнуўся наверх.

Пілipчуку таксама не было сэнсу заставацца на пустэльных могілках. Учора пасля сходу ён добра-такі пацапаўся з падпітымі душамі “равоў”, а Каня дык і ўвогуле ўзяў за грудзі, балазе і ў сіле, і ў целаскладзе яму не саступаў. Паплечнікі Каня хоць і былі з ачмурэлымі клёпкамі, ды кагалам адмутузіць начальніка ўсё ж не пасмелі. Тым не менш Пілipчук разумеў, што наперадзе яго чакае не адна сутычка.

Выбраўшыся на паверхню, Пілipчук стаў развражаць, куды паткнуцца. Ашывацца ў Застарычах, сярод састарэлага люду, яму не хацелася, дый вельмі блізкай радні ў вёсцы не засталося, адна толькі цётка Ганна, старэйшая бацькава сястра, пакуль што адбывае сваё зямное пакаранне. Ні худобы, ні курэй-гусей яна ўжо не трымае, з раніцы да вечара, падпёршыся кіёчкам, сядзіць на струхнявелай лаўцы каля двара ды выцвілымі вачыма ўзіраецца ў далячынь. Ну што за інтарэс бавіць час побач з застылай муміяй?

А вось куды варта наведацца, дык гэта ў былую родную кватэру, балазе для душы ніякай адлегласці не існуе. Як там жонка Галя? Яна ж, пэўна, яшчэ і не ведае, што ўдавою засталася...

Пілipчук разлічваў заспець сваю абранніцу за звыклым заняткам, калі яна ў просценькім хатнім халаціку з замызганым фартухом паўзверх нешта гатуе, смажыць-варыць на кухні. Прынамсі, вярнуўшыся з працы, Міхась назіраў гэты малюнак амаль штовечар. Дый не дзіва: каб накарміць траіх мужыкоў (а сыны-падлеткі елі ўпоравень з бацькам), трэба не адыходзіць ад электрапліты.

Аднак жа на кухні жонкі не было. Затое са спачывальні даносіліся галасы. Адзін з іх жаночы — гэта дакладна. А вось другі — яўна мужчынскі, што Пілipчука вельмі здзівіла і насцярожыла. Часам галасы межаваліся з зычным рогатам.

Тое, што Пілipчук убачыў у спальні, увяло яго ў ступар.

Коўдра валялася на падлозе. А ў ложку, адкінуўшыся на падушкі, плазам ляжалі ягоная Галя і нейкі дзяцюк. Абодва бессаромна голыя. Дзяцюк цяжка соп — аддыхваўся пасля “працы”, якую мужыкі прыраўноўваюць да разгрузкі двух вагонаў цэменту...

Гэтага дзецюка Пілipчуку раней бачыць не даводзілася. Не сказаць, каб волат, але і здыхлікам не назавеш. Зарослыя поўсцю ногі, а на грудзях дык і ўвогуле такое шчацінне, што хоць стрыжы, як авечку, на воўну. Нізкі лоб, прымружаныя калючыя вочы, доўгі кручкаваты нос, няголеныя шчокі — няма ніякага сумневу, што армянін ці азербайджанец, якіх у горадзе

апошнім часам развялося аж зашмат. Самае адметнае — глыбокі шнар ад вуха да шырокага, як падаконнік, падбароддзя.

“Дзе мая Галя знайшла такога самца? — не мог дапетрыць Паліпчук. — Здэцца ж, нікуды не ходзіць, апрача крамы ды рынку... Во! Мусіць жа, акурат на рынку і падчапіла! Але ці ж можна было падумаць? Такая зацюканая, праставатая — і на табе! Вунь як расплываецца твар ад асалоды. А са мною ж як калода ляжала — ні шэпту, ні стогну. Быццам павіннасць адбывала...”

Тым часам Галя павярнулася на бок, закінула сваю бялюткую нагу на смуглявае сцягно каўказца, а галаву з разбэрсанымі на плячах космамі паклала на ягоныя ваўняныя грудзі.

— Сладенький ты мой, ненасытный ты мой Айдарчик, — завуркатала яна, пяшчотна перабіраючы пальцамі шчацінне. — Как же мне с тобою хорошо!

— А что, с мужем хуже было? — Айдарчыку, відаць, прыйшліся ўспадоб словы каханкі, і ён захацеў разгарнуць тэму шырэй. — Чем же твой муж нехорош?

— Не люблю я его, — спахмурнела Галя. — Да и не любила никогда... Одна радость — деньги приносит. А в кровати — никакой страсти. Один раз дело сделает — и на боковую... Разве сравнить его с тобой?

— Да, со мной мало кто сравнится! — задаволена пацвердзіў Айдар.

Па-руску ён гаварыў без выяўнага акцэнту, і Піліпчук падумаў, што Галя, бадай, надыбала яго зусім не на рынку: там маладыя гандляры з Каўказа, лічы, двух слоў звязаць не могуць, і не адразу ўцяміш, пра што яны швэркаюць. А гэты самец, мусібыць, ужо даўно ў Мінску жыве ці ўвогуле тут нарадзіўся.

— Представляю, что было бы, если бы твой муж сейчас здесь оказался... — сам сабе ўсміхнуўся Айдар, не падазраючы, як недалёка ягоныя словы ад ісціны.

— Не дай Бог! — жахнулася Галя. — Поубивал бы. Он хотя и не любит меня, но по жизни — собственник. Своего никогда не отдаст... Да ты не волнуйся. Я ведь тебе говорила: муж на три недели в Крым уехал. А дети из школы во второй половине дня возвращаются. Наконец-то мы можем быть вместе без особой конспирации...

Апошняя жончына фраза падказала Піліпчуку, што Айдар падмяняе яго ў ложку не першы дзень і, магчыма, не першы год. Вось чаму жонка з ім такая абыякавая. Яна ж і з Айдарам жарсці мае напоўніцу. А выглядала такою цнатліваю... Як жа ім удавалася гэтак доўга канспіравацца-ўтойвацца? А зрэшты, чаго дзівіцца? Ён, Піліпчук, дадому толькі начаваць прыходзіў, дый тое не заўсёды: ці на працы, ці ў чарговай палюбоўніцы... Да таго ж, пэўна, у гэтага Айдара, калі ён сапраўды мінчук, ёсць уласная “тэрыторыя”. Нарэшце, маглі здымаць “кватэру на суткі”...

Здавалася б, якая цяпер для Піліпчука розніца, чым некалі займалася ягоная жонка і што яна рабіцьме ў наступным часе. Ён жа зараз, можна сказаць, існуе ў іншым вымярэнні, усё зямное, плоцкае яго не тычыцца. Тым не менш Піліпчука перапаўнялі супярэчлівыя пачуцці: дакор самому сабе за тое, што ўдзяляў Галі мала ўвагі, крыўда і злосць на жонку за яе таемныя здрады, у рэшце рэшт звычайная рэўнасць...

Тым часам Галя шчыльней прыгарнулася да Айдара, жарсна пацалавала яго ў вусны.

— Любимый, я хочу ещё...

Яе рука кранулася мужчынскіх грудзей, павольна-пяшчотна пасунулася па жываце, саслізнула ніжэй пупка...

— О, да ты уже опять готов! — з непрыхаванаю радасцю ўсклікнула Галя і ўявіла сябе наезніцай...

У Піліпчука не ставала сілы трываць гэтае відовішча, і ён паспяшаўся пакінуць кватэру. Пачуваўся Міхась надта пагана.

Трохі ўсцешыла яго толькі наведванне школы, дзе вучыліся ягоныя дзеці. Малодшы, Мікіта, увішна карпеў над сачыненнем “За што я люблю сваіх бацькоў”, і, падобна, яму “свяціла” вышэйшая адзнака, а старэйшы, Глеб, гойсаў па футбольным полі і толькі што забіў гол — у хлопца быў урок фізкультуры.

Піліпчуку закарцела патрапіць і на былое працоўнае месца: як там упраўляецца без яго намеснік Арцём Зыль?

У не надта самавітым кабінеце Міхась апынуўся, калі Зыль завяршаў размову з чарговым заказчыкам — прыбітым, прыгорбленым ад гора сівавалосым чалавекам сталага веку, у якога, відаць, днямі памёр нехта з вельмі блізкай радні.

— ...Значит, договорились, — падсумаваў Зыль. — За венки и цветы оплачиваете деньги в кассу, а за гроб давайте мне. Это взаимовыгодно: и нам налоги платить не надо, и вам обойдется на десять процентов дешевле...

Заказчык згодна кіўнуў галавою і дастаў партманэт.

“Якая ж ты поскудзь, Зыль! — абурыўся Піліпчук. — Калі тое было, каб мы нешта “міма касы” пускалі? А грошы за труну ты, безумоўна, ва ўласную кішэню пакладзеш. І, мусіць жа, для цябе такое не ўпершыню...”

Намеснік гэтых слоў, вядома ж, не пачуў, і таму быў вельмі сабою задаволены.

Каб жа раней ведаць, які ён нягоднік. Але што цяпер паробіш?

Было б дзіўна, калі б у Піліпчука не ўзнікла жаданне наведаць уласнае цела. Як там яно пачуваецца? Калі па праўдзе, дык гэтая нэндза турбоціла Міхася найперш, але ён наўмысна адкладваў яе, так бы мовіць, на дэсерт. Прадчуваў, што ў тым заняпалым гарадку яго можа чакаць яшчэ большае расчараванне.

І ён не памыліўся.

Мёртвых целаў у трупярні было мала, а дакладней, усяго два, калі не лічыць Міхасёвага. І гэта натуральна: у кожнага памерлага чалавека ёсць хоць якія сваякі, і яны спяшаюцца забраць роднае цела з гэтага смярдзючага памяшкання. <...>

Каля дальняе сцяны месцілася маразільная камера, і Піліпчук здагадаўся, што менавіта ў ёй знаходзіцца ягонае цела. Санітары былі папярэджаныя, што збітага аўтамабілем чалавека забяруць не хутка, бо міліцыя яшчэ будзе немаведама дзе шукаць ягоную радню. І ёй трэба з рук у рукі перадаць не кавалак гнілое плоці, а цела ў адмысловым выглядзе, інакш потым скаргаў не абярэшся.

Піліпчук з задавальненнем адзначыў, што ягонае цела сапраўды выглядае так, быццам ён не беспаваротна сканаў, а проста на хвіліначку заснуў. Малюнак псавала толькі ненатуральна вывернутая левая нага, відаць, зламаная. Ды яшчэ на скроні запяклася рудая крывавая пляма. Мяркуючы па ўсім, ад удару Піліпчук адляцеў убок і катастрафічна ўдарыўся галавою аб бетонны бардзюр...

Ну, што ж, было б няблага, каб вось такім, з выгляду амаль жывым, яго і паклалі ў загадзя падрыхтаваную труну.

Але ж калі гэта будзе? Ці хутка міліцыянтам удасца выйсці на ягоны след і "засмуціць" жонку (Піліпчук ужо сумняваўся, што яна сапраўды засмуціцца)? У рэшце рэшт, мясцовым пінкертонам не трэба вялікага розуму, каб здагадацца, што пасажыр сеў у цягнік менавіта ў сталіцы, і паслаць туды запыт. Надта вялікіх гарадоў, дзе людзі ходзяць у басейны па абанементах, на шляху, які ён паспеў праехаць, нямашака.

Што дактары адразу ж паведамілі ў міліцыю пра труп, у Піліпчука сумневу не было. Такая завядзёнка. А што далей? На ўсялякі выпадак Міхась вырашыў зазірнуць і ў міліцэйскі райаддзел.

Пасля доўгага блукання па калідорах і кабінетах (міліцыянтаў у райцэнтрах напладзілася як на бадзяжным сабаку блох, раней іх столькі не было, хоць і насельнікаў мелася ўдвая больш) Піліпчук згледзеў сваю пошукавую справу на стале маёра Цікоцкага. Зрэшты, паперчыну з рэзалюцыяй начальніка райаддзела справай назваць можна было толькі ўмоўна. Дый яна, паперчына, ляжала не першай у пульхным стосе іншых дакументаў. Відавочна, што ніякіх запытаў маёр Цікоцкі не рассылаў. Ён ужо трэці дзень запар быў у глыбокім запоі.

Кожную раніцу маёр прыходзіў на службу (а куды падзенешся, дысцыпліна!), так-сяк, амаль не дыхаючы, паўгадзіны адседжваў на аператыўнай лятучцы, затым кіраваўся ў свой кабінет і пстрыкаў замком. Дзяжурны быў загадзя папярэджаны, што наведнікаў маёр не прымае, бо працуе з дакументамі.

Цікоцкі даставаў з сейфа чарговую пляшку гарэлкі з адпаведнаю назваю "Афіцэр", талерку з салам і квашанай капустай,наліваў жаданы напой у пяцідзесяціграмовую чарку. Піў ён няспешна, з розгадам, так бы мовіць, пацягваў. У інтэрвалах паміж "прыняццем на грудзі" Цікоцкі задумліва-самотна пазіраў у расчыненае вакно.

Гэтак маёр бараўся са сваім горам: тры дні таму ад яго сышла жонка...

"Ды з такімі пошукамі мне да другога прышэсця ў трупярні ляжаць давядзецца! — жахнуўся Піліпчук. — Сёння ноччу трэба завітаць у сон гэтага абоўдзілы-маёра, нагадаць, настукаць яму ў клёпкі пра сябе..."

## Агледзіны

Калі душы вярнуліся з вандровак па зямным свеце, Піліпчук "падкаціўся" да Раўлея:

— Хачу прайсціся па могілках, уласнымі вачыма зірнуць на тутэйшы побыт. Але не ведаю, куды паткнуцца. Ты мне хаўрус не складзеш?

— Чаму ж, можна і прайсціся, — пагадзіўся Раўлей. — Што ты хацеў бы пабачыць? <...>

— Давай у якую-небудзь тыповую дамавіну зазірнём.

— Значыць, у "камуналку". Я ж табе казаў: тутака мала хто мае асобнае жытло.

Раўлей збочыў са сцежкі, што вілюжавала паміж трунамі. Каля адной з іх спыніўся.

— У ёй Пракоп за гаспадара, ён з "савецкіх", — даў даведку Раўлей. — Да апошняй вайны бальшавіцкім актывістам, кансамольцам быў. Па дварах шастаў, з засекаў ды гумнаў збожжа выграбаў. З ягонае ласкі не

адну застарыцкую сям'ю ў Сібір саслалі. Людзі яго праклінaлі... Сканаў па зямных мерках гадоў трыццаць таму. Падсяленкай тутака Хадоська. Яна прыкладна з майго часу. На Хадосьчыным месцы, можна сказаць, на яе сядзібе, Пракопавы дзеці магілу і выкапалі. Праўда, косці ды сатлелыя дошкі на паверхні не пакінулі, побач з новай дамавінай паклалі. Пракоп, ты дома? — галёкнуў Раўлей, ужо звяртаючыся да гаспадара.

— А дзе ж мне яшчэ быць, — азваўся вісклявы мужчынскі голас.

— Я да цябе новага дырэктара прывёў. Хоча пагаварыць. Дык мы зойдзем?

Адказ не прагучаў, відаць, Пракоп не надта хацеў бачыць старонніх, аднак Раўлей усё адно ступіў у дамавіну. Піліпчук пасунуўся за ім.

Гэтага ссівелага дзядка Міхась памятаў. Няспешнаю хадою ён зрэдчас шаркаў да мясцовае крамы, і хлапчука тады вельмі ўразіла, што ніводзін вясковец са старым не здароўкаўся...

Адступіўшы ў глыбіню дамавіны, Пракоп спадылба зыркаў на няпрошаных гасцей. А з прыхаду, у кутку, спуджана тулілася да сцяны жаночая істота — несумненна, тая самая Хадоська. У адрозненне ад Пракопа, апранутага ў шырпатрэбаўскі касцюм, яна выглядала па-святочнаму прыгожа: белая льняная кашуля з вузкімі рукавамі, на ёй — прамыя палікі і невялікія цвіклі, а паўзверх кашулі — палатняная спадніца з чырвоным шлячком на нізе.

— Ну, як вы тутака? — нягледзячы на халодны прыём, бадзёра запытаўся Раўлей, хоць выдатна ведаў, што Пракоп і Хадоська ўжываюцца як сабака з коткай.

— Як і ўсе, — незадаволена буркнуў Пракоп. — Не горш, не лепш...

Адчувалася, што падтрымліваць размову ён не збіраецца. Затое загаманіла, жвава запляцкала языком Хадоська, найперш звяртаючыся да новага дырэктара:

— Хлусіць ён, дзетка! Нямашака ў нас злагады! Жыцця не дае мне еты бязбожнік, парабкаваць прымушае. Я ў яго за служку: тое прынясі, там прыбяры, туды не хадзі... А папярок скажаш, дык рукі распускае, цягае за валасы. Шчэ ж і сваёю дамавінаю папікае, маўляў, ты са сваёй халупы ў харомы перабралася. А ці ж я хацела етага? Гвалтам маё месца захапіў, усё парушыў-зруйнаваў, дык я за ета шчэ і дзякаваць павінна! У мяне хоць і нехлямяжая была дамавінка, але ж свая, што хацела, тое ў ёй і рабіла. А тутака ж еты анціхрыст мне месца ў самым куточку адвёў — ні ступіць, ні легчы як след. Каб на цябе немач! — Хадоська кінула праклён Пракопу.

— Суцішся, Хвядосся! — паспрабаваў асадзіць старую Раўлей. — Новы дырэктар тваю скаргу без увагі не пакіне.

— Разбяруся, — пацвердзіў Піліпчук.

— Во! А я пра што! — Раўлей павярнуўся да гаспадара і ўжо яму выказаў папрок, падобны на пагрозу: — Ты, Пракоп, глядзі... Даскачашся са сваімі дыктатарскімі замашкамі. І так у цябе за плячыма бальшавіцкія грахі, дык яшчэ і адсюль адпаведную характарыстыку можаш атрымаць...

Пракоп змоўчаў, толькі лютым позіркам бліснуў у бок Хадоські.

— І вось так амаль усюды, — падсумаваў Раўлей ужо на сцежцы. — З етымі "савецкімі" ніякага зладу нямашака. А са "свежымі" яшчэ мудрэй. Дзякуй Богу, іхнія дамавіны без падсяленцаў. Затое паміж сабою грызуцца...

Менавіта на "равы", якія месціліся на ўскраіне, у другім канцы могілкаў, яны і накіраваліся. Пакуль ішлі, Раўлей распавёў Піліпчуку пра тое-сёе яшчэ:

— Я раней аднаго не мог даўмець, пакуль у Куратара не запытаўся. Вось ты сам пакумекай: чаму душа, якая, здавалася б, у апошнім целе была амаль бязгрэшнаю, усё адно на судзе новы тэрмін атрымлівае? Чаму нават не перад усімі святарамі і мніхамі вароты ў рай расчыняюцца?

— Наконт святароў магу адказаць, — са з’едлівай ухмылкай мовіў Пілiпчук. — Некаторыя з іх толькі прыкідваюцца служкамі Бога, хоць самі ў Яго не надта вераць...

— Яно так, — пагадзіўся Раўлей. — Але я маю на ўвазе сапраўды амаль бязгрэшных. Дык вось: яны, аказваецца, у папярэдніх целах столькі награшылі, што за адзін тэрмін “адмазацца” не ўдаецца. Цяпер датумкаў?

— Я і раней пра гэта здагадваўся. Ты мне лепш вось што патлумач: чаму на нашых могілках так мала дзяцей? Можна сказаць, зусім няма. А хіба ж іх рэдка хавалі, асабліва ў вайну ці ў голад?

— Тут якраз усё проста. Іншай душы, каб цалкам ачысціцца, не хапае толькі кропелькі. Таму суд і наканоўвае ёй кароценькі тэрмін. Пакаранне бывае і чыста сімвалічным — ета калі немаўлятка памірае пры нараджэнні. З такімі справамі суд доўга не кешкаецца — амаль адразу накіроўвае дзіцячыя душы ў рай. Праўда, не ўсе. Ты ж ведаеш, што і некаторыя дзеці, перш чым легчы ў дамавіну, умудраюцца натварыць паскудства. Нават забойцы ёсцека...

— Дарэчы, пра забойцаў. Чаму я тут Цімохава Грышку не бачыў? Ён жа за двайное забойства ў зямной турме сямнаццаць гадоў адтрубіў, а як “адкінуўся”, дык і сам неўзабаве сканаў. Здаецца, Грышку пазалетась у нас пахавалі.

— Быў такі. Але з забойцамі суд таксама не валаводзіцца. І так жа ясна, што ў рай яны не трапяць. Дык навошта тое следства? Адразу ж новы тэрмін — і бывай. Так што душа твайго Грышкі ў новым целе, і, можа, яно некалі вялікім начальнікам стане...

Нечакана з-за вузлаватага дубовага кораня выскачыў дзяцюк у будзёнаўцы і ў доўгім, амаль да пят, салдацкім шынялі.

— В атаку! За мной! — размахваючы шабляю, галёкнуў ён і пабег па сцежцы насустрач Пілiпчуку і Раўлею. Тыя ледзьве паспелі саступіць убок. Будзёнавец на іх не зважаў, з крыкам панёсся далей, атакуючы ўяўнага ворага.

— Што гэта за пудзіла гарохавае? — ачомаўшыся, запытаўся Пілiпчук, які, калі па праўдзе, паспеў трохі напалохацца.

— Ат, прыдурак тутэйшы, — махнуў рукою Раўлей. — Але бяскрыўдны, як дзіця, ніяк у “вайнушку” не нагуляецца...

— Пачакай, я, здаецца, сам здагадаўся. Камандзір кубанскага палка. Так?

— А хто ж яшчэ...

Калі Пілiпчук быў школьнікам, блізу магілы гэтага камандзіра ў дзень бальшавіцкага перавароту ладзіліся піянерскія лінейкі. Аднаго разу і сам Міхась паклаў букецік кветак побач з абеліскам, завершаным пяцікутнаю зоркаю. Піянерважатая кожны раз нагадвала дзецям, што чырвонаармейскі камандзір “гераічна загінуў у баі з бандаю Булак-Балаховіча”.

— А чаму ты яго прыдуркам абазваў? — пацікавіўся Міхась. — Ён што, і праўда з глузду з’ехаў?

— Дык хіба ты сам не бачыў? Носіцца з етаю шабляю, як ачмурэлы. Добра яшчэ, што толькі яе будзёнаўцу ў дамавіну паклалі. А каб і каня побач закапалі, дык, пэўна, галопам у атаку скакаў бы. Ну і, дзякаваць

Богу, на свежым месцы пахавалі. Іначай хто б з етым абэлтусам, ды яшчэ з шабляю, ужыўся?

— У яго ад самага пачатку "клёпкі паехалі"?

— Не, спярша нічога быў. Але ж яго ўсе цураліся. Не нашая душа, чужынская... Дый бальшавіцкая. А камуністаў тутака калісь не прывячалі. Еты камандзір заныдзеў, а потым і "кранууся"... Праўда, пазней, калі ўжо "савецкіх" пачалі закопваць, хеўру ён сабе знайшоў. Тыя яго паважаюць і шануюць, дарма, што "звіхнуты". Той жа Пракоп яму чэсць аддае...

Тое, што яны ўжо прыджгалі на "равы", можна было вызначыць не толькі па свежых, не кранутых цвіллю дамавінах. З іх чуліся ўзбуджаныя галасы, вокрыкі, а некаторыя насельнікі, віхляючы, сноўдалі туды-сюды. Яны і скмецілі першымі, што на ўскраіну завітала начальства. Вестка пра гэта разляцелася па "равах" амаль імгненна, і неўзабаве Піліпчука і Раўлея абступілі месцічы. Большасць з іх, як і ўчора, была на добрым падпітку.

— Не трэ нам было сюды ісці, — ціха сказаў Піліпчуку Раўлей. — Чаго добрага, у морды наквэцаюць. Пасля свята, можа, етыя апойкі трохі працверазелі б, тады і пагаварыў бы ты з імі ўсур'ёз.

Піліпчук і сам падумаў, што не варта было спяшацца з гэтым візітам.

Аднак "свежыя", на здзіўленне, ніякай агрэсіі не выказвалі, наадварот, пазіралі прыязна, цягнулі рукі, каб паздароўкацца, найперш з Піліпчуком. Так яно заўсёды бывае: п'яная душа ці занадта злая, ці бязмежна добрая.

Нават Конь, паблажліва паляпаўшы Піліпчука па плячы, вялікадушна паабяцаў:

— Кагда на зямлі утра настане, я цібя угашчу. Мамка мне цэлы стакан магазіннай водкі наліла.

Пра ўчарашнюю свару ніхто не згадваў, Піліпчук таксама імкнуўся абмінаць вострыя тэмы, датычныя могілкавага побыту. "Свежыя" распытвалі Міхася пра ягоную апошнюю "ходку", ім было цікава, што дзеецца на "зоне" ўвогуле, бо, маючы магчымасць у вольныя святочныя дні пабываць дзе заўгодна, яны ўсё ж тусаваліся ў Застарычах, сярод сваёй радні.

Піліпчука ўразіла мова апошніх пасяленцаў. Гэта была нават не трасянка, а нешта вычварнае, жахлівая помесь беларускіх і рускіх слоў.

Згадалася, як з нейкай нагоды ў Застарычы са сталіцы прыехалі тры беларускія пісьменнікі. Яны хадзілі па вёсцы, гутарылі са старымі людзьмі. Завіталі і да дзеда Паўла — тады ён яшчэ быў жывы. Потым Міхась падслухаў, як адзін пісьменнік сказаў другому: "Якая тут чыстая беларуская мова! Амаль літаратурная..."

Затое ў пісьменнікаў пацямнелі твары, калі іх прывялі ў школу. Шыльды, плакаты, абвесткі, насценныя газеты былі толькі з рускім тэкстам. І ўсе настаўнікі, хоць яны большасцю былі тутэйшымі ці з навакольных вёсак, нават выкладчыца беларускай мовы, не саромеючыся, гаварылі з пісьменнікамі па-руску...

Уражаннямі пра пакалечаную мову "свежых" Піліпчук падзяліўся з Раўлеем, калі яны ўжо пакінулі "равы". Спадарожнік цяжка ўздыхнуў:

— У мяне ўжо сіл нямашака абурацца... Там, на зямлі, зганьбілі, утапталі ў гразь нашую спрадвечную мову. Дый ці толькі яе?.. Увесь народ пустадомкам стаў...

— Яшчэ пры царах гэта ўсё распачалося, калі расейцы сюды сваіх папоў ды чыноўнікаў панасылалі, — выказаў свой гістарычны досвед Піліпчук.

— Ну, не скажы, — запярэчыў Раўлей. — Хоць яно і праўда, тады ўсе

дзяржаўныя паперы па-руску пісаліся. Мяне, вунь, як перапіс рабілі, таксама пазначылі “Лаврентием”. Але ж на нашых могілках ета не адбілася, бо ў Застарычах люд усё адно па-тутэйшаму гаманіў. А вось як бальшавікі ўладу захапілі, тады і пачаўся гвалт з мовы. Асабліва пасля апошняе вайны. Ета я па душах, што сюды прыбывалі, мяркую. У іхняй гаворцы не-не, ды праскоквалі чужыя слоўцы. Праўда, тутака, з намі, продкамі, размаўляючы, “савецкія” етае смецце неўзабаве з языкоў скідвалі.

— Дый не дзіва, — падтакнуў Піліпчук. — Хай сабе пры Саветах у гарадах і “зруселі” ўсе, але ў вясковых школах дзетак па-беларуску вучылі. Як мяне, напрыклад...

— Цяпер, мусіць, і таго нямашака...

— Нямашака. <...>

## Суседка

Рэштку зямное начы Піліпчук дакучаў, нагадваў пра сябе маёру Цікоцкаму ў ягоным сне і нават пагражаў нябеснаю караю, калі той не пашле запыт у сталіцу. Ад кашмараў маёр з крыкам прачынаўся, стагнаў, варочаўся ў ложку, а калі яго зноўку ахоплівала дрымота, Піліпчук распачынаў новую атаку на клёпкі Цікоцкага. Раніцаю галава маёра трашчала не толькі ад пахмелля, але і ад жудасных відовішчаў, здавалася, яна распухла, стала агромністаю, як цэбар.

Піліпчук таксама стаміўся ад бесперапынных і настойлівых наскокаў у сны маёра Цікоцкага. І калі на досвітку насельнікі могілкаў гамузам рушылі на паверхню, у яго не было жадання падацца ўслед за імі. Хацелася трохі адпачыць. Дый куды наведвацца? На працу? Да жонкі? Няма спадзеву ўбачыць там нешта новае. І ці варта лішні раз душу вярэдзіць?

Зрэшты, адзін візіт Піліпчук усё-ткі нанёс. У кабінет маёра Цікоцкага. Трэба было ўпэўніцца, што з кашмарных сноў ён зрабіў належныя высновы і, нарэшце, выканаў свой службовы абавязак — даў ход пошукавай справе. Яно і праўда: як толькі маёр сеў у крэсла, дык найперш пачаў шукаць на стале патрэбную паперчыну, а вылузаўшы яе са стосу, стаў крэмзаць адпаведны запыт...

Цяпер ужо Піліпчук быў упэўнены, што неўзабаве перабярэцца ў новае жытло. Гэта ўсцешыла, бо ацірацца ў “прахадным двары”, хай сабе і шыкоўным, багата аздобленым, яму абрыдла нават за кароткі час.

Аднак жа адпачыць Піліпчуку не ўдалося. Нечакана ў дамавіну нехта ціха пашкрабаў. Прычым не збоку, як звычайна, а чамусьці знізу. Услед за шкрабаннем пачуўся нясмелы дзявочы голас:

— Можна да цябе?

— Ты хто? — замест адказу сам запытаўся Піліпчук.

— Твая суседка.

— А чаму ты... адтуль хочаш зайсці?

— Дык мая ж дамавіна акурат пад тваёю.

Толькі цяпер Міхась упершыню згадаў, што ягонае жытло ў гэтай магіле не адно, што пан Бараноўскі паклаў труну з каштоўнасцямі паўзверх другой. Дагэтуль ніхто знізу пра сябе не нагадваў, не чулася нават ніводнага гуку-шолаху, як быццам ніжняе дамавіны ўвогуле не было ці яна таксама пуставала.

— Ну, заходзь, суседка... — разгублена мовіў Піліпчук.

Перад ім паўстала нават не маладзіца, а дзяўчына гадоў дванаццаці. Зрэшты, на безыменным пальцы ейнае правае рукі Піліпчук скмеціў срэбнае кольца, якое сведчыла, што перад смерцю дзяўчына ўсё ж паспела з кімсьці пабрацца. Пекнаты яна была неймавернае. Злёгку выцягнуты бледны тварык з ямачкамі на шчоках, пульхна-пачуццёвыя вусны, а галоўнае — блакітныя, як лён, і вялікія вочы, з якіх выпраменьваліся туга і самота. На высокія грудзі з галавы спадала тоўстая, як бізун, каштанавая каса. Стройны станік аблягала кваціста паркалёвая сукенка, якая прыкрывала ногі ніжэй каленяў. “Калі б сустрэў яе ў зямным жыцці, дык нізавошта не абмінуў бы”, — юрліва падумаў Піліпчук. А яшчэ ён злавіў сябе на думцы, што ўпершыню акінуў позіркам жаночую постаць не знізу ўверх, а наадварот...

— Вельмі рады пазнаёміцца. Праўда, суседзіцца мы будзем нядоўга, я тут часова, — сказаў Піліпчук і нечакана для самога сябе дадаў: — На жаль...

Дзяўчына ніяк не азвалася на ягоны гуллівы намёк, толькі і мовіла:

— Мяне Алесяй завуць...

— А я — Міхась. Буду тут новым дырэктарам, — у голасе Піліпчука прагучалі пыхлівыя ноткі. Зрэшты, ён і ў зямным жыцці любіў фарсіста “распушыць пёры” перад упадабанаю маладзіцаю:

— Я ведаю, — абыякава сказала Алеся. — Таму і прыйшла.

— Значыць, ты ўва мне толькі начальніка бачыш? — зрабіў пакрыўджаны выгляд Піліпчук. — А я ж для цябе ў першую чаргу сусед, дарма, што часовы. Дарэчы, мая ўласная магіла будзе непадалёку, каля дуба...

І зноў Алеся ніяк не адрэагавала на Міхасёвыя заляцанні.

— Я хачу папрасіць у цябе помачы, — сур’ёзна сказала яна. — Калі здолееш, вядома...

— Дзеля такое прыгажуні я гатовы на ўсё! — з удаванай узнёсласцю ўсклікнуў Піліпчук, але пасля наступных слоў дзяўчыны адразу ж зніякавеў.

— Рэч у тым, што зямное жыццё я пакінула па сваёй волі...

— Як гэта? Т-ты с-самазабойца? — ад нечаканкі Піліпчук нават пачаў заікацца. — Але мне вядома, што самагубцаў звычайна хаваюць за межамі могілак...

— Ёсць такое... І з маім целам было б тое ж самае, калі б не бацька. Не магу сказаць, што я ўдзячная яму за такую “паслугу”. Лепей бы існаваць наводшыбе, бо тут я ўсё роўна адна...

— У якім сэнсе?

— Ніхто не хоча са мною зносіцца. Грэбуюць, цураюцца. Як на зямлі — пракажоных...

“А дакладней сказаць, як у турме — “апушчаных”, — падумаў Піліпчук. — З імі нават за адзін стол ніхто не садзіцца”. Аднак Алеся, безумоўна, пра зэкаўскія завядзёнкі не ведала, таму Міхась сваё параўнанне не агучыў.

— А ты на зямлі ў Бога верыла? — спытаўся ён.

— Вядома! Тады, калі я жыла, усе верылі. Ну, амаль усе.

— Дык чаму ж учыніла гвалт са свайго цела? Святары ва ўсе часы даводзілі, што самагубства — ледзь не самы вялікі грэх перад Богам.

— Сілы не ставала трываць...

— Што ж за гора цябе напаткала?

— Звычайнае амаль для кожнае дзяўчыны. Трагічнае каханне.

— Можа, трохі распавядзеш?

— Для таго і прыйшла... Каб ты ведаў, я жыла, калі ў Расіі цар Мікола

пры ўладзе быў. З Васільком, хлопцам з суседняй Малінаўкі, мы дужа кахаліся. Нават пабрацца паспелі — дзякаваць Богу, ні мае, ні ягоныя бацькі былі не супраць. А тут вайна з германцамі распачалася. Майго Васілька ў салдаты забралі. На развітанне я паклялася яму: “Калі ты загінеш, дык і мне не жыць...” Васілёк, праўда, пасмяяўся: “Будзеш жыць сто гадоў! Вось паб’ём германцаў, і вярнуся я жывым-здаровым...” Два гады я чакала яго. Ліставаліся. А аднаго разу прыйшла папера ад ягонага камандзіра, маўляў, загінуў мой Васілёк гераічнаю смерцю недзе пад Смаргонню. Я гэтай паперы не верыла, па-ранейшаму чакала. А праз год Лявон Аўдоццін з вайны ў Застарычы вярнуўся. Ён разам з Васільком служыў. Дык і пацвердзіў, што майго любага на ягоных вачах снарадам на кавалкі парвала... І ненавісным стаў для мяне белы свет. Жыла, як у цёмным лесе. Не магла ні піць, ні есці. Многія хлопцы сватоў хацелі заслаць, але я на іх не зважала. І ўрэшце выканала тое, аб чым клялася. Павесілася. Хай сабе і грэх, думала, але затое са сваім Васільком у іншым свеце хутчэй сустрэнуся. Ці ж ведала я, што толькі горш зрабіла... Людзі не дазволілі бацькам хаваць мяне на могілках, — так ім святар наказаў. Ён і сам адпяваць мяне адмовіўся. Дык бацька ноччу, употайкі, адзін выкапаў вось гэтую магілу і пахаваў. Зверху крыжык невялікі паставіў. Але потым яго нехта вырваў і за агароджу закінуў. І так — тры разы... У рэшце рэшт бацька проста паклаў на ўзгалоўі магілы вялікі камень. Іх тут шмат было — на даўніх пахаваннях. Камень за агароджу не выкінулі. Гэта ж не крыж, Богам асвечаны...

Алеся на хвіліну прымоўкла. Адчувалася, што словы даюцца ёй цяжка, яна ледзь не выціскае іх са сваіх грудзей.

— Дык ці сустрэлася ты тут з абраннікам, з Васільком? — парушыў цішыню Піліпчук.

— У тым жа і бяда, што не сустрэлася, — скрушна адказала Алеся. — Мусіць, ён таксама цураецца мяне, пракажонай. А можа, яму забараняюць. Я не ведаю. Ва ўсякім разе, Васілёк ніколі сюды не наведваўся.

— Чаму ж сама яму пра сябе не нагадала?

— Якім чынам? Я не магу вандраваць ні па зямным, ні па тутэйшым свеце. Толькі ў межах Застарычаў. Так “зверху” наканавана. А ў святочныя дні ўвогуле не маю права выбірацца на паверхню.

— Так бы мовіць, цябе трымаюць пад хатнім арыштам?

— Называй гэта як хочаш...

— Няўжо і праўда тут табе няма з кім словам перамовіцца?

— Толькі з бацькам ды маці. Але і яны з часам аддаляюцца. Так заведзена... Адна аддуха — салдацікі.

— Якія салдацікі? — здзівіўся Піліпчук.

— Ты ж павінен лепш за мяне ведаць, — з папрокам зірнула на яго Алеся. — Хіба не памятаеш, што па той бок дарогі ад могілак ёсць брацкая магіла?

— От абоўдзіла! — аблаяў сам сябе Піліпчук. — З галавы выскачыла. Я ж, калі быў піянерам ды камсамольцам, на тую брацкую магілу кветкі насіў. Але там жа салдацікі з апошняе вайны. І што, яны цябе прывячаюць?

— Анягож. Усе ж маладзенькія, можна сказаць, нецалаваныя... Ды мне туды таксама нельга калі ўздумаецца. Толькі з дазволу дырэктара. Не ведаю, якім будзеш ты, а Рыба спагаду меў, часта дазваляў...

— Не хвалюйся, я цябе не пакрыўджу, — запэўніў Піліпчук.

— Дзякуй... Аднак жа не пра гэта я хачу папрасіць найперш...

— Ну?

— Буду ўдзячная, калі ты адшукаеш майго Васілька. Ён жа, пэўна, пахаваны там, дзе загінуў, — пад Смаргонню.

— Гм, — чмыхнуў Піліпчук. — Дапусцім, адшукаю. І што далей?

— Нагадай яму пра мяне. Або хаця б даведайся, чаму ён сюды носа не кажа. Можа, сапраўды не пускаюць, можа, проста разлюбіў... Як бы там ні было, я хачу ведаць праўду...

— А чаму раней каго-небудзь не папрасіла, каб у Смаргонь наведаўся?

— Каго? Я ж табе казала: ніхто са мною і размаўляць не жадае. Выканаць жа просьбу — і пагатоў. А ты яшчэ ад зямнога жыцця не паспеў адысці, пачуцці не гэтак прытупіліся, можаш зразумець мяне, бо, напэўна, ведаеш, што такое вялікае каханне. Дый дырэктар усё-ткі. Нечым жа заслужыў, што на такую пасаду прызначылі. Дык цябе, мусіць, вышэйшае начальства не надта ўшчуваецьме, калі просьбу "пракажонай" выканаеш...

— Як сказаць... — задумаўся Піліпчук. — Магчыма, яшчэ больш перападзе. Адно магу паабяцаць: тваю просьбу без увагі не пакіну. Я, на жаль, яшчэ сам не ва ўсім разабраўся. Давай дамовімся: пасля святаў я паспрабую знайсці твайго Васілька. Згода?

Алеся кіўнула галавою.

— Не буду табе больш замінаць, — цёпла сказала яна і гэткім жа чынам, як і з'явілася — праз дно дамавіны, паспяшалася ва ўласнае жытло.

## З нябёсаў на зямлю

Могілкі сталі напаўняцца гаманою, і Піліпчук палічыў, што Раўлей ужо таксама вярнуўся з паверхні. Міхасю закарцела тэрмінова сустрэцца з гэтым шустрым і мудрым дзядком, які стаў для яго і дарадчыкам, і памагатым.

Магіла Раўлея месцілася пасярэдзіне могілкаў, у самай старажытнай частцы. Таму Піліпчука не здзівіла, што ў "камунальнай" дамавіне, акрамя Раўлея, знайшлі прытулак яшчэ два падсяленцы: хударлявы старац, які, мяркуючы па няхітрай апратцы, абжыў гэтае месца першым — яшчэ ў часіны Літоўскага Княства, і дзябёлая, мажная жанчына, пахаваная тут апошняй, мусіць, пры тым жа цары Міколку. Адчувалася, што "кватаранты" паміж сабою ладзяць, прынамсі, не грызуцца, як Пракоп з Хадоськаю.

Піліпчук не захацеў распачынаць размову з Раўлеем у прысутнасці старонніх, прапанаваў трохі прагуляцца па могілках. Калі яны сышлі на сцежку, Піліпчук першым чынам павінаваціўся:

— Прабач, што дакучаю табе, як авадзень кабыле.

— Нічога, так і трэба, — паблажліва сказаў Раўлей. — Дык што цябе цікавіць?

— Да мяне сёння завітала суседка знізу...

— А-а, Алеся, — сумна ўсміхнуўся Раўлей. — Шкада дзяўчыну.

— Вось і мне шкада. Алеся папрасіла ў мяне дапамогі. Хоча, каб я выведаў, што сталася з ейным Васільком, чаму ад яго ні слыху ні дыху. Я разумею, з-за чаго Алесі ўсе цураюцца, аднак... Хіба не маглі ты ці Рыба ўважыць яе просьбу раней? Каб паспрыяць няшчаснай дзяўчыне, вялікіх высілкаў не трэба...

— А чаму ты думаеш, што мы тую просьбу не ўважылі? — калюча зірнуў на Піліпчука Раўлей.

— Ты хочаш сказаць, што нехта з вас пабываў у Смаргоні?

— Я асабіста.
— Дык чаму ж Алеся пра гэта не ведае?
— Мы з Рыбам вырашылі нічога ёй не казаць. Палічылі, што етак будзе лепш.
— Ты выведаў нешта нехарошае для Алесі?
— Таго Васілька ў тутэйшым, у нашым з табою свеце ўжо нямашака. Пасля страты цела яго амаль адразу накіравалі ў рай. А што ета значыць? Што Алеся ўжо ніколі, разумееш, ніколі не здолее сустрэцца са сваім зямным абраннікам, бо для яе, як для самазабойцы, дарога ў рай перакрыта назаўсёды, колькі б целаў яна ні мяняла напотым. Вось чаму я нічога не сказаў Алесі. Ці ж можна адбіраць у яе апошнюю надзею? Як уведае праўду, дык зусім занудзее...
— Во яно як... — разгубіўся Піліпчук. Трохі памаўчаўшы, запытаўся: — А чаму Васілёк гэтак хутка ў рай патрапіў? Вунь жа іншыя суда над сабою немаведама колькі чакаюць.
— З ваярамі заўсёды етак. Асабліва, калі яны з целам развіталіся, родную зямлю баронячы. Усе грахі скасоўваюцца, таму суд над імі вельмі скоры.
Піліпчук зноўку задумаўся, на гэты раз надоўга. Нарэшце падаў голас:
— Цераз дарогу брацкая магіла ёсць. Алеся сказала, што пры магчымасці да салдацікаў бегае. А ты ж мяне туды не вадзіў...
— Ета не нашая вотчына, таму і не вадзіў. Тая брацкая магіла існуе сама па сабе, у ёй і свой дырэктар, і свае парадкі. Па етай прычыне салдацікі, у адрозненне ад нашых, Алесяй не грэбуюць, ні ў чым не папікаюць. Зрэшты, і етае аддухі для дзяўчыны хутка не будзе...
— Салдацікаў накіруюць у рай?
— Куды ж яшчэ... Над імі ўжо даўно суд адбыўся б, ды ёсцека адна закавыка...
— І то праўда: чаму салдацікам не вынеслі апраўдальны прысуд раней? З апошняе вайны нямала часу прайшло... Васільку ж, як ты кажаш, амаль адразу пуцёўку ў рай выпісалі...
— Таму што на Васільку не было галоўнага граху — ён у Бога верыў, у царкву хадзіў, шчыра маліўся. Дый чаго дзівіцца? Да кастрычніцкага перавароту ўвесь люд набожным быў. А тыя, што ў брацкай магіле цераз дарогу, лічы, пры бальшавіках у новыя целы пасяліліся. Кансамольцы ды камуністы. Для Бога ў іхніх галовах месца не ставала. Вось і думаюць-гадаюць “наверсе”, як з імі абысціся. На адной шалі — ваярская пагібель, на другой — бязбожнасць. Але мне ўсё-такі здаецца, што першая шаля пераважыць, і неўзабаве будзе для салдацікаў амністыя за галоўны грэх. Іх жа бальшавікі сілком бязбожнікамі рабілі...
— Мяне, дарэчы, таксама, — маркотна мовіў Піліпчук. — І піянерам быў, і, як ты кажаш, “кансамольцам”. Адно што ў партыі не паспеў адзначыцца. У Маскве завaруха распачался, пасля якое камуністы сваю сілу страцілі. А потым ужо я самохаць дапяў, што да чаго. Праўда, бацькі мяне пахрысцілі яшчэ немаўляткам...
Нечакана Раўлей загаманіў на іншую тэму:
— Ты з-за Алесі мяне сёння патурбаваў, але не яна станецца для цябе найбольшаю дакукаю. Скончыцца свята, і мецьмеш ты іншы клопат — з Карагачыхаю.
— Хто такая? — насцярожыўся Піліпчук. — І чаму ў мяне будуць з ёю праблемы?

— Вядзьмарка яна. А ета значыць, служка д'ябла. Карагачыха — яшчэ з майго зямнога пакалення. Добра помню, як на людзей сурокі наводзіла... Праўда, калі сюды трапіла, суцішылася было. А цяперака чуткі гуляюць, што зноў за сваё ўзялася. Некалі Карагачыха перад скананнем не паспела перадаць свае чары каму-небудзь іншаму. І вось ужо тутака спахапілася. Кажуць, нейкую зямную дзяўчыну ў снах наведвае, а ў етыя дні побач з ёю туляецца. Сваю д'ябальскую навуку той дзяўчыне перадае, замовы ды праклёны нашэптвае... Нядобра ета. Пляма на нашыя могілкі. Таму "зверху" могуць наслаць кару на ўсіх агу...

Раўлееў аповед пра Карагачыху абарваўся для Піліпчука на палове слова. Невядомая сіла вырвала яго з могілкавага асяроддзя, падхапіла і панесла немаведама куды.

Праз некалькі імгненняў Піліпчук апынуўся ў тым жа кабінеце, дзе зусім нядаўна атрымаў прызначэнне на пасаду дырэктара. Сам Куратар нервова шпацыраваў па пакоі. Ягоны твар яшчэ болей азыз, вакол вачэй выступілі блякла-сінія кругі. "Ну, дакладна вы тут свята адзначаеце, — па-блюзнерску падумаў Піліпчук. — Апухлі ад амброзіі..."

Аднак была і другая прычына хваравітага выгляду Куратара. Піліпчук зразумеў гэта, калі пачуў словы нябеснага чыноўніка.

— Памылка выйшла, — хмурна мовіў Куратар. — Мае падначаленыя напартачылі, усё пераблыталі, падсунулі мне лжывую інфармацыю, і я падпісаў паперы аб тваім датэрміновым вызваленні. За што сёння і атрымаў вымову ад вышэйшага начальства. — Куратар цяжка ўздыхнуў.

— І што ж цяпер? — разгублена запытаўся Піліпчук.

— Як што? Будзем выпраўляць памылку. Табе давядзецца вярнуцца ва ўласнае цела.

— Хіба ж гэта магчыма? Мая плоць, мусіць, ужо загніваць пачала...

— Вернешся на зямлю — першым чынам уважліва прачытай Біблію, — параіў Куратар. — Будзеш ведаць, што Хрыстос уваскрасіў Лазара, калі ад ягонае плоці ўжо смуродам патыхала. А тваё цела, дарэчы, у выдатным стане, балазе ў маразільнай камеры захоўваецца. Так што адбывай тэрмін да канца...

Куратар махнуў рукою, і Піліпчук зноў паляцеў па тунэлі, у канцы якога бачылася не святло, а наадварот — цемра...

## Жывы труп

Старая Агапка, якую ў вёсцы людзі звычайна называлі Кандрацiхай, змушаная была дажываць свой век у гарадской кватэры. Паўгода таму сканаў яе чалавек, Кандрат, і дачка, ведаючы, як цяжка будзе маці нудзіцца адной, перавезла яе ў райцэнтр, дзе жыла з мужам у трохпакаёўцы. Дзеці разляцеліся па свеце, так што жылплошчы мелася ўдостатку.

Рукі Агапкі заўсёды былі занятыя хоць якою справаю, нават на схіле гадоў яна корпалася ў двары ці на градах. Вось і ў кватэры Агапка ўсё перабрала-перачысціла. А што далей? Старой абрыдла цэлымі днямі сядзець перад тэлевізарам, і ў рэшце рэшт яна папрасіла дачку:

— Хай бы ты мне які занятак знайшла. Смецце ў двары падграбаць ці падлогу каму пашараваць... І мне весялей, і капейчыну ў хату прыносіцьму.

У нашыя дні знайсці нейкую працу ў заняпалым райцэнтры, тым больш для старога чалавека, амаль немагчыма. Таму дачка, напярэдадні

аббегаўшы ўвесь гарадок, толькі і змагла натрапіць на адну вакансію: прыбіральшчыца ў трупярні. Які́м бы ні быў працоўны голад, але аціраццa сярод нябожчыкаў ахвочых, бач, не знаходзілася.

Затое пагадзілася Агапка. Яе не палохалі прымхі-забабоны. Можа, нават і лепш — прыбіраць у трупярні, бо нябожчыкі на падлозе столькі не наслядзяць, як жывыя людзі...

У той вечар Агапка заступіла на сваю працоўную вахту ўпершыню. Паставіўшы вядро з вадою на гладкую кафельную плітку і прытуліўшы швабру да сцяны, яны пстрыкнула выключальнікам. Загарэлася бляклае святло. Перш чым прыступіць да квэцання падлогі, Агапка вырашыла як след агледзець памяшканне. Доктарка прыводзіла сюды старую і ўдзень, але паказала ўсё спехам-падбежкам, бо яе, мусіць, вярэдзіў нейкі іншы клопат.

Зрэшты, начынне трупярні выглядала аднастайным: пяць ці шэсць вазкоў з высокімі ножкамі на калёсіках. Тры з іх не пуставалі, былі накрытыя белымі прасцінамі, з-пад якіх вытыркаліся абрысы чалавечых целаў. Да вазкоў Агапка інтарэсу не мела.

Яе зацікавіла шэрая шырокая шафа ўздоўж дальняе сцяны з некалькімі шуфлядамі. Такіх шафаў старая не бачыла зроду, таму пратупала да яе праз усё памяшканне, прытуліла сваю далонь да халоднай металічнай паверхні. А што ж усярэдзіне? Старая ўзялася за ручку адной з шуфлядаў і пацягнула яе на сябе.

Агапка адхіснулася не толькі з-за таго, што ўбачыла чалавечыя ногі. Больш яе агаломшыла, што тыя ногі заварушыліся, і нехта там, усярэдзіне, застагнаў, ёрзаючы, памкнуўся высунуцца з глыбокае нішы. Спярша Агапка самлела, асела ўсім целам на кафельную плітку, ледзь не выцяўшыся галавою аб сцяну, а затым імгненна ачомалася і наўколенцах папаўзла да дзвярэй.

— Авой! Авой! Людзі, ратуйце! — бесперапынна вырываўся з ейнага горла крык.

Каля парога Агапка спадобілася ўстаць, аднак, зачапіўшыся нагою за вядро, зноўку грымнулася вобзем. Гэта дадало яшчэ болей жуды, Агапцы здалося, што акрыялы нябожчык гоніцца за ёю, і да блізкага корпуса бальніцы яна ўжо бегла з адным толькі адчайна-жудасным енкам:

— А-а-а-а!..

### “Чужая мова”

Расплюшчыўшы павекі, Піліпчук убачыў перад сабою бялюткую столь. Скасавурыў вочы налева-направа і ўцяміў, што ён ляжыць у ложку. Побач, каля самай галавы — жоўтая парэпаная тумбачка, крыху ніжэй — такога ж колеру крэсла. Па другі бок высіцца кропельніца, на якой сіратліва матляецца празрысты дроцік. Мяркуючы па ўсім, ён у бальнічнай палаце.

Піліпчук напружыў мазгі, каб дапетрыць, як ён сюды трапіў. Аднак у галаве была сапраўдная каша: цягнік, аблічча прыгожае маладзіцы, безліч іншых невядомых твараў і постацяў, крыжы на магілах — усё гэта мільгацела, стракацела, набягала адно на адно і ніяк не магло выстраіцца ў асэнсаваны, акрэслены малюнак. Пакуль Піліпчук варушыў клёпкамі, у палату ўвайшлі чалавек сталага веку, а за ім — маладзенькае дзяўчо. Абодва ў белых халатах, відавочна, доктар і медыцынская сястра.

— Вижу, батенька, вы уже окончательно оклемались! — загаманіў з парога сівавалосы доктар. — Как вы себя чувствуете?

— Дзе я? Як я тут апынуўся? — заместа адказу выхрыпеў з грудзей Піліпчук, не пазнаўшы ўласнага голасу.

— О, да вы по-белорусски разговариваете?! — з непрыхаваным здзіўленнем усклікнуў доктар. — Потрясающе! Теперь так редко услышишь настоящую белорусскую речь... Вы, наверное, литератор? Или в оппозиционной партии состоите? А впрочем, это неважно... Было бы естественно, если бы мы все, родившиеся в Беларуси, говорили на родном языке, — доктар вінавата ўсміхнуўся. — А знаете, я ведь родом из деревни и когда-то прекрасно общался по-белорусски. Даже вступительные экзамены в мединститут на «мове» сдавал. А потом обстоятельства по-другому сложились... Да вы сами знаете...

Доктара, відаць, так узрушыла беларуская гамонка пацыента (анягож, дзе цяпер яе пачуеш?), што ён забыўся на свае пытанні, якія хвіліну таму задаваў хвораму. Пра нешта падумаўшы, ён хітравата падміргнуў Піліпчуку:

— А я, бадай, таксама папробую разговар... размаўляць з вамі па-беларуску! А што! Не варта пренебрег... як гэта... во, грэбаваць матчынаю моваю!

Перш чым вымавіць патрэбнае слова, доктар падбіраў, перакладаў яго ў сваёй галаве, што яму не адразу ўдавалася, таму ён загаварыў запаволена, з кароткімі інтэрваламі.

— Дык дзе я? Што са мною здарылася? — не зважаючы на тыраду доктара, нецярпліва прамовіў Піліпчук. Яго турбоціла ўласная нэндза, а не моўныя практыкаванні лекара.

— Вы ў раённай бальніцы. А да гэтага вас збіў аўтамабіль. Траўмы хоць і сур'ёзныя, але магло быць і горш. У вас зламаная левая нага і моцнае страсенне мозгу. Зараз галава не баліць?

— Не надта. Толькі кружыцца трошкі...

— Вось і добра. Значыць, справа ідзе на папраўку. Вам у першую чаргу патрэбны спакой, так што давядзецца з тыдзень пабыць у нас. А далечвацца будзеце ўжо там, у сталіцы...

Доктар на хвіліну прымоўк, задумаўшыся, ці варта адразу выкладваць пацыенту ўсю інфармацыю. І ўрэшце, скмеціўшы, што твар хворага паружавеў, а позірк стаў асэнсаваным, вырашыў, што ад пачутага яму шкоды не будзе, наадварот, хутчэй вернецца да рэчаіснасці.

— Вы, галубочак, можна сказаць, нарадзіліся двойчы, — усміхнуўся доктар. — Мне пакуль незразумела, што гэта было — клінічная смерць ці ... проста памылка майго маладога калегі. Ён сцвярджае, што ў вас спынілася сэрца. Маўляў, рэанімацыйныя патугі плёну не прынеслі, таму ён загадаў аднесці вашае цела... Куды б вы думалі? У морг! Добра яшчэ, што паклалі ў маразільнік, інакш невядома, чым бы ўсё скончылася. А так нізкая тэмпература дапамагла захаваць у вашым арганізме ўсе жыццёвыя працэсы. Тое, што вы жывы, выявіла прыбіральшчыца. Выпадкова. І ледзьве сама не стала трупам...

— І доўга я там праляжаў? — Піліпчук не верыў сваім вушам.

— Дзе?

— Ну, у трупярні...

— Ажно трое сутак! Вы ж не мясцовы, дык пакуль ішлі пошукі радні...

— І што, знайшлі?

— Так, міліцыя адшукала, хоць і не адразу. Праўда, вашая жонка прыехала труп забіраць, а тут...

Вэрхал у галаве Піліпчука ўтаймаваўся на дзіва хутка, усё, што здарылася з ім апошнім часам, выслалася ў адзіны ланцужок.

— Што ж за недарэкі ў вас працуюць? — дакорліва мовіў Піліпчук. — Жывога чалавека ад мёртвага адрозніць не могуць...

— Вы пра майго маладога калегу? Ну, ён толькі што з мединстытута. Вопыту ніякага. Дый самі ведаеце, якія кадры цяпер у інстытутах рыхтуюцца... Галоўны ўрач яму, дарэчы, строгую вымову аб'явіў.

"Глядзі ж ты, з-за мяне і на небе, і на зямлі дзве асобы спагнанне атрымалі," — іранічна падумаў Піліпчук.

Доктар ужо гаманіў па-беларуску не запінаючыся, і было відавочна, што гэта прыносіць яму асалоду. Можа, таму ён зноўку паспрабаваў вярнуцца да сацыяльнага статуса пацыента:

— Вы мне так і не адказалі, чаму беларускай мовай карыстаецеся...

Піліпчук сумеўся:

— Можаце мне не паверыць, доктар, але я і сам нічога не разумею. Да літаратуры ніякага дачынення не маю, дый не нацдэм. Што праўда, то праўда: некалі ў дзяцінстве, гэтак жа, дарэчы, як і вы, па-вясковаму гаварыў. Аднак калі тое было! І да сённяшняга дня я размаўляў выключна па-руску. А цяпер, во, як быццам усе рускія словы з галавы выскачылі. Не, я "вялікі і магутны" разумею і сказаць нешта на ім магу, але патрэбны пэўныя высілкі, каб знайсці беларускім словам рускія адпаведнікі. Такое ўражанне, што па-беларуску я думаў і гаварыў усё жыццё...

— Вось як?! — здзівіўся-разгубіўся доктар. — Цікава, цікава... І вы сапраўды свядома загаварылі па-беларуску толькі цяпер, нечакана для самога сябе?

— Менавіта так.

— Рэдкі феномен! Ва ўсякім разе ў маёй практыцы такога не здаралася. Праўда, падобныя выпадкі медыцыне вядомыя і падрабязна апісаныя. Але ж іх не так многа, і кожны падаецца як сапраўдная сенсацыя. Так што вы можаце трапіць на старонкі газет...

— Не трэба мне газеты. Лепш растлумачце, як такое можа быць...

— У медыцыне гэта называецца "ксенаглосыя", інакш кажучы, "чужая мова". Зрэшты, да вас гэта не надта стасуецца, бо беларуская мова не была для вас чужою ад самага пачатку. І ўсё ж характэрныя сімптомы ёсць... Акурат на гэтую тэму я нядаўна прачытаў артыкул у медыцынскім часопісе. Хочаце, коратка перакажу яго вам?

— Быў бы ўдзячны.

— Ну, тады я прысяду, — доктар падсунуў да сябе стул, а маладзенькай медсястры сказаў: — Волечка, можаш пакуль ісці. А я тут на хвілін дваццаць затрымаюся.

Калі медсястра зачыніла за сабою дзверы палаты, доктар распачаў сваю "лекцыю":

— Вы ніколі не задумваліся, як маглі дванаццаць апосталаў разбрысціся па ўсім свеце і прапаведаваць вучэнне Хрыста на розных мовах? Яны ж былі звычайнымі рыбакамі! І раптам сталі паліглотамі... Біблія сцвярджае, што на апосталаў сышоў Святы Дух. Шчыра прызнацца, я — атэіст і не веру ні Біблії, ні таму, што гэтыя апосталы і сам Хрыстос увогуле існавалі...

Доктар быў засяроджаны на самім сабе, сачыў за правільнасцю сваёй беларускай гамонкі, таму не скмеціў, што пры гэтых ягоных словах на твар пацыента наплыла іранічная ўхмылка.

— Тым не менш ксенаглосыя — навуковая ісціна, засведчаная практыкай, — працягваў доктар. — Вось, скажам, выпадак з трыццацігадовым канадцам Джонам Смітам. Ён нахлябтаўся ў кавярні піва і стаў спяваць нешта незразумалае. У рэшце рэшт іншым гэта надакучыла, і яны запатрабавалі закрыць зяпу. Аднак Джон працягваў спяваць, бо не разумеў, што яму кажуць. А назаўтра, працверазеўшы, Сміт пачаў размаўляць са сваякамі на нейкай тарабаршчыне, па-англійску ж не петрыў ні слова. Пазней высветлілася, што Сміт гаворыць на чысцейшай нарвежскай мове, хоць ніколі яе не вучыў і нават не выязджаў са свайго гарадка. Так што давялося беднаму Сміту засвойваць англійскія словы наноў... Ці яшчэ адна загадкавая гісторыя. Трыццацігадовая харвацкая школьніца нечакана ўпала ў кому, нерухома праляжала роўна суткі, а прачнулася з ідэальным веданнем нямецкай мовы. А родную, харвацкую, амаль зусім забыла... Адзін амерыканскі доктар раптам пачуў, што ягоныя сыны-блізняты ляпечуць нешта па-свойму. Ат, думае, дзеці забаўляюцца. А калі ў госці прыйшоў прафесар старажытных моваў, дык паведаміў, што блізняты бездакорна зносяцца па-арамейску...

— Усё гэта цікава, — перабіў лекара Піліпчук, — але зусім не тое, што адбылося са мною.

— Ну, не скажыце! Зрэшты, паслухайце гісторыю, блізкую да вашай. Яна настолькі неверагодная, што я нават запомніў імя таго чалавека — Вілі Мельнікаў. Ён ваяваў у Афганістане. Падчас аднаго з баёў Мельнікаў атрымаў цяжкую кантузію, быў паранены ў галаву і апынуўся ў стане клінічнай смерці, якая працягвалася сем-восем хвілін. Свае ўражанні Мельнікаў апісвае прыкладна так. Усё было прыгожа, аднак ніякіх анёлаў ён не бачыў. Перад ім быў салярыс, бясконцы акіян з вадкіх крышталёў, якія пераліваліся адзін у адзін. Мельнікаў сцвярджае, што быў свядомасцю ў чыстым выглядзе, а ўласнага цела не бачыў. Ён дайшоў да мяжы свайго роду, за якой пачыналася бясконцая прорва. “Я зразумеў, — кажа Мельнікаў, — што калі сарвуся, дык аніякай шкоды для мяне не будзе, праўда, у такім разе не будзе і зваротнага шляху”. Ён бачыў шмат жывёлаў, раслін, пабудоў. А яшчэ ў яго ўпіраліся позіркі загінулых сяброў, якія і адпружынілі, адштурхнулі яго ад прорвы... Самае ж цікавае адбылося потым. Мельнікаў адразу ж з лёгкасцю асвоіў больш за сто моваў, тым лікам мёртвых, і рэдкіх дыялектаў. Вучоныя ўжо каторы год б’юцца над гэтым феноменам і ніяк не могуць яго разгадаць...

— А ў вас, доктар, ёсць асабістая думка? — хітравата запытаўся Піліпчук.

— А як жа! Бога, я лічу, няма, але існуе нейкае глабальнае інфармацыйнае поле. Мельнікаў, мне здаецца, выйшаў на непасрэдны кантакт з ім, акунуўся ў бяскрайнюю мазаіку малюнкаў-мрояў... Што гэтаму паспрыяла? Мельнікаў быў паранены ў левую скронь. Менавіта ў гэтым аддзеле мозга ідуць электрычныя працэсы ў групах нейронаў, ад якіх залежыць валоданне мовамі. У вас рана таксама на левай скроні. Не ўпэўнены, што вы станеце паліглотам, але ваш нечаканы пераход на беларускую мову па гэтай прычыне зусім верагодны...

Доктар зірнуў на свой наручны гадзіннік і спешна мовіў:

— Ну, папраўляйцеся, а мне трэба працягваць абход. У нас яшчэ будзе магчымасць пагаварыць і на гэтую тэму, і на іншыя.

Ужо ў дзвярах, сумна-іранічна ўсміхнуўшыся, ён падсумаваў:

— Гумар няхай сабе й чорны, але кожнаму сучаснаму беларусу варта

было б цюкнуць у левую скронь... Можа, згадалі б тады пра свае карані, на роднай мове загаварылі б...

Перш чым лекар сышоў, Пиліпчук паспеў прачытаць на ягоным бэйджыку, што мацаваўся справа на грудзях: “Астрашыцкі Station Андрэевіч, неўрапатолаг”.

Амаль адразу ж у палату літаральна ўляцела ягоная жонка Галя.

— Какое счастье, что ты живой! — з парога ўсклікнула яна і памкнулася да ложка, каб абняць Міхася. — А я уже успела все слёзы выплакать!

Піліпчук ніяк не зрэагаваў на жончыны эмоцыі, больш за тое — дэманстратыўна павярнуў галаву ў другі бок. Галя быццам і не заўважыла ягоную абыякавасць, нахілілася, пацалавала ў лоб. “Як нябожчыка, — злавесна падумаў Піліпчук. — Мусіць жа, калі ехала сюды, дык і спадзявалася ўбачыць мяне мёртвым...”

Галя шчабятала і шчабятала, але Міхась яе амаль не слухаў.

— Вось што, — перабіў ён жонку. — Тут табе рабіць няма чаго. Дзеці дома адны. Вяртайся ў Мінск. Калі трэба будзе мяне забраць, я табе патэлефаную. Усё, ідзі. Я блага пачуваюся...

Дзіўна, але Галя нават не звярнула ўвагу, што муж ні з таго ні з сяго загаварыў па-беларуску. Піліпчук успрыняў гэта як дадатковы доказ ейнай абыякавасці да сябе.

## Галюцынацыі ці ява?

Галя і сапраўды ў той жа дзень з’ехала ў Мінск. Уранку і ўвечары яна тэлефанавала мужу, цікавілася здароўем, сам жа Міхась нумар ейнага мабільніка ніколі не набіраў.

Доктар Астрашыцкі ў палату зачасціў, бавіў тут кожную вольную хвіліну. Сталічны пацыент быў цікавым суразмоўцам, але найперш доктара вабіла магчымасць папрактыкавацца ў беларускай мове.

Міхась меў уласнае меркаванне, чаму ў яго адбыўся нечаканы зрух да беларускасці. Гэтаму, безумоўна, паспрыяла трохдзённае падарожжа ў іншы свет, дзе Куратар, Раўлей дый іншыя насельнікі могілак утрамбавалі ў ягоныя мазгі, што адракацца ад мовы, дадзенай Богам, — вялікі грэх. Аднак выказваць сваю думку Астрашыцкаму Піліпчук доўга не асмельваўся, бо ў такім разе давялося б распавесці яму пра тое падарожжа. Чамусьці не было сумневу, што доктар падыме яго на смех ці ўвогуле назаве ўсё “трызненнем сівой кабылы”. У Бога ж Астрашыцкі не верыць — пра гэта ён сам сказаў. Праўда, далдоніў пра нейкае “глабальнае інфармацыйнае поле”, пра “бясконцы акіян з вадкіх крышталёў”, які быццам бы бачыў Мельнікаў у стане клінічнае смерці. Прыгожа гучыць, навукова. Не раўня пляшываму Куратару і нехлямяжаму Раўлею. Безумоўна, Астрашыцкі назаве ягоны аповед хваравітымі фантазіямі.

Хутчэй за ўсё, Піліпчук так і не наважыўся б падзяліцца з лекарам таемным, калі б сам Астрашыцкі міжволі не падштурхнуў Міхася да шчырасці. У той дзень яны гаварылі пра рэінкарнацыю, бо менавіта “перасяленнем душ” эзатэрыкі тлумачаць ксенаглосыю: маўляў, незнаёмую мову душа захавала з папярэдняга жыцця. З гэтым доктар катэгарычна не пагаджаўся.

— Усе — ад паэтаў, філосафаў, святароў да некаторых бязглуздых вучоных — плятуць пра нейкую душу, хоць ніхто так і не даў дакладнае вызначэнне, што гэта такое, — горача казаў Астрашыцкі. — Тэрмін “рэін

карнацыя” ў перакладзе з лацінскай мовы азначае “паўторнае ўваходжанне ў кроў і плоць”. Ахінея! Можна пагадзіцца, што існуе свядомасць, якая пасля смерці чалавека ўліваецца ў глабальнае інфармацыйнае поле ці вяртаецца ў тое ж цела, калі чалавек выходзіць з комы. У тое ж цела, а не ў іншае! І тут няма месца ні містыцы, ні рэлігійным забабонам, усё можна пацвердзіць навукова...

Піліпчук паспрабаваў запярэчыць:

— А я некалі чытаў, што людзі пад гіпнозам вяртаюцца ў свае папярэднія жыцці...

— Гэты метад называецца “рэгрэсіўным трансам”, — усміхнуўся Астрашыцкі. — Таксама махлярства. Аднак жа працягвайце...

— Ніякага махлярства якраз і няма! Людзі ў стане гэтага рэгрэсіўнага трансу размаўлялі на невядомай мове, расказвалі, кім былі ў мінулым жыцці, называлі прычыну сваёй смерці. Многае з таго, што распавядалі яны, пазней пацвярджалася архіўнымі дакументамі, гістарычнымі крыніцамі, да якіх пацыенты доступу не мелі. Ну, добра, можна ўявіць, што дарослыя пацыенты ўсё прыдумляюць. Але ж такія эксперыменты праводзіліся і з трохгадовымі дзецьмі! Яны згадвалі імя, якое мелі ў мінулым жыцці, часам называлі нават імёны сваіх былых бацькоў і блізкіх сваякоў, а таксама ведалі, дзе жылі раней... Скажыце, Станіслаў Андрэевіч, навошта дзецям хлусіць-выдумляць?

— Даражэнькі мой, сур’ёзныя спецыялісты, каб не сапсаваць сваю рэпутацыю, падобныя “дзівосы” нават не абмяркоўваюць. А то ўжо некаторыя заакеанскія навукоўцы прыйшлі да высновы, што больш за 90 мільёнаў амерыканцаў у мінулым жыцці былі іншаземцамі... Вунь і іхнія знакамітасці паддаліся гэтай вакханаліі. Скажам, пасля рэгрэсіўнага трансу Сільвестр Сталонэ заявіў, што ў мінулым жыцці ён быў радавітым французскім дваранінам і яго пакаралі на гільяціне ў час Французскай рэвалюцыі. Акрамя таго, у папярэдніх жыццях Сталонэ, маўляў, быў паўночнаамерыканскім індзейцам, баксёрам і нават... малпай. Шон Конэры быццам бы ўзначальваў афрыканскае племя абарыгенаў. А жаночы любімчык Дэміс Русас упэўнены, што ў мінулым жыцці ён увогуле быў жанчынай, спачатку жыў у Егіпце, потым на Усходзе...

— І што тут неверагоднага?

— Усё неверагоднае. Бо даказана, што пры пагружэнні ў рэгрэсіўны транс пацыенты не вяртаюцца ў мінулае, а перажываюць тое, што ўнушае ім гіпнатызёр. Зразумелі? У пацыентаў узнікаюць ілжывыя ўспаміны, якія “наганяе” на іх той, хто праводзіць сеанс. Тая ж частка людзей, якая ўнушэнню не паддаецца, лічыць такую псіхаметодыку не больш чым простай забавай...

Вось тут Піліпчука і “прарвала”.

— Ведаеце, Станіслаў Андрэевіч, калі я ляжаў у маразільнай камеры, ніякі гіпнатызёр над маім целам не стаяў і мазгі мне не пудрыў! Аднак я такое пабачыў, што... Вось паслухайце!

І Піліпчук таропка, наўзахлёб збольшага пераказаў Астрашыцкаму пра сваю вандроўку “на той свет”.

Станіслаў Андрэевіч не перабіваў, слухаў уважліва і, што найбольш уразіла Міхася, на твары доктара ніводнага разу не з’явілася з’едлівая ці іранічная ўхмылка. А выслухаўшы, Астрашыцкі на поўным сур’ёзе мовіў:

— Усё гэта вельмі цікава, але... Каб нашая спрэчка-размова далей пайшла,

так бы мовіць, на роўных, заўтра я прынясу вам пэўную навуковую літаратуру. Вы з ёю пазнаёміцеся, а пасля мы працягнем. Проста ў мяне не будзе патрэбы тлумачыць некаторыя рэчы — вы самі многае зразумееце з таго, што прачытаеце. Згодны?

— Ну, прыносьце...

Наступнаю раніцаю Астрашыцкі і праўда прывалок у палату цэлы стос кніг і часопісаў.

— Не палохайцеся гэтае кучы, — з усмешкай сказаў доктар. — Вам не абавязкова чытаць усё запар. У патрэбных месцах я зрабіў закладкі.

І Піліпчук накінуўся на чытво.

Астрашыцкі, відаць, наўмысна паклаў кнігі і часопісы наступным чынам: спярша тыя, якія даказваюць тагасветнае існаванне, а ніжэй — літаратура, якая ўсё гэта адвяргае. <...>

Піліпчук добрасумленна прабіраўся скрозь джунглі навуковых тэрмінаў і фармулёвак. Напрыканцы ён многае зразумеў, але заставаліся і таямніцы. Іх на наступны дзень паспрабаваў папулярнаю моваю "разжаваць" Астрашыцкі.

— Мозг чалавека — вельмі складаны орган, у ім больш за сто мільярдаў нервовых клетак, — тлумачыў доктар. — Даследаванні паказваюць, што сутыкненне з "тагасветным жыццём" выклікана пікам электрычнай актыўнасці паміраючага мозга. Скажам, у пацукоў, чые сэрцы былі штучна спынены, сігналы актыўнасці мозга ў восем разоў перавышалі звычайныя! А яшчэ адна прычына — недахоп кіслароду. Пры клінічнай смерці ягоны прыток да галавы пагаршаецца, у мозгу парушаецца функцыя, якая адказвае за аб'ектыўнае ўспрыняцце цела ў прасторы. І тады мозг пачынае маляваць фантастычныя карціны і вобразы: палёты над целам, розныя тунэлі. Раней і сапраўды лічылася, што нашыя мазгі не здольныя на такую складаную дзейнасць, таму прычына феномена клінічнай смерці тлумачылася наяўнасцю душы. Бо дзіва дзіўнае: прыборы паказваюць, што чалавек мёртвы, а ён, акрыяўшы, распавядае, што ў гэты час лётаў па тым жа тунэлі, сустракаўся з памерлымі сваякамі, сябрамі або анёламі. Цяпер ужо дакладна вядома: падобны эфект — гэта галюцынацыі ў паміраючым мозгу.

Каб зусім ужо не "дабіваць" Піліпчука, Астрашыцкі паблажліва ўсміхнуўся і супакоіў яго:

— Вы не адчайвацеся, у кожнага з нас усё-ткі ёсць шанец пажыць пасля фізічнае смерці. Якім чынам? Добрыя справы, матэрыяльны і духоўны скарб, які мы пакідаем пасля сябе, — гэта і ёсць "пасмяротнае жыццё". Ва ўсякім разе чалавек як асоба застаецца ў памяці нашчадкаў.

Міхась хоць іківаў галавою ў знак згоды, аднак жа па хітрынцы ўваччу можна было зразумець, што ён "трымае ў рукаве казырны туз". Яго Піліпчук і выклаў:

— Скажыце, доктар, у раённым аддзеле міліцыі працуе маёр Цікоцкі?

Пачуўшы гэтае прозвішча, Астрашыцкі насцярожыўся:

— А што такое?

— Дык працуе ці не?

— Цяпер ужо не працуе. Праўда, яшчэ тры дні таму працаваў...

— А як вы думаеце: адкуль я яго ведаю?

— Ну, усякае бывае... Можа, раней даводзілася сустракацца...

— Не, раней я пра Цікоцкага ніколі не чуў. А ў вашым гарадку ўвогуле ўпершыню. Тым не менш магу апісаць і знешнасць маёра, і ягоны кабінет.

Ведаю нават, што апошнім часам Цікоцкі знаходзіўся ў глыбокім запоі, бо ад яго сышла жонка. А яшчэ мне вядома, што менавіта ён займаўся росшукам маёй радні...

Астрашыцкі быў конча збіты з панталыку.

— І сапраўды, адкуль вы ўсё гэта ведаеце? — разгублена запытаўся доктар. — Падобныя размовы мы з вамі не вялі, а наведнікі, якія маглі б усё расказаць, да вас не ходзяць...

— Патлумачу. Пра сваё знаходжанне на тым свеце я распавёў вам спехам, збольшага, таму што-нішто цікавае ўпусціў. Напрыклад, тое, што меў магчымасць лётаць па нашым, зямным свеце. І я лётаў... Пабываў на працы, у школе, дзе вучацца мае дзеці, у сваёй кватэры. Не буду казаць, што я там пабачыў і пачуў, бо гэта асабістае... Галоўнае ж, што я наведаў кабінет маёра Цікоцкага. Мне карцела даведацца, як ідзе росшук. Убачанае мяне не ўзрадавала... І тады я наладзіў "мазгавы штурм" у ягоным сне... Хочаце верце, хочаце — не, але ўсё было менавіта так.

Астрашыцкі надоўга задумаўся. Як ні круці, а згадка пацыента пра маёра Цікоцкага сапраўды выглядала дзіўнай. Нарэшце доктар, як яму здалося, знайшоў належны вытлумак і пачаў разважаць уголас:

— Пра маёра Цікоцкага па зразумелай прычыне вы ведаеце не ўсё. Піў, піў і дапіўся. Тры дні таму, калі вы знаходзіліся ў коме, Цікоцкі падкараўуліў сваю жонку каля пад'езда і застрэліў яе з табельнага пісталета. А потым застрэліўся сам. Для нашага невялікага гарадка такая жахлівая падзея — усё адно што грамадзянская вайна ва Украіне. Не дзіва, што яна не сыходзіла дый цяпер не сыходзіць з вуснаў. Думаю, калі вы ляжалі ў рэанімацыі, у вашай прысутнасці ўчынак Цікоцкага, дый увогуле ягонае жыццё абмяркоўвалі доктар і медсёстры. Натуральна, маглі загаварыць і пра тое, што Цікоцкаму было даручана шукаць вашых сваякоў, бо вы — іхні клопат, так бы мовіць, пад рукою. І хоць вы былі "ў адключцы", але мозг успрымаў знешнюю інфармацыю і трансфамаваў яе па-свойму. Іншага тлумачэння я не бачу. Пасля рэанімацыі ў агульнай палаце вы не ляжалі, і ніхто з хворых, нават падсвядома, гэтую інфармацыю ўвесці вам у вушы не мог. Як толькі сюды прыехала вашая жонка, яна перагаварыла з галоўным урачом нашае бальніцы, і вас адразу ж паклалі ў асобную палату. Магу толькі здагадвацца, што за размова там адбылася... Ва ўсякім разе ў бальніцы зараз рамонт, месцаў не хапае, хворыя нават у калідорах ляжаць, а для вас — вось гэты апартамент... Ну і дзякуй богу! Так што "палётам да маёра Цікоцкага" вы мяне не здзівілі. Усё ў межах навукі.

Астрашыцкі яшчэ шмат распавядаў пра непазнаныя ўласцівасці чалавечага мозгу, але цалкам Піліпчука ён не пераканаў...

## Бяда

Траўма галавы загаілася на дзіва хутка, затое больш як месяц Піліпчуку давялося хадзіць на мыліцах.

Пра сваю вандроўку на той свет жонцы ён нічога не гаварыў, таму, натуральна, не было размовы і пра палюбоўніка Айдара. Аднак жа за Галяю Піліпчук пільна сачыў. Паводзіны жонкі ніяк не выдавалі на тое, што ў яе ёсць палюбоўнік. Пакуль Міхась ляжаў у ложку, Галя, лічы, не сыходзіла з кватэры, хіба на якую гадзіну адлучалася ў краму або на рынак, кожны раз вяртаючыся з пакетамі прадуктаў. У астатні час жан-

чына па-ранейшаму таўклася на кухні, сядзела перад тэлевізарам, ва ўсім дагаджала хвораму мужу.

Калі Піліпчук "стаў на ногі" і пачаў цэлымі днямі прападаць у офісе, ён таксама перастрахаваўся: за немалыя грошы наняў прыватнага дэтэктыва, які адсочваў кожны жончын крок. За ўвесь месяц віжавання дэтэктыў не здолеў наскрэбці на Галю ніякага кампрамату.

Як след праверыў Піліпчук і свайго намесніка Арцёма Зыля. Паводле дакументаў, намеснік ніякіх махлярскіх махінацый не рабіў. Надзейныя людзі сярод рабочых запэўнілі дырэктара, што якіх-небудзь "левых" заказаў трунары не выконвалі.

Дык што, ніякае вандроўкі на той свет не было і Піліпчук насамрэч не лётаў, не назіраў за блудам жонкі, за штукарствамі намесніка? Выходзіць, меў рацыю Астрашыцкі, калі даводзіў, што тая "замагільная ява" — не больш як хваравітыя фантазіі, галюцынацыі, выкліканыя "электрычнай актыўнасцю паміраючага мозга"? Рэчаіснасць міжволі пераконвала Міхася, што ўсё было менавіта так, як сказаў доктар. А чаму — ён ужо датумкаў сам. Напярэдадні аварыі ягоныя клопаты былі скіраваныя на месца для ўласнае магілы, дый штодзённая праца звязаная з трунамі і вянкамі, таму не дзіўна, што галюцынацыі былі менавіта такога кшталту. У глыбіні душы Міхась заўсёды падазраваў Галю ў здрадах (ну не можа быць сярод жанчын гэткіх анёлаў!), а намесніка Зыля — у карыслівасці. Пры выпадку мозг і выплюнуў з падсвядомасці ўсе гэтыя падазрэнні, якія ўвасобіліся ў яскравыя мроі-галюцынацыі.

Адно — не мройнае, а відавочна-трывалае — засталося ў Міхася пасля тае аварыі: ён ужо і думаў, і размаўляў толькі па-беларуску. Аднак жа і ў гэтым можна пагадзіцца з доктарам Астрашыцкім: пасля ўдару ў скронь у ягоных мазгах адбыўся нейкі зрух — да матчынай мовы, увогуле да родных каранёў. Зрэшты, чаму зрух? Лепш сказаць, усё стала на свае месцы...

І сябры, і паплечнікі, і незнаёмыя людзі вельмі дзівіліся, калі чулі з Міхасёвых вуснаў беларускую гамонку. У іхніх вачах чыталася: з якое нагоды ты раптам пачаў шварэкаць не гэтак, як ўсе? "Выкабеньваешся"? Хочаш вылучыцца? Праўда, хто-ніхто з суразмоўцаў вінавата апускаў вочы ці пазіраў убок, а затым таксама спрабаваў загаварыць з ім па-беларуску ці проста ўстаўляў у размову адзінкавыя словы.

Раней у палітыку Піліпчук не лез, скіроўваў свой імпэт на бізнес, а тут папёр супраць улады, бо яна вынішчае ўсё нацыянальнае. Уступіў у апазіцыйную партыю, з бел-чырвона-белым сцягам хадзіў на мітынгі і шэсці. Двойчы яго "канапацілі" ў пастарунак, але гэта Піліпчука не ўтаймавала. Наадварот, значную частку грошай ад свайго бізнесу ён пачаў аддаваць на патрэбы партыі.

Палітычныя высілкі Піліпчука, натуральна, не засталіся па-за ўвагаю "органаў". Стала "наязджаць" падатковая інспекцыя, зачасцілі дзядзькі ў пагонах з раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях, цёткі з эпідэмстанцыі, з міністэрства сацыяльнай абароны. Нават прафсаюзы прыслалі свайго правяральшчыка: маўляў, паступіў сігнал, што ў Піліпчуковай фірме парушаюцца "правы трудзяшчыхся"...

Не дзіва, што фірма захірэла, а неўзабаве ўвогуле абанкруцілася.

Але не гэта было самым страшным для Піліпчука. Спачатку, у першыя месяцы пасля аварыі, яму зрэдчас дакучаў галаўны боль. Міхась на яго не зважаў, лічыў, што гэта натуральна: наступствы траўмы. Таму да дактароў

не звяртаўся. Але з кожным разам боль рабіўся мацнейшым, і яго ўжо немагчыма было трываць.

А яшчэ — Пілiпчука ні з таго ні з сяго цягнула на ваніты. Нават тады, калі з раніцы, як кажуць, макавай расінкі ў роце не было. Адчувалася агульная слабасць, увесь час хацелася спаць. Пагоршыліся зрок і слых, дый гаварыць Піліпчук пачаў невыразна, з-за чаго некаторыя думалі, што ён п'яны. Зусім аслабела памяць. Сярод белага дня, бывала, узнікалі галюцынацыі. Праўда, не такія, як калісь, у час клінічнае смерці. Перад вачыма раптам успыхвала яркае святло, чуліся нудныя гукі...

Нічога не зробіш — давялося ісці ў прыватны медыцынскі цэнтр, дзе спярша на галаву Піліпчука начаплялі нейкіх правадоў, затым яго ўсяго засунулі ў тамограф — апарат накшталт баракамеры.

Доктар, які паўстаў перад Піліпчуком са здымкамі ў руках, меў занепакоены, заклапочаны выгляд.

— Скажите, у вас травмы головы были? — першым чынам запытаўся ён.

— Ну, так. Больш як год назад моцна вутнуўся...

— Височной частью слева?

Піліпчук моўчкі кіўнуў галавою.

— На месте ушиба в головном мозге образовалась опухоль. И, мне кажется, недоброкачественная...

— Што гэта значыць? У мяне... рак? — жахнуўся Піліпчук.

— Похоже. В любом случае вам надо обратиться к онкологу...

Міхась паехаў у Бараўляны.

Пасля пільнага агляду прафесар-анколаг сталага веку зрабіў змрочную выснову:

— Да, у вас рак. Причем в последней, практически неизлечимой стадии. Раньше надо было обратиться, при первых симптомах. Теперь же без настоящего хирургического вмешательства не обойтись... Впрочем, шансов все равно мало. Практически никаких. К сожалению, подобные операции у нас еще не совсем освоены. Разве что за границей. Но там они очень дорогостоящие. Не меньше миллиона...

— Рублёў? — запытаўся Піліпчук, які, падобна, ад жахлівае навіны зусім ачмурэў.

— Шутите? Долларов, конечно. И еще столько же понадобится на реабилитацию. <...>

— Доктар, я не маю такіх грошай, — прахрыпеў Піліпчук.

Прафесар развёў рукамі...

— Колькі часу ў мяне ёсць? — пасля нядоўгага роздуму адрачона запытаўся Піліпчук.

— Самое большое — месяц. Потом операция станет бесполезной.

— А жыць? Колькі мне засталося жыць, калі аперацыі не будзе?

— Считайте, что столько же...

Калі фірма не бедавала, Піліпчук зрабіў такі-сякі запас “на чорны дзень”: тры кілаграмовыя зліткі золата і сто тысяч даляраў у маскоўскім банку. “Чорны дзень”, падобна, наступіў. Але гэтых сродкаў для аперацыі ўсё адно мала.

Піліпчук паткнуўся ў банк, каб узяць крэдыт, але там з яго толькі пасмяяліся: хто ж дасць прыватнай асобе паўтара мільёна даляраў напавер?

Заставаўся апошні шанец. Аднакурснік Міхася Андрэй Плоткін паспеў стаць мільянерам. Прычым не падпольным, а легальным. Ён аціраўся, як

кажуць, у калідорах улады і меў ліцэнзію на ўвоз спіртовых напояў з-за мяжы.

Апошні раз Міхась бачыўся з Плоткіным два гады таму, падчас юбілейнай сустрэчы выпускнікоў інстытута. Тую вечарыну ў рэстаране, дарэчы, мільянер цалкам аплаціў са сваёй кішэні.

Трохузроўневы асабняк Плоткіна месціўся ў Зялёным Лузе. Яшчэ пры тэлефоннай размове, калі Піліпчук напрошваўся на сустрэчу, ён адчуў у голасе аднакурсніка халадок. З яшчэ большай адчужанасцю Плоткін "прывеціў" Міхася ў сваіх апартаментах. Праўда, выслухаў уважліва. А затым даў катэгарычны адказ:

— Старик, ты же нацдемом стал. Я все знаю. Вот даже сейчас разговариваешь со мною на этой... «мове», которую я на дух не переношу. Если я тебе помогу, мой бизнес сразу же прикроют. А зачем мне рисковать?

І напрыканцы, хіжа ўхмыльнуўшыся, цынічна дадаў:

— Ну, допустим, я дал бы тебе, дружище, эти деньги. Но ведь ты же можешь загнуться на операционном столе. И кто тогда вернет мне полтора миллиона баксов?

Ад Плоткіна Міхась вяртаўся дадому ў тралейбусе. Самотныя думкі віравалі, наплывалі адна на адну... Тралейбус быў амаль пусты — разгар працоўнага дня.

На чарговым прыпынку ў салон пругка ўскочыў дзяцюк усходняй знешнасці. Піліпчук мімаходзь кінуў на яго позірк і... знерухомеў. Што гэта, зноў галюцынацыі? Толькі не звыклыя яркія ўспышкі святла, а тыя — з замагільнага жыцця? Піліпчук, як спрацаваны конь, страсянуў галавою, тыльным бокам далоні працёр вочы. Не, не галюцынацыі. Насупраць прысеў той самы Айдар, якога Піліпчук добра разгледзеў, калі ён плённа "таптаў" ягоную жонку Галю...

Міхась вырашыў правіжаваць за Айдарам і не надта здзівіўся, калі ён сышоў на прыпынку паблізу шматпавярховага дома, дзе жыў сам Піліпчук.

Аднак у родны для Міхася двор азербайджанец не завярнуў, пашыбаваў далей, у глыбіню квартала. Піліпчук паплёўся за ім.

Павітаўшыся з бабулькамі, якія сядзелі на лаўцы каля пад'езда, Айдар набраў нумар у кодавым замку і знік за дзвярыма. І што цяпер рабіць? Рашэнне саспела імгненна.

— Даражэнькія, вы не падкажаце? — з уяўным захапленнем звярнуўся Міхась да бабулек. — Толькі што ў пад'езд зайшоў вядомы артыст. Я не памыліўся? Ён што, тут жыве?

Старыя недаўменна ўторкнуліся позіркамі ў Міхася. Нарэшце адна з іх, па знешнім выглядзе з "гарадское інтэлігенцыі", не хаваючы здзіўлення, запыталася:

— Вы о ком? Об Айдаре? Никакой он не артист. Обычный мужчина.

Міхась напусціў на твар разгубленасць:

— А так падобны... Ну проста двайнік! Мусіць, аднекуль здалёк сюды прыехаў...

— Да что вы! — азвалася тая ж "інтэлігентка". — Какой приезжий? Я с его родителями на одной площадке тридцать пять лет прожила. И Айдара с малолетства помню...

— Ну, тады прабачце. Проста памыліўся...

Тою ноччу Піліпчуку ўпершыню прысніўся Раўлей. Ён нічога не казаў, а толькі загадкава ўсміхаўся...

## Вяртанне

На шырокую шашу за ваколіцаю сталіцы Піліпчук вырулііў на сваім легкавіку ў глыбокіх прыцемках. У Застарычы ён планаваў прыбыць акурат апоўначы.

Міхась разумеў, што гэтая паездка ў родныя мясціны можа стацца для яго апошняй. Здароўя зусім нямашака. Агульная млявасць і нясцерпны галаўны боль дакучалі яму амаль штохвілінна. Вось і цяпер, учапіўшыся рукамі за руль, Піліпчук напружана ўзіраўся ў паласу святла, выхапленую з цемры дальнімі фарамі, і баяўся толькі аднаго: хоць бы датрываць, раптоўна не страціць прытомнасць. Дзякаваць Богу, у гэты позні час сустрэчных машын траплялася няшмат, і калі здарыцца з ім нешта благое, дык, можа, не пацягне ён за сабою на той свет кагосьці іншага...

Каля райцэнтра Піліпчук з'ехаў на вузейшую дарогу, праўда, таксама заасфальтаваную, а затым яшчэ чатыры кіламетры да Застарычаў легкавік падскокваў на калдобінах гравейкі.

Кіравацца ў вёску не было патрэбы, балазе, могілкі знаходзіліся на ўскраіне, пры ўездзе, і ў іх упіралася зарослая травою і блякла асветленая рэдкімі ліхтарамі вуліца. Піліпчук спыніў машыну, адчыніў багажнік, дастаў з яго рыдлёўку, сякерку, цвікадзёр і досыць аб'ёмістую гаспадарчую сумку. Невялічкі ліхтарык ён паклаў у кішэню пінжака загадзя.

Перш чым ступіць за вароты могілкаў, Піліпчук, паклаўшы ўвесь рыштунак на зямлю і тройчы перахрысціўшыся, прашаптаў малітву "Ойча наш". Уключаць ліхтарык Міхась пакуль што не стаў, бо сцежка, якая вяла да векавечнага дуба, была яму добра знаёмая.

Дуб сустрэў Піліпчука, як здалося, змрочна-панура. А звычайна ж ён шамацеў лістотаю, нібы вітаючы свайго спагаднага чалавека-земляка...

Тым не менш Міхась, раскінуўшы рукі ўшыркі, усім тулавам прытуліўся да тоўстага ствала, пачаў гладзіць далонямі шурпатую кару. Дзіўна, але праз некалькі хвілін Піліпчук адчуў пэўную палёгку ў сваім целе, суцішыўся і галаўны боль — як быццам дуб увабраў яго ў сябе...

Адступіўшыся ад дрэва, Міхась нарэшце ўключыў ліхтарык і скіраваў прамень на поўдзень: там, за сем крокаў ад дуба, павінен месціцца надмагільны камень. Тыя сем крокаў Піліпчук зрабіў. І сапраўды наткнуўся на зарослы мохам адорвень, на які раней ніколі не звяртаў увагі. Міхась прысеў на кукішкі і, зачапіўшы пазногцямі вільготны мох, садраў яго з паверхні каменя. Усё спраўдзілася. Памылкі быць не магло. Камень быў роўненька абрэзаны наўскасяк, быццам да яго прыклалася нечая рука...

Зямля абапал была спляжаная, месцамі ўтравелая, і, натуральна, ніякага надмагільнага ўзлобка над паверхняй не вытыркалася. Але Піліпчук ведаў, што ямы капаюць на ўсход ад узгалоўя, і на вока прыкінуў, дзе могуць быць абрысы магілы.

Спярша капаць было цяжка: зверху глеба пакрылася спрэсаваным слоем перагною, ды яшчэ пераплеценага карэннем маладых дрэў. І, адужаўшы гэты слой, Міхась выбіўся з сіл, зняможана гупнуў азадкам на мокры, сыры, ім жа створаны грудок зямлі.

Піліпчук не баяўся, што нехта з нябожчыкаў вось-вось схопіць за крысо. Хто-хто, а ён дакладна ведаў: мёртвыя для жывых, увогуле да ўсяго матэрыяльнага ніякай небяспекі не ўяўляюць, бо жывуць у іншым вымярэнні...

Аддыхаўшыся, Піліпчук зноў узяўся за рыдлёўку. Хоць і не адразу, але далей пайшоў жоўценькі пясочак і капаць стала лягчэй. Праўда, неўзабаве ўсё адно выйшла заступорка. Рыдлёўка ўгрызлася ў тоўсты і цвёрды, як трактарны трос, корань, які разлёгся ўпоперак на ўсю шырыню ямы. Відавочна, гэта быў адзін з атожылкаў магутнага карэння дуба, які чамусьці паімкнуўся не ў нетры зямлі, а выслаўся ледзь не на паверхні. “Прабач, дуб,” — у думках павінаваціўся Піліпчук і працягнуў руку да сякеркі...

Міхась па пояс ужо стаяў у яме, гэта значыць, паглыбіўся больш як на метр, але таго, на што ён спадзяваўся наткнуцца, чамусьці не было. Няўжо ўсё марна? Няўжо дамавіна пана Бараноўскага — сапраўды мроі, міраж, галюцынацыі? А можа, яна проста асела? Піліпчук адчайна, з усяго размаху ўвагнаў рыдлёўку ў зямлю і... жалезнае палатно глуха аб нешта стукнулася. Ёсць! Ёсць дамавіна! Міхась апантана, з падвоеным імпэтам стаў выкідваць і выграбаць з ямы рэшткі пяску.

З разлікамі ён не прагадаў: дубовае вечка, не пабранае тлом, адкрылася вачам цалкам. Выцягваць усю дамавіну на паверхню не было сэнсу, дый адзін, нямоглы, Піліпчук не здолеў бы. Ускрыць яе належала проста ў магіле. Аднак жа, стоячы на вечку, зрабіць гэта немагчыма, таму Міхась зноў узяўся за рыдлёўку, каб збоку ямы выкапаць нішу, дзе ён змог бы прыстаць.

Перш чым пачаць галоўнае дзейства, Піліпчук вылез з ямы, рукавом выцер успацелы твар і яшчэ раз прысеў на жвір. Ён баяўся расчаравацца, страціць апошнюю надзею, таму марудзіў, адцягваў, так бы мовіць, момант ісціны як мага.

Нарэшце схамянуўся, сціснуў зубы і, падхапіўшы сякерку і цвікадзёр, саскочыў у яму, на дамавіну, і яна, нібыта стары дзед, азвалася глухім стогнам-крэктам.

Адступіўшыся ў нішу, Піліпчук прысеў на кукішкі, прасунуў лязо сякеркі ў шчыліну пад вечкам і націснуў на тапарышча. Шчыліна пашырылася не надта, але ў яе ўжо можна было ўваткнуць лапу цвікадзёра.

Саржавелы цвік заскрыпеў, заскуголіў і разам з вечкам нехаця пачаў падымацца ўгару...

Піліпчуку пашанцавала, бо гаспадары дамавіны ўвагналі ў яе ўсяго чатыры цвікі — па кутках. Пэўна, спадзяваліся, што неўзабаве давядзецца яе ўскрываць, дык навошта тады лішняя дакука. А каб вечка было прыбітае як след, Міхась валаводзіўся б з ім да самае раніцы, і яшчэ немаведама, ці адужаў бы. А так высілкаў давялося прыкласці няшмат.

Яшчэ не ўзадраўшы вечка напоўніцу, Піліпчук накіраваў у зеўра дамавіны прамень ліхтарыка, і той выхапіў з цемры жаночую дыядэму з безліччу брыльянтаў...

Зваротны шлях да сталіцы стаўся для Піліпчука яшчэ больш пакутным: да фізічнага болю дадаўся душэўны. Тое, што ён усё-ткі адкапаў панскі скарб, безумоўна, усцешвала. Цяпер у яго ёсць сродкі на аперацыю. Можа, нават і звыш таго, што патрабуецца. Але... Дагэтуль усе турботы Піліпчука былі скіраваныя на адно: зачапіцца за жыццё любым коштам. Гэта дыктаваў ягоны мозг, ягоная плоць. Усё астатняе здавалася другасным, нязначным. Цяпер жа, калі мэта амаль дасягнутая, калі з’явіўся шанец затрымацца на гэтым свеце, раптам завярэдзілася душа, а па-сутнасці — ягоная існасць. У Міхася ўжо не было сумневу, што яна, душа, пасля тае аварыі сапраўды пабывала спярша на Нябёсах, а затым у “следчым ізалятары”, што Бог, Куратар, Раўлей, Алеся, Пракоп ды іншыя насамрэч існуюць, хай сабе

ў другім вымярэнні, недасяжным для плоці. А самае галоўнае — існуе Страшны суд, перад якім Піліпчуку непазбежна давядзецца паўстаць. І ці будзе ў яго апраўданне за сённяшні ўчынак? Так, душам, якія знайшлі прытулак на застарыцкіх могілках, ні гэтая дыядэма, ні астатнія каштоўнасці не патрэбныя, на тым свеце яны нішто. Але ж усё адно гэта вялікі грэх — скарыстаўшыся дадзенаю табе магчымасцю, уварвацца ў "царства мёртвых", забраць тое, што належыць толькі ім.

А ён, Піліпчук, парушыў могілкавы "Дом культуры"... Праўда, выграбшы з дамавіны ўсе каштоўнасці і пераклаўшы іх у гаспадарчую сумку, Міхась паставіў на былое месца вечка, у тыя ж пазы ўвагнаў цвікі. Магілу ён акуратна закапаў, утрамбаваў, а каб наведнікам могілак не кідаўся ў вочы свежы пясок на старым пахаванні, нагроб навокал леташняга прэлага лісця і тоўстым слоем насыпаў паўзверх магілы. Ён зрабіў усё, што мог, каб не пакрыўдзіць, не абурыць тых, для каго тры дні быў дырэктарам. А яны, мусібыць, усё адно пакрыўдзіліся. І калі давядзецца трапіць да іх канчаткова і незваротна, дык дырэктарам Піліпчуку дакладна не быць...

"І ўвогуле, — стыдобіў сябе Міхась, — як ты здолееш паказацца ім на вочы? Застанецца праваліцца скрозь зямлю, але куды ўжо глыбей... Не, табе нельга паўставаць перад імі. Будзеш гэткім жа, як Алеся, — "пракажоным". Гэта значыць, тваёй магілы на застарыцкіх могілках, пад векавечным дубам ніколі не будзе. Не павінна быць. Абавязкова трэба папярэдзіць аб гэтым Галю, а то, калі раптоўна "загнуся", яна, нічога не ведаючы, крый Божа, павязе труну з маім целам у Застарычы..."

Калі Піліпчук уехаў у межы горада, святлафоры на галоўных вуліцах яшчэ міргалі жоўтым вокам, хоць неба на даляглядзе ўжо святлела.

Міхась вырашыў паставіць свой легкавік у гараж, які месціўся ў агульным масіве за дзвесце метраў ад шматпавярхоўіка, бо ў гэтую пару ў двары з машынай не прыткнешся. У гаражы ён выклаў рыштунак з багажніка, падхапіў рукою досыць вагомую сумку і, крутануўшы ключом у дзвярным замку, нетаропка паклыпаў у бок свайго дома.

Зрэшты, адысціся далёка ад гаража Піліпчук не паспеў. Збоку, з шырокага праёма-прагалы паміж забудовамі, ён нечакана пачуў зычны вокліч:

— Эй, дядя, постой! Сигареткой не угостишь?

Міхась, нават не павярнуўшы галаву і не спыніўшы хады, гэтак жа зычна адказаў:

— Не куру!

— А ты все равно постой!

На гэты раз Піліпчук спадобіўся скасавурыць вока, каб згледзець таго, хто так нахабна прапануе яму спыніцца. То быў зусім яшчэ юнак, амаль падлетак, праўда, задужа цыбаты — у росце ён не саступаў Міхасю. Хлопец быў не адзін, з праёма высыпалася цэлая хеўра такіх жа акселератаў-пераросткаў — чалавек сем, не менш. І ўсе яны спехам паджгалі напярэймы Піліпчуку. "Гэта ж мясцовыя наркаманы! — кальнула здагадка. — Яны тут, каля гаражоў, заўсёды аціраюцца..."

Сустрэча з абкуранымі наркатою бэйбусамі нічога добрага Міхасю не зычыла. Ён, вядома, пастаяць за сябе ўмее, але ад такой шматлікай хеўры можна і не адбіцца... І што рабіць? Уцякаць? Ганебна паказваць спіну смаркачам. Дый позна ўжо. Дарма, што абкураныя, затое маладыя, спрыту ў іх паболей, чым у Міхася. І Піліпчук змусіўся спыніцца.

Наркаманы адразу ж абсталі яго паўкругам, пакінуўшы толькі шлях

да гаражоў.

— Если не куришь, тогда деньги гони! — бесцырымонна запатрабаваў цыбаты.

Калі б не сумка з каштоўнасцямі, якую Міхась трымаў у левай руцэ, дык можна было б раскідаць гэтых агамолкаў, як смецце. Аднак скарбам рызыкаваць нельга. “Можа, і праўда адкупіцца ад іх грашыма? — падумаў Піліпчук. — Гэта ж драбяза ў параўнанні з тым, што ў маёй сумцы...”

— Ну, калі вам так трэба, дык забірайце, — добразычліва мовіў ён, дастаў з нагруднай кішэні пінжака партманэт і працягнуў яго цыбатаму.

— Ого! — з захапленнем усклікнуў той, калі расшпіліў партманэт і намацаў у ім стосік двухсоттысячных купюр. Павярнуўся да сваіх хаўруснікаў і бадзёра паведаміў: — Живём, ребята! Тут миллионов десять!

Каб упэўніцца ў гэтым, узрадаваныя хаўруснікі пасунуліся да цыбатага.

— Молодец, дядя! — пахваліў Піліпчука адзін з іх. — Правильно поступил...

— Дык я пайду? — наўмысна нібы просячы дазволу, пакорліва запытаўся Міхась.

— Ладно, иди...

Піліпчук ужо зрабіў некалькі крокаў па сцежцы, як ззаду пачуў яшчэ адзін загадны вокрык:

— Погоди! А в сумке что?

— Ды так... Шмаццё рознае, — прастакавата адказаў Міхась, павярнуўшы галаву назад. — З дачы, во, прыехаў...

— Ну-ка покажи! — не паверыў наркаман і, падступіўшыся да Міхася, працягнуў сваю руку да сумкі.

— Я ж сказаў — шмаццё, — нахмурыўся Піліпчук і адхіліў сумку ўбок.

— Сейчас проверю! — наркаман нагнуўся і ашчаперыў яе рукамі.

Тут ужо Міхасю адступаць не было куды. Бойкі не мінаваць. І ён рабром далоні рэзка ўдарыў па шыі нахіленага наркамана. Той нават не войкнуў, ніцма тыцнуўся тварам у бетонную плітку.

Чаго-чаго, а такой агрэсіі ад “пакорлівага дзядзькі” хаўруснікі не чакалі, таму спярша застылі ў недаўменні. Затым, ачомаўшыся, зграяй кінулася на Піліпчука.

Першага Міхась сагнуў у крук, ударыўшы насаком у пах. Другі, атрымаўшы зубатычыну, адляцеў на два метры і плазам гупнуў на глебу. Ад удару трэцяга Піліпчук ухіліўся і адначасна выцяў яго локцем у патыліцу...

Дрэнна, што Міхась быў змушаны біцца толькі праваю рукою, бо леваю трымаў сумку. Адкінуць ці адставіць яе ўбок не выпадала ніяк: чаго добрага, адзін з нападнікаў падхопіць сумку і сігане ў двары. Шукай яго потым...

Зрэшты, усё ішло да таго, што Міхась управіцца з наркаманамі і адною рукою. Чацвёра з іх ужо снапамі ляжалі на зямлі, а Піліпчук атрымаў толькі тры слізготкія ўдары па скуле.

Ад вострага болю ў спіне, пад леваю лапаткаю, пачарнела ўваччу. Міхась яшчэ паспеў падумаць: “Як жа я падпусціў яго ззаду? Мусіць, нож...”

У наступную хвілю Піліпчук убачыў кропачку святла, да якой ён ляціць з неймавернай, непадуладнай чалавечаму розуму хуткасцю. З кожным імгненнем кропачка набліжаецца, разрастаецца, неадольна вабіць да сябе, як святло ў канцы тунэля...

Святлана Раманава



...Хай у душах паменее злосці,
Твая хай квітнее любоў...

# Вызначэнне мастацтва

### БЕЛАРУСКАМУ МАЭСТРА

*Я тут!*
*Я шугаю полымем.*
*Праз боль я з сябе бяру*
*Каменне рукамі голымі*
*І гэткім як сам дару.*

**Анатоль Сыс**

Ты выйшаў з вёскі, з росных траў,
З туманаў сырадою,
З адкрытым сэрцам цераз край,
З душою трапяткою.
А свет – не маці, не радня,
І нават не сябрына.
І чыстая душа твая
Ўзмужнее ці загіне.

Лебедзь белы, талент – рана
І агонь жыцця – быцця.
Не скарыць жыцця заганам,
Выйсця ў вышняе шукай!
З сэрца паэзія хлынула
Лавай, ліўнем, ракой,
Рыбаю, птушкамі белымі...
Край наш – і радасць, і боль.

### *ВЫЗНАЧЭННЕ МАСТАЦТВА*

***Як вада***

Падысці да берага
Яго Вялікасці Мастацтва
Нырнуць у вірлівую плынь
Адчуць пранікнёную асалоду
Бязважкіх хваляў
І выплыць памаладзеўшым
Нанова народжаным

***Як агонь***

Пагрэцца ля агню
Яго Вялікасці Мастацтва
Ўвайсці ў полымя
Гарэць неапаленаю купіною
І выйсці загартаваным
Бы грэчаская амфара
З выявамі багоў Алімпа

***Як паветра***

Дыхаць не надыхацца
Паветрам цудадзейным
На крылы ўзняцца
І даляцець да мары
Як лёгка лётаць!

***Як зямля***

Ступіць на бераг
Бы Адысей на родную зямлю Ітакі
Моцна трымацца каранёў сваіх
Зямных нябесных
Не пахіснуцца

Шукаць нязнанае
Шукаць суладдзе

Шукаць жыцця пульс
На алтар
Яго Вялікасці Мастацтва
Жыццё кладзецца
Сёння
Як спрадвеку

### *МІСТЫЧНАЕ*

*Мастацтва забірае...*
**Антаніна Слабодчыкава**

Беларускі мастак-графік Мікалай Селяшчук
У верасні 1996 года паехаў у падарожжа ў Італію
да Тырэнскага мора
І – не вярнуўся
Марская хваля забрала яго –
Палюбіла?
Беларускае светлалікае дзяўчо Кацярына Безмацерных
Сталічная журналістка
Так шчыра таленавіта пісала ў рэспубліканскім друку
Пра мастакоў і мастацтва,
Захаплялася Азіяй.
29 верасня 2013 года разам з мужам,
Такім жа летуценнікам,
ехала па горнай дарозе ў далёкім Пакістане
І –
Загінула ў свой 26 дзень нараджэння
Горы зачаравалі і не адпусцілі
Палюбілі?
Тытан беларускага мастацтва XX стагоддзя
Выдатны педагог Гаўрыла Вашчанка
Больш за ўсё любіў той няўлоўны час-стан прыроды
Калі зіма пастунова пераходзіць у вясну
Калі маразы амаль сышлі
І паветра вось-вось
Набрыняе гармонамі шчасця
Узнаўлення жыцця
Якраз у гэты час
14 лютага 2014 года ён адышоў у лепшы свет
Прырода й вечнасць
Палюбілі?
...Напэўна, так.

### *НА ПЛЕНЭР!*

Чаму мастак піша бераг мора, ракі –
Адзін з улюбёных матываў?

Ці не таму, што тут сустракаюцца
Тры асноўных стыхіі:

Зямля, вада і паветра,
Яны ўздзейнічаюць адно на адное,
І на стыку адрознасцей
Чуццё нараджаецца новае.

То шчасце – пленэрны жывапіс!
Карціны праўдаю жывяцца,
Часцінкай жывой прыроды,
Крыніцай гаючай прыроды
Ўваходзяць у інтэр'ер.
Дык збірай, мастак, інструмент свой,
Не забудзь настрой добры і сябра,
Каб прыпасці да маці-прыроды,
Каб адчуць водар вечнай свабоды,
І хуценька – на пленэр!

## ІДЗЕ МАСТАК

*Уражанне ад карціны Уладзіміра Вітко "Вараннё"*

Ідзе мастак
З вандроўкі ці ў вандроўку
Эцюднікамі ўкрыжаваны.
Яго вядзе агонь душы,
Каханне, неспатоля, прага, праца, сіла.
Мастак ідзе...
Лагчыны, рэчка, долы,
Лясы, узгорачкі яго вітаюць.
Брамы царквы і перазвон.
Мастак ідзе.
Ён думае.
Яму баліць усё жывое,
Мінулае і будучае краю.
А крумкачы чорнаю хваляй
Дарогу тлумяць.
Крык варання прагорклы, згінь.
Ідзі, мастак, наперад,
Куды сягае мара-думка-радасць.
Ідзі, браток, ідзі.

## СУТНАСЦЬ

Я – воск, з мяне можна зрабіць свечку.
Я – гліна, з мяне ў руках ганчара будзе добры глечык.

Я – мука, з мяне можна спекчы духмяны хлеб.
Я – чалавек, створаны па падабенству Яго... Але...
Што час з намі робіць, вечнасць?!
Куды ідзеш, чалавеча?
О воля!
Займацца любімай справай,
На хлеб зарабіць надзённы
Мазалём нястомнае працы,
У гэтым мець плён, асалоду.
І душа каб расла, бы дрэва.
Сутнасць у гэтым свету,
З хаоса – да Планеты.
А пакуль
Жыццё расцягвае на кавалачкі,
Паленне ў колы і палачкі.
Душа, нібы ўстрывожаны сад,
Дзе лунае дзівосны птах.

## *ГАРЭЦЬ!*

Здаецца, абы што, а натуй. Не цябе будуць
чытаць некалі, а па табе прачытаюць твой час.
**Максім Лужанін**

Устрапяніся, сэрца маё!
Абудзіся, думка і воля!
Прага шчасця і моцных пачуццяў!
Пакуль кроў іграе – іграй,
Калі можаш кахаць – кахай,
Калі можаш ісці – ідзі,
Пакуль можаш шукаць – шукай.
І любі, бясконца любі,
Гэты дзень, гэты свет, гэты лёс,
Блаславёны небам Айчыны,
Каб ніводны міг не прайшоў
Міма праўды і мэты міма.
А бязвер'я путы пакінь,
А няпэўнасць ведамі скінь.

Ты, прастора сэрца майго,
Наталіся сонцам і небам,
Узаемнасці шчырым хлебам,
Моцнай верай і новай хадой.
Дык – наперад, наперад, не стой.
Падары сабе радасць сустрэч,
Кнігі мудрыя падары.
Ты, выбраннік дарог і сардэц.
Дык гары ж! У Божым двары.

У бацькоўскім доме – твары!
Глянь, гарацць, гарацць снегіры!

## МАЛІТВА

*Магутны Божа, Уладар Сусветаў,*
*Вялікіх сонцаў і сэрц малых...*
**Наталля Арсеннева**

Найлепшая дочка Айчыны,
Нябесная кветка зямлі,
Малюся Табе, Еўфрасіння,
Сваё блаславенне пашлі

На край наш святы беларускі,
На сэрцы дачок і сыноў,
Хай у душах паменее злосці,
Твая хай квітнее любоў.

Дай розуму ў людцаў галовы,
І сэрца пяшчотнае дай.
Даруй слепату і праклёны
І боскасць у нас падтрымай.

## СВАІМ СЭРЦАМ

*Мастацвазнаўцу Феліксу Шунейку*

Сэнс жыцця –
У тым, каб ісці,
Па праспекце, па полі, па вузкай расколіне,
І намацваць карэннем і голлем ў лісці
Сваім сэрцам
Сэрца часу
І волю.

Адам Глобус



...нашыя хваробы
з'яўляюцца ад любові...

# Смерць ад вялікай любові

***Кароткая аповесць пра захапленні***

*Шмат хто з тых, каго я добра ведаў, паміралі ад вялікай любові і ад вялікага кахання. Яны не проста паміралі і пакутвалі, яны памерлі менавіта ад свайго моцнага захаплення. Кажу без жартаў. Якія могуць быць жарты каля магілы добрых людзей? Сам падумай. Мяне нават каля магілы праклятага ворага вусціш ахоплівае, што казаць пра магілы нашых блізкіх. Таму скажу, што я ўсё ж бачу суцяшэнне ў такой з'яве, як смерць ад любові. Чалавек меў моцнае і яркае пачуццё, жыў з ім і памёр з ім. Ёсць у гэтым простае шчасце чалавечага жыцця, ёсць радасць – адназначна.*

## Бронік і жонка

Пажарны Бронік моцна любіў сваю бабу Ядзю. Жылі яны цяжка, перажылі тры вайны – польскую, фінскую і

нямецкую. Выгадавалі дзяцей, ажанілі ўсіх, уздыхнулі з палёгкай, а тут і гора прыйшло – Ядзю з’еў рак. Хутка, за які месяц яна згарэла і згасла. Бронік два гады плакаў. Ніхто і думаць не думаў, што дзед Бронік так моцна любіць сваю бабу Ядзю. Два гады штодня Бронік хадзіў на клады, клаўся каля жончынай магілы, абдымаў яе і плакаў. Бронік сплакаўся і памёр. Ён памёр ад любові да Ядзі.

## Юра і ровар

Скульптар Юра любіў ганяць на ровары. Юра быў нечым падобны да мядзведзя, а таму на ровары ён выглядаў не па-спартоваму, а па-цыркавому. Варта сказаць, што Юра ездзіў на ровары па-майстэрску, з веданнем справы, з азартам. Каб у старажытнай Грэцыі былі ровары, дык, гледзячы на Юру, грэкі склалі б міф пра велакентаўра. Любоў да ровара і забіла скульптара. За дзень да смерці Юра выпіваў з калегамі па скульптурным цэху. Выпілі мужчыны моцна. Напіліся і завялі спрэчку. Юра сказаў, што лёгка праедзе на ровары сто кіламетраў. Раніцай пасля п’янай спрэчкі скульптар праехаў сто кіламетраў, паставіў ровар у кладоўку, лёг на канапу і адразу сканаў.

## Казік і машына

Слесар Казік людзей не любіў. Яны яму шмат кепскага зрабілі. Казік любіў метал, любіў машыны і самалёты. Ён у дзяцінстве склейваў мадэлі самалётаў. Месяцамі мог прасядзець над складанай мадэллю планера. Казік склеіў мадэль і паклаў на канапу. Суседская дзеўка зайшла ў госці і села дупай на мадэль. З Казікам здарылася істэрыка. Ён крычаў на суседку, крычаў на бацькоў, выбег на вуліцу і крычаў, што ў суседзяў сыны ў партызанах. Казіка злавілі, звязалі, паклалі на печ. Казікаў бацька дамовіўся з немцамі, што яны забяруць крыкуна на працу ў Германію. Забралі. У Германіі Казіку было горка, бо падлетка прымушалі працаваць, як дарослага. Ад людзей Казік атрымаў шмат розных крыўд і зняваг, а машыны яму дапамагалі. Больш за ўсё на свеце слесар любіў сваю машыну, свой легкавічок, свой “масквіч”. Таму Казік, калі адчуў, седзячы за стырном “Масквіча”, востры боль у сэрцы, не стаў адразу прымаць нітрагліцэрын. Ён вырашыў прытармазіць і акуратна запаркаваць сваю любімую машыну. Ён паўжыцця збіраў грошы на легкавічок, таму старана яго паркаваў, а сэрца рвалася. Казік запаркаваў машыну, дастаў таблеткі, але прыняць не паспеў. Памёр з таблеткамі ў руцэ. Памёр у любімай і акуратна запаркаванай машыне, у сваім чыстым і дагледжаным легкавічку.

## Саша і бацькі

Настаўнік Саша любіў сваіх бацькоў. Усе мы любім бацькоў, за выняткам круглых сіротаў і слабаразумных вычварэнцаў. Саша любіў бацькоў моцна, бо нікога блізкага ў гэтым свеце, акрамя таты ды мамы, не меў. У свае сорак пяць Саша так і не займеў сваю асобную сям’ю. Дзяцей таксама не мелася. Жыў з бацькамі. Даглядаў старых. Карміў малочным супам. Першым сышоў тата, а за ім неўзабаве і мама перабралася з Чыжоўкі

на могілкі ў Калодзішчах. Саша хадзіў на могілкі да бацькоў, і яму там было ўтульна. Яму хацелася легчы паміж магіламі мамы і таты, легчы і заснуць, і заснуць так, каб не прачынацца. Ад п’янства, ад адзіноты і меланхоліі Аляксандру зрабілася кепска. Ён выклікаў доктара, але не паехаў з ім у бальніцу. Адмовіўся. Саша нават распіску напісаў пра сваё адмаўленне ехаць у бальніцу. Ён застаўся ляжаць у кватэры сваіх бацькоў і праз гадзіну памёр.

## Жэня і жанчына

Аптэкар Жэня закахаўся ў прадавачку Косцю. Ён хадзіў за Косцяй неадчэпным хвастом. Адорваў яе срэбнымі і нават залатымі бацацыркамі. Частаваў пірагамі і пахлавой. Вадзіў на канцэрты і спектаклі. Усім здавалася, што Косця вось-вось прыме прапанову Жэні – выйсці замуж. Косця прыняла прапанову выйсці замуж, але не ад закаханага аптэкара. Прадавачка выйшла за міліцыянта. Аптэкар так заперажываў, так занерваваўся, так загнаўся, што купіў вяроўку і павесіўся ў сваёй аптэцы. На пахаванні Жэні ўсе казалі, што ён мог бы атруціцца, а ён замест таго, каб выпіць атруты – палез у пятлю. Вялікае каханне завяло Жэню ў пятлю. Горка. Але ж у Жэні было сваё вялікае каханне, і з гэтым не паспрачаешся.

## Ігар і цыгарэта

Шмат хто не можа кінуць курыць, бо любіць тытунёвы дым больш за ўсё на свеце. Графік Ігар нават сярод старых курцоў лічыўся ненатольным аматарам цыгарэт. Ён дыміў не раўнуючы як той казачны Змей Гарынавіч. Ігар выкурваў па дзве пачкі за адзін дзень. Ён нават пасярод ночы ўставаў, каб перакурыць. Кашляў Ігар страшэнна. Сто разоў спрабаў кінуць курыва, але не змог. Курыў і курыў, а калі крышку выпіваў, дык пачынаў прыкурваць адну цыгарэту ад другой. Адну даб’е і другую пачынае. Нічым добрым такая любоў скончыцца не магла. Пасля моцнай п’янкі з сябрамі графікамі Ігар праспаў ноч і палову дня. Прачнуўся і ў адных трусах выйшаў на гаўбец, каб нашча высмактаць першую цыгарэту. Тая першая і стала апошняй. Ігар набраў поўныя лёгкія пякучага дыму і страціў прытомнасць. Непрытомны, ён грымнуўся патыліцай на цэментную падлогу гаўбца і забіўся.

## Ладзімір і чысціня

Чысціня для хутаранца Ладзіміра была найвялікшай каштоўнасцю. Хата, падворак, сад, гумно заўсёды трымаліся ў ідэальным парадку. Нават куры і свінні ў ягонай гаспадарцы былі самымі чыстымі ва ўсёй вёсцы з яе навакольнымі хутарамі. Чысты Ладзімір пражыў павольнае і доўгае жыццё. Яму было пад восемдзесят, калі жонка пайшла ў бальніцу, а з яе перабралася на клады. Жыць аднаму цяжка, асабліва калі табе восемдзесят, але Ладзімір не здрадзіў сваёй чысціні. Карову, свіней і нават курэй ён папрадаваў, але падворак выкошваў, гумно падмятаў, падлога і вокны ў хаце былі вымытымі. У свой апошні дзень Ладзімір спарадкаваў вопратку ў шафе. Выбраў сабе чыстае сподняе. Паклаў яго на крэсла каля ложка. Сеў на ложак і выдыхнуў з сябе ўсё чыста паветра.

## Юрась і рыбкі

Акварыумныя рыбкі былі для школьніка Юрася найвялікшым захапленнем. Ён дзеля іх і жыў. Набыццё корму, усталяванне лямпы і замена вады прыроўніваліся ў Юрася... Ды што там маё “прыроўніваліся”? Былі самымі сапраўднымі рэлігійнымі рытуаламі. Гадзінамі Юрась любаваўся сваімі рыбкамі. У кожнай з іх было імя. З кожнай рыбкай Юрась размаўляў. З-за сваёй любові да рыбак Юрась і загінуў. У краме “Прырода” ён папрасіў у маці грошы на пластыкавае колца для кармлення рыб. Таннае колца, якое ляжыць на паверхні вады і ў якое акварыумісты сыплюць сухі корм для сваіх любімцаў. Маці адмовілася даваць грошы. Юрась выбег з крамы, забег у пад’езд высокага дома, узняўся на апошні паверх, адчыніў пад’езнае акно і скінуўся на зямлю.

## Антак і сад

Местачковец Антак больш за ўсё на свеце любіў свой вялікі сад. Ён яго ведаў з першых дзён жыцця, варта нават сказаць, што ягоныя бацькі злюбіліся ў гэтым садзе. Яны злюбіліся ў садзе, пад яблынямі, а праз вызначаны прыродаю час нарадзіўся Антачак. Ён гадаваўся на садовых паўмежках, каля кустоў парэчак і агрэсту. Усё сваё жыццё Антак даглядаў сад. Бяліў камлі. Абразаў сухое веццe. Абкопваў дрэвы. Лепшага занятку ён і не ведаў. У сваім садзе Антак закапаў бутэльку віна, калі сыходзіў у войска. Калі вярнуўся, змучаны і паранены, ён тую бутэльку выкапаў і выпіў, седзячы на зямлі пад грушай-лімонкай. Каб у Антака спыталі, дзе ён хоча жыць і памерці, ён бы сказаў, што рады жыццю пад высокай грушай-лімонкай, і памерці ён хоча вясновым днём, седзячы ў крэсле пад сваёй грушай. Не атрымалася. Лімонка захварэла і засохла. На яе месца Антак пасадзіў грушу-бурачку. Памёр Антак у садзе, седзячы ў крэсле, пад яблыняй – белы наліў.

## Валодзя і гарэлка

Чалавек ведае, што можна рабіць, а што – нельга. Ведаць ведае, але не заўсёды паводзіць сябе разумна. Махае рукою, кажа: “Адзін раз жывем!” і творыць відавочнае глупства. Такія паводзіны зразумець цяжка, калі сам ты не лічыш чалавечае жыццё малапатрэбным смешным глупствам. Валодзя не лічыў чалавечае жыццё глупствам, але пасля пяцідзесяці пачаў беспрабудна піць. Ён і раней выпіваў і піў, і нават сыходзіў ў тыднёвыя запоі, але пасля пацідзесяці ён не прасыхаў. Некалькі разоў дактары яго выводзілі з запояў. Ставілі кропельніцы, палохалі смерцю, прасілі больш не цягнуцца да бутэлькі. Валодзя трымаўся месяцы са тры, а потым пачынаў піць з раніцы да вечара. Калі апошні раз сябры выцягнулі Валодзю з глыбокага п’янства, доктар сказаў проста: “Вып’еш – здохнеш!” Каб не маркоціцца ў кватэры, Валодзя выправіўся ў вандроўку. Разам з сябрамі ён плыў на чаўне па Прыпяці. Плыў і плыў, і стала яму так добра, што ён ўзяў прыхаваную сябрамі бутэльку гарэлкі. Узяў і паціху выпіў. Выпіў і, седзячы ў чаўне, адплыў у іншы свет.

*Нехта можа мне запярэчыць і сказаць, што людзі канаюць не толькі ад любові, а і ад розных хваробаў паміраюць. Так, мы паміраем ад хваробаў. Згода. Толькі скажы ты мне, адкуль бяруцца тыя хваробы. Вось! Нашыя хваробы з'яўляюцца ад любові. Здаецца, як можа запаленне лёгкіх стаць наступствам любові? Лягчэй лёгкага. Слухай...*

## Цімох і кусты

Акварэліст Цімох любіў надрэчныя кусты. Ён і Сож любіў, але кусты над вадою – любімы матыў, які акварэліст маляваў і маляваў без стомы. У любое надвор'е Цімох выбіраўся на эцюды. У снег, у дождж, у пякельнае сонца ён ішоў на бераг Сожа і пісаў невялічкія эцюды з кустамі над вадой. Пісаў і дапісаўся. Цімох падхапіў запаленне лёгкіх. Доктар сказаў Цімоху ляжаць у ложку. Сказаў, каб той нават па кватэры не хадзіў. Доктар прапаноўваў перавезці Цімоха ў бальніцу. Акварэліст адмовіўся. Паабяцаў, што будзе дома ляжаць у ложку. Схлусіў Цімох. Як толькі доктар з'ехаў, акварэліст сабраў эцюднічак і пацягнуўся да сваіх кустоў. Там яго і знайшлі мёртвага. Ляжаў сцішаны Цімох каля раскрытага эцюдніка, а дождж сыпаўся і сыпаўся на чысты аркуш паперы.

Алесь Каско



...жыццё ёсць той жа ваўкадаў,
прыручаны – а небяспечны...

# Цені і водбліскі

### *НЯЗМЕННАСЦЬ*

Хіба з мінуўшчыны глыбокай невядома:
бліжэй народу ўладца, чым прарок,
і ўзносіў першага ён з думкай падсвядомай:
як што – пакаецца і дасць зарок.

Хіба не сведчаць нам сучаснасці скрыжалі
і не даюць на будучыню ўрок:
прарок, пакуль не рвалі жыл, не зневажалі,
пакуль не ўкрыжавалі – не прарок.

* * *

Лаўлю асінны пошапт наўздагад,
чуцён ён і без подыху ў паветры,

бы рэха здрады і сумніву ў веры,
народжанае шмат вякоў назад.

Няўцешны кліч яго, і едкі сум
пранізвае душу пры згадцы міфа.
У час, калі наўкол мярцвяна-ціха,
прыходжу слухаць неспатольны шум.

Сальюся з дрэвам трапяткім шчакой
у хвілю роспачы – ды самастрату
прыму зноў за гардыню, не расплату
з людзьмі, і Богам, і самім сабой.

Цень светлы мрою; бачыў жа калісь
дванаццаты апостал, як не марна,
не самазгубна, а самаахвярна
спадаў на карані няўцерпны ліст.

Няўжо нагадваў срэбранік крыху?..
Мо ўжо тады, працятаму вярэдай,
далося дрэву празарліва зведаць
цяжар свайго бязвіннага граху.

Нябёсамі ўпісаліся ў скрыжаль
Ісусаў крыж і Юдава асіна.
Яна, на крыж не годная лясіна,
святой не называецца, на жаль...

## *А Ў ЧЫСТЫМ ПОЛІ*

*Міколу Пракаповічу*

Табе на час той не забыцца...
Звініць зазыўная званніца
на кургане шматвекавым,
б'е з-пад яго святла крыніца,
а ў чыстым полі конь імчыцца,
і збруя срэбная на ім.

Блішчыць світальная агніца,
пад капытамі пыл клубіцца,
бы шлях твой, бы гарачы дым, –
і ты ў пярэймах, каб злаўчыцца
за стрэмя ветрам учапіцца
ў сваім запале маладым.

І вось ты вершнік, і правіца
трымае меч, ён – бліскавіца

над полем продкавым святым,
каб не пасмеў больш падступіцца
ні здрайца свой, ні чужаніца;
адзін – ды вой ты ў полі тым.

О, каб жа час мог паўтарыцца!..
Твае гады спадаюць ніца,
не пасягаючы на ўздым.
Ды вочы свецяцца адным:
у чыстым полі конь імчыцца,
і збруя срэбная на ім.

* * *

З цярплівым цяпельцам да дня пасяджу
насуперак ветру, дыханню дажджу
ды блізкасці горада; дрэвы навокал
і болей нічога – ні вока, ні вокан.
Не роспачы слёзы тут – слёзы жывіцы,
іголкі не позіркаў – мокрай ігліцы,
і пыхі няма ў годных постацях дрэў.
Яны затуляюць агонь, каб гарэў,
а ў кронах падхмарных калышуць надзею,
што ўляжацца боль, сыдзе ноч, развіднее.
І ўспыхне здагадка: паўсюль нездарма
ў каменных кварталах ёсць дрэваў гурма.
Яны пасярэднікі, гуртаўнікі:
сыр-борам бы спляжыўся бор наш людскі
з нервовасцю душ, ядам слоў, з кулакамі, –
і сталі б, напэўна, мы зноў дзікунамі,
калі б не стаялі яны паміж намі!

* * *

Як быццам ява ў сне – да кропкі:
скрып весніц, з белым домам сад,
і гукі паданкаў, бы крокі,
і поўні з вершалін пагляд.

І чуйнасць, ад якой не ўтоіш,
што радасці ў прыснёным брак;
у ім, бы ў яве, усё тое ж,
ды меней хоць на рыску, знак.

Цень не мільгнуў у стоме вокан,
цяпло ад сцен не паплыло,
агонь не бліснуў, толькі звонку
ляжыць нябеснае святло.

У садзе толькі вецер ходзіць,
а за дзвярыма ловіш ледзь:
“Штоноч завітваць, сыне, годзе,
ці мы жывыя? – паглядзець”.

* * *

Калі ў палях шчыміць змяркальны міг,
што аблачыны ў клін сабраў, як душы,
расстання з ім ні словам не парушыш...
Што слова – і дыханне сунімі.

Са светам затаемненым з’яднай
свой свет жывых; ён вольны і ўсё ж вузкі,
каб век зямля трывала перагрузкі...
Затое неба – неабсяжны край.

Угледзься ў далі да святла ўваччу
і заручыся кожнай аблачынай,
што ты не адзінокі і нічыйны...
Дыханне тых, хто ў вечнасці, адчуй.

## СМЕРЦЬ ДЗІЦЯЦІ

– Суцешся, бацька, ёсць святы закон:
Бог даў – і Бог забраў.
Хвала за сына: быў абраннік ён,
твой сын анёлкам стаў.
– Прымаю розумам, ды ў страшны міг
мой не прымае дух:
так часта дзеці мруць, што ў небе іх,
дальбог, не менш, чым... мух.
Нашто анёлкаў гэтулькі Яму?
Не, сэрцам не прыму.

– Няверам слыў раней, а зараз нат
блюзнерыш перад Ім!
Ты заплаціў найбольшаю ад страт ---
наступнікам сваім.
– Дык толькі я не варты быў жыцця,
і каюся ў віне,
што ж Ён забраў бязвіннае дзіця,
а не забраў мяне?!
Насустрач – ці насуперак – Яму
я кару сам прыму...

Двух пахавалі на працягу дня.
Ляжалі поруч грэх і чысціня.

І Той, хто сына да сябе забраў,
бунт бацькаў, людзі верацьк, дараваў.

* * *

Скрухі большай няма,
чым бачыць пры кожнай сустрэчы
і занатоўваць іголкай на сэрцы,
як няўхільна старэе маці;
як папялее смоль валасоў,
як выцвітаюць вільготныя вочы,
як плечы ніжэюць,
як рукі ўсё меней увішна
абвінаюць тваю галаву,
збіраюць на стол вячэру.
Намагаешся яе – і сябе – суцешыць
цёплай хусцінаю-падарункам,
клапатлівай падмогаю ў хаце,
мяккім аповедам пра хуткасць,
з якою растуць яе ўнукі
(спахапляешся, што “растуць” –
гэта адценне слова “старэюць”).
А ўначы, на самоце,
звяртаешся з просьбай да Бога,
каб дазволіў табе за яе памерці,
і не хочаш прызнаць за блюзнерства
гэтую просьбу-адчай:
памрэш – і адразу ж
пойдзе яна за табою...

### *СІВЫЯ ЦЕНІ*

Ходзяць бульварам цені, без целаў цені,
цені ад хісткіх, сутулых постацей,
ад хусцін і шапак, качарэжак і парасонаў,
ад сцен пакаёвых, што ім апрыкралі.
Яны адзінокія, кожны ў сабе,
з таго і цягне іх сутыкацца, спыняцца
і – дзіва – паразмаўляць між сабою,
бязважка прысеўшы на лаўках падвечар.

Забываюць на друзлыя цяглі і косці ў ламотах,
дома пакінутыя, і любяць паўзгадваць
свой сонечны поўдзень, калі на зямлі
іх не было – кружлялі над ёй летуценнямі.
Гамоняць, а самі крадком паглядаюць,
мо нехта падыдзе, да іх прысуседзіцца –

з крывёю і плоцццю тугой, маладою
ды ўбачыць, пачуе не цені, а душы.

Дарэмна чакаюць чужой маладосці;
яна прабягае паўз іх і праз іх безуважліва,
занятая сілай сваёю, памкненнямі,
ёй часу няма і на хвілю спыніцца.
Ці не надта ёй лёгка?.. Цені ўздыхаюць,
вяртаюцца ў постаці з цягляў і костак,
у шапкі, хусціны, качарэжкі і парасоны,
у апрыкрыя сцены – каб выйсці з іх заўтра.

### *РЭНТГЕН*

Сузіраю сябе ў сабе.
Бачу шэры камень,
з каменя сыкае мудрая змяя,
што за век свой растраціла яд,
але так і не стала свойскаю;

бачу пясчаную пустку,
сярод пусткі самотны дзядоўнік
паныла сее калючкі,
што разносяцца сухавеем;

бачу ў палёце мячык,
яго ловіць у рукі доктар,
падносіць да вуха і гупае ў дол,
паказвае, які ён пругкі.

Мозг – камень, душа – пустка,
а сэрца яшчэ ўсё жывое;
буду гуляць ім, бы мячыкам,
пакуль не разыдуцца швы,
пакуль пульсач не лопне.

### *ЭРОТЫКА*

Цнотнік, зірні! – і мне “грузяць” яго,
жоўты экран, дзе ў дэкоры для здымкаў
ён і яна “здабываюць” агонь
з холаду слоў, пацалункаў, абдымкаў.
Целам аб цела завучана труць –
дрэвам аб дрэва – да поту, да зморы.
Душы ж наўзбоч дзесь...
Карціць разгарнуць
рамку экрана, бы выхад з пячоры.

## ГРАНЬ

Зламаць пяро,
абсурдам страху завастрыцца
ды млявае нутро
да дна, да глейкай таямніцы
перамяшаць з крывёю –
і хай, і вечны Дарвін з ёю,
з трагікамедыяй зямною,
дзе ўсім усе –
глушцы і чужаніцы!..
Адчай памкне за край,
і нельга, позна ўжо спыніцца:
“Ці ж я за жорсткі свет слабей?” –
і зрэнку вока
звесці з вочкам пісталета...
Так, гэта, мусіць, грэх,
ды ці й не выйсце гэта?
Ён сам сябе,
адно сябе, заб’е.

***

Голы вецер, зірк ваўчыны
ды асіна без лісця.
Прысмак горычы нішчымны.
Папялішча пачуцця.

Непамыснасць ад прычыны:
сам звёў боль да нечуцця.
Ні кахання да жанчыны,
ні любові да жыцця.

Мусіць, і такі магчымы
апакаліпсіс, хаця
ёсць і свет, і кут айчынны,
і крыха твайго быцця.

## ДОТЫК

*Я.П.*

Знайшла ты цёплаю рукою
маю халодную руку.
Дзівачка! Схоў у ледзяку
знайшла ты цёплаю рукою.

Была такою маладою...

Тут, у закінутым кутку,
над безыменнаю плітою,
знайшла ты цёплаю рукою
маю халодную руку.

Нібы пліта была маёю...

* * *

Сніцца: хліпнула свечка свядомасці
і патухла – хоць дзень не світай,
і ўжо з вышняй ступені бяздомнасці
сузіраю пакінуты край.

Хай са мной быў ён жорсткі да помснасці,
да зрачэння няветлы быў хай, –
а прашу ў яго ласкі: няпомнасці,
ойча мой, і за ўскрайкам не дай!

### *ІМПРЭСІІ*

***1***

Светла ад снегу, ён выпаў нарэшце,
пазацярушваў калючкі тугі.
Мяккая ноч. Белы лебедзь на рэчцы,
вузкай і соннай, злучыў берагі.
Лебедзь заснежаны – з лёгкае лодкі,
спехам пакінутае без вясла.
Ці ён чакае адлігі, паводкі?
Ці ён сумуе: няблізка вясна?
Смутак той свеціцца, ён – з першаснегу,
з белай начы; і здаецца, што вось
вымкне з затокі і ўскіне з разбнегу
лебедзь драўляны чыюсь маладосць.

***2***

Завея на дыбкі ўзнімае бераг,
тармосіць плёс... Ваду прышкеліў лёд,
а што затуліць тонкі, кволы, шэры
наструнены жалейкавы чарот?
Яго, неабароненага, душаць
раптоўнае навалы камякі,
збіваюць гук – і ўсё-ткі не заглушаць
пранізлівых жалеек ля ракі.
Хай непрагляднасць навакол і скруха,
а ты ў сваёй самоце і глушы

ачуйся і пакліканне паслухай:
жалейкі не змаўкаюць і ў душы.

*3*

Узрэчча так падвысілі сумёты,
што векавым глядзіцца курганом.
Пад ім заломы траў, і пазалота
апалага лісця, і чарназём.
Пад ім сляды людзей, звяроў і ноты
зялёных конікаў, аэрадром
стракозаў новых, маладыя ўзлёты
лятункаў па-над пабытавым тлом.
Зямля не церпіць доўгае нямоты,
вось-вось яна зазвоніць ручаём;
травінка – шчэ не ўсе спаўзуць сумёты –
надточыць весні промень вастрыём.

* * *

Мой час... Імклівая вада!
Ты так паспешліва сплывала,
што мне пакінула нямала
ў сваіх люстэркавых слядах.

У іх і студня, і ручэй,
і дождж вясновы, і паводка,
і ў моры Герадота – лодка,
напоўненая, бы каўчэг.

У іх – радзімы берагі,
скуль кінуць позірк дастаткова,
каб затрымцелі, як ад слова,
пачуццяў цёплыя кругі.

Сплывай, а дай мне даражыць
былым, дай крыўдай не запляміць
тваіх слядоў – там плешча памяць,
што мне вяртае цягу жыць.

## ВАЎКАДАЎ

Мяне сабака рваў. Не ў сне,
я памятаю час і месца.
І не было віны ў віне
(мы не брахалі з ім на Месяц).
Магу хіба што напавер
назваць мажлівыя прычыны:

ці знелюбіў ён мой вальер,
ці проста нораў меў ваўчыны.
Быў ваўкадавам. Колісь з гор
звялі пародзістую суку,
каб на палескі шыр-прастор
размножыць і сыноў, і ўнукаў.
Дык мне й натрапіўся адзін.
Яго праезджы нейкі шэльма
пакінуў (скраўшы, сукін сын,
не дужа ёмісты кашэль мой).
Я ўзяў яго. Карміў, паіў,
выгульваў у ляску сасновым
і часам сумаваў па ім,
калі ў ад'ездзе быў мусовым.
А ён... Нялёгка прыручыць
прыручанага ўжо аднойчы!
І вось ён рваў мяне, прычым
меў выгляд не сабачы-воўчы.
Грыз люта, быццам наравіў
да геннага дабрацца кода:
ці мы аднолькавай крыві
і ці адна ў нас з ім парода?..

Абараняўся я, як мог:
то крыкам сунімаў, то лашчыў,
і кулакоў я не бярог –
засоўваў маслакамі ў пашчу.
Калі б меў нож!.. Уваскрашаў
мой мозг параду з паляўніцтва:
што таймаваць без зброі шал! ---
ляж на зямлю і сцішся ніцма.
Ды ў лапах дужых – як? Двубой
працягваў я, на дол не падаў
(уцямваў, што драпежнік мой
з тых, што не грэбуюць і падлай).
Не годнасць кіравала; дзе
яе набрацца ў кіпцях смерці?
Я спадзяваўся на людзей.
Чуў галасы... Былі там дзеці.
"Пакуль дарослых прывядуць,
тут я парвуся на кавалкі..."
Страляў вачмі скрозь пот, скрозь муць
дарма: ні каменя, ні палкі.
І не было ўкруг ні душы.
І выйсцем мне было адзіным
сабаку павадком душыць
з такім жа выскалам звярыным.

Заціхлі ўдвух. Ён курч і корч,
я пласт, замочаны крывёю...
І доўга доўжылася ноч.
Ачуўся: доктар нада мною.
Нічога, выжыў. Лепшаць стаў.
“З сабакам што?” – спытаўся зрання.
О, як жа доктар рагатаў
з майго вар’яцкага пытання.
Маўляў, падзякуй, што жывы,
блазнюк такі, ці псіх адпеты.
“Каб ведаць мне, што гэткі вы,
з таго б вас не выцягваў свету.”
Дадаў між тым, што звер сканаў
пад куляю міліцыянта.
Што ж, не здзівіла навіна:
ліхому – ліхам і заплата.
Ды я ў ляску пазней не-не,
дый узіраўся ў жвір паляны,
даведацца карцела мне,
дзе мой супернік пахаваны.
Не перастаў любіць сабак
(люблю хіба што асцярожней).
Нам без прыроды аніяк,
якой бы ні была варожай.

Яшчэ мне ўрок даў той двубой:
прымаць бяду без слёз і енкаў,
падчас ахвяраваць сабой
для перамогі хоць маленькай.
Супрацьстаяць – і да канца! ---
рэжыму трона, часу, веку,
навукам псеўдамудраца,
шчэ больш – сабакачалавеку.
Браць невялікі, але ўзор
часамі ў матухны Прыроды,
калі шчанюк, якісь трызор,
ідзе з ваўком на бой смяротны.
А людзі? Розумам сваім
пасую: сябар – раптам здрайца...
Не, не баяцца верыць ім,
ды не заўсёды спадзявацца.
Хай позна, я ўсё ж разгадаў
сакрэт стары, як свет, і вечны:
жыццё ёсць той жа ваўкадаў,
прыручаны – а небяспечны

Алена Брава



...згвалтаванне –
адна з тыповых
жаночых фантазій...

# Мёд Чорнага Месяца

***Апавяданне***

Яна сядзела над трэцім кубачкам кавы ў рэстаране санаторыя, думаючы пра тое, што так і не здолела скарыстаць шанц, які ёй так нечакана і чароўна выпаў. Зрэшты, чаму яна вырашыла, што той чалавек, да якога ў сталіцы немагчыма было нават падступіцца, – ягоная памочніца ці сакратарка двойчы з непрыхаванай злараднасцю адмаўляла ёй у інтэрв'ю – што ён стане размаўляць з ёю тут, у глушы, куды прыехаў на тыдзень ці два ў якасці кансультанта (дзякуй богу, без сакратаркі), дзе кожная хвіліна ў яго распісаная і аплочаная. І правільна зрабіла, што не падышла да яго, і правільна... жанчына ўздыхнула, дапіла каву. Радавала, прынамсі, тое, што матэрыял для радыёпраграмы быў сабраны. Учора яна пабыла на здымачнай пляцоўцы, у бутафорскай вёсцы на беразе забалочанага возера з карычневатай, у плямах мінеральнага алею вадой – нізкія хаткі, гнілаватыя хлеўчукі і драўляная цэркаўка былі зусім як сапраўдныя

і выклікалі жаль, – сёння пагутарыла з рэжысёрам. Той многа і пафасна казаў пра актуальнасць і шырокі грамадскі рэзананс будучага фільма, вы ж ведаеце, колькі гвалту чыніцца навокал, так-так, і выпадак, пра які вы, пэўна, ужо чулі, ну проста «вапіюшчы» (так ён сказаў), найлепшае таму пацвярджэнне, – а яна з лёгкасцю адсачыла думку, што яшчаркай мітусілася ў ягоных вачах: пра дзяржаўную прэмію. Адным са сваіх асабліва вострых пытанняў яна загнала яшчарку ў тупік, і тая шмыгнула прэч, пакінуўшы ёй хвост, які агідна выгінаўся. Ну, вы ж разумееце, па-змоўніцку пасміхнуўся рэжысёр, мы ж амаль калегі, бяспройгрышная тэма, з кожнага выцісне слязу. Але ў першую чаргу мусяць праслязіцца Тыя, Хто Вырашае, у думках закончыла яна фразу і паклала ў сумку дыктафон.

Дарэчы, той рэжысёр і паведаміў ёй, што запрасіў кансультантам вядомага псіхолага, спецыяліста па рэабілітацыі ахвяраў згвалтавання, і назваў добра знаёмае ёй імя. Некалькі разоў яна бачыла кансультанта ў рэстаране: невысокі мацак сярэдняга веку ў дарагім цёмна-сінім, з водбліскам касцюме, сівыя, але даволі густыя валасы, кручкаваты нос, старанна дагледжаная бародка, куды таму Фройду. І вось цяпер яна цадзіла каву без цукру і казала сабе, што ўсё, канец, больш таго слыннага спецыяліста ёй ніколі не ўбачыць. Прыватнай практыкай ён не займаўся; пакарыстацца ж сувязямі кагосьці са знаёмых, якіх яна багата займела ў сталіцы, было ўсё роўна, што пракрычаць усяму свету пра сваю таямніцу.

Зрэшты, чаму яна ўбіла сабе ў галаву, што ён здольны ёй дапамагчы? Жанчыне раптам вельмі захацелася апынуцца дома, побач з мужам, які, нягледзячы на свае вечныя прычэпкі (меў права!), усё ж такі, трэба пагадзіцца, не патрабаваў ад яе празмернага, і яна пашкадавала, што санаторскі аўтобус на райцэнтр даўно пайшоў, а да шашы, дзе можна было злавіць спадарожную машыну, не менш за пяць кіламетраў. Быў, праўда, іншы шлях, удвая карацейшы: па вузкакалейцы праз закінутыя торфараспрацоўкі. Час ад часу па ёй поўзалі тупаносыя цеплавозы з карлікавымі, на шэсць пар акенцаў, зялёнымі пасажырскімі вагончыкамі ды паўвагонамі для торфу. Высачэзныя расліны, у якіх даўно спыніліся сокі жыцця, караскаліся на насып, стаялі ўздоўж рэек, нібыта вартавыя. Раніцай, ступаючы па шпалах гэтай цацачнай чыгункі, яна не заўважыла, як адышла даволі далёка, і, узняўшы вочы, прыпыніла хаду, уражаная пазасветным пейзажам, што раптоўна раскінуўся перад ёю. Нібыта яна перасякла нябачную мяжу: замест карпусоў санаторыя і цвёрдай зямлі навокал было забалочанае рэдкалессе з чорнымі вокнамі вады, якая драпежна блішчэла паміж крывымі бярозамі, над вадой там-сям узвышаліся іржавыя напаўзатопленыя агрэгаты для здабычы торфу. Пустыя вачніцы закінутай кацельні, прадзіраўленая лодка з закурадымленым вядром без днішча... З вільготнай глебы ўзнімалася пара. Яна тады падумала, што вось і дэкарацыя для новага фільма, толькі для якога? І доўга стаяла, зачараваная хваравітай прыгажосцю таго месца...

Жанчына зірнула на гадзіннік і замовіла яшчэ кавы. Канечне, вузкакалейка не дасць заблукаць, і ўсё ж даволі рызыкоўна ісці ўвечары праз закінутыя торфараспрацоўкі, дзе, магчыма, яшчэ бадзяецца нязлоўлены маньяк... Добра, што дробны заводскі начальнік – пэўна, з тых дзеячоў, што пакідалі ў балоце разламаную тэхніку, – абяцаў падвезці яе да райцэнтра. Яна паспее на апошнюю электрычку. Жанчына зірнула ў акно, за якім імкліва сутонела, на тэнтавы дах «уазіка».

Санаторый належаў торфабрыкетнаму заводу. У аўтобусе па дарозе сюды толькі й было гаворкі, што пра згвалтаванне і забойства трынаццацігадовай дзяўчынкі, якое адбылося днямі недалёка ад вузкакалейкі. Мясцовыя жыхары падзараблялі, прапаноўваючы прыезджым то грыбы з ягадамі, то прадукты ўласнай гаспадаркі, і звыкла скарачалі шлях, ідучы праз балота. Дзяўчынка несла ў санаторый бітончык з мёдам – у лужыне мёду яе і знайшлі. Яшчэ адна гаротная мядовая дурнічка, падумала жанчына і сціснула ў руцэ кубак, адчуўшы ўнутры сябе тое, што не павінна была адчуваць.

Ад пасажыраў аўтобуса жанчына даведалася: позняй восенню ў санаторыі, які, між іншым, насіў гучную назву «Срэбнае возера», амаль ніхто не адпачывае, затое панаехала са сталіцы багата кіношнікаў – усё ж заводу прыбытак. У гэтым задзяўбаным «Срэбным возеры» насамрэч не выявілася ніводнага вольнага нумара. Дзве ночы жанчына правяла на цвёрдай, як зямля, канапцы ў кабінеце адміністратаркі, і за тое дзякуй.

За суседнім столікам моцна нафарбаваная кабета, падобная да крэмавага піражнага з тэрмінам прыдатнасці, які скончаўся, натрэніравана вохкала, а яе няголены кавалер у пакамечанай кашулі, не забываючы падліваць сабе і ёй шампанскага, напаўголасу агучваў дэталі злачынства. Кажуць, пасля ўсяго задушылі ейным жа шалікам... Ды ты не тармазі, Анатольна, бачыш, пойла выкіпае. Кабета-піражнае слухала з прагнай цікавасцю. Змрочна пасміхнуўшыся і праводзіўшы позіркам пакамечанага з ягоным крэмавым дэсертам, жанчына з кубачкам кавы падумала, што зараз яны пойдуць у нумар, каб заняцца адно адным, і гэтая гісторыя дадасць перчыку іх млявым адчуванням. Злосць яе, зрэшты, адносілася не да парачкі, а да таго тамлення ўнізе жывата, якое адчула яна сама, уяўляючы аголенае маленькае цела і жоўты, бы расплаўлены бурштын, мёд...

Раптам у рэстаран увайшоў ён, у тым самым сінім касцюме. Пастаяў крыху – і накіраваўся да суседняга століка, з якога афіцыянтка паспешліва прыбірала рэшткі «пойла» і пустую бутэльку. Гэта быў не раўнуючы падарунак Мойраў, і жанчына сказала сабе: зараз. Дзеля мужа, дзеля дзіцятка, якое ты калі-небудзь народзіш... Яна пачакала крыху і расціснула пальцы. Кубак разбіўся акурат там, дзе было патрэбна: ля ягоных ног, абутых у модныя скураныя чаравікі. Ён, што зробіш, быў вымушаны ўстаць, тое ж зрабіла яна – і нібыта бездапаможна абаперлася на спінку адсунутага ім крэсла.

– Прабачце...

– Усё ў парадку.

– У мяне раптам закружылася галава...

Ён паглядзеў на яе ўважліва – і прапанаваў прысесці за ягоны столік. Было няёмка за штучную банальнасць уласных паводзін; але ён падтрымаў гульню, а значыць, можна было працягваць.

– Вам лепей?

– Усё яшчэ не, дзякуй. Ведаеце, мяне ўсхваляваў расповед пра тое злачынства...

Яна ўбачыла ў яго пукатых вачах зацікаўленасць – дай божа, каб прафесійную – і, смялеючы з кожнай секундай, – а можа, проста сіл больш не было трымаць у сабе сваю ганебную таямніцу – расказала яму, незнаёмаму чалавеку, славутасці, аўтару некалькіх дзясяткаў навуковых прац (у якіх шмат чаго гаворыцца пра дапамогу жанчынам), – расказала тое, чаго не ведаў пра яе ніхто.

У рэстаран увалілася група кіношнікаў, шумна запатрабавала ежы і

выпіўкі. Суразмоўца мякка прапанаваў жанчыне падняцца да яго ў нумар – напэўна, яна ўсё ж здолела зацікавіць яго як пацыентка. А можа, ён стаміўся дзяліць пакой са сталай жыхаркай гасцініц – нудой.

У прасторным пакоі «люкса» на століку мігцеў экран ноўтбука, побач на сподачку ляжалі лекі. Надоечы адміністратарка расказала жанчыне: «прафесар» зусім, ну зусім *не упатрэбляе*, бо некалькі год таму перанёс ці то інфаркт, ці то інсульт і клапоціцца пра сваё здароўе. Праз адчыненыя дзверы спальні жанчына ўбачыла ахайна засланы ложак. Яна прысела на канапу, яе візаві размясціўся ў нізкім глыбокім фатэлі і чамусьці стаў распавядаць, як часта пацыенткі пераносяць на яго ўласныя перажыванні, якія ён з іх выцягвае. Вытрасае, як смецце з меха пыласоса. Да таго ж, жанчыны нярэдка закохваюцца ў сваіх псіхолагаў – ну, гэта агульнавядома. І тады яму даводзіцца іх ад сябе адвучаць. Ён так стаміўся, што вырашыў некалькі год адпачыць ад тэрапіі: толькі кафедра і навуковыя даследванііі, больш нічога. Яна не папоўніць шэрагі ягоных паклонніц, усміхнулася жанчына, няхай ён не турбуецца. Яна не істэрычка. Са свайго боку, яна шчыра спадзяецца, што цікавасць шаноўнага спадара да яе застанецца ў межах прафесійнай. Яна ніколі ні да каго не звярталася са сваёй праблемай. Спрабавала сама сабе дапамагчы, наведвала лекцыі, хацела нават вывучыцца на псіхолага, але прыйшла да думкі, што гэта будзе несумленна ў адносінах да тых, хто звернецца да яе па дапамогу.

– А вось тут вы памыляецеся, – голас у яго мяккі ды салодкі, ён абвалаквае мозг, як ягады чаромхі – язык і паднябенне, у дзяцінстве яна любіла сарваць спелую гронку з буйнымі, цёмна-чырвонымі касцянкамі, пакласці ў рот і, лёгенька сціскаючы губамі чарашок, выцягнуць голую зялёную сцяблінку. – Перарабіць сябе наўрад ці магчыма, а навучыцца кантраляваць – цалкам... Але не будзем губляць час.

І вось па ягоным загадзе яна перасаджваецца ў фатэль, які яшчэ захоўвае цяпло яго цела. Тут яна ў поўнай бяспецы, запэўнівае голас мужчыны. Як у матчыным улонні, нават яшчэ бяспечней, бо побач ён, спадарожнік у свет яе ўласнага «я». Ён водзіць рукамі вакол яе твару, кладзе далонь ёй на галаву, на лоб. Далонь крыху вільготная. Такім чынам, як вы паведамілі мне там, у рэстаране, вы адчуваеце навязлівае жаданне быць згвалтаванай.

– Справа ў адным выпадку з майго дзяцінства.

– Цудоўна, што вам вядомая прычына праблемы. Вы перажылі інцэст?

– Не.

– Што ж тады?

– Калі мне было дванаццаць год, мяне спрабавалі згвалціць, але я перашкодзіла. Закрычала. Я чула, што перапыненае дзеянне запамінаецца нашмат мацней, чым закончанае...

– Эфект Зейгарнік, – імгненна рэагуе ён. – Не, гэта больш удае на стакгольмскі сіндром, – важна жангліруе ён тэрмінамі. – Аднак справа і не ў ім. Першыя інтымныя ўражанні часта вызначаюць сексуальнасць індывіда. Напрыклад, хлопчык у піянерлагеры падглядвае ў дзірку ў драўлянай прыбіральні за дзяўчынкамі і... ўпершыню адчувае сябе мужчынам, вы мяне разумееце... У будучым ён мае шанц стаць вуайерыстам!

– Няўжо? – пытаецца яна, ледзь стрымліваючы ўсмешку: так урачыста ён гэта абвясціў.

– А цяпер уявіце, што гэты хлопчык, ужо дарослы, прыходзіць да псіхолага, і той дае яму чароўную магчымасць вярнуцца ў мінулае, – іроніі

ён не заўважыў. – Ва ўяўленні, зразумела. Маю на ўвазе не звычайны ўспамін, а пра-жы-ван-не той сітуацыі з поўнай інтэнсіўнасцю. Гэты метад называецца ўзроставай рэгрэсіяй...

Здаецца, яго займае сам працэс казання разумных словаў, а дэманстрацыя ўласнай кампетэнтнасці выклікае проста-такі эйфарыю.

– Пад гіпнозам мужчына зноў адчувае сябе хлопчыкам, уваходзіць у тую злашчасную прыбіральню-шпакоўню, а там... няма ніякіх дзірак! Якраз перад лагернай зменай рабочыя забілі іх свежымі дошкамі. Унушэнне тэрапеўта аказваецца мацнейшым за рэальнасць, пасля сеанса кліент ужо не памятае, што падглядваў за дзяўчатамі, ён памятае толькі бакавіны з дошак – такіх, ведаеце, шурпатых, з кропелькамі смалы...

– Цудоўна, – млява адгукаецца яна, адчуваючы недарэчную патрэбу чхнуць. Няўжо яна дамагалася сустрэчы з ім дзеля таго, каб слухаць гэтую тэрапеўтычную лагарэю? Пра прыбіральню з дошкамі яна, між іншым, чытала ў нейкім з ягоных артыкулаў.

– У выпадках, падобных да вашага, адпаведная тэхніка таксама ўжываецца, але з вялікай асцярогай. Бо эмоцыі могуць аказацца занадта яскравымі і нанесці вам паўторную траўму.

– І ўсё ж я хачу паспрабаваць. Мне чамусьці падаецца, што вы ўмееце рэканструяваць мінулае, як бог... не, лепей, бо бог гэтага якраз не можа... – мядовая кропля ліслівасці не перашкодзіць.

– Узроставая рэгрэсія – мой канёк, – як жа лёгка ўсе яны ловяцца на сваю амбіцыйнасць! – Так, я часта практыкую гэты метад у розных яго варыянтах, – ну вось, цяпер ён адкінуўся на спінку канапы: прыняў зручную паставу, рыхтуючыся да працяглай лекцыі (а ёй належыць з захапленнем ахаць у патрэбных месцах). – У першым варыянце кліент – для абароны ад занадта моцных перажыванняў – застаецца адной нагой «тут», а другой «там», – ён узяў са століка брашурку з надпісам «“Тое, пра што яны маўчаць”. Сцэнар» – то бок нібыта глядзіць фільм, з сабой у галоўнай ролі. Глядзіць – ну, скажам, на экране камп’ютара... Можна ў любы момант спыніць прагляд, можна ўвогуле выйсці з праграмы. А ёсць і другі варыянт... Усё будзе так, нібыта вы насамрэч пражываеце эпізод са свайго мінулага. Як упершыню, разумееце? Вы зможаце змяніць канец сцэнара і дазволіць падзеям развівацца не так, як яны адбываліся ў рэальнасці, а як вам хочацца. Праўда, у гэтым выпадку вам не ўдасца па сваім жаданні пакінуць фільм, хе-хе... Вывесці вас з гіпнозу здолее толькі той, хто без эмоцый кантралюе ўсё, гэта значыць, я.

– Згода.

Яна паспрабуе ўсе ягоныя варыянты, бо горш не будзе, а губляць няма чаго. Магчыма, гэты чалавек ёй дапаможа, яна ж у яго не першая.

– Што ж, выдатна. Тады пачнём. Заплюшчыце, калі ласка, вочы. Вы працягваеце адчуваць сябе ў вашым цяперашнім узросце, аднак дзякуючы гіпнатычнаму ўнушэнню зможаце адначасова знаходзіцца ў мінулым. Памятайце, ваша дзяцінства – усяго толькі фільм на экране камп’ютара, палец вашай правай рукі ляжыць на клавішы «escape», у любы момант можаце вярнуцца сюды, у гэты пакой... Я прашу вас дыхаць глыбока і расслабіцца... Вам дванаццаць год...

– На мне школьная сукенка, чорны фартух, піянерскі гальштук, у руцэ партфель, – чуе яна ўласны голас. – Я вяртаюся са школы праз парк запалкавага камбіната... іду па сцежцы, усыпанай ігліцай... Сёння

прахалодны, але сонечны дзень траўня... я стамілася, ледзь цягну вялікі партфель з падручнікамі, да таго ж з раніцы ў мяне нязвыкла ные ніз жывата. Ные не ад голаду: сёння быў урок працы, мы вучыліся гатаваць бутэрброды, а потым іх елі... Сёння я ўпершыню ў жыцці апранула капронавыя калготкі. Я нарэшце ўпрасіла маці купіць іх – дзеля гэтага давялося вызубрыць параграф па фізіцы, каб атрымаць чацвёрку. Фізіка заўсёды давалася мне з цяжкасцю... Парк заканчваецца густымі зараснікамі чаромхі, яна шчодра квітнее... Леваруч глухі плот барака, у якім жывуць рабочыя запалкавага камбіната, праваруч – вузкі тупік, утвораны платамі двух дамоў... рабочыя на дзённай змене, а ў дамах жывуць напаўглухія старыя... Чую таропкія крокі і цяжкае дыханне за спінай... нібыта хтосьці бяжыць... я не паспяваю разглядзець мужчыну, бачу толькі, што ён высокі... моцныя рукі хапаюць мяне за плечы і штурхаюць у тупік... калі хтосьці будзе ісці па вуліцы Запалкавай, ён нас не ўбачыць... мяне прыціскаюць да плота... усё адбываецца хутка, у некалькі секунд...

– Вы разглядзелі яго твар? Магчыма, потым?

– Твару я не памятаю. Памятаю толькі галаву, пакрытую цёмнымі валасамі, бо ён прысеў перада мной на кукішкі. Яго рукі шнараць у мяне ў пахвіне... пальцы нібыта жалезныя... рвуць калготкі, дакранаюцца да майго цела... я крычу, вельмі гучна... клічу на дапамогу... Мой крык палохае мужчыну. Ён узнімаецца і кідаецца наўцёкі. Бяжыць у бок парку.

– Вы бачыце яго спіну?

– Не, таму што бягу ў супрацьлеглы бок...

– Што адбываецца далей?

– Я бягу дадому... задыхаюся, мяне калоціць... Убягаю ў свой пад’езд. Спрабую ўставіць ключ у замок. Але ў мяне не атрымліваецца, ключ увесь час вывальваецца з пальцаў. Са сваёй кватэры выходзіць суседка. Як табе не сорамна, кажа яна, і я бачу, што яна глядзіць на мае ногі, ты ж дарослая дзяўчынка, хіба маці не казала табе, што трэба падкладацца. Я не разумею, пра што яна. Падкладацца – пад каго?! Нарэшце мне ўдаецца адчыніць дзверы. У калідоры трохстворкавае люстэрка. Я бачу сябе... на нагах пацёкі крыві... калготкі парваныя і «паехалі» амаль да шчыкалатак... Больш за ўсё мяне палохае не кроў, а тое, што зашыць калготкі не ўдасца, і маці паб’е мяне.

– Вы расказалі маці пра тое, што адбылося?

– Не. Яна ва ўсім абвінаваціла б мяне. Я сказала, што парвала калготкі, гуляючы ў баскетбол на ўроку фізкультуры. Крывацёк працягваўся на наступны дзень, і маці патлумачыла, што ёсць спецыяльныя дні, калі трэба падкладаць анучы са старых прасцін і часцей мыцца. Гэта ўсё.

– Што ж, паставім наш фільм на паўзу... – яна чуе глыбокі ўздых: па ўсёй верагоднасці, выпадак не такі складаны, якім здаваўся кансультанту напачатку. – Значыць, той мужчына не пазбавіў вас цнатлівасці?

– У фізічным сэнсе – не. Гэта быў рэгулярны крывацёк, першы ў маім жыцці, – яна трэ рукамі вочы, якія ніяк не хочуць расплюшчвацца. Павекі наліліся цяжарам, нават крыху ацяклі.

– Трэба ж, якое супадзенне... У той дзень вы назаўсёды развіталіся з дзяцінствам.

– Менавіта.

– Вы больш не хадзілі той дарогай?

– Зразумела, хадзіла. Іншай дарогі ў школу не было.

– Што вы адчувалі? Страх?

– Першым часам – так. Калі я вярталася са школы адна і паварочвала ад парку да тупіка, мяне пачынала калаціць. Шмат гадоў, дзень за днём, я працягвала хадзіць у школу і са школы па гэтай дарозе. І аднойчы зразумела, што хачу зноў сустрэць таго мужчыну... што баюся гэтай сустрэчы і чакаю яе...

– Вы хацелі яго сустрэць? Навошта?

– Каб ён зрабіў са мной тое, што збіраўся... я ненавідзела сябе за гэта жаданне, але нічога не магла змяніць. Яно было мацнейшым за мяне.

– Вы мастурбавалі, калі думалі пра гэтага мужчыну?

Голас ледзь прыкметна напружыўся, і ёй зразумела, чаму: яшчэ нядаўна немагчыма было ўявіць падобную размову з прадстаўніком іхняй касты – лекарам ці псіхолагам.

– Не, ніколі, – адказвае яна. – Маё цела ўяўлялася мне брудным, мне было агідна дакранацца да яго. Я адчувала сябе пачварай з-за гэтага жадання.

– А аднакласнікі? Вы рабілі гэта з кім-небудзь з іх?

Навошта ён, які з першых хвілін знаёмства выклікаў у яе прыхільнасць адсутнасцю фальшывай сарамлівасці, хаваецца за ханжаскім займеннікам? Яна адказвае наўмысна гучна, спакойна і выразна:

– Яны мяне не цікавілі. Я ўяўляла сабе толькі таго мужчыну. Марыла пра яго. Як ён прыціскае мяне да плота, потым валіць на зямлю. Гвалтам рассоўвае мне ногі і ўваходзіць у мяне...

Чалавек на канапе маўчыць. Пэўна, лічыць яе клінічнай вычварэнкай і не ведае, як рэагаваць. І няхай! Яна працягвае кідаць свае прызнанні ў цішыню:

– Калі я скончыла школу і паступіла ў інстытут, я шукала сустрэч з мужчынамі, знешне падобнымі да яго. Усе яны былі нашмат старэйшымі за мяне.

– Што вы адчувалі? – голас зноў гучыць з дзяжурнай эмпатыяй. Здаецца, ён авалодаў сабой, што, зрэшты, няцяжка пры ягоным досведзе.

– Я ляжала пад імі, злавалася на іх і на сябе і з агідай цярпела тыя ласкі, якімі яны мяне адорвалі. Мне трэба было толькі так, як тады... Аднойчы я пайшла на дыскатэку ў інтэрнат, дзе мяне ніхто не ведаў. Заставалася там дапазна, пакуль не ўпэўнілася, што мной зацікавіўся адзін змрочнага выгляду хлопец з «распісаных». Ён быў высокі, цёмнавалосы... Я зрабіла выгляд, што п’яная. Глядзела яму ў вочы і пасміхалася. А потым выйшла з інтэрната і пайшла не дамоў, а ў супрацьлеглы бок – да гаражнага кааператыва, там больш за сотню гаражоў, і ў гэты час бязлюдна. Ён пайшоў услед...

– Я бачу, што вы стаміліся. Можа, дастаткова на сёння? Я пакуль не планую вяртацца да прыватнай практыкі, але для вас зраблю выключэнне. Вось мая візітоўка.

Цяпер голас гучыць невыразна і безжыццёва. А, дык у яго ж праблемы з сэрцам. Магчыма, адчуў недамаганне... Але ёй важна дайсці да самага канца. Да канца фільма...

– Не, калі ласка, зараз... – яна зноў заплюшчвае вочы. – Ён ідзе за мной на некаторай адлегласці. Я адчуваю, што яна скарачаецца – павольна, па кроку. Ліхтароў амаль няма. За гаражамі пачынаецца вайсковы палігон. Калі я буду крычаць, ніхто не пачуе. Ён таксама гэта ведае і не спяшаецца. Яму трэба, каб я адышла яшчэ далей ад людзей, ад святла. Ён маўчыць, я таксама... І вось... чую за спінай цяжкае дыханне, таропкія крокі... усё як тады...

ён груба хапае мяне за плечы і прыцiскае да металічнай сцяны гаража. Рве на мне сукенку. І тут я пачынаю крычаць... так, я зноў закрычала! «Сціхні, шлюха», – кажа ён, хапае мяне за валасы і б'е тварам аб іржавае жалеза. Я адчуваю прысмак крыві ў роце і разумею, што зараз страчу прытомнасць... А потым бачу яркае святло... чую шум машыны, якая пад'ехала... і грукат стрэлу... рукі мужчыны адпускаюць мяне, я з'язжаю ўніз па сценцы. Мяне падымаюць, пытаюцца, ці ў парадку я. Потым я непрытомнею... Прыходжу ў сябе ўнутры таго самага гаража, цяпер ён ярка асветлены. Аказалася, гаспадар вяртаўся з палявання. Ён стрэліў у паветра з ружжа, і той хлопец збег.

– Вы пазнаёміліся са сваім выратавальнікам? – напэўна, ён паклаў у рот пігулку, яна чула шоргат.

– Мы пабраліся шлюбам. Жывём па-людску, не лепш і не горш за іншых. У ложку ён пяшчотны і ласкавы, але для мяне кахацца з ім – катаванне... Я спрабавала правакаваць мужа на тое, каб ён узяў мяне гвалтам, часам ён згаджаўся на гульню, але выгляд у яго быў такі, нібыта зараз ён паўторыць услед за тым хлопцам: шлюха... Стаў сапраўдным раўніўцам. У гэтым, канечне, мая віна, хоць я ніколі не здраджвала яму. Так, ніколі. Справа ў жаданні згвалтавання... яно стала маёй навязлівай ідэяй. Баюся, што аднойчы зноў каго-небудзь справакую... Дапамажыце мне пражыць той эпізод нанова, але па-іншаму. Няхай мужчына з парку зробіць тое, што збіраўся. Можа, тады гэта мяне адпусціць.

Яе суразмоўнік некаторы час моўчкі ходзіць па пакоі: яна чуе крокі. Ён усхваляваны – яна разумее гэта па голасе, які, зрэшты, спрабуе быць іранічным:

– Згвалтаванне – адна з тыповых жаночых фантазій, так што вы ў вялікай кампаніі, хе-хе... Але вы не захацелі задаволіцца фантазіяй, і я вас разумею. Я дапамагу вам, хаця тое, пра што вы просіце, супярэчыць маім метадам тэрапіі, бо сітуацыя занадта траўматычная – для дзіцяці, якім вы тады былі. З іншага боку... неспатоленыя жаданні накшталт стрэмак, якія ствараюць у нашай свядомасці гнаяродныя капсулы... хочацца закончыць тое, што калісьці было пачатае, закончыць, што б там ні было...

Ён зноў надоўга змаўкае. Булькоча вада, ценькае шклянка. Можа, выклікаць яму доктара з санаторыя, калі ўсё скончыцца?

– Але я мушу папярэдзіць вас, – чуе яна і пакусвае губы ад нецярпення: калі ж ён, нарэшце, пачне? – іншым разам мара выяўляецца зусім не такой, якой здавалася вам... Можаце расплюшчыць вочы.

Яна з цікавасцю разглядвае прадаўгаваты чорны камень з адтулінай, праз якую прасунуты шнурок. Гэта ўпрыгожанне можна пры жаданні надзець на шыю, але ён трымае шнурок у руцэ, перад самым яе тварам. Дзіравы камень у яе дзяцінстве называлі «курыны бог». Аднакласнікі, якія разам з бацькамі адпачывалі на моры, імкнуліся знайсці такі: лічылася, што камень з дзіркай прыносіць шчасце. Яе на мора не вазілі ніколі: маці, рабочая запалкавага камбіната, зарабляла няшмат, бацька піў... Праўда, звычайна на пляжы знаходзяць белыя каменьчыкі, а гэты рэдкага колеру. Яна ўжо збіраецца пацікавіцца, навошта тут «курыны бог», як голас зноў прыцягвае яе ўвагу:

– Спрабаваць уваскрэсіць дзіцячыя перажыванні з іншымі мужчынамі нашмат больш небяспечна, чым даць вам шанц сустрэцца з тым, першым. Няхай будзе так, як вы хочаце. Я буду блізка, дастаткова руку працягнуць, хе-хе... Паглядзіце на гэтую рэч. Ці чулі вы пра багіню Чорнага Месяца – Гекату?

Крыху здзіўленая, яна паціскае плячыма.

– Заступніца прастытутак, ці што?

– І цнатлівых дзяўчат таксама – іх яна нібыта бароніць ад гвалту, – усміхаецца ён. – Увогуле, у народаў Міжземнамор'я Геката лічылася жаночай багіняй. Са зграяй чорных сабак яна быццам бы з'яўляецца ў свеце людзей у ноч першай квадры Месяца. Дарэчы, беларусы дагэтуль называюць той змрочны час «межамі»... Дык вось, Геката – захавальніца мяжы: брамы ў падземны свет і ў мінулае. Шукаць яе трэба там, дзе гэты свет мяжуе з іншым, жыццё – з паміраннем: на могілках, сярод руін, а яшчэ – на скрыжаваннях дарог. Дарэчы, нашы продкі, хаця і пакланяліся іншым багам – Пяруну ды Вялесу, не забывалі трымаць ля хаты вядро без днішча, а дзяўчынкі насілі на шыі такі вось каменьчык з адтулінай – імітацыяй жаночай маткі ці брамы ў іншасвет. Што, калі задумацца, адно і тое ж, хе-хе... Ну, гэта для агульнай дасведчанасці... Дык вось, самае цікавае: ведзьмін камень працуе. Я вынайшаў спецыяльную псіхатэхніку, якую выкарыстоўваю для глыбокай рэгрэсіі. Але пачнём. Глядзіце на камень, толькі на яго... Засяродзьцеся на ім... Уявіце, што адтуліна – уваход у тунэль... уваходзьце... гэта толькі на першы погляд здаецца складаным, насамрэч нашмат прасцей, чым вярблюду прайсці праз вушка іголкі, хе-хе... – зноў гэты яго дробны нервовы смяшок, падобны да кароткага рыдання, што, між іншым, абсалютна недарэчна, калі ты хочаш загіпнатызаваць чалавека, яна ўсё ж бывала на лекцыях і ведае. – Вы будзеце рухацца наперад па тунэлі, пакуль я не скажу спыніцца... вы падпарадкоўваецеся толькі маім камандам... – голас набірае моц, гучыць цвёрда і манатонна. – Я поўнасцю кірую вамі... ваша цела мяккае, расслабленае... вы больш не адчуваеце свайго цела, вы ляціце праз тунэль, нібыта ў вас выраслі крылы... вашы гады мільгаюць, нібыта станцыі ў метро... А цяпер спыніцеся. Вам дванаццаць год. Зараз сонечны дзень траўня, даволі прахалодны. Вы вяртаецеся са школы праз парк, ідзяце па сцяжынцы, усыпанай іглічай. На вас школьная сукенка, чорны фартух, піянерскі гальштук, у руцэ партфель... партфель цяжкі, ваша рука стамілася яго несці...

– ...я ледзь валаку партфель, да таго ж з раніцы ў мяне нязвыкла ные ніз жывата, хаця я і не галодная. Сёння я ўпершыню ў жыцці апранула капронавыя калготкі, якія маці купіла мне за чацвёрку. Да гэтага я насіла бясформенныя баваўняныя калготкі ды жудасныя панталоны з начосам і тугімі гумкамі. Сёння пад калготкі я апранула цудоўныя летнія трусікі – белыя, лёгкія, з карункамі...

– Белыя карункі ў вас пад сукенкай падобныя да суквеццяў чаромхі, міма якой вы якраз праходзіце, – голас дапамагае ёй, ён вядзе яе яшчэ глыбей у мінулае. – Чаромха расце на краі парку. Чаромха віргінская – вось імя гэтай вашай амерыканскай сястры... На імгненне вы спыняецеся, раздумваючы, ці не сарваць адно з суквеццяў, якое не поўнасцю яшчэ распусцілася... такое далікатнае... спакуса надта вялікая...

– Правільна, я насамрэч там спыняюся, – але ж так і павінна быць: кантакт паміж праваднікам у мінулае і вядзёным становіцца поўным. Абсалютным. – Кранаю белыя пялёсткі і думаю пра тое, што цёмна-чырвоныя ягады будуць не раней жніўня, а няспелыя есці нельга: маці казала, што яны ўтрымліваюць атруту, ад якой можа спыніцца сэрца. Я іду далей...

– ...каб на хвілінку затрымацца ля сасны, што сплывае бурштынавым сокам. Вам падабаецца лізаць пацёкі смалы на яе грубым, моцным ствале... ваш язык трымціць ад асалоды...

– Менавіта. Я заўсёды любіла лізаць смалу на дрэвах, – як гэта добра,

калі ўсе твае адчуванні разумее сябар, дасведчаны і ўважлівы, які клапатліва вядзе цябе. Вядзе па краі ямы, што кішыць змеямі, але табе зусім не страшна...

– Мужчына ідзе за вамі даўно, ідзе праз увесь парк, у якім якраз у гэты дзень няма ні душы. Ён хацеў зрабіць гэта ў парку, але яму не хапіла рашучасці. Як заўсёды... – яна чуе ціхі пагардлівы смяшок. – А потым момант быў упушчаны. Школьніца ўжо выходзіць з парку, і ён разумее: цяпер альбо ніколі.

– Я чую таропкія крокі і цяжкае дыханне за спінай... абарочваюся... мяне даганяе мужчына... насамрэч ён невысокага росту, гэта я – маленькая... моцныя рукі хапаюць мяне за плечы і штурхаюць у тупік... прыціскаюць да плота... цяпер я бачу толькі яго галаву, пакрытую цёмнымі валасамі, бо ён прысеў на кукішкі... яго рукі шнараць у мяне пад сукенкай... пальцы моцныя, грубыя... рвуць калготкі і трусы... а потым...

Жанчына стогне ад вострага болю – нібыта сталёвы прут прадзіраецца праз шыйку маткі, нібыта металічная кюрэтка, якая выскабліла яе дзіцёнка, калі муж адмовіўся верыць, што цяжарнасць – ад яго... Яе цела ўздрыгвае, галава качаецца па спінцы фатэля, на лбе выступае халодны пот, з горла рвецца крык:

– Мне балюча! Я...

– Вы не паспяваеце закрычаць, – упэўнены голас перахоплівае ў яе ініцыятыву. – Мужчына заціскае вам рот, валіць вас на зямлю і накідвае вам на галаву прыпол сукенкі, каб вы не маглі бачыць яго твар... гэтым разам яму не давядзецца хавацца ў зарасніках чаромхі, каб у адзіноце скончыць пачатае, пакуль рукі яшчэ захоўваюць цяпло вашай юнай скуры, а ноздры – ваш уласны чаромхавы пах...

– Як балюча! Я памылялася! Я не хачу, не хачу!!!

– Вы самі напрасіліся, а я, дарэчы, папярэджваў вас, хіба не? У вас няма права спыніць гэты паказ, дый позна: ён ужо адчуў смак. Ваша супраціўленне яго толькі распальвае. Ён, як і вы, марыў вярнуцца ў той дзень... Вы – яго першы і адзіны вопыт... няўдачны... ён столькі год вымушаны быў выслухоўваць, як гэта ўдавалася іншым, больш смелым і нахабным... цяпер і ён здолеў... хутка я сатру з вашай памяці гэты эпізод, а зараз – дайце яму адчуць сябе шчаслівым... яго цела скаланаецца ад аргазму... ён стогне...

Гэта эфект гіпнатычнага трансу – ці яна насамрэч чуе здушаны стогн?

– Ягонае цела абмякла, ён наваліўся на мяне, прыціснуў да зямлі... я задыхаюся... – жанчына працягвае мармытаць гэтыя словы, якія ўжо не дапамогуць ёй выслізнуць са страшнага фільма-сну, – мая правая рука шукае клавішу «escape» на клавіятуры камп'ютара, але намацвае толькі замок партфеля... стары металічны замок, ён лёгка расшпільваецца... кніжкі і сшыткі вывальваюцца на зямлю... У гэты дзень быў урок працы, усе дзяўчынкі атрымалі заданне прынесці ў школу прылады для гатавання ежы... Я павінна была прынесці кухонны нож... Рука намацвае ручку нажа і... ўсаджвае лязо туды, куды можа дацягнуцца, – у яго шыю...

– Але раней вы нічога не казалі мне пра нож! У вас яго няма, ня-ма! Вы... згубілі яго, забылі ў класе!

– Нож са мной, і вельмі востры... – хто падказвае ёй гэтыя словы? – Перад урокам хлопцы добра natачылі яго ў майстэрні... лязо лёгка ўваходзіць у мяккае, расслабленае цела мужчыны...

Жанчына зноў чуе стогн, гэтым разам больш выразны, а потым, праз кароткую паўзу, голас – яна не адразу пазнае яго:

– Вы маеце рацыю... ён удзячны вам – няма лепшага моманту, каб

сысці... Не глядзіце на ягоны твар... Як толькі ён сканае, вы вернецеся ў ваш сапраўдны ўзрост.

– Я чую, як ён хрыпіць... хапае ротам паветра... адчуваю – ён скаланаецца... адпускае мяне... я сцягваю з твару прыпол сукенкі, цяпер я магу дыхаць свабодна, – яе голас працягвае, як было ад пачатку зададзена чужой воляй, апісваць падзеі фільма, які вось-вось скончыцца. Зрэшты, яе ўласная воля, як высветлілася, таксама нешта вырашае – тым больш, што чужога голасу больш не чуваць. – Я гляджу на ягоны твар...

Жанчына расплюшчвае вочы і ўсхопліваецца з фатэля. Ля яе ног нерухома ляжыць чалавек у цёмна-сінім касцюме. Вочы на перакрыўленым твары бяссэнсава вылупленыя, губы ў пене, на шыі ўспухлі жылы. Побач з ім на падлозе – рассыпаныя пігулкі...

Пасля непазбежнай мітусні з прыездам рэанімацыйнай брыгады – яна прыбудзе з райцэнтра праз гадзіну, каб канстатаваць смерць, – жанчына выйдзе на ганак і падставіць расчырванелы твар белым пялёсткам. Незвычайна рана для кастрычніка, скажа яна сабе, адчуваючы, як пакрысе сціхае смыленне пад павекамі, а ва ўсім целе ўзнікае дзівосная лёгкасць. Заводскага «ўазіка» на ранейшым месцы не выявіцца, і жанчына вернецца ў «люкс». Урач «хуткай», з сінюшным сітаватым тварам, узніме галаву ад стосу паперак, якія якраз скончыў запаўняць, зірне на тую, што ўвайшла, мутнымі вачыма і ўдакладніць:

– І ўсё ж... ці не было якіх-небудзь падзей, якія прывялі да раптоўнага абвастрэння хранічнай сардэчна-сасудзістай паталогіі ў... гммм... хворага? Можа, алкаголь? Стрэс? Альбо... – ён падазрона зірне на засланы ложак, а потым зноў на жанчыну, – пераўзбуджэнне?

– Ён пакаштаваў мёду Чорнага Месяца, а гэта забаронена, – яна падбярэ з падлогі каменьчык з адтулінай і падумае, што абавязкова вернецца ў толькі што перажытае. Так, вернецца. Цяпер яна ведае спосаб. – Хутка я нагадаю яму пра гэта...

Урач шматзначна зірне на фельчара, накрэмзае нешта на бланку карты выкліку, працягне таму, і жанчына, прафесійна ўважлівая, паспее прачытаць: «Востры псіхоз? Наркотык, сумеснае ўжыванне?» Пасміхнуўшыся, яна возьме сумку і выйдзе з санаторыя.

Магчыма, у яе з'явіцца шанц – насамрэч неверагодны і чароўны – зірнуць у яшчэ жывы твар таго мужчыны, каб сказаць: ён зманіў ёй, яна ў яго не адзіная. Бо вось яно, тое, пра што ён ведаць не мог: з дзяцінства ў яе алергія на мёд. Яе дзед быў пчаляром, і маці, якая лічыла алергію блюзнерствам, пхала ёй той карысны, а галоўнае, цалкам бясплатны прадукт вялікімі лыжкамі, і цяпер нават ад паху таго ў яе шчыпле ў носе, свярбіць скура на твары, ацякаюць павекі. Калі спадар кансультант прапанаваў ёй фатэль, у якім да гэтага паспеў пасядзець сам, а потым паклаў руку ёй на галаву (рукаў дарагога пінжака дакрануўся да яе губ, на іх нават застаўся прыкры смак), яна магла з дакладнасцю вызначыць, які менавіта ён быў, той мёд: цёмны, лячэбны...

Неба будзе чорнае, нібыта закурадымленае. Дзесьці зусім побач завые сабака, на імгненне жанчыне зробіцца страшна, але потым яна адчуе сябе абароненай невядомай сілай, пра якую дакладна можна сказаць толькі адно: яна хаваецца ўнутры кожнай з нас. Жанчына надзене на шыю шнурок з «курыным богам», ускараскаецца на насып вузкакалейкі – мёртвыя расліны ўвяжуцца следам, учэпяцца ў джынсы – і рушыць праз балота.

*Снежань 2014*

Мікіта Найдзёнаў



...Я шчасны: мне дваццаць чатыры
А лепшае усё – далей...

# Не яго дзэн

* * *

Паўсюдна пиліцца бабло,
А ты прыгожая такая.
Цябе я з танцаў сустракаю,
ды помню: пиліцца бабло.

Твой кожны вершык – пра каханне.
У ім твой роздум і настрой,
Як ты са мной, альбо з сястрой.
Таннеюць акцыі кампаній.

Паўсюдна пиліцца бабло,
І грошы дзеляцца няроўна.
А ты адна, як Бандароўна.
І што мяне з табой звяло?

## *НЕ ЯГО ДЗЭН*

Ці сумуеш па волі,
Ці так з гора пучыць,
Толькі неяк не складваецца жыццё.
Быў не меней не болей,
Чым проста папутчык
И трымаў у сабе пачуццё.

Не заводзіў спантанны
Ілжывы раманчык,
Немужыцкі як бавіў свой час.
Калі раптам спыталі:
– Ды усё-ткі рамантык?
Адказаў:
– Можа быць,
па начах.

Па вачах не пабачыць,
Што так непакоіць
І выводзіць са стану у дзэн.
Не аматар сабачкаў
І зусім не па коціках.
Проста сёння быў не яго дзень.

## *30 КОЦІКАЎ*

Табе праз тыдзень дваццаць тры,
А гэта значыць, хутка трыццаць.
Таму свой прынцып "толькі з прынцам"
Ты лепш трымаеш унутры.

Ну хай бы проста нехта быў
Надзейны, а не так, нядзельны,
Каб прасаваць яму адзенне
І смажыць з бульбаю грыбы.

Але ж ты хочаш, каб было
З ім і цікава, і прыемна,
Абавязкова узаемна,
І каб да нечага вяло.

Як цяжка выбраць варыянт,
Бо кожны мае свае хібы
І толькі папраўляюць німбы
Адзін – цяля, другі – вар'ят.

І ў ложку лежачы з адным,
Мяркуеш, можа, лепей іншы.
А як у выніку так выйшла,
Што ты не з гэтым і не з тым?

Каму і як сігналіць SOS,
Што нешта выбраць так нялёгка?
А трыццаць коцікаў здалёку
Табе мяукаюць твой лёс.

* * *

Твой рэтраградны Меркурый –
Лепшая з горшых прычын
Зноўку ад тэмы культуры
Ўцячы.

Чым гэты горад трымае,
Што не сысці нікуды?
Цягнецца сцежка прамая
Туды,

Дзе так, як трэба і варта,
Дзе ёсць каханне і сэкс.
Кажаш не дзякуй упарта,
А *thanks*.

Будзеш і шчыра і проста
Без выпадковых навін
Шчасце ад новага ўзросту
Лавіць.

### ***НЕМУЖЫЦКАЯ***

Мне імя тваё неўміручае
Штораз чуецца варыяцыяй:
Лізаветаю мілагучнаю
Ці Альжбэтаю з іншай нацыі.

Не сядзіцца ёй, не ляжыцца ёй –
Увесь час за шляхамі-вандроўкамі.
Тваё прозвішча – немужыцкае,
А шляхетнае, з ноткай роўмінгу.

І у верасні, і у студзені
Вочы свецяцца дзіва-зорамі.
Зноў цягаешся з тымі будзьмамі
Днямі-ночамі ды выходнымі.

З нейкай прагаю сонца босае
П’еш і болей усё табе хочацца.
Ты гісторыю нашу коскамі
Пазначай, бо яна хутка скончыцца.

* * *

Болей сэнсу не ў тым,
каб сыходзіцца, а сыходзіць.
Задыхацца ад немаце
Нібы хворыя на сухоты.

Не прасіць ні аб чым
І даваць без патрабаванняў.
А пасля ўначы
Заставацца адному ў ванне.

Спяць у ложку каты,
Скочуць зранку галодныя.
Мне бы даць лататы
Ад усмешкі лагоднае.

І глядзець, і сачыць
Каб не ведала нават.
Так сумуе ўначы
Па Зямлі касманаўт.

* * *

З такіх цаглінак, як ты,
Будуюць сцены.
Ў кватэры граюць каты
Начныя сцэны.

Іх традыцыйны фінал
Бліжэй да ранку.
Адкрый бутэльку віна,
Закрый фіранку.

З табой адзін негатыў
Апошнім часам.
Жывуць са мною каты,
Хоць лепш сам-насам.

Чыя урэшце віна?
Спытай у Франка.

Наш традыцыйны фінал
Бліжэй да ранку.

Змяні ды пералічы
Свае лекалы.
Я зразумеў уначы
Усяго Шагала.

## *ДВАЦЦАЦЬ ЧАТЫРЫ*

Людзей здзіўляю, сам дзіўлюся
І не стамляюся штодня.
Ніхто б не здолеў, не адняў
Мой шар у лузе, шару, лузер.

Штодня гляджуся у люстэрка
Ды сам сябе не пазнаю.
А час ганяе плынь сваю.
І што з чаго, вядома зверху.

Сумую па табе, але
Кайфую, калі нешта штырыць
Я шчасны: мне дваццать чатыры
А лепшае усё – далей.

* * *

Давай мы так паступім:
Паеду на наступным.
А не – дык застануся.
Ці гэта думка *stupid*?

Давай, калі нарэшце
Усё у нас дарэчы,
То захаваем *magic*
Апошняе сустрэчы.

Нявінныя навіны.
Ты верыць не павінна
Нібыта нас звязала
Якая пупавіна.

Табе мяне не хопіць,
І мне бы не сыходзіць
І піць з табой да ранку
Нясмачнае сухое.

Але запомніць момант
Галоўная умова
І гэта усё сам насам
перажываць нанова.

* * *

Хай праз гэтыя танцы цябе няма,
Я не буду лічыць нястачы.
Дарма.
Танчы.

Да цябе не прыйду на адкрыты ўрок,
Не схаваю ў кватэры цюльпаны.
Скок
Панны.

Замінала мне нешта. Танцор я благі.
Толькі ён няхай будзе лепшы.
Другі.
Першы.

* * *

Было каб галоўнае, з кім
Падыхаць марозам марскім,
А там ужо знойдзецца, дзе
Глядзець на усход па чарзе.

Падзелены хмарамі на
ЗвычАй і на неверагО.
А дождж – проста лівень, сцяна,
Нібы акіян з берагО.

Халодным дыханнем сваім
Працягне амаль да касцей
І хочацца мёрзнуць у ім,
І хочацца дыхаць часцей.

Каб потым у потны пакой
Узяць накірунак прамы
І злегчы з ангінай якой
На светлыя святы зімы.

Сяргей Абламейка



...на галодны страўнік і не пішацца нічога,
і спіцца дрэнна...

# Тастамент

***Два апавяданні***

## Сябры

У двары дачы драматурга Анатоля Слепянка быў накрыты багаты стол. За ім сядзелі чатыры разамлелыя пасля лазні, захутаныя ў прасціны мажныя дзядзькі. Гэта быў сам гаспадар і тры ягоныя сябры-пісьменнікі. Адзін з іх, раманіст Фёдар Купрэйчык, прапанаваў тост за гаспадара, які так добра прымае іх раз на месяц у сябе на дачы.

– Прапаную ўзняць чарку за Слепянка – найлепшага драматурга нашай літаратуры і нашага тэатру! Віват! За цябе, Толя.

Купрэйчык павярнуўся да Слепянка і чокнуўся з ім чаркамі. Кампанія дружна выпіла і пачала закусваць.

– Бачыш, Толя, – працягваў Купрэйчык, – каб не ты, што было б з нашай драматургіяй? Ты адзіны сёння працягваеш традыцыю Крапівы і Макаёнка. Паглядзі ты на

астатніх – лезуць у тэатр нікчэмнасці, нейкія экзальтаваныя цёткі, ды яшчэ не па-нашаму пішуць, перакладаць іх трэба. А ты – глыбіня, талент, скала, Чэхаў нашых дзён. Так, як ты, ніхто ў нашы дні не залез у людскую натуру.

– Ну дзякуй, Фёдар, дзякуй табе за ацэнку. Але ж і ты не зломак! Паглядзі, як чытаюць твае раманы, перакладаюць усюды. Яшчэ гадоў дзесяць таму, як табе толькі пяцьдзясят споўнілася, крытыкі ўжо называлі цябе жывым класікам. Аж зайздросна было такое чуць, фактычна пра маладзёна. Што тут скажаш – я толькі далучаюся. Ты і наш Талстой, і новы наш Караткевіч у адной асобе. Дай Бог табе здароўя! Сябры, наступную прапаную за Федзю!

Кампанія зноў узняла чаркі і з адчуваннем значнасці моманту самавіта выпіла. Жонка Слепянка прынесла і паставіла на стол фаршыраваную яблыкамі смажаную гусь. Слепянок падхапіўся і пачаў наразаць яе на кавалкі.

– Мая Тацяна знае гатаваць, – з гонарам казаў ён, падкладаючы сябрам кавалкі гусі і порцыі тлустага яблычнага пюрэ, – каб не яе пачастункі, не выйшаў бы я ў людзі, далібог. На галодны страўнік і не пішацца нічога, і спіцца дрэнна...

– Перастань, Толя. Звычайная я кухарка, нават пасрэдная. – Слепянчыха апусціла вочы і густа пачырванела, але выраз яе твару не дазволіў гасцям зразумець – ад сораму ці ад задавальнення. Яна хутка прыбрала брудны посуд і вярнулася ў дом.

Бяседа тым часам працягвалася. Рэй узяўся весці Сымон Булыга, папулярны навеліст. Ён разліў гарэлку па чарках і ўзняўся са свайго месца.

– Сябры, я хачу вам падзякаваць за тое, што вы ёсць, што вы побач і заўсёды можаце падставіць сяброўскае плячо. Няшмат прыкладаў можна прывесці, каб творчыя людзі трымаліся такой згуртаванай камандай, як мы. І каб яшчэ так доўга – мы ж разам ужо гадоў дваццаць. Нас ведаюць, да нас прыслухоўваюцца – і гэта самае галоўнае! Прапаную выпіць за тое, каб так было і далей! За нас!

Пісьменнікі з разуменнем выслухалі тост Булыгі і выпілі. Яны сапраўды разумелі, пра што той гаварыў. Кожны з іх быў не толькі пісьменнікам, але і чыноўнікам. Слепянок узначальваў Саюз пісьменнікаў, Купрэйчык быў рэдактарам галоўнага літаратурнага часопіса, Булыга кіраваў літаратурным штотыднёвікам, а чацвёрты член кампаніі – паэт Змітрок Вятрынскі, узначальваў нацыянальнае тэлебачанне. Нядобразычліўцы за спінамі гэтай чацвёркі шапталіся і называлі іх дружбу статусным сяброўствам, шмат хто ім проста зайздросціў, а некаторыя плеткары, не маючы шанцаў далучыцца да гэтай кампаніі, распускалі пра яе розныя чуткі. Сябры, аднак, навучаныя жыццём і доўгім вопытам кантактавання з зайздроснай і амбітнай творчай публікай, на гэта асаблівай увагі не звярталі.

– А я вам, брацця, вось што скажу, – загаварыў паэт Вятрынскі, – трэба ўмець хваліць сваіх. Не пахваліш сябе і сваіх – і ніхто не пахваліць. Гэтае жыццёвае правіла хіба што ўніверсальнае. Але я вось цяпер зусім не гэтым правілам кіруюся. Я кажу шчыра, бо так і думаю. Вы сёння – лепшыя пісьменнікі краіны, і я ганаруся тым, што блізка сябрую з вамі і маю гонар быць з вамі побач. Дзякуй вам. Уздымем чарку за вас!

– Пачакай, Змітрок, пачакай. – Сымон Булыга адняў руку з чаркай ад вуснаў. – Гэта мы, – ён абвёў вачыма ўсю кампанію, – павінны ганарыцца тым, што сябруем з табой. Гэта твае вершы вывучаюць у школе ўжо двац-

цаць гадоў, гэта ты напісаў аж тры раманы ў вершах... Я і цяпер на ноч чытаю твае вянкі санетаў і наследаванні антычным аўтарам. Я, нарэшце, сынам сваім рэкамендую тваю лірыку, каб чыталі дзяўчатам пры знаёмстве. Ты – наш паэт нумар адзін! За цябе, дарагі, за цябе вып'ем!

– Дзякуй, Сымоне. Значыцца п'ем за ўсіх нас, за нашую творчасць і за нашую дружбу!

Сябры ўсталі і зноў самавіта выпілі. Слепянок гучна выдыхнуў, панюхаў кавалачак духмянага радзівілаўскага хлеба і спытаўся:

– Ды што, зноў у парылку?

Пісьменнікі згодна захіталі галовамі, і ўся кампанія накіравалася ў пабудаваную асобна ад дачнага дома лазню. Усеўшыся на лавах і паддаўшы духу на каменне, сябры працягнулі няспешную гаворку.

– Я вось што думаю, – сказаў Купрэйчык, – чамусьці ў нашай літаратуры, у тым ліку і ў драматургіі, – ён паглядзеў на Слепянка, – амаль зусім няма тэкстаў пра пісьменнікаў. Здаецца, мы не самыя горшыя людзі і героі, дый жыццё нашае таксама поўнае розных падзеяў і праблемаў. Хацелася б схадзіць неяк у тэатр і на дзве гадзіны пагрузіцца ў перыпетыі творчага жыцця, убачыць, так сказаць, сутыкненні творчых характараў і асобаў. Можа б ты, Анатоль, – ён зноў паглядзеў на Слепянка, – парадаваў бы нас і ўвесь народ новай п'есай? Неяк у мяне апошнім часам губляецца інтарэс да тэатра без новых тваіх пастановак...

Булыга і Вятрынскі згодна заківалі галовамі. Аднак, на твары Слепянка на некалькі імгненняў з'явіўся выраз разгубленасці і недаўмення. Пасля ён павольна пакруціў галавой, нешта прамычэў сабе пад нос і сказаў:

– Бачыш, Федзя, я такую п'есу напісаў... Яна ж вясной друкавалася з працягам у "Мастацтве", цяпер якраз у стадыі пастаноўкі. Думаю, праз пару месяцаў пойдзем на прэм'еру...

У парылцы павісла няёмкая цішыня. Купрэйчык, зразумеўшы, што даў маху, вінаватым голасам адказаў:

– Прабач, Толя. Я неяк унурыўся ў свой новы раман і прапусціў тваю п'есу. Гэта выдатна, што мы з табой мыслім на адной хвалі. Я толькі падумаў пра гэта, а ты ўжо і напісаў. Абавязкова прачытаю, каб пасля параўнаць свае асацыяцыі і ўзніклыя вобразы з рэжысёрскім бачаннем тваіх герояў...

– Ды нічога, Федзя, нічога. Я ж разумею, усе мы занятыя, працуем. Вядома, прачытаеш.

Прымірэнчы тон Слепянка ўвёў сяброў у зман. Насамрэч яму было вельмі прыкра ад таго, што Купрэйчык і, падобна, што і Булыга з Вятрынскім, не заўважылі і не чыталі яго новую п'есу. Вясенняя публікацыя стала даволі гучнаю, былі ўжо і рэцэнзіі, і рэжысёрскія водгукі. Ну што ж, падумаў ён, бывае. А ўголас спытаўся:

– Дык ты кажаш, Федзя, занурыўся ў новы раман. Чым парадуеш на гэты раз? Пра што кніга?

– Бачыш Толя, вырашыў я выходзіць на новыя тэматычныя абсягі. Пішу першы вясковы раман з актуальнай падаплёкай, можна сказаць, гарадской.

– Дык пра што канкрэтна?

– Ды бачыш, пра трактарыста, які ніколі не жаніўся і не хацеў нават. А ўся вёска шкадавала яго і старалася знайсці яму нявесту. Урэшце ў суседнім раёне знайшлі такую ж самотніцу, якая не любіла мужчынаў і сама была да мужыка падобная, і сасваталі яму. Пражылі яны разам тры месяцы. Баба хадзіла на рэчку рыбу вудзіць, была злая і нелюдзімая, і

ўрэшце з'ехала. Застаўся трактарыст адзін. Вяскоўцы спрабавалі яшчэ пару разоў яго ажаніць, і тады ён з'ехаў у горад, дзе да яго нікому не было справы. Бачыш, тут сутыкненне нашай традыцыйнай вёскі і яе нораваў з сучаснымі гарадскімі рэаліямі. Такая вось калізія паміж старым і новым...

– Хм... Хм.. Прабач Фёдар, нешта тут зусім іншая калізія, не паміж вёскай і горадам... – Сымон Булыга разгублена паглядзеў на Купрэйчыка. – Ты гэта ўсё сур'ёзна? Сапраўды такі раман пішаш?

– Што ж я тут перад вамі буду вырабляцца? Вядома пішу. А што такое?

– А ці шмат ты ўжо напісаў?

– Ну нешта дзве трацiны ўжо агораў.

– Хм... Хм... – Зноў замычэў Булыга і паглядзеў на Слепянка і Вятрынскага. Але тыя сядзелі і ніяк не рэагавалі... – Дык, значыцца, ты, Фёдар, і вы, калегі, не чыталі маё леташняе апавяданне “Самотнік”, якім “Вогнішча” адкрывала дзявяты нумар?

Кампанія ў адказ разгублена маўчала. Булыга счакаў хвіліну-другую і зноў звярнуўся да Купрэйчыка:

– Давядзецца табе, дружа, кідаць працу над раманам. Каб не быць абвінавачаным у плагіяце...

– Ты што, Сымон, з глузду з'ехаў? Які плагіят? – Купрэйчык абурана зыркнуў вачыма на сябра.

– З глуздамі ў мяне парадак, Федзя, поўны парадак, – вонкава Булыга заставаўся спакойны і прыязны, – проста сюжэт твайго рамана дакладна апісаны год назад у маім апавяданні... Я ўклаўся ў пятнаццаць старонак...

Кампанія у адзін голас ахнула...

– Та-ак, навіна... – працягнуў Слепянок.

– Жах... – толькі і вымавіў Вятрынскі.

– Не можа быць... – прастагнаў Купрэйчык, – паўгода працы кату пад хвост...

Сябры выйшлі з парылкі і зноў накіраваліся да стала. Настрой усіх быў відавочна сапсаваны. Яны выпілі па новай і пачалі моўчкі закусваць.

Не пацярпеў пакуль толькі Змітрок Вятрынскі. Ён употай паглядаў на калегаў і стараўся адгадаць, ці бачаць яны ягонае хваляванне. Унутры яго адчайна змагаліся два жаданні. З аднаго боку, ён хацеў так і сысці адсюль не пацярпелым, а з іншага – вельмі прагнуў праверыць, ці чыталі сябрукі яго апошнюю паэму, над якой ён працаваў два гады і якая пабачыла свет асобнай кнігай пяць месяцаў таму. Урэшце ён не вытрымаў і ўсё ж вырашыў праверыць:

– Ды што, так і будзем сядзець надзьмутыя? Ну, бывае ўсякае... Мы ж творцы і пасады маем не абы якія... Людзі занятыя... Давайце лепш пра паэзію пагаворым. Хто з вас чытаў паэму Сержука Жарнова пра Кастуся Дубкоўскага. Набліжаецца сто сямідзясятая гадавіна паўстання...

– Жарноў паэму напісаў? – спытаўся Купрэйчык.

– А што за паэма, як называецца? – далучыўся да яго Булыга.

Вятрынскі паглядзеў на іх, пахітаў галавой і пасля паўзы і некаторага ўнутранага вагання сказаў:

– Паэма называецца “Ветразі волі”.

Насамрэч гэта была назва ягонай паэмы пра паўстанне Дубкоўскага. Малады паэт Жарноў паэмаў пакуль не пісаў. Змітрок уважліва паглядзеў на рэакцыю калегаў і пашкадаваў, што наважыўся іх правяраць.

– А дзе друкавалася? – спытаў Слепянок.

– А што, варта пачытаць? – далучыўся да яго Булыга.
– Я неяк прапусціў... – закончыў праверку Купрэйчык.
– Ну дзякуй вам, хлопцы, за “ўвагу”, – Вятрынскі паказаў пальцамі двукоссе на апошнім слове. – Жарноў паэмы не публікаваў. “Ветразі волі” – гэта мая апошняя паэма пра Дубкоўскага... Грэх было пасля адкрыццяў у лазні не запытацца ў вас пра яе такім вось хітрым спосабам...
Кампанія пераглянулася між сабой і дружна зарагатала... Рогат было чуваць далёка за межамі дачнага ўчастка Слепянка. Далей п’янка пайшла звычайным парадкам, жартавалі з сябе і прыдумлялі, як Купрэйчыку перарабіць сюжэт рамана, каб ўратаваць сваю паўгадовую працу. Раз’ехаліся на таксоўках далёка за поўнач.
З таго часу, аднак, сяброўства іхняе пачало занепадаць...

## Тастамент

Васьмідзесяцігадовы пісьменнік і літаратуразнаўца Ян Шульга стаяў каля кніжнай паліцы ў сваім кабінеце і ціхім голасам гаварыў да ўнука Паўла, які сядзеў побач на канапе:
– Вось бачыш, у гэтым часопісе апублікаваны мой першы літаратуразнаўчы артыкул. Я тады захапляўся паэзіяй Караткевіча і напісаў тэкст пра вершаваны памер ягоных твораў. – Ён узяў з паліцы стары нумар “Маладосці” і ашчадна яго разгарнуў. – Гэта быў вялікі поспех: публікацыя студэнта ў рэспубліканскім выданні. Тады на мяне звярнулі ўвагу і на кафедры, і сярод жаночай паловы нашага курсу. Гучная была публікацыя. Прадмет майго гонару...
– Ага, цікава. Дай пагляджу. – Унук устаў з канапы, узяў часопіс і пачаў праглядаць артыкул дзеда. – Дзіва дзіўнае... Чым людзі займаліся? У мяне такое ўражанне, што сярод маіх сяброў ніхто ўжо не тое што не зможа адрозніць ямб ад харэя ці амфібрахія, але і словаў такіх не чуў ніколі. І мушу сказаць, што я таксама блізкі да той кампаніі... Для мяне гэта таксама ўжо цёмны лес, хоць ты некалі мяне і вучыў...
У голасе ўнука Ян Шульга пачуў намёк на ўжо знаёмую яму схаваную абыякавасць. Усе ягоныя нашчадкі – сын з дачкой і чацвёра ўнукаў – паважалі яго і любілі, але былі бясконца далёкія ад інтэлектуальнага свету бацькі і дзеда. Нейкая нябачная мяжа прайшла паміж ім і ягонымі атожылкамі на сутыку гэтага і мінулага стагоддзяў. Як так сталася? Ён даў ім прыстойную адукацыю, у сям’і заўсёды быў культ кніг і культуры, але жыццё зацягнула дзяцей, а пасля і ўнукаў у іншыя сферы дзейнасці. Сын з дачкой і дзве ўнучкі з унукам выбралі сабе тэхнічныя спецыяльнасці, ніяк не звязаныя з культурай. Малодшы ўнук Павел быў ягонай апошняй надзеяй, бо адзіны не выбраў прафесію інжынера, архітэктара ці праграміста. Ён вырашыў паступіць на рэжысёрскі факультэт Акадэміі мастацтваў і ўжо спрабаваў з сябрамі здымаць кароткаметражныя фільмы. Шульгу толькі засмучала, што гэтыя дзеці зусім нічога не чытаюць з сусветнай класікі. Гэта было нейкае новае пакаленне, якое рашуча парвала сувязь з папярэднікамі. Яны самаўпэўнена пішуць сцэнары і самі здымаюць па іх свае фільмы, а тое, што было перад імі, іх не цікавіць у прынцыпе. Відаць, думаў Ян, кожнаму пакаленню наканавана вынаходзіць свой ровар. Зрэшты, ягонае пакаленне нічога такога не рабіла. Яны проста стараліся пры дапамозе класічных формаў і класічнага вопыту па-новаму асэнсаваць рэаліі свайго жыцця і

свайго пакалення. А гэтыя нават літаратурную мову дастаткова добра не вывучылі, але тым не менш пішуць і сцэнары, і вершы, і прозу...

Зрэшты, гэта быў меншы клопат Яна Шульгі. Найбольш яго турбавала марнасць свайго даробку, а калі сказаць больш дакладна – канечнасць ягонага эмацыйнага і жыццёвага свету. Ён часта думаў, куды дзяваецца любоў чалавека, ягоныя эмоцыі, прывязанасці і сантыменты? Вось перад ім на паліцах – цэлы ягоны свет і ягоны даробак. Як чалавек стары, які за жыццё шмат чаго зрабіў і напісаў, ён даўно ўжо пазбавіўся ад усяго лішняга. Цяпер у кабінеце сабраны толькі неабходны мінімум сусветнай класікі і ягоныя ўласныя кніжкі – мастацкія і літаратуразнаўчыя, часопісы з ягонымі артыкуламі і творамі, а таксама падпісаныя яму сябрамі і калегамі кнігі, альбомы, карціны і графічныя лісты, дый тое не ўсе. Частку ён даўно ўжо здаў у розныя бібліятэкі – гэта былі пераважна падарункі ад выпадковых аўтараў, творчасцю якіх, як і іх асобамі, ён не цікавіўся. Шульгу вельмі хацелася, каб пасля ягонай смерці хтосьці так жа замілавана, як і ён, гартаў гэтыя кнігі і часопісы, адчуваў любоў да тых жа класікаў сусветнай літаратуры і меў гонар за ягоны, Янаў, даробак...

– Дык ты кажаш, і дзяўчаты на цябе тады звярнулі ўвагу? – Унук закрыў часопіс і перадаў дзеду. Зацікаўленне ў ягоным голасе таксама здалося Яну ўдаваным.

– Так, і твая бабуля таксама.

– Жартуеш? Нешта мне ніхто пра гэта раней не расказваў...

– Ну вось я і расказваю... Зрэшты, бацька твой пра гэта ведае таксама. А можа ўжо і забыўся за клопатам пра свае кампутары і праграмы. З бабуляй мы тады і пазнаёміліся на паседжанні літаратурнага гуртка філфаку.

– Ну так, далей я ўжо ведаю. Цётка Жана нарадзілася ў вас, калі вы былі на пятым курсе.

– Так, так. Бачыш, таму я люблю патрымаць у руках гэты часопіс з першай публікацыяй. А тут яшчэ шмат такога. Вось часопіс з маім першым апавяданнем, з першай аповесцю, вось часопісны варыянт першага рамана. А вось першая кніга прозы ў бібліятэцы той жа "Маладосці". Тут таксама сабраныя публікацыі пра мяне. Пра мае творы, розныя рэцэнзіі, у тым ліку і злыя.

Ян перайшоў да іншай паліцы.

– А вось тут кнігі маіх улюбёных пісьменнікаў. Не ўяўляю сваё жыццё без іх. Гэта вялікая асалода – часам падысці да паліцы, зняць томік нейкага аўтара і заглыбіцца ў свет ягонага мастацтва...

– Зайздрошчу я табе, дзядуля. Ты ў мяне класны! Але ведаеш, свет ужо іншы, і часы ўжо іншыя. На гэтай глебе выраслі вы і нашы бацькі, ваша глеба нарадзіла нас. А мы ідзем наперад са сваім замарочкамі, сваімі тэкстамі і сваімі творамі. Не крыўдуй, але для мяне твой Борхес – нудоцце несусветнае.

– Я разумею. Ну, але мае кнігі ты ўсё ж чытаў і нешта адтуль узяў.

– Вядома, узяў. Я ж і кажу. Вы – наша глеба.

– Так, так. Але я ніколі не бачыў, каб ты падчас навучання ў Акадэміі перачытваў нешта з нашай бібліятэкі.

– А навошта? Інтэрнэт даўно ўжо замяніў сабой усе бібліятэкі і ўсе энцыклапедыі. Дый час цяпер не той. Цяпер усё зводзіцца да кароткай формы. Сучасны трэнд – сама сучаснасць. Новае пакаленне заўсёды адмаўляе папярэдняе. Ты сам мне пра гэта некалі казаў.

– Слушна, але я казаў у адзіночным ліку: пакаленне адмаўляе папярэдняе пакаленне. Гэта звычайны канфлікт дзяцей і бацькоў. А цяпер у

мяне такое ўражанне, што тваё пакаленне адкідае культурны даробак усіх папярэдніх пакаленняў, а бярэ сабе толькі іх тэхналагічныя дасягненні.

– Так і ёсць. Разумееш, час паскараецца, жыццё паскараецца, падзеі вакол нас робяцца ўсё больш і больш імклівымі, свет мяняецца неверагодна. Змены, якія раней адбываліся за стагоддзе, цяпер праходзяць за дзесяцігоддзе. Тэхналогіі незваротна мяняюць наша жыццё. За ўсім гэтым трэба паспець. А мы хочам усё гэта неяк асэнсаваць і самасцвердзіцца як мастакі, разумееш? Тут Маркес не падыходзіць. Гэта нафталін...

– Палохаеш ты мяне, Паша. Не ўсе энцыклапедыі можна знайсці ў інтэрнэце... А Маркес пісаў пра вечнае – пра каханне, напрыклад. У гэтым і ёсць сэнс класікі – фіксаваць і асэнсоўваць найважнейшае з вечнага. Класіка патрэбная кожнаму пакаленню. Ніхто не пазбегне чалавечых памылак, чалавечых хібаў і чалавечых вяршыняў духу. Ты сам кажаш пра грунт, на якім трэба расці, і тут жа яго пляжыш.

– Ну, я больш пра форму, чым пра змест. Наш час патрабуе новых формаў, старыя для нас – неактуальныя, грувасткія і непрадукцыйныя. Хто цяпер будзе чытаць даўжэзныя раманы Маркеса?

– А ведаеш, як на лаціне будзе прыгажосць?

– Як?

– Forma. Гэта адзін з лацінскіх сінонімаў прыгажосці. Фармальныя пошукі ў гісторыі мастацтва вельмі часта прыводзілі да адшукання новага зместу. Думаю, гэта адбудзецца і з тваім пакаленнем. Галоўнае, не забывацца, што ўсё новае, як казаў яшчэ Эклезіяст, ужо калісьці было, пра яго проста забыліся.

– Ну згодны, згодны. Ты не злуйся на мяне, дзед. Я ўсе твае ўрокі добра памятаю. І большасць кніжак з тваёй бібліятэкі некалі прачытаў таксама. Але згадзіся і ты, што час цяпер зусім іншы, зусім іншы.

– Так, час зусім іншы. Проста не хацелася б, каб ты далёка адыходзіў ад гэтых кніжных паліцаў. Разумееш? Я кажу ў пераносным сэнсе.

Шульга падышоў да трэцяй паліцы.

– А вось тут стаяць таксама вельмі дарагія для мяне кнігі. Гэта першыя выданні таго з нашай нацыянальнай класікі, што за старым часам было забаронена і схавана пад жалезабетонным ідэалагічным покрывам. Ты не ўяўляеш, як мы радаваліся, што яно ўсё вярнулася да народа, да чытачоў. Я бяру гэтыя кнігі ў рукі і як бы вяртаюся ў тыя часы. Тады перад вачыма была перспектыва і надзея на лепшае...

– Слухай, выбачай. Мне ўжо трэба бегчы. Ад дзявятай вечара ў студыі Мельнічука вольны час, які мы арандавалі. Будзем рабіць мантаж. Ты мяне пераканаў. Заўтра з раніцы забягу. Падрыхтуй мне пару кніжак на твой густ, толькі без Чэхава і Сэлінджэра. Перагляну, можа, нешта недзе забаліць пад бокам... Дык выкарыстаю...

Павел абняў дзеда і пабег па сваіх справах. Шульга застаўся задуменна стаяць пры кніжных паліцах.

Сапраўднай мэтай гэтай размовы быў зандаж глебы: ці захоча ўнук узяць да сябе Янаву бібліятэку пасля ягонага сыходу. Для Шульгі было конча важна, каб нехта ўспадкаваў ягоны эмацыйны свет, схаваны ва ўсім, што яго цяпер у кабінеце атачае – кнігах, альбомах, карцінах, рукапісах і дзённіках у шуфлядах пісьмовага стала, а таксама ў тэкставых файлах яго старэнькага кампутара. Праз гэта, гаворачы з унукам, Ян употай назіраў за ягонай рэакцыяй на свае словы і хацеў знайсці там хаця б нейкі намёк на зацікаўленасць. Але не знаходзіў. І гэта пры тым, што хлопец тыповы гуманітарый і дастаткова добра, у параўнанні са сваімі аднагодкамі, адукаваны...

За наступныя паўгода Шульга пачынаў тую ж размову з Паўлам яшчэ двойчы, і абодва разы не знаходзіў належнага водгуку ва ўнукавым сэрцы. Апошні раз Павел нават пагартаў дзённікі дзеда і старыя рукапісы некаторых ягоных кніг. Пасля яшчэ званіў некалькі разоў і прапанаваў адлічбаваць усё самае дарагое для дзеда з ягонай бібліятэкі і архіва ды паабяцаў гэты заняцца, як толькі надарыцца вольны час. Абяцаў нават свой адпачынак на гэта патраціць. Але ва ўсёй гэтай актыўнасці стары пісьменнік бачыў праяву любові ўнука да дзеда, які шмат высілкаў паклаў на ягонае адукаванне, але не да ўласна эмацыйнага свету дзеда і яго творчага наробку.

Ян праседжваў цэлымі днямі ў сваім кабінеце. Ён адчуваў моцнае расчараванне, але не мог нават дакладна сфармуляваць, у чым менавіта. Ён шмат напісаў і стварыў, шмат зразумеў і шмат дасягнуў, нават кнігу ўспамінаў паспеў напісаць і выдаць, а прыкрасць заставалася.

Аднаго дня ён успомніў пра сваю даўнюю спрэчку з калегам і сябрам Сяргеем Лось-Паўлавым, які гадоў сорак таму выдаў кнігу канстатацыяў. Адна ягоная сентэнцыя гучала так: “Кніга – асабістая рэч”. Яну тады гэтая думка вельмі спадабалася. Але калі Лось-Паўлаў сказаў, што сэнс у гэтай канстатацыі шырэйшы, Ян запярэчыў, і яны нават пасспрачаліся. Была ў Шульгі такая адмоўная рыса – ён любіў запярэчыць людзям, без злосці пацвельваючы і правакуючы іх на спрэчку, каб паслухаць, пры дапамозе якіх аргументаў яму будуць пярэчыць. Гэта быў не горшы пісьменніцкі метад выцягнуць з калегаў жменьку трапных думак. Цяпер Яну чамусьці ўспомнілася тая спрэчка, і ён пазваніў Лось-Паўлаву, які таксама быў яшчэ жывы.

– Ведаеш, Сяргею, перачытваю твае канстатацыі. Зноў вока ўпала на тую, што кніга – гэта асабістая рэч. Думаю, што некалі дарэмна з табой спрачаўся наконт яе.

– Ну ты даеш, Яне, пра што ўспомніў!.. Я б цяпер нізавошта пра тое не згадаў бы... Вядома, сэнс той маёй думкі шырэйшы. Нашы кнігі – гэта не толькі наш культурны свет, нашы алюзіі і эмоцыі. Яны частка нас саміх, нашай асобы, нашай істоты і нашага інтэлекту. Гэта мы самі. Я думаю, што ты і тады гэта вельмі добра разумеў, бо сам быў сур’ёзны, а вочы ў цябе хітра так усміхаліся...

Гэтая тырада сябра паказала Яну, што ўсё Лось-Паўлаў цудоўна памятае і, магчыма, нават трымае на яго крыўду за колішнюю правакацыйную размову.

– Ну дык вось я і званю, Сяргею, каб папрасіць прабачэння за тую ідыёцкую спрэчку. Неяк мне цяпер шмат пра гэта думаецца, дык бачу, што ты стопрацэнтна меў рацыю.

– Няма чаго прасіць, Яне, няма чаго. Я ніколі на цябе не крыўдаваў, а каб і крыўдаваў, дык даўно ўжо дараваў бы. Такой бяды... Мы ж з табой аднадумцы і паплечнікі. Колькі нас засталося? Ці дзясятак набярэцца ўжо...

Распытаўшы пра сям’ю і пажадаўшы сябру плёну і здароўя, Ян паклаў слухаўку. Дзіўныя мы людзі, пісьменнікі, падумаў ён, нашае самалюбства больш чулліва і чуйнае за любы самы сучасны асцылограф. Такімі чуйнымі і насцярожанымі адзінцамі мы і жывем.

Размова з Лось-Паўлавым дапамагла Яну прыняць вельмі важнае рашэнне. Назаўтра ён накіраваўся да натарыуса і ўнёс змены ў свой тастамент.

Калі праз пяць гадоў Яна Шульгі не стала, сталіцу абляцела чутка, што ён пакінуў самы незвычайны тастамент у найноўшай гісторыі краіны. Стары пісьменнік завяшчаў спаліць сябе ў крэматорыі і разам з ім спаліць усе ягоныя кнігі і архіў. Казалі, што ў тастаменце былі нейкія загадкавыя фразы пра эмацыйны свет і пра кнігі як асабістыя рэчы, але ніхто дакладна не мог працытаваць словы Шульгі.

Арцём Сітнікаў



...ад душнай няволі – да Духу Свабоды –
вядзі нас, Вястуне, праз роды і роды!..

# Дабравешчанне Волі

***МОВА МАЯ***

Кажуць, мова мая
    недасканалая,
сном скаваная, замарожаная,
    запаволеная,
        замаруджаная –
ды ж жыве яшчэ,
не сканала яна!

Кажуць, мова мая
недаспелая,
    незавершаная,
        недарэфармаваная –
ды ж яна апяваная
спевамі,
    яна вершамі
        зрыфмаваная.

Кажуць, мова мая
забітая,
скрываўленая,
            згвалтаваная
наркаматамі
ці
наркаманамі –
ды ж гучыць,
яшчэ не забытая!

Кажуць, Слова Тваё
Незразумелае,
            нетрывалае,
                недарэчнае –
Яно ў Кнігах жыве,
непамерлае;
            ўсё стрывала Яно,
                        спаконвечнае.
Яно ў свеце жыве –
свята-светлае;
Яно ў сэрцах жыве –
            ўчалавечанае.

* * *

калі
    нямыя
            мы,
дык мы –
            не мы

* * *

згрубелыя,
            ды белыя,
ўсярозумам
            цвярозым мы
не здатныя,
            не здольныя –
бы здані –
            стацца вольнымі.
бо доляю –
            адоленыя,
воляю –
            зняволеныя,
вечнасцю –
            знявечаныя

здані
        здавёнвечныя...

самлелыя,
        ды смелыя,
з прагнозамі
        пагрозлівымі,
з немаччу
        й нямогласцю,
праз ленасць,
        млоснасць,
            стомленасць –
стаяцьмем –
        ці змярцвелыя?
спявацьмем –
        ці знямелыя?
скакацьмем –
        ці скалечаныя?
усё ж ачалавечаныя
душы –
        не задушаныя,
целы –
        шчэ не стлелыя
з глебы
        ноччу
            створаныя –
хлебам
        ўдзень
            адораныя...

Слову
        ўчалавечанаму
слава ў векі вечныя!

### ***ПАВУК***

нечакана на мой стол спусціўся павук –
завучаным павучыным чынам,
быццам доктар паветраных
неправераных новых навук,
сплёўшы вершы з нітаў павуціны,
нахабна, неахайна, напралом,
нячутна, непрыкметна, невядома,
наўпрост злучыўшы
сваю столь –
        з маім сталом,
сваю свабоду –
        з маім ціхім домам...

* * *

павук павольна пав*у*чыць,
тчэ сваю сцежку з нітаў –
вучыць
нібыта
як злучаць
неба
з
нябытам...

## *СУНІЧНЫ СОН*

я прысніў
сонца
ты нясеш
суніцы
на сняданак
мне не суняць
смагу
сум
і смутак
ад ссінелых
ссівелых
соснаў
насенне
нясе
сівер
сее
сваё
сёння
сонна

## *ЗОРКІ-ЗНІЧКІ*

у чорным небе зоры,
змораныя м*а*рыць,
для марнага нябыту
пакінуўшы адбіткі
у люстры чорнага зямнога мора –
глядзяць на нас з дакорам,
даручаныя змроку,
недатыкальныя,
недакранальныя,
сакральныя,
даступныя хіба што зроку –
глядзяць на нас з папрокам
вачыма тых сівых прарокаў

што на старонках
старой прасторы-Торы,
прарокі-зоркі
з небам раяцца,
і з сумам горкім
узіраюцца
на тых,
што ўзышлі на дахі
ґмахаў
(ці можа стрэхі
ўласных страхаў?)
на тых,
што назіраюць,
як зоркі
гаснуць
          падаюць,
               знікаюць
на вачах,
нязвыкла,
стаючыся знічкамі –
ўзіраюцца
на тых з нас,
што ўвесь час
пытаюцца-цікавяцца:
“ці каюцца?
ці проста так сягаюць
у неразумна нізкую прастору
дурныя зоры?” –
нам не зразумела,
вочы ўзняўшы ўгору –
але
перакуліўшыся
нагамі дагары –
глядзім здзічэла,
як у прасторы
дагараюць зоры,
а там, угары,
знікаюць
(ці ўзнікаюць?)
знічкі:
без страху,
проста, з верай,
ў апошні момант не хапаючы паветра
і не чапляючыся за антэны даху,
не баючыся страты,
яны ж нічога ў сабе не маюць
свайго –
таго,

чаго б не мелі сёстры-зоркі,
якія коцяцца за ўзгоркі –
нам прыклад пада*ю*ць,
нібы
ў абдымкі неба
п*а*даюць,
і гэтым п*а*даннем-пад*а*ннем
апавядаюць,
спавядаюцца
нябеснаму блакіту,
злучаюць
неба –
          з хлебам,
згараючы –
                    вяртаюцца
з няпамяці,
               з нямогласці,
                              з імглы,
                                        з нябыту.

### *ВАРТА*

што вартае,
каб вартаваць яго?
ці варта год
трываць,
пасеяўшы насенне,
гадуючы траву,
каб выратаваць плод,
ўжо год таму
як даастатку
вырваўшы карэнне?

### *ЧАРНОБЫЛЬ*

незлічоныя чоўны нячутна чуваюць на чорнабярэжжы,
невымоўна нязмыўныя, вечначорныя ўткнуўшы насы...
процьмай просяцца ў вырай, за небакраю бязмежжа
акрылёныя ветразі – скрываўленыя ветрам буслы...

у бязмоўнае твані, не ўнікшы укінутых ноччу мярэжаў,
а на досвітку нашча глытнуўшы з няплыннай ракі,
з небаракамі ракамі зблытаўшы межы неба і ежы,
вочы выперыўшы, з ушчуваннем глядзяць шчупакі...

нескароныя, нескаранелыя шчэ, старавечныя вербы,
каранямі ўчапіўшыся ў глей, а каронай сівой – у засохлы чарот,

углядаючыся ў чарнаводдзе, укленчыўшы перад небам,
вычвараючыся, выварочваючыся – вяртаюцца ў карагод...

нібы тая смакоўніца ссохлая, Словам заклятая здаўна
ў няплоддзе,
цёмным цмокам высмоктвае сок цераз цэзій працэджаных вод
ды нястрымана стронцый струменіць са стромы ў бязводдзе,
набіраючы сілы, буйнее, буяе – вось-вось набрыняе,
ўзгадуецца плод...

нечувана нячулы, нямы, невідушчы вяшчун шчымліва зайграе...
чарадзейныя, чарнадзюбыя, чуюць бяду крумкачы,
у сваю чарнавечнасць, схаваную за чалавечнасцю зграі,
заклікаюць!, клянуцца!, клапоцяцца!, прагнучы ўночы ўцячы...

марнаслоўем, адвеку нявыказаным,
напаўняліся вусцішна, смела
вусці вуснаў спусцелыя,
не сягаючы, не спасцігаючы чорнага мора...

пустазеллем здавён не зялёным
зарасла...
счарсцвела...
збялела...
ссівела...
знямела
зямелька мая...
чорным болем...
Чарнобылем...
чорнабыллём...
у чорнай каморы...

## *ДАБРАВЕШЧАННЕ ВОЛІ*

Усяісным ад сну абудзіўшыся ўвесну,
нябесны Вястун нясе добрую вестку;
то радасным словам, то поснаю песняй
цвярозаму свету Святло дабравесціць.

Пагрукай, Вястуне, ў грувасткія дзверы,
мячом пасячы камяні недаверу,
скіруй чалавечыя вочы ў Вечнасць,
звярыным аблiччам вярні Чалавечасць!

Ды свет не прачнуўся – а, ўрэшце, й не хоча...
Сп’янелыя твары трывала прарочаць –

то проста, то збочыўшы на раздарожжы:
наперад – у багну, налева – ў бязбожжа.

Не дай нам, Вястуне, схіліць да ліхога
ані старога, ані малога!
Скіруй нашы крокі направа – да Бога,
да Вечнабыцця, да Права Самога!

Аскепкі ад скептыкаў параскіданыя,
зямля неўзараная неўратаваная...
А новыя гады ўжо ўзгадаваныя,
дагэтуль у кнігах нідзе не ўзгаданыя...

Нябесны Пасланнічу доўгачаканы,
што ў небе пяеш несупынна “Гасанна”,
не дай нам застацца ў самападмане,
не дай заблукаць у сумным тумане!

Ад соннага стану – да сонца паўстання,
ад немачы ночы – да свята світання,
ад душнай няволі – да Духу Свабоды –
вядзі нас, Вястуне, праз роды і роды!

* * *

вясна
нясе
вестку
існасці
й вечнасці
заснуламу
сусвету –
вось яна!

лета
лёгка
лётае
ластаўкай
па-над лесам-лёсам
свету

восень
сем дзён
вісіць
узносіцца
ўвысь
і на восьмы –
вобзем

зіма
з’інелая
знікае
недзе ўнізе
імгненна
безыменна белая
сама...
была –
і няма

## *МАЛЕНЬКІЯ МАЛІТВЫ І МАЛЮНКІ*

* * *

Раніцай цябе
малюю –
Ноччу за цябе
малюся

* * *

маленькая малітва
мяне паўсюль атульвае:
лятуць да лямпы матылькі,
і немаўля п’е малако матулі...
дзіця малое
неба намалюе,
схіліўшы галаву,
засне,
пакіне пляму белую
на аркушы паперы –
то маладзік нясмелы
святлом
адолеў ночы цемру.

Уладзімір Сцяпан



...Запомніце!
У войску толькі жывыя і мёртвыя,
і ніякіх хворых!..

# Салдацкі гузік

***Запісы 1983-1985 гг.***

*Мне сняцца сны аб Беларусі!*
Янка Купала

## САЛА

Варанае сала называлі “жывым”, бо яно было шэрае і пругкае, як гума. Упадзе на стол, ці на падлогу і падскоквае жабай. Але і яго елі, нават дзялілі вялікія кавалкі напалам, разрывалі лыжкамі, а калі не атрымлівалася, то пальцамі. Тыя, хто праслужыў паўгода і болей, грэбавалі вараным салам, не елі, але глядзелі, як яго жаруць маладыя, як ім душацца.

Насупраць мяне сядзеў Сашка Іваноў – балгарын з Кіева. Гэта было ў першыя тыдні службы, калі нас, галодных і запалоханых, хістала ад стомы. Мы раздзялілі лыжкамі вялікі кавалак такога, яшчэ цёплага сала... Хутка з’елі. Паглядзелі ў пустыя талеркі. Сашка кавалкам хлеба падабраў тлушч.

“Ведаеш, у мяне такое адчуванне, што мы трапілі не па сваёй ахвоце ў нейкі эксперымент, нас цяпер даследуюць... Адслужым, а потым будзем ганарыцца, што выжылі, ацалелі. Ці не будзем?” – сказаў Сашка, з’еў хлеб і закашляўся.

Я ляпаў яго па спіне кулаком, а ён кашляў і кашляў. І твар, і шыя, і патыліца зрабіліся чырвоныя, колеру пагонаў, слёзы пацяклі з вырачаных вачэй, ён сутаргава спрабаваў расшпіліць кручок на каўняры гімнасцёркі. Расшпіліў.

“Абышлося, ледзь не здох. Дзякуй. Гэта ты пазайздросціў, відаць!” – спачатку выдыхнуў, а потым прашаптаў Сашка.

Я пагадзіўся. Пазайздросціў.

## ВОКА

У першы тыдзень службы Толік Бохан змог напісаць адзін ліст. У другі – два. На трэці – ліст напісаў, але не было канверта, каб даслаць. За чацвёрты тыдзень ён напісаў яшчэ два лісты і пазычыў тры канверты ў земляка. Старанна пазаклейваў і аддаў сяржанту, каб той перадаў паштальёну. За месяц Толік даслаў шэсць лістоў і не атрымаў ніводнага ў адказ. Малады салдацік заперажываў, пачаў моцна хвалявацца.

Перад “адбоем” Толікавы лісты чыталі ўголас. Казарма іржала. Паспелі прачытаць чатыры. На пятым Толік заплакаў, а ўсе развесяліліся яшчэ больш. Калі дачытвалі шосты ліст да невядомай Валі Гурок, Толік кінуўся на сяржанта, якому аддаваў пошту, і ўказальным пальцам выбіў вока. Быццам выпадкова.

Сяржанту ўставілі шкляны пратэз і камісавалі.

А Толік адслужыў свае два гады і атрымаў медаль “За адвагу на пажары”. Валя Гурок Толіка не дачакалася. Купалася п’яная ў Дняпры і ўтапілася.

## ГАШАК

Раніца яшчэ бэзавая, сухі снег рыпіць, салдаты скрабуць плац да бетону... Хочацца спаць, есці, нікога не бачыць, не чуць. Калі я прыйшоў пасля сняданку ў клуб, прапаршчык Жэнька Канахоўскі сядзеў у фатэлі і курыў. Яго бабінны магнітафон граў. Жэнька наліў кубак моцна запаранага чаю, прапанаваў цыгарэту. Я закурыў і пачаў грэць аб гарачы кубак замерзлыя рукі. Прыбег начальнік клуба, на кожным пагоне па тры зоркі, твар з холаду чырвоны, на тонкіх вусіках кроплі і на носе, на самым кончыку – кропля. Ён выключыў магнітафон: “Ты што, не разумееш, Жэня, сёння можа быць толькі ціхая і жалобная музыка. Мінор”.

Прапаршчык Жэнька – мастак-самавук, тыцнуў цыгаркай у бок вялікага раскладнога стала, побач з якім стаяў штабны планшэт – сто дваццаць на сто. На ім былі чорна-белыя фотаздымкі таварышаў з Палітбюро і кандыдатаў.

“Ты ведаеш... І што ў штабе кажуць, хто цяпер будзе?” – начальнік клуба глядзеў на чорна-белыя фотаздымкі памерам дваццаць на пятнаццаць. “Саша, а хіба табе не ўсё роўна?” – Жэнька расціснуў вялікі недапалак аб донца попельніцы. Начальнік не адказаў на пытанне, а пабег шукаць сталяра, каб павесіць сцяг з чорнай стужкай побач з уваходам у клуб. Старшы прапаршчык Рацыёнаў любіў розныя рытуалы і гучную вайсковую музыку.

Мы па-будзённаму заняліся вялікім планшэтам – памёр Андропаў Ю.У., і ўсе планшэты цяпер трэба перарабляць: у штабе, клубе, ротах, батальёнах, на гаўптвахце і ў каравулах.

За паўтара гады я незлічоную колькасць разоў здзіраў і пераклейваў гэтыя планшэты, бо мужчыны з прэснымі тварамі, у пінжаках і мундзірах, паміралі і паміралі, быццам спаборнічалі. Партрэты нябожчыкаў даводзілася выдаляць, жывых перасоўваць, змяняць парадак, падпісваць. У тыя лютаўскія дні, калі памёр Андропаў і яго партрэт замяніў партрэт Чарненкі, я ўнёс прапанову. Сутнасць яе зводзілася да таго, што не трэба фоткі ляпіць да планшэтаў на клей ПВА, лепш карыстацца гумовым. Жэнька адразу зразумеў усе выгоды такой прапановы. І мы хутка зрабілі два планшэты – штабны і клубны.

Праслужыў я тады яшчэ толькі тры з паловай месяцы. Хацеў збегаць у бібліятэку, але Жэнька затрымаў: “Слухай, не трэба “свяціцца”, падумаюць, што табе няма чаго рабіць. Калі што спатрэбіцца, скажы, я прынясу”.

У тыя лютаўскія дні я вырашыў перачытаць Гашака. Прапаршчык прынёс кніжку ў дыпламаце. Я загарнуў яе ў газету, схаваў у ніжнюю шуфляду працоўнага стала, туды, дзе ляжаў самаробны кіпяцільнік, нататнік, лісты ад жонкі, бацькоў і сяброў.

Прыгоды салдата Швейка смешнымі мне тады не падаліся. Кніжку не дачытаў.

## КІСЕЛЬ

Кісель давалі два, а калі і тры разы на тыдзень. Звычайна ён быў шэраружовы, густы, вогненны. Налівалі па кубках з шэрых пяцілітровых чайнікаў. На вайсковым кісялі плавалі плеўкі. Зачэпіш лыжкай, а яна вісіць, цягнецца, як гумовы клей. Глынеш-каўтанеш, пачатак плеўкі ў горле, а хвост яшчэ ў кубку боўтаецца...

Тыя, каму хутка на дэмбель ці ў адпачынак, кісель не пілі. Грэбліва і прынцыпова адсоўвалі ад сябе посуд. Прапаршчыкі з афіцэрамі той салдацкі кісель таксама ніколі не пілі, як і кухары з хлебарэзамі. Лічылася, што менавіта ў кісель падсыпаюць бром, каб салдатам не хацелася і нават не думалася пра дзевак. Хто і калі падсыпае – невядома. Я не верыў у такую фігню, смяяўся, але перад адпачынкам кісель не піў, на ўсялякі выпадак.

## ФРЭНСІС СКОТ ФІЦДЖЭРАЛЬД

Юра Вяткін служыў пісарам у штабе. Ён пасля школы хацеў паступіць у МДІМА, але бацька сказаў, што паступіць туды нават ён, вайсковы начальнік, роднаму сыну дапамагчы не зможа. Юрка паступіў у “Плешку”, скончыў, размеркаваўся ў Дзяржплан, тры месяцы папрацаваў побач з Крамлём, і яго забралі ў войска. Любімы пісьменнік у пісара Вяткіна быў Скот Фіцджэральд, а любімы раман “Tender Is the Night”. Мы з ім гэты раман згадвалі ў размовах, але пасля таго, як ён прынёс кнігу, і я яе прачытаў.

Аднойчы, каб зрабіць сябру прыемнае, я замовіў кінамеханікам фільм “У джазе толькі дзяўчаты”. Нашая пажарная брыгада ахоўвала кінастудыю “Масфільм”, а таму стужку прывезлі ў чатырох шэрых яўфах. Я запрасіў Юрку ў клуб, дзверы зачынілі, і Толік Палій пусціў кіно на вялікі экран.

Мы сядзелі з Юркам у вялізнай зале і глядзелі на Мэрлін Манро. Раптам Юрка падхапіўся, скінуў парадны кіцель, фуражку, заскочыў на сцэну і пачаў танчыць.

Я сядзеў, курыў, глядзеў на шчаслівага чалавека, які скакаў да знямогі па сцэне ў мітуслівым кіношным святле. Потым ён сеў побач, аддыхаўся і прамовіў: "Валодзька, як жа я хачу туды!" – паказаў пальцам на экран.

Дваццаць другога студзеня 1985 года, на мой дваццаць сёмы дзень нараджэння, Юрка Вяткін зрабіў мне падарунак – кніжку Фрэнсіса Скота Фіцджэральда.

## ПАЛАНСКІ

У самаробным барвовым дыпламаце дэмбеля Толіка Палія ляжаў альбом, зроблены па ўсіх канонах: сукно, адчаканеныя вугалкі, бліскучая эмблема, калькі з контурнымі малюнкамі, запырсканыя вогненнымі кроплямі чорныя кардонныя лісты з рознымі фотаздымкамі, позва на службу, газетная выразка з загадам міністра на звальненне... Акрамя альбома вёз на рідну Украіну клубны кінамеханік сяржант Палій і круглую залацістую кансароўку. Дыпламат ён замовіў адмысловы, на два з паловай сантыметры большы, чым звычайны. Памер дыпламата дыктавала стандартная кансароўка з кінастужкай на 35 мм.

За два гады службы кінамеханік Палій паказаў салдатам больш за дзве сотні фільмаў, а сам паглядзеў нашмат больш, бо меў шчаслівую магчымасць браць на "Масфільме" нават яшчэ не пераагучаныя замежныя стужкі. Неяк Толік прывёз фільм, дзе была толькі адна беласкурая актрыса. Астатнія – чорныя, усе на адзін твар. Здаецца, там гаварылі па-нямецку. Дзеянне адбывалася ў афрыканскай краіне. Белая жанчына спрабавала стварыць агенцтва з манекеншчыцамі з мясцовых дзевак...

Але вернемся да залацістай кансароўкі. У ёй ляжаў фільм на дваццаць восем хвілін, які за два гады службы таемна ад усіх зрабіў наш кінамеханік. За пару тыдняў да звальнення Толік паказаў мне тое кіно. Позні́м вечарам, амаль ноччу, калі ў клубе засталіся толькі мы, ён прапанаваў глянуць. З гонарам прапанаваў, але і крыху сарамліва, ружовыя плямы пайшлі па шчоках.

Я сядзеў на апошнім крэсле, пад сцяной з амбразурамі кінапраекцыйнай. Святло ў зале згасла, вялікі экран аджыў, засвяціўся... Прабегла ракорда з лічбамі, а потым пайшло кіно – нарэзка з эратычных сцэн, як каляровых, так і чорна-белых, як з савецкіх фільмаў, так і з замежных. Жанчыны распраналіся, смяяліся, цалаваліся, абдымаліся і падалі на ложкі, траву, на сена, на пясок, у ваду... Кіно на вялікім экране ішло бязгучна. Калі шчыра, то я крыху спалохаўся, а яно ішло, круцілася, праектар шумеў шчыльным гарачым ветрам... Але раптам усё скончылася. Запалілася святло, грукнулі жалезныя дзверы кінабудкі. З'явіўся расчырванелы кінамеханік. Ён быў у галіфэ, кіцель на голае цела, пілотка вытыркалася з кішэні. "Ну, Сядой, як табе?" – спытаў Толік.

Я цяжка падняўся і зашчокнуў рэмень. Потым пілі чай, і Толік расказаў, як выразаў з фільмаў кавалкі, дзе кароценькія, дзе доўгія. Потым склейваў скотчам на мантажным стале.

Мы пасмяяліся, бо назад не адкруціш, не ўставіш, не ўклеіш.

Барвовы дыпламат ружовашчокаму кінамеханніку вынес за КПП пра-

паршчык з прозвішчам Шпачок, калі праводзіў свайго падначаленага на Кіеўскі вакзал. Тое самаробнае і безназоўнае салдацкае кіно калі-нікалі раптоўна згадваецца, як іншыя выдатныя фільмы.

## ЧУБЧЫК

Вясной 84-га брыгада рыхтавалася да вялікай і адказнай міністэрскай праверкі. Мне даручылі "разабрацца" з нашым спартыўным гарадком. Даручылі за два з паловай тыдні да праверкі. Я прыдумаў зрабіць вялізнае пано на жалезных лістах, а потым лісты сабраць. Павінна было атрымацца доўгае і высокае пано, якое прыкрые турнікі, ямкі, лесвіцы – палепшыць агульны выгляд.

На белых жалезных лістах будуць намаляваныя спартсмены ў рознакаляровых трусах і саколках з дынамаўскімі эмблемамі. Па іх пабягуць лыжнікі-біятланісты, і нават будуць страляць.

Эскіз, на доўгім планшэце, камандзірам спадабаўся. Пачалі рабіць жалезныя стойкі, ліць бетон, а я маляваў і фарбаваў у клубе жалезныя шчыты. Прапаршчыкаў і афіцэраў дзівіла, як я алоўкам маляваў па белых шчытах спартсменаў, а потым расфарбоўваў. Усе бегуны атрымаліся выразныя, нагадвалі карціны мастака Аляксандра Дайнэкі. Дужыя, мускулістыя, лысагаловыя, імклівыя...

Калі сабралі, прыкруцілі, падфарбавалі, то я вырубіўся ад стомы. Ляжаў на траве, пад парканам, вочы прыкрывала пілотка. Нават курыць не хацелася...

Восьмага мая раніцай прыехала праверка. Генерал доўга стаяў перад яркім пано, а потым сказаў, што спартсмены нагадваюць не савецкіх салдацікаў, а крымінальнікаў, бо занадта яны лысыя. Усе згодна пачалі ківаць.

У майстэрню прыбег капітан Машын, які ў палітаддзеле адказваў за ўсю афармілаўку, і пачаў мяне прасіць нешта прыдумаць, каб спартсмены хутчэй ператварыліся з крымінальнікаў у савецкіх ваеннаслужачых, якія займаюцца спортам.

Са скрыняй, слоікамі фарбы і пэндзлікамі, я пайшоў на спортгарадок і па-хуткаму падамалёўваў лысагаловым бегунам і лыжнікам чубчыкі – кароткія, кучаравыя і смешныя, як у першакласнікаў. Генерал і падначаленыя спыніліся, калі ішлі да КПП, і самы галоўны засмяўся, прамовіў: "Чубчык, чубчык, чубчык кучаравы..." Усе лісліва заўсміхаліся.

За тое вялізнае пано (14 метраў на 3), а, хутчэй, за "чубчык", атрымаў адпачынак, хоць і года не адслужыў.

Прапаршчык Канахоўскі, калі хацеў мяне пацвяліць, ставіў на магнітафон бабіну, і з калонак гучала песня "Чубчык", спяваў яе, здаецца, Новікаў.

## ЦЫГАРЭТА

На гадзінніку палова на першую. Я патушыў вялікае святло пад столлю, пакінуў запаленай адно маленькую жоўтую лямпачку побач са станкамі. Потым залез на стол, і адчыніў раму вялікага акна. Дыхнула ноччу, сырым і прахалодным красавіцкім паветрам. Пахла начное паветра зямлёй, дрэвамі і смажанай рыбай. Давялося саскочыць на падлогу, каб узяць бушлат і цыгарэты. Закурыў і сеў на падваконне. Сядзеў, дыхаў, думаў пра ноч, хмары, за якімі зоры, глядзеў на бетонны паркан з калючым дротам, за якім вуліца, горад, людзі...

Потым убачыў вартавога ў доўгім шынялі, зімовай шапцы, з аўтаматам. Ён ішоў па асфальце, побач з парканам. У яго на плячы чарнеў аўтамат. Вартавы ішоў спакойна, па мокрым асфальце, па плыткіх калюгах. Я далічыў да трыццаці, і ён апынуўся пад вокнамі майстэрні. Я ціхенька свіснуў. Вартавы спыніўся, задраў галаву і ўзрадавана сказаў: “Прывітанне, зноў не спіш? Кінь закурыць”.

– Ты ж не курыш, – сказаў я са здзіўленнем.

– Кінь, Сядой, – ціха папрасіў салдат з аўтаматам.

У пачку было тры цыгарэты і я думаў.

– Толік, ты ж не курыш!

– Сястра напісала, што ў маткі інсульт. Пайшла карову даіць і павалілася ў двары. Вось так!

Толік Казёл спрытна злавіў цыгарэту ў шапку, падзякаваў і пайшоў. Ён спыніўся ў самым цёмным месце, пад бетонным парканам.

Чырвоная кропка цыгарэты хутка згасла.

Я зачыніў акно, памыў ногі і лёг спаць.

## СОН ПРА РАКУ

Па чорнай-чорнай вадзе плывуць белыя крыгі. Яны плывуць ціха-ціха, амаль стаяць. І цёмныя хмары, падобныя да крыг, стаяць у шэрым небе, быццам плывуць. Па беразе бяжыць руды сабака. Ён хоча на той бераг, бо там лес, але крыгі плывуць і хмары плывуць. На тым беразе дом з чырвоным бляшаным дахам. Гэта дом майго дзеда. Я сам фарбаваў той бляшаны дах, калі быў падлеткам. Але побач з нашым домам не было вялікай ракі, ніколі. Толькі лес, толькі лес і вялікі цёмны курган...

## “БЕЛАВЕЖСКАЯ”

Беларусы звалі яго “Шкварка”, а рускія мянушкі не разумелі.

З Юркам Шварко я пазнаёміўся ў ваенкамаце, у тым, дзе сёння музей Савіцкага. Пілі гарэлку ў бруднай прыбіральні. Потым курылі. Потым зноў пілі і чакалі, калі нас павязуць. Пілі ў цёмным цягніку, курылі ў ледзяным тамбуры. У брыгадзе нас размеркавалі ў розныя роты. Здаралася, што сустракаліся ў сталоўцы, а потым у клубе, дзе я служыў мастаком. Юрка не паспеў скончыць свой сельскагаспадарчы. Яго забралі, здаецца, пасля трэцяга курса.

У красавіку, калі вось-вось павінны былі прыйсці ў брыгаду маладыя, мы сустрэліся ў клубе. Брыгада прыйшла ў кіно, я хадзіў па зале з чырвонай павязкай на рукаве. На чырвонай тканіне надпіс “дзяжурны”. У мяне быў добры настрой, і я ўзрадваўся, калі ўбачыў земляка Юрку Шварко. Мне захацелася зрабіць яму нешта прыемнае, бо выглядаў ён кепска. І яшчэ мне хацелася паказаць, як добра я ўладкаваўся, якая ў мяне вялікая і цёплая майстэрня.

Калі пачаўся фільм, то я паклікаў Юрку ў майстэрню. Там у мяне была палова бутэлькі “Белавежскай”. Мы выпілі, заелі хлебам, запілі распушчальнай кавай “Пеле”, пакурылі, пагаварылі, і ў цемры Юрка вярнуўся на сваё месца. Кіно скончылася, зала апусцела, зрабілася вялікай. Я пераапрануўся ў бруднае і сядзеў з цыгарэтай на апошнім радзе, побач з уваходам у майстэрню. І тут на стале затрашчаў тэлефон. Я падняў слухаўку, назваў

прозвішча, пачуў незнаёмы голас. Камандзір роты, той, дзе служыў Шварко загадаў імгненна прыйсці да яго. Салдат Шварко здаў мяне.

Я спалохаўся, бо разумеў, што нічога добрага чакаць не выпадае. Кінуўся чысціць зубы, потым есці часнык, потым памазаў у роце смярдзючым бальзамам "Зорка", абліўся адэкалонам і ацэтонам. Гэта ўсё рабілася хутка. Перабег плац і, смярдзючы, з'явіўся перад капітанам. Той адразу пачаў крычаць і палохаць, абяцаць, што "засадзіць" на гаўптвахту, калі я не прызнаюся, адкуль гарэлка. Я маўчаў. Юрка глядзеў у падлогу. На мяне вочы не падымаў. Капітан стаміўся крычаць і палохаць. Яму хацелася спаць...

Той ноччу я не заснуў, бо разумеў, што мне цяпер – капут, з клуба выпруць. Дачакаўся прапаршчыка-мастака, расказаў пра свае праблемы. Прапаршчык пацвердзіў, што капітан "кантужаны на ўсю галаву", што дамовіцца з ім цяжка, але пайшоў у тую роту. Перамовы цягнуліся доўга. Прапаршчык вярнуўся і сказаў, што па-хуткаму, без чаргі, давядзецца аформіць ленінскі пакой у той роце.

Афармілаўку зрабіў за чатыры красавіцкія ночы. У апошнюю ноч, пад самую раніцу, з носа нечакана палілася кроў. Запэцкала планшэт з прысягай, давялося перарабляць. Дапамог прапаршчык. З Юркам Шварко я не вітаўся да самага дэмбеля, хаця хіба ён вінаваты?

Гарэлку мне прывёз брат, а бальзам з чырвонай зоркай доўга выклікаў алергію.

## КАРАНЦІН

Дзьмуў вецер, ды яшчэ з дажджом і лёдам. Камандзір брыгады выглядаў манументальна. Ён хутка ішоў, вецер у спіну, і глядзеў на салдатаў. Брыгада стаяла на плацы, усе, хто мог...

Палкоўнік спыніўся на каналізацыйным люку, амаль пасярэдзіне плаца, і афіцэры, якія спяшаліся следам, спыніліся. Палкоўнік зняў шэрую папаху, сціснуў яе, а потым сказаў гучна, як на пажары: "Запомніце! У войску толькі жывыя і мёртвыя, і ніякіх хворых! Ні-я-кіх! Усім мыць рукі!"

З папахай у руцэ ён пайшоў да штаба. У брыгадзе абвясцілі каранцін, больш за сто чалавек ляжалі з гепатытам, людзей не хапала, а Масква гарэла, як заўсёды, пакуль не ўключаць ацяпленне.

Рукі мне даводзілася мыць часта, бо яны пэцкаліся ў фарбу, і жаўтуха мяне абмінула.

## ТАІЦІ

У кабінеце начальніка клуба прапаршчыка Рацыёнава было дзве клеткі з маленькімі папугайчыкамі колеру недаспелых лімонаў. Вясёленькія птушкі гучна скрыгаталі крывымі дзюбамі, быццам нехта шчыльную паперу дзярэ. Сваімі гадаванцамі прапаршчык ганарыўся, палец у клетку запіхваў, папугайчыкі на пракураны доўгі палец смела садзіліся, дзяўблі руды пазногаць.

На самым пачатку кастрычніка я атрымаў загад зрабіць у доўгім пакоі фотастудыі вальер. Дапамагаў мне сталяр Ігар Січкар, якога перавялі ў клуб, бо салдат моцна заікаўся, асабліва, калі пачынаў хвалявацца. Сказ у два словы ён мог гаварыць вельмі доўга. "Та-та-та-та-таварыш пра-пра-пра-прапаршчык...!" – пачынаў свай зварот салдат, а скончыць не мог, бо ўсім надакучвала.

Я намаляваў заднік. Пальмы, лісце дробнае і вялікае, кветкі, ліяны, дзівосныя расліны, блакітнае неба, мора... Вялікі заднік ад падлогі да столі, ад сцяны да сцяны, а сталяр зрабіў рамы, абцягнутыя жоўта-зялёнай капронавай сеткай, дзверы, каб у вальер заходзіць і прыбіраць, сыпаць птушкам ежу, даліваць ваду ў ружовыя фотаванначкі... Яшчэ ён прынёс дрэўца і паставіў у вальеры, каб папугайчыкам было дзе пасядзець.

Даглядаць птушак клубны начальнік даручыў заікатаму, а таму маўклівому, сталяру. Папугаі пачалі пладзіцца з неверагоднай хуткасцю. Спачатку пятнаццаць, потым сорак, а праз два месяцы пералічыць і назваць дакладную колькасць не мог нават Ігар. Ён гаварыў: ”Да-да-да-дахера!”

Начальнік клуба пачаў папугайчыкаў прадаваць. Звычайна браў дзясятак птушачак у малую клетку, абгортваў яе цёмнай тканінай і зносіў. Усё ішло добра і складна, пакуль да сталяра не наважылася прыехаць жонка.

Ігар тыдзень хадзіў вясёлы. Ён хоць праслужыў толькі першыя паўгода, але прапаршчык Рацыёнаў паабяцаў адпусціць яго на цэлыя тры дні і дзве ночы.

Светка ехала ў цягніку да Масквы, а Ігар рыхтаваўся да спаткання з маладой жонкай. Мыўся, галіўся, прасаваў парадку... Але ў самы апошні момант прапаршчык перадумаў, бо на тры дні не было на каго пакінуць папугайчыкаў, і салдата да жонкі не пусціў. Без усялякіх тлумачэнняў ён пайшоў з клуба да КПП з дыпламатам у адной руцэ і маленькай клеткай у другой.

Ігар сядзеў на сцэне, як пабіты, і гэтым разам, насамрэч, слова не мог сказаць. Яго паголены твар торгаўся, крывіўся, рот бязгучна разяўляўся, а вочы чырванелі і слязіліся. Гэта была субота, да новага 1985 года заставалася пару тыдняў. Папугаі напярэдадні святаў прадаваліся добра.

У нядзелю, пасля таго, як скончылася кіно, змрочны сталяр падняўся ў фотастудыю. Папугаі сустрэлі яго радасным пырханнем і скрыгатам. Але салдат не стаў іх карміць, не стаў іх паіць, і вальеру не адчыніў. Ён стаў на крэсла, паглядзеў у марозную чорна-сінюю ноч і расхінуў вялізнае акно. Саскочыў на падлогу, патушыў святло, замкнуў студыю і пайшоў у казарму спаць. Раніцай, яшчэ да сняданку, Ігар з’явіўся ў клубе і зачыніў акно.

Чырванашчокага, з марозу, прапаршчыка сталяр сустрэў пры ўваходзе ў клуб. Падбег да яго, прыклаў руку да скроні і прамовіў: “Та-та-та-ва-рыш прапаршчык, там м-м-м-м-м-мор!”

У фотастудыі было цёпла і ціха. Пад намаляванымі ярка-зялёнымі пальмамі, бананамі, ліянамі, кветкамі і рознымі іншымі раслінамі ляжалі, як ападкі, стракатыя птушкі. Потым, калі Ігар згроб і склаў у кардонную скрыню птушыныя трупікі, то і палічыў. Папугайчыкаў было роўна “сто-д-д-д-ва-цаць пяць...”

## СЯРГЕЙ

Калі да нечага няздатны, то менавіта гэта неверагодна хочацца рабіць... Я спяваць не ўмею. Зусім. Не даў Бог таленту. Я спяваць не ўмею, а мой сябар Сяргей Дарашэнка спяваў добра. Сяргей працаваў у лазні. Усё, што там было і адбывалася – належала і падпарадкоўвалася яму. Былі і памагатыя – пара салдат з Калугі.

Калі Дарашэнка прыйшоў у лазню, то ён здолеў вельмі хутка навесці парадак. Лазня ў войску справа святая, як кухня...

Дарашэнка быў з Чарнігава, да войска наргас паспеў скончыць.

Сядзім мы ў лазні, каву п’ем молатую, шакалад ядзім, цукерачкі з пячэннем трушчым, а салдаты мыюцца, сварацца, крычаць. Памагатыя лазеншчыка чыстую бялізну, ручнікі і анучы выдаюць. Сяргей раптам падыдзе да дзвярэй, акенца адчыніць, руку ў распраналку выцягне, схопіць, хто пад яе трапіцца.

“А зайдзі, салдат, да мяне”, – скажа ласкава і дзверы сам адчыніць. Перапалоханы салдацік у споднім стаіць і на нас з Сяргеем няўцямна глядзіць...

“Нешта сумна мне, салдат... Заспявай песню... І таку сумну-сумну, пра рідну бацькіўшчыну”, – просіць Сяргей салдата.

Той праспявае, як можа. Большасць спяваць не ўмела, як і я. Сяргей дасць байцу чысты камплект споднягa, дзверы прычыніць, кавы глыне і сам пачынае ўкраінскую песню цягнуць.

Добра спяваў мой армейскі сябар. Голас меў мяккі і густы, мог і высокія ноты выводзіць, і нізкія. Пра гетмана Сагайдачнага любіў спяваць, пра казакоў, якія па-під гарой ідуць... Пра маці, якая стаіць, біля хаты... пра Галю, вядома... Пра Днепр, які раве тай стогне, сярдзіта хвалі падыма...

Наслухаўся я за паўтара гады песень украінскіх прыгожых, павывучваў многія, але толькі і магу, што пераказаць...

Аднаго разу зацягнуў Сяргей у свой склад салдаціка маленькага і хударлявага. Папрасіў, каб той песню сумную заспяваў. Салдацік паглядзеў на мяне, потым на суворага лазеншчыка Дарашэнку, стаў спінаю да паліц з бялізнаю і заспяваў...

У мяне пячэнне з рота выпала, а Сяргей сеў і галаву рукамі абхапіў... Потым падцягваць узяўся. За дзвярамі нехта лаяцца пачаў, у акенца пагрукаў...

Сяргей акенца адчыніў і сказаў, каб усе заткнуліся, а калі не, то ён ваду гарачую адключыць. Мог ён такое зрабіць. Мог! Рэзкі быў хахол. Сапраўдны.

Салдацік спяваў далей, як нічога не здарылася. Мы таго хлопчыка кавай напаілі, цукерак далі, бялізну самую новую, па памеры... Што за песня была? Італьянская, чуў яе потым у выкананні Паварoці. Вельмі сумная, як знарок, пад той настрой вайсковы. З “Гнесінкі” салдацік аказаўся, з другога курса ў войска забралі...

Я на пару тыдняў раней за Дарашэнку дамоў пайшоў. Потым атрымаў ад Сяргея запрашэнне на вяселле. Я ж партрэт яго нявесты з фотаздымка намаляваў. Прыгожая дзеўка, як тая ружа.

## СОН ПРА ДАРОГУ

Свяціла сонца. Высокае, сляпучае, летняе. Вакол поле з травой, сосны на пагорках, лес на даляглядзе сасновы. Праз поле дарога жоўтая, пясчаная. На пяску сляды: птушыныя, чалавечыя, капыты конскія адбіліся... Пясок здаецца залатым, мяккім і цёплым. Так і хочацца на яго стаць. Быццам іду па дарозе, а слядоў не пакідаю. Спыняюся, з нагі на нагу пахістваюся, а слядоў не пакідаю...

Куды гэтая дарога, адкуль? Здаецца, знаёмая, нават вельмі, а сваіх слядоў на ёй не бачу.

Прачынаюся. Босым нагам халодна ад каменнай падлогі. У дзверы майстэрні грукаюць...

## ВЕРШЫК

Ігар Сыч моцна спазніўся з горада. Быў упэўнены, на КПП свае хлопцы з роты аховы, таму ўсё будзе добра. Але не пашанцавала, бо і камбат аказаўся там, некага выйшаў сустракаць. Мала таго, што салдат спазніўся са звальнення, яшчэ і гарэлкай ад яго пахла...

Ігара пасадзілі на гаўптвахту.

Ён падмятаў тэрыторыю побач з дошкай гонару, на якой я замяняў выцвілыя фотаздымкі пажарнікаў-герояў. Сыч папрасіў цыгарэту, я аддаў яму пачаты пачак. Мы схаваліся за высокую дошку гонару і закурылі.

Ігар выглядаў задаволеным. Аблізваў рот і расказаў пра дзеўку, з якой бавіў час у інтэрнацкім пакойчыку. Дзеўка тая з Тарусы, працуе ў метро... Пакурылі і вярнуліся да сваіх заняткаў. Увечары я прыдумаў два радкі.

Пакуль на каленях салдата дзяўчына,
То нахер ідуць і камбат, і айчына!

Калі сустрэў праз колькі дзён вясёлага Сыча, то прачытаў яму вершык. Салдат задумаўся, зморшчыў дробны твар у кулачок, падумаў і сказаў, што хоць так і было, але верш кепскі.

## КУХАР

Не памятаю, калі і пры якіх абставінах мы пазнаёміліся, а потым пасябравалі. Кухар Толік Вузкі любіў парадак і дысцыпліну. Ён хадзіў па кухні, сярод гарачых чорных пліт, вялізных катлоў і патэльняў у ідэальна белым халаце і такім жа белым каўпаку. У кішэні галіфэ насіў сцізорык з чорнымі тронкамі, на тонкім ланцужку. З Толікам ні прапаршчыкі, ні начальнік сталовай не спрачаліся, слухалі, хоць ён і быў звычайным салдатам.

Калі Толік працаваў ноччу, то тэлефанаваў мне і пытаўся, ці не хачу я перакусіць. Вядома, мне хацелася есці, і я прызнаваўся, што галодны. Ён прасіў адчыніць жалезныя дзверы з вуліцы, каб не ісці праз плац, і праз чвэрць гадзіны прыходзіў да мяне ў майстэрню з ежай. Мы сядзелі за вялікім сталом, елі і гаварылі, слухалі музыку з прыёмніка. Толік расказваў пра бацькоў, пра малодшую сястру, пра свой украінскі гарадок. Ён не прасіў мяне, але я яго некалькі разоў намаляваў у высокім белым каўпаку, ружовашчокага, сінявокага, сумнага, як П'еро...

Намаляваў і аддаў малюнкі, бо навошта яны мне.

Калі мне да дэмбеля заставалася дзён дзесяць, а кухару паўгода, ён прыйшоў да мяне ў майстэрню ноччу, прынёс яшчэ гарачай смажанай рыбы ў кардонках ад рафінаду, і мы сядзелі і моўчкі елі. Калі паелі і памылі рукі, то кухар адшпіліў ад карабінчыка свой знакаміты сцізорык. "Няма ў мяне нічога лепшага за гэты ножык... Вазьмі яго сабе. Будзеш хлеб ці што іншае кроіць, аловак вастрыць – пра мяне падумаеш... Мне і будзе добра. Бяры-бяры", – сказаў Толік Вузкі, расклаў сцізорык, выцер лязо аб калашыну, зашчоўкнуў.

З тым ножыкам я прахадзіў гадоў дваццаць пяць. Лязо стачылася, зрабілася вузкім, але рэзала добра. З тым ножыкам я і на рыбу, і ў лес. Хадзіў, пакуль не згубіў на рацэ, у высокіх трыснягах на беразе Вушачкі. Перажываў, спрабаваў шукаць, але марна.

## ДЗЁННІК

Калі больш-менш асвойтаўся і разабраўся, што да чаго, калі па вечарах і начах з'явілася магчымасць заставацца сам-насам у майстэрні, то пачаў рабіць запісы ў вялікі сшытак з кардоннай вокладкай. Чытанне кніжак і пісанне дзённіка – самыя лепшыя моманты майго вайсковага жыцця. Дзённік пісаў па-беларуску, чорным атрамантам і алоўкам. Запісваў сны, вершы, будзённыя падзеі, размовы. А таксама пазначаў, каму і што зрабіў... Заўважыў, што калі настрой добры, то почырк роўны, амаль каліграфічны, пішацца лёгка.

Акуратных запісаў у вялікім сшытку было мала. Можа, з дзесяці адзін. Калі атрымаў адпачынак, то сшытак некалькі разоў перахоўваў, каб не везці з сабой. Баяўся, што знойдзе начальнік клуба, прачытае. Вярнуўся – дзённік на месцы, пад планшэтам, а на ім дошкі, паўзверх вёдры з засохлай фарбай. Зноў, па начах, пачаў рабіць запісы. За месяц да дэмбеля, калі пасварыўся з начальнікам клуба, дзённік, лісты ад бацькоў, сяброў і жонкі – знішчыў, як і некаторыя фотаздымкі.

Памятаю той цёплы вясновы вечар. Памятаю, як гарэлі старонкі з запісамі, датамі, прозвішчамі, вершамі. Кардонная вокладка скруцілася, зрабілася рудой, а потым загарэлася. Паліў на вуліцы, пад вокнамі майстэрні, у бляшанай скрыні. Выкалаціў попел пад бетонны паркан, пачакаў, пакуль бляха астыне, занёс яе ў калідор. Зачыніў майстэрню і пайшоў начаваць у казарму.

Раніцай салдат, які дзяжурыў у клубе, расказаў, што пасля мяне прыходзіў прапаршчык і доўга сядзеў у майстэрні. Што ён шукаў, што хацеў знайсці?

Маладому салдату даў колькі цыгарэт з фільтрам.

## СОН ПРА ЖОНКУ

Перон. Платформа. Зялёны цягнік. Правадніца прыспешвае, і я заходжу ў вагон. Хутка іду да акна. Адсоўваю фіранкі. На пероне толькі жонка. Яна глядзіць на мяне. Дастаю з сумкі фотаапарат. Пстрыкаю, пстрыкаю... Цягнік торгаецца. Павольна сунецца. Упэўнены, што фотаздымак не атрымаецца, таму апускаю камеру і спрабую запомніць жончын твар, шыю, рукі, вусны... Жонка знікае з кадра. Толькі перон. Чорныя шпалы. Гэты сон будзе паўтарацца, а я прахоплівацца і глядзець у цемру.

(Дзіўна, але здымкі атрымаюцца. Я павешу жончын партрэт на белую сцяну майстэрні, і яна будзе побач. Павісіць той партрэт нядоўга, бо мне не спадабаецца, як на маю Алену глядзяць прапаршчыкі, афіцэры і салдаты. Я пачну раўнаваць і жончын партрэт здыму са сцяны і схаваю ў стол).

## РЭМАРК

На маскоўскай тытунёвай фабрыцы "Ява" здарыўся вялікі пажар. На тым пажары нашыя байцы добра разжыліся самымі рознымі цыгарэтамі, папяросамі і тытунём. У брыгадзе пачалі курыць нават тыя, хто не курыў.

Праз колькі дзён і ў майстэрні з'явіўся белы скрутак, падобны на дрот. Ён вісеў на цвіку, у тым куце, дзе стаяў станок і магнітафон. Гэта была даўжэзная цыгарэта – метраў восем. Цяпер дастаткова было падысці з

нажніцамі і адрэзаць сабе цыгарэту любой даўжыні, хоць кароценькую, хоць доўгую, як новы аловак. Дзіўна глядзелася такая доўгая цыгарэта без фільтра ў маіх запэцканых фарбай пальцах. Прынёс той скрутак, у якасці ганарару, сантэхнік з нашай роты. Звалі яго Віця, мянушка – Клешч.

Сантэхнік праслужыў год, збіраўся ў адпачынак, і можа, месяц, кожны вечар вісеў на турніку, падкідаў пудовую гіру, пацеў, качаў прэс і з задавальненнем расказваў, як прыедзе ў свой Арол, дзе яго чакае нявеста. Кляшча слухалі, Кляшчу зайздросцілі... Тэрміналогія апісання той хуткай сустрэчы была пераважна сантэхнічная, звязаная з трубамі. Зразумела, хто на што вучыўся.

Віця, калі па-хуткаму адрамантаваў у майстэрні кран, убачыў на стале малюнак дачкі стаматолага, падумаў і папрасіў намаляваць з фотаздымка яго нявесту. Фотаздымак у Віцькі быў пры сабе, у кішэні гімнасцёркі, лічы, на сэрцы. Я пагадзіўся і за наступны вечар зрабіў невялікі партрэцік на шчыльнай паперы. Намаляваны каляровымі алоўкамі, карычнявата-вохрысты, з зялёнымі вачамі, партрэцік выглядаў “гламурна”, але тады гэтае слова не ўжывалася. Віцька надзьмуўся і выдыхуў: “Пі...дата выйшла!” Я паабяцаў запаяць малюнак у цэлафан, каб было яшчэ прыгажэй...

Па партрэт нявесты Віця з’явіўся нечакана. Ён доўга здымаў зялёны гумовы плашч “хім-дым”, асцярожна дастаў з-пад яго белы цыгарэтны скрутак. Пад гімнасцёрку, як сцяг, сантэхнік схаваў выяву нявесты.

Але ў адпачынак Клешч не пайшоў. Ён трапіў на гаўптвахту, бо напіўся, калі даведаўся, што яго нявеста выйшла замуж. Партрэт зеленавокай дзяўчыны, сантэхнікі расказалі, Клешч таптаў, біў кулаком, пляваў на яго, потым раздзёр на кавалкі...

Ёсць дзіўнае адчуванне, калі чытаеш твор пра вайну, пра тое, як салдатам хочацца курыць... Чытаеш, і не верыш, што так моцна можа хацецца курыць.

Эрых Марыя Рэмарк “На Заходнім фронце без перамен”: “цыгарэта, хоць і здавалася доўгай, але хутка скончылася”.

## ТОМАС МАН

У сталоўцы да мяне падсеў сяржант. Ён падышоў, калі я сёрбаў з жалезнай місачкі капусту. Паставіў на стол белую кардонку, пасунуў яе да мяне. На кардонцы сінеў надпіс “рафінад”. Быў у той кардонцы і цукар, пяць “шайб” масла, пачак заваркі, пачак цыгарэт “Тройка” і пяць шакаладных цукерак. Сяржант закрыў кардонку і сказаў: “Гэта табе, потым яшчэ дам... Хачу нешта паказаць, Уладзімір”, – сказаў і пасунуў кардонку да місы з нясмачнай капустай.

Сяржанту з горада Растова да дэмбеля заставалася два з паловай месяцы, а мне амаль год. Пасля сталоўкі ён знайшоў мяне ў клубе, у майстэрні. Расшпіліў гімнасцёрку, зняў праз галаву белую саколку. На левай грудзіне сінеў партрэт кучаравай дзяўчулі – шчакастай, танкаротай, вочы, як у каровы. Сяржанта звалі Барыс. Ён растлумачыў, што гэтую Тамару трэба знішчыць, бо цяпер у яго другая, але зразаць татуіроўку ён не хоча, і ці нельга гэты партрэт перарабіць. Ён паказаў каляровы фотаздымак каротка падстрыжанай дзяўчыны ў белай кашулі, светлавалосай.

Самаробным кіпяцільнікам з дзвюх рудых лыжак я зтатаваў ваду, засыпаў у слоік запарку і сказаў, што калі б кароткавалосую на кучаравую,

то можна было б паспрабаваць, а наадварот не атрымаецца. Папілі чаю з цукеркамі і расчараваны сяржант пайшоў.

На сняданку ён ізноў падсеў да мяне з пачастункамі. Відаць, доўга думаў. Цяпер ён прапанаваў закрыць кучаравую іншым малюнкам, але не жаночым партрэтам, а чым-небудзь “баявым” – пажарная машына, полымя, шчыт...

Наступным вечарам, напаўраспрануты, Барыс стаяў перад люстэркам у майстэрні і прыкладаў да грудзіны шалёсткую празрыстую кальку, на якой былі намаляваныя пажарная машына, арол, шчыт. Сышліся на тым, што ўсё гэта не тое і я павінен падумаць...

Нарэшце я знайшоў галаву тыгра з разяўленай пашчай, белымі ікламі, вусамі. Гэта быў плакат “Rolling Stones”. Пыса тыгра выдатна закрывала твар кучаравай дзявулі. Сяржанту і малюнак, і сама ідэя спадабаліся неверагодна, ён сказаў што гэта “п...здата, ты – сапраўдны мастак”! Забраў кальку і заспяшаўся ў казарму.

За дзве ночы “кольшчык”, ён жа паркетчык з гаспадарчай роты, сваю справу зрабіў... Але нешта парушыў з гігіенай. У сяржанта Барыса падскочыла тэмпература. Ён трапіў спачатку ў наш лазарэт, а потым у шпіталь. Скура не гаілася, тэмпература трымалася пад сорак амаль тыдзень... Ні масла, ні цукерак я не дачакаўся.

Праз паўгода ў майстэрню прыйшоў паркетчык, руды і сінявокі. Сказаў, што хоча такога ж тыгра, як некалі ён зрабіў сяржанту Барысу. Я дачытваў “Доктара Фаўстуса”, ежы хапала, а таму і адмовіўся.

## ФЛАБЕР

У мяне паламаўся станок, на якім я вастрыў розныя нажы і ножыкі, паліраваў спражку з зоркай, даводзіў лязо скальпеля, якім рэзаў трафарэты. Работа спынілася. Мне прыслалі з гаспадарчай роты салдата-электрыка.

Прозвішча Лёшкі не памятаю, бо яно звычайнае, беларускае, а вось мянушка была выразная – “Дзіравы”. Ён сам усім і расказаў пра бяду, а калі сам расказаў, то сам і вінаваты.

Гісторыя такая. Дзеўка, з якой Лёшка гульнуў толькі раз – зацяжарыла. Было тое ці ў Глуску, ці ў Клецку, не памятаю. Хлопец жаніцца з ёй не збіраўся. Прычынай непажаданай цяжарнасці аказаўся дзіравы прэзерватыў. Смешна? І я смяўся, бо заўсёды думаў, што гэта байка. Лёшку давялося жаніцца. Нарадзілася дзіця. Лёшка тэхнікум скончыў. Восенню ісці ў войска. Лёшка з жонкай пачалі старацца і шчыраваць, каб з’явілася на свет і другое дзіця. Але не атрымлівалася, не цяжарыла жонка, хоць ты забіся. У лістападзе 1983 года Лёшку забралі ў войска.

Рухавік у тачыльным станку Дзіравы адрамантаваў. Памыў рукі і ўзяў са стала, я не паспеў схаваць, кніжку Флабера “Мадам Бавары”. Разгарнуў, прачытаў абзац і закрыў.

Праз пару месяцаў Лёшка хадзіў па брыгадзе шчаслівы. Яго жонка нарадзіла напрыканцы жніўня 1984 года. Салдаты, сяржанты і афіцэры гнулі пальцы, спрабавалі вылічыць, ці Дзіравага тое дзіцё.

А станок, адрамантаваны Лёшкам, працаваў да апошняга. Рукі ў Дзіравага былі залатыя.

## СОН ПРА БАЦЬКУ

Бацька стаіць пад вялікім дубам босы. Побач кошык з грыбамі. Грыбы розныя, акуратна зрэзаныя. І стары ножык ляжыць у кошыку. Бацька прыкурвае папяросу. Задзірае галаву і смяецца. Не магу зразумець, чаму ён пайшоў у лес босы?

## РУКІ

З Валодзькам Ламскім я пазнаёміўся ў цягніку, які вёз мінскіх прызыўнікоў у Маскву. Што нас чакае там, – мы не ведалі. Валодзька невысокі, кучаравы, яго пакуль не абстрыглі, насаты і лупавокі, не піў, не курыў. Кампанейскі хлопец з вышэйшай адукацыяй. Скончыў бібліятэчны факультэт у нашым “Кульку”, і яго забралі. Меў ён звычку разглядаць свае пазногці – круглыя, ружовыя, амаль ідэальныя. Спачатку ўсё ў салдата Ламскага ішло як і ва ўсіх – херова: ні пажэрці, ні паспаць, ні памыцца, падай, прынясі, зрабі, прышый, памый, атрымай у бачыну, ці па нырках...

А потым, месяцы праз тры, жыццё наладзілася. Валодзька ўладкаваўся ў бібліятэку. Пра такое можна толькі марыць. Кніжкі, газеты, часопісы, у горад, ці не праз дзень, можна ездзіць па пажарных частках прэсу развозіць, штодня на пошту хадзіць, чай, кава ў бібліятэцы за паліцамі, цукар, пячэнне, сухары з разынкамі. На падваконнях кветкі, чыста і цёпла, а калі халодна, то можна і каларыфер уключаць. Наведвальнікаў амаль не бывае. Начальнік у Ламскага – жанчына-прапаршчык. Ціхая, кучаравая, непрыгожая ў кіцелі з пагонамі. Ведаю, што не я адзін зайздросціў свайму земляку, калі праз паўгода прыходзіў набраць кніжак. Ён даваў мне Томаса Мана, Германа Гесэ, Чэхава, Фіцджэральда і дзівіўся, як я гэта чытаю...

Кніжкі нечапаныя, свежыя, як толькі з друкарні.

Валодзька зрабіўся тлустым ад сытага і бесклапотнага жыцця. На стомленых і змучаных службай салдатаў паглядаў грэбліва. Хваліўся, што хутка ў адпачынак паедзе. Ламскі ведаў усе амерыканскія штаты, лёгка называў сталіцы нават дробных краін у Афрыцы, прозвішчы палітычных дзеячоў і шмат іншага. Здаралася, што мае клубныя прапаршчыкі не маглі разгадаць красворд і тады, праз штабны камутатар, тэлефанавалі Ламскаму. Ён адказваў амаль імгненна, вось памяць у чалавека. Здаралася, што ён і ў клуб прыходзіў, кіно паглядзець. Ніколі не спаў, глядзеў на экран уважліва, як на свае ідэальныя пазногці.

Ці ён спакусіў кучаравую і непрывабную бібліятэкарку, ці яна гаваркога і чысценькага салдата – не ведаю, але закруцілася жыццё. Ды так закруцілася, што дзверы бібліятэкі не адчыняліся, калі я прыносіў кніжкі, каб памяняць, каб пасядзець у цішыні і чысціні.

Скончылася ўсё кепска. Афіцэр, здаецца, старлей, муж бібліятэкаркі, нечакана прыехаў у брыгаду, прыйшоў да жонкі, дзе і заспеў каханкаў. Пачаў біць Ламскага і жонку, але прыбеглі штабныя афіцэры і не далі, адцягнулі старлея, рукі закруцілі.

Бібліятэка два тыдні не працавала. Ламскага забралі ў горад, у пажарную роту, дзе і пачаліся ягоныя пакуты. Старлей папрасіў сяброў-начкараў, каб тыя заняліся Ламскім. У начкараў таксама ж былі жонкі. Тыя даручылі справу выхавання салдатам. Прыніжаныя і затраханыя салдаты ўспомнілі Ламскаму і цёплую чысценькую бібліятэку, і жанчыну, няхай сабе і кучаравую, і печыва, і сухарыкі з разынкамі.

У брыгаду Ламскага не прывозілі, у лазню ён не хадзіў... Калі атрымлівалася паспаць пару гадзін за суткі, ён гэтаму радаваўся. Мне трэба было завезці ў тую роту, дзе служыў Ламскі, некалькі планшэтаў з нагляднай агітацыяй. Валодзьку я не пазнаў. Яго вочы мігалі і слязіліся, паголены ён быў кепска, гімнасцёрка брудная і смярдзючая. Пазногцяў на пальцах амаль не было – ружовыя, амаль ідэальныя пазногці з'ела пена, якой салдату даводзілася мыць памяшканні. Гэтай пенай напампоўвалі цыстэрны пажарных машын, а таксама чырвоныя балоны, якія вісяць на сценах...

Праз чатыры месяцы Валодзька Ламскі трапіў у дурку, бо спрабаваў скончыць жыццё самагубствам. Яго доўга лячылі, а потым камісавалі, а я працягваў служыць, хадзіць у бібліятэку. Ман, Фолкнер, Гесэ, Айдаха, Мічыган, Каларада, Будэнброкі, Мэн...

## ГУЗІК

Шынель мой новы, доўгі, руды. З сярэдзіны, пад каўняром, на падкладцы, падпісаны хлоркай. Тры літары і нумар з ваеннага. Гузікі я перашыў сумленна, каб шынель не быў такім шырокім, а караціць-падразаць, як тыя, хто праслужыў больш за паўгода, баяўся. Так і хадзіў. Спяшаўся да КПП, ногі запляталіся, блыталіся ў доўгім шынялі.

На КПП, у маленькім пакойчыку, мяне чакала жонка. Яна яшчэ не ведала, што нашае спатканне будзе кароткім, вельмі кароткім. Я і сам не ведаў, наколькі кароткім, але яшчэ спадзяваўся, што неяк атрымаецца. Брыгаду перавялі на ўзмоцнены рэжым, а гэта азначала, што ўсе звальненні – адмяніліся, а выхад у горад – забаронены. Нават афіцэры цяпер начавалі ў казармах.

На КПП стаялі хлопцы з нашай роты і глядзелі на маю жонку. Яна стаяла ў куце, у новай куртцы, раней я яе не бачыў. Мы пацалаваліся, як дзеці – сарамліва і спалохана. Жонка пачала расказваць, як ехала ў цягніку, як раніцай падрала новыя калготкі і расплакалася ад крыўды, а потым правадніца яе пашкадавала, дала ніткі з іголкай, дазволіла зашыць у сваім купэ... Алена пералічвала прывезеныя пачастункі, расказвала, што дамовілася са сваёй цёткай і тая прыме нас, дазволіць пераначаваць... Жонка гаварыла ўсхвалявана і радасна, я ж рабіўся ўсё больш і больш змрочным, амаль пачарнеў, а рукі калаціліся, бо мне трэба было растлумачыць, што дарма яна ехала ў Маскву, што мяне не пусцяць, што ўсё кепска...

Зазірнуў у пакойчык сяржант з павязкай на рукаве і паказаў пальцам на свой гадзіннік. Сяржантаў твар – злосны і зайздросны адначасова. Дзверы зачыніліся, і раптам жонка крыкнула і тарганулася. Яна ўбачыла прусака, які бег па падваконні. Вялікі руды прусак з вусамі. Гэта і вярнула мяне да свядомасці. Я скінуў прусака на падлогу і растаптаў. Пасля гэтага змог гаварыць, змог растлумачыць, як усё кепска. Алена стрымалася, не заплакала. У пакойчык увайшоў прапаршчык, а потым лейтэнант, і я ўсё зразумеў.

Я ішоў ад КПП у клуб. Ішоў і круціў верхні гузік на сваім шынялі. Калі дайшоў да пляца, то бліскучы гузік з зоркай быў у мяне ў кулаку, а з шыняля, як джала, тырчалі чорныя ніткі.

Той гузік з зоркай я прывёз дамоў. Ён і сёння ёсць, недзе ў скрынях, у шафе з рознымі паперамі і дробнымі, збольшага непатрэбнымі рэчамі.

Ляжыць пачарнелы, пазелянелы...

*2014 год.*

Рагнед Малахоўскі



...Нябёснай асалодай наталіцца
Ці здолее сасмяглая душа?..

# Рамантык гіне

* * *

Абдымкі маленства сціскаюць душу...
На ўзлеску жадана сарвецца ажына.
Вярніся! Вярніся! Адчайна прашу.
І босыя ногі пазнае сцяжына...

Сустрэнемся там, дзе блукае жыццё,
Дзе лёгкасцю дзіўнай напоўняцца грудзі,
Дзе ззяннем вясны маладзее лісцё,
Дзе штосьці было і чагосьці не будзе.

І стане блакітным сівы далягляд,
І снегам пухнатым вітаюць таполі...
Няхай на імгненне – сустрэўся пагляд,
Што ў сэрцы жыве, што не вернеш ніколі.

### БЛУКАННІ

*У. Л.*

Цябе даўно ў гарачых снах маіх няма,
Бо мы блукаем па сусвеце, як прывіды.
На Беларусі пачынаецца зіма,
А недзе хвалі амываюць піраміды...

Самота знікне у пустэчы ледзяной.
Мы прысвяцім жыццё наіўным успамінам.
Не пакідае мара: з першай сівізной –
Цябе спаткаю я ў заснежанай краіне.

А недзе сонейка пяшчоціць далягляд...
Я зноўку ў снах сваіх заснежаных блукаю.
Душу вярэдзіць развітальны твой пагляд.
Хутчэй вяртайся да жыцця свайго. Чакаю.

### БЕРАЖНІЦА

Беражніца, багіня азёраў,
У прадонні густой цішы
Пахавай назаўсёды гора,
Зберажы скарб душы.

Беражніца, хімера паэта,
Наталіцца каханнем дай
І натхненне з свайго сусвету
Для мяне адшукай.

Беражніца, дзяўчына зямная,
Не цурайся, прэч не бяжы.
Твая цнота душу апякае.
Маладосць зберажы.

Беражніца.
Румяны заранкі
Асляпляюць красой жывой...
Калі ў сэрцы
Сумненняў маланкі,
Вір жыцця супакой.

Беражніца, вадзіца святая,
Жыццядайная моц твая.
Калі хваля бяжыць залатая,
Ачышчаюся я.

## *ПАВЕРЫЦЬ У ВОСЕНЬ*

Хочацца верыць, што гэта лістота ўваскрэсне.
Ціхі агонь заірдзеў між задумлівых дрэў.
Шызых нябёсаў ліецца панылая песня.
Як зразумець гэты слёзна-трывожны напеў?

Хочацца верыць, што вернуцца птушкі дадому.
Іншага дому у іх і ў мяне не было.
Сэнс гэтай восені я да канца не ўсвядоміў.
Толькі б вярнуліся птушкі і ўсё ажыло.

Хочацца верыць, што восень палюбіць паэтаў.
Кожны згарэлы лісток – ненапісаны верш.
Кроплі дажджу неўгамоннага – безліч сусветаў.
Чулую восень палюбяць паэты найперш.

Хочацца верыць у восень, якая не плача.
Полымя не пагасае ў пагоднай душы.
Стану між клёнаў крамяных і, можа, на ўдачу
Кіну лісток у калюгу на слізкай шашы.

## *АДЗІНОТА*

Мігцяць над светам цьмяныя агні...
Няшчыры вецер шэпчацца з лістотай...
Каб жыць і не згубіцца ў мітусні,
Ратуюся шчымлівай адзінотай.

Яна блукае між высокіх сцен,
Што мы ўзвялі, каб не глядзець у вочы,
Каб не жадаць у душах перамен...
Ёй добра так. Інакш яна не хоча.

Загляне ў адзінокае акно,
Што поўнач ветлай свечкай сустракае.
Акно, нібы душы замшэлай дно...
Нам сціпла адзінота спачувае.

Наканаваў быць разам бурны лёс –
Прасцейшыя не разумеем рэчы.
І ранкам, узляцеўшы да нябёс,
Яна ў прыбой ныpae чалавечы.

* * *

Мінаюць ночы і сыходзяць дні...
Чаму не беражэш таго, што маеш?

Юнацтва засыхаюць карані,
Калі каханне першае губляеш.

І нават не задумаўся, чаму
Дзяўчынка тая позірк свой хавае...
А ты, як злодзей, маску нацягнуў
У пошуку душы, што пакахае.

Рамантык гіне. Вір жыцця круты...
Імклівага кахання пульс радзее.
Ды па-над прорвай хочаш верыць ты:
Былы адчай абернецца надзеяй...

Змяняюцца шляхі і гарады...
Сысці б на таямнічым тым прыпынку,
Дзе сціпла, праз шалёныя гады,
З мінулага ўсміхаецца дзяўчынка.

* * *

*Юрасю Васілевічу, сябру дзяцінства*

Помню Гатавічы. Купалле.
Ля кладоў на аголеным беразе
Мы праз вогнішча дзецьмі скакалі —
І найлепшага шчасця не ведалі.

Злосна вецер хістаў полымя...
Мы ў вачах бераглі тыя іскаркі,
Акуналіся ў возера голымі
І начной захапляліся містыкай.

Помню ўсмешкі дзяўчат. Купалле.
Ноч чарнела вуголля палоскаю...
А сяброўкі нам песні спявалі —
Адгукалася рэха за вёскаю.

Кветку папараці шукалі,
Каб спаткаць сваё шчасце да рання.
Помню зорак над намі каралі,
Што ўжо многім спаслалі каханне.

Лёс не даў у жыцці нам прапасці.
Свет дарослых такі ж прамяністы.
Ды ці зведалі большага шчасця,
Чым агонь трапяткога дзяцінства?

* * *

Я вярнуўся з чужынных мясцін,
Болей лёс мой там крочыць не хоча.
Твае рукі – на целе маім –
Як пяшчотныя хвалі Нарочча.

Мы пакрочым па ціхай вадзе...
Светлячок дыяментавай зоркі
Адзінокі па небе брыдзе
Асвятляць прыбярэжныя ўзгоркі.

Беражэ нас азёрны спакой
Ад спакусаў вірлівага свету.
Дакранешся адданай рукой
Да гарачага сэрца паэта.

У дыханні святой цішыні –
Надвячорак рубінава-росны.
Толькі падаюць зорак агні,
Дзе шумяць нарачанскія сосны.

## РЭКІ

*Віталю Скалабану*

Калісьці і сонца ў сцюдзёных нябёсах астыне...
Ды сёння жыццё нам умовы дыктуе свае.
І рэкі ў нямы тагасвет накіроўваюць плыні...
Бяссонныя рэкі... Ім сілы даўно не стае.

Адкуль тая сіла... Яна, як стагоддзяў магіла.
Равуць па-над безданню-прорвай вятры-змагары.
Прымружыцца неба, што наша жыццё бараніла, –
І рэкі выкручваюць плыні ў крутыя віры.

Над прорваю – людзі, як дрэвы. І пахне жывіцай.
І выкрыкне хтосьці ў пустэчу надрыўна: “Жыві!”
А неба самотна і стомлена ў рэкі глядзіцца...
Блакітнае неба – у рэкі блакітнай крыві.

## ВЯСЛЯР

Белым лебедзем месяц плыве...
Я вяслую ў жаданыя далі.
У касмічнай чужой сіняве –
Сонных воблакаў мутныя хвалі.

Праз спакусы жыцця – напралом –
Я вяслую бадзёра, адчайна.
І рыпіць у напрузе вясло –
Будзіць возера даўнюю тайну.

Столькі думак аб вечным і кроз...
Набрыняла спакоем свядомасць.
Толькі лебедзь плыве, як мой лёс,
З невядомасці. У невядомасць.

* * *

Заліта поле сонечным віном,
Хаваюцца пабляклыя валошкі.
Камусьці шчасце грукаецца ў дом,
А хтосьці для сябе габлюе дошкі.

На босы дол вятрыска упадзе,
Калоссе і валошкі пералічыць.
Як людзі, адлюструюцца ў вадзе
Разгатыя дубы на папялішчы.

Над возерам, акрытым цішынёй,
Стаіць, як здань, пакінутая хата.
Камусьці жыць маркотнаю гульнёй,
А іншым пазіраць на лёс заўзята.

Развее вецер думак чараду,
Дзе мары, як віно, не маюць толку.
Аб чымсьці плача, гледзячы ў ваду,
Анёлак на валошкавым узгорку.

## *АГОНЬ НА ДАЛОНІ*

Уцешна слухаць песню хваляў родных
Пад ліпамі нябёснай вышыні.
Каля крыніц вытокаў срэбнаводных
Лічу бяздумна страчаныя дні.

У шатах ночы пакланюся зорам.
Яны мудрэй мяне, шчадрэй святла
Запалкі той, што вогненным узорам
Цень д'ябла спапяляе ўміг датла.

Ці уратуе неба ад нікчэмных,
Бяздумных і сухіх калекаў-слоў?
Імкнуся ў свет пачуццяў узаемных,
Ды толькі прачынаюся ізноў.

Я не зайздрошчу ўсім тварэнням Бога
І спачуваю ссохламу галлю.
Знікае ў хмарах зорная дарога,
Далонь цярусіць попел на зямлю.

* * *

Няма каму сказаць: “Да пабачэння”,
Чарговы эпізод жыцця пагас
У прыцемках туманных сутарэнняў,
Абражаны хлуснёй, блукаў не раз.

Нябёснай асалодай наталіцца
Ці здолее сасмяглая душа?
Ды лёс мой – заўтра зноўку нарадзіцца
І піць каханне з зорнага каўша.

Пяе за шыбай вецер калыханку
На мове, зразумелай толькі мне.
Хвіліны падкрадаюцца да ранку.
Іх не спыніць, як не спыніць мяне.

Спяшацца ў заўтра, як агню, баюся.
Саломінку надзеі лёс падаў.
І выбар зроблены. Я застаюся
У тым жыцці, якое Бог мне даў.

### *РОЗДУМ НА ПРАСПЕКЦЕ*

Засмучоны стаю на праспекце,
Што асвечаны імем Скарыны,
Быццам слова ў студэнцкім канспекце –
Пошук сэнсу быцця і прычыны
Непамернага жалю ад страты
Філасофіі ісціны часу.
Толькі розуму танная плата
Захлынаецца пенай ад квасу,
Што, як праўда у куфлі свабоды,
Не дае да бяды дакаціцца.
Бо хлусні прысвячаючы оды,
З самазманам няцяжка змірыцца.
Ды малітва, як сонца ў тумане,
Над зямлёю – расколатым звонам.
Час стаіць, як анёл у падмане,
Па-над ісцінай, па-над законам.
Аб чым думаеш, пане Францішак,
Калі плачаш дажджом па праспекце?
Як спазнаць запавет тваіх кніжак,
Каб спасцігнуць сябе ў гэтым свеце?

Віктар Казько



...стагоддзі, умытыя чалавечай крывёю,
прагнуць толькі аднаго:
твораць і спараджаюць,
патрабуюць новай крыві...

# На кручку

***Нізка апавяданняў***

*Працяг. Пачатак у №№ 2-3 (75-76).*

## СУМНАЯ ГІСТОРЫЯ ПРА МАЙГО САМОТНАГА СОМА

Самы недзе былі. У вадзе. У возеры Вясковым. У якім, здаецца, часцяком я таксама бываў. Гэта быў вельмі памяшчальны свет, бо ў ім месціўся і я. Але ж іншым разам, хаця і падсвядома, мне было цеснавата там. Так мяне распірала ад таго, што я меў і быў. Васямнаццаць азёр, дзве рэчкі, дубнякі, грабнякі, хваёвыя, кляновыя, ліпавыя ды ясянёвыя гаі, рэліктавыя. Нічога ўжо не кажучы пра алешнікі, бярэзнікі, ляшчыны з блакітным покрывам усмешлівых верасоў, някідкага зязюлінага лёну, са стоянымі ў іх спатыкачамі цыбатых рудагаловых баравікоў і чырвонай паводкай краснюкоў-падасінавікаў. І над усім, падобна, ніколі не заходнае сонца і бясхмарнае неба. А сярод такога хараства асляпляльны партрэт алеем – зразумела, я.

Рай. Хаця і сіроцкі, дзетдомаўскі, але рай. Толькі ўсё ж у тым раі, было такое адчуванне, мне чагосьці не хапала. Павінна было не хапаць. Таго, без чаго і раю не бывае, тым больш нашага, савецкага раю. Казачнае: ідзі туды, не ведаю, куды, вазьмі тое, не ведаю, якое. Такая ўжо ўласцівасць нашай чалавечай натуры: калі ўсё ёсць, няма чаго болей і жадаць, навошта тады і жыць.

І ў сваім дзіцячым раі я бясконца і хціва нечага чакаў, жадаў, прагнуў. Жыццё на кожным кроку, кожнае імгненне шчодра адорвала мяне пяшчотай светлых нечаканак і дзівосаў, ад якіх заходзілася сэрца. А цела рабілася бязважкім. Як летні гуллівы ветрык, што адскочыў ад зямлі і ўжо канае, чапляе цябе толькі вёрткім хвосцікам, не паліць, не халодзіць, а лашчыць і абяцае. І ты хапаешся за той ветравы хвосцік і ляціш, лунаеш, падобна птушцы, таму ж буслу ці коршаку, што ў нерухомасці крылаў кружляюць у высокім небе, насалоджваюцца ім, скіраваныя ці не ў вечнасць. Туды, дзе нікому неўпрыкмет пасеяны ўжо і ты, парадненны, знітаваны з крылом і сэрцам птахаў.

З рыбай, тым жа сомам, такога яднання не атрымлівалася. Хіба толькі імгненнае, калі яна ўжо ўцякала, адчуўшы на сабе маё вока. Як толькі крадком я пачынаў цікаваць за яе гульнямі, яна адразу ж здымалася з калоднага і пясчанага мелкаводдзя. У большасці драбяза, плоткі, матросікі-акуньчыкі старчаком ішлі ўглыб, чырвонапёра рулюючы прыціснутымі ці распасцёртымі плаўнікамі і калярова насцярожанымі хвосцікамі. І так порсценька, што толькі гэтыя светлафорныя хвосцікі і завісалі ўваччу, не даючы свядомасці ўчапіцца за іх.

А я і не надта імкнуўся чапляцца. Бо ў прадонні глыбіні мне мроілася штосьці забароненае. Ужо сапраўднае тагасветнае прадонне, загусла пахмурнае, халоднае, дзе мне месца не мелася. Занятае яно ўжо было некім іншым. Не бачыў, не знаходзіў я сябе ў азёрнай бездані. А гэта была сапраўды бездань. Неяк мы ссеклі ў лесе і плавілі на чаўне жэрдку пад сцяг, мачту для нашай штовечаровай дзетдомаўскай лінейкі. Чатырнаццаць метраў у даўжыню. Пасярэдзіне Вясковага возера паспрабавалі вымераць глыбіню. Дна не дасягнулі.

Я ўпершыню адчуў страх перад вадой, яе бясконцасцю і неспасцiжнасцю. Нешта недасягальнае нашаму розуму таілася ў яе задумлівым, а часам, падобна, і з‘едліва пагардлівым спакоі адвечнай невымернасці. Хаця само возера з першага погляду скарала невыказнай, мо нават і незямной прыгажосцю, любасцю воку, хутчэй нават не возера, а магутнае рэчышча колішняй нашай ракі, сёння ж сціплай і рахманай, з абодвух берагоў абмежаванай палескім белым пясочкам ды рудымі багнамі рачулкі. Возера – знак лёсу. Возера – рэчышча жыцця. На схоне яго – старыца.

Праточнае вады Вясковае возера. Зверху і знізу ракі – уваходу рачной плыні і яе вытоку – раўцы. Нешырокія, што сцятае горла бутэлькі, бруістыя і вірлівыя. А далей, мо з кіламетр ці нават болей, пракаветная супакоенасць і роўнядзь у ціхмяных лілеях і гарлачыках – нашай палескай лотаці – вады, зацуглянай вячыстай аброццю дубоў. Дубоў у некалькі абхопаў. Неабдымных і сёння, а калісь, як сведчылі вясковыя дзяды, такіх, што на іх пні магла развярнуцца параконная падвода.

Можна верыць і не верыць. Хутчэй перабольшванне – мастацкі фальклорны свіст. Але ж як гэта ўласціва творчасці, у кожным баенні, кожнай казані і казцы – намёк. Намёк і дакор нашаму дню. А што тычыцца праўды

і было не было, само сабой, хоць і прымроілася, – было. Таму што магло быць – легла ж і засталося ў памяці. Так наш дзетдомаўскі вартаўнік дзед Гаўрыла, скарочана дзед Гаў, да самой сваёй смерці ўзгадваў і жаліўся, як тут яго ледзь не забіла, але ж пакалечыла магутная і блазнаватая рыбіна. Бялуга, якую нечакана падчапілі мясцовыя рыбакі. Рэдкая, а мо і не такая ўжо і рэдкая, праходная. А мо і зусім непраходная ў нашых рэках рыбіна.

Як бы там ні было, падчапілі, думалі, што калода. І нібыта сапраўды калоду, падцягнулі да берагу. Дзед Гаў, тады падлетак, стаяў на почапе. Почап той лузануўся з яго рук, зняўшы з далоняў скуру панчохай. А калодзіна жвавенька развярнулася і хвастом так улындзіла яму ў грудзі, што аж рэбры затрымцелі. І не дзеля краснага слоўца гэта моўлена. Дзед Гаў страціў прытомнасць. А калодзіна парвала невад, нібы той быў сплецены з павуціны, бліснула беллю лускі і сытым чэравам, пакінула Гаўрылу памяць аб сабе на ўсё астатняе жыццё, як аб вайне.

Зноў жа, вер і не вер, але дзед Гаў помніць і верыць. І я таксама хачу, жадаю і веру, гледзячы з крутога і высокага берага Старажоўкі на сённяшнюю, абяздоленую і ўтаймаваную бетонам Свіслач, у Полацку ад Сафійкі – на Заходнюю Дзвіну, ад Тураўскага замчышча – на неабсяжную далеч Прыпяці. Мелі мы рэкі, мелі воды – Герадотава мора – мелі ў іх рыбу. А сёння выхваляемся сажалкамі і хатнімі сажалкавымі карпамі па кошце – хіба што ад смерці.

Мае памкненні спадзявацца і давер да мінуўшчыны, не заўсёды пэўныя і асэнсаваныя – гэта таксама хутчэй колішняе, адвечнае ў нас, у нашай нашчадкавай памяці і натуры. Натуры ў свой час збіральніка і здабытчыка, што сёння здрабнела да так званага хобі. Паляўнічага, рыбака і тое, што спадарожнічае гэтым заняткам. Мала, мала чаго захавалася ў нас ад духу нашых продкаў. Хіба толькі пабольшала хіжасці, хцівасці ды спадарожнай ім жарсці. І невыразнага і невытлумачальнага суму і шкадавання, трывогі.

Але збытая мінуўшчына не толькі разбурае нас сёння, узбуджае і трывожыць, яна яшчэ здольна спакушаць і ўсцешваць падманнай загадкавасцю, першабытна страшыць і палохаць. Асабліва ў дзяцінстве, калі мы зусім яшчэ недалёка адбегліся ад свайго зачацця, падсвядомай еднасці са сваімі папярэднікамі, не разарвалі яшчэ пупавіну, што да пары да часу нябачна нітуе нас з імі. Менавіта ў змроку яшчэ няцямнасці з яе пранізлівай пранікнёнасцю ўжо не звярынай, але яшчэ і не чалавечай, якая адзіна і дазваляе захоўваць повязь з усім існым на гэтым белым свеце, жывым і мёртвым.

Я адчуваў непарыўнасць сваёй загадкавай і таямнічай дачыненасці да ўсяго існага, што ў тым ці іншым стане акаляла мяне. Палохаўся, жахаўся, радаваўся. І меў для гэтага трывалыя, мо і нададзеныя звыш, а больш набытыя ў штодзённасці падставы. І як іх не мець, калі ёсць такое першабытнае райскае люстэрка існасці. Возера без дна. Рыба бялуга, якая ледзь не ўцягнула за сабой на той свет дзетдомаўскага вартаўніка дзеда Гава.

А яшчэ, па ўспамінах вяскоўцаў, на беразе ракі і возера некалі раслі сібірскія кедры. Пра тое, што гэта не байкі, сведчаць шматлікія спробы адрадзіць зноў іх сёння ў нас. Наколькі ведаю, беспаспяховыя. Малыя дрэўцы яшчэ адскоквалі ад зямлі, прымаліся. А ўзнімаліся вышэй, чэзлі і гінулі. А яшчэ тут у свой час гнездавала зусім ужо райская заморская птушка, ласая да нашага беларускага нектару, калібры. Куды, калі і як яна знікла, вялікае пытанне, як і мноства іншых у нашай айчыннай гісторыі і

геаграфіі. Усё гэта адны і тыя ж галіны нашага радаводнага, дачасна звездзенага дрэва. Дрэва, якім мы можам усцешваць сябе адно толькі байкамі, казкамі ды казанямі. І грэцца каля агню, які ледзь тлее, больш курадыміць і чадзіць, чым цепліць, збівае з тропу, выядае і рэшткі той жа радаводнай памяці не толькі нам, але і нашым наступнікам.

Райская ж рэчаіснасць памнажала і памнажала ўпэўненасць у прысутнасць і пазнанне неспазнанага, неверагоднага, што адбывалася кожны дзень і на маіх вачах. Гэтаму садзейнічалі і кніжкі, што я чытаў. У прыватнасці, трылогія Якуба Коласа, у якой ён апісваў ці не нашыя мясціны. Нашую раку і возера. Напрыклад, тое, як нечакана прападалі на вадзе качкі. Ні з чаго раптам пачыналі спуджана мітусіцца, ускідвалі, распасціралі ў неба крылы і бязгучна знікалі пад вадой. Нібы іх уцягваў туды пазней выяўлены далёка ад нашых мясцінаў так званы Лахнэскі заморскі монстр.

Між тым монстраў і сваіх, мясцовых, хапала. Адзін з іх спакон веку жыў у мяне пад бокам. Так, на маіх вачах без знаку і следу знікалі не толькі качкі, але і парасяты, што неабачна забрыдалі ў ваду. Старыя людзі казалі, што такое можа здарыцца не толькі з птушкамі і жывёламі, але і з малымі дзецьмі, калі яны наважацца купацца ў вясковым возеры. Хаця на маёй памяці такога не было. Распаведзенае спарадзіла ўва мне жах і неадольнае жаданне хоць краечкам вока зірнуць на таго ненажэру, што ўтварае такое паскудства. Хоць адным пальчыкам, пазногцем, мо цаной нават свайго ўласнага жыцця дакрануцца да яго. Жах быў увасоблены ў аблічны зноў жа велізарнай драпежнай рыбы, толькі зусім не праходнай бялугі, а тутэйшай пачвары. Гада па імені сом.

Аб сапраўднасці іх існавання тут сведчыла тое, што яны, невялікіх памераў, зрэдзьчасу трапялялі ў жакі і мярэжы вяскоўцаў, але апошнія ніколі не спажывалі іх. Баяліся і грэбавалі. Як, дарэчы, грэбавалі і ракамі: харчуюцца падаллю, тапельнікамі – людажэры. А палешукі трымаліся чысціні, нават духу грэшнага імкнуліся пазбягаць. Я ж канаў, прагнуў убачыць таго людажэра, мо і парадніцца нават з ім.

І ўбачыў. У вёсцы з'явіліся новыя людзі. Карчавальнікі пнёў, зямной памяці былога бору, мо і кедравага. Праараблялі гэта з дапамогай толу, аманіту і дынаміту. Пні былі надзіва ўчэпістыя і такія ж бурштынава смаляныя, сіне і злосна палка зацятыя, як сама недабітая памяць былога. Якраз такія, што край як патрэбны саматужным смалакуркам кожнага раённага горада і мястэчка, на ўскраінах якіх яны паўсюдна тады месціліся, дзе адбывалася здабыча гаруча-змазачных матэрыялаў – энерганосьбітаў таго калёсна-падводнага часу, драўлянага вугалю, дзёгцю, шкіпінару. Мінулае, прыбранае ў капцы і, як брацкія магілы, бугорна прысыпанае зямлёй, тлела і чадзіла, сыходзячы ўжо пры канчатковым без знаку паміранні на чорную горкую слязу бягучага дня.

Вось тыя карчавальнікі, прыбіральшчыкі былой памяці, і выкурылі, здабылі монстра. Сома возера Вясковае. Выкарчавалі яго з бездані вады дынамітам, толавымі шашкамі. Як гэта адбылося, я не паспеў адсачыць. Прыбег ужо на выбух, што нібыта громам агаломшыў вёску. Сома ўжо выцягнулі з возера і ўсклалі на падводу. Конік спуджана пахропваў і напята тужыўся некуды яго везці. Цалкам сом на падводу не памесціўся. Хвост звешваўся долу і валачыўся па прыску вясковай каляіны. І на ім асядаў шэры дарожны пыл, хаваючы жывы акрас рыбіны. Што мяне больш за

ўсё ўразіла і засмуціла: адна толькі жменька пяску здольна пераўтварыць жывога ў мёртвага. Я гатовы быў заплюшчыць вочы і заплакаць.

Але не заплакаў. Не заплакаў на тую хвіліну. Вочы набраклі слязьмі толькі ноччу. Адвольна, у сне, калі сом прыйшоў да мяне, пачаў самотна на нешта жаліцца, паварушваючы гнуткім, колеру алюмініевага дроту вусам, зявіць рот і па-старэчы бязгучна паляпваць сіняватымі вуснамі. Нібы імкнуўся штосьці мне мовіць. Але так і не здолеў здабыць, нарадзіць слова. Бязмоўнасць, немата былі ўжо яго наканаваннем.

Бязмоўнасць, бязгучнасць былі і тады, калі я ўбачыў яго на падводзе, хаця ён быў яшчэ жывы. Пэўна, толькі моцна аглушаны, кантужаны да сутаргавых механічных дрыжыкаў па касцяку, хрыбту і міжвольнага, пазбаўленага апірышча, магчымасці зноў набыць ваду, пакалыхвання плаўнікоў. А вось вочы, хоць і маленькія, утыркнутыя недзе глыбока-глыбока ў бязмежжы пляскатага лобу, разумныя. Як бы нехта там, усярэдзіне яго цела надаваў яму свядомасці. Загадваў моўчкі і без наракання падпарадкавацца таму, што з ім адбылося, што яму цяпер нарачона. Вечны спачын і небыццё, у чым і крыецца яго ўратаванне. І ён скарыўся, сцішыўся, з годнасцю ўспрымаючы непазбежнасць, апошнюю міласэрнасць нябёс.

І гэта была зусім не абыякавасць. Штосьці значна большае, мо нават велічнае. Вышэйшае веданне, неспазнанае нікім з жывых і дужых. Тое, што набываюць у апошнія свае хвіліны толькі браты нашыя меншыя ды рэдкія, званыя на гэты свет людзі. Вочы без спалоху і болю, зацягнутыя, як мне здавалася, тагасветнай бляклай плеўкай, перасцерагальнай заслонай ад зямнога тлуму, падобна, ужо адышлі ці адыходзілі ў недасяжнасць. Як у старых, часцей бабуль, якія ў маладосці не аднойчы зведалі радасць і боль мацярынства, спазналі зачацце, неаспрэчнасць і прывіднасць нададзенага ім і імі жыцця. І цяпер прасілі Усявышняга не забывацца пра іх, прыбраць іх.

І вось бязлітаснасць дзяцінства. Я не толькі не шкадаваў паміраючага сома. Але і ўсцешваўся тым, што яго нарэшце ўпалявалі і паказалі мне, бо і сам марыў, трызніў пра такую здабычу, напаткаць яе і скарыць. Бо да таго часу ўжо спазнаў асалоду і задавальненне знішчэння, азарту і жарсці падпарадкавання сабе ўсяго і ўсіх вакол сябе, у вадзе, у лесе, над галавой у небе і пад нагамі. Хоць гэта быў толькі пачатак майго жыцця, але ён патрабаваў самасцвярджэння, самаўхваляльнага ўзвышэння, а гэта значыць ахвяр і ахвяр.

Вясковае ж возера пасля вылаву ці, праўдзівей, забойства сома неяк паціху пачало ўсыхаць. А хутка і зусім абмялела. Там, дзе была бяздонная яма, хата сома, выпнулася белалобая выспа жаўклявага пяску, на якім упадабалі адпачываць крумкачы, штосьці шукаць і гадзіць. І мы іх зганялі адтуль, ужо не баючыся купацца ў амаль перасохлым Вясковым. Што ж дзівіла, разам з возерам усыхалі і дубы на яго беразе. На іх прыпала нейкая пошасць, нейкі патаемны, нябачны воку жучок, караед-аглаед. Магутныя дрэвы гублялі голле і кару, смецілі сабе пад ногі гноева рудаватай і сыпкай трухой. А потым падалі долу, глыбока ўспорваючы пракаветнымі каранямі зямлю, нібыта пасля падрыву толам ці дынамітам. І гэтак пакуль не зваліся зусім.

Але гэта ўжо без мяне. На тую пару я сам знік, паехаў адтуль у белы свет як у капеечку. У Сібір. І менавіта ў пошуках сваёй запаветнай рыбы. Меркаваў, што ў нашых водах, тым больш у возеры Вясковым, яе ўжо

няма. Усё аблоўлена, абтаптана, рэкі абвужаны, скарочаны, кастрыраваны, зацугляны вар'яцтвам і бязглуздасцю. А там, у Сібіры, прасторна, і рэкі не ў прыклад нашым. Увогуле спрэс адно Беламор'е. А ў ім пяціпудовыя волаты, таймені. Красная, у якім хочаш разуменні, рыба.

Таймені недзе былі. Само сабой, у маіх марах і снах, а таксама несумненна ў сібірскіх рэках. Лене, Іртышы, Енісеі. Толькі не пра мяне. Не з маім шчасцем аўдавець. Калі звялі сваіх бялуг, на чужы каравай рот не разяўляй, спачатку іх трэба выхварэць. Выслабаніцца, манкуртава пазбыць памяць, сцішыцца і скарыцца праўдзе пра родны свой кут і пра сябе. А я жыў надзеяй, спадзевам на сібірскія рэкі і маё рыбацкае шчасце.

Як жа горка я памыляўся. Так, у Сібіры было прасторна. І рэкі былі вялікія. Толькі і толу з дынамітам таксама мелася на іх куды болей, чымсьці на нашыя маленькія рэчкі са здрабнелай рыбай. І сваіх карчавальнікаў хапала. Але я не саступіў самому сабе – клятая паляшуцкая зацятасць – пабег па белым свеце за сваёй прывіднай і няўлоўнай рыбінай. Хаця да таго часу, як мне здавалася, крыху ўжо і паразумнеў. Астыў і пасталеў, на жаль колішняму сабе. Паганскае чараванне і ўзнёсласць суняліся і адхлынулі. Добрыя людзі прасвяцілі і давялі, што няма чаго бегаць і пнуцца туды, сам не ведаеш куды, шукаць тое, сам не ведаеш, якое.

А бывалы рыбак распавёў мне, што лавіць волатаў-самоў вельмі проста, як увогуле сёння проста рыбаліць у жыццёвым моры. Абсалютна нічога складанага: налівай ды пі. Толькі, здабываючы сома, трэба спачатку парупіцца і не скнарнічаць. Першую чарку аддаць вадзе. А потым насякчы колля і пазабіваць іх на беразе ракі. Самы такія ж дурнаватыя, як і людзі. Ёлупні і разявакі, памкнуць да берага: хто там дурней за іх аб'явіўся. Пачнуць рагатаць да надрыву жыватоў. Тут ужо табе не трэба марудзіць. Як мага хутчэй хапай іх за вусы, завязвай вузлом і накідвай на калкі.

Гэтую яго навуку я засвоіў добра. Асабліва першую канкрэтную частку, што тычылася мяне і маіх паводзінаў. Справа заставалася за малым і няісным. Знайсці самоў, з якімі можна ўзяць чарку і паблазнаваць. Такія не трапляліся. Нібы іх увогуле на той час у Сібіры не мелася. Як гаворыцца, сірацe жаніцца і ноч кароткая. Самы і тыя абягаюць мяне.

І я кінуўся наўздагон ім, прыхапіўшы няхітры свой рыбацкі набытак і вуды, пачаў гойсаць па ўсёй адной частцы сушы. Мог і далей, за яе межы. Але далей мяне не пускалі. Рукі мае былі край патрэбны тут, як ланцугамі прыкутыя да камсамольскіх ударных будоўляў, шахтаў, леспрамгасаў. Далёкі Усход, напаўкітайскія рэкі Амур з Усуры. Забайкалле з дзіўнай назвай ракі ці рачулкі Чара, якой я, дарэчы, на вялікі жаль, так і не дасягнуў. Але яна, калі я зведаў, упершыню пачуў яе назву, вяла мяне, мілагучнай і таямнічасцю імя зацягвала, як у вір, з галавой да страты памяці, слыху і зроку. Чаравала мяне Чара, якая ўжо назаўжды застанецца нязведанай і няўбачанай.

Украіна, Крым, Казахстан з іх азёрамі, рэкамі і рачулкамі. І, безумоўна, маці рускіх рэк Волга. Апошняя, прызнаюся адразу, не мая рака. Надта ж нястрыманая і магутна-ўпэўненая ў сваёй велічнай прыгажосці. Я няздольны быў вытрываць яе бясспрэчнае валоданне ўсім, што трапляла ў яе воды, яе ці не пагардлівую зверхнасць і не толькі ў адносінах да мяне, а ўвогуле над чалавекам. І адначасова абыякавасць. Яна зацягвала мяне ўжо з прыбярэжнага, на першы погляд, пяшчотнага пяску, шапотна-ласкавым цёкам вады, спакоем і рахманасцю. Але ўсё гэта было ўдавана-падманным. Варта

было толькі даверыцца ёй, аддацца, як адразу ж узнікала адчуванне – яна ўжо цябе не выпусціць, ты да свайго скону ў яе руках. І ты нішто і ніхто.

Не, Волга была не маёй ракой, не па маім паходжанні і памяркоўным характары. Як для таго грузіна, якога калісь, яшчэ да нашэсця замежных легкавікоў, спыталі, ці здольны ён купіць "Волгу." І той адказаў: здольны то здольны, але навошта беднаму грузіну такая вялікая рака. Дык вось, навошта і беларусу, палешуку на чуж-чужаніне такая вялікая рака. Хіба толькі, каб утапіцца. Што сёння, на маю думку, можа і спраўдзіцца.

І таму я без шкадавання развітаўся з Волгай і абраў для сваіх вандровак у пошуках рыбацкага шчасця Ціхі Дон. Прамяняў маці на бацьку. Мена, здрада вялікай рускай рацэ каштавала мне дорага. Не толькі з норавам, але і раўнівая аказалася прыгажуня Волга.

З Краснаслабодска, невялікага ўтульнага гарадка на процілеглым беразе Валгаграда з яго чыгуначным вакзалам я дабраўся лёгка. Без намаганняў цягнічком дасягнуў і зацішнага, патанулага ў прысадах і пыле драўлянага пасёлка недзе ў сямідзесяці кіламетрах ад Саратава. Да турбазы на беразе Ціхага Дону заставалася дзесяць ці дванаццаць кіламетраў. І туды бегаў нейкі мясцовы аўтобусік. А я быў ужо ахоплены ліхаманкай дрыготкага нецярпення і падбіў жонку ісці пешкам.

Гэта была яшчэ тая дарога. Пекла можа адпачываць, а грэшнікі ў ім спачуваць і суцешвацца: на другім ад іх свеце ёсць куды большыя за іх пакутнікі. Такія доўбні, што ім і пры жыцці не снілася. Жонка, узгадваючы тую дарогу, скрыгоча зубамі яшчэ і сёння, гатовая накінуцца на мяне з кулакамі. Скарбу, грузу на абодвух з нас было пудоў пад пяць. Палешукі народ прадбачлівы і запаслівы. Дый час быў такі, што ўсё сваё трэба было насіць на сабе. І мы пёрлі гэтае сваё на сабе, як двухгорбыя стэпавыя вярблюды, што некалі жылі тут. Двух, а мо і трох – драмадзеры, да ўсяго і рагатыя, бо я быў снаражоны і вудамі, падсачкам, спінінгам.

Сонца рупілася і шчыравала над небаракамі, як за грошы. Спёка градусаў за трыццаць. У дарожным прыску, што бульбу ў вогнішчы, можна пякці яйкі. І ніводнага дрэўца паблізу абапал дарогі, каб хоць вусны аблізаць у халадку. Толькі ўздоўж правага боку ўсцяж нашага шляху, як зялёны здзек, зараснікі лазы і разгалістыя вербы. Але да іх з дарогі метраў дзвесце, а то і болей, пераадолець якіх не было моцы. Утрымлівала, засціла свядомасць мая скіраванасць толькі наперад і яшчэ раз наперад. Адчуванне, што вось зараз спынімся, сядзем і больш не падымемся, не скранемся.

Па першым часе жонка яшчэ жартавала, сцвярджаючы, што жыццё мы вывучалі ўсё ж па падручніках і па Гегелю, пахваляючыся веданнем старажытнай літаратуры:

– Доколе муки сии, протопоп, будут?

– До самыя смерти, Марковна.

– Ну, ино ешё побредем.

І мы брылі. Але чым далей, тым больш і хутчэй вышэйшая адукацыя жонкі пачала даваць збоі і забывацца. А ў хуткім часе вычарпалася і зусім – інтэлігенцыя ўсё ж ніколі не мела трывалых прынцыпаў. Жонка, як пакрыўджаная котка, усё часцей і часцей пазірала на мяне. А ў мяне ўсё дадавалася і дадавалася грузу. Але мы ўсё ж дабрылі, даклыпалі да высокага абрывістага берагу Ціхага Дону, дзе месцілася нашая турбаза. Якраз на тую хвіліну нас абагнаў нядужны і біты іржавы аўтобусік. Прабліснула і вада. Бацька Дон пазбавіўся ахоўных абдымкаў кучаравістых лоз і шатаў

магутных вербаў. Аказваецца, увесь час, усю дарогу мы ішлі побач з ракой. Вось падлянка дык падлянка, інакш і не прыдумаеш, што сказаць. Мы ўпалі пад сваім скарбам на круты данскі бераг. І толькі адно на аднаго моўчкі лыпалі вачыма. На словы ці рогат не было духу.

На турбазе нас апекаваў сталага ўзросту казак са станіцы на другім беразе ракі. Назва яе згубілася ў чарадзе і даўнасці гадоў, а мо яе і выпаліла з памяці пякельная нашая дарога. А ў казака было імя, як ён нарокся нам, Дзядзя Саша. З добра прапечаным мясцовым сонцам тварам, выразнымі маршчынамі на ім, але ўсё яшчэ па-казацку фігурысты. Хоць адразу на каня, у сядло і шаблю ў рукі.

У меру пітушчы, добразычлівы, не хапаткі. Неяк па нашаму разважлівы і памяркоўны. Больш рабіў, чым гаварыў. І гаворка была вельмі мілагучная. Расейская, зразумела, але з украінскай спеўнай мяккасцю і дамесам, пярэсыпам зноў жа нашых беларускіх слоўцаў, што ў ім было асабліва мне даспадобы. Перад тым, як сказаць нешта значнае, абавязкова выціраў аб сарочку на грудзях рукі. Звычка, як я пазней уведаў, цалкам рыбацкая, бо тое ж самае ён рабіў пасля кожнае лоўлі больш-менш прыстойных памераў рыбы, зняўшы ўжо яе з кручка, папярэдне спаласнуўшы рукі ў вадзе, начыста выціраў іх аб сарочку. І таму яна наперадзе ў яго, збоку сэрца, рознілася колерам, была святлей, як пад медаль. І гэтая рознакаляровасць дзвюх палавінаў сарочкі, як ні дзіўна, пасавала яму, яднала з той справай, якой ён займаўся і любіў – з вадой, родным бацькам яму, Ціхім Донам і рыбай у ім.

А рыбак ён быў удалы, натхнёны, як кажуць, ад Бога. Дараваныя былі яму на рыбацкую справу вока і слых. Мне ж напачатку на бацюхне Ціхім Доне не надта шчасціла. Траплялася ўсё больш драбяза. Плоткі ды папаляшуцку так званыя сухарэбрыцы-ляскалкі, а то і зусім усюдыісныя печкуры з галавастымі вечна спалоханымі і галоднымі бычкамі. Дзядзя Саша навучыў мяне лавіць сіньгу. Што за рыба, я не ведаю і сёння.

– Сіньга ёсць сіньга, – коратка і канкрэтна тлумачыў мне данскі казак з дамесам хахла і беларуса.

І сапраўды, была яна сіняваценькая, пачынаючы з падбрушша. Па баках ужо выразна сіняя, а па хрыбетніку дык, здаецца, зусім ужо сталёва чорная. Вельмі тлустая, наварыстая ў юшцы з невыразна духмяным тонкім водарам данской вады і пахкай зямлі, мо і кавуноў, якія шчодра радзілі тут, адмысловых багарных, што спеліла сонца без паліву, без вады. Дзядзя Саша цягаў тую сіньгу, як алавяны салдацік на пляцы. Адным узмахам далёка пасылаў закідушку ў раку, пад круты бераг. І, здаецца, адразу ж шморгаў, цягнуў назад. А на ёй, як па яго загадзе, сіне трапятала рыбіна. Часам вагой пад палову кілаграма.

Дзядзі Сашыным спрытам лоўлі сіньгі ды і іншай рыбы ў дасканаласці я так і не авалодаў. Гэта было проста немагчыма. Але ў казан на юшку і для смажання на патэльню нам з жонкай хапала. Толькі зноў жа, вечная незадаволенасць і спакуслівасць чалавечай натуры, хацелася нечага большага, іншага, праз што я і спазнаўся з тутэйшымі самамі. Хаця першыя ловы іх назваць самамі – вялікае перабольшанне. Але ў рыбака рука ніколі не дрыжыць, нават тады, калі ён нахабна хлусіць. Сомікі то былі, байстручкі пад кілаграм ці трохі болей. З падказкі таго ж Дзядзі Сашы я пачаў завозіць сваю закідушку на тры ці чатыры кручкі пад бакен. Разам з сомікамі там зрэдку мне шчасціла і на адных з імі памераў судачкоў.

Гэта надакучыла мне і распаліла. Я палічыў, варты большага. Трэба ісці на сапраўдную рыбіну. О, Сабанееў, о, Хеменгуэй, о, Віктар Пятровіч Астаф'еў і далёкі мой прашчур, што без пахвальбы сам насам спраўляўся і з мамантам. Колькі пакаленняў саматужных аматараў вы збілі з тропу, звялі з глузду. Спадобілі і навучылі, як кажуць у нас на Палессі, на пень ср...ць.

Я здаўна ўпотай ад усіх вазіў з сабой так званы перамёт. Дакладна не ведаю і сёння – дазволеную ці забароненую, браканьерскую снасць, зробленую па маёй просьбе сябрам, паляўнічым і рыбаком Віцькам Майсеевым для ловаў на вялікіх сібірскіх рэках. Прыладу, якой я да гэтага часу не карыстаўся, але захоўваў. А ў рыбацкай гаспадарцы лішніх і непатрэбных рэчаў не бывае. Моцны капронавы шнур пад сто метраў даўжыні, з дзясятак павадкоў нямецкай лёскі нуль пяць, нуль шэсць міліметраў дыяметрам і кручкі ці не дванаццатага колішняга айчыннага памеру і такія ж айчынна надзейныя.

Вось гэты перамёт я дастаў са свайго рэчмяшка, расцягнуў і расклаў на беразе. Насадка была падрыхтавана загадзя на самы вытанчаны густ звера. Выпаўзкі – земляныя чарвякі мясцовага паходжання, якія больш прывабныя нацыянальнаму густу тутэйшых; брыдкія, але спакусліва тлустыя лічынкі майскіх жукоў і зялёныя не надта вялікія жабкі. Менавіта зялёныя, да якіх, па сведчанні спрактыкаваных рыбакоў, дарослыя, а таму пераборлівыя, самы асабліва ласыя.

А ў тым, што такія тут ёсць, не даводзілася сумнявацца. Па паху нават іх можна было ўнюхаць і здагадацца – так моцна патыхала падлай, калі вецер дзьмуў убок ракі і турбазы. Непадалёк ад яе, як даводзіў Дзядзя Саша, сканаў падчас паводкі і нерасту магутны сом – цэнтнеры са тры чыстай вагі. Адбіўся ў карчах па вялікай і цёплай вадзе. Даў патомства. Самка, маці, пайшла дамоў, а ён застаўся вартаваць нашчадкаў ды прамарудзіў, упусціў час, калі вада пачала спадаць і яшчэ можна было сплыць у раку. Мне хацелася паглядзець на таго вернага абавязку сома. Але я так і не наважыўся падысці да месца яго супакаення. Нешта заступала дарогу, мо і засцярагальная ахоўная памяць дзяцінства. Больш прыстойна валодаць памяццю пра жывое – жывога сома і да ўсяго не такога вялізнага.

Месца, абранае мной для завозу перамёту, было адметным. Дон, як спатыкнуўшыся, паварочваў там амаль пад прамым вуглом, утвараў лукавіну і разліўны, зацягнуты тванню, раскай, рэшткамі знесеных паводкамі дрэваў плёс. Трэба адзначыць, такія непраточныя плёсы я не надта прывячаў, з маленства больш звыклы да пукатых жаўталобіц родных і блізкіх мне выспаў, дзе плынь ракі не перарываецца, а толькі запавольваецца. Але гэта я, а не сом. Мы з ім хаця ў нечым і блізкія, але зусім-зусім процілеглыя. І хто можа з пэўнасць сказаць, то кожнаму з нас да спадобы. У кожнага свае прыхамасці. І не выключана, што аднаму карціць хоць трошкі пабыць чалавекам, а другому рыбінай. Прынамсі, мне карціць.

Я замацаваў адзін, пусты канец перамёту на беразе, да другога ж навязаў дзве цагліны. Укінуў іх у лодку і павеславаў пад багністы плёс. Лодку крыху знесла з абранага мною накірунку. Але я не стаў выпраўляць яе. Бацька Дон ведае, што робіць. Зацятасць і ўпартасць перад непрадказальнасцю выпадковасці, я гэта ўжо добра зведаў, не заўсёды на карысць. Тут трэба давярацца лёсу. І я борздзенька боўтнуў дзве свае цагліны ў цьмяную бездань данской вады: лавіся рыбка малая і вялікая, а лепш усё ж вялікая. І ў ката павінны быць святы.

Наступным днём, яшчэ на золку, не абмовіўшыся ні жонцы, ні Дзядзю Сашу, я быў ужо каля перамёту. Кол, да якога ён быў прывязаны, стаяў нескранута. Я паспрабаваў падцягнуць перамёт да берага. Ён не паддаўся, як укіпелы ці ўбетанаваны ў раку. Цагліны, пэўна, цагліны ўраслі ў твань. Я сеў на карму ў лодку і, трымаючыся адной рукой за капронавы шнур, а другой падвяслоўваючы, памкнуў крыху супраць плыні да другога берага ракі, паблізу якога ўтапіў цагліны.

Тое, што адбылося далей, мне і сёння яшчэ здаецца неверагодным і нечаканым. Я не паспеў яшчэ перацягнуцца і праз сярэдзіну Дона, як адчуў, што нехта вядзе мяне, дапамагае мне. Праўда, не надта ўдала. Крыху збівае лодку з курсу, кідае яе ўбакі, спахопліваецца, шыбуе ўперад па прамой. У мяне і ў галаве не было, што гэта нешта жывое, улоўнае. Дон, рака, жартуе і штукарыць са мной, падводныя, нябачныя вокам плыні. Да таго часу я ўжо крыху спазнаў яе нораў, непрадказальнасць, а часам і капрызнасць. Канечне, не Волга, але падужацца з ёй здольная. І невядома, хто будзе пераможцам. Ільсняная роўнядзь і заўсёдны задумлівы спакой Ціхага Дону ў спапяляльную спёку апоўдня і ў сутонні вечара, змроку ночы і на золаку світання падманны, як здольна быць падманнай адна толькі бягучая вада. Ціхі рахманы Дон не выхваляўся кожнаму стрэчнаму-папярэчнаму ні волатаўскай магутнасцю, ні празмерным буянствам. Усё ў ім было стоена пад знарочыстай, здаецца, ціхмянасцю, якая аказвала сябе толькі тады, калі патрэбна, калі прыспяваў час не проста і бязмэтна лютаваць і выскаляцца, а пэўнага і вялікага процістаяння. І ні каму ці чаму-небудзь будзённаму, звычайнаму – уладнаму і ўладарнаму, што пагардліва і грэбліва ў сваёй нікчэмнасці пнулася самасцвердзіцца. Камандаваць небам і зямлёй, паветрам і водамі. А такое абрала часам свайго абуджэння ў прыватнай большасці вераб'іныя ночы, аспідную іх цемру з бізунамі перуноў, залевамі, раз'юшанасцю самога неба з прыгаломшанымі там багамі і бажанятамі. Менавіта тады, нястрымана і неўтаймавана, пазначаў сваё існаванне, выяўляў свой сапраўдны твар зусім не ціхі Дон. Гудам донных і паверхневых вод, лавінным ляскатам хваляў, цягавітай упэўненасцю плыняў. І гора, гора таму, хто на тую хвіліну наважваўся супрацьстаяць яму, даваць і дужацца з ім...

Ён выявіўся мне з размаітай цьмянасці данской вады, як з працягу маіх дзіцячых сноў. І я сустрэў яго, як недагледжаны, пахаваны ў падсвядомасці сон. Павітаўся са сваёй нязбытай мінуўшчынай. І сом, здалося, адказаў мне. Плямкнуў распешчанымі, звыклымі да рачных прысмакаў вуснамі, пахітаў сівым даўгім вусам і пацвердзіў прыязнасць да мяне вусікамі меншымі, жаўтаватымі і сплюшчаным зверху і знізу гнуткім і плыткім, што струмень, хвастом.

І тут паміж намі пачалося штосьці неспасціжнае. Пераглядванне, перацягванне. Змаганне не змаганне, хутчэй гульня. І сом быў завадатарам той гульні. Па ўсім, бясспрэчна ўпэўнены у сваёй перавазе і перамозе. Часам амаль не супраціўляўся, павольна і лена замірaў, дазваляў падцягваць сябе да борта лодкі. Але, датыкнуўшыся да яго, адразу ж грэбліва адсланяўся, без намаганняў старчма ішоў углыб, клаўся плазам у вадзе і зноў жа без асаблівых намаганняў аддаляўся ад лодкі. Адплываў прэч, вылузваючы з маіх рук капронавы шнур. І ўглядаўся ў мяне маленькімі, нібы трохі п'янаватымі ці пахмельнымі з жаўклявай павалокай вочкамі. Без спалоху, адчаю і нават дакору.

Адно ў іх было безумоўна відавочна і чытэльна, як тады на возе каля Вясковага возера, нейкае, як ніспасланае невядома кім і адкуль вышэйшае веданне і падпарадкаванасць яму. Веданне і пакора, якіх я, лавец, цяпер і тады быў начыста пазбаўлены. Толькі тае і розніцы, што вока ў майго сома было жывое, хоць і надта абыякавае да маіх спробаў суўладаць з ім.

Я разумеў, што паміж намі пралягае вечнасць. Вечнасць паветра і вады, што нарадзілі, але і раздзялілі нас. Мы сёння з ім вельмі і вельмі розныя, і не толькі ў розным асяроддзі, але і жыццёвым вымярэнні. І сёння і да схону вякоў ёсць, будзе і застанецца невядомым, за кім усё ж праўда.

А мо яе і зусім няма – сапраўдны толькі вечныя ловы. І гэта не ён, а я ягоны меншы брат, яго нашчадак, хоць і супраціўляюся бяссрэчнасці гэтага, баюся. Таму спрадвеку хачу, дамагаюся, прагну адлавіць яго, прынізіць, перамагчы. Забіць, як Каін Авеля. І гэты паўсталы, адроджаны з небыцця самоты і спакою вечнасці монстр Авель разумее і адчувае ці не з таго свету. Спачувае мне. Толькі я не звык азірацца і няздольны прыняць яго спачуванні. Бясконцы, пракаветны гон выпаліў нададзеныя мне зачаццем міласэрнасць і братэрства.

Распалены і абражаны непакорлівасцю здабычы, я адкінуў на хвіліну абуджаную ў сабе літасцівасць і жальбу: я вазьму цябе, сом, ты будзеш маім. Ты варты быць маім. Ты такі вялікі і дужы, што мне не прыкра будзе скарыць цябе. Ты такі прыгожы, пярэста каляровы, іскрыста чорны, донна, тагасветна, падзяленены зямнымі зараснікамі лазы, сонечна, крывава, рудавата запёклы і нябесна блакітны. Вясёлка на табе можа адпачываць. Я вазьму цябе. Ты любы і мілы мне, хоць пра цябе і кажуць: адна з самых агідных нашых рачных і азёрных рыб. Я таксама, як бачыш, не карціна алеем. Мы абодва вартыя адно аднаго. І маё слова будзе апошнім: я вазьму цябе.

І ў той жа час я да адчаю і шчымлівага болю разумеў, прадчуваў: не, не вазьму. Не мой гэта сом. Не па Сеньку шапка: пад два метры і ці не болей у даўжыню і вагой за два пуды. Пэўна, падбіраецца, а мо ўжо і пераступіў за другую палову свайго веку. Вунь колькі набраў на галаву ўсякай брыдоты. І п’яўкі, і вадзяныя чарвякі, і ўвогуле богвед што. Небарака, як і нас, жывых, смокчуць, смокчуць цябе, але таксама, як і ў нас, усяго розуму аніяк не высмакчуць. Такую галаву гонар і адкруціць. Шкада, канечне, але, даруй, трэба. Дый усіх не нашкадуешся. Вось толькі не падумаў, не чакаў, што так пашчасціць. Не запасся, няма пры мне ні багорчыка, ні сякеркі, нават якой-небудзь вяроўчыны, на крайні выпадак, матузка, каб пяцельку зрабіць і зацугляць цябе, альбо прашморгнуць праз жабры. Ухапіць за тыя ж жабры багорчыкам, цюкнуць па цемечку сякеркай.

Разумны чалавек, пэўна, не стаў бы настырацца, апусціў бы перамёт і паплыў па дапамогу, па таго ж Дзядзю Сашу. Але я быў не з разумнікаў, як заўсёды: цялятка з лысінкай так з лысінкай і сканае. І я без ваганняў набрыняў сілай і дуратой, пацягнуў сома да лодкі з адзіным намерам абяруч зашчаміць яго ў вадзе, выхапіць з ракі, падняць і кульнуць праз борт сабе пад ногі. Да лодкі сом лёгка даўся падвесці сябе. У мяне нават атрымалася ўзняць крыху над вадой яго галаву. Але калі я ўздумаў перахапіцца, узяць у ціскі тулава бліжэй да сярэдзіны, каб на супрацьвазе ямчэй было перакуліць яго ў лодку, атрымалася тое, што павінна было атрымацца. Ці

то мне трапіўся сом, які не трываў козыту, ці то быў ужо ён надта склізкі, смаркаты, а мо проста не хапіла рук. Дый каб хапіла, карысці аніякай. Сому, пэўна, надукучыла гуляцца са мной, ён адчуў, што з майго боку гэта ўжо не сяброўскія заляцанні, а хутчэй замах на яго волю і жыццё. Ён пазбавіўся гумару, ленасці і абыякавасці. І так даў у хамут, што я ледзь утрымаўся на карме ў лодцы. Нешта храска шчоўкнула ў вадзе. Шнур пазбавіўся нацягу. Павадок на ім абвіс. Я ашаломлена застыў у лодцы. І сом застыў у вадзе непадалёк ад мяне. Два ёлупні ў адной рацэ – дзіўная карціна, хоць і не алеем.

Хвіліну-другую мы паводзілі сябе, як паплаўкі ў мёртвы штыль, няўклюдна і нерухома. Першым ачомаўся сом. Пачаў зявіць рот, плямкаць вуснамі, паварушваць адным з сівых вусоў – другі я адарваў. Схільны думаць, што ён мяне не папікаў і не надта дакараў за гэта. Хутчэй дзячыў за прыемнае знаёмства і палюбоўнае расстанне. Тое ж самае рабіў і я, трымаючы ў руцэ павадок з куца і крохка надламаным пад самае цаўё кручком дванаццатага савецкага памеру. Хоць і савецкая сталь, але не вытрымала.

І я радаваўся гэтаму. Як бы я выглядаў, каб вытрымала яна? Што б я рабіў з такім сомам? Няхай сабе гуляе і пасецца ў Ціхім Бацюхне Доне, славутай рацэ былой казацкай вольніцы трох народаў. А я буду ведаць, што недзе ёсць яшчэ самы. І гэта цешыць мяне, бо праз іх я спазнаў такое, што выпадае на долю рыбака мо адзіны толькі раз у жыцці.

Некалькі слоў напрыканцы. Я ні з кім не падзяліўся пра сустрэчу са сваёй дзіцячай марай, данскім сомам, ні з жонкай, ні з Дзядзем Сашам. Усё сваё нашу ў сабе. Няварта агалошваць і пускаць па ветры шчаслівыя і велічныя імгненні пра тое, што бясконца міла і люба тваёй душы, бо ў словах страчваецца і знікае не толькі мінулае, але і будучае. На вялікі жаль, менавіта са слова пачынаецца сёння бяспамяцтва.

А ў тую ноч мне яшчэ даравана было зведаць нораў і сілу Ціхага Дону, бо была яна якраз вераб'інаю. На змярканні я пагробся да прычалу, дзе тыднямі грузілі баржы данской пшаніцай. Само сабой, дзе п'юць, там і льюць. Зерне сыпалася ў ваду ракой. Прачула пра гэта і рыба. Дзядзя Саша сказаў, у большасці язі, мацёрыя і схільныя да халявы. І надвячоркам я выправіўся на язевую абжыралаўку. Калі ўжо не атрымалася злавіць самотнага монстра сома, то мо пашчасціць на ладнага лайдака язюка.

Толькі прыстаў да каравайна пахкага прычалу. Закінуў вуды, як неба сышлося з зямлёй. І было незразумела, адкуль бярэцца і перыць гром, дзе хаваюцца бліскавіцы. Навальніцы, пяруну, здаецца, не мелася і шчылінкі ўшчаміцца паміж вадой і хмарамі, набыць моцы. Толькі вецер там шугаў. Такі вятрыска, што данскія хвалі перакочваліся цераз прычал і сягалі да сцягу кіроўнай будкі. Язям было не да пшаніцы, мяне і маіх вудаў. Але я не журыўся, пасля ранішняга ўзрушання такая вераб'іная ноч мне і патрэбна была. Гэта было маё надвор'е, думаю, і надвор'е сома. Праз віхуру і буравей ён пасылаў мне развітальнае вітанне, бо раніцой я пакідаў бацьку Дон з веданнем, што ў ім жыве і пасецца мой сом. Мы добра запомнілі і пацешылі адзін аднаго. І ён цяпер дзе хочаш можа засведчыць: недзе ёсць чалавек, а я – недзе ёсць сом.

## ЁН ЖЫВЫ І СВЕЦІЦЦА

Упершыню я сустрэўся з ім больш за паўвека таму. Нягледзячы на тое, што ўсе сто дваццаць падшыванцаў Вільчанскага дзіцячага дому былі прыроднымі ці нават звышпрыроднымі дзецьмі – сама прырода, адпаведна паходжанню і загаду свайго ўладара, крывава і безабаронна гола выпхнула нас ва ўлонне жорсткай, а часам і людажэрнай стыхійнай натуральнасці – дык вось, нягледзячы на гэта, мы кожны год, як толькі спадала вада ў Случы і Прыпяці, хадзілі ў паход. Па геаграфіі і гісторыі краю.

А гэтая геаграфія і гісторыя – прырода – літаральна ўрастала ў нас і з нас, хаця мы знаходзіліся нават не на ўскрайку яе, а ўвогуле на водшыбе. Думаю, хаця і незнарок, але ж не без намёку выдалены з вачэй далоў і з сэрца прэч. За трыццаць кіламетраў ад тадышняй цывілізацыі – бліжэйшага мястэчка, так званага на той час г/п Жыткавічы, за дзесяць кіламетраў ад чыгуначнага паўстанку і невымернай далёкасці ад вялікіх гарадоў. У пятнаццаці, а мо і дваццаці гадах ад будучай у тым краі бетонкі Гомель-Брэст.

Палеская глыбінка, мясціны ўжо тады амаль мемарыяльна-гістарычныя, бязмежна гераічныя – запаведныя і запаветныя. Жытло нам было прадвызначана ў былых казармах чырвоных пагранічнікаў – па Случы пасля Брэсцкага замірэння пралегла граніца з белапанскай Польшчай. Тутэйшыя пагранічнікі апярэдзілі на той час усіх у краіне Саветаў – першымі лізнулі таго, хто пазбавіў іх бацькаўшчыну ці не паловы яе тэрыторыі – выступілі з ініцыятывай сабраць грошы і паставіць у Жыткавічах першы ў СССР помнік У. І. Леніну. Грошы тыя зноў жа збіралі гвалтам і рабаваннем сялянаў: арыштоўвалі вясковыя хаты, па некалькі дзён не давалі ні есці, ні піць, рушылі, разбіралі па цагліне нават печы – здайце золата на помнік правадыру. Што ж, пры цары паляшук меў і золата. Тураўцы, а вёска Вільча, калі па вадзе, па Прыпяці, зусім побач са славутым Туравам, пры клятым царскім "прыжыму" жылі заможна: тураўскія дзеўкі без кажуха замуж не выходзілі.

У адвечных каляпрыпяцкіх дубровах яшчэ лунала памяць не толькі мінуўшчыны – скруха і журба па воінах мараках Дняпроўска-Прыпяцкай флатыліі, што без вестак леглі касцьмі тут на самым пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Але пра іх мы тады, як уся краіна, яшчэ нічога не ведалі. Хаця, хаця – як гэта ўсё няпроста, як балюча і крывава затлумлена і скручана на сваё мінулае нашая памяць.

Нічога не ведалі, баяліся ведаць і звыкліся з бяспамяцтвам, калі б не пахавальная і захавальная вада выкрыцця вечнасці. Яна амаль ужо пры нашым часе абурана падмыла пакаты бераг пры ўпадзенні Случы ў Прыпяць, выявіла ці не брацкую магілу маракоў Дняпроўска-Прыпяцкай флатыліі, што калісь знайшлі тут, у забытай самым Богам зацішнай палескай глушы, дзе, здаецца, і бою не было, вечнае супакаенне: прыйшлі крадком, леглі і заснулі.

Вада, нашыя пракаветныя балоты, багны і гаці, гаі, бары і дубровы – куды мы ні ступім нагой, ні паткнемся вокам – не толькі магільшчыкі мінулага, але і яго засцерагальнікі, абярэгі. А яшчэ маўклівыя летапісы і летапісцы. Каму казачнікі, баюны-быліншчыкі і назаўжды непадманныя сведкі нашай існасці. Трывалая, хоць і нябачная засова хлусні, неабылганая і нязгаджаная кладоўка памяці славутасці нашых бацькоў. Перадатачны ланцужок нашчадкам ад пакаленняў і пакаленняў палешукоў, што калісь светла смяяліся тут і горка плакалі.

Не, у дрэве, вадзе і зямлі – нават сырой, магільнай, няпроста ж так на Беларусі могілкі яшчэ і кладамі завуць – не назаўжды пахаваная нашая сіла, слава і моц. Яна ўзрастае і памнажаецца імі. Яна ў зямлі і ад зямлі, адкуль і перадаецца нам яе запаведнасцю. А чаго-чаго, гэтай запаведнасці ў нас мо ўжо і занадта.

Мы, дзетдомаўцы, самыя што ні на ёсць натуральна стыхійныя носьбіты гэтай запаведнасці, даволі моцна і наракалі на яе, таму што з надыходам лета, мо каб і надалей утрымліваць у першастворанасці, у большасці з нас адбіралі чаравікі, штаны, сарочкі і нават майкі. Прымушалі па навакольных балотах, карчах, рэліктавых ліпавых ды ясянёвых гойсаць галяком без намеру ўцячы куды далей ад іх. Як гаворыцца, хадзіць бычку на лычку, а кароўцы на вяроўцы. Не прымервацца да людскіх апранах улагоджанага цывілізацыяй раю. Ці не з такой жа мэтай – спусціць невынішчальную дзетдомаўскую пару да вольніцы і бадзяжніцтва – нам ладзілі аднадзённыя паходы па родным краі.

У тых нязменных пасляпаводкавых падарожжах хаваўся яшчэ адзін клопат. Клопат спрадвеку вясковы, мужыцкі, нашых выхавацеляў, кіраўнікоў паходу. Па-першае, як гаворыцца, з кім павядзешся, ад таго і набярэшся. Былыя салдаты, вайной пабаўленыя дзяцінства, цяпер вакол і побач з намі дабіралі яго не без сялянскай вясковай карысці сабе – палешукі ж, палешукі.

Пасля паводкі па нізах, у калюжынах, ямах, акопах, варонках ад бомб і снарадаў былой вайны заставалася, не паспеўшы сысці за вадой, рыба. У большасці драбяза. Але ж ласаму дарэмшчыны кату і драбяза прыдатная – навошта дабру прападаць. Усе мы тут, як моўлена вышэй, былі прыроднымі дзецьмі. Здабытчыкамі, нязвыклымі ні сваім, ні чужым раскідвацца і папускацца: што на вока ці ў рот папала – тое прапала. Як і ўсе на ўлонні прыроды, летуценнікі, безумоўна, але па наканаванні стагоддзяў – бясконца прыземляныя. Употай марылі пра незвычайнасць і патаемнасць кожнай лужыны. У нашым выпадку сакрытасці ў ёй невымернай велічыні рыбіны, ці нават залатой рыбкі, якія толькі таго і чакаюць, каб трапіць у нашы рукі.

Да ўсяго, паходы нашыя звычайна прымяркоўваліся да нейкіх урачыстасцяў, знамянальных дзён і датаў, не вельмі зразумелых нам. У іх было сваё жыццё, не сутыкальнае з нашым. Недзе там свае святы, а ў нас свае. Вось такое сваё свята меліся мы адзначыць і тады. Выпускны вечар у нашай вясковай школе-сямігодцы, а разам з ім – законнае і ўжо неадымнае права на штаны, сарочку і чаравікі. На ўсё лета, пакуль не выпруць з дзетдома ў вольнае жыццё, не распіхаюць па рамяслухах, школах фабрычна-заводскага навучання. Па прахадных заводаў і фабрык, дзе мы далучымся да гегемона – уладара краіны, солі зямлі і самі пераўтворымся ў соль. Вось такое светлае будучае было ўжо нарачона, было дадзеная на яго ўжо разам са штанамі права.

Права было, але толькі не сёння. Таму ў паходах па памятных гістарычна і геаграфічна мясцінах вяскова-сялянскай малой сваёй радзімы мы спадарожна прамышлялі markрознымі тутэйшага вырабу прыладамі. Як то: кабыламі, таптухамі, баўтушамі, брэднікамі. Каламуцілі адстоена празрыстую вясновую ваду, праробляліі гэта ўжо крыху адрачона, але не без гонару. З аднаго боку занятак ужо не наш, мы не ў тым узросце, адрэзаныя ад маленства кускі. А з другога – не зломкі. Не дарэмна казённы хлеб

елі. Выраслі, адукаваліся – сем класаў прайшлі. Жывыя і будзем жывы. Плотачкі і акунькі з карасікамі, што пойдуць нам сёння, лічы, на дарослую вячэру, толькі знакавыя сведкі гэтага.

Вось так мы і ішлі ў сваю будучыню ў той памятны дзень па гісторыі і геаграфіі яшчэ не зусім загаджанага краю. Тры кіламетры, калі напрасткі праз дубровы, сенажаці, хмызы – сцежкамі, восем – па набітай дарозе, трымаючыся завілін, выгінаў і лукавін наравістай нашай рачулкі Случ. Да яе сустрэчы з Прыпяццю. Рыбку палоўлівалі, качак уздымалі, за качанятамі ганяліся. Той-сёй, адбіўшыся ад гурту, цішком і пакурваў. Мірон Апанасавіч Сарока, дырэктар дзетдома і кіраўнік нашага паходу, крывіўся, але рабіў выгляд, што не прыкмячае. Так вопытны вайсковы камандзір даруе дробныя парушэнні сваім падначаленым, якім праз хвіліну-дзве ў бой, твар у твар са смерцю.

Дарога была знаёмая нам не бяздзейна. Нашыя ногі тут зведалі кожную калдобіну, да крыві абмацалі кожны корань. Але цяпер яна была амаль развітальнай. Хаця на тую пару мы гэтага яшчэ не ўсведамлялі. Але нешта няпэўна маркотнае, шчымліва трапяткое выспявала ўжо ў зрушанай душы. Больш і лепш за нас гэта, пэўна, адчувалі тая ж дарога пры беразе ракі, дуброва, дзе волаты-дубы жалобнымі дуплянкамі шчэрылі шчарбатыя рты ды спарахнела і спачувальна-нема спадарожна дыхалі насустрач нам і ў стрыжаныя нашыя патыліцы. Лёгкі ветрык – яшчэ няскошанай, але ўжо гатовай пад касу травы, шэптам лістоты асавелых ад спёкі лоз.

Усе гэта было неадсечана нашае. І самі мы былі шэптам і дыханнем задумлівага наваколля. З году ў год мы тут хадзілі, спатыкаліся, падалі, падымаліся, прыпадалі, туліліся сваімі болькамі, крыўдамі да зямлі, травы, дрэў. Гаіліся імі. І раслі, сталелі, браклі дужасцю і паляшуцкасцю.

З лета ў лета на каляпрыпяцкіх заліўных сенажацях, балацінах пад балонню касілі дзетдомаўскім коням і валам траву. Сушылі, зграбалі, складалі ў копы і на даўгіх жэрдках-насілках ці не па пуп у вадзе выцягвалі на сухое, ставілі стагі. Галапупа і люта да крывавых расчосаў і пухлінаў змагаліся з камарамі, гнюсам – дралі, нарыхтоўвалі валяр'янавы корань, каб нехта дзесьці аздаравеў на сэрца.

А за гэтай камарэча-валяр'янавай балацінай – дзетдомаўскае поле засеянае бульбай, таксама намі абробленае. І акурат у такую пару бульба вось-вось павінна была ўжо зацвісці. Ранавата. Але і мы на дзіва раннія, і вясна сёлета выпала надта ж таксама ранняя. Напрыканцы сакавіка некаторыя з нас ужо купаліся. Я, да прыкладу, купаўся. Пратопліваў нашую дзетдомаўскую лазню. Трэба было даліць у кацёл вады. Пайшоў да ракі ды не ўтрымаўся ў чоўне, боўтнуўся з яго. Зазлаваў, падумаў усё роўна мокры, а чаго б і не паплаваць. Даў нырца і паплыў. І нейкі шчупачок, пэўна ад здзіўлення выхапіўся з вады, зрабіў у паветры свечку. І ўкінуўся ў човен – мне, апальшчыку, у наедак. А было гэта ўранку дваццаць трэцяга сакавіка. І вада ў рацэ прагрэлася, на мелкім дык зусім малако – цёплая.

Неўпрыкмет, дзе набітай калёсамі дарогай, а больш пратаптанымі нашымі ж нагамі сцежкамі, дабіліся да разгульнага прасцягу вады, поўнага яе ўладарання. Як сёння мне мроіцца, над яе вечнасцю, бязмежнай і балотна-рудаватай, задуменна спакойнай я ўпершыню і знайшоўся, адчуў сябе: ёсць, ёсць, хаця і дробненькі, пусценькі. Як недаростак верабейка яшчэ голенькі, што выпаў з падстрэшша кубла і падскокам, падскокам, так, як толькі і ходзяць вераб'і высільваюся выблытацца з высакаватай

мне травы. І цiлiўкаю, цiлiўкаю, скрушлiва падаю голас не толькi мацi, але i суседскаму кату, якi, пэўна, ужо тапурыць свае востранькiя вушкi. І адначасова непаразумела касавуруся на маючага быць спажывай мурашыка, што шкляна i лабаста чорнагалова пратачыўся з ходнiкаў сваёй норкi i ў одуме казыча чуйнымi жваламi. Ёсць, як гэты захраслы, заблудны ў вусцi Случы, – некалькi крокаў толькi не хапiла да вольнай прыпяцкай вады – прынесены сюды цi то ветрам, цi то непаразуменнем невядома адкуль напаўразбураны няпэўнага колеру буксiрчык. А некалi ж быў белы.

Я непарыўна i неадрыўна назаўсёды знiтаваны з русалкавай зелянiнай асаковых кос, што мякка сплятаюць i расплятаюць воды дзвюх рэчак з зiхоткiм россыпам на жаўтаватым донным пяску плотак, якiя высыпалiся на ўгрэтую сонцам водмель Прыпяцi – па такiм часе гуллiва шырокую i супакойную. Плоткi выходзiлi на гэтую водмель з бездані вады, як з таго свету, адзначалiся на сонцы, вясёлкава супернiчаючы з iм i зменлiвым колерам вусцiшнай вады. Некаторым з iх, большым, даволi было аднаго толькi пазначэння, пасля чаго яны адразу ж знiкалi. Меншыя ж гарэзлiва пакручвалiся, узбурлiвалi плаўнiкамi, нiбыта пэндзiкамi, абуджаную iмi ж падводную, нябачную воку плынь ракi.

Падобна iм, россыпна i дурaслiва, разбрылiся па беразе Прыпяцi i мы, няздольныя суцiшыць у сабе першабытнае зачараванне i захапленне дзяцiнства, якога, напоўнiцу, здаецца, не кожны з нас i паспеў зведаць. Таму што ўсе мы прагнулi як мага хутчэй пазбавiцца, выцерабiцца з яго, збыць. Непарушна спакойным, непадатлiвым бязглуздаму i невытлумачальнаму выбуху юрлiвасцi застаўся толькi адзiн з нас. Адам Палын.

Але пра яго трэба асобна i больш падрабязна.

Адам Палын – з’ява нiкому невядомых краiнаў i часоў, з якiх ён звана цi нязвана апынуўся ў нашым часе. З’ява для вёскi, дзетдома, школы i той самай прыроды, з якой я пачаў. Гiсторыi i геаграфii, якiя, падобна, i выпхнулi яго напаказ i здзiўленне свету. Выпхнулi i спадарожна мовiлi: iдзi i будзь. Ён несумненна быў падобны да прыдарожнага, прыпыленага палыну. Не надта рослы, карчаваты, бялява прыпарушаны па ўсiм твары, трошкi пазначаным рудаватым рабацiннем падчас квету таго ж палыну, як паловай, дробненькiмi валаскамi. Непаваротны нi шыяй, нi тулавам. Адрачоны ад людскай сутнасцi, ён, здаецца, i не хадзiў па-людску. Кожным крокам урастаў у зямлю, без адчування пары года, зрэдку толькi абыякава лыпаючы, памiргваючы маленькiмi i гузiкава круглымi, што ў зверыка, вочкамi. Абуваўся тады, калi яму нагадвалi абуцца. Таксама i апранаўся, не зважаючы на мароз цi спёку.

Нашая дзiцячая дзетдомаўская свядомасць абуджалася ў iм, калi ён сустракаўся з нечым спажыўным цi з тым, што ляжала без нагляду. І безнагляднае адразу ж прыбiраў. Так ён прыбраў мой на два лязы сцiзорык, хаця той быў у маiх руках. Я здуру выхвалiўся iм перад хлопцамi. Палын як вырас аднекуль з-пад зямлi. Клешчавата выдзер з маiх рук сцiзорык, моўчкi павярнуўся i патупаў прэч. Я абурыўся, накiнуўся на яго ззаду. Ён стрэс мяне са свайго карку, як муху. Але павярнуўся тварам да мяне i так пячорна i непаразумела, зусiм непагрозлiва, зiрнуў, што ў мяне адразу прапала жаданне хоць напаўколькi пярэчыць яму.

Адзiна чалавекам наш Адам быў пры валах. Любiў ён нашых валоў Цоб i Цоба, што значыць левы i правы. Валы толькi два гэтыя словы i ведалi. Слухалiся iх адно ў Адамавым маўленнi. Былi адной з iм масцi,

адной хады, ленай пакоры і жуйнай абыякавасці. Мо таму і вылучалі яго, ці не лізаліся нават з ім. Адам то відавочна з імі лізаўся. Заўсёды насіў пры сабе для іх учарнелы, што вугельчык, драбок цукру і дзетдомаўскую пайку хлеба.

А яшчэ Палына бясконца прываблівалі пчаліныя вуллі, шматлікія на той час, яшчэ дзедаўскія і прадзедаўскія борці, старажытныя калоды на векавых дрэвах. Думаю, толькі гэтым можна патлумачыць і яго паўсядзённы знешні выгляд: заўжды неабудна снулы, як пакусаны пчоламі ці то збіты іх гаспадарамі, а мо і дрэвам, з якога ўпаў, здабываючы мёд. Хаця лазіў Палын па дрэвах, неабдымных дубах і хвоях, нібыта калісь у адным са сваіх жыццяў быў мядзведзем. Быў і застаўся. Мядзведжая пахмурная дрымучасць назаўсёды апухла набегла і застыла на яго твары. І гэта зверавата-мядзведжае было ўласціва яму ва ўсім – прадбачанне здабычы і месца, дзе гэта здабыча знаходзілася.

Думаю, гэта яскрава абудзілася ў ім і ў той дзень. Мы яшчэ шалелі і гарэзілі на крутым беразе Прыпяці, а Адам разматаў з сукаватага друка, хутчэй аглобліны, што ўсю дарогу нёс на плячы, суровую, як жылу, нітку. Капытамі ступакоў і кіпцюрамі пальцаў раздзёр не надта трывалую яшчэ па вясне дзярніну, здабыў вёрткага чарвяка, амаль выпаўзка, нанізаў на кручок. Скочыў з абрывістага берага на ўтрамбаваны вадой лапік зеленавата-белай гліны, спужаў злітага з такім жа колерам вялізнага прыпяцкага рака, які ўгрэўна распасцёрся там. Што адбылося далей, варта было б паказаць у кіно.

Нітка-жыліна без усякага намёку на прысутнасць паплаўка пачала імкліва сукацца ў бясплыўную завадзь. І раптам абвісла, нібыта ў той завадзі хтосьці атрымаў чаканае ад Палына пасланне і разважліва аціх, чытаючы яго. Не набраклая яшчэ вадой нітка паляжала на бясцеччы ракі, спахапілася, хуценька матлянулася ў адзін, другі бок. Нібыта паведамляючы: дзякуй, вас зразумелі. Пераходзьце на прыём, чым не марудзячы, вельмі хватка і ўпэўнена і заняўся Палын.

І што дзіўна, нават агеньчык, жвавая іскрынка зацеплілася, прамільгнула ў яго вачах. Падобна, ён здабыў тое цяпельца ў сабе. Як наш далёкі прашчур здабываў яго ў сваім згубленым у стагоддзях пячорным існаванні. І ўсе мы адчулі велічную хвіліну нараджэння таго агню. Ён палыхнуў ужо праз імгненне з вачэй Палына. Апякальна прайшоўся па кожным з нас. Нібыта вызваляльна ўзвіўся з вірыстага схрону даўніны старажытнай паляшуцкай ракі. Але Палын адразу ж прытушыў яго. Адкінуў убок сваю аглобліну, наступіў на яе. Ухапіўся за пацямнелую, ужо набраклую ад вады жыліну-нітку. І пацягнуў, пацягнуў яе, нібы з сябе. Як працяг нечакана-захаванай і вязка-застылай вечнасці.

А з той вечнасці, веерам пырскаў разбурыўшы мацавальны скрэп стагоддзяў вады, выхапілася зіхаткая на ўсе колеры вясёлкі залатая рыбка, толькі надта вялікая – рыбіна. Яна вісела на кручку, хоць і суровай, але слабенькай на яе вагу нітцы. І хапала, хапала храставата жаўклявым ротам паветра, як па-сабачы прынюхвалася да яго, пазнаючы, але ж не прымаючы яго. І нікольки не брыкалася, не супраціўлялася. Нібыта па сваёй ахвоце пераадолела шлях з прыпяцкай глыбіні толькі дзеля таго, каб сустрэцца, зірнуць на нашага Адама Палына. А мо гэта і быў сам Адам у сваім колішнім абліччы. Адораны прыгажосцю, здзіўленнем, думкай.

І яны пазнавальна і непазнавальна глядзелі адно на аднаго, не зводзячы

вачэй. Аднолькава маленькіх у чалавека і рыбіны, як сатвораных па адным капыле і ўзоры. Толькі ў рыбы вочы былі навылупку, а ў чалавека недзе губляліся паміж шчокамі і пераноссем. Таму здавалася, што рыба істота больш зямная, а чалавек аднекуль прышлы. І ён падсвядома разумее гэта, і таму пачуваецца трохі ніякавата, як чужы ці не ў сваёй хаце. Непаразумела тупае, перабірае нагамі. І рыба як адчула яго непаразуменне, неверагоднасць іх сустрэчы праз вякі і тысячагоддзі. Напружылася, круцянулася, спакуслівa дазваляючы чалавеку і небу аглядзець з усіх бакоў гнуткае і дасканалае ў сваёй прыгажосці цела, фарбы яго, паставу. Выгнулася, уцягнула, падціснула ўсе пукатасці, жар і холад, што так зіхатліва сцякалі з яе буйнымі кроплямі вады ў старажытную раку. І, здаецца, сама саромеючыся сябе, свайго з'яўлення на гэтай грэшнай зямлі з яе няўклюднымі насельнікамі, адмахнулася ад іх шырокім веерам хваста, як не без пагарды дакарала іх за тое, што паклікалі і выцягнулі яе на божае святло. Акрапіла рэшткамі назапашанай на яе целе вады, як плюнула ў вочы. А мо і асвянціла. І ў тое ж імгненне нітка хлёстка лопнула.

– А-а-а-а... – галасіла, здаецца, само неба на чале з сонцам.

Час запаволіўся. Рыба трапятліва, карабельна завісла ў паветры і марудліва, плазам пачала падаць пад ногі Палыну, парушаючы ўсе пісаныя і непісаныя законы зямнога прыцягнення. Падала, зніжалася і зніжалася, як сухі восеньскі і бязважкі ліст асіны. Дратавала, рэзала вока чырванню, пражылкавай сінню і вадкім срэбрам.

А мне здавалася, што гэта я лунаю па-над прасцягам вады, што гэта з-пад маіх ног знікае зямля. Сплывае ў абдымках, у мройным марыве каляровых саміх па сабе і запазычаных у летняга поўдня траў, кустоў, дрэў, пракаветнай прыпяцкай вады. І сам я распускаюся ў шматфарбовасці рыбіны, якая паланіла мяне імгненнем абуджанай, збытай на яве казкі.

І пры ўсёй маёй паляшуцкай, а ў дадатак яшчэ і дзетдомаўскай прызямленасці ў тую хвіліну я гатовы быў пагадзіцца: так, так, гэты цуд, гэтае дзіва павінна пайсці зноў туды, адкуль прыйшло. Дзе яно адвечна жыве няхай толькі і дзеля імгненнай уцехі пакаленняў і пакаленняў бязбацькавічаў.

Але такі мой стан не задоўжыўся. Я хуценька пазбавіўся жаласлівага дзяцінства і ахрыплым лямантам сталасці ўплёў свой голас у агульны статкавы хор. Толькі з маіх вуснаў прагучала нешта зусім процілеглае таму, што гарлалі мае хаўруснікі:

– Ён жывы і свеціцца!..

Хто ён? Хто жывы? Хто свеціцца? Адам? Рыбіна? Ці хтосьці зусім іншы, нябачны?

Разгадаць бы мне гэта хаця б сёння.

Бераг жа быў захоплены і падпарадкаваны зусім іншым пачуццём. Заахвочвальным гімнам здабытчыкаў, прыродных дзяцей. Інстынктам падняволеных, што адчулі волю і зразумелі амаль па-біблейску: гэта хараша. Дзячылі небу, што дазволіла ім зазірнуць у недасяжнае, нябачанае імі, але недзе ўвесь час прысутнае ў іх.

Мне ж на тую хвіліну падалося, што здабытчык і здабыча, Палын і рыбіна былі ці не параднёнымі паміж сабой. Хаця, калі цвяроза, гэта было неверагодна і немагчыма. Што можа быць агульнага ў каменя, выкапнёвага помніка з трапяткім матыльком над ім. Але ж было, было. Нешта з вельмі і вельмі далёкага агульнага паходжання і таму няўцямнага абодвум ім сваяцтва. І штосьці з не такога ўжо далёкага... Выкапнёва-матылько-

вае параўнанне, вырадак і прыгажуня – гэта на паверхні, а было нешта і глыбіннае, каранёвае, хаця надта звычайнае ў вясковым побытавым жыцці, бажавільна звыклае. І, як я мяркую ўжо сёння, амаль іканапіснае. Бо стварала, стварала, вымалёўвала тая вёрткая каляровая рыбіна і нейкі німб над бялявай стрыжанай галавой дзетдомаўскага блазна – спалучэнне, паяднанне вечнасці з будзённасцю.

– Аа-а-а-а! – зноў і зноў, спрэс адно і адно галасіў прыпяцкі бераг.

І там, на небе, галашэнне гэта, падобна, пачулі. Паспачувалі, пашкадавалі, адхрысціліся, перахрысціліся? Не ведаю. Гэтага мне не дадзена ведаць. Як не дадзена спазнаць, што ў слове нашым і за словам.

Рыба ўпала на залізаны вадой, як стол, перадабрыўны глінны берагавы лапік, што паўкругам вытыркаўся з вады. Ці не апярэдзіўшы яе, туды ж пачаў падаць і Адам Палын. Рыбіна і ён ці не сутыкнуліся яшчэ ў палёце. Адам мёртва прыціснуў рыбіну да зямлі. Ашчаперыў яе з двух бакоў клюшнямі рук. Падбароддзем, ротам, вуснамі аднагалова зросся з ёй, зліўся сваімі снула асавелымі вочкамі з яе вачыма навылупку – цяпер ад цяжару яго цела – так, што збянтэжаная рыбіна адно толькі жоўта плямкала губамі, пазбаўляючыся паветра. Тое ж самае праробляў і Палын. Толькі ён сутаргава ўдыхаў паветра. Пэўна, падаючы забыўся, што дыхаць трэба няспынна.

І ляжаў сучасны, дваццатага стагоддзя, Адам сёння зусім як папярэднік яго, яго пра-пра, на Еве перад выгнаннем з раю. Не было толькі змеяспакушальніка ды райскіх яблык. Падымалі, выцягвалі мы свайго Адама з яго бел-чырвона-белым цудам на прыпяцкі прасцяг, як з апраметнай, з таго свету, усім паходам. Ён не здолеў ці не пажадаў расслабіцца, хаця б на імгненне выбавіць з абдымкаў рыбіну. Да той хвіліны, пакуль мы яго, нібыта валун, не ўзнялі на рукі і не выпхнулі на круты бераг.

Дырэктар дзетдома Мірон Апанасавіч Сарока ўзважыў рыбіну:

– Трохі больш за чатыры кіло, – сказаў ён. – Чыстапародны. Чыстакроўны байстручына язюк.

І кожнаму з нас дазволіў памацаць, датыкнуцца да таго высакароднага байструка. Больш мы яго не бачылі. Ні жывога, ні варанага, ні смажанага на нашым выпускным вечары. Такім чынам я апраўданы, бязгрэшны. Не еў я Адамавага язя. Не далучаны.

Вось такая, толькі пачуццёвая і зрокавая была мая першая сустрэча з гэтай рыбінай. Першая, але не апошняя. Ужо далёка па часе і месцы ад таго дзіцячага ўзрушэння я шмат чаго ўведаў пра жыццё і звычкі язёў. Пра яго вялікую хату – ад Прыпяці, Рэйна і да Лены. Мой першынец быў яшчэ падлеткам. Сталы ж язіна – ад васьмі да дзесяці кілаграмаў і даўжэй за паўметра. Мне з такім сустрэцца не паталаніла. Упэўнены, тлумачыцца гэта тым, што як пішуць дасведчаныя рыбаловы, язь – адзін з самых распаўсюджаных аб'ектаў промыслу і спартыўных ловаў. Ахвотнікаў на яго і без мяне да чортавай матары.

А было, было. Палешукі, мяркуючы, на жаль, сёння толькі па казанях звярталіся з ім на ты, як з панібратам. Для ловаў яго на невялікіх рэках і затоках плялі адмысловую перавязь з праходнай адтулінай пасярэдзіне, дзе ставілі так званы на Тураўшчыне жак – мярэжу ці вершу. І мелася язёўка – спецыяльнае вудзільна на язя. І яшчэ ў мінулым стагоддзі нашыя дзяды і бацькі ласаваліся язёвымі пірагамі. Даласаваліся.

У дадатак да гэтага, а мо і ў павучэнне, язь – вельмі наравістая сваволь-

ная і свабодалюбівая рыба. У рацэ ходзіць толькі наўкось, а не пасярэдзіне рэчышча. Так ямчэй пазбегнуць рыбацкіх сетак і невадаў. Мо таму ён і трапіўся нашаму Адаму Палыну: згуляў наўкось, як любяць гуляць усе карпавыя, збегаў налева – пажадаў пакорпацца ў глеі і муле адбойнай супрацьплыні. І...

Падабаліся і падабаюцца язям нашыя палескія рэкі. Пра гэта можна мяркаваць па Прыпяці і Случы. У Случы аддае перавагу нізоўям, дзе яе не прыхапіла яшчэ меліярацыя і захаваліся глыбіні з моцнай плынню, ямамі, вірамі і шматлікімі затокамі-старыцамі. Распаўсюджанасці язя на Случы, як ні здзеклівa гэта гучыць, мы абавязаныч молеваму колісь сплаву па ёй лесу. Гэта адбывалася яшчэ на маёй памяці. Столькі бярвенняў, што плылі па невялікай рачулцы, мне даводзілася бачыць толькі ў Сібіры, дзе і рэкі вялікія, і тайгі, таго лесу, лічыцца нямерана. Было такое і ў нас. Але шахты патрабавалі не толькі беларускіх дзетдомаўскіх рук, але і беларускага дрэва. І ішлі пад сякеру і на зуб бензапілам векавухі хвоі, а потым і маладыя дубкі – падлесак.

Таму дно Случы, асабліва ў нізоўях, літаральна высцелена патанулым дрэвам. Вада час ад часу спакваля выкрывае яго адмерлыя радовішчы, агаляе занесеныя белым пясочкам учарнела мораныя дубовыя калоды, аб'едзеныя, сточаныя да парахні хваёвыя сутункі. І тады там пачынаюць шчыраваць прадпрымальныя мясцовыя здабытчыкі – выцягваць лес з ракі – для сябе, а больш на продаж. Якраз там плодзіцца і жыруе язь.

Звычайна аказвае сябе ранкам, на ўзыходзе сонца і ўвечары – на захадзе яго. Без усплеску і пырскаў, акуратна, слупковымі выкідамі вады, накшталт такіх, што ўзнікаюць пасля скокаў з вышкі спартсменаў разраднікаў. Мне не аднойчы шчасціла наглядаць за язевымі гульнямі і забавамі. Іх почырк, подпіс на вадзе немагчыма зблытаць з аніякай іншай рыбай. Язь – адзінец, індывідуаліст, такі ж памяркоўна аглядлівы, як і паляшук. Колькі рыбацкіх зорак я паляваў яго, і ўсё марна.

Неяк ва ўрочышчы Свілева – неразгаданая назва, мо ад завойнай плыні Случы там, ці ведзьмацкага звіву, кручонасці ўсяго расліннага пры беразе, а мо і ад цвілі, хмеля, што аплёў там кожны кусцік, як бы гэта не тлумачылася, толькі ж надта любае тое ўрочышча мясцовым і заезджым вудзільшчыкам а закалоджанасць вады – язям – дык вось, неяк у Свілёва завітаў і атабарыўся там сталічны выбітны рыбак нахлыставік, мастак Пётр Калінін. Жарсць, азарт сапраўднага рыбака – гэта больш падрыхтоўка да рыбалкі. Прадчуванне яе, наладжванне снасці, прымерка, прыкідка і надзеі, надзеі.

Ужо на месцы, каля ракі, Калінін бавіўся гэтым дні са два. Шукаў прыдатнае дрэўца для вудзільна. Абавязкова бярозку, невялікую і ёмкую ў руцэ. Мудрагеліста апрацоўваў. Парыў, насычаў алеем, грэў на агні. І зноў усё спачатку ды ладом. Пасля чаго выпрабоўваў на гнуткасць, пругкасць і на нейкі, вядомы толькі яму, гук, хлыстовы посвіст самога вудзільна і плеценай ў некалькі столак жылкі пры ўзмаху. Скрытна перабіраў безліч мушак. Некаторыя з іх перарабляў, мяняў апярэнне. Птушынае, пеўневае на звярынае ці жывёльнае, белае на чырвонае, чырвонае на белае. Стоптваў пры любым надвор'і кіламетры і кіламетры ўніз і ўверх па рацэ пешкі і на дэсантнай гумавай лодачцы. Нарэшце абвясціў: сёння пасля абеду прэзентацыя. Пры мне выпрабаваў нахлыстовую снасць. Уразіў мяне даікаўкі.

У маленстве я на сваёй скуры спазнаў, што такое пуга, сапраўдны,

спеўны на рэбрах бізун прафесійнага пастуха – адмысловы выраб вялікіх вясковых майстроў. Але мае знаёмцы, мясцовыя Страдзівары, Гвардзіані няварты былі і чыху сталічнага маэстра нахлыставіка. Каб пераканаць мяне ў гэтым, Калінін спецыяльна для мяне зрабіў прэзентацыю сваёй снасці адразу ў дзвюх сферах – на зямлі і на вадзе. Гэта была песня – адажыа ці сальфеджыа ў выкананні дуэтам: Нікало Паганіні з местачковым скрыпачом яўрэем Шлёмкам на адзінай струне старажытнай рэчкі Случ. Мілагучны пошчак закаханага салаўя ў белай квецені чаромхі. Першы малінавы звон жаўрука над напаўзаснежанай яшчэ, але ўжо нахабна сакавітай зялёнай рунню. Магутная музычная кропка, развітальны акорд вытанчанай, хаця і нежывой, але ўсё ж мушкі з прыхаваным у ёй кручком.

Я праводзіў яго на язевы промысел, як праводзяць навабранца ў войска. Доўга ішоў па беразе, наглядаючы, як ён дэсантна баражыруе на сваёй армейскага ўзору гумавай лодачцы, задаволена здзекуецца з вады нахлыстам. Пры мне ні паклёўкі, ні ўлову не было. Хаця ўпэўнены, каб быў я на месцы случанскага язя, кляваў бы безупынна і заўзята.

Кожны рыбак на беразе ракі – помнік. Скульптура, а мо і скульптурная група – сапраўдны сацрэалізм. Кранальнае і бясконца жыццёвае адлюстраванне жалобы, надзеі і толькі зрэдку задавальнення. Рыбак нахлыставік, сам мастак, Калінін у вайсковай гумавай лодачцы – помнік двойчы, помнік і карціна алеем. Ён манументальны і на п’едэстале, і ў аблямцоўцы, у рамцы вады, берагоў пад наглядам вечнасці. І ўсе рыбы ракі і нават ракаўкі, безгаловыя і бязмозглыя, на маё меркаванне, павінны былі бегам бегчы, імкнуць да яго, як асфальтавыя шызафанаткі ліпнуць і пнуцца сёння да кіна- і тэлезорак. Але Калінін у той дзень у рачных дзіў, па ўсім, захаплення не выклікаў. Ён яго і на наступны дзень, як і ва ўсе іншыя, што я цікаваў за ім, не выклікаў. Хаця кожны вечар сціпленька і крыху сарамліва дакладаў мне: сёння два... А сёння ажно тры. Я прасіў Калініна паказаць іх мне. Але ён адрабляўся тым, што ўжо засаліў ці засмажыў.

– Ну тады на луску ці косці дай падзівіцца.

– А гэта ўжо ў рацэ, на прынаду ракам і рыбам...

І я ў рэшце рэшт адчапіўся ад яго. Вырашыў сам заняцца ловам язёў. Да мяне прыехаў у госці і на адпачынак сябра, пісьменнік Алесь Жук. На жаль, больш паляўнічы, чымсьці рыбак. Але я спакусіў яго язямі нахлыставіка. Добра разумеючы, што нам не ўгнацца за ім, мы з Жуком вырашылі пайсці сваім шляхам. Узяць язя, купіць яго кормам. Усё добрае і благое на свеце вяршыцца не толькі ад галавы, але і ад чэрава. Да гэтага я тое-сёе чуў і ведаў ужо пра каноплі. Тады яны яшчэ не былі паза законам, не лічыліся наркатой. У хатах сваіх вясковых сябрукоў мы, дзетдомаўцы, са смакам ласаваліся тоўчаным яе насеннем, макалі і елі з бульбай, паронкамі. Не адну восень убіралі каноплі з палеткаў мясцовага калгасу. Надаралася, чадзелі, але не наракалі. Каноплі нашаму дзяцінству былі бясконца патрэбныя, як і калгасу і кожнай вясковай хаце – кожная вяроўчына, кожны ж матузок на ўліку.

І мы аблузвалі сцябло канопляў. Мялі і сушылі. Плялі аборы – крапленне для лыж, канькоў-снягурачак дый для падтрымкі нашых штаноў. Пазней, у больш сталым узросце, я адукаваўся, наслухаўся каля рыбацкіх вогнішчаў, што буйная рыба не цураецца паху льнянога і канаплянага насення, як некалі мы ў дзяцінстве, з задавальненнем спажывае іх з тоўчанай бульбай і мякішам хлеба. Употай ловіць кайф і балдзее. У калгасе ў тую

пору каноплі яшчэ не паспелі звесці. Мы з Алесем насмыкалі іх галовак і напарылі разам з бульбай. А ў дадатак патушылі ў печы чыгунок нялушчанага гароху з алеем – прыкорм і насадка. Самі б елі, ды язям трэба.

Увечары, не шкадуючы, шчодра прыкармілі ўлюбёнае язямі калоднае месца ў рацэ. Выйшлі на золку. Зноў, цяпер каб толькі пацвеліць, распаліць язёў, сыпнулі прыкорму. І што вы думаеце? Гэта была рыбалка. Вудзільны гнуліся і трашчалі. Паплаўкі не затрымліваліся на вадзе, адразу ж знікалі. І мы ні ў якім разе не былі помнікамі – увесь час у працы, у руху. Але бралася толькі плотка. Праўда, адметная, язёвая. З усімі яго прыкметамі. Залатым язёвым адлівам спелай лускі, зыркай чырванню плаўнікоў. І кожная не менш паўкілаграма. Але ўсё ж – плотка.

Гэта нас не задавальняла. Мы ўжо блізіліся амаль да адчаю, калі я адчуў: ёсць, клюнуў, наркот. Толькі ўзрушыўся я занадта рана. На маім кручку сядзеў самы самы сапраўдны язь, язюк, язіна, але павёў ён сябе зусім няправільна.

Напружыў, нацягнуў да скрыпкавага звону жылку і порсценька кінуўся ад мяне паўкругам наўкось плыні ракі. Я дарэмна і безвынікова імкнуся стрымаць яго, утаймаваць, небеспадстаўна баючыся, што ён паднырне, пойдзе пад калоды. І тады на рыбалцы, як і на маім сёння жыцці, прыйдзецца ставіць крыж.

Але гэты крыж на маім рыбацкім шчасці крыху раней паставіў язь. Жылка на вудзе, а здалося, недзе і ў сярэдзіне мяне, імгненна без усякага з майго боку пацягу, руху дзынкнула, брынкнула, выдала мне і рацэ фальшыва жалобную ноту. І абарвалася.

Усё прайшло, скончылася мінулася. Таксама ж разам са мной пачалося і мінулася, скончылася праз пару хвілінаў і ў Алеся. Мы доўга моўчкі курылі, непаразумела гледзячы на абыякавую да нас рачную ваду: мо хоць носа пакажа. Не паказаў. Толькі я глыбокадумна і падманна спакойна запытаўся ў аціхлага сябра:

– Алесь, табе ўсё яшчэ патрэбны язь?

– А табе? – адказаў ён пытаннем на пытанне.

– Я рады плоткам.

Ён таксама быў рады плоткам.

А што нам яшчэ заставалася.

У рыбалцы, як і ў кожнай не надта надзейнай справе, дзе Бог мяркуе надвое, сам яшчэ не ведаючы, у які бок вяровачка заўецца, важны не вынік, а прадчуванне, прадчаканне, Поспяховасць жа часам зусім не спрыяльна расслабляе. Паражэнне, няўдача – больш дзейсныя і стваральныя. Так адбылося і з намі, прынамсі са мной.

Каляпрыпяцкіх, случанскіх язёў пасля Палыновай удачы і нашай з Алесем няўдачы я ўсё ж спадобіўся бачыць твар у твар. Хаця маёй заслугі ў гэтым нуль без палачкі. На сумеснай рыбалцы з вясковымі вільчанскімі непераўзыйдзенымі рыбакамі. Праўда, нехта іх і мяне можа дакарыць – браканьеры і браканьерства. Укусіце сябе за локаць і апамятайцеся. Браканьерства спакон веку было і будзе зусім не сялянскага вясковага паходжання – гэта як воўка дакараць у хіжасці – у тым, што ён не нюхае кветачак і не спявае салаўём.

Сапраўднае браканьерства – яно вытанчанае і адукаванае. Зусім як наш дзяржаўны і драпежна-ненажэрны Алімп. Яшчэ нядаўна яно было аступенена фізічна і хімічна кандыдацкімі, а то доктарскімі званнямі. Спрэс

электрыфікаванае, электроннае, а з цягам часу і кампутарнае – галаваста вынаходлівае. Не ў прыклад сённяшняму, амаль безгаловаму – куплёнаму ці прыхватызаванаму падзелам браткамі ўладнага і мафіёзна алігархічнага паходжання берагоў рэк, вадаёмаў, да якіх тутэйшаму чалавеку і не падступіцца: рылам не выйшаў.

Колісь і сёння вясковец, той жа паляшук са сваімі кабыламі і брэднікамі, баўтушамі, жакамі, вершамі, саматужнымі сеткамі ніколі ліха сваёй вадзе не тварыў.

Таму што ліха тое – справа больш дзяржаўная. У дадзеным выпадку прамыслова дзяржаўных, а цяпер ужо і прыватных брыгад рыбакоў з іх шматсотметровымі невадамі, з ячэйкі якіх – самаму непагляднаму рачку не выдзерціся.

Вясковыя рыбакі бралі мяне на свае ловы звычайна па восені, пад першыя зімнія мухі, у так званую апошнюю, восеньскую паводку. Плавіліся пад поўню па цягу ўжо загусцелай, цяжарнай на зіму вадзе на сваіх драўляных, дзедаўскіх яшчэ душагубках. Цягнулі накідную ці наплаўную сетку. Не па рэчышчы, а ўсцяж яго і па ровах, ярках, дзе не мясцоваму чалавеку і падумаць немагчыма, што там можа завесціся рыбіна. Але яна была.

Памяць у рыбы была, адвечная, генетычная яшчэ. Да з'яўлення на зямлі чалавека. І ўсе даліны, нізіны былі няпроста, як сёння завецца, перасечанай мясцовасцю, а рэчышчамі старадаўніх рэк – шляхамі і хадамі іх маладых бацькоў. Былыя тыя сцежкі-дарожкі стапталіся, згадзіліся – перасохлі. Забыліся чалавекам. А рыба аказалася больш памятнай і бяжыць туды не толькі на свежую і бадзёрую восеньскую ваду, але як і на радаўніцу – на ўспамін душы сваіх продкаў, у іх і сваю колішнюю маладосць.

І плыў я на душагубцы той іх занядбанай былой дарогай. Тупка ўжо падмарожанай, як падсоленай, разам з двумя вяскоўцамі. Адзін падвяслоўваў на карме, другі – пасярэдзіне душагубкі – трымаў почап наплаўной сеткі. Рака іканапісна іграла і свяцілася ў задуменным ззянні поўні, што пракладала нам вузенькую і зыбкую сцежку, скіроўвала, уцягвала ў векапомнасць. Рыбак, сярэдні Харон, час ад часу пахістваўся і шморгаў на сябе почап: няма, няма, няма. І раптам: ёсць, ёсць. Ёсцека. І пачаў выбіраць сетку.

Душагубка паслухмяна і ўпраўна заслізгацела да прыбярэжнай навісі хмызоў. Але не дасягнула іх. Спакваля павярнулася і імкліва скочыла супраць цягі, уніз яе.

– Ёсць сіла, што мама насіла, – адобрыў рыбак на карме.

І абодва ўголас радасна зазначылі:

– Гуляе, гуляе. Як тады...

І засяроджана замоўклі, даючы волю ўлову. Толькі калі сетка была ўжо каля борта лодкі, той, што сядзеў на почапе, не ўтрымаўся, загуліў:

– Ну што, ну што... Ідзі да мяне, маленькі.

Маленькі пацягнуў значна больш за немаўля, ці не паўпуда і даўжынёй больш за распасцертую руку рыбака. Язь, язюк, язіна. І хаця мая роля ў здабычы яго была аніякай, мо нават і адмоўнай – чужое вока – на той час я ці не ўпадобіўся Адаму Палыну, яго выкапнёваму шчасцю на беразе Прыпяці, толькі без дзіцячага ўсхліпу: ён жывы і свеціцца.

Язь мне здаўся сумным і прыгнечана-пакрыўджаным. І гэта зноў быў мой стан пасля ўзрушанасці і захаплення. Стан ракі і наваколля, хаця і

асвечаных, а мо і асвянцоных поўняй, што пракінула мне і маім Харонам залатую ў вадзе сцежку і назаўсёды пазбавіла гэтай сцежкі язя.

Але ж тая месяцовая сцежка засталася ў маёй памяці. Іншым разам уначы, у снах, я праходжуся па ёй. І ў казытліва дрогкіх праблісках роднай мне вады паляшуцкіх рэк Прыпяці і Случы мне мрояцца, прыгадваюцца ўсе мае злоўленыя і нязлоўленыя залатыя рыбкі і рыбіны. Іх карагоды, маладыя і дарослыя, за якімі замілавана сачылі разам са мной падчас юбілею Васіля Быкава Алесь Адамовіч, Сяргей Залыгін, Ніл Гілевіч, Лазар Лазараў. А Ірына Міхайлаўна, жонка Васіля Быкава, карміла з рук рыбную моладзь крошкамі белага хлеба. Каб яны раслі і памяталі, што недзе на зямлі ёсць людзі. А ў людзей ёсць рэкі. А ў рэках яны, рыбы. А сярод іх – рыба язь. Якога я асабіста ўсё ж не прыняволіў. І ён цяпер светла і месячна на поўню і па маладзіку сніцца мне на сыходзе доўгіх ужо сёння маіх начэй. Нагадвае, што і ў рыб ёсць свае пракакаветныя шляхі і дарогі, памінальныя святы. Святы іх, цяжарных ужо на зіму вады і зямлі. Мо і мы снімся ім. Пэўна, тагасветна сняць іх і людзі.

Хай жа ўсе яны ў добрай згодзе жывуць і свецяцца. Вечна.

## ПЛАЧ КАСАТКІ ПА-НАД ВОДАМІ УСУРЫ

Гэты плач не праходзіў ува мне. Такое ці не ў кожнага з нас, часта насуперак нам, адбываецца. Нешта нечакана кране душу, і ты доўга носіш гэтую нечаканасць у сабе, гук, сумны ўсхліп птушкі, прыблудную кроплю летняга дажджу на шчацэ. Часам і злуеш, але паціху збываеш і забываеш. Гук патанае ў мітусні думак, крык птушкі і душы падмяняюцца роспаччу паўсядзённасці, што акаляе цябе. А сумная кропелька дажджу на твары хутка высыхае сама, хаця не заўсёды бясследна, нябесная пазначанасць ёю трымаецца іншым разам да схону дня, а мо і да ранішняга ўмывання. Толькі слядок усё ж застаецца, мігціць і смыліць у падсвядомасці патаемнай цемры памяці спарахнелым успамінам гнілых светлякоў аб колішнім дрэве. Успамінам даўно і назаўжды супакоенага пня.

З такім супакоеным успамінам, слядком, плачам касаткі па-над водамі чужой мне ракі, доўгія гады жыў і я. Да гэтай вось пары, калі ўжо даўно спрахла і адышла дзіцячая і юнацкая, нават сталая ўзрушанасць: ад мяжы да мяжы спазнаць усю зямлю, абысці яе сваімі нагамі, абвесці вокам, адчуць слыхам. Увабраць і змясціць у сабе ўвесь белы свет, у якім пачэснае месца адведзена той жа рэчцы Усуры, Усурыйскай тайзе. Плынь і пошум якіх зашугалі ўва мне кніжна, праз галасы і крокі Пржэвальскага, Дэрсу Узала, геолага і пісьменніка фантаста Івана Яфрэмава. І само сабой, зазоўнасцю рыка сонечнай паласатасці хіжага тыгра, непаваротнасцю ў зацішшы свайго віру пяціпудовага волата тайменя. Ці ж здольны супрацьстаяць гэтаму малы і задумлівы палешучок, калі ён ніколі не адбягаў далёка ад свайго парога і балота, а ў галаве ўсё ж нешта мае.

Ці не гэтая лішняя вандроўная клёпка ў галаве спадзвігла мяне на злачынства. На крадзёж кніжкі ў Вільчанскім дзіцячым доме пра тую ж Усурыйскую тайгу, Пржавальскага і Дэрсу Узала. Кніжка была зачытаная, без пачатку і канца, але з малюнкамі. Пазней мае блізкія збаёдалі яе, хутчэй за ўсё выкінулі на сметнік.

І адсюль ці не ўсё, што з намі адбываецца на гэтым белым і не белым свеце, у абарванасці таго, што нам дарага, ці не загадзя прадпісана і на-

канавана. Нам толькі мроіцца, што мы такія самастойныя, усё робім па сваёй волі і ахвоце.

Насамрэч нават самы маленькі наш крок убок ад набітай сцежкі прыраўноўваецца да ўцёкаў, караецца, часам і смяротна, пра што мы ўжо ніколі і не ўведаем. Нас падводзяць да жыцця і нябачна і няўмольна вядуць па ім – вялікіх, малых, велічных, нікчэмных. Вызначаюць не толькі лёс, але і імгненнасць кожнага міргу, руху, напрамку ў часе і прасторы. У маім выпадку прымушаюць мяне рабіць менавіта тое, што я цяпер раблю.

Адгарэлі памяць і дзіцячыя мроі аб спазнанні свету, ракі Усуры, Усурыйскай тайгі. Толькі і праз гады рэчаіснасць нагадала мне колішняе, стоеную і, па ўсім, ужо адмерлую промільгавую нязбытасць. Помсліва і крывава, як гэта заўсёды адбываецца пры забыцці і здрадзе самому сабе: не, зусім невыпадкова падае якому-небудзь прахожаму небараку, што апынуўся ў пэўны час у пэўным месцы, цагліна на галаву.

І я, хоць і падсвядома, перасцярагаўся гэтага часу і месца, пачынаючы свае дакументальныя прыпавесці пра рыбалку – і не толькі – «На кручку». Але ж мала-мала каму дадзена мінуць сваё жыццёвае міннае поле, пераадолець яго і сябе, засцерагчыся непазбежнасці наканаванага. У звычайнасці нашага жыцця – гэта мо і проста, магчыма, толькі ні пад вышэйшым судом і суддзёй, не адзін на адзін перад белым аркушам няспісанай паперы, чыстым, як сумленне немаўляці. Нехта ці нешта прымушае таго, хто пярэсціць яго пісьмёнамі, прымушае давярацца і давяраць ім самае патаемнае. Водзіць яго рукой.

А я пры ўсім адмаўленні сябе, жаданні не прызнавацца і не прызнаваць убачанага і пачутага, прыдуманага і саснёнага на яве быў на Усуры, хадзіў па Усурыйскай тайзе, яе сопках. Вяртаўся і адчуваў вайну не толькі праз усё яшчэ крывавячае і параненае роднае Палессе, але і на аддаленні ад яго – у чужым краі, на чужой рацэ Усуры і чужым востраве Даманскі. Некалі паведаў пра гэта Льву Аляксандравічу Аненскаму – пісьменніку, крытыку, філосафу, па паходжанні чалавеку, які мае дачыненне і да Беларусі.

– Гэта ў цябе запісана? – спытаў ён мяне.

– Ды не. Навошта, няхай пішуць іншыя – іх цяпер багата.

– Дарэмна. У іншых – іншае. А ў цябе сваё. Табе мо і не трэба. А вось усім гэтым іншым... Я, напрыклад, у дадатак надрукаванаму вяду яшчэ і дзённікі. Ужо каля дзясятка тамоў. Гісторыя, мая і не толькі. У перасцярогу іншым, што павінен пакінуць кожны з нас.

Я не прыслухаўся да яго тады. Адмовіўся пачуць і пазней. У падсвядомасці яшчэ была жывая, закладзеная і стоеная з ваеннага ліхалецця міна замаруджанная дзеяння, што насілі ў сабе, пэўна, амаль усе дзеці вайны. Міна, якую небяспечна было кратаць і тым абуджаць да нябыту ўжо самога замініраванага. І я зноўку заслупіў сваю памяць маўчаннем і невыказнасцю. І вельмі надоўга, амаль на паўстагоддзе. Лічыў, што адбіўся і ўратаваўся. Бо добра памятаў папярэджанне: ніколі не вяртайцеся ў мінулае, асабліва ў дзяцінства – безнадзейна, балюча і горка, калі вам не даспадобы няспелыя і кіслыя яблыкі.

Але нехта ці нешта, як гэта адбывалася заўжды са мной, прагнуў майго вяртання. Прагнуў няўмольна і жорстка павярнуць маё жыццё і душу да шчымлівай і горычнай чысціні маленства, якога ў мяне, можна лічыць, і не было. Мо так мне зычыла і дбала пра мяне абдзеленасць ім. Нагадвалі пра сябе могілкі маёй памяці, якой я адно толькі і рабіў, што адмаўляў

і адмаўляў няверай адбытаму спадзяваннем на лепшае, заплюшчваючы вочы на неаспрэчнае і відавочнае, непрызнана і нямоўлена ўсё сваё носячы ў сабе: нічога не бачу, нічога не чую, нічога нікому не скажу пра здрады, крыўды і падманы. Свае і чужыя. Бажавільнасць на мяжы з пячорным малпаваннем яшчэ да дарвінскага натуральнага адбору, які, дарэчы, адбываўся заўсёды без нашага ўдзелу.

Але жыццё і без нас падкідвала адно спатыканне за другім. Так вырашылася і адбылося і з Усуры, і з памяццю пра востраў Даманскі. Я ўжо і думаць пра іх забыўся, забараніў сабе. Хаця званкі з мінулага прыходзілі. Першы, калі я амаль пад распад Савецкага Саюза з дэлегацыяй Саюза пісьменнікаў пабыў у Кітаі. Прымала нас Міністэрства абароны КНР, пекінскія пісьменнікі – таксама стуктура вайсковая. І мімаволі заходзіла гаворка пра падзеі на савецка-кітайскай мяжы, на востраве Даманскі. Я маўчаў, прытрымліваючыся так званай паліткарэктнасці. Але сярод нас быў і колішні камандзір стралковай дывізіі, на той час адказны сакратар Саюза пісьменнікаў СССР. Якраз яго дывізія ўдзельнічала ў даўнім памежным канфлікце. Я стаіўся, не адгукнуўся тады, у Кітаі, на яго расповеды. Толькі нешта ўсё ж ускалыхнулася ўва мне. Абудзілася ў памяці і патухла. Дарэчы, кітайцы ставіліся да былога канфлікту памяркоўна, нягледзячы на тое, што за імі тады было больш праўды. Я сам змусіў сябе да забыцця.

Толькі памяць нашая няўрымслівая і падступная. Ужо ў нашыя дні трапіла мне на вока, як нехта падсунуў, кніга Л. Млечына пра кіраўніка СССР і КДБ Ю.А. Андропава і тое, што, здавалася, я ўчора выгнаў праз дзверы, сёння пастукалася ў акно: Прыморскі і Хабараўскі край, рака Усуры, савецка-кітайская граніца, востраў Даманскі. Чапляла ўжо нават назва вострава – Даманскі. Я сам паходзіў ці не з мястэчка Даманавічы, што стаіць толькі праз шлях ды могілкі ад маёй роднай вёскі Анісавічы.

Я зразумеў, што мне няма куды падзецца. Я ўжо на кручку. Мяне адлавілі, абклалі, залыгалі. Выйсця няма. Свае даўгі трэба сплочваць пры жыцці, не спадзеючыся на іншых. Свае магілы і могілкі за сабой мы павінны даглядаць і прыбіраць толькі самі. Больш яны нікому не патрэбныя, як хаця і святыя, але пахаваныя пачуцці. Тыя, хто мае вочы, мае вушы і, нарэшце, мову і слова, каб заставацца чалавекам, – павінны бачыць, слухаць і гаварыць. А інакш пасля іх і за імі толькі тыя ж могілкі. Пустата, што яшчэ невядома якую набудзе форму. Імкнецца набыць форму, але ці нашую, зямную.

Востраў Даманскі на рацэ Усуры нічым не адметны і памерамі не ўражвае. Ад кітайскага берага да яго чатырыста метраў, ад савецкага – кіламетр, тысяча сямсот метраў у даўжыню, пяцьсот – у шырыню. Незаселены. Толькі па восені на ім касілі траву на сена. Па гэтым востраве якраз і праходзіла мяжа паміж Кітаем і Савецкім Саюзам. Пытанне аб ёй даволі складанае – належала прытрымлівацца фарватэру, які часта мяняўся. Кітай патрабаваў перагляду мяжы, з чым быў нязгодны савецкі ўрад.

За адсутнасць паразумення расплочваліся памежнікі. У Кітаі набірала сілу культурная рэвалюцыя. Так званыя хунвэйбіны вынішчалі не толькі культуру, як гэта заведзена падчас кожных рэвалюцый, але і ўсіх астатніх ворагаў. Унутраных, знешніх, а заадно і магчымых. І таму сутычкі паміж кітайскім ды савецкім бакамі былі няспыннымі, праўда, бяззбройнымі. Нашым памежнікам дазвалялася мець толькі палкі, дубінкі не даўжэй за два метры. Але дзе там два, высякалі і цягнулі такія аглабліны – не

кожнаму ад пупа адарваць і ўгару ўскінуць. І памежнікі, стоячы зімой на марозе перад гурмой кітайцаў пад іх галасам: «Шырокі рускі салдат, пераходзь на наш бок, дадзім кожнаму талерку рыса і пампушак», звычайна доўга не вытрымлівалі. Нехта адзін, ці не самы нягеглы і замухрышысты, як на мядзведзя, уздымаў рагаціну, і пачыналася лёдавае пабоішча: без пераможцаў, але сугрэўнае і да крыві.

Так было да першага сакавіка 1969 года. А ўначы на другое сакавіка некалькі соцень узброеных кітайцаў перайшлі мяжу і зрабілі на Даманскім засаду. Начальнік заставы №2 старшы лейтэнант Іван Іванавіч Стрэльнікаў выехаў на востраў з памежнікамі на аўтамашынах. Кітайцы расстралялі іх ва ўпор. Другая група памежнікаў на чале з малодшым сяржантам Юрыем Бабанскім затрымалася, бо толькі што вярнулася ў казарму з дазору, і Бабанскі не адразу здолеў знайсці свае валёнкі. Яны мо і ўратавалі яму жыццё.

Расстрэл першай группы адбыўся на вачах малодшага сяржанта. Ён адразу ж залёг і выгукнуў: «Хлопцы, гэта – вайна!» Што тут дзівіць, як сведчыць ужо Млечын, тое ж самае прамовіў і Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. І. Брэжнеў, калі яму паведамілі пра падзеі на савецка-кітайскай граніцы: гэта вайна. Быў гатовы нанесці па кітайскай тэрыторыі ўдар у адказ. Але заўпарціўся Юрый Андропаў (як жа мы ўсе, як свет нябачна і слепа ходзіць па лязу нажа...).

Другі Юрый, малодшы сяржант Бабанскі пачаў адстрэльвацца. Але нядоўга. У гарачцы недзе згубіў запасны ражок з патронамі. На падмогу заставе Стрэльнікава падаспеў на бронетранспарцёры старшы лейтэнант, начальнік першай заставы Віталій Дзмітрыевіч Бубенін. Зайшоў з флангу і расстраляў камандны пункт кітайцаў. Але сам у тым баі быў паранены і кантужаны.

А ўсяго ў той дзень на Даманскім загінула дваццаць два памежнікі і адзін трапіў у палон. Большасць сібіракі. Пераважна з іх і фарміраваўся пяцьдзясят сёмы, з размяшчэннем у горадзе Іман, памежны атрад. На пачатку ў ім былі і масквічы, і ленінградцы. Але яны не вытрымлівалі суровых умоваў Далёкага Усходу. Ад іх паціху пазбаўляліся. Сярод сібіракоў было нямала і хуліганістых хлопцаў з Кузбасу, хаця б той жа Юрый Бабанскі – з ускраіны горада Кемерава.

Гэтым і тлумачыцца камандзіроўка на востраў Даманскі мяне – радавога неабучанага – ад «Комсомольца Кузбасса», і афіцэра ў запасе Максіма Шчарбакова ад партыйнай газеты «Кузбасс». Выехалі адразу пасля першых падзеяў. А трапілі на другія, яшчэ больш трагічныя. Маё становішча ўскладнялася тым, што якраз перад гэтым пачалі рэзацца зубы мудрасці. Боль быў запушчаны і невыносны. І напярэдадні, увечары, я пайшоў да стаматолага, а ранкам з распаласаванымі дзёснамі быў ужо ў цягніку «Россия». Мае «мудрыя» зубы і далучылі мяне да тагачаснай і далейшай гісторыі з Даманскім і рэчкай Усуры.

У Імане, сёння Дальнярэчанск, мы апынуліся ўначы з 14-га на 15-е сакавіка, калі на Даманскім усё паўтарылася, як і на пачатку месяца. Паўтарылася неспадзявана і нечакана, як кожная бяда ў Савецкай краіне. Пятнаццатага сакавіка кітайцы захапілі востраў. Масква, Крэмль вялі бясконцыя перамовы з далёкаўсходняй пагранічнай акругай. Пазней я даведаўся пра гэта праз афіцэраў, што забяспечвалі ўрадавую сувязь. Бяздзейнасць і нерашучасць вярхоў асудзіла на смерць хлопчыкаў-памежнікаў. Ні ўзброена, ні палітычна

вырашыць пытанне не атрымалася. Ваеннае камандаванне акругі не хацела і не наважвалася без загаду зверху ўмешвацца ў памежны канфлікт. Усё адбывалася, як гэта адбывалася і напярэдадні, і на пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Гісторыя паўтаралася той жа трагедыяй, тым жа фарсам – салдаты залівалі, тушылі і сплочвалі яго сваёй уласнай крывёю.

Камандзір памежнага атрада палкоўнік Дэмакрат Уладзіміравіч Лявонаў на сваю адказнасць узначаліў і павёў на востраў чатыры танкі. Кітайцы змагаліся ўмела. Камандзірскі танк быў падбіты адразу, астатнія павярнулі назад. Лявонаў быў паранены і застаўся ў танку. Як расказваў потым ужо Бабанскі, які быў сярод добраахвотнікаў па вызваленні яго з танка, палкоўнік быў паранены ў нагу і, пэўна, сцёк крывёю. Спрабаваў яе спыніць, надрэзаў скураныя камандзірскія рамяні, але на далейшае не хапіла сілы. Цела яго было дастаўлена на савецкі бераг Усуры.

У тыя ж гадзіны вырашаўся лёс і самога маладога сяржанта Юрыя Бабанскага: судзіць за тое, што без загаду адкрыў агонь, ці ўзнагародзіць. Зноў жа – тыповая гісторыя часоў Вялікай Айчыннай вайны. Бабанскага ўзнагародзілі – прысвоілі званне Героя Савецкага Саюза, як, дарэчы, старшым лейтэнантам Бубеніну і Стрэльнікаву. Апошняму – пасмяротна. Бубеніна ці не адразу са шпіталя накіравалі ў ваенную акадэмію, куды ён да гэтага спрабаваў паступіць, але нечым, пэўна, не падыходзіў анкетна. Бабанскі праклаў сабе дарогу ў генералы.

Мы са Шчарбаковым адразу ж з цягніка пагрузіліся ў БМП і рушылі да вострава Даманскі, у сяло ці то Міхайлаўку, ці то Нова-Міхайлаўку. Толькі падчас гэтай паездкі я паспеў ачомацца, разгледзець чужы мне край, убачыў раку Усуры, да якой імкнуўся яшчэ з дзетдомаўскага маленства. Край быў як край, зямля, свая, чужая застаецца зямлёй, хоць і абкладзеная да даляглядаў шчэццю няголена-змрочных сопак, якія праз гэтую шчэць нагадвалі круглыя вясковыя боханы хлеба з асцюкова ашчэранымі падпаленымі скарынкамі, праз якія прабівалася ўжо вясновая чырвань сокаў. Сопкі ішлі ланцугом адны за другімі і ў далечыні нібыта пабраліся за рукі і сцягнуліся ў адну суровую нітку.

Але маю ўвагу больш прыцягвала рака, хаця яна і не падалася мне кідкай. Шырокая і роўная ў гэтакіх жа роўных залізаных берагах, не акрэсленых плынню, напрамкам цёку вады, бо пад лёдам. І лёд той быў жахлівы, мёртвы, ужо крыху слёзна аплаўлены бліскучай сакавіцкай вільгаццю, напружана ссінелы і бязмоўны, як вусны нябожчыка. Ссінеласць гэтая, здавалася, працяла ўсё рэчышча да дна, не пакінуўшы ні рацэ, ні таму, што ў ёй мелася, нават малой надзеі на вясновае адраджэнне. Гэта была рака менавіта вайны і яе наступстваў. І я баяўся ракі, якая адразу стала чужой, адмаўляў сваёй прыязнай да яе колішняй памяці і дзіцячым сненням.

Размясцілі нас са Шчарбаковым у адной палатцы з камандзірам маняўровай групы палкоўнікам Яншыным, апантаным да памежнікаў і памежнай службы да такой ступені, што летам і зімой хадзіў толькі ў зялёнай фуражцы. Вельмі прыстойны і варты чалавек, які, па чутках, заканчваў службу ў Беларусі. Кітайцы пакляліся знішчыць яго, як кожнага з камандзіраў, што вызначыліся ў стычках з імі.

Яншын сустрэў нашае падсяленне да яго ветліва. Але абурыўся спецкар газеты “Праўда” С. Барзенка, Герой Савецкага Саюза часоў Вялікай Айчыннай вайны.

– Як вы сюды трапілі? Хто вам дазволіў? Я загадаў журналістаў і на выстрал не падпускаць да Даманскага.

Гнеў праўдзіста выпаў на долю старшыны, украінца Барвенкі, які пасяліў нас. Старшына перанёс яго моўчкі. Але адыграўся, калі пераапранаў нас у вайсковае, каб ісці ў начны дазор. Выдаў аўтаматы і новыя бялюткія кажухі.

– Няхай гэты ганарысты праўдзіст ходзіць у ношаным. А вам новенькія, з фабрыкі.

За гэтыя новенькія кажушкі і дабрыню да нас старшыны ў самым хуткім часе мы сплацілі вялікім і непадробным жахам. Снег вакол ужо сышоў, зямля паўсюль агалілася да чарназёму. І мы ў сваіх новых кажушках былі на ёй, як белыя вароны. І таму загад і вокліч “Стаяць! Пароль, водгук!” прагучалі нам як нямецкае “хэндэ хох!” ці кітайскае “Рукі ўгору!” Пагранічнікі, што суправаджалі нас, зніклі, як іх карова языком злізала. А мы, ні жывыя, ні мёртвыя, застылі на чорным бястраўным лапіку зямлі. Мы, ды яшчэ аднекуль з боку вёскі, бліжэйшай слепаватай хаткі прыбілася, пэўна, на чалавечы голас рабенькая, падобна, звар’яцелая ад чужога люду і вайны курыца. Лезла пад ногі і сакатала, выкрываючы нас.

– Ах вы, шурупы, – падалі зніадкуль голас суправаджаючыя нас памежнікі. На вайсковым жаргоне шурупамі з-за абмотак памежнікі здаўна яшчэ празвалі так пяхоту. – Шурупы! Загадваць нам, як хадзіць па нашай зямлі.

– А вы, вусені, купалазы... Падрыхтавацца да агню на паражэнне!

Забразгалі аўтаматы, заляскалі затворы і ўжо пстрыкнулі куркі. Чутнасць у начы, у цемры была жахлівая. Я баяўся і зварухнуцца, толькі скоса і зверху ўніз пазіраў на шэрань аўтамата, падвешанага на грудзях. Чаго пазіраў, на што спадзяваўся, не ведаю – радавы ж неабучаны, на што ціснуць, як страляць – ні дыхам, ні слыхам. Калі гэты “калаш” мне вешалі на шыю, больш усяго перасцярагаўся, каб ён сам нечакана не стрэліў.

Выратавала нас са Шчарбаковым раптоўнае з’яўленне праменя пражэктара і праяўленая ў ім бякеша ці папаха, што, здаецца, безгалова бегла ці плыла ў абрэзаным струмені святла: наяўнасць бякешы ці папахі сведчыла, што да нас бяжыць афіцэр, і ў званні не меншым, чымсьці палкоўнік.

– Адставіць, прэкраціць! Аўтаматы на перасцярагальнік!

Голас быў зычны, камандзірскі. Мы ажылі. А вось рабая курачка як толькі разрадзілася яйкам, закудахтала і знікла ў цемры. Памежнікі з такім жа імпэтам, як амерыканцы і чырвонаармейцы пры сустрэчы на Эльбе, выкараскаліся са сваіх схованак і пачалі ці не брататца, савецкіх прызналі савецкія. Хаця спачатку, амаль па-біблейску, па “Новым завеце ад Яна” свая сваіх не пазнаша.

Якая ж аднастайная паўтаральнасць нашай існасці, пракаветнай гісторыі. Калі рэха яе гоніцца за намі ад старажытнасці, лічы, ад пячор, здабычы агню і вынаходніцтва кола да сённяшняга дня. Эпохі калайдэраў, атамнай і касмічнай эры. А мо зусім не рэха. Стагоддзі і стагоддзі, умытыя чалавечай крывёю, прагнуць толькі аднаго: тварыць і спараджаюць, патрабуюць новай крыві.

І нібыта ў пацверджанне гэтаму пасля ўжо нашага вяртання з дазору ўсчаўся неверагодны вецер. Амаль біблейскі, што ці не пры стварэнні свету, вятрыска, буравей са страшэннымі грымотамі, водбліскам агню. Нашая палатка сярод сопак, у самога Бога за пазухай, але яе хістала і шкамутала да трэску вайсковага на гуме брызенту. І гэта відавочна ад-

бывалася не ад дзеяння стыхіі. Тут уладарыла і буяніла нешта вышэйшае, звышнае. Яншын па рацыі пачаў выклікаць штаб атрада і пагранічнай акругі. Але адказу яму не было. Барзенка выказаў меркаванне, што гэта папраўдзе пачалася ўжо вайна. Вецер, буравей, запоўнены пустатой, зноў жа ці не біблейскай.

Значна пазней мы даведаліся, што гэта была хоць і не вайна, але нешта блізкае да яе. Наглядальнікі адсачылі сопку на кітайскім беразе Усуры, у глыбіні якой засяродзіліся войскі кітайцаў. Чатыром дывізіёнам нашых ракетных установак быў дадзены загад адкрыць залпавы агонь і зраўняць сопку з зямлёй. Што і было зроблена. А недзе праз год з нечым, калі я зноў быў на кітайскай мяжы, нашыя праслухоўшчыкі чужога берага пад вялікім сакрэтам прагаварыліся: калі пачаўся абстрэл, кітайцы ўголас залямантавалі на расейскай мове: “Русские братья, что же вы делаете?”

Мы пакідалі Усуры і Даманскі ў неверагоднай сумяціцы, мешаніне і скопішчы самых розных падраздзяленняў войск і тэхнікі. Дарога да Імана, штаб-кватэры памежнага атраду, была страшэнна разбітая. Па гразкіх каляінах можна было грэбсціся на лодках ці рухацца на амфібіях. Мы ж коўзаліся на брані БТР разам з мастакамі ваеннай студыі Грэкава, якія прыхапілі нас з сабой. Афіцыйнага дазволу ехаць з імі мы не мелі. Толькі на нас ніхто не звяртаў увагі. Ніхто і нідзе не правяраў дакументаў, хаця КПП былі ці не на кожным кіламетры.

Так падпольна і канспіратыўна мы дабраліся да нейкай, як сёння разумею, адмысловай і звышсакрэтнай воінскай часці. Мастакоў сустрэлі і павялі, пэўна, на пачастунак. Мы ж пачалі самастойна блукаць сярод нейкіх дзіўных высокіх і вострадзюбых, тоўстых, у пару абхопаў, закамуфліраваных пад хмызы установак. Па-сяброўску паляпвалі па іх парасячых азадках. Я яшчэ ўздумаў сфатаграфавацца на іх фоне. Але толькі паспеў дастаць фотапарат, як пачалося нешта падобнае на тое, што адбылося ў дазоры, толькі куды больш сур’ёзнае.

Нас арыштавалі як кітайскіх, а мо нейкіх яшчэ шпіёнаў. Аказваецца, мы трапілі ў полк ці дывізіён ракетных установак залпавага агню, мо тых самых, што ўначы асадзілі кітайскую сопку. Быў допыт, былі сакрэтчыкі, і дзякуй Богу, што нашыя морды не былі падобныя да шпіёнскіх, кітайскіх, а яшчэ ў той неразбярысе, блытаніне, звычайным славянскім гармідары, у якім савецкія войскі прывыклі жыць, ваяваць і паміраць.

Усё на кітайскай мяжы ў той час было па праўдзе і з вялікай літары па-славянску, па-расейску і па-савецку гераічна, па-наску жыццёва і таму злачынна-смяротна. Хаос і бязладдзе былі п’яныя ад маладой салдацкай і не толькі крыві. Ужо на самым пачатку развітання з загінулымі памежнікамі пралілася новая кроў.

Стадыён, дзе адбывалася развітанне, не мог змясціць усіх жадаючых прысутнічаць жыхароў Імана. Нашыя людзі шануюць і любяць пахаванні, цікаўныя да чужой смерці і нябыту. Тэрмінова па баках стадыёна паставілі рыштаванні ў тры ці чатыры ярусы. Народу налезла столькі, што яны не вытрымалі і абламаліся. Гэта дадало ўжо новых, цывільных нябожчыкаў.

Тое ж ночы ці мо ў ноч наступную ў казармы вяртаўся са службы каравульны ўзвод. Насустрач выхапіўся бронетраспарцёр на чале з афіцэрам з вайскавікоў: не хапіла гарэлкі, спяшаліся дакупіць. Узвод, больш за дзясятак салдат, загінуў на месцы. А сярод іх і капітан, начальнік клуба, што прайшоў ад званка да званка Айчынную вайну.

У ціхім памежным гарадку Іман правіла баль смерць. Гераізм і гатоўнасць абараняць сацыялістычную радзіму, эйфарыя патрыятызму ў дзікім спалучэнні са знерваванасцю, істэрыяй, жахам, падобна жывой істоце, захапілі, паланілі горад. І процістаяць гэтаму калектыўна напружанаму ўзрушэнню было немагчыма. Я таксама цалкам паддаўся яму. Не ведаю, чалавечае гэта ці звярынае, святое, грэшнае, але, на маю думку, гэта не адмерла ў нас і сёння. Я выразна адчуваю і назіраю гэта ў свежым цёку крыві на Украіне, дзе процістаяць адны другім, твораць і адраджаюць смерць не так званыя "ўкропы" і "каларады", а штучна выведзеная яшчэ ў сталінскіх засценках, крамлёўскіх закрытых кабінетах і нетрах былога і цяперашняга КДБ парода геннамадыфікаванага народа, сучасных гомасапіенсаў пад сцягамі колішняга, як гаварылі ў мой час, апошняга прытулку патрыятызму – мярзотнікаў, імперскай хлусні і высокага рэйтынгу ўладароў. Высокага, пэўна, сапраўды высокага, але ж трошкі ніжэй, чымсьці ў фюрэра, хаця той быў вегетарыянцам, а па некаторых звестках і імпатэнтам.

Схільны думаць, што гэта ў нас усё ж статкавае, жывёльнае. У адпаведны час і ў адпаведным месцы ў статкавым уяўленні высокага і нізкага перамагае апошняе. Перамагае інстынкт натоўпу, жаданне еднасці з ім, асалоды зліцця пачуццяў, экстаз першабытнасці. І сам я тут не выключэнне.

Злавіў сябе на гэтым, калі Іман развітваўся з Дэмакратам Уладзіміравічам Лявонавым. Была на тым развітанні яшчэ не старая жанчына з двух- ці мо трохгадовым замурзаным хлопчыкам на руках. Жанчына, не ведаю, кім яна даводзілася Лявонаву, мо нікім. Але плакала яна ўголас і не саромелася слёз. Плакаў і хлопчык, слёзы нястрымана дзвюма дарожкамі цяклі па яго твары. А вось голасу, плачу яго я не чуў. Пэўна, ён плакаў пад настрой і стан маці. Сам жа плачу да мяне не даносіўся. Як вушы, а мо і душу заклала. Ці таму я і настырыўся з фотаапаратам, нібыта імкнуўся ім злавіць голас хлопчыка. Спаймаць у пастку ўласнай пустэчы, што валодала мной на той час.

Дабіўся толькі таго, што жанчына пачала хавацца ад майго фотаапарата, ад настырнасці маёй аглохлай душы. І безгалосасць хлопчыка, а пазней і жанчыны было адзіным здабыткам сляпога фотапарата. Хаця галашэнне, па маіх меркаваннях ужо сёння, было мо даволі гучным, толькі не дадзена было мне пачуць яго, як, пэўна, і развітальнаму натоўпу пачуць яго. Толькі слязінка дзіцяці, нямы дакор смерці.

Я пачуў яго плач на той жа рацэ дзесьці праз год з нечым. Так у мяне ўжо склалася. Мая камандзіроўка на востраў Даманскі зацягнулася замест тыдня амаль на месяц. Сустрэчы і паездкі на заставы і ў шпіталь. Гутаркі с памежнікамі, сякі-такі ўдзел у іх жыцці, за-за чаго, дарэчы, пазней мяне пачалі з маёй газеты цягнуць у акружную ваенную. Казалі: не пойдзеш у газету акругі, пойдзеш палітруком у роту. Ледзь адбіўся.

Адстаяў мяне мой рэдактар, звярнуўся да сакратара абкама партыі. І той цыкнуў на ваенных. Такім чынам мая вайсковая кар'ера была загублена, я назаўсёды застаўся радавым-неабучаным. Але, пэўна, і за гэта, і за камандзіроўку на Даманскі, і за сваю душэўную глухату – за слязінку дзіцяці – усё ж сплаціў здароўем. Зубы мудрасці тады не прарэзаліся, але дзясну разнесла так, што яна не памяшчалася ў роце. Рот сцягнула, што курыную гузку, і я не змог есці. Адно толькі піў – суп, ваду, напоі і, зразумела, усё іншае. У навасібірскім аэрапорце Кальцова, куды звярнуўся ў медпункт, мяне хацелі зняць з рэйса – тэмпература сорак адзін градус, з

наступствамі. Палёт у Кемерава заканчваў у туалеце. Але дома, у рэдакцыі і хаце, паспеў яшчэ “адпісацца”.

А далей былі бальніцы, бальніцы з самым жахлівым, хаця, дзякуй Богу, пазней і не спраўджаным, дыягназам. Наступным ужо летам жонка дабілася мне пуцёўкі на рэабілітацыю ў санаторый Шмакаўка – на тую ж савецка-кітайскую мяжу на раце Усуры. Вось так лёс гуляе з намі. Я з радасцю падпарадкаваўся гэтай гульні. Больш таму, што Усуры засталася не аблоўленай мной. А так хацелася яе рыбы, не толькі нашай, але і кітайскай, што я яшчэ на падлёце да Шмакаўкі імгненна аздаравеў. Наведаў мінулагодніх сяброў-памежнікаў.

– А жывем нішцяк, – распавялі яны мне. – Кітайцы спакойныя, толькі панаставілі на сваім беразе нам на пагляд партрэты Мао Цзэ Дуна. А мы ім у адказ клазеты без задніх сценак. Партрэты кітайцы прыбралі.

Вось такі салдацкі гумар. І я павесялеў у Шмакаўцы. Увогуле варта адзначыць, што лепшага лячэння і адпачынку, чымсьці там, мне нідзе больш не шчасціла. З-за мяжы, глушы санаторый быў яшчэ не спаскуджаны фанабэрыяй наменклатурных хворых. Здаровыя людзі, ветлівасць і прыязнасць абслугоўвання без клопату, каму, колькі і за што даць. Вартасць, годнасць і гонар двухбаковыя, сапраўды пралетарска-інтэлігентныя. Чыстае паветра, чысціня душ такія, што я не меў часу хварэць, заняўся адзіна маючай быць у такім эдэме – рыбалкай, хаця Усуры , па ўсім, была не маёй ракой.

Лічылася яна горнай, але тут была раўніннай. Сопкі, што па восені, як пазалочаныя макаўкі цэркваў, зусім не горы, хаця мо і храмы. Рака абягала іх, ад кожнай срэбрам і золатам прымала даніну і старажытным Кіцежам з лёгкім трымценнем сусальнага золата ў адбітку вады, вяртала іх на погляд воку і свету. Гожа і да расплаву таго ж золата ў душы, да дрогкай слязы ў сярэдзіне па боску чаравальна і да перахопу дыхання вабна.

Але мая рыбацкая душа звыкла зусім да іншых рэчак. Сувора строгіх і бурклівых сібірскіх. Да зацята сакрытых, на першы погляд рахманых, але донна напятых, як сам беларус-паляшук, Прыпяць з Сожам і Бярэзінай. У іх я адчуваў нешта карэнна стрыжнявое. Характар. Асабліва ў Прыпяці. Нічога знешне кідкага, паказнога, пры беразе, нягледзячы на віры і ямы, віхуры, адбойную плынь з вінтавой прыцягальнай і любай, як ў вясковай прыгажуні на шчаце, рухомай ямачкай, што ад вялікай глыбіні, да донца прыпяцкай вады, сэрца ракі, у якім атабарыўся і пражывае сівы волат, сом-гаспадар.

Кручоная паверхневасць віру плешчацца аб яго лабаціну і па вусіках, па вусіках струменна бяжыць прэч, да сярэдзіны ракі, да яе фарватэру, дзе прыхаваны нябачны воку стрыжань. Не прывядзі Гасподзь патрапіць у яго, даверыцца яго абдымкам, куды больш моцным за абдымкі жанчыны, у ласкавай і няўмольнай жарсці якой застаецца толькі адно – працягнуць ногі. Такая ўжо нарачонасць бягучай вады Палесся, такі яе пракаветны стрыжань і нораў. Характар. Гэтага я не адчуў ва Усуры. Хаця, канечне, памыляўся, як кожны кулік у чужым балоце. А балота было, безумоўна, чужым і мо больш кітайскім, з усходнімі хітрыкамі і прыхамацямі. Недарма ж яны штодзень казалі нам па сваім радыё: добры вечар вам, дарагія сібіракі, часова пражываючыя на кітайскай тэрыторыі.

Мо таму і не таланіла мне на ловы чужой рыбы ў чужым краі. Чужое

неба, чужая вада, чужы голас акалялі мяне. А рыбы? І блізка не было ні знакамітага сібірскага тайменя, ні востра- ці тупарылага выбітнога ленка, нічога ўжо не гаворачы пра таўсталобікаў і экзатычных аўхаў. Звычайныя дробныя і смеццевыя ельчыкі, чэбачкі ды ўсёісныя яршы. Такімі ловамі я мог задаволіцца ўсюды, нават не злазячы з печы. І на якую насадку я тую рыбу ні лавіў, чым не прынаджваў – і чылімам (прэснаводнай мясцовай крэветкай), і жалязняком (чорным чарвяком), і звыклымі мне кашамі, хлебам, мухамі ды сляпнямі – вынік адзіны: безнадзейна, безвынікова.

Праўда, іншым разам трапляла рыба не рыба, жывёла не жывёла – дзіўнае божае стварэнне, нарачонае мясцовымі людзямі конь-губар. Пра губы сказаць няма чаго, ці не сіліконавыя? А вось конь быў сапраўдны, з высока ўзнятай, хаця і без грывы, галавой, па-конску выпнутай грудзінай. Конь дый годзе. Толькі надта ж маленькі і з сядалішчам, больш прыдатным шахматнай дошцы, хоць ты яго вазьмі і падаруй гросмайстрам – Каспараву ці Купрэйчыку. Мо дапаможа справіцца з рыжым амерыканцам Фішэрам. Але лавіць таго губатага коніка я не хацеў, шкадаваў і трохі грэбаваў. Наедкі з яго ані плюнуць, няхай бяжыць зноў у раку па бацьку, сапраўднага каня, нашага калгаснага мерына.

Так пазабаўляўся я на Усуры да пары да часу. Пакуль не злавіў аднойчы штосьці невытлумачальнае. Клюнула хіжа, па-акунёваму і адразу на дно. Я пацягнуў без падсечкі. На кручку зноў было нешта звычайнае, маленькае, але таўсматае, накшталт сцятага вялізнага выпаўзка. Я ўзняў вуду і па-рыбацку выставіў насустрач гэтаму стварэнню руку. Але сябра, з якім я рыбаліў, адбіў маю руку ўбок ад стварэння, паспеў яшчэ прамовіць:

– Небяспечна, касатка-скрыпут. У шыпах – атрута. Не смяротна, але руку, што ляльку, доўга будзеш насіць...

Ён яшчэ мне нешта і даволі доўга гаварыў, але я ўжо нічога не чуў. Заклала вушы. Мой улоў, мая здабыча плакала не пачутым год таму дзіцячым голасам. Закладзеныя пустатой у час развітання Імана з палкоўнікам, вушы, здаецца, ачуліся. Я не ведаю, як плачуць рыбы і ці плачуць яны ўвогуле. Ці маюцца сярод вады ў іх слёзы і якія яны, салёныя, як і нашыя, ці са слодычам. Адным мірам і горам мы з імі заручоныя ці падзеленыя і разведзеныя назаўжды?..

Гэта ўжо, пэўна, больш сённяшняе, хаця і з мінулага. Ад безгалосага плачу дзіцяці год таму. Плачу, да якога я быў глухі.

Над водамі прыморскай ракі Усуры горка і па-дзіцячы несуцешна плакала рыба-касатка. Я кінуў на беразе вуды і пайшоў прэч ад гэтага плачу. А на другі дзень, не дабыўшы свой тэрмін у санаторыі, быў у небе. Прыспешваў самалёт адлятаць як мага далей ад ракі, якую сніў ў дзіцячых снах, ад мары, якая збылася, але не заручылася яшчэ з пустатой.

*(Працяг будзе)*

Зміцер Копаць



...калі свабода ёсць у аднаго,
то ён, як носьбіт нейкай цяжкой заразы,
перадае яе ўсім навокал...

# Слоік Свабоды

***Фантасмагорыя***

*Анатоль знайшоў блакітнага колеру слоік. Звычайны ды пусты, ён нічым асабліва не вызначаўся. Гарлавіна яго была сціснута жалезнай накрыўкай, бы хтосьці забыўся пакласці ў слоік агуркі ці памідоры ды заліць вадой. Але Анатоль хутка забыў пра сваю знаходку і жорстка бухаў некалькі дзён запар... Пакуль аднойчы не прачнуўся трошкі больш цвярозы, чым абяцалі яго начныя прыгоды.*

Ён знайшоў яго сярод кніг, старых часопісаў і дробнага смецця, што засталося ад розных прысмакаў і напояў, накшталт чыпсаў ды гарэлкі. “І як толькі не пабіўся? – засяродзіўся позіркам на слоіку Анатоль. – І адкуль гэты пузанчык у маёй хаце?”

Хата Анатоля – самая звычайная менская хрушчоўка. Хіба што не прыбіраліся так даўно, што стала падобна на хату шалёнага чараўніка, які ўвесь свой час марнуе на пошукі таямніцаў свету ды моцна п’е... Але Анатоль не быў чараўніком, ён забыўся – што ж ён сабой уяўляе, і не мог знайсці адказу. Некалі працаваў журналістам,

потым нават рэдактарам, а пасля і гэта абрыдла. Анатоль падарожнічаў па Еўропе, падрабляючы на розных халтурах, часам зусім не звязаных з “пісьменніцкай дзейнасцю”. Даволі хутка зноў апынуўся ў роднай старонцы, з сумам зазначыў, што за час яго бадзянняў нічога асабліва не змянілася, закрыўся ад усіх і пачаў піць. Праз некалькі тыдняў пошукі самога сябе ў бутэльцы поспехам не скончыліся, затое Анатоль ледзь пазнаваў свой твар у люстэрку. Не помнячы, дзе швэндаўся ноччу, з болем расплюшчыўшы вочы, – ён зноў выпадкова знайшоў слоік нейкага дзівоснага блакітнага колеру. Які цяпер разглядваў з такім выразам твару, у якім добры мастак змог бы ўбачыць неверагодную прагу вады, пачуць гукі стрэлаў, якія выбухалі ў галаве гаротніка, ды ўбачыць трошкі здзіўлення і цікаўнасці. Анатоль прытуліў слоік да грудзей, як штосьці знаёмае і вельмі дарагое.

– А што, калі гэта той самы слоік, які мне падаравалі за ўсе мае пакуты? – разважаў Анатоль — асцярожна, каб не перагрузіць стомлены мозг. – Гэткая закатка Свабоды, якую нехта зрабіў для мяне, каб я нарэшце заварушыўся... Слоік, дзе хаваецца ўвесь неразумны сэнс майго жыцця! Паветра з якога, калі вырвецца, – адразу ж увальецца ў лёгкія і надасць упэўненасці, шчасця, моцы, што здольныя ўсё змяніць, паказаць усім іншы шлях. І каб гэта здарылася, абралі менавіта мяне – Анатоля, былога журналіста і цяперашняга алкаголіка...

Тут Анатоль уздыхнуў так, што калі б выпадкова ў пакой уляцела нейкая дробная птушка – подыху гэтага яна б не вытрымала. Але ў Анатоля не было ў хаце жывёліны, жонкі таксама, а амаль усе сябры даўно забылі дарогу да яго дому. Вінаваты ў гэтым быў і сам Анатоль, які так і не навучыўся падтрымліваць сяброўскія зносіны. Хіба што часта заходзіў Віталь, які жыў у суседняй хрушчоўцы ў амаль такой жа невялічкай кватэры, таксама без коткі ці хоць якога хамяка.

Анатоль знайшоў чыстую анучу, клапатліва загарнуў у яе слоік, збегаў у варэльню і гераічна, на адным подыху, асушыў палову бутэлькі мінералкі. Смага на нейкі час пакорліва адступіла. Анатоль узяў торбу і асцярожна паклаў туды слоік. Не зачыніўшы дзверы на ключ, спусціўся па лесвіцы і пакрочыў па вуліцы, прамінаючы падобныя адна на да адной шэрыя пабудовы. Надвор’е было добрае. Бязлітаснае сонца пякло белую, як у лебедзя, шыю Анатоля, і яму нясцерпна хацелася званітаваць. Але Анатоль мужна трываў. Змагаючыся са страхам і пахмеллем, збочыў за вугал свайго дома. Жыў ён у мікрараёне Серабранка. Анатоль баяўся не так знаёмых – п’янтосаў, якія маглі падумаць, што ён пільнуе схаваную ў торбе бутэльку гарэлкі і адабраць яе, як таго, што хтосьці мог раней чым трэба даведацца, што ў яго слоік Свабоды. Таму Анатоль ішоў асцярожна, няспешна, кожныя некалькі крокаў азіраўся і нават склаў такі-сякі план. А план быў яму патрэбны, як рыбе вада. Бо наперадзе стаялі аж тры крамы, якія кожную раніцу задавальнялі апетыты мясцовых жыхароў. Каля кожнай крамы склаліся свае невялічкія гурткі “па інтарэсах”. Дакладней, прадмет цікавасці аматараў бы адзін і той жа – чарніла, але ж спосаб здабывання ў кожнага гуртка быў свой непаўторны. Напрыклад, адна групоўка ішла вельмі лёгкім шляхам – збірала грошы з усіх членаў, як кажуць, хто колькі можа, ды набывала алкаголь. Іншы гурток меў вельмі сціплы бюджэт і да справы тут падыходзілі больш грунтоўна. Сустракаліся мужчыны раней за ўсіх а восьмай гадзіне раніцы, калі ўсе тры крамы

яшчэ былі зачыненыя. Гутарылі і разыходзіліся, а сустракаліся на месцы аж аб адзіннацатай, каб паглядзець, хто колькі змог назбіраць грошай у выпадковых мінакоў ці агульных знаёмых, што былі ў завязцы. Трэці гурток быў самы недасягальны для простых выпівохаў, нават элітарны, заўсёднікаў якога недалюблівалі і якім зайздросцілі. Прымалі туды далёка не ўсіх: гэта былі былыя сябры, знаёмыя адзін з адным з дзяцінства. У кагосьці быў чарговы адпачынак, у кагосьці збегла жонка з невядомым рыцарам, у кагосьці чарговы заробак на заводзе, хтось вярнуўся з адсідкі. Гурт існаваў дзякуючы гэтым "спонсарам". Навічок мог пабачыць, што з ім стане, калі грошы скончацца, і ўявіць, як ён таксама будзе ў курсе ўсіх фінансавых справаў іншых удзельнікаў гурта і прагавіта чакаць, калі нехта прадасць апошняе з мэблі чорнае піяніна.

Цяпер было якраз адзінаццаць і ўсе тры гурткі былі тут як тут. Збоку лёгка было падмануцца, быццам дарослыя мужчыны сабраліся разам, каб тэрмінова нешта вырашыць. Анатоль, дзякуючы адкрытаму характару, аўтарытэту "пісьменніка" і сталага жыхара раёна – быў сябрам адразу ўсіх трох гуртоў, і таму вельмі хваляваўся за слоік. Абысці крамы не было аніякай сілы – таму трэба было нешта дзіўнае, неверагоднае, крэатыўнае.

Анатоль выйшаў на невялічкі тратуар паміж крамамі і, яшчэ да таго, як яго запрыкмецілі першыя падпітыя вочы старых знаёмых, крыкнуў ва ўсё сваё сіпатае горла:

– Людцы, я знайшоў Свабоду! Я яе знайшоў, дарагую і шаноўную! Яна ўвесь час была тут, у маім сэрцы, і чакала, калі трэба будзе вырвацца... Сёння раніцай яна прачнулася! Яна тут – лунае ў паветры! Адчуйце, адчуйце ж!

Шэрыя доўгія валасы Анатоля пасля ўчарашняга былі раскудлачаныя. Адзін дапытлівы цырульнік аднойчы падлічыў на яго галаве аж шэсць віхораў, якія ніколі ў жыцці не дазвалялі Анатолю прыбраць валасы грэбнем. Роўнымі яны былі толькі пасля мыцця. Але цяпер для водных працэдураў часу не хапала, і пучкі валасоў тырчэлі ў розныя бакі, як у мядзведзя. На белых джынсах былі бачныя чорныя плямы, а на футболцы красаваліся рэшткі ці то крыві, ці то кетчупа. Дрыготкімі рукамі Анатоль узяў у левую руку торбу, а правую ўзняў у неба...

– Адчуйце, адчуйце! Яна тут! – не супакойваўся патлаты крыкун.

Але ў нявялічкім натоўпе заява Анатоля амаль нічога не змяніла. Некаторыя мінакі заўсміхаліся і шпарка скіраваліся па сваіх справах, некаторыя вырашылі пачакаць і пабачыць, чым скончыцца. Адзін з мужчынаў каля крам гучна сплюнуў:

– Зусім Анатолька збрэндзіў! Відаць, беленькая ды гарачанькая да сябе прыбрала... Небарака.

– Можа, "хуткую"? – прапанаваў іншы.

Анатоль скарыстаўся агульнай збянтэжанасцю і, тыцкаючы ў паветра пальцам, агромністым нязграбным трусам прабег міма усіх трох крамаў і хуценька збочыў да аднаго з дамоў.

Сябра Віталь жыў на другім паверсе. Анатоль няспынна трымаў палец на званку, пакуль не пачуў цяжкія крокі...

– Хто? – спытаў глухі голас.

– Хто-хто? Жак Іў Кусто!

Дзверы адчыніліся, і свет пабачыў Віталя: у драным халаце, з чорнымі валасамі. Галіўся Віталь надзвычай рэдка, і барада яго дадавала яшчэ больш

загадкавасці і таямнічасці, якую лёгка было пераблытаць з простым пафігізмам. У губах Віталь ледзь трымаў амаль патухлую цыгарэту, зялёныя вочы яго атачалі два фіялетавыя ад недасыпу яблыкі. У руках Віталь трымаў кампутар, з якім яны былі неразлучныя. Віталь быў з тых нешматлікіх прадстаўнікоў чалавецтва, якія ствараюць свой уласны Сусвет, амаль ніколі не сыходзячы з кватэры, дзе акрамя белых сцен і падрапанай мэблі, анічога няма. Але ў няхітрае жытло Віталя многіх цягнула, бы тым магнітам. Былі гэта ў асноўным паэты, пісьменнікі-пачаткоўцы, філосафы без даху ў прамым і пераносным сэнсе... Іх было, здаецца, больш за ўсіх наведнікаў. Віталь добра разбіраўся ў палітыцы, літаратуры, журналістыцы і такіх дзіцячых рэчах, як, напрыклад, акапрэсура ды светапогляд паўночных індзейцаў. Адкуль Віталь браў грошы, ніхто дакладна не ведаў, але ж наяўнасць у паўпустой кватэры ноўтбука трошкі праясняла спосабы заробку гаспадара. Анатоль ганарыўся сваім даўнім сяброўствам з Віталём. Для Віталя ніколі не было цікава – чаму Анатоль п’е некалькі месяцаў гарэлку, ці чаму звольніўся з працы і вандраваў па ўсім свеце. Гэта былі неістотныя дэталі, якія абмяркоўваць было не варта... Анатоль увайшоў у калідор невялікай кватэркі.

– Што здарылася? – адразу прыступіў да справы сябар.

– Вось! – Анатоль дастаў слоік і акуратна разгарнуў анучу. – Знайшоў яго сёння раніцай каля ложка.

Віталь паклаў ноўтбук на падлогу, выцягнуў з кішэні басяцкіх трыко акуляры і начапіў на нос. Паўхвілі ўважліва разглядаў слоік і моцна дыхаў: па ўсім відаць, разважаючы. Потым сябра вельмі сур’ёзна зазірнуў у вочы Анатолю:

– Гэта слоік...

– Не трындзі ты так гучна пра маю знаходку – пачуе яшчэ хто! – схапіўся за галаву Анатоль.

– Якія праблемы, якія праблемы? – не стаў пярэчыць сябра. – Ды толькі, што з ім рабіць?

– Ды яшчэ і сам не ведаю, – Анатоль паазіраўся па баках, бы ён не ў хаце, а на кірмашы, дзе мноства хітрых вушэй. – Разумееш, невядома – колькі ж там свабоды? Калі на двух – добра, а калі на ўсіх?

– Я усё жыццё думаў, што калі свабода ёсць у аднаго, то ён, як носьбіт нейкай цяжкой заразы, перадае яе ўсім навокал, – пусціўся Віталь у разважанні. – Але ж гэта так лёгка задушыць – амаль кожны тыдзень маладых хлопцаў забірае “хуткая” – альбо ў вар’ятню, альбо ў турму. І пасля свабода знікае так хуценька, бы дым з палёў. У тваім слоіку, як ты кажаш, ёсць сапраўдная Свабода – не ўзрошчаная кімсьці ў краіне сонечнай дыктатуры, дзякуючы ўдачы і ўласнаму характару, а натуральная. Тая, якую мы яшчэ не спазналі. Гэта не свабода чалавека, які раптам перастаў быць рабом, калі зваліў з радзімы. Гэта свабода, якую мы шукаем усё жыццё...

– Канчай! – перарваў захопленую прамову Анатоль. – Што нам з ёй рабіць – гавары! Я думаю – адкрыць і ўдыхнуць, каб потым навучыць свабодзе іншых...

– А ты падумаў, шаноўны мой, колькі ў ёй свабоды? – засумняваўся Віталь. – Ты ведаеш, што можа здарыцца? Твой рабскі дах можа не вытрымаць столькі свабоды і проста разарвецца, як паветраны шар. А калі не разарвецца – усе роўна міліцыянты ўчуюць ці амапаўцы... Цябе адвязуць у шпіталь, а магчымасць атрымаць свабоду для нас будзе ўжо назаўсёды страчаная...

– Што ж рабіць? – сумна запытаў Анатоль.

– Калі свабоды там шмат, то нельга яе так адпускаць, – вырашыў Віталь. – Яна ж свабода – збяжыць! Навошта ёй жыць у душах Анатоля і Віталя, продкі якіх рабы ўжо некалькі стагоддзяў? Збяжыць да сваіх – дзе дажджоў менш і пануе дэмакратыя.

Анатоль ужо сачыў за сябрам, як за самым мудрым і дарагім яму чалавекам.

– А трэба вось што зрабіць, – бадзёра працягваў Віталь. – Дастаць машыну з невялічкай трубачкай, якую можна было б перакрываць і даваць дыхнуць усім па адным маленькім глытку...

– Каб людзі адчулі смак свабоды і мы змаглі зрабіць рэвалюцыю! – скончыў радасна Анатоль, і вочы яго праслязіліся. – Тады нам і слоікі са свабодай будуць ужо непатрэбныя!

Але раптам гэтак жа нечакана спахмурнеў, як і загарэўся:

– Як мы зможам раздаваць свабоду? Гэта ж будзе несанкцыянаванае мерапрыемства, якое збярэ мноства людзей, і мы з табой, прыдуркі, будзем апошнімі...

– Тады трэба аддаць слоік уладзе! – сказаў Віталь тое, што Анатоль ніяк не мог чакаць ад надзейнага сябра. У хаце была гучная цішыня. Анатоль разважаў – далбануць сябра па шчацэ ці па дурной галаве...

– Ах ты! Я думаў, што прыйшоў да разумнага, які таксама хоча свабоды для ўсіх, для радзімы... – ледзь не разрываўся ад гневу Анатоль.

Віталь толькі фыркнуў:

– Ёлуп ты звычайны, а не журналіст! Трэба толькі сказаць, што слоік з дурманам, які зробіць людзей рабамі назаўсёды – улада сама прымусіць удыхнуць усіх і зробіць рэвалюцыю сваімі ж рукамі... Усю працу зробім не мы.

Анатоль моцна сціснуў сябра ў мокрых ад нервовага поту абдымках. Праз некалькі хвілінаў Віталь аднекуль выцягнуў скураны чамадан і прапанаваў пакласці ў яго слоік: больш надзейна. Потым хуценька шмыгнуў са сваіх хатніх тэпцікаў у сандалі, і яны разам з Анатолем, які трымаў чамадан, выйшлі з пад'езда.

– Куды ж? У Адміністрацыю Прэзідэнта, Парламент, КДБ? – не вытрымаў Анатоль.

Віталь з непрыхаваным дакорам паглядзеў на сябра:

– Туды не пусцяць нават на ганак! Тым больш з нашымі біяграфіямі і, выбачай, калі ласка, тварамі. Ёсць у мяне тут знаёмы дырэктар мясцовага пастарунку – Гарачкін клічуць. Знаёмыя з ім ужо гадоў дваццаць. Ён са мной прафілактычныя размовы праводзіў яшчэ тады, калі толькі працаваць пачаў, а я ганяў па горадзе з бел-чырвона-белымі сцягамі.

– Спрынтэр-біятланіст хрэнаў, – усміхнуўся Анатоль.

Віталь раней папярэдзіў, што выглядаць яны павінны натуральна, каб не выклікаць аніякіх падазрэнняў. Ішлі моўчкі. Ціха, але цвёрдай хадою, пакуль не дайшлі да запаветнай шыльды "Міліцыя". Перазірнуліся, уздыхнулі і адчынілі брудныя старыя дзверы.

Пах раённага пастарунку ці "апоркі", калі там бываў – нельга забыць. Як ні спрабуй. Гэта перш за ўсё смурод танных цыгарэт, якім прапах кожны закуток, пах чалавечага поту, змешаны з адрэналінам, безвыходнасцю і трошкі авантурнасцю. Насы і Анатоля і Віталя ўсё гэтае добра ведалі... Але цяпер адчувалі замест таго водар нейкай урачыстай

і важнай падзеі, якая, як першы скачок з арэляў у дзяцінстве, іх вельмі хвалявала.

Дзяжурная ж у гэты дзень малодшы капітан Марыя аднак тых пачуццяў, якія напаўнялі сэрцы мужчынаў, зразумець не была гатовая.

– Чаго прыпёрся, дзівак? – утаропіла яна ў Віталя вялікія блакітныя вочы і працёрла вусны ад крошак лусціка з сырам, які паспела праглынуць.

– Мы да Гарачкіна, паважаная спадарыня, – спакойна і ветліва патлумачыў свой нечаканы візіт Віталь.

Шырокія хваткія вочы Марыі слізганулі па фізіі Анатоля, яго адзенні, ботах і раптам зачапіліся на карычневым чамадане.

– А ў гэтага дурыка ў чамадане што? – спыталася капітан.

Скіўіцы Анатоля напружыліся, ён энергічна набраў паветра, каб хутчэй выказаць нахабнай дзеўцы ўсё, што думае... Але трошкі спазніўся. Віталь амаль ушчыльную падышоў да стала, дзе сядзела Марыя, і пачаў не гаварыць, а мармытаць, як вопытны псіхолаг, які хоча ўвесці ў транс:

– Ну што можа быць у чамадане двух дарослых мужчын, якія прыйшлі ў міліцыю да вас – даражэнькая наша, мамзель Марыя Пятроўна? Вядома ж – кайданкі, такія з ружовым футрам, ну, вядома, яшчэ...

– Хопіць! – па-дурному заржала Марыя і паружавела. – Праходзьце, дзівакі! Гарачкін у сябе. Толькі кайданкі свае яму не паказвайце!

Анатоль пагрукаў у дзверы і пачуў звычнае: “Заходзьце па адным!” Гарачкін быў у гуморы. На стале каля ноўтбука стосамі ляжалі розныя паперы, з краю стаяў вялікі графін вады яшчэ з савецкімі сімваламі.

– Каго я бачу – Вітальчык! – заўсміхаўся Гарачкін. – Што здарылася – рэвалюцыя у горадзе?

– Вы, Гарачкін, тутака не жартуйце, – сур’езна адказаў Віталь. – Мы да вас з калегам па справе прыйшлі. Справе, я б сказаў, надзвычайнай. Таму, Гарачкін, калі ласка, хвіліну паслухайце!

Гарачкін перастаў усміхацца, перавёў позірк з аднаго на другога.

– У гарнізон ідыётаў уступаць не хачу! – засмяяўся Гарачкін на ўвесь пакой.

– Ды хрэн з ім! Анатолька, выцягвай слоік! – не вытрымаў Віталь. Гарачкін адразу ж перастаў усміхацца, калі пабачыў, як Анатоль дрыжачымі рукамі выцягвае нешта з карычневага чамадана ў закручанай анучы.

– Вы што, звар’яцелі?! У мяне тут ёсць кнопка пад сталом... Калі што – вас адразу ж АМАП скруціць!

– Ды якая яшчэ кнопка? – здзівіўся Віталь. Анатоль тым часам ужо трымаў пусты слоік у руках, а потым паставіў яго на стол перад ашалелымі вачыма міліцыянта.

– Зусім з глузду з’ехалі, нарыкі вы дзёўбаныя! Што гэта? – паказаў пальцам на слоік Гарачкін.

– Гэта, шаноўны спадар Гарачкін, – наша з вамі б-будычыня, – ад распіраючых сэрца пачуццяў Анатоль пачаў трошкі заікацца, чым навёў на перапалоханага Гарачкіна яшчэ больш страху. – Шанец пачаць усё зноў! Разумееце?

Гарачкін маўчаў, і па твары яго не было зразумець: насамрэч ён штонебудзь разумее ці не. А тым двум толькі і трэба было, каб ім далі гаварыць.

– Карацей, кажучы, Андрэй, – па-свойску звярнуўся Віталь да Гарачкіна. – У гэтым на першы погляд амаль звычайным слоіку – СВАБОДА. Дайшло?

– Якая яшчэ свабода? Табе што, у маладосці не хапіла? – Гарачкін пачаў здагадвацца, што наведнікі прыйшлі пакпіць з яго.

– Ды не, Гарачкін, тут не да кепікаў! – быццам прачытаў яго думкі Віталь. – Анатоль выпадкова знайшоў слоік, а ў ім – збавенне! Збавенне для кожнага! Робіш глыток – і цябе ўжо нічога не турбуе: ні ўлада, ні выбары, анічога! Ты як агурок, але можаш жыць і працаваць, піць гарэлку і трошкі займацца сэксам. Паветра ў гэтым слоіку поўнасцю адключае той цэнтр мозга, які праяўляе любую грамадзянскую актыўнасць.

– Ідылія, – асцярожна падвёў вынікі Гарачкін. – Такі слоік органам вельмі патрэбны, а як жа? Толькі вось вельмі падазрона, што прэзентуюць яго мне два дурні, як вы...

– А чаго падазронага? Мы, можна сказаць, два патрыёты, якія прагнуць усіх выратаваць, каб нікога больш за палітыку ў турмы не цягнулі, каб ніхто не збіраўся на плошчах, каб міліцыянты не хапалі падлеткаў...

– Ды пайшоў ён у дупу! – раптам ускрычаў чырвоны Анатоль. – Мы яму справу прапануем, а яго "пыса міліцэйская" нічога зразумець не можа! Яму, можа быць, адразу б генерала далі, а ён... Так і застанецца шэрым хрэнам у зас...аным пастарунку!

Такога павароту не чакаў не толькі Гарачкін, але і Віталь, які ўжо паспеў уявіць, як сябры ўдваіх туляцца за кратамі.

– Спакойна, хлопцы, спакойна, – нечакана дыпламатычна прамовіў Гарачкін. – Я бачу, што справа сур'ёзная, і трэба над гэтай тэмай паразважаць.

– Няма тут аб чым разважаць! – зароў Анатоль. – Віталь, хадзем!

Гарачкін маланкава выцягнуў з кабуры пісталет і направіў на Анатоля.

– А ну стаяць, сукі, там дзе стаіце! – закрычаў Гарачкін.

– Стрэліш – слоік не ацалее! – адважна пагразіў Анатоль.

Гарачкін выдаў нейкі гук, падобны на ўдушэнне велізарнай анаконды:

– Лады, давайце супакоімся і паразмаўляем, як нармальныя людзі, – прапанаваў міліцыянт і паклаў пісталет у кабуру.

– Можа, мы яшчэ люльку выкурым і вогненнай вады бахнем, індзеец ты ляснуты! – ачуняў Віталь, зразумеўшы, што ноч за кратамі нечакана адмяняецца.

– Не, вогненнай нам не трэба, – скрывіўся ад адной думкі пра алкаголь Анатоль. – Мы з сябрам сыходзім, а вы заставайцеся сабе тут, мес'е Гарачкін.

Анатоль тэатральна развярнуўся, адкрыў дзверы і рушыў да выхаду з "апоркі".

– Не пушчу, казлы! – пачуў ён за спінай сіплы голас Гарачкіна і зразумеў, што "макараў" яго зноў апынуўся ў руцэ. Анатоль зрэагаваў умомант:

– Віталь, бяжым!

Сябры пабеглі галопам, як два шалёныя коні. Дзяжурная, малодшы лейтэнант Марыя, трошкі ўсхвалявалася і папярхнулася апошнім лусцікам, калі яны прабеглі каля яе. Гарачкін жа ціха працягваў сядзець на крэсле і нікога даганяць не збіраўся.

– Слоік... Свабода... Лухта нейкая, абкурыліся двое старых панкаў, ды ўся гісторыя, – супакойваў ён нервы, але ўсталяваць гармонію з самім сабою у міліцыянта ў той дзень так і не атрымалася.

Потныя, запыханыя ад бегу Анатоль і Віталь урэшце спыніліся і доўга дыхалі, пакланяючыся матухне-зямлі. Абодва неяк адвыклі ад спартовых заняткаў.

Анатоль зазірнуў у амаль чорныя, пашырыныя да дзвюх хмараў ад няспыннага бегу вочы сябра:

– Што цяпер?

– Піва з квасам! – нервова адрэагаваў Віталь.

Анатоль зноўку моцна захацелася трэснуць сябра... Але страх разбіць у сварцы слоік перадолеў.

– Ты ведаеш, што я падумаў у Гарачкіна, – тым часам сур'ёзна пачаў гаварыць Віталь. – У міліцыі даўно знайшлі свой слоік забыцця, надыхаліся і праз яго страцілі ўласную свабоду...

– Ды ідзі ты, філосаф канапны! – абурыўся Анатоль, павярнуўся спінаю да сябра і шпарка пайшоў па вуліцы. "Трэба ўдыхнуць долбаны слоік, і хто ведае – можа, я пасля гэтага стану тутэйшым белармэнам і падарую ўсім свабоду, усіх яе праціўнікам заб'ю і...!" Анатоль не скончыў думкі, таму што на поўнай хадзе ўткнуўся ў нешта вялікае і цвёрдае. Гэта былі тугія грудзі высокага спартоўца, якому Анатоль ледзь дацягваў да падбародку.

– Куды ты прэш, дурань! – злым басам адгукнуўся спартовец. – Алкаш такі са скураным чамаданам!

Анатоль хацеў проста абысці нахабнага асілка, але не здолеў, не вытрымаў – такая ўзяла яго крыўда.

– Ды ты ведаеш, навалач, што ў мяне ў чамадане?

Спартовец трошкі зніякавеў ад смеласці Анатоля і амаль выплюнуў:

– А што?

– Свабода, ты разумееш, дурная твая галава – свабода!

– А што з ёй ты будзеш рабіць, возьмеш дзве бутэлькі замест адной? – заўсміхаўся волат.

– Я не алкаголік, – ледзь не заплакаў Анатоль. – Я – журналіст...

– А бываюць іншыя журналісты? – ці то сур'ёзна, ці то ў жарт адказаў хлопец.

Анатоль не адказаў – ён быў ужо недзе далёка, ногі самі па сабе неслі яго дахаты. Ён не памятаў, як апынуўся на сваёй чорнай скрыпучай канапе і глыбока заснуў... У снах яго панавалі нейкія прывіды і здані, лёталі рознакаляровыя слоікі і танчылі незразумелыя танцы невядомыя нікому істоты.

– Далібог, далібог, каб усё было добра, – са сцяны раптам выйшаў Хатнік Анатоля – маленькі чалавечак у льняным адзенні з блакітнымі вачыма і доўгім носам. – Вось так знойдзе хтосьці шчасце і не ведае, што з ім рабіць.

Потым Хатнік выцягнуў аднекуль старажытны рондаль і пачаў нешта ў ім перамешваць, перамешваць, перамешваць... Павольна, нетаропка знік у прывіднае нішто і той Хатнік, і яго рондаль, і цудоўныя нячутыя словы, якія ён шаптаў.

Анатоль прачнуўся глыбокай ноччу ад таго, што нехта грукае ў дзверы... Моцна і нервова. Гаспадар хутка прабудзіўся і амаль пабег да зірка, не спытаўшыся: "Хто там?" – адразу ж адчыніў... У пакой уляцеў перапалоханы Віталь:

– Вось, глядзі, глядзі, глядзі!!! – не сказаў, пракрычаў той – у руках ён трымаў звычайныя лісты паперы з адбітым на друкарцы тэкстам. Анатоль уключыў святло і пачаў чытаць:

*"Слоік Свабоды" – міфічны посуд старажытных беларускіх паданняў. Кажуць, калі над нашай зямлёй раскрывае свае крылы ліха – слоік адшукваецца ў хаце аднаго з беларусаў... Падкідвае чароўныя слоікі чорны-чорны*

*крумкач, які жыве больш за тысячагоддзе. Скарыстаць посуд можна толькі падчас таго, як з кожнай хаты без аніякага страху выйдзе па адным смелым беларусе. Схаваная ў ім моц – гэта Свабода. Шклянку крумкач даруе розным людзям, сам выбіраючы час, калі тое патрэбна...”*

Віталь і Анатоль адчынілі акно, сяк-так уладкаваліся і звесілі ногі. У небе зіхацелі летнія зоркі... Віталь зірнуў на асвечаны месяцам твар сябра і ціха-ціха прагаварыў:

– Самае страшнае... А што, калі я так і не паспею адкрыць той слоік?

– Здаецца, было там напісана яшчэ, што нікога крумкач не абярэ без нагоды...

Анатоль не адказваў, хоць добра ведаў, што ўсю гэтую лухту пра старажытны слоік некалі прыдумаў і запісаў сам Віталь, а потым чытаў на ўласным літаратурным кватэрніку... У яго гісторыі слоік выпадкова трапіў у рукі аднаго вусатага мужыка. Той гэтак зацікавіўся чароўнай рэччу, што неўзабаве адкрыў посуд і тут жа захацеў злавіць тое, што ўнутры... А вось выцягнуць доўгія страшныя пальцы ўжо не здолеў. Свабода засталася на пэўны час прыціснутая. Але ж і гаспадару свайму яна не прыносіла анічога добрага, бо выцягнуць руку – разбіць слоік і выпусціць Свабоду назаўсёды. Усе толькі гэтага і чакалі, прыхаваўшы да часу ў цёплых гаманлівых варэльнях свае хатнія слоікі.

Віталь і Анатоль маўчалі, каб не парушыць загадкавай цішыні, і глядзелі ўніз на зямлю праз свае босыя ногі. Ноччу над Беларуссю лунаюць мары спартоўцаў і паэтаў, мастакоў і працоўных – ажывае краіна мрояў. Часам загубленых, часам нявдзейсненых. Адно прачынацца нікому дужа не хочацца...

пераклады

## Тадэвуш Ружэвіч



...сучасны чалавек
падае ва ўсіх накірунках
адначасна
ўніз угару ў бакі...

# Падзенне

### *РАСПОВЕД ПРА СТАРЫХ ЖАНЧЫН*

Люблю старых жанчын
агідных жанчын
паскудных жанчын

яны – соль зямлі

не гідзяцца
чалавечымі адкідамі

ведаюць адваротны бок
медалю
любові
веры

прыходзяць і сыходзяць
дыктатары блазнуюць

*Пераклад
з польскай мовы
Сяргея
ПРЫЛУЦКАГА.*

іхнія рукі запэцканыя
крывёй чалавечых істотаў

старыя жанчыны падымаюцца на золку
купляюць мяса гародніну хлеб
прыбіраюць гатуюць
стаяць на вуліцы са складзенымі
рукамі маўчаць

старыя жанчыны
бессмяротныя

Гамлет мітусіцца ў павуцінні
Фаўст іграе ролю мізэрную і смешную
Раскольнікаў гупае сякерай

старыя жанчыны
нязломныя
ўсміхаюцца паблажліва

памірае бог
старыя жанчыны падымаюцца штодзень
на золку купляюць хлеб віно рыбу
памірае цывілізацыя
старыя жанчыны падымаюцца на золку
расчыняюць вокны
прыбіраюць бруд
памірае чалавек
старыя жанчыны
мыюць цела
хаваюць памерлых
высаджваюць кветкі
на магілах

люблю старых жанчын
агідных жанчын
паскудных жанчын

вераць у вечнае жыццё
яны – соль зямлі
кара дрэва
пакорлівыя вочы жывёл

палахлівае і геройскае
вялікае і малое
бачаць у прапорцыях адпаведных
набліжаных да патрэбаў
штодзённасці

іхнія сыны адкрываюць Амерыку
гінуць пад Тэрмапіламі
паміраюць на крыжах
заваёўваюць космас

старыя жанчыны выходзяць на золку
у горад купляюць малако хлеб
мяса запраўляюць суп
расчыняюць вокны

толькі дурні смяюцца
са старых жанчын
агідных жанчын
паскудных жанчын

бо гэта прыгожыя жанчыны
добрыя жанчыны
старыя жанчыны
ёсць яйкам
таямніцай без таямніцы
шарам, што круціцца

старыя жанчыны
ёсць муміямі
святых катоў

маленькімі
зморшчанымі
ссохлымі
крыніцамі пладамі
або тлустымі
авальнымі будамі

калі паміраюць
з вока выцякае
сляза
і зліваецца
на вуснах з усмешкай
маладой дзяўчыны

## *ПАДЗЕННЕ*

*Альбо пра вертыкальныя і гарызантальныя складнікі ў жыцці сучаснага чалавека*

***Паэма***

Даўным-даўно
вельмі вельмі даўно

было паважнае дно
на якое мог апусціцца
чалавек

на таго, хто трапіў на дно
праз сваю легкадумнасць
або з дапамогай бліжніх
глядзелі з пагардай
цікаўнасцю
радасцю
тыцкалі пальцам
а ён намагаўся караскацца
падымаўся
запэцканы саслізгваў назад

Гэта было грунтоўнае дно
можна нават сказаць
мяшчанскае дно

жанчынам прызначалася адно
мужчынае іншае дно
у тыя часы  былі
жанчыны што нізка ўпалі
зганьбавалі сябе
былі банкруты
сёння від амаль
вымерлы
сваё дно меў палітык
святар гандляр афіцэр
касір і навуковец

калісьці было таксама і другое дно
да сёння захаваліся пра яго цьмяныя
згадкі
а дна ўжо няма
і ніхто не можа
ані апусціцца на дно
ані залегчы на дне

Дно пра якое згадваюць
нашы бацькі
было нечым непахісным
аднак
на дне
кожны быў кімсьці
акрэсленым
чалавекам страчаным
чалавекам згубленым

чалавекам які
выкарасквaецца
з дна

з дна можна было таксама
выцягнуўшы руку крычаць“ з глыбіні”
сёння такія жэсты не маюць ніякага
сэнсу
з сучаснага свету
дно прыбранае

няспыннае падзенне
не спрыяе паставам
маляўнічым кампазіцыям
нязрушным

La Chute Падзенне
магчымы хіба
толькі ў літаратуры
ў летуценнях у гарачцы
памятаеце гэтае апавяданне

пра прыстойнага чалавека

не прыйшоў на дапамогу
пра чалавека які займаўся “распустай”
хлусіў атрымліваў поўхі
за гэтае прызнанне
вялікі памерлы магчыма апошні
сучасны французскі мараліст
атрымаў у 1957 годзе
прэмію

якімі нявіннымі былі падзенні

памятаеце
з даўніх вельмі даўніх
часоў
Споведзі
Confessiones
біскупа ў Hippo Reguis

*Побач з нашым вінаграднікам была груша, поўная пладоў, непрывабных ані на выгляд, ані на смак. Абтрэсці яе і набраць груш мы, бессаромныя маладзёны, выбраліся позна ўначы, дацягнуўшы забавы нашыя на плошчы, згодна са старой шкоднай звычкай, ажно да сёння. Мы сабралі там вельмі шмат, не для сябе, але хіба што каб кінуць вепрукам, хаця нешта і самі з’елі; зрабілі мы гэта з тым большай ахвотай, што нельга было рабіць такога.*

*Вось, сэрца маё, Божа мой, вось сэрца маё, над якім Ты злітаваўся, калі яно апынулася на дне прорвы...*

“на дне прорвы”

грэшнікі і аскеты
святыя мучанікі літаратуры
ягняты мае
вы як дзеці каля цыцкі
якія ўвойдуць у Царства
(шкада што яго няма)

*– У Бога верыце? – ляпнуў раптам Стаўрогін.*
*– Веру.*
*– Бо ж сказана, калі верыш і загадаеш гары, каб зрушылася, тады зрушыцца... зрэшты, выбачайце, што лухту нясу. Але ўсё-ткі хачу пацікавіцца: зрушыце вы гару ці не?*

такія пытанні задаваў “вылюдак” Стаўрогін
а памятаеце ягоны сон
карціна Клода Ларэна
ў Дрэздэнскай Галерэі
“тут жылі прыгожыя людзі”

Камю
La Chute Падзенне

*Ах, мой дарагі, для чалавека адзінокага, без бога і без творцы, цяжар дзён – невыносны*

гэты змагар з сэрцам дзіцёнка
уяўляў сабе
што канцэнтрычныя каналы Амстэрдама
ёсць коламі пекла
канечне
мяшчанскага пекла
“мы тут у апошнім коле”
казаў выпадковаму прыяцелю
ў бары
апошні мараліст
французскай літаратуры
вынес з дзяцінства
веру ў Дно
напэўна моцна верыў у Чалавека
напэўна моцна любіў Дастаеўскага
напэўна пакутаваў што
што няма пекла раю
ягня
хлусні

яму здавалася што ён адчыніў дно
што ляжыць на дне
што ёсць упалым

Тым часам

дна ўжо не было
насуперак уласнай волі
нехаця зразумела гэта
адна дзяўчына з Парыжа
і напісала твор
пра спараванне вітаю цябе, сум
пра смерць вітаю цябе, сум
а ўдзячныя чытачы
па абодва бакі
г.зв. раней
жалезнай заслоны
куплялі яе...
на вагу золата
дзяўчына жанчына тая
дзяўчына тая жанчына тая
зразумела што няма Дна
няма колаў пекла
няма ўзнясення
і няма Падзення
усё адбываецца
ў знаёмай
не надта вялікай прасторы
паміж
Regio genus anterior
regio pubice
і region oralis

а тое што некалі было
вітальняй пекла
модная літаратарка
ператварыла
ў vestibulum
vaginae

Спытайцеся ў бацькоў
можа яшчэ памятаюць
як раней выглядала
сапраўднае Дно
дно галечы
дно жыцця
маральнае дно

“Dolce vita”
ці Крысціна Келер
жыла на дне
рапарт лорда Дэнінга
сведчыць пра нешта
цалкам адваротнае
Mons pubis
з гэтай вышыні
адкрываюцца прасторныя
краявіды

дзе вышыні
дзе віры
дзе дно

часам здаецца
што дно дно сучаснікаў
зусім блізка тут пад паверхняй
жыцця
але гэта хіба што яшчэ адна ілюзія
магчыма ёсць у “наш час”
патрэба ў пабудове
новага дастасаванага
да нашых патрэбаў
Дна

Mondo Cane
чаму гэтая карціна зрабіла на мяне
вялікае ўражанне яно расце
дагэтуль расце
Mondo Cane ein Faaustschlag ins Gesicht
Mondo Cane фільм без зорак
Mondo Cane
Людзі там ядуць танчаць забіваюць жывёл
“робяць любоў” танчаць моляцца канаюць
каляровы рэпартаж
пра агонію
пра агонію старых людзей
пра кітайскую кухню
пра агонію акулы
пра розныя прысмакі
пра ўмярцвенне старых
аўтамабіляў
памятаю расплюшчванне формаў
расплюшчванне металу
візгат і скрыгат
металічныя вантробы аўтамабіля
цвінтар аўтамабіляў

яшчэ адзін спосаб маляваць
карціны пад такты чароўнай музыкі
у Парыжы адбіванне цела на белых палотнах
хустка святой Веранікі
твар мастацтва
раты мільянераў раты іхніх жанчын
смажаныя мурашы лічынкі авадні
чорныя курганчыкі на срэбных місах
вусны едакоў
чырвоныя вусны ў Mondo Cane
бліскучыя чырвоныя вялізныя вусны
варушацца ў Mondo Cane

Потым пачалася дыскусія
вакол раздзелу III дэкрэта пра Касцёл
пра народ Божы і свецкі

Кардынал Руфіні
Сказаў
што панятак Народ Божы
вельмі недакладны
паколькі III раздзел
не атрымаў патрэбнай большасці
галасоў ён быў адасланы
ў Літургічную Камісію
на перапрацоўку

*Побач з нашым вінаграднікам была груша, поўная пладоў, не прывабных ані на выгляд, ані на смак... прызнаўся Аўгусцін*

ці вы звярнулі ўвагу на тое што
нутро сучасных дамоў божых
нагадвае
чакальную залу
вакзала аэрапорта

Падаючы не можам
прыняць форму
іератычнага стану
рэгаліі ўлады выпадаюць
з рук

падаючы корпаемся на гародах
падаючы выхоўваем дзяцей
падаючы чытаем класікаў
падаючы закрэсліваем прыметнікі

слова падзенне
неадпаведнае
не тлумачыць таго руху
цела і душы
у які занураны
сучасны чалавек

узбунтаваныя людзі
зрынутыя анёлы
падалі галавой уніз
сучасны чалавек
падае ва ўсіх накірунках
адначасна
ўніз угару ў бакі
накшталт ружы вятроў

раней падалі
і ўздымаліся
вертыкальна
цяпер падаюць
гарызантальна

*1963*

## Генадзь Бураўкін



...Няпраўда,
Што імгненна паміраюць
Бязгрэшныя ў намоленай цішы...

# Апошняе сумоўе

***Сяргей Шапран – пра развітальныя сустрэчы з Генадзем Бураўкіным***

*Заканчэнне. Пачатак у № 3 (76).*

*23 мая 2014 г.* Раніцай у Мінск вярнуўся з Украіны Міхась Скобла. Удзень разам былі ў Бураўкіна. Генадзь Мікалаевіч першым чынам звярнуўся да Міхася.

*Г. Б.:* Што я хачу адразу сказаць... Сіл у мяне мала... Я цябе папрашу, Міша, як вопытнага рэдактара і складальніка, паглядзі... Бо так атрымалася, што калі прыйшоў вось гэты этап з маёй кніжкай, у мяне ўжо сіл не было. Таму паглядзі, дружа... Ну, з назвай мы, як кажуць, вызначыліся. Назва не надта цікавая, не надта свежая, ну, але якая ёсць, такая ёсць — «З зоркамі нагаварыцца». [Гэта быў радок з верша «Я вам скажу з дасведчанасцю ўсёй...», калі дакладна, дык «нагаварыцца з зоркамі». — *С. Ш.*]

*Міхась Скобла:* Добрая назва.

*Г. Б.:* Ну, мне здаецца, нічога.

*М. С.:* І перагукваецца з назвай ранейшай вашай кнігі «Паміж зоркай і свечкай».

*Г. Б.:* Во-во-во... Сяродка, дай папіць... Так што, нейкія рэчы праясніліся — можна запускаць у вытворчасць... Сяродка мне казаў, што ёсць людзі свае, яны могуць гэтаму паспрыяць... Ну і, канечне, мне будзе цікава зрабіць фотаздымак з кніжкай... Я ад вас хачу аднаго: паглядзіце, дзе... ну, нейкай ужо вялікай работы не атрымаецца, але каб не было ляпаў. Ты гэта, Міша, знаеш. Паглядзіце... А так, што я хачу сказаць? — дзякуй, хлопцы, што вы былі са мной, дзякуй...

Потым пагаварылі яшчэ крыху пра будучую кнігу. Пасля Міхась сказаў:

*М. С.:* Я вам прывітанні прывёз ад многіх вашых сяброў з Украіны.

*Г. Б.:* Ад каго?

*М. С.:* Ад Юрыя Мушкетыка, а асабліва цёплае — ад Ігара Ліхавога.

*Г. Б.:* О-о, мілы Ігар! Мілы-мілы Ігар, слаўны, інтэлігентны.

*М. С.:* Самы лепшы ўкраінскі амбасадар, які быў у Беларусі за ўсю гісторыю. У Каневе мы з ім спаткаліся, на Чарнячай гары. Вы былі там, напэўна?

*Г. Б.:* Так, канечне.

*М. С.:* Столькі там было народу — здавалася, уся Украіна з'ехалася на 200-годдзе Шаўчэнкі. Мора сцягоў, і блакітна-жоўтых, і чорна-чырвоных. Украіна дыхае такою свабодаю! Ніхто яе не пераможа...

*Г. Б.:* Дай Бог, дай Бог...

Бураўкін яшчэ пытаўся пра Івана Драча, Дзмітро Паўлычку і Барыса Алейніка, але Міхась не бачыў іх гэтым разам. Прыгадаў яшчэ, што там, на Украіне, у Чаркаскай вобласці, у яго запыталіся пра лёс беларускай мовы — ці выжыве яна? «Што там было доўга думаць, — казаў Міхась, — я ўзяў дый прачытаў ваш верш:

Перажыла наша родная мова
І Бенкендорфа, і Мураўёва,
Панскія здзекі,
Чэкісцкія чысткі,
Рогат імперскі,
Вырак фашысцкі...
Тых, што з трасянкаю ў галаве,
Перажыве!

Авацыі былі, як на з'ездзе КПСС! Вельмі блізка ўкраінцы ўспрымаюць нашы праблемы...»

Калі ж пасля Бураўкін сказаў: «Вы пра мяне не думайце... спраў у мяне засталося мала», — я заўважыў: «Вы, Генадзь Мікалаевіч, і самі, мусіць, ведаеце, што не дарэмна жыццё пражылі, бо шмат чаго зрабілі».

*Г. Б.:* Не, не дарэмна. Гэта я смела скажу, таму што тры рэчы, якія я зрабіў, робяць мне гонар. Гэта тое, што я зрабіў нацыянальнае беларускае тэлебачанне; тое, што ўдзельнічаў у абароне Быкава... Так што, я ганаруся...

*С. Ш.:* А трэцяя рэч?

*М. С.:* «Калыханка».

*С. Ш.:* Сапраўды, колькі дзяцей вы выгадавалі, Генадзь Мікалаевіч. Але можна дадаць яшчэ колькі пунктаў вам у заслугу: чацвёртае — гэта ваша паэзія, пятае — ваша вялікая сям'я...

*Г. Б.:* Не вялікая — магла быць большая... Выдатная сям'я! Выдатная!

*С. Ш.:* Вы столькі ўсяго здзейснілі, што іншыя нават не даўмеліся б зрабіць.

Многія, хто маглі дамагчыся нечага ў жыцці і творчасці, тым не менш нічога не дамагліся, а вы, Генадзь Мікалаевіч, і дамагліся, і сталіся.

*Г. Б.:* Так, гэта праўда. Гэта праўда.

*С. Ш.:* Яшчэ можна прыгадаць, што вы настолькі хварэлі і хварэеце за Саюз беларускіх пісьменнікаў, што нават інфаркт атрымалі з-за гэтага.

*Г. Б.:* Так, з-за саюза.

*С. Ш.:* Гэта, Генадзь Мікалаевіч, ужо пяць з паловай пунктаў.

*Г. Б.:* Адзінае хочацца, каб усё гэта не дарма.

*М. С.:* Не дарма, Генадзь Мікалаевіч, не дарма гэта ўсё...

Пазней, перад самым развітаннем, Бураўкін удакладніў тыя тры рэчы, пра якія гаварыў раней: першае — беларускае тэлебачанне, другое — абарона Васіля Быкава, трэцяе — Кангрэс за незалежнасць. «Так што, вось запішы», — сказаў. (Пад Кангрэсам за незалежнасць ён меў на ўвазе Усебеларускі з'езд 2000 года, на якім прысутнічала амаль паўтары тысячы дэлегатаў з усёй краіны і на якім быў прыняты Акт незалежнасці Беларусі; Бураўкін быў сустаршынёй з'езда — разам з Рыгорам Барадуліным, Радзімам Гарэцкім і Анатолем Грыцкевічам.)

Крыху раней Генадзь Мікалаевіч запытаўся пра Саюз беларускіх пісьменнікаў:

*Г. Б.:* Што там, Міша, у саюзе?

*М. С.:* Варушацца хлопцы. Добра, што Барыс Пятровіч узяў маладых — Сцебураку, Івашчанку. Таленавітыя хлопцы і актыўныя.

*Г. Б.:* Дай Бог.

*С. Ш.:* І, як падаецца, сумленныя.

*Г. Б.:* Самае галоўнае...

Калі ж зайшла гаворка пра Максіма Гарэцкага, Бураўкін заўважыў: «У яго натуральная мова». Міхась дадаў: «Магілёўская, своеасаблівая вельмі. Памятаеце, герой апавядання "У лазні" гаворыць: "Аджалейце паўчахірачкі". Гэта значыць — набяры коўшык вады і плюхні на камяні». — «Гарэцкі, канечне, не прачытаны». — «І не выдадзены, — дадаў Скобла. — Яго чатырохтомнік выйшаў са шматлікімі купюрамі, бо рыхтаваўся яшчэ ў часы цэнзуры».

Ужо потым Юлія Якаўлеўна запыталася: «Ты ўсё сказаў хлопцам, што хацеў?» — «Я ім не сказаў і тысячнага, што хацеў. Але я ўжо знаю, што не паспею». Гаварыў яшчэ пра свой стан: «Не сказаць, што дужа цяжка, і не сказаць, што лёгка». І на заўвагу Міхася, што папросім пасля падпісаць новую кнігу: «Не, не падпішу... Ты знаеш, як непрыкметна робіцца вось гэтая ўся бяда: яшчэ ўчора я спакойна падпісваў кнігі, а потым раз — і не магу...»

Тым часам я запытаўся, ці дазволіць Генадзь Мікалаевіч сфатаграфаваць яго разам са Скоблам. Бураўкін у адказ: «Канечне, можна. Гэта мой дарагі чалавек». І потым: «Рабі, рабі. Я помню той урок мудрасці, які нам даў Васіль Быкаў. Ён жа не хацеў фатаграфавацца, забараняў, і раптам, калі мы прыйшлі да яго ў Бараўляны, у канцы кажа: "Сярожа, а можа, у цябе тут фотаапарат?" Сяргей кажа: "Так". — "Ну, дык давай працуй!"» Яно сапраўды так было. Тады Васіль Уладзіміравіч і заўважыў прароча: «Снимок на смертном одре». Калі мы пазней гаварылі пра тое з Генадзем Мікалаевічам, ён сказаў: «Васіль быў мудры чалавек. Ён разумеў, што сыходзіць». І вось цяпер, праз адзінаццаць гадоў, гісторыя паўтаралася, але на гэты раз — з самім Бураўкіным...

Пачатку наступнай гісторыі я не пачуў, бо выходзіў з кабінета, але калі вярнуўся, Міхась папрасіў Генадзя Мікалаевіча паўтарыць. Размова ішла пра касманаўта Пятра Клімука.

*Г. Б.:* ...Калі злятаў туды Пеця і рыхтаваўся да новага палёту, ён са мной раіўся: што туды ўзяць? Бо там вельмі ўсё было абмежавана па вазе. А яму хацелася ўзяць нешта сімвалічнае. І вось тады мы пайшлі ў кнігарню, што на Карла Маркса, і Пеця выбраў Канстытуцыю БССР на беларускай мове і вось гэты томік «Новай зямлі». Але я, шчыра кажучы, калі ён сказаў, што вазіў гэта туды з сабой, трошкі сумняваўся, пакуль аднойчы Віталік Севасцьянаў пры нейкай сустрэчы не пачаў чытаць: «Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы...» Я кажу: «Што, Пеця навучыў?» Ён: «Навучыў».

*М. С.:* Уяўляеце карціну: лётаюць вакол Зямлі ў касмічным караблі і чытаюць «Новую зямлю»!

*Г. Б.:* Так. Недзе, дарэчы, ёсць адзін дакумент, для мяне вельмі цікавы і дарагі. Гэта канверт, на якім напісана: «Зямля. Беларусь. Бураўкіну»... Гэта Кавалёнак даслаў.



*Генадзь БУРАЎКІН.*

*М. С.:* І Кавалёнак жа браў у космас кнігу — «Нача»...

*Г. Б.:* Зуёнкаўскую, так.

*М. С.:* Ён пра гэта ў сваім касмічным рэпартажы распавядаў: працоўны карабель «Прагрэс» прывёз грузы і сярод іх кніжачку з такой роднай назвай — «Нача». Нача — гэта рэчка, што працякае на Крупшчыне, адкуль родам Зуёнак і Кавалёнак. Гэта засведчана, а расказанае Вамі, Генадзь Мікалаевіч, таксама вельмі важна. Яшчэ ніколі так высока беларуская паэзія не ўзлятала.

*Г. Б.:* Так-так.

*М. С.:* А яшчэ аднаму касманаўту, відаць, ніхто ўжо не падказаў — маю на ўвазе Навіцкага з Чэрвеня.

*Г. Б.:* Не было каму, бо і Пеця, і Валодзя — мы ж сябравалі. А з кім ён сябруе? З Канаплёвым?..

*М. С.:* А на 200-годдзі Шаўчэнкі ў Каневе выйшаў касманаўт з зоркай Героя Украіны, паказаў «Кабзара», якога браў у космас, і: «Слава Украіне!» Тысячы людзей адгукнуліся...

*Г. Б.:* «Героям слава!»

...Ужо на развітанне Генадзь Мікалаевіч сказаў Міхасю, нібы запавет пакінуў: «Трымайся і не схібі — як ты гэта ўмееш. Ты мой чалавек на гэтай зямлі». Праўда, гэтае «як ты гэта ўмееш» прагучала неяк двухсэнсоўна, таму, калі застаўся з Бураўкіным сам-насам, я ўдакладніў, што менавіта ён меў на ўвазе? І Генадзь Мікалаевіч сказаў двойчы, маючы на ўвазе Міхася: «Ніколі не схібіў. Ніколі не схібіў». — «І каб далей так паступаў?» — «Адпаведна».

*24 мая.* Генадзь Мікалаевіч — ледзь сёння ўбачыліся — чамусьці прыгадаў, што ў дзяцінстве хацеў быць «або Сталіным, або пісьменнікам». Я жартам: «Сталіным чаму? Дыктатарам хацелі быць, Генадзь Мікалаевіч?» — «Не ў гэтым плане. У тым сэнсе, які ўсё можа». — «Тут жа ёсць нешта агульнае — паміж правадыром і пісьменнікам, бо абодва здольныя ўплываць на людзей». — «Канечне, — пагадзіўшыся, Бураўкін папрасіў: — Так, Сярожа, зараз я трохі ачухаюся...» Праз нейкі час наша размова працягвалася.

*С. Ш.:* Што тычыцца вашай дзіцячай мары стаць пісьменнікам: прыгадваецца, што ваш першы «ганарар» быў дужа арыгінальны — вас тады пабілі.

*Г. Б.:* Так!

*С. Ш.:* Зараз можаце распавесці? Гэта ж, мусіць, незабыўна.

*Г. Б.:* Гэта сапраўды незабыўна. Я тады надрукаваў у школьнай газеце сатырычна-гумарыстычны верш пра аднаго аднакласніка-лайдака. Адпаведна ўсе адразу зразумелі, пра каго. І калі ішоў са школы дадому, яны мяне пабілі, і я прыйшоў дамоў пабіты. Вось так я атрымаў першы свой «ганарар».

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, а што б вы параілі маладым пісьменнікам? Гэта ж цяжка зразумець: ці атрымаецца з цябе нешта, ці ўсё ж ты графаман.

*Г. Б.:* Ты знаеш, і цяжка, і лёгка. Справа ў тым, што калі гэта тваё, дык цябе нічым не адаб'еш ад гэтага. А калі не тваё, дык вельмі лёгка гэта зразумець, бо прафесія ўжо пры першай жа няўдачы цябе адпрэчыць. Гэтая справа прафесійная — яна даволі хітрая... Дай папіць...

*С. Ш.:* Мяне ўвесь час здзіўляў Барадулін, які ніколі не гаварыў, што ён паэт...

*Г. Б.:* Літаратар, так.

*С. Ш.:* Ён гаварыў: «Я — чорнарабочы беларускай мовы». Паэтычна сказаў.

*Г. Б.:* Так-так-так.

*С. Ш.:* А ў адказ на мае роспыты прызнаваўся, што ўпершыню зразумеў, што нечага варты, толькі пасля кнігі «Евангелле ад Мамы». А гэта ж быў 1995 год. У сваю чаргу Някляеў пісаў, што зразумеў, што не сталася памылкі на нябёсах, а калі і ёсць, дык невялікая, толькі пасля кнігі «Прошча». А вы, Генадзь Мікалаевіч, калі зразумелі, што вы — паэт?

*Г. Б.:* Ну і пытанні ты задаеш!.. Я зразумеў, што я не лішні ў літаратуры і нешта магу, недзе ў 1980-я гады.

*С. Ш.:* А да таго часу сумненні былі?

*Г. Б.:* Былі.

*С. Ш.:* А тое, пра што раней гаварылі, — што паэзіі ў вашым жыцці было менш, чым магло быць, — гэта найвялікшае ваша шкадаванне?

*Г. Б.:* Гэта самае галоўнае шкадаванне.

*С. Ш.:* І ў гэтыя цяжкія для вас дні таксама пра гэта думаеце?

*Г. Б.:* Канечне.

*С. Ш.:* Вы ўжо прабачце, калі ласка, але, гледзячы збоку на ваш лёс, мне так падаецца, што ў вашым жыцці не было вялікіх памылак, ці я проста пра іх не ведаю.

У гэты момант глуха грымнуў майскі гром, і Бураўкін, пачуўшы, адзначыў: «О!»

*Г. Б.:* Ты разумееш, дарагі мой, у мяне не было трагічных памылак у жыцці, і памылкі жыццёвыя прыкрываліся памылкамі прафесійнымі, гэта ўсё згладжвалася. Таму, можа, і атрымалася больш-менш нармальна.

*С. Ш.:* З іншага боку, прыгадваецца, што сказаў пра сябе, пра свае памылкі Барадулін: «Быць на млыне і не запыліцца немагчыма».

*Г. Б.:* Канечне... Канечне.

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, і яшчэ адно, мабыць, нязручнае пытанне: вы ўжо прабачце, калі ласка, але з сыходам вашага пакалення не бачу літаратараў, якія маглі б быць прыкладам служэння літаратуры.

*Г. Б.:* Ну, гэта пытанне не да мяне. Гэта пытанне да пакалення, якое ідзе за намі. Такое ўражанне і ў мяне часам бывае.

*С. Ш.:* Таксама?

*Г. Б.:* Так.

*С. Ш.:* І, канечне, гэта не можа вас не засмучаць?

*Г. Б.:* Канечне... А наогул, Сярожа, чым больш задаеш ты мне пытанняў, тым болей мне сумна.

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, але ж вы самі хацелі пагаварыць...

*Г. Б.:* А што я раблю?

*С. Ш.:* Вы ўжо прабачце мне маё нахабства, але паўтаруся: ваша пакаленне было і шмат у чым застаецца прыкладам служэння літаратуры, а ў вашым асабістым выпадку гэта яшчэ і прыклад служэння краіне. І ваш, Генадзь Мікалаевіч, прыклад, на маю думку, шмат у чым бездакорны. І я не магу не казаць вам гэтага.

*Г. Б.:* Я разумею цябе, але мне гаварыць пра гэта цяжка, бо гэта датычыць персанальна мяне. Таму што выбар у мяне часта быў цяжкі, і я яго рабіў, і выбар гэты часта быў, скажам так, не самы ўдалы, ну, але што зробіш? Жыццё, яно прайшло. Справа ў тым, што гэта ўжо зроблена. А калі звычайна гаворыцца пра нешта, заўсёды маецца на ўвазе нейкі зазор — а што калі б? Але хто яго ведае, што было б, калі б што?

*С. Ш.:* Вы зноў жа прабачце, але вы, мусіць, і без мяне пра гэта думаеце. І, можа, гэты час дзеля таго вам і дадзены, каб вы нешта падсумавалі, нешта пераасэнсавалі?

*Г. Б.:* Можа-можа. Але дужа мала дадзена, дужа мала дадзена.

*С. Ш.:* Часу?

*Г. Б.:* Так.

*С. Ш.:* Прабачце, Генадзь Мікалаевіч, за гэтыя пытанні. Мабыць, тады на сёння закончым?

*Г. Б.:* Ну, як ты хочаш.

*С. Ш.:* Тады хацеў бы яшчэ да ранейшай размовы вярнуцца: не так даўно было дужа шмат размоў і спрэчак у сувязі з вылучэннем Святланы Алексіевіч на Нобелеўскую прэмію. А што вы сказалі б: Алексіевіч — гэта факт беларускай ці ўсё ж рускай літаратуры?

*Г. Б.:* Гэта факт літаратуры — вось што для мяне перш за ўсё важна. Гэта факт літаратуры, факт таго жыцця, якое мы пражылі. І гэта бясспрэчны факт інтэлектуальнага жыцця. І гэтым мне Святлана цікавая і дарагая. А тонкасці — ну, канечне, яны ёсць. І, вядома, я хацеў бы, каб яна пісала па-беларуску, але так атрымалася. Аднак тое, што яна робіць, гэта бясспрэчна найгалоўнае ў беларускай літаратуры.

*С. Ш.:* Падобныя спрэчкі ў свой час узнікалі і вакол імя Алеся Адамовіча, які прозу пісаў па-руску, і толькі крытыку і публіцыстыку — па-беларуску. І, шчыра кажучы, я не разумею тых, хто зларадніча́ў, калі Алексіевіч не атрымала Нобелеўскую прэмію — маўляў, так ёй і трэба, калі яна ўжо расійская пісьменніца...

*Г. Б.:* Яна — пісьменніца.

*С. Ш.:* Найперш, па-мойму, трэба глядзець на тое, таленавіты літаратар ці не...

*Г. Б.:* Так-так-так. Можа, тут ёсць нешта крыўднае, можа, нешта быццам бы несправядлівае, але яна — пісьменніца. Пісьменніца разумная, пісьменніца цікавая.

*С. Ш.:* І яшчэ пра іншае, пра што ніяк не магу забыцца. Памятаеце, калі ў Палацы мастацтва адзначалася ваша 70-годдзе, дык на вечарыну абяцалі прыйсці Аляксандр Ціхановіч і Ядзвіга Паплаўская. Абяцалі дый не прыйшлі, бо вы былі ў апале...

*Г. Б.:* Было такое, было.

*С. Ш.:* Мяне дужа тады ўразіла, як лёгка людзі адмаўляюцца ад чалавечых стасункаў дзеля нейкай палітычнай ці якой іншай выгоды. Вас таксама гэта непрыемна ўразіла?

*Г. Б.:* Канечне-канечне.

*С. Ш.:* І вам было крыўдна ад гэтага?

*Г. Б.:* Крыўдна.

На гэтым наша размова завяршылася, бо да Генадзя Мікалаевіча завітаў разам з жонкай Вольгай Уладзімір Някляеў. Прыехаўшы раніцай з Украіны, ён прыйшоў не з пустымі рукамі.

*Уладзімір Някляеў:* Вось глядзі, што табе ўкраінцы перадалі, — шаўчэнкаўскі каляндар на ўвесь 2015 год. Намёк зразумеў, Генадзь Мікалаевіч?

*Г. Б.:* Зразумеў.

*У. Н.:* Табе перадавалі прывітанне ўсе пісьменнікі Украіны. Тваe сябры казалі цябе абдымаць, цалаваць, яны гатовыя табе дапамагчы, чым могуць. Я падзякаваў, але сказаў, што мы самі чым можам, тым дапаможам. Настрой у іх такі... не сказаў бы, што надта сумны — чамусьці яны вераць, што ўсё ў іх будзе добра...

*Г. Б.:* Вось гэтага я не разумею, Валодзя.

*У. Н.:* Чаму? Не, Генадзь Мікалаевіч, павінна быць добра.

*Г. Б.:* Павінна быць — гэта безумоўна, але я не зусім разумею.

*У. Н.:* Украіна ўсё-ткі развярнулася ўжо ад «саўка» да Еўропы, да Еўразвязу, і назад павароткі не будзе. Я шмат з кім размаўляў, і многія лічаць, што без Крыма... Са стратай Крыма, хоць пра гэта не кажуць, амаль усе ўжо згадзіліся, зыходзячы з таго, што Крым ніколі не даў бы Украіне стаць цэльнай. Яно, бадай, насамрэч так. Калі ў 1991 годзе быў падпісаны белавежскі дакумент, тады, помніш, у Ельцына спыталіся: а што з праблемай Крыма? І ён адказаў: так, праблема ёсць, але не ваяваць жа нам з Украінай! А праз дваццаць гадоў Пуцін спытаў: а чаму не?.. Дык вось у той час я быў на захадзе Украіны, у Цярнопалі, і быў вельмі здзіўлены, калі пачуў ад украінскіх пісьменнікаў-нацыяналістаў: «Няхай яны забіраюць Крым, бо ён ніколі не дасць Украіне быць Украінай. Заўсёды будуць з Крымам праблемы — праблемы праз дзве мовы, праз дзве арыентацыі — Усход-Захад, дзве філасофіі, два светапогляды». А цяпер ва Украіне ёсць людзі, якія кажуць: «Хай яны і Данбас з Луганскам забіраюць». Праўда, пра Данбас кажуць не так рашуча, як пра Крым...

Са старых нашых сяброў я не многіх бачыў, дома сядзяць па прычыне здароўя. Мяне, дарэчы, здзівіў Мушкетык — яму ўжо 85...

*Г. Б.:* Так, Мушкетон стары ўжо.

*У. Н.:* А ён скакаў, я табе скажу, як не кожны чалавек нават нашага веку паскача. Да яго вельмі добра ставяцца. Ён і сапраўды такі...

*Г. Б.:* Крэпкі.

*У. Н.:* Гаспадарлівы такі. Шамякіна нечым нагадвае.

*Г. Б.:* Так.

*У. Н.:* І Драч Іван...

*Г. Б.:* Быў Ваня Драч?

*У. Н.:* Яго на Чарнечай гары не было, але мы бачыліся. Ён табе прывітанне перадаваў. Ён не паехаў, бо ўсё-ткі ў аўтобусах увесь час. Вандроўка не такая і лёгкая...

*Вольга Някляева:* Валодзя сказаў: едзеш-едзеш, а Украіна ўсё не заканчваецца.

*У. Н.:* Як казаў некалі наш з табой сябар Анатоль Кудравец, «а Масква, ваабшчэткі, вялікі горад», — так і Украіна, ваабшчэткі, вялікая краіна. І якая ж прыгожая! Гэтыя бясконцыя стэпы з пагоркамі...

*Г. Б.:* Цвіце?

*У. Н.:* Буяе! Зеляніна такая!..

*Г. Б.:* Сакавітая.

*У. Н.:* Сакавітая. Прыгожа вельмі... І моцна. Моцная зямля.

*Г. Б.:* Магутная-магутная.

*У. Н.:* А ў Кіеве, на Майдане, да гэтай пары стаяць заходнікі ў намётах. «Не, — кажуць, — мы Украіну ніякім зладзюгам, якіх хочуць паставіць маскалі, не аддадзім!..» Слухай *(смяецца)*, пра маскалёў цяпер усе жарты! Хто не скача — той маскаль! Хто не п'е — той маскаль!.. *(Смяецца.)* А колькі анекдотаў! «Мыкола, ты чаго не жэнішся? Ну, паглядзі, якая Люба! І гарная, і гаспадарлівая!» — «Не хачу я Любу!» — «Тады глянь, якая Маруся! І бацька багаты!..» Ну, і далей падобныя прапановы... А Мыкола сваё: «Не хачу! Не буду». — «Ды чаму не хочаш? Чаму не будзеш?!» — «Бо я Ваньку кахаю». — «Мыкола, ты што, з глузду з'ехаў? Ці ты не ведаеш, што Ванька — маскаль?» *(Някляеў і Бураўкін смяюцца.)* Во, аж да такога...

Ну, пішаце з Сяргеем пацыху?

*Г. Б.:* Пабойся Бога! Я чытаць і слухаць не магу, а ты кажаш — пішаш.

*У. Н.:* У сэнсе — ты нагаворваеш, як мы дамаўляліся, а ён запісвае.

*Г. Б. (жартам):* Нагаворваю на сябе і на іншых.

*У. Н.:* І гэта правільна. Але ты на сябе не надта нагаворвай...

*Г. Б.:* Пасядзі, Валодзечка, раскажы.

*У. Н.:* Я з задавальненнем з табой пасяджу. Што табе яшчэ расказаць?..

Праз нейкі час размова, вядома, зайшла пра Беларусь.

*У. Н.:* ...Шчыра табе сказаць, я не ведаю, што ў цяперашняй сітуацыі можна зрабіць. Ён давёў краіну да таго, што яна абсалютна бездапаможная перад гэтымі пуцінымі, якія ў любы момант могуць паслаць «зялёных чалавечкаў». Вось ён і круціцца. То прадстаўніку Беларусі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый дае каманду, як галасаваць па праблеме Крыма: маўляў, анексія Крыма правільная...

*Г. Б.:* Так-так.

*У. Н.:* То, калі да яго тут прыходзіць амбасадар украінскі, ён кладзе руку на грудзі: «Украіна ў маім сэрцы!..» Аднойчы закандэбоберыўся, калі Пуцін прыязджаў, праз грошы закандэбоберыўся — маўляў, не буду падпісваць дамову пра мытны звяз. Ну, Пуцін даў два мільярды... А калі яшчэ мыту скінуць на нафту, то ў яго...

*Г. Б.:* Так.

*У. Н.:* ...То ў яго грошай хопіць, каб выбары пераждыць. І што рабіць на гэтых прэзідэнцкіх выбарах, я, Генадзь Мікалаевіч, у галаву не вазьму.

*Г. Б.:* Я, Валодзя, скажу табе, што ўжо пра гэта не думаю. Хай ідзе, як ідзе.

*У. Н.:* Ну, я пакуль думаю. Не магу не думаць.

*Г. Б.:* Ты жывеш у жывым свеце, я — у хворым, так што...

*У. Н.:* Шкада, што ты мне зараз не надта вялікі дарадца і памочнік. Вось у 2010 годзе ты быў мне дарадца і памочнік. Што ж, паспрабую што-небудзь сам прыдумаць. Хоць што — пакуль не ведаю. Вось да Украіны я ўсё разумеў пра 2015 год: і што, і як я буду рабіць. А пасля Украіны ўсё пасыпалася, усе мае планы разваліліся. Я ставіў на наш Майдан, а бедных беларусаў украінскім Майданам так запалохалі... Ды яно й сапраўды: выведзеш на Плошчу людзей, а там іх пастраляюць. Я ж паэт, а не генерал, каб пралічваць магчымыя страты, для мяне кожны чалавек... А ў Лукашэнкі пасля Кіева карт-бланш на любыя дзеянні. На любыя.

*Г. Б.:* Так.

*У. Н.:* ...Такое можа ўчыніць, што...

*Г. Б.:* Так, Валодзя.

*У. Н.:* ...І ўжо наперад у яго, ва ўсіх іх ёсць апраўданне: мы ж зрабілі гэта дзеля таго, каб...

*Г. Б.:* Так.

*У. Н.:* ...Не давесці Беларусь да ўкраінскіх падзей...

*Г. Б.:* Так, Валодзечка...

Пагадзіўшыся, Бураўкін нечакана запытаўся пра іншае — пра што мы не раз з ім у мінулыя гады гаварылі, калі прыгадвалі Някляева.

*Г. Б.:* Так, адкажы мне на самае хітрае пытанне...

*У. Н.:* Якое самае хітрае?

*Г. Б.:* Пішаш?

*У. Н.:* Пішу. Праўда, часу зусім мала...

*Г. Б.:* Малайчына!

*В. Н.:* Часу ў Валодзі зусім няма — усё ў раз'ездах і раз'ездах.

*У. Н.:* Волька ў мяне — зязюля. Штодня з раніцы кувае: «Ты што сабе думаеш?! Ты будзеш сёння пісаць, ці будзеш лухтой займацца, палітыкай?!» Яна жыць мне не дае: пішы ды пішы!.. *(Смяецца.)* А пісаць і праўда трэба. Ці хоць бы дапісаць, шмат недапісанага. Да гэтай пары пра Крэва паэма ў самым пачатку. Няёмка ж нарадзіцца ў Крэве і пра Крэва паэму не напісаць...

*Г. Б.:* Так, Валодзя.

*У. Н.:* А ты помніш Лойкаву крэўскую паэму?

*Г. Б.:* Помню.

*У. Н.:* Як табе яна?

*Г. Б.:* Не надта.

*У. Н.:* Не надта? Ну, вось трэба, каб «надта» было.

*Г. Б.:* Так, трэба-трэба.

*В. Н.:* Я ў Лойкі пра Крэва не чытала — толькі ў Арочкі.

*У. Н.:* Цьфу ты! Сапраўды — у Арочкі!.. *(Смяецца.)* Воленька, адна ты разбіраешся ў літаратуры, а мы з Бураўкіным нават Арочку з Лойкам блытаем. Як Маякоўскі пісаў: «Кто их к чёрту разберёт!» Хаця два не такія й кепскія былі паэты... А ў цябе кніжка вершаў складваецца?

*Г. Б.:* Склалася.

*У. Н.:* Ты ёю сам задаволены?

*Г. Б.:* Не надта.

*У. Н.:* Чаму?

*Г. Б.:* Кавалкі ёсць неблагія. Але ёсць і ерунда.

*У. Н.:* Дык яно ў чалавеку таксама: ёсць нейкі кавалак нічога, а нейкі — ерунда. У аднаго галава нічога, а ў іншага — тое, што значна ніжэй. *(Смяецца.)* Гэтым разам, прыехаўшы з Украіны, распавядаю Вользе, што Шаўчэнка пахаваны ў трох трунах. Яна пытаецца: «Што ў якой?» *(Някляеў і Бураўкін смяюцца.)* Я не падумаў пра такі магчымы варыянт і нават разгубіўся...

Прыгадаўшы пасля Шаўчэнкі Напалеона, які ажно ў сямі трунах пахаваны, Някляеў загаварыў яшчэ пра аднаго ўкраінскага сябра Бураўкіна.

*У. Н.:* ...Я сустрэў Ліхавога, табе таксама ад яго вялікае прывітанне...

*Г. Б.:* Ой, харошы чалавек!

*У. Н.:* Проста выдатны. Ён жа быў міністрам культуры, а пасля гадоў пятнаццаць ці нават шаснаццаць — дырэктарам Музея Шаўчэнкі на Чарнечай гары. Я думаў, што цяпер ён зноў будзе запатрабаваны, прызначаны міністрам, таму што ён

не толькі чалавек адукаваны, але і апантаны ўкраінскай культурай. Дык не! Прызначылі ведаеш каго? Яўгена Нішчука, які на Майдане быў шоўменам. Ну, вядучым на сцэне. Малайчына, канечне, але ж гэта не азначае, што міністр. І вось глядзі, як мяняюцца людзі... Быў на Чарнечай гары, дзе двухсотгоддзе Шаўчэнкі святкавалася, адзін мой знаёмец. Паэт, які некалі збег з Туркменіі, бо яго ў турму хацелі пасадзіць. Цяпер жыве ў Швецыі, гэткі туркменска-шведскі літаратар. І ён да мяне прычапіўся: «О, тут святое месца! Дзвесце гадоў Шаўчэнку! Гэта будзе для мяне драма, калі не выступлю! Гэта мой шанец! Лёс! Прадвызначэнне!» Ну, такі эмацыянальны... Я падыходжу да Нішчука, які цяпер міністр: «Здароў, Жэня!» — «Здароў!» — «Я, бачыш, як быў паэт, так і ёсць паэт, а ты... Віншую! Можа, па майданаўскай нашай завядзёнцы дасі слова? Толькі не мне, а майму знаёмаму, туркменскаму паэту...» І ведаеш, што Жэня, з якім мы сцюдзёнымі начамі разам у намётах гарбатай грэліся, адказвае: «Гэта ў пратакольны аддзел».

*Г. Б.:* О!

*У. Н. (смяецца):* Во як падняўся хлопча!.. Я кажу: «Жэня, ты што?! Ты ж можаш проста падысці да мікрафона і сказаць: “Наш госць са Швецыі...”».

*Г. Б.:* Так-так-так.

*У. Н.:* Не! Ён сам паўгадзіны вяшчаў у мікрафон пра Шаўчэнку — я так і не зразумеў, што ён пра яго сказаў...

Ужо праз паўзу Някляеў папрасіў сябра: «Раскажы што-небудзь ты пра сваё падарожжа. Ты ж ляжыш цяпер ды падарожнічаеш па жыцці сваім...» Бураўкін у адказ: «Валодзечка, каб было што». — «Ну, што ты выдумляеш!.. Каго ты найчасцей прыпамінаеш? Грышу, відаць?» — «Хутчэй за ўсё так. А можа, і Васіля». Назваўшы Барадуліна і Быкава, Генадзь Мікалаевіч папрасіў вады... Праз нейкі час размова прадоўжылася.

*У. Н.:* Слухай, як сам думаеш: падстроілі Машэраву тую аварыю, ці ўсё-ткі гэта выпадак — і нічога не стаяла за ягонай смерцю, ніякіх гэтых крамлёўскіх...

*Г. Б.:* Ты знаеш, Валодзя, па шчырасці кажучы, не ведаю.

*У. Н.:* Я не кажу, што ты можаш гэта ведаць, бо ты не служыў...

*Г. Б.:* Так-так-так.

*У. Н.:* ...У Камітэце дзяржаўнай бяспекі. Але як ты думаеш, як мысліш? Я не бачу на той момант патрэбы знішчаць, забіваць Машэрава — дзеля чаго?..

*Г. Б.:* Гэта, Валодзя, прыгожая легенда. А ў кожнай легенды ёсць такая праўда, якой ніколі не будзе ў праўды.

*У. Н.:* Ну, так... А хто прыдумаў легенду, нібы я з Лукашэнкам у лазні мыюся?

*Г. Б.:* Вось гэтага я не знаю. *(Усміхаецца.)*

*С. Ш.:* Лукашэнка, можа?

*У. Н. (смяецца):* І Быкаву расказаў. Як ён тады пачаў мяне дапякаць: «Ты ў лазні, з Лукашэнкам!..»

*Г. Б.:* Наконт гэтага я не знаю, бо гэта ўсё мне Васіль гаварыў.

*У. Н.:* Ну, дык нехта ж яму перад тым набаіў, прычым нехта з тых людзей, якім Быкаў давяраў, таму што ў такое...

*Г. Б.:* Так-так-так.

*У. Н.:* У такое паверыць толькі тады можна, калі чуеш гэта ад блізкага...

*Г. Б.:* Не, ты няправільна фармулюеш...

*У. Н.:* А як фармуляваць?

*Г. Б.:* Я думаю, што гэта яму мог у вушы ўвесці Чаргінец.

*У. Н.:* Чаргінец, думаеш?.. А! Я забыўся пра гэтага чалавека, шчыра сказаць. Мне проста здаецца, што ў той час ён ужо... а хаця не, ён доступ меў і заходзіў...

І зноў узнікла паўза, пасля якой Бураўкін папрасіў:

*Г. Б.:* Валодзя, раскажы мне, што там, як кажуць, у «высших кругах»?

*У. Н.:* «Высший круг» у Беларусі адзін, і ён пакуль не тоне. *(Смяецца.)* Відаць, гэта той выпадак, калі не тоне тое, што не можа тануць. Што на паверхні плавае...

*Г. Б.:* Так.

*У. Н.:* Хоць я табе скажу: на Украіне да яго ставяцца неяк так... ну, памяркоўна. Шмат хто лічыць, што ў вайне Расіі з Украінай ён на баку Украіны... А ўвогуле многае змянілася ва Украіне. Прыязджаем у райцэнтр з прыгожай назвай Залатаноша, заходзім у гімназію і бачым дзяцей, якія вітаюцца з настаўнікам... Ведаеш, як яны вітаюцца? «Слава Украіне!» І настаўнікі ў адказ: «Героям слава!» Я сабе думаю: «Тэатр для гасцей...» Лаўлю двух падшыванцаў, зусім малых, якія маніць не стануць: «Слава Украіне!» І яны: «Героям слава!» Аказваецца, ад Майдана гэта пайшло па ўсёй Украіне. А Залатаноша — гэта ж Чаркашчына, зямля сур'ёзна зрусіфікаваная. Дык вось цяперака ўсё імкліва паварочвае ва Украіне да Украіны.

*Юлія Бураўкіна:* Я званю сястры, якая там жыве, дык яна кажа: «Толькі не глядзі рускія каналы. Карцінка можа быць тая, а тэкст — зусім іншы. А па-другое, не хвалюйся за Украіну — Украіна як была, так і будзе Украінай. Была і будзе стаяць. Усе нашы дзядзечкі пайшлі ў ваенкамат, а ўсе нашы цётачкі іх падтрымліваюць. І сама ведаеш, супраць каго».

*У. Н.:* Так яно і ёсць! Але я не ўпэўнены, што нашы так у ваенкамат пойдуць.

*Г. Б.:* Упэўнены, што не пойдуць...

Пасля гэтай фразы Бураўкін запытаўся зусім пра іншае — пра Саюз беларускіх пісьменнікаў: «Так, цяпер па персаналіях. Што там Пятровіч і Пашкевіч?»

*У. Н.:* Ты адзін з нямногіх, хто гэтым цікавіцца. Пятровіч — старшыня, Пашкевіч — намеснік. Што да астатняга, то, па праўдзе сказаць, не надта я ў курсе. Хоць і трэба было б, але... Часопіс выдаюць, кнігі. «Літаратурную Беларусь». Робяць нешта.

*Г. Б.:* А што ПЭН-цэнтр?

*У. Н.:* Ну, ты ж помніш, калі я сыходзіў [у 2005—2009 гг. У. Някляеў быў старшынёй Беларускага ПЭН-цэнтра. — *С. Ш.*], прапанаваў на месца старшыні Андрэя Хадановіча. Вось ён да гэтай пары і старшынюе. На мінулым з'ездзе хацелі пераабраць, бо ён ужо трэцім разам старшыня, але, улічваючы, так бы мовіць, складанасць палітычнай сітуацыі... *(Смяецца.)*

*Г. Б.:* Віцю даўно бачыў?

*У. Н.:* Сябра нашага Віктара Апанасавіча Казько бачыў я нядаўна. Ён дужа расперажываўся праз смерць Кудраўца, і ў яго падняўся ціск. І тут жа сэрца... Ён быў вельмі засмучоны. Ды ўсе былі моцна засмучоныя, што наш дарагі «ваабшчэткі» ўзяў ды не стаў... Многіх, ваабшчэткі, гэтай вясной не стала.

*Ю. Б.:* Як сыплюцца! Божа мілы, няўжо гэта Чарнобыль дае аб сабе знаць? Гаварылі ж — дваццаць пяць — трыццаць гадоў пройдзе, і пачнецца.

*У. Н.:* Хто яго ведае... Суцяшае хіба, што за трыццаць гадоў не пасыпаўся Саюз беларускіх пісьменнікаў — ну, якім ён мне ўсё жыццё ўяўляўся... хоць табе ён трохі іншым уяўляўся, праўда? Глебка, Броўка...

*Г. Б.:* Не зусім.

*Ю. Б.:* Дык Генадзь жа не такі стары!

*У. Н.:* Я не кажу, што ён іх равеснік. Як і я не равеснікам яму. Гэта цяпер паміж намі дзесяць гадоў — і нібыта няма розніцы ва ўзросце. А калі табе дваццаць, а яму трыццаць, дык дзесяць гадоў розніцы — гэта ву-унь колькі...

*Ю. Б.:* Я памятаю, як яны Броўку здымалі! А Лёшка [сын Бураўкіных. — *С. Ш.*], седзячы пад крэслам, крычаў: «Броўка! Далоў Броўку!»

*У. Н. (смяецца):* Усю сям'ю падключыў!.. *(Працягвае смяецца.)* І нашто вы гэта рабілі?! Харошы ж чалавек быў!

*Ю. Б.:* Ім здавалася, што іх, маладых, не пускаюць.

*У. Н.:* Але, скінуўшы Броўку, вы нічога лепшага не займелі...

*Г. Б.:* Так.

*У. Н.:* Сказаўшы праўду... Хоць натуральны працэс быў... Узроставы... У Броўкі, між іншым, «цэнз» быў: тое, што мог зрабіць тады Броўка, зараз не зробіць...

*Г. Б.:* Ніхто.

*Ю. Б.:* Броўку прымалі ў самых высокіх кабінетах. А цяпер паспрабуй таму Пашкевічу ці каму іншаму патрапіць у высокія кабінеты — на парог не пусцяць!

*У. Н.:* Відаць, апошні, хто, як кажуць, нагамі дзверы расчыняў, быў я.

*Ю. Б.:* Але ты ў лазні быў! *(Усміхаючыся.)* А дзе гэта было, Валодзя?

*У. Н. (усміхаючыся):* Не скажу. Сакрэтны аб'ект.

*Ю. Б.:* Мне здаецца, каб ты з імі ў лазні быў, мы б сёння так з табой не гаварылі.

*У. Н.:* Ужо б намыўся так, што... Хоць пасля той «гістарычнай сустрэчы» [маецца на ўвазе сустрэча ў 1998 г. А. Лукашэнкі з Радай Саюза беларускіх пісьменнікаў, калі старшынёй саюза быў У. Някляеў. — *С. Ш.*] была дадзена каманда: усё вырашыць! І забегалі гэтыя кабінетныя... Але яны неяк так бегалі-вырашалі, што нічога не вырашылі.

*Г. Б.:* Так.

*У. Н.:* Неяк так вось яны хітра ўмеюць...

*Ю. Б.:* А цяпер ён зноў збіраецца сустрэцца...

*С. Ш.:* На заўтра запланавана сустрэча.

*У. Н.:* З кім?

*С. Ш.:* З гэтага саюза і з таго. Гэтая сустрэча яшчэ раней павінна была адбыцца, але толькі з «чэсным» Саюзам пісьменнікаў...

*Г. Б.:* Ах, во як!

*С. Ш.:* Кажуць, нібыта Якубовіч выкрасліў некаторыя імёны з таго спісу і ўпісаў Пятровіча ды яшчэ некага. Але чамусьці ў апошні момант сустрэча адмянілася, дык на заўтра запланавана. Здаецца, сто пяцьдзясят чалавек запрошана... Для нечага ж патрэбная Лукашэнку гэтая сустрэча.

*У. Н.:* Для чаго патрэбная? Ён жа сам сказаў: «Мы всё хотели создать национальную идею, но, честно признаюсь, ничего у нас не получилось». І вось вырашыў стварыць нацыянальную ідэю на рускім праваслаўі, пра што і паведаміў Аляксандр наўмысна дзеля гэтага прысланаму да яго Паўлу [мітрапаліту Мінскаму і Заслаўскаму. — *С. Ш.*]. Гэта такая заляпуха, што... Думаю, цяпер будзе запыт да таварышаў-пісьменнікаў...

*Г. Б.:* «Мы — за. Давайте идею».

*У. Н.:* «А мы готовы её рассмотреть».

*Г. Б.:* Валодзя, усё гэта, як кажуць...

*У. Н.:* Як кажуць, цяпер такі трэнд... Мяне ўжо некалькі чалавек (прычым не самыя дурныя людзі) папракалі: вось у гэты вызначальны час, калі нацыі трэба яднацца, апазіцыя (а канкрэтна Някляеў) не робіць крокі насустрач нашаму прэзідэнту, які адзін сёння змагаецца за нашу незалежнасць. Менавіта так яно й падаецца, прычым з розных бакоў. І, значыць, патрэбны нехта з боку, так бы мовіць, нацыянальнай інтэлігенцыі, каб гэтую ідэю падтрымліваць.

*Г. Б.:* Та-ак.

*У. Н.:* Гэта тэндэнцыя...

*Г. Б.:* Перадавая...

*У. Н.:* Перадавая. І вось яны будуць гэта рабіць на ўзроўні дзяржаўнай прапаганды: «Наш президент всерьёз озабочен национальной идеей и потому

пригласил товарищей-писателей для того, чтобы они его поняли, и он их тоже понял...» Слухай, а які малайчына кіеўскі мітрапаліт!

*Ю. Б.:* Філарэт.

*У. Н.:* Філарэт, так.

*Ю. Б.:* Калі білі дзяцей на Майдане, дык Міхайлаўскі сабор пачаў у званы званіць і людзей склікаць. А паспрабуй у нас пазваніць!

*В. Н.:* Каб у такі час у званы біць, трэба быць слугою Бога, а не паслугачом цара...

*У. Н.* Во як сказала... Каб я так напісаў...

І праз паўзу Някляеў, падняўшы кілішак, сказаў сябру:

*У. Н.:* За цябе. За тое, хто ты ёсць, за тое, як ты ў гэтым жыцці стаіш. Малайчына. Я рады, што ў мяне такі сябар. І будзь здаровы, мой мілы. Намагайся. Хоць бы праскочыць нам з табой гэтае лета...

*Г. Б.:* Намагаюся... Намагаюся...

[...]

*Г. Б.:* Ты знаеш, Валодзя, пры ўсім пры тым гэта горка.

*У. Н.:* Горка што?

*Г. Б.:* Вось гэтая сітуацыя.

*У. Н.:* Што народ не купляе і не чытае?

*Г. Б.:* Так. Нікога.

*У. Н.:* Гэта не салодка.

*В. Н.:* Затое колькі цяпер моўных курсаў адчынілася...

*У. Н.:* Ну, гэта больш гульня, на жаль, чым...

*Г. Б.:* Так.

*С. Ш.:* Але, Генадзь Мікалаевіч, непадцэнзурнае выданне «Мёртвым не баліць» Быкава замовілі адразу больш за тысячу асобнікаў, «У неба пехатою» Барадуліна — трыста. Усё ж купляюць і чытаюць...

*Г. Б.:* Ты разумееш, дарагі мой, там ёсць налёт моды, налёт сенсацыі...

*С. Ш.:* Тым не менш пагадзіцеся, Генадзь Мікалаевіч, што трыста прададзеных кніг паэзіі — гэта добра па сённяшнім часе.

*Г. Б.:* Безумоўна... Добра, што ўсё-ткі купляюць...

*У. Н. (праз паўзу):* Слухай, Мікалаевіч, калі ты зараз згадаеш апошнія размовы з Васілём пра Беларусь, ці можаш ты сказаць, што ў яго быў гранічна песімістычны погляд на тое, што нас чакае?

*Г. Б.:* Што-што?

*У. Н.:* Ці можаш сказаць, што Быкаў лічыў, што Беларусь як нацыянальная дзяржава страціла... не толькі як нацыянальная — што Беларусь як увогуле дзяржава страціла свой гістарычны шанец, і... нічога ў нас не выйдзе.

*Г. Б.:* 75 працэнтаў.

*У. Н.:* 75 на 25?

*Г. Б.:* Мы не раз гаварылі з ім, і ён вельмі песімістычна ставіўся да гэтага. І я таксама песіміст у гэтым пытанні.

*У. Н.:* І ты песіміст? Адзін я аптыміст.

*Г. Б.:* Адзін ты аптыміст! Ой, Божа мілы!.. Васіль заўсёды быў песімістам, заўсёды. Я, памятаю, гаварылі з ім яшчэ пра кіно — тады якраз выйшла нейкая кінастужка па ягонай кнізе, і мы гаварылі пра яе ажно да скрыгату зубоў, так яна нам не падабалася!

*У. Н.:* Наогул, да фільмаў, якія былі зняты па кнігах Быкава, патрабаванні былі такія...

*Г. Б.:* Абсалютна.

*У. Н.:* Жорсткія, завышаныя.

*Г. Б.:* Чыста фармальныя.

*С. Ш.:* Быкаў жа па тры-чатыры разы свае кінасцэнарыі перапісваў, а потым яшчэ і рэжысёра змушалі перапісваць.

*Г. Б.:* А пасля пляваўся на ўсё гэта.

*У. Н.:* Калі немагчыма сустрэць чалавека, які прачытаў нейкую кніжку, па якой зняты фільм, і які быў бы задаволены гэтым фільмам, дык аўтара, які пражыў жыццё гэтай кнігі і які быў бы задаволены знятым па ёй фільмам, проста ўявіць немагчыма... Наогул, што такое працэс чытання? Гэта як бы стварэнне свайго кіно, бо ты бачыш свае вобразы, карціны, твары, чуеш інтанацыю персанажаў, а тут табе падаюць акцёра Гасцюхіна, які, аказваецца, і ёсць тое, што нібыта павінна быць.

*С. Ш.:* Дарэчы, па вашым рамане «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» можна было б добрае кіно зняць.

*У. Н.:* Можа, некалі і здымуць.

*С. Ш.:* Але аўтар будзе незадаволены.

*У. Н.:* Аўтар ужо цяпер не задаволены, што не здымаюць і не збіраюцца здымаць... *(Смяецца.)* Дарэчы, мне прапаноўвалі зняць фільм па аповесцях «Мірон ды Мірон» і «Вяртанне Веры»...

*Г. Б.:* «Вяртанне Веры», між іншым, харошая рэч.

*У. Н.:* Калі прапанавалі зняць «Мірон ды Мірон», дык Замяталін яшчэ быў [у 2006—2010 гг. У. Замяталін быў дырэктарам кінастудыі «Беларусьфільм». — *С. Ш.*], таму я проста пасмяяўся: «Прыходзьце. Падпішам з вамі дамову». А калі паступіла прапанова зняць «Вяртанне Веры», Замяталіна ўжо не было, але выйшла тое самае... Не ў часе мы кіношным. Не наш сёння час... Ты стаміўся ўжо, відаць?

*Г. Б.:* Не, Валодзя, мне добра.

*У. Н.:* Я рады.

*Г. Б.:* Мне добра. Я заўсёды рады быць з табой. Ты мне заўсёды цікавы. Так што, дзякуй, што зайшоў.

*У. Н. (праз паўзу, смеючыся):* Зараз вясёлую гісторыю раскажу. Таксама можна кіно здымаць... На гэты чэмпіянат свету па хакеі ў Мінск прыехаў адзін наш з Віктарам Ледзянёвым даўні знаёмы. Былі хакеіст і такі, ведаеш... «Крым наш!» «Россия — это...»

*Г. Б.:* «Превыше всего».

*У. Н.:* «Превыше всего». І ўсё пытаўся ў мяне: «Як там Віктар, сябар мой любімы?» — «Слухай, — кажу, — ты ўжо тут колькі дзён?» — «Тры». — «А колькі ты Віктара не бачыў?» — «Гадоў дваццаць пяць». — «А колькі разоў у Мінску за гэты час быў?» — «Таксама разоў дваццаць пяць». — «І любімага сябра, дваццаць пяць разоў пабыўшы ў Мінску, ні разу не наведаў?» — «Неяк не выйшла». Ну, думаю, зараз выйдзе, і кажу гэтак паніхідна: «Дык памёр жа твой сябар». — «Як памёр?! Калі?!» — «Заўчора. Ты мог з ім развітацца, у апошні шлях праводзіць». — «Ой-ё-ё-ё-ёй! — пачаў ён стагнаць. — А дзе пахаваны?» А якраз на Кальварыі пахавалі перад тым аднаго майго суседа, мы некалі побач жылі на Казінца. Магіла яшчэ свежая, ну, я і павёў госця туды. Прывёў, прайшоў наперад, нібы магілу шукаючы. Вянок на крыжы так паправіў, каб не было бачна, хто пахаваны. «Сюды!..» — клічу госця. Ён кветкі паклаў, а я хуценька яго пад руку і — да «ўдавы». Ну, каб яе суцешыць. *(Смяецца.)* Віктара, дарэчы, не папярэдзіўшы, што ён «памёр», але за яго я быў спакойны, у яго з гумарам нармальна ўсё, ты ж яго ведаеш... І ўяві: расчыняюцца дзверы, і на парозе — «нябожчык». Морда «крымскага» хакеіста перакасілася і ўпоперак, і ўздоўж, і квадратна-гнездавым спосабам...

Генадзь Мікалаевіч усміхнуўся, але не засмяяўся. Прамовіўшы «та-а-ак», папрасіў «пару кропель “баржомі”». (Калі развіталіся з Бураўкінымі і пайшлі, Вольга Някляева спытала: «Валодзя, нашто ты гэтую гісторыю магільную распавёў?» Уладзімір Пракопавіч у адказ: «Наўмысна! Бо ведаю Бураўкіна!.. Але, мусібыць, ведаю не таго Бураўкіна, які ведае, што памірае...») Выпіўшы глыток «баржомі», Генадзь Мікалаевіч вярнуў Някляева да размовы пра прэзідэнцкія выбары.

*У. Н.:* Выбары будуць як ніколі складанымі. Такімі складанымі, што іх можа і не быць. Іх, праўда, як выбараў, і не было ніколі, але цяпер можа не быць нават такіх. Бо крызіс, вайна, і як выйсце — надзвычайны ці нават ваенны стан...

З іншага боку, усё можа павярнуцца інакш. Так, як мы павернем... Хто думаў, што так на Украіне ўсё павернецца? Га? Чаму ўсе кажуць — мне ўжо слухаць абрыдла, — што беларусы такія-сякія, ніякія, што яны ніколі... А пра ўкраінцаў хіба не тое самае казалі?

*Ю. Б.:* Запярэчу: ва ўкраінцаў вельмі вялікая самасвядомасць...

*Г. Б.:* І іх многа.

*У. Н.:* Ну-у, кітайцаў яшчэ болей.

*Ю. Б.:* Я некалі пыталася ў сваёй бабулі: «Каб табе загадалі гаварыць паруску, стала б?» — «Ніколы! Нашто мне та маскальска мова?!» І так не толькі мая бабуля казала.

*У. Н.:* Я згодны з тым, што ва ўкраінцаў больш глыбокая гісторыя, я не спрачаюся...

*Г. Б.:* Канечне.

*У. Н.:* Але я бачыў гэтых савецкіх украінцаў, якія нічым не адрозніваліся ад савецкіх беларусаў. Ды скручаная пружына хоп — і...

*Ю. Б.:* Валодзя, не забывай — у іх дваццаць гадоў не было цэнзуры. Усе тыя дваццаць гадоў, што нас тут душылі...

*У. Н.:* Усё гэта так..

*Г. Б.:* Юля, абсалютна...

*Ю. Б.:* І прэзідэнты мяняліся, і свабода была...

*Г. Б.:* Юля, гэта абсалютная праўда. У іх была свабода.

*У. Н.:* А ў нас яна будзе! Я веру ў беларускі народ. Гэты народ яшчэ ўсіх здзівіць. Здзівіць так, як не здзівілі нават украінцы і кітайцы разам узятыя.

*Ю. Б.:* Ген, а ты што думаеш?

*Г. Б.:* Я ўжо нічога не думаю.

*Ю. Б.:* Я памятаю, Васіль таксама быў вельмі-вельмі песімістычны ў гэтых пытаннях.

*У. Н.:* Так, вы мяне тут не агітуйце...

*Г. Б.:* Не разагітуешся?

*У. Н.:* Не разагітуеце вы мяне...

І ўжо на развітанне:

*У. Н.:* ...Дамовіліся мы з табой пра лета...

*Г. Б.:* Добра, Валодзечка.

*У. Н.:* ...А там і пра зіму дамовімся.

*Г. Б.:* Добра, Валодзечка.

*У. Н.:* Я цябе вельмі-вельмі люблю, вельмі-вельмі-вельмі, дарагі мой Генадзька.

*Г. Б.:* Я цябе таксама.

*У. Н.:* Дзякуй табе за сяброўства, за наша з табой выпітае-з’едзенае, сказанае-прадуманае, за ўсё. Мы з табой як маглі, так жылі. Не думаю, што горш за ўсіх...

Калі ж Воля Някляева сказала пра нашу сумесную працу, Генадзь Мікалаевіч пажартаваў: «Так, гэты лайдакаваць не дае. Сярожа — гэта мой электраматор».

Між іншым, яшчэ раней, калі ўзнікла працяглая паўза ў размове, я папрасіў Някляева паглядзець некалькі вершаў Бураўкіна, якія не мог расчытаць. Паколькі Уладзімір Пракопавіч сходу разабраў незразумелыя месцы, дамовіліся, што ўвечары завітаю да яго, каб паглядзець іншыя вершы. Гэта было тым больш зручна, што дужа паскарала працу, да таго ж не адымала часу на дарогу, бо з Някляевым мы амаль што суседзі — жывем праз Лошыцкі парк.

У той вечар сядзелі над бураўкінскімі сшыткамі амаль да поўначы. Я некалькі разоў выбачаўся, што адымаю столькі часу, пакуль Уладзімір Пракопавіч нарэшце не сказаў: «Што ты ўсё просіш прабачэння?! Гэта ж мой сябар».

*26 мая.* Учора не пайшоў да Бураўкіна, бо займаўся выключна кнігай — гэта падавалася найбольш важным. А калі прыйшоў сёння, Генадзь Мікалаевіч, не вітаючыся, адразу працягнуў руку: «Ну, дай мне ў рукі». Мы пераглянуліся з Юліяй Якаўлеўнай, хоць я адразу зразумеў — размова ішла пра кнігу. Юлія Якаўлена запыталася: «Што “дай”, Генадзь?» «Кніжку давай», — пацвердзіў маю здагадку Бураўкін. Я адказаў, што яна будзе, мусіць, толькі напрыканцы тыдня, хоць, па шчырасці, і сам не надта верыў у тое. «Ты не паспееў... Я не дачакаюся...» — Генадзь Мікалаевіч сказаў гэта цяжка і, мусіць, з дакорам, пасля чаго закрыў вочы і адвярнуўся да сцяны. Мне падалося, што дыханне яго спынілася, бо адзінае, што, мабыць, яшчэ трымала яго ў гэтым свеце, — гэта кніга, якую, як ён зразумеў цяпер, дакладна ўжо не дачакаецца. Занепакоілася і Юлія Якаўлеўна, нават праверыла пульс у Генадзя Мікалаевіча. Пульс быў. Праз нейкі час Бураўкін адкрыў вочы. Я спрабаваў апраўдацца: «Генадзь Мікалаевіч, дарэмна вы так. Над кнігай Барадуліна я месяц працаваў, а вашу за два тыдні зраблю». Але ён слабым голасам — ледзь чутна — казаў: «Дзякуй, дарагі. Проста там былі часы іншыя...» — «Але ж вы самі прасілі два тыдні». — «Дарагі мой, я прасіў максімум...» Бураўкін меў на ўвазе, што два тыдні, пра якія гаварыў раней, — гэта быў не мінімум, а максімум часу. «Генадзь не думаў, што так хутка будзе развівацца хвароба», — патлумачыла Юлія Якаўлеўна.

Потым мы крыху пагаварылі.

*Г. Б.:* Ну, з Сярожам мы нагаварыліся.

*С. Ш.:* Самае галоўнае вы сказалі, Генадзь Мікалаевіч.

*Г. Б.:* Так.

*С. Ш.:* Калі мы з Някляевым ехалі ад вас учора, дык я прыгадаў, як вы сказалі, што вам сумна робіцца з-за маіх пытанняў, бо вы пачынаеце пераасэнсоўваць сваё жыццё. Дык мы з Някляевым сышліся на тым, што вам, Генадзь Мікалаевіч, няма пра што шкадаваць, апроч толькі аднаго — што жыццё сыходзіць. А так вы ўсё правільна рабілі.

*Г. Б.:* Стараўся-стараўся.

*С. Ш.:* Нават што тычыцца вашага шкадавання, што напісалі менш, чым маглі: але ж павінны быць і беларускія міністры. Ніхто дакладна не ведае, які сапраўды плён прынесла ваша праца на гэтай пасадзе. І калі не было б вас і беларускага тэлебачання, якое вы стварылі, дык невядома, якой была б сёння Беларусь.

*Г. Б.:* Усё правільна.

*С. Ш.:* Гэтую працу таксама нехта павінен быў рабіць, нават і ахвяруючы сваёй паэзіяй.

*Г. Б.:* Павінен, так, але хто?

*С. Ш.:* Дык вы і рабілі, ахвяраваўшы сваёй паэзіяй.

*Г. Б.:* Свядома.

*С. Ш.:* Таму, па вялікім рахунку, вам, Генадзь Мікалаевіч, няма пра што шкадаваць. Вы вельмі годна пражылі, пражываеце сваё жыццё.

*Г. Б.:* Гэта я не сумняваюся.

*С. Ш.:* Таму і сумныя думкі ганіце. Сумная думка можа быць толькі адна — што жыццё сыходзіць. А што да астатняга — дай Бог іншым так пражыць жыццё, як вы пражылі, Генадзь Мікалаевіч.

*Ю. Б:* А яшчэ трэба сказаць, што апроч таго, што Генадзь рабіў для Беларусі, ён проста чэсна жыў. Чэсна як чалавек.

Потым зноў гаварылі пра кнігу. Генадзь Мікалаевіч не пярэчыў супраць сурэдактарства Міхася Скоблы і Уладзіміра Някляева. Але так ужо сталася, што рэдактарам кнігі быў адзін Някляеў. Таму ў мяне дасюль пачуццё віны перад Міхасём. Аднак і мой выбар Някляева не быў такі ўжо свядомы: проста калі выпадкова сустрэліся з ім у Бураўкіных, мы з таго часу штодня сядзелі ледзь не да паўночы над сшыткамі Генадзя Мікалаевіча, і я шчыра быў удзячны Някляеву за гэтую нечаканую дапамогу. Да таго ж падзеі развіваліся настолькі імкліва, што я проста не меў часу разважаць над пытаннем: поплеч з кім мне працаваць. Найгалоўнейшым было адно — Бураўкін павінен паспець убачыць кнігу. Дый казаў жа Генадзь Мікалаевіч яшчэ пры першай сустрэчы, што не мяне, а Някляева думаў прасіць пра дапамогу. Зрэшты, асабіста для мяне было не так ужо істотна, хто робіць кнігу — Някляеў, Скобла ці я, бо галоўным быў вынік.

Трэба яшчэ сказаць, што днямі раней Юлія Якаўлеўна прыгадала, што верш «Паэты на пенсію не выходзяць...» Генадзь Мікалаевіч напісаў, па сутнасці, Някляеву, але паколькі ў сшытку прысвячэння не было, я цяпер запытаўся, ці можна будзе яго пазначыць? «Тады, — кажу, — у кнізе былі б усе вашыя галоўныя сябры». Бураўкін у адказ: «Можна». І пасля: «Дзякуй табе за ўсё. Трымайся... Трымайся. Ты мне здорава дапамог у апошнія дні. Я табе вельмі ўдзячны». — «Дзякую, Генадзь Мікалаевіч, але, спадзяюся, мы з вамі яшчэ ўбачымся. Вы толькі, калі ласка, яшчэ крыху патрымайцеся. Ведаеце, як крыўдна будзе, калі мы зробім кніжку, а вы пойдзеце...» — «Ой, ты такі ўгаворлівы, што я дзіўлюся, што ты да гэтага часу быў халасты». — «Не, я жанаты, у мяне ж Наташа». — «Маю на ўвазе, столькі гадоў быў нежанаты». І пасля: «Дарагі мой, дарагі мой Сярожа, будзе крыўдна...» Але Юлія Якаўлеўна сказала: «Усё будзе добра, Гена, яны паспеюць, і ты ўбачыш кніжку». Я яшчэ паведаміў, што ў пятніцу ў Мінск прыязджае Павел Бераговіч — Бураўкін на гэта: «Шкада, не сустрэнемся...» (Так яно і адбылося — Генадзь Мікалаевіч пойдзе раніцай у пятніцу.)

Потым зноў размова зайшла пра кнігу.

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, вы не хвалюйцеся — Някляеў як рэдактар пустых вершаў не прапусціць. Хоць не сказаў бы, што ў вас шмат такіх вершаў.

*Г. Б.:* Ёсць трохі, ёсць трохі. Ты разумееш, у чым справа, я гэта лежачы зразумеў: вершы, як падушкі — іх кладуць, кладуць, кладуць. Сярод іх ёсць пустыя, пуставатыя, ёсць і зусім... Але праходзіць час, і час іх часта напаўняе, як ні дзіўна, паветрам. Можа, нават пахамі напаўняе.

*С. Ш.:* Насамрэч так бывае. Няёмка прызнавацца, але яшчэ пры жыцці Барадуліна часам думаў: што ж ён піша столькі пра смерць? А як толькі яго не стала, дык дзіўным чынам гэтыя вершы прачыталіся зусім па-іншаму. Яны сапраўды напоўніліся нейкім новым зместам.

*Г. Б.:* Во-во-во.

*С. Ш.:* Да прыкладу, ёсць у яго адзін верш, здавалася б, даволі просты:

Я пачынаю баяцца вечара,
Бо за ім прыйдзе ноч.
Мая апошняя ноч....

*Г. Б.:* Я помню гэты верш.

*С. Ш.:* Ён мне не падабаўся, бо вельмі чорны па настроі.

*Г. Б.:* Згодзен.

*С. Ш.:* Дык вось як толькі Барадулін пайшоў, гэты верш загучаў зусім іначай... Паэзія не толькі для сённяшняга дня пішацца. Паэзія — гэта, мусіць, спроба сказаць нешта ў вечнасць.

*Г. Б.:* Правільна, правільна... Справа ў тым, што сам ты нечакана азірнешся, а гэта ўсё так...

*С. Ш.:* Той жа Сервантэс напісаў дзясяткі раманаў, а мы ведаем аднаго «Дон Кіхота». І Грыбаедаў напісаў не толькі «Гора ад розуму». А Оскар Уайльд — аўтар не аднаго «Партрэта Дарыяна Грэя», але ў літаратуры застаўся, бадай, толькі гэтым творам.

*Г. Б.:* Застаецца геніяльнае.

*С. Ш.:* Някляеў, калі сядзеў у турме КДБ, напісаў хоць і просценькі, але дужа кранальны верш:

Недзе Барадулін Грыша
Вершы піша, піша, піша.
Я нічога не пішу
І, сумуючы па Грышу,
Шлю яму сваю душу.

*Г. Б.:* Харошы, харошы.

*С. Ш.:* Я тады сказаў Някляеву, што ёсць у ім нешта геніяльнае. Уладзімір Пракопавіч адказаў, што верш падаўся яму занадта простым, а потым заўважыў жартам: «А з іншага боку, усё геніяльнае простае»...

І зноў я прасіў Генадзя Мікалаевіча яшчэ крыху патрымацца, каб дачакацца кнігі, але на гэты раз ён прамаўчаў.

Пайшоў я ў поўнай разгубленасці. Заўтра абавязкова трэба прынесці кнігу, але як, якім чынам гэта зрабіць? Падрыхтавана толькі яе палова, другая не тое, што не звярстана — яшчэ не ўся расчытана і набрана. Не дароблена вокладка. Ужо не кажучы пра тое, што на друк кнігі пойдзе некалькі дзён... Я пазваніў у выдавецтва «Кнігазбор» Генадзю Вінярскаму: ці магчыма тэрмінова зрабіць хоць адзін экзэмпляр — для Бураўкіна? Гэта аказалася магчымым праз дзень-два, але толькі ў тым выпадку, калі заўтра будуць гатовыя вёрстка і вокладка. Пра гэта я і сказаў Генадзю Мікалаевічу, калі вярнуўся. Ён у адказ: «Усё, усё, хлопцы. Колькі мог, трымаўся. Колькі мог, трымаўся...»

Потым я сядзеў у суседнім пакоі і перадрукоўваў тыя вершы, якія расчыталі Юлія Якаўлеўна з дачкой Святланай. Трэба сказаць, што ўжо некалькі дзён, як я пачаў разумець почырк Генадзя Мікалаевіча. Калі сёння сказаў пра тое Бураўкіну, ён адказаў: «Я гэтага чакаў». Справа ў тым, што яшчэ на самым пачатку працы я неяк прызнаўся, што часам раздражняюся ад таго, што не магу расчытаць яго почырк, але калі прыгадваю, у якім Генадзь Мікалаевіч стане, раздражненне сыходзіць. Бураўкін нічога тады не сказаў. Праўда, і я не прызнаўся ў галоўным: я раздражняўся на сябе з-за таго, што, думаў: як я пасля буду займацца архівам Генадзя Мікалаевіча, яго дзённікамі, калі ўжо цяпер не разбіраю яго почырк?..

І вось цяпер я перадрукоўваў вершы, Бураўкін быў у суседнім пакоі і, напэўна,

забыўся, што я недзе тут побач, і ўвесь час гаварыў пра могілкі, пра пахаванне... Мусіць, трызніў...

Зрэшты, пра пахаванне размова заходзіла яшчэ раней — Бураўкін не беспадстаўна меркаваў, што месца на Усходніх могілках яму не дадуць, таму размова ішла пра Паўночныя могілкі ці Кальварыю. Яно, па сутнасці, ледзь так і не адбылося: калі Бураўкіна не стане, і ўжо будзе абвешчаны дзень пахавання, напярэдадні ажно да самага вечара будзе невядома, ці дазволіць улада пахаванне на Усходніх могілках. Юліі Якаўлеўне нават параілі перанесці пахаванне на наступны тыдзень, бо, маўляў, у панядзелак пытанне будзе разглядаць прэм’ер Мясніковіч. Зрэшты, у апошні момант улада ўсё ж адумалася, і дазвол быў атрыманы — пасля таго, як Юлія Якаўлеўна напісала адпаведную заяву ў Мінгарвыканкам, у якой вымушана была пералічыць пасады і ўзнагароды Генадзя Мікалаевіча, бо адкуль ёй, гэтай малаадукаванай уладзе, было пра тое ведаць?.. Праўда, месца далі не ў пачатку могілак, як гэта, улічваючы значнасць нават не асобы Бураўкіна, паэта і дзяржаўнага дзеяча, — найперш значнасць зробленага ім для Беларусі, і павінна было стацца, а ў самай дальняй частцы. Меў рацыю Рыгор Барадулін, калі сказаў у апошнім развітальным слове да сябра (гэтае слова дзядзька Рыгор надыктаваў на дыктафон, каб я перанёс яго на паперу і перадаў Генадзю Мікалаевічу): «...Зараз ужо ўсё забылася, тым не менш уклад, унесены табой у незалежнасць Беларусі, вялізны. І хай гэтага не ведаюць чыноўнікі, затое ведае гэта Беларусь. Тым больш, што чыноўнікі змяняюцца, а Беларусь была, ёсць і будзе. І Генадзь Бураўкін быў, ёсць і будзе».

...Ужо ўвечары я зноў быў у Някляева. Уладзімір Пракопавіч чытаў на ноўтбуку нейкія вершы. Я падумаў: во, адарваў чалавека ад працы! Але высветлілася, што ён рэдагаваў кнігу Бураўкіна... Калі дарасчыталі ўсе вершы, на развітанне я папрасіў Някляева паглядзець другую частку кнігі і сёння ж па магчымасці даслаць. Зрэшты, адрэдагаванай кнігі не было даволі доўга, і, шчыра кажучы, я ўжо думаў, што Някляеў лёг спаць, але а трэцяй гадзіне ночы па электроннай пошце ад яго прыйшла такая патрэбная мне рэдактура. Пад раніцу кнігу я дарабіў.

*27 мая.* Патэлефанаваўшы ўранні Юліі Якаўлеўне, сказаў, што кніга можа з’явіцца ўвечары, але прасіў пакуль не гаварыць пра тое Генадзю Мікалаевічу. Юлія Якаўлеўна сказала, што раніцай яму было дрэнна. Бураўкін не есць сёмы дзень, і першы дзень, як не можа піць. Цяпер ён спіць.

Апоўдні вёрстка была гатовая, дароблена вокладка. Каля пяці гадзінаў кніга, адзін асобнік, была нарэшце гатова... Я й па сёння шчыра ўдзячны ўсім, хто спрычыніўся да гэтага выдання, бо ўсе мы разам, па-мойму, здзейснілі цуд, — Павел Бераговіч, Юлія Якаўлеўна з дачкой Святланай, Уладзімір Някляеў, вярстальнік Канстанцін Лісецкі, карэктар Наталля Ведрыч, мастак Зміцер Гупянец, выдавец Генадзь Вінярскі, Глеб Лабадзенка і тыя невядомыя мне супрацоўнікі друкарні, якія ўручную сабралі адзіны экземпляр кнігі «Нагаварыцца з зоркамі»...

Мы былі ў Бураўкіна ўвечары. «Генадзь Мікалаевіч, паспелі», — казаў я. Генадзь Мікалаевіч, як падалося, неяк разгублена трымаў кнігу ў руках, нібыта не ведаў, што з ёй рабіць, пасля паднёс яе да вуснаў, ціха-ціхенька прамовіў: «Малайцы». Ён больш нічога не сказаў — мусіць, ужо не ставала на тое сіл. Потым паклікаў Някляева.

*Г. Б.:* Валодзечка...
*У. Н.:* Што, дарагі мой? Што, мой харошы?
*Г. Б.:* Дзякуй.

*У. Н.:* Гэта не столькі мне, колькі вось Шапрану і Лабадзенку. Шапран, ён удзень і ўночы сядзеў. І трэба сказаць, што хлопцы проста малайцы. Я ў захапленні ад іх...

*С. Ш.:* Генадзь Мікалаевіч, кніга выйшла шмат у чым дзякуючы і Генадзю Вінярскаму з выдавецтва «Кнігазбор». Каб ён не падключыўся да справы, дык яшчэ б чакалі і чакалі.

*Г. Б.:* Дзякуй. Дзе ён?

*У. Н.:* Ён на рабоце. Але скажам яму «дзякуй» ад Бураўкіна.

*Г. Б.:* Ой, малайцы!..

Адкаркавалі бутэльку шампанскага. «Давай будзем выпіваць за кніжку, бо што гэта за паэт, які не будзе выпіваць за сваю кнігу?! Гэта абы што, а не паэт! — жартам казаў Някляеў і пасля сур'ёзна: — Генадзь, твае родныя — сын, дачка, жонка — і людзі, якія любяць цябе і якія прыйшлі ў гэты дзень, віншуюць цябе з выхадам тваёй чарговай кніжкі. З выхадам кнігі вялікага беларускага паэта, сапраўднага беларускага паэта Генадзя Бураўкіна. З тым — ура!» І Генадзь Мікалаевіч ледзь чутным рэхам: «У-ура». Потым Някляеў, адзначыўшы: «Проста выдатныя вершы, я зачытваўся, калі гэта рэдагаваў», дэкламаваў свае любімыя вершы з новай кнігі, у тым ліку «Столькі тлуму, столькі грому...», «Старэем. Запазнела служым прозе...». Пасля Юлія Якаўлеўна запыталася: «Ты задаволены, што хлопцы табе такі падарунак зрабілі, Ген?»

*Г. Б.:* Канечне... Канечне.

*У. Н.:* У цябе Крыжоўка выйшла, як у Пушкіна Болдзіна, вось што я табе скажу.

*Г. Б.:* А што, правільна.

*С. Ш.:* Бураўкінскае Болдзіна.

*Г. Б.:* Праўда.

*У. Н.:* Кніжка проста класная. Яна на ўзроўні той кнігі, якая выйшла ўжо па смерці Рыгора. Прыкладна з тым жа асэнсаваннем жыцця і смерці, існавання на зямлі і над ёй. Так што ты проста малайчына, Генадзь.

*Г. Б.:* Ой, хлопцы, нагаварылі...

*У. Н.:* Ну, ты напісаў — мы нагаварылі...

*Г. Б.:* Ну, дзякуй... Дзякуй, хлопцы, дзякуй.

Услед за тым Някляеў прыгадаў адзін з апошніх вершаў Барадуліна, які быў напісаны за тры дні да яго сыходу, 28 лютага, і які ніхто — ні Валянціна Міхайлаўна Барадуліна, ні Бураўкін, ні Някляеў — не здолеў расшыфраваць. Удалося расчытаць толькі першыя два радкі: «Генадзь і ў залётах, І ў працы адзін...» Цяпер жа Някляеў казаў: «А той верш апошні, які прысвяціў табе Барадулін, дык ён неразборлівы па той прычыне, што Рыгор скінуў табе сваю кардыяграму сэрца. Вось што значыць сапраўдны сябар...» І потым: «Я хачу сказаць, што малайцы рабяты. Вось мы з табой часцяком, Генадзь, жаліліся, успамінаючы старэйшае пакаленне, што падраслі маладзейшыя нейкія не такія. Так, ёсць і не такія, а ёсць, аказваецца, і такія. Як заўсёды яно было, так і ёсць. Гэта нам здаецца, што там у нас адны малайцы былі рассыпаныя... Гэтак уладкаваная ўсёткі чалавечая памяць, што калі нават, як развязаны сноп, абмалочваецца, зерне на таку застаецца. Так што з кніжкай усё добра. Зерне. Цяпер трэба пераходзіць да другога параграфа нашай праграмы — да прозы, хоць бы да мемуарнай для пачатку, пра што мы і дамаўляліся. Добра было б, каб ты напісаў гэтую кніжку на тваім крыжоўскім-болдзінскім лецішчы, бо ніхто, апроч цябе, не ведае таго, што ведаеш адзін ты...»

Бураўкін на гэтыя словы маўчаў, зрэдку цяжка ўздыхаючы. Відаць было, што ён знясіліўся, і нам ужо час сыходзіць.

*У. Н.:* Ну што, дарагі, яшчэ раз віншую цябе з кніжкай. Мацуйся, мой любы дружа.

*Г. Б.:* Дзякуй.

*У. Н.:* Ты ўсё трываеш, як сапраўдны ваяр...

*Г. Б.:* Дзякуй... Дзякуй, дарагі.

І пасля яшчэ раз: «Дзякуй, хлопцы, дзякуй. За ўсё дзякуй». Перарывіста, праз сілу выгаворваючы словы і гледзячы так, нібыта быў з намі і — нібыта ўжо й не...

Развітваючыся, я ўзяў Генадзя Мікалаевіча за руку. Кожнага разу ў самыя апошнія дні, развітваючыся, я паціскаў яму руку, бо ў самога яго на тое ўжо не ставала сіл. (Праўда, яшчэ ў першыя дні ён падымаў на развітанне сціснуты кулак — у знак вітання, і кожнага разу міжвольна прыгадваўся Васіль Быкаў, які рабіў гэтаксама, калі былі ў яго ў Бараўлянах). Звычайна Генадзь Мікалаевіч ніяк на гэта не рэагаваў, але цяпер затрымаў мае пальцы ў сваіх, дужа слабых, і нейкі час трымаў, не адпускаючы. Я яшчэ сказаў «да пабачэння», маючы на ўвазе сустрэчу ці яшчэ тут, ці ўжо *там*, бо ўжо тады прамільгнула думка, што мы развітваемся, відаць, цяпер ужо назаўсёды.

...Па-мойму, Генадзь Мікалаевіч і сам не мог спачатку паверыць у тое, што апошняе і галоўнае яго жаданне гэтых дзён нарэшце здзейснілася. А потым, мусіць, быў проста ўсцешаны тым, што гэта адбылося. Уладзімір Някляеў пасля напісаў: «За тры дні да ягонай смерці мы прынеслі яму ягоную кнігу вершаў. Апошнюю. Ён проста прагнуў яе ўбачыць, бо разумеў, ведаў, што яна — развітальная... І трэба было бачыць ягоны твар, калі ён узяў кнігу ў рукі. Гэта было не шчасце ці радасць, цяжка шчасцю ці радасці выявіцца на мяжы жыцця і смерці, — гэта было Вялікае Супакаенне. Што жыццё пражыў, як належыць. Зрабіў у ім, што мог. Так сыходзяць паэты».

*30 мая.* Хацеў завітаць да Бураўкіна яшчэ ўчора, але, калі патэлефанаваў, Юлія Якаўлеўна сказала, што ўдзень яму было настолькі блага, што яна нават дзяцей паклікала — сына Аляксея і дачку Святлану. Удзень Генадзь Мікалаевіч спаў, потым знаходзіўся ў непрытомнасці. Урач, якая прыходзіла ўвечары, сказала, што засталося не больш за дзве гадзіны. Аднак гэтыя «дзве гадзіны» доўжыліся да рання, і ўвесь гэты час побач былі жонка Юлія Якаўлеўна, дачка Святлана і сын Аляксей...

Зрэшты, у той апошняй і, мабыць, самай спавядальнай кнізе Бураўкіна ёсць і пра гэта. Вядома, наўрад ці восенню 2011 года, калі напісаўся гэты верш, Генадзь Мікалаевіч мог прадбачыць, які лёс напаткае яго праз некаторы час. Наўрад ці прадбачыў, але так ужо атрымалася, што прадказаў з прарочай дакладнасцю:

Няпраўда,  
Што імгненна паміраюць  
Бязгрэшныя ў намоленай цішы.  
Анёлы смерці доўга падбіраюць  
Свой ключ да іх асуджанай душы.

Даюць спярша спазнаць людскія мукі,  
Бяссілле праўды і адчай трывог.  
А потым ціха іх вядуць за рукі  
Па той, апошняй з іх зямных дарог.

З аблокаў дазваляюць азірацца  
На дзедаў крыж, на матчына вакно,  
На хмельнае шчаслівае юнацтва  
І на сяброў, што здрадзілі даўно.

З плячэй здымаюць іхні скарб сабраны,
Сціраюць пыл, нажыты пры жыцці, —
І ў райскі сад, што за высокай брамай,
Толькі тады запросяць увайсці...

* * *

Кнігу «Нагаварыцца з зоркамі», першы і адзіны сігнальны экземпляр, якую Генадзь Мікалаевіч так чакаў, і, мусіць, думка пра яе і трымала яго апошнія дні, родныя паклалі да яго ў труну. На наступны пасля пахавання дзень Уладзімір Някляеў прапанаваў даць такую анатацыю: «Першы асобнік гэтай кнігі быў пахаваны разам з яе аўтарам, паэтам Генадзем Бураўкіным, а 15 гадзіне 31 мая 2014 года на Усходніх могілках Мінска. Звычайна лёс так сканчваецца, а ў гэтай кнігі так пачаўся лёс...» Але я ўсё ж пакінуў тую анатацыю, што была ў тым першым, бураўкінскім экзэмпляры, бо Генадзь Мікалаевіч прасіў рабіць кнігу як чарговую, а не пасмяротную. Пасмяротныя, казаў, будуць пасля.

Сяргей Чыгрын



...жывым, нам трэба пазнаваць сябе,
Ўгрызацца ў лёхі цёмнае разгадкі...

# Яму сніліся Скарына і Міндоўг

***Творчы партрэт Міколы Арочкі***

Усё жыццё беларускага паэта Міколу Арочку (1930-2013) займала ідэя самапазнання – сябе і свайго народа, ягонай духоўнай красы і яе стратнасці. Таму і сёння паўстае пытанне: на якіх жыццёвых вузлах, з якіх мэтаў, памкненняў нараджаліся складнікі яго паэтычнага бачання і светавымярэння?

Ва ўступе "Вымярэнні майго свету" да сваіх выбраных твораў "Памяць зярнятаў" (Мінск, 1991) ён пакінуў сціслае сведчанне: яму суджана было апынуцца на вострых зломах вырашальна-цяжкіх гістарычных падзей ХХ-га стагоддзя – дыхаць атмасферай нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў нашай Заходняй Беларусі (гэта ўвасобіцца як адно з творчых вымярэнняў у драматычнай паэме "Мелодыя Таўлая"), трапіць у спісы высялення пры "першых" Саветах ("Спісы высялення", "Сіта"), потым – у пекла нямецкага "катла" ў лясным акружэнні ("Бацькоўскі гай"), стаяць пад расстрэлам на вогненным партызанскім хутары ("Партызанскі хутар", "Балада пра няскошанае жыта"), падзяляць долю на вачах растаптанага калектывізацыяй

гаспадара-селяніна (“Бацькава відушчасць”, “Маналог знішчанага селяніна”), зведаць хіжа выпушчаныя кіпці “чорнага ворана”, накліканага, як гора на матчыну хату, першай свавольнай рыфмай...



Мікола АРОЧКА

Можа, некалі і не суджана было б пачаткоўцу, падлетку-пастушку выкараскацца з кволасці першых вершаваных практыкаванняў, калі б спакваля ўжо тады, у школьныя гады, не пастукаўся ў яго дасціпнае трывожнае светасузіранне спадчынны сум па адраджэнні нацыянальнай, вякамі таптанай самасвядомасці беларуса. Адбылося гэта, пэўна ж, дзякуючы беларускаму настаўніку Вялікакракоцкай няпоўнай сярэдняй школы Слонімскага раёна Васілю Пракопавічу Трафімовічу, да якога з суседняй глухой вёсачкі Вецявічы юнак Мікола, ледзь перамагаючы ўвагнаную вайной хваробу, папрасіўся на кватэру. У свой час, як распавядаў мне некалі Мікола Арочка, Васіль Пракопавіч паспытаў трохі асветы ў Вільні, хоць з вучобай там не атрымалася, але не лез у палітыку, дабіраў адукацыю дома, меў натуру чуйна-інтэлігентную, валодаў незвычайна мілагучным голасам, хадзіў заўсёды з камертонам, заўзятар спевак, хораў, вясковых спектакляў, не касец, не плугар, душа моладзі, жыў беднавата, але выпісваў пасляваеннае “Полымя”. На гарышчы яго хаты траплялiся пажоўклыя нумары купалаўскай “Нашай Нівы”, беларускія календары, нават асобныя нумары беларускіх газет акупацыйнага часу. Кватаранту Міколу тады проста пашанцавала. Васіля Пракопавіча ён ведаў яшчэ па беларускіх уроках у народным доме, які пабудавалі жыхары вёскі Кракотка на свае складкі за польскім часам. На складкі вяскоўцы набылі і кнігі для бібліятэкі, якую ў 1927 годзе ўганаравалі імем Янкі Купалы. Бібліятэку польскія ўлады праз два гады зачынілі, як небяспечны асяродак нацыянальнай самасвядомасці. А народны дом нёс годна асветніцкую службу нават у акупацыйна-нямецкія гады. Настаўнік дужа трывожыўся, каб немцы не перапынілі яго шчыравання на сціплай сяўбе беларускасці, каб не ўздумалі яны спаліць іхні народны дом. Аднак нардом спалілі не немцы. Спалілі партызаны. Каб не атайбаваліся, маўляў, у нардоме немцы з паліцаямі. Пра гэта добра напісаў Мікола Арочка ў сваім ранейшым вершы “Заклінанне Чыжыка Беларускага”.

Уздыхаў Васіль Пракопавіч са слязою ўваччу. Прадчуваў штосьці нядобрае. Яго забралі з урокаў. Добра яшчэ, што не пасадзілі, не катавалі, не выслалі ў месцы сіберна-аддаленыя. Перавялі ў глухі кут Слонімскага раёна. Міколава кватараванне ў настаўніка на гэтым скончылася.

У начлезе яму не адмаўляў некалі і далёкі сваяк – бібліятэкар Аляксандр Іванавіч Жыткевіч – кніжнік, заўзятар, які ў сваёй хаце, у светлай палове, узяўся аднавіць колішнюю слынную бібліятэку імя Янкі Купалы. Падчас начлегу на лаве Мікола Арочка адчуваў у галавах праз дашчаную абклееную газетамі сценку вячыстае свячэнне славутых постацяў беларускіх песняроў, іх запаветаў. У прывідным судакраненні з імі юнаму начлежніку тая лава здавалася зусім не мулкай.

Магчыма, ужо тады ў душы пачаткоўца пачала зараджацца адна з яго ранніх паэм “Сын”, прысвечаная дзядзьку Шурку – Аляксандру Жыткевічу, які спазнаў палон, жахі вайны (нявыдуманая калізія твора!). Перад вусцішнай музыкай яго

пратэзу нерухомела незабыўная цёця Уладзя, калі з Міколам Аўрамчыкам яны, нагружаныя пакункамі кніг, прыязджалі ў гістарычна-слынную купалаўскую бібліятэку ў вёску Вялікая Кракотка. Валянцін Таўлай, які за паўгода перад гэтым наведваўся сюды, на радзіму, як старшы навуковы супрацоўнік музея Янкі Купалы ў Мінску, найпершы памочнік, "правая рука" Уладзіславы Францаўны, ужо не з'явіўся з пісьменніцкай групай. На вялікі жаль, яго падкошанага турмамі, пасля зацяжной хваробы не стала. Цёця Уладзя, згадваў Мікола Арочка, выступаючы перад чытачамі бібліятэкі, успамінала, як цяжка яна перанесла гэтую страту.

Некалькі слоў пра незвычайны феномен таго часу – ускалыхнутую цягу да вучобы. Высокая хваля гэтага феномену пракацілася тады па ўсёй Беларусі, асабліва па Заходняй, дзе польскі асіміляцыйны этнацыд вынішчыў усе беларускія школы, гімназіі, семінарыі, ліквідаваў рэшткі легальна-асветніцкай працы Таварыства Беларускай Школы. Акупантам заўсёды больш зручна і бяспечна было трымаць запрыгоненае людства ў галечы сацыяльнай і духоўнай. Беларускае грамадства проста зацярпелася, засумавалася па айчыннай навуцы, па асвеце – дзеля нацыянальнага адраджэння.

Дарэчы, нямецкія захопнікі адчулі вялікую выйгрышнасць ад пралому гэтай асіміляцыйнай плаціны сваіх папярэднікаў. І тады ў гэты пралом, учынены наўмысна, з разлікам, хлынуў напор юнацкай прагі асветы. Сёння ўсё яшчэ сарамліва замоўчваецца тое віраванне асветніцкіх памкненняў, што, як разводдзе, ахапіла шматлікія згуртаванні і формы Саюза беларускай моладзі (СБМ), дазволенага нямецкімі ўладамі. Галоўны камісар Кубэ таму, відаць, і стаўся асабліва небяспечным, што дазволіў моладзі рынуцца ў прабоіны плаціны, нават прыўздымаў яе, спадзеючыся, што СБМ неўзабаве паможа круціць вынішчальныя жорны акупацыі. Вядома, пад зманлівы ўсплёск дужа прыцягальнай ідэі – служэння Бацькаўшчыне.

Ідэя ў сваёй патэнцыяльнай разбуджанасці аказалася і сапраўды невынішчальнай. Прычым настолькі захапляюча-магутнай, што феномен прагавітай цягі да навукі, духовай асвечанасці не знік з нямецкай акупацыяй, а перакінуўся ў пасляваенны час, як самы жыццядзейны чыннік ажыўлення і адбудовы нацыі.

Да пачаткоўца Міколы Арочкі, у яго спробы пяра не адразу прыходзіла абуджаная нацыянальным жыццём вялікая мэта, без якой, як ён адчуў, няма сэнсу асабістага існавання. Шкодзіла толькі пакалечанасць культаўскім страхам. Прыходзілася часам, як успамінаў Мікалай Мікалаевіч, апусціўшы вочы, глытаць ганьбаванне жыццёва-дасведчаных дзядзькоў, якія чыталі, здаралася, яго практыкаванні "одапісу". Што казаць: грашыў на старэйшых гледзячы. Дый дзеля ўласнай перасцярогі, спазнаўшы першыя кіпці ліхога "варанка". Штосьці прасачылася і ў рэспубліканскі друк. "Сорамна прыгадваць, – казаў мне пры жыцці Мікола Арочка, – але тыя вершаскладанні былі заўважаны". І вучань Азярніцкай сярэдняй школы нечаканa атрымлівае выклік у Мінск на Трэцюю рэспубліканскую нараду маладых пісьменнікаў. Гэта быў 1950-ты год.

Як усцешна і ўзрушальна было сустрэцца са славутым песняром Беларусі, жывым класікам Якубам Коласам (перад ім ужо быў грэх паэмнага пераймальніцтва!), чуць яго зычлівыя словы, услухвацца ў яго мякка-дрыготнае чытанне новых частак паэмы "На шляхах волі", а на ростані – сумнаватае прызнанне наконт усё большай узроставай "цягі" зямлі.

У часе абмеркавання творчасці маладых, Мікола Арочка дранцьвеў ад сораму, калі старонкі яго сшыткаў з вершаскладаннем перабіралі-перагортвалі Максім Танк, Алесь Бачыла, Анатоль Вялюгін, Аляксей Русецкі. Затое з якім досціпам ён услухоўваўся ў зычліва-крытычны разгляд набытку яго калег – Сцяпана Гаўрусёва, Пятруся Макаля, Віктара Шымука. Не кажучы пра разгляд досыць сталага плёну Сяргея Дзяргая, Аляксея Пысіна (паводле яго набытку прымалі ў члены Саюза

пісьменнікаў, іншых – у кандыдаты). Ці думалася, што ў тое пераломнае дзесяцігоддзе Міколу прыдзецца ад многіх з іх чуць не толькі настаўніцкае спрыянне, але ўжо і супольна набываць новыя ўрокі ломкі старога ўкладу і творчага абнаўлення?

Аднаго толькі не магчыма было адняць – ужо з набытага: скарыстанай магчымасці засвойваць веды. Магчымасць сапраўды была шырока разнасцежанай: хто хацеў вучыцца, мог вучыцца, здолеў уздымацца па прыступках асветы. Праўда, завадатары гвалтоўнай калектывізацыі спахапіліся, кінуліся перапыняць маладзёвы запал, напор у навуку нявыдачай старшынскіх даведак і інш. Але гэта толькі падлівала масла ў агонь: імкненне вырвацца з новай формы парабчанства, нібы з палону, стала неадольным, кроўна-жыццёвым у патрэбе.

Дзве вышыні на гэтым шляху былі здабытыя асветніцкай напорыстасцю Міколы Арочкі: Беларускі дзяржаўны універсітэт (1951-1956) і затым, ужо ў наступным дзесяцігоддзі – Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі Навук. Не справа толькі ў рэалізацыі навукова-літаратуразнаўчага патанцыялу: у абароне дысертацый, – кандыдацкай, прысвечанай Валянціну Таўлаю ў 1967 годзе, і доктарскай – пра беларускі паэмны эпас у 1980 годзе. Расхінулася з вышыні акадэмічнага Інстытута літаратуры далёкасяжная даследчыцкая аглядальнасць паэмна-эпічнай прасторы ў гістарычным часе. А разам з даследчыцкімі – адкрыліся зманлівыя магчымасці і спробы асабістага ўжывання ў паэму, у яе вякамі напрацаваны вопыт – дзеля сучаснага тварэння. Невыпадкова Міколу Арочку з яго распрацоўкамі эпічнай канцэпцыі паэмы было прапанавана распачаць усесаюзную дыскусію: “Паэма: крызіс ці адраджэнне?” (“Литературное обозрение”, 1973, № 5).

Зрэшты, ці мела б усё гэта шырокі рэзананс і выніковасць, калі б тады ў грамадскім жыцці на поўную моц не працягвалі адбывацца сацыяльна-тэктанічныя зрухі? Другое дыханне, другое творчае нараджэнне ахапіла і ператрэсла да самых асноў паэзію Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі. Іх бескампраміснае, самакрытычнае прамаўленне ў грамадзянскіх творах увачавідкі мяняла вектар эстэтычнай дзейнасці. Прыкоўвала ўвагу кардынальнае абнаўленне куляшоўскай паэмы („Эпічны свет Куляшова”). Для Арочкі-навукоўца адчынялася прастора для аналізу. І не толькі. У яго творчыя задумы пачала ўжо асмялела стукацца самая спакусная для яго форма асэнсавання – паэма ў самых розных яе жанравых разнавіднасцях. Уяўленні запалоньвалі ўмоўныя формаўтварэнні з іх невычэрпнымі магчымасцямі скандэнсаванай шматзначнасці і абагульненасці мастацкага вобраза. Паэтам засвойваўся і абжываўся як бы новы тып эпічна-паэмнага мыслення, які аказаўся для яго не чужародным, а арганічна ўласцівым, надзвычай прыдатным для бачання і асэнсавання таго мацерыка, які гадаваў яго, агнём паласаваў яго маленства, падкошваў узлётнасць юнацтва. “Памяць зярнятаў” шукала расшыфроўкі. Цяжка прараставалі тыя апаленыя зярняты, пакуль станавіліся калоссем матчынага жыта, хлебам паэзіі (паэма “Матчына жыта”, 1976). “Бачу, як эпічны герой – бохан чорнага хлеба, – пісаў аўтар драматычнай паэмы “Курганне”, – з вогненнага печыва нашай хаты ідзе па бясконцым шляху надзей, каб ўратаваць свет, каб сваёю смерцю прадухіліць смерць”. І далей: “Я сустрэў яе, сястру Хатыні, на Магілёўшчыне – вёску Курганне. Уклаў у яе сімвалічнасць, узвёўшы да яе ўсё, што асабіста пераджыў”.

Гэта не была эпізацыя на зададзеную тэму. Роздумная сустрэча з прывідам вогненнага паэта – гэта не адвольная прыдумка, не жартачкі. Драматычная паэма “Курганне” Міколы Арочкі – гэта інтуітыўна разгаданая трагедыя, якая немінуча ўжо вісела над роднай вёскай паэта, над роднымі Вецявічамі, што значылася ў акупацыйных планах спапялення, прычым на самы бліжэйшы час. Фактычна, паэт Мікола Арочка ўжо станавіўся попелам. Дарма ў начных пострахах ён вышукваў розныя схованкі ўратавання. Збавення не было. Партызанскія засады па ўскрайках вёскі не ўратавалі б. Партызаны перакалочвалі хаты ў пошуках пракорму, сагрэву. Але найбольшы страх так і застаўся на ўвесь акупацыйны час: немцы! Ім патрэбна

была нашая радзінная прастора: нас – каго ў зямлю, каго попелам па ветры, каго – за Урал. Адборную рабсілу – на бручкавінную пахлёбку на чужацкіх землях ды падзямеллях-шахтах. Якое там збавенне? Курганне на Бацькаўшчыне разрасталася. Гэта было не першае перапляценне абставін, калі падлетак Мікола апынуўся на мяжы пагібелі (вогненны "кацёл", партызанскі хутар, немінучае спаленне вёскі). У косці тройчы засядаў смяртэльны сполах. Паўтысячы год Бацькаўшчына не знала такой усёвынішчальнай навалы. Магчыма, калі глянуць у рэтраспекцыю, гэта была гітлераўская спроба рэваншу за Грунвальд. Уваскрэслы, па сутнасці, са спрадвечнага попелу, Мікола адчуў ліхаманкава-дрыготкую патрэбу балюча-роздумнай сустрэчы з вогненным прывідам паэта. З самім сабой, паклікaным з небыцця.

Мікола Арочка, аўтар неардынарных паэм, – бясспрэчна, з'ява ў беларускай паэзіі. Асаблівая значнасць дасягнута праз гістарычнае вымярэнне. Як даследчык ён разумее, на якую рызыкоўнасць ён ішоў, калі выбіраў творчую "звышзадачу", што магла стацца і не па плячы яму. Як напрыклад, у паэмнай задуме "Крэва"(1981). Праблема гістарычнага самапазнання вынесена ў эпіграф, як дужа надзённы наказ Купалы: "Пачнем дакапывацца самі разгадкі нашых крыўд і бед" – з "Магілы льва", дзе ўжо сама назва праецыруецца сваёй сімволікай на трагізм становішча Бацькаўшчыны (краіны-льва!). Таму ва ўступным "Слове да Купалы" ужо горача, як бы на падхопе акцэнтуецца разуменне ўсёй важнасці ўспрынятай задачы:

Жывым, нам трэба пазнаваць сябе,
Ўгрызацца ў лёхі цёмнае разгадкі...
З-пад старадаўніх зломаў, з-пад руін
Бяру кавалак цэглы, нібы крэда.
І апаляе вусны слова "Крэва"
Гарачым згусткам крэўнасці, крыві.

Дакопвацца да пластоў, што жывілі і жывяць самасвядомасць – гэта запатрабавана самім часам дзеля жыцця нацыі. Задача не проста дэкларуецца, а разгортваецца абвострана, у драматычным сутыкненні персанажаў, якія рызыкоўна запачаткавалі лёсавырашальны канфлікт, змачылі крывёй і хітрадзействам акт Крэўскай уніі – гэты "найпершы, самы круты вузел палітычнай драмы ў гістарычным лёсе нашага народа". Па сутнасці, ужо тады вырашаўся, знутры падточваўся, будучы незайздросны лёс кароны Вітаўта – каралеўскай кароны! Лёс Айчыны, як Каралеўства ("Лямант кароны Вітаўта"). Эпілог "Крэва" несуцешны. Скрыжаванне драматычных калізій, вострых перапляценняў (смерць Кейстута, уцёкі Вітаўта, яго маналагічныя адпрэчанні экспансіўных памкненняў) – усё гэта, зрэшты, падводзіць да канчатковага жываначальнага зыходу, да ўпэўненасці,

Што землі нашы будзе не так проста
Вам праглынуць паквапнай пашчай уній!
Вы будзеце ўчыняць яшчэ не раз
І множыць іх праз доўгія гады
І з веку ў век,
Каб зноў пацвердзіць права
На ўціск і на захоп...
Але ў дзяржаве,
На землях нашых я ўзгадаю моц,
Невынішчальны дух супраціўлення...

Цікавае прызнанне аўтара наконт узроўню валодання жанравымі магчымасцямі паэмы: "Чамусьці я ўжо не асцерагаўся запазычак і пераклічак, пасылаючы ўслед за Куляшовым (з яго вяршынна-цудоўным "Хамуціусам") сваю ластаўку да Шэкспіра, да яго "Макбета" і "Гамлета". Захоплена і прагавіта ўглядаўся ў драматычна-паэмны вопыт Байрана, Мільтана, Шылера. А калі бліжэй – то і ў

трыпціх літоўскага аднагодка Юсцінаса Марцінкявічуса (“Міндаўгас”, “Катэдра”, “Мажвідас”)”.

Цікавы таксама аповед Міколы Арочкі з псіхалогіі яго творчасці. Захоплены светам продкаў, знакамітымі постацямі, ён часам ледзь не пераступае ў сферу спірытуалізму, упадае ў стан пазарэчаісны, уваскрашае там буйныя персаналіі і, апанаваны ўваскрэшэннем іх вобразаў, ходзіць і ездзіць з іх лексікай, партрэтамі, выпісамі, выразкамі. Немажліва просіць даверыцца (“я ж беспадманна, няздрадна, з любасцю і агульнасцю мэты”!). Карацей, быццам выклікае з небыцця прывід асобы, і толькі тады, “калі гэта асоба даверыць свае вусны, спавяданні, можа атрымацца штось сапраўднае”. Так здарылася, напрыклад, з вобразам Францішка Скарыны – яшчэ з часу напісання “Кургання”. Ужыванне ў яго свет спатрэбілася нават для эпізадычнай сцэны. І нечакана перарасло ў чарговую “звышзадачу”: захацелася стварыць свой “эквівалент” (скажам, упоравень з “Мажвідасам” Ю.Марцінкявічуса) глыбокай духоўнай драмы Скарыны. Пасля драмы палітычнай (“Крэва”) яна немінуча навісла на нас, духоўная драма роднай зямлі. Трагізм, які ўжо адчуўся і пачаў няўмольна нарастаць з часоў Высокага Адраджэння, не пакідае нас і па сёння. “Судны дзень Скарыны” (1986-1989) уяўляецца вяршынным творам у паэмна-драматычным даробку Міколы Арочкі. Структурна, у адной лагічнай повязі, па сутнасці, у гэтым творы сышліся як бы шаснаццаць паэм. Сваёй уражлівай змястоўнасцю асабліва вылучаюцца тыя, што прасякнуты галоўным, вядучым матывам самой задумы твора, так бы мовіць, разьдзелы-паэмы “ідэяносныя”. Напрыклад, “З’яўленне Міколы Гусоўскага”, невыпадкова пазначана яшчэ і назвай “Пазнанне сябе”. З’яўленне, вядома, прывіднае, у закрытым вузілішчы ў Познані, куды ганебна кінуты Скарына. Ёсць час удумна агледзецца: чаму ён “улоўлены кратамі”? Адкуль яны, нязводныя злапрычыны? Хто на наш род накінуў гора? (“Дайсці да злапрычын мы мусім самі”). Паралюш, які ў Пултуску прыкаваў да пасцелі славутага аўтара “Кармэн” (“Песні пра зубра”) – бяда, вядома. Ды ёсць паралюш духоўны – занядбанне родавай памяці (“Сябе мы не спазналі – вось паралюш! Уелася чужына ў маю косць”). Як парываецца сэрца з нямогласці плоці:

Мне хоць глыток адзіны  
Адтуль, з Радзімы,  
З пушчаў і гаёў,  
Дзе сэрца працінаў мне рык зубрыны,  
Дзе рагачы вялі мяне з гайнёй,  
Дзе я, ўчапіўшыся каню у грыву,  
Кідаўся ў стромы Нёмана, Дняпра!  
Сын палясоўшчыка,  
Я – з тых мыслівых,  
Якія ў жылах чуюць кроў зубра!

Дзівуецца Скарына: “Чаму мы толькі ў немачы або з-за кратаў шчымліва б’емся ў дзверы роднай хаты?”. Спроба Гусоўскага даць адказ, “бо тут чужына душ” толькі развярэджвае закратны роздум Францішка:

Чужына душ?  
Вось, браце, сэнс цяжкі!  
Мне ад яго аж непамысна штосьці.  
Ды на Радзіме, любай з маленкосці,  
Свае хіба не ходзяць чужакі?!

Вобраз зубра, загнанага хіжымі лаўцамі ў пастку, стрыножанага, з колцам у пысе, распярэшчанага ў мішэнь для спрыту і збройнага рыштунку, са стрэламі ў баках, – балюча-шматзначны “пасвежаваўшы волата, на скуры разлягуцца, учыняць шумны баль...”. Скарына:

За гэтай прытчай бачу я, на жаль:
Не баль яны спаўняюць,
А хаўтуры!

Аўтар “Песні пра зубра” са скрушнасцю дадае:

Арканяць край, не цямячы, што робяць!
З расколіны зжахнецца яшчэ свет!

Свет бачыць. Але заступніцтвам не абцяжарваецца. У разуменні штось прамаўляе (“Ды сёння ў яме адтаго хіба лягчэй зубру?”). Драматычныя сцэны такога кшталту (“Начная размова з Іовам” і іншыя) маюць актуальны падтэкст, вярэдзяць, філасафічна набліжаюць да ісціны...

Шмат часу Мікола Арочка плённа і дбайна працаваў над новай драматычнай паэмай “Каранацыя Міндоўга”. Пісаў яе ў Віцявічах і закончыў у 2003 годзе. Унук паэта Валерык Арочка набраў паэму на кампутары і сам сшыў некалькі асобнікаў паэмы. Адзін асобнік я неяк завёз у часопіс “Маладосць”, дзе рэдактар выдання Раіса Баравікова абяцала надрукаваць усю паэму. Але надрукавалі ў верасноўскім нумары за 2007 год толькі ўрывак з яе. Калі я прыехаў у Мінск забраць Валерыкаў асобнік “Каранацыі Міндоўга”, то кніжачкі нідзе не знайшлі. Але, дзякаваць Валерыку Арочку і жонцы Міколы Арочкі Марыі Іванаўне, знайшоўся яшчэ адзін асобнік выдатнай паэмы.

Я памятаю, як пачынаў пісаць “Каранацыю Міндоўга” Мікола Арочка. Калі я бываў у яго ў Вецявічах, ён шмат мне пра Міндоўга распавядаў, разважаў, спрачаўся са мной. З яго слоў я даведаўся, што ў пачатку 1970-х гадоў беларускага паэта дужа ўразіла драматычная паэма “Міндаўгас” літоўскага паэта і сябра Міколы Арочкі Юсцінаса Марцінкявічуса (1930-2011). Яна яго так уразіла і захапіла, што мой зямляк нават напісаў пра яе ва ўсесаюзным друку, бо быў проста захоплены велічнай постаццю галоўнага персанажа.

Юсцінас Марцінкявічус, у знак падзякі за гэта, даслаў Міколу Арочку свайго “Міндаўгаса”, выдадзенага асобнай кніжкай, з зычлівым аўтографам. Мой зямляк быў ашчасліўлены такім падарункам. Ён нават сваім ўражаннем падзяліўся з выдатным нашым літаратуразнаўцам Віктарам Каваленкам (1929-2001). “Дай пачытаць”, – папрасіў пасля гутаркі Каваленка. Прайшло некалькі дзён і Віктар Каваленка вярнуў “Міндаўгаса” Міколу Арочку. Але паэт быў здзіўлены, калі Віктар Антонавічаднёсся да твора літоўца стрымана-крытычна, без ніякай ухвалы. Маўляў, зашмат наўмысных адступленняў ад гістарызму, літоўскай падгонкі пад старую канцэпцыю заваёўніцкай місіі князёў Літвы. Аднак у такога самабытнага мастака слова, як Юсцінас Марцінкявічус, было і бясспрэчнае права на сваё асабістае бачанне на ходу гістарычных падзей і шляхоў станаўлення нацыі.

Тым не менш, да канца свайго жыцця Мікола Арочка застаўся ўдзячны літоўскаму сябру ўжо за тое, што ён далучыў яго да шырока распачатага ім узнаўлення нашага агульна-адзінага гістарычнага Дома – Вялікай Літвы. Удзячны, што ён падбіў майго земляка на “звышзадачу” – стварыць свой паэмны эквівалент палітычнай і духоўнай драмы роднай зямлі (“Крэва”, “Судны дзень Скарыны”) з нахілам да ўсё большага трагізму. І ўсе гэтыя гады ў Міколы Арочкі несціхана тачылася, як незагойная рана, балючая задума каранацыі – ідэі, што працягнулася ў наступнасць на многія стагоддзі. І вось атрымаўся ўдачны зыход асэнсавання. Мікола Арочка адолеў выдатны эпічны твор, які з’яўляецца вартасным завяршэннем трыпціху гістарычных паэм —“Крэва”, “Судны дзень Скарыны”, “Каранацыя Міндоўга”.

Пасля “Міндаўгаса” Марцінкявічуса ў нашага літаратара ўзнікла неабходнасць палемічнай скіраванасці ягонай новай паэмы, тэматычна блізкай з “Міндаўгасам”

Марцінкявічуса, якой у свой час ён захапляўся. Міндоўг у "Каранацыі" выглядае ўжо не як заваёўнік накшталт Аляксандра Македонскага з пустой далонню, якая ў дарозе расшчэмлена высунулася з труны. Гэта зусім не захопнік беларускіх земляў, а ўстурбаваны Гаспадар, які збіраў іх да купы, ратуючы ад загубення, вынішчэння, асіміляцыі. Ён нястрымна апантаны ў мэце. Ажно дзівіць, чаму ім так завалодала ідэя задзіночання не толькі этнічна блізкіх, але і разрозненых плямёнаў вакол Навагрудка, які, дзякуючы волі фактычна аднаго чалавека, пакліканага сюды на княжанне, стаў урэшце яго рэзідэнцыяй, збройнай мышцай, кіпучым сэрцам новай дзяржавы. Перамяніўся вектар у гістарычным часе... Падупаў слынны Полацк пад націскам мечаносцаў на Дзвіне... Асіміляванае патаптанае племя прусаў тэўтонцамі... Балтыйскія орды, наезды стэпавічоў... Ваяўнічыя прэтэнзіі на аднаўленне былога ўладарства Данілы Галіцкага... Усё гэта вядома. Але як можна бясконца адчуваць сябе пушчай, падпаленай з усіх бакоў? Дзеля ўласнай зверхнасці ўладарства? І, можа, найгорш і найбольш небяспечна, што драматызм і трагізм становішча наклікала і ўзмацняла далёкая і блізкая язычніцкая радня, што закаранела трымалася паганства, няўступна патрабуючы адрачэння ад выбару шляхоў і спосабаў утрывалення незалежнасці. Вымогі і не пустыя просьбы адрачэння ад Хрыстовай веры, ад каралеўскага вянца... Язычніцкіх князькоў і верхаводаў, зрэшты, можна было зразумець – сваёй сляпой няўступнасцю, веранязрушанасцю яны хацелі ўратавацца ад бураломнасці часу, пазбегнуць горкамыснага лёсу некаторых суседзяў патаптаных плямёнаў.

І вядома ж, не любоўна-інтымныя жарсці ўплывовых каралёў пускалі ўзаемазабойчыя стрэлы вынішчэння супрацiўнікаў, а прычыны, пэўна, больш глыбокія, кроўна-жыццёвыя, спароджаныя няўмольнымі акалічнасцямі суровейшай хады гісторыі.

Дужа паказальна, што ў новай паэме "Каранацыя Міндоўга" усё гэта даводзіцца не публіцыстычна агаленымі сродкамі, а пераважна як бы апранута ў мастацкія шаты, увасоблена праз напругу супярэчлівых сутыкненняў, учынкі і злопамеры характараў, праз драматычны напор спрэчак, а то і вузлавата-крута паважнага дзейства.

Аўтару, падобна, найважней было паказаць галоўнага героя як чалавека жывога, духоўна адаронага ў псіхалагічным багацці пачуццяў, не бяздумна-безагляднага ва ўчынках, любоўных сваіх жарсцях, а інтымна надзвычай чуйнага. Пра гэта сведчаць яго пранікнёныя маналогі, звернутыя да Марты, размовы з яе прывідам, дачыненні з Міртай. Уражлівую ролю выконвалі сродкі прамаўлення на грані самазабыцця падчас сцішанай споведзі з высокімі носьбітамі боскага духу на жэглішчы. Такія моманты запамінальныя, яны сапраўды спрыяюць, так бы мовіць, жывому "учалавечанню" Міндоўга. Яго высакагоднасць не дэкларавана, а выяўлена чуйна, нібы на жывы дотык, на судакрананне з духоўна прыгожымі пачаткамі; таму герою і давяраешся, унутрана прымаеш яго нялёгкі свет.

Падкупляе як бы сама ментальнасць натуры галоўнага героя, менавіта вялікасць князя-караля з душой беларуса. Такім, відаць, і наканавана яму быць з няўмольнымі скарбамі на далоні, працягнутай да нас праз стагоддзі. Не скінуце неасцярожна з гэтай далоні ўзнятыя з народных глыбінь перліны яго кароны і душы. Таму вельмі і вельмі шкада: заўчаснага трагізму буйной дзяржаўнай асобы, да якой гэтак няшчасна і марнатраўна паставіўся акаянны свет – усе носьбіты наўмыснай загубы. А сабе ж на страту!..

Да слёз шкада толькі, што аўтар не зможа ніколі даслаць яе сябру-літоўцу Юсцінасу Марцінкявічусу, а той у сваю чаргу ніколі не зможа выказаць свае ўласныя думкі наконт беларускай "Каранацыі Міндоўга". Але іх паэмы – гэта, бяспрэчна, агульны і магутны ўклад у гісторыю даследавання Вялікага княства Літоўскага. Цалкам паэму "Каранацыя Міндоўга" ўдалося апублікаваць у штотодніку "Новы замак" у 2013 годзе.

А цяпер некалькі слоў пра самыя апошнія вершы Міколы Арочкі. Гэта вершы-

роздумы, вершы-прысвячэнні вялікім асобам Бацькаўшчыны. Іх няпроста чытаць, іх трэба вучыць на памяць, над імі трэба думаць, разважаць. Калі іх я чытаў, мне заўсёды прыгадваўся дзядзька Мікола. Не па сваёй волі з Мінска ён вярнуўся ў родную вёску Вецявічы, што на Слонімшчыне, дзе і пражыў апошнія 23 гады. У вёсцы рэдка калі можна было застаць яго за пісьмовым сталом. Мікалай Мікалаевіч часцей працаваў з рыдлёўкай ці касой у руках, або на пашы з роварам пры дробнакапытнай жыўнасці, з нязменным лазовым кошыкам, у якім заўсёды ляжалі кнігі і рукапісы ў пластыкавых мяшэчках. Яго пісьмовым столом былі зялёны палетак, выпас, пянёк на ўзлеску, услончык ці ўласныя калені. А вечарамі ў хаце вясковаму літаратару сніліся Скарына і Міндоўг. Ішло паглыбленне і выспяванне ў варыянтах і адпрацоўках драматычнай паэмы “Каранацыя Міндоўга”, як некалі пра Скарыну, каб дадацца да гістарычнага трыпціху. А яшчэ з-пад яго рук, са “стала зялёнага” прасіліся ў шырока разнятую “самааповесць” два новыя аповеды – “Пёрка курапаткі” і “Бацькоўскі край”.

Трагічныя штрыхі закраліся ў яго светаадчуванне пасля таго, як два акрутна загубленыя сыны (паэма “Страта”, “Малітва сына Віталія”) перабраліся на пагорак паўскрай вёскі Вецявічы, пад навісла-плакучыя бярозы. Таму дзядзька Мікола са сваёй паплечніцай цёткай Марыяй апынуліся там, у спадчыннай бацькоўскай хаце на Слонімшчыне. Выгадавалі, дзякаваць Богу, асірочанага ўнука Валерыка, які цяпер стаў дарослым, атрымаў адукацыю, жаніўся і мае ўжо дачушку. Там, у сялянскім асяроддзі, куды пішчом лезла стратнасць красы духоўнай, яшчэ жылі стыхія беларускасці, роднай мовы, свежай, непакананай гаючасці прыроды. Спрыяльна Мікола Арочка ўзнаўляў і кампенсаваў мазольныя выдаткаванні дотыкам да роднай зямлі, рэальна адчуваў каранёвую сувязь з ёй. І, як покліч, заўсёды стукалася ў ягонае сэрца ўзмоцненая запатрабавальнасць самапазнання.

Чытачам “Дзеяслова” прапаную вязанку апошніх вершаў майго земляка і старэйшага сябра Міколы Арочкі.

# Мікола АРОЧКА

## *КАРОННАЯ БАЛАДА ВІТАЎТА*

Адчуўшы блізкі скон, вялікі Вітаўт
Сабраў да ложа ўдатных ваяроў,
З рассечанай кароны выцер кроў,
Змачыў яе гаючай акавітай.
Перахапіць хіба маглі магнаты?
Асвечаную Рымам – ды на злом?!
Яна ўцякла параненай ад здрады
На нашае дзяржаўнае чало!
На раны яе Вітаўт самавіта
Усклаў далоні – з пошаптам бароў,
З расстайным рыкам збуджаных зуброў –
І ажыла карона з мараў літая!
Цяпер з чала не дайце яе зрынуць,
Зноў мечам ці маной распалавініць
Пасеч зямлю, нябёс блакітны дах.
Зямля сябе ўзгадуе ўласным коштам,
Хоць шлях Айчыны будзе і не простым,
Ды ў бок Свабоды выкіруе Шлях!

## ІНСТРУКЦЫЯ КАЛІНОЎСКАГА

*У патронніку паўстанца, забітага*
*28 ліпеня 1863 года ў бітве пад Ваўкавыскам,*
*была знойдзена "Інструкцыя" К. Каліноўскага.*

(З матэрыялаў паўстання)

Канае касінер...
Больш – ні набоя!
А без набоя стрэльба – больш не зброя.
Адкінуць – і ў балеснасці сканаць?
Пакінуць пад аплыўшаю крывёю
Надзел у марах?
Ніўку-сенажаць?

Нарэзаная ўчора камісарам,
Зямелька – тут, за пазухай!
Надзел!
Ох, як яна пячэ, гарыць пажарам,
Паперына – на вогнішчы грудзей!

Ён світку рве –
Каб вокам дакрануцца,
На хвілю распагодзіць мутны зрок.
Агніста скачуць літары:
Ін-стру-кцыя...
Загад – нібыта ўзведзены курок!
Загад:
На тых нарэзаных загонах
Не дапускаць старога здзеку ўлад,
Пабораў непамысных,
гвалтаў, згонаў...
Ну, словам, дзельна пісаны загад!

Аж выдыхнуўся стогн:
Зя-мля... Зя-мель-ка!
Дэкрэт аб надзяленні... Камісар...
І подпіс... І пячатка!..
Сцята, з енкам
Ён згортвае у трубку гэты дар.

Чаму ж ты грозна пасміхнуўся,
Рольнік?
Зяхае твая стрэльба руляй злой.
Паперына заходзіць у патроннік,
Як спрасаваны гнеўнасцю
набой!
Ты цэлішся ў гарачцы...
Зрок імглісты...

Ды шэрыя шарэнгі засцяць свет!
Тваю зямельку топчучы, царысты
Ідуць... Пажадна рукі цягнуць –
Па дэкрэт!
Паперадзе валюхае пачвара,
Мярзотная, заплямленая ў кроў...
Ты цэлішся – рукамі, зрокам, тварам...
Палохайся набою
Мураўёў!
Бліжэй, бліжэй...
Ды спушчаны курок!
З патронніка зарад б'е
карай боскай!
У палымненні грозным Каліноўскі
Дае захопнай набрыдзі урок!

### *МАЛІТВА СЫНА ВІТАЛІКА*

На тваім асірацелым століку я знайшоў хораша выпісаную фламайстарамі на кардоне, не кранутую кватэрным пажарам м а л і т в у:

1. Божа! Дай мне сілы,
каб любоў спавядаць там, дзе мяне ненавідзяць;
2. Каб даравацъ, дзе мяне крыўдзяць;
3. Каб яднаць, дзе лютуе сварка;
4. Каб праўду казаць, дзе пануе аблуда;
5. Каб веру прыносіць, дзе душыць сумніў;
6. Каб надзею абуджаць, дзе мучыць адчай;
7. Каб святло запальваць, дзе слепіць цемра;
8. І радасць даваць, дзе жыве смутак;
9. Не імкнуцца да таго,
каб я быў уцешаны, але каб я суцяшаў;
10. Каб не я быў зразуметы, а я разумеў;
11. Каб не я быў любімы, а я любіў.
Амін.

Не ведаю, сынку, адкуль і як у тваю свядомасць папрасіўся гэты высокамаральны хрысціянскі кодэкс, але ў цябе хапала душэўнай чуйнасці, праўдалюбнасці, святой прастаты, каб у жорсткім свеце і злым атачэнні нязмушана спавядаць запаветнае.

Кожны дзень дрыготка бяру ў рукі дарагія, свяшчэнныя пісьміны – як запавет і сабе.

Памажы мне, гэтая сынава м а л і т в а быць хрысціянінам хоць на астатку жыцця.

* * *

З ляшчын высокіх шчодрацца арэхі,
Аж замірае ў любасці душа.
Жаўтлявыя лісты плывуць, шуршаць
Між чуйных пальцаў –
з золатам уцехі.

Арэшынку прыгрэлі шаты-стрэхі —
І згледзеў я з-пад іх капелюша
На лапаінцы навіслай спарыша,
Цябе згадаў –
і прывітаў усмехам!

Ды боль азваўся рэхам, і агонь
Прапёк наскрозь – да костачак – далонь:
Бок спарыша быў чорна-завуглёны.

Пад скасцянелай чарнатой кары
Дыміліся бядою два ядры:
Свет твой і мой,
маланкай спапялёны.

## САПЁРНАЯ ЛАПАТА

Яе ніхто не вешаў, нібы зброю,
Начысціўшы да бляску, на сцяну.
Хоць і насіў пры поясе з сабою
З кінжалам і набоямі ў вайну.

Сапёрная лапата – не кінжал,
Няма ў яе такога піетэту.
Ды не таму, што менш яна апета,
Я сёння пра яе пішу, на жаль.

Хоць у яе заслуг было нямала,
Акопам прыкрывала на вайне,
Укопвалася ўглыб і ратавала
А колькі пахавала там, на дне!
Ды ўнучка той лапаты – о, няслава!—
Крывава паласнула і па мне.

Яна паўстала не ў суглінку глёўкім,
Не ў рэштках жвіру, дзёрану, травы.
Я не магу ўявіць цябе, рыдлёўка,
У свежа змочанай людской крыві.

Як мне ўявіць цябе ў руцэ салдата,
Што з похвы выхапіў –
сячэ, сячэ!
Кроў па табе, па чэране цячэ
На карнікаў, спецвывучаных катаў.

Сціскаючы кальцо смяротнай пасткі,
Ты вышкалена сееш жах і стогн.
Хто ўпаў, паўзе –
крыжуеш іх на часткі.
Шалее па кустах і хруст, і звон...

О, ганьбішча палпотаўцаў, дыктату!
Кроў пыршча на каменне, на лісты,
На веру, на сумленне...
Колькі стратаў!
Хто злічыць тыя страты?!
Цяміш ты,
Што ты ўчыніла, брудная лапата?

Сцюдзёнаю вадою не адмыцца
Табе і безгалоўю ўладароў.
Бо кроў людская – гэта не вадзіца,
Яна ў зямлі не чэзне!
І злачынцам
Напомніць пра сябе святая кроў!

## ГОРКІ ЛУБІН

На полі панскім спела навіна.
Не краў мой бацька зроду, але, кажа,
Гаспадара зманула тая кража,
Ды бокам выйшла, клятая, яна...

Любіў зямельку бацька мой, любіў!
Пеленгаваў, карміў, баяўся скрыўдзіць.
Дзеля яе пачаў ён кражай трызніць,
Яшчэ на грэх і родзіча падбіў.

Начнымі сцежкамі, праз хмызнякі
Два мужыкі падкраліся да поля,
Не чуючы, як пальцы іх калолі
Даспелыя жаўтлявыя струкі

Ад іх тугіх бакоў шарахаватых
Струменіў росны гаркаваты пах.
Краналі пальцы, занядбаўшы страх,
Пад шкарлупой пукатыя зярняты...

Напакавалі торбы са струкамі –
Ды ходу!.. У двары спазніўся брэх...
Але калоўся і праз торбы грэх!
Пляліся з ацяжэлымі рукамі...

Праз колькі год – я помню – паркай коней
Прыворваў бацька лубін той плужком,
Сцябліны пад лямех клаў ланцужком...
Ах, што за жыта ўстала на загоне!

Духмяны колас пад сцяблом не зляжа!
Салома – ў куль.
Страха на сотку год!
Радзіла бульба сопкая... А пража!
Ды лубін наш пайшоў не на развод...

На звод пайшоў!
А разам – Гаспадар.
Яго турботы выйшлі яму бокам...
Ах, горкі лубін, зерні даўніх мар –
Мяне жывілі доўга горкім сокам!

### ПАДСОЧКА

Дажывае гонкасць бору,
Бор той не стары.
Галаву задзёршы ўгору,
Ходзяць тут майстры.

І разцом шваргочуць моўчкі –
Кветкі з-пад ляза.
Не жывіца ад падсочкі,
А бурштын – сляза.
Льецца ў посуд, нібы ў лейку,
Праз канаўку – роў.
Меднастволіцам паўвеку,
Маладая кроў...

Ды заступніцкае моцы
Я не маю тут.
Сам я чуюся ў падсочцы,
Як і ўвесь мой люд.

### МАЛІТВА НА АДАМА СТАНКЕВІЧА

Малюся я на Вас, на святара,
Пакутніка за долю Беларусі,

На Вашу святасць веры і дабра,
Упаўшы на калені,
я малюся.
Між двух агнёў –
пальшчызны і русізны –
О, як успалымнеў Ваш чысты Дух!
З “Крыніцы” Вашай, вольны і бруісты,
Жывіўся вольны наш уздымны рух.
Асвечаны Скарынавым служэннем,
Ваш дар міласпагадна люду нёс
Верацярпімасць, цноту,
прагу Адраджэння,
А ў сваім лёсе – Бацькаўшчыны лёс!
Малюся я на Вашыя сляды
У слонімскім выгнанні –
ў горкай скрусе.
На той зямлі не ведаў я тады,
Які круты зацягваецца вузел!
Малюся я на Ваш ахвярны крыж,
Які панеслі Вы – аж да Тайшэта...
Галгофа наша, ты яшчэ стаіш
Касцямі ўсланая,
як ганьба свету!
Малюся я на Ваш свяшчэнны прах,
Зламысна патаптаны ў завірусе.
З нямой слязой надзеі на вачах
На Вас – як на святога!—
я малюся.
Так, на святога!
Прэч, ліхая замець!
Збяру я ў думках рэшткі з мерзлаты,
Пастаўлю дамавіну ўсім – як памяць,
І ўбачу я над ёй –
Ваш Дух святы!
Я Ваш вызнанец мэтаў і надзей
На Адраджэнне вольнай Беларусі.
Я з вераю – у Боскі Дом людзей
Заходжу ціха –
і на Вас малюся.

## *КАЛАСЫ Ў ХВАРТУХУ ТВАІМ*

Калі маці палетак свой жала,
Хвартушок саматканы брала.
Падтыкала за пояс ражкі
І пускала сярпок па загоне,
Поруч з ёй шчыравалі жанкі
Перад золатам нівы ў паклоне.

А паперадзе іх – хвартушкі,
З вышыванкамі беражкі!
А сярпок у матулі займісты,
Назублёны, ў праменнях наўскос,
Нырцаваў між сцяблін залацістых,
Скарб калосся з падхопам нёс,
Чыста нёс у наступнасць,
Вячыста!
Ды з іржышча скакаў каласок
У калыску нібы –
ў хвартушок!
Родны край быў засёды ашчадны,
Не раскідзісты,
ды не скупы!
Ён свае назапашваў снапы:
Капа да капы,
Да чужога дабра не пажадны,
Тарпа да тарпы!
Ды чужая рука выграбала
Не з малых хвартушкоў –
З мяшкоў!
Гаспадарчасць наш люд ратавала,
Любата да сваіх каласкоў!
Колькі вас паразвеяў вятрыска,
Як сыноў –
па разлогах вякоў!
Беларусь, наша маці, калыска,
Нахіліся ашчадна-нізка
І сваіх не глумі каласкоў!

## *ПОСТАЦЬ*

*Алегу ЛОЙКУ*

Зямляча мой, надзейны крэўнік духу,
Табе хтось, пэўна, вуснамі нябёс
У час народзін прашаптаў на вуха
Твой вызначальны спадкаемны лёс.

Магічным было ў шэпце асвячэнне,
Што над табой з наказам хтось вяршыў.
Ці не сама Высокасць Адраджэння
Гняздо сваё віла ў тваёй душы?

Як бацька, нахіліўшыся над сынам,
Магчыма, ў тваю першую вясну
Зычлівым мудрым вокам Дух Скарыны
Тады ў тваю калыску зазірнуў!

Ці ў матчыную песню над калыскай,
Зачэрпнуўшы з людскіх першакрыніц,
Уплёў матыў, як гоман хваль,
Агінскі –
З часоў падзелаў злых і бліскавіц?

Таму так абазнана, з даўкай скрухай
Нясеш ты скарб пагвалчаных эпох—
Дзеля Адродзін!.. І жагнае Бог
Падзвіжнікаў, як ты, –
Для моцы духу!

Ты родам – з вечнай прагі Адраджэння,
Што адзіночыць мару і мілосць.
Каб не тварыў сябе –
такім, як ёсць,
Зямля Айчыны выпала б з вярчэння!

## ПРАДПІСАННЕ Ў ПЕКЛА

*Сяляне вёсак Шумы, Яварайка, Пеняшкі, Шчука ўсе належаць да мецяжу, прымалі прысягу і ва ўсім садзейнічалі мяцежнікам, а таму, для павучання іншым, сялян названых вёсак выселіць углыб Сібіры, а вёскі знішчыць.*

(З "прадпісання" Мураўёва-вешальніка).

Ваш мяцеж небяспечны, маткі!
З інсургентамі змову вялі
Вы і вашы рагулі, чубаткі,
І цыбуля, гурочкі з градкі –
Вымятайцеся з роднай зямлі!

Лямантуйце, бабулі-мяцежніцы!
Выпаўзайце з абжытых куткоў.
Вашы ўсе чыгункі і дзежачкі,
Вашы ўсе кажушкі-адзежынкі—
Гэта зборышча бунтаўнікоў!

Вы, дзяды, – інсургенты старыя!
Сніцца вам перакройка меж.
Вашы вілы з хлявоў гнаявыя,
Вашы косы з-пад стрэх агнявыя
Яшчэ недзе спраўляюць мяцеж!
За дзятвою сачы, карнік-прыстаў:
Драпане – і прастыне след!
Ад нячыстых – не родзіцца чысты,
Расце ўкожным з іх –

Інсургент!
Мецяжу вы давалі прысягу!
Адасобце кожнага ў згон.
Хай Сібір праглыне злосных грэшнікаў.
Іх саўдзельнікаў –
Аўкцыён!

З малатка – і гаршчэчкі і міскі,
Саматканкі, палотнаў сувой,
І ўсю жыўнасць з рыканнем і віскам...
Край!
Забудзь на сваю калыску,
Рукі грэй над сваёй бядой...

За сялом валіць з ног утрапенне,
Кленчаць бабкі:

Хлеб-соль з кашоў!
Штосьці шэпчуць прадзедаў цені
Ім на ростані –
    з-пад крыжоў!
Сцюжа катаргі выпаліць грудзі.
Ці не раз так было з даўніны!
Ці не раз тут агонь яшчэ будзе
І драты-кайданы?
Азірнуліся – мацер боская!
Ломяць дымныя рукі ўгары
На агністых слупах – іх вёскі!
Вёскі – свечкі да неба!
Кастры.

## *ТРАГЕДЫЯ ТАРАШКЕВІЧА*

### *1.*

Высокая,
Але ж пустая хата!
(У залі смяшок, пагардлівы чмых!..).
Чаму пустая?.. Над краем – краты.
Паўзе апалячванне – горш чумы.
Зямелька ўдавее, слязой палітая.
Якой жа быць хаце, калі не пустой?
Сябе пелянгуе Рэч Паспалітая,
А нас жа – пад корань сякерай тупой?
Пан Скульскі выпрошвае дзесяць гадоў:
І ўжо беларуса – нідзе са свечкай!
Няволя не ўзросціць гураляў, касцоў...
З пажаднасцю Скульскіх –

Выйдзе асечка!
Ці бачылі кій – каб без двух канцоў?
Трымаеце ж вы пад сваёй пятой
Ці толькі вось “крэсы”, цемрай забітыя?
З карэннямі рве
Сябе Рэч Паспалітая!
І хата высокая стане пустой!
Закон гэты сёння шануюць на Ўсходзе:
Мы з воляю крэўных братоў не памром!
Глядзі, мой пакутны, мой любы народзе:
Будуецца там –
Беларускі Дом!

***2.***

Навошта мяне падманулі?.. Чаму?
Той Дом беларускі – ў трывожных сполахах.
Ці ведаў, што еду з турмы – у турму?
Што траплю з агню –
У пякельнае полымя?
Я марыў укласці жыццё ў гэты Дом!
Яшчэ на тым Доме шыльда трымцела...
Ды ўжо падзямелле стагнала нутром,
І цэгла смылела,
Як збітае цела...
Ад Менска далей – у сталіцу сталіц
Вязуць...
Я памечаны высылкай клятай.
І як я не згледзеў праз бляск навальніц
Руку, што мацуе на Доме тым –
Краты?
Няўжо я таксама спрыяў той руцэ?
І ўсё будаўніцтва маё – як прывід?
Аддаўшы надзеі, душу “Грамадзе”,
Няўжо яе вёў –
шляхамі крывымі?
Круціла ж, аднак, і мяне насланнё...
Вульгарнасць – ці ёй не хварэлі ўсе мы?
З яе вылятала, як з гнёзд, вараннё:
У дзюбах наклейкі –
“фашысты”, “нацдэмы”...
Па вострых пытаннях заходніх – як “спец”,
Каму я патрэбны?
Руцэ той каварнай?
Мяне абмянялі, каб мог я спець,
Як дзеўка прадажная ў збродначай кавярні...
Ды здрада не выкупіць... Топячы ў бруд
Сяброў, ты ўсё роўна уліпнеш за краты.

І здзіўлена ўскрыкнеш:
“І ты, Брут?”
Уткні у спіну маю меч адплаты!
Адплаты – за тлумны міраж слепаты,
Што ты не разгледзеў –
прадонняў і церняў!
Куды ты прывёў, правадыр “Грамады”?
Да дзіка-няшчадных зубцоў і шасцерняў?
Цяжкі махавік, нібы Молах, грымеў.
Раскручаны, ўцягваў пагрозна і тупа.
Чыгунка, як пас, перакінула ў Менск
І зноў нашу групу –
Ахвяр і шурупаў...

*3.*

Пісаў ты “Граматыку”?.. Ды на хрыбце
Яе на касцях тут дапісваюць з хрустам.
Я выплюнуў зубы... Я жыць хацеў!
Ды жыць Чалавекам!
Прытым – беларусам...
Што значыць твой выклад –
Пісьмёнаў, правоў?
“Тадэвуша” твой пераклад...
“Іліяды”?..
Ёсць права вярхоўных ідэй, звышулады!
Зямлі “сонцаноснай”...
А рэшту – у роў!
Я вочныя стаўкі не спляміў... Стрываў!
Мятла... і Валошын... і Рак-Міхайлоўскі...
Світанне ў бары... Бачу – ў дыме трава...
Сябры, я крану вас –
хоць локцем па-свойску!
Ваколіцы Менска...
Дык вось дзе мой Дом?
Мой выснены, вечны, з зялёнаю брамай.
Чаму ж ты, мой Дом, з прадонным нутром?
І ноччу, і днём
кружыць “воран” над ямай...
Абмацаў касцямі я жвірысты дол,
О, брацкі наш дол у свінцовай пакуце!
Будуеце зноў беларускі наш Дом?
Пакуль вы будуеце – мы не памром!
Будуйце!

Сяргей Шапран



…тыя, каму Бог даў
адчуванне беларускага слова,
як адчуванне лёсу,
пісалі, пішуць і будуць пісаць….

# Уладзімір Някляеў. Незавершаная аўтабіяграфія

***Старонкі новай кнігі***

*Працяг. Пачатак у №№6 (73), 1-3 (74-76).*

## ГІСТАРЫЧНАЯ РАДА

Тую сустрэчу Уладзімір Някляеў рыхтаваў разам з намеснікам кіраўніка лукашэнкаўскай адміністрацыі Іванам Пашкевічам — яму здавалася, што з Лукашэнкам усё ж можна дамовіцца і вярнуць пісьменнікам адабраную маёмасць: Дом літаратара і паліклініку. Да таго ж, меркаваў Някляеў, праз сустрэчу можна было паспрабаваць «прынцыпова змяніць стаўленне ўлады да беларускага ў Беларусі», бо тады яму яшчэ думалася, што Лукашэнка «таксама спрабуе нешта ў сабе зыначыць, змяніць»[1].

Аднак Замяталін, як прыгадваў Уладзімір Някляеў, «противился этой встрече, как только мог, из-за него она даже была отложена на неделю — и, как оказалось, не зря[2]. За отпущенные сроки на председателя вражеского Союза писателей, главного редактора не только вражеской газеты “ЛіМ”, но и вражеского журнала “Крыніца” было отшлифовано новое досье и утром накануне встречи экстренно передано президенту для ознакомления.

Ознакомленный президент предстал перед писателями насупленным и начал встречу в наступательных, агрессивных тонах. Переданную ему папку раскрывать и оглашать он не стал, но всё же от того, чтобы, выразительно приподняв её над столом, не сослаться на неё, не удержался: "А у нас Некляев, самый ярый оппозиционер и националист, возглавляет Раду единого писательского Союза. Я, конечно, в кавычки эти слова беру". И жёстко прошёлся по журналу "Крыніца", где "пропагандируется творчество фашистских пособников".

Об отнятой писательской собственности однозначно было сказано сразу после моего протокольного вступительного слова — и ответ опять исходил словно бы из говорящей заметалинской папки: "Как бы вы поступили на моём месте, если бы вам на стол клали сводку — президента ведь информируют по всем вопросам — периодические сходки в Доме литератора, оппозиция одна, оппозиция другая, оппозиция третья". [...]

Мина, подложенная в папке Владимира Заметалина под встречу писателей с президентом, сработала. На прощание президент, человек, как известно, не без своеобразного юмора, дал откровенно прозрачное напутствие: "По результатам сегодняшней встречи необходимо принять конкретные решения. Пусть антиподы Владимир Некляев и Владимир Заметалин сядут и выработают их"».[3]

Са стэнаграмы сустрэчы рады Саюза пісьменнікаў з Лукашэнкам:

«*В. П. Некляев:* [...] Спадзяюся, Аляксандр Рыгоравіч, што няма патрэбы пераконваць ні Вас, ні сябе, ні ўсіх тут прысутных у першынстве літаратуры сярод іншых мастацтваў, распавядаць пра яе значнасць у духоўным жыцці і развіцці чалавецтва, нацыі, кожнай асобнай чалавечай душы. Напачатку было Слова, сказана ў Святым Пісанні, напачатку застаецца яно і сёння пры ўсіх тэхналагічных дасягненнях цывілізацыі. А што тычыцца славянскіх краін, прынамсі Беларусі, дык тут роля слова і літаратуры наогул выключная. І зусім невыпадкова тое, што менавіта тут, у нас, з'явіліся першыя ўсходнеславянскія друкары-асветнікі, з'явілася напісаная пераважна беларускім словам "Слова пра паход Ігаравы", з'явілася напісаная па-беларуску ці не найлепшая еўрапейская канстытуцыя і многае іншае, што з'яўляецца агульначалавечым духоўным здабыткам і нашым нацыянальным гонарам. [...]

Для мастака, які арганічна пачувае сябе, працуючы ў аўры нацыянальный культуры, ніякі агульны адказ пра далейшы лёс не мае ніякага сэнсу, зместу без адказаў пра лёс нацыянальнай мовы, ідэі, свядомасці, наогул беларушчыны. Можна колькі заўгодна разважаць пра перавагі адной мовы над другой, нечай культуры над іншай, але па-за тэкстам роднай мовы, па-за тэкстам айчыннай культуры нацыянальны мастак пазбаўляецца сваёй сутнасці. Змірыцца з гэтым ён не тое што можа ці не можа, хоча ці не хоча, а проста няздольны. Менавіта з адчування магчымай страты сваёй сутнасці, сэнсу свайго існавання і нацыянальнага быцця і вынікае непрыманне нацыянальнай інтэлігенцыяй дазіровак беларускага на Беларусі, скіраваных да таго ж на змяншэнне. [...]

Толькі што мы ўсё-такі, Аляксандр Рыгоравіч, у краіне нашай збіраемся рабіць? Пачынаем будаваць Беларусь у Беларусі, ці нечага чакаць? Калі чакаць, дык ніхто нікому не кажа, а таму і ніхто і не ведае, колькі і чаго. Калі будаваць, дык на якім падмурку, каб будынак не абрынуўся і ўсе нашыя намаганні не пайшлі пылам? Што нам ствараць? Сацыяльную, грамадзянскую дзяржаву ў гэты час, калі ў многіх грамадзян, якія дзяржаву гэтую складаюць, не заўсёды хапае сродкаў для існавання? У такіх умовах усе гаворкі пра наднацыянальную дзяржаўную ўладкаванасць — гэта ці няўцямныя для людзей гукі эфіру, ці факультатыўныя фантазіі выпускнікоў былых палітычных акадэмій.

Мне вельмі шкада, што між дзяржаўнай уладай і Саюзам пісьменнікаў склаліся былі, прычым амаль на роўным месцы, такія няроўныя адносіны. Нам

хацелася б, безумоўна, вярнуць Дому літаратара статус-кво, вырашыць іншыя матэрыяльныя пытанні. Калі б такі жэст у наш бок быў зроблены, гэта было б літаратурнай грамадскасцю належна ацэнена. Тут жа, Аляксандр Рыгоравіч, не толькі матэрыяльныя, значна большыя маральныя страты. Раз пісьменнікаў пагналі з іх уласнага Дома ў сталіцы, дык гэта калі не прамая каманда, дык ускосная гнаць іх адусюль. І пагналі са школ, з інстытутаў, дзе ўскосна, дзе прама. Нібыта пісьменнікаў тых у нас як гразі ў Казані.

Заўсёды на дзень нараджэння Янкі Купалы каля помніка яму, вось тут, недалёка, у ягоным скверыку, праводзіліся паэтычныя чытанні. Гэта не мітынг, не шэсце — гэта культурная традыцыя, на якую не трэба было ніколі аніякага афіцыйнага дазволу. Цяпер ідзі за дазволам. Дазваляюць. Але нашто дазваляць тое, што не забаронена? Ці не гэта адна з прычын, праз якую здаровая беларушчына выглядае ў нас апазіцыйнай? А што канкрэтна робяць, каб было інакш, па-людску, каб беларускае працавала на дзяржаву, структуры выканаўчай улады, як садзейнічае нармалізацыі беларускага жыцця найвышэйшая выканаўчая ўстанова Савет міністраў, адказнае за гэта ягонае кіраўніцтва? Пакуль адказу няма. [...]

Тое, што я казаў і кажу, — гэта, безумоўна, праўда з аднаго боку. А ў чалавечым нашым жыцці як не бывае адной праўды, так не бывае і адной віны. Шмат у чым пісьменнікі вінаватыя і самі. Нехта з іх, не звалодаўшы з эмоцыямі і паступіўшыся прызваннем, перакінуўся ў палітыканства, у голую палітыку. Нехта псіхалагічна не вытрымаў напружання часу, не рабіў нічога [...]. Але тыя, для каго літаратура не сродак, а спосаб жыцця, хто іншага занятку сабе не ўяўляе, як пісалі, так пішуць і будуць пісаць. [...]

Тыя, каму Бог даў адчуванне беларускага слова, як адчуванне лёсу, пісалі, пішуць і будуць пісаць. Толькі б ведаць яшчэ, што недарэмна, разумець, для каго і для чаго, ясна бачыць будучыню Беларусі.

*А. Г. Лукашенко:* Владимира Некляева я знаю давно. Может быть, он несколько эмоционально, — я очень внимательно слушал его, — но сказал то, что хотел сказать. Такая “запевка” обнадёживает, разговор будет честным и откровенным. [...]

Когда я узнал, что Владимира Некляева избрали председателем союза, я порадовался, что избрали такого энергичного белорусского писателя, у которого на “Волзе амаль што палова радні”, что, кстати, для меня открытие[4].

Владимир Некляев сказал о том, что в сложившихся взаимоотношениях власти и писателей во многом виноваты сами писатели. Скажу больше: всё, что он перечислил, — это только вина писателей. Вы меня упрекаете, что я, мол, не поменял взглядов, не ушёл вперёд. Может, мне не нравится позиция Бородулина, Буравкина, Гилевича, но я спокойно воспринимаю их, сравниваю их позиции с теми, которые они занимали вчера, и некоторые вещи не могу понять. Можете на меня обижаться, уважаемые друзья, но я действительно, в отличие от некоторых, перемениться не успел. Вы меня в школе учили одному, в мои депутатские годы советовали другое. [...] Постараюсь понять и вашу нынешнюю позицию, может быть, в чём-то поменяю и свою. [...]

Анализирую: ну в чём я неправ? Кому-то отказал в помощи? Нет. Кому-то сказал: подавляй их? Нет. Даже тех, среди вашего брата, которые писали: “Убей президента!” Когда меня толкали к судебным разборкам с этими авторами, я сказал: да бросьте вы, 99% писателей — умные люди, поймут, что это бред[5]. Я терпеливо, может, даже не по возрасту терпеливо, да ещё при моём открытом и резком характере, внимательно наблюдал, молчал, терпел, когда некоторые из вас митинговали на улицах в нарушение всех законов и правил и выступали против президента и власти. Когда у меня за спиной размахивали негосударственными знамёнами и кричали “Лукашэнку далоў”, а на ваш призыв “Жыве Беларусь!” я тоже говорил: “Жыве і будзе жыць!” [...]

Вы сказали, Владимир, что к вам представители власти настороженно относятся. А Вы проанализируйте действия отдельных писателей, которые под антипрезидентским флагом приезжают или приходят в молодёжные коллективы. Знаете, не только я, народ устал от этой травли. А я как глава государства не могу позволить, чтобы ещё и молодёжь была вовлечена в эту травлю. А как всё на этих митингах начинается: с двух предложений на роднай матчынай мове, а потым пайшлі-паехалі и "про державу", и "про Лукашенко".

Конечно, вы сами насторожили людей. Я никогда не давал указаний "не пускайте их", такого не было. Вы сами против себя настроили. Поэтому постарайтесь причину найти прежде всего в себе.

И я, конечно, в чём-то виноват. Когда столько проблем, да ещё если их подбрасывают со стороны, — бывают и ошибки. Только если ничего не делаешь, ошибок не допускаешь. Я считаю так: у нас такие писатели, каких мы заслужили, каких мы вырастили. Государство, народ вырастили.

Несколько слов о Доме литератора. Как бы вы поступили на моём месте, если бы вам на стол клали сводку — президента ведь информируют по всем вопросам — периодические сходки в Доме литераторов, оппозиция одна, оппозиция другая, оппозиция третья. Ну, ладно, оппозиции ведь тоже где-то собираться надо. Но о чём идёт разговор? Не о нормальной, конструктивной критике власти, а о создании "отрядов самообороны". Потом эти спекуляции с собственностью! Союз писателей финансируется из бюджета по всем статьям расходов, в том числе и на содержание здания. Значит, данное здание должно находиться в собственности государства. А вы пользуйтесь им, пожалуйста, без всяких ограничений, только без права продажи. [...]

Как видите, нет цели отобрать у вас здание [...].

А что касается "Купалаўскіх чытанняў", о которых Вы говорите: хотелось бы, чтобы эти мероприятия проводились не под митинговыми лозунгами, не какимто авралом, не по заявкам политических партий. [...]

Да, за писателей идёт борьба. Оппозиция хочет "ездить" на писателях. Оппозиция хочет держать у себя писателей как какой-то штык. Конечно, глава государства тоже хочет поддерживать с писателями хорошие отношения. Но я никогда не стану сомнительными способами сражаться за вас. [...]

Что касается белорусского языка. Я постоянно контролирую вступительные экзамены [...]. Поразительная вещь. Если в восточных областях два года тому назад почти 90 процентов поступающих писали на русском языке сочинение, изложение и диктант, то в этом году 70 процентов сочинений, изложений, диктантов писали — это же свободный выбор — именно на белорусском языке. Это не показатель? Это же мы белорусскую элиту растим! [...]

А к чему привела беготня вокруг парламента пять лет тому назад с призывом "давай-давай, Гилевич"? Мы его везде поддерживали. И я его поддерживал. В очень хороших были отношениях. Но куда мы пришли? Мы нацию чуть не раскололи по языковому принципу. Кому это нужно было? В конце концов, какие могут быть споры по языку? Вы все демократы здесь сидите. Мы самым демократичным образом спросили у людей, как быть? И 90 с лишним процентов высказались на сей счёт. И я как глава государства обязан придерживаться этого волеизъявления [...].

А вот вопрос "што мы будзем рабіць у сваёй краіне?" и "куды ісці?" — это вопрос принципиальный. И я сожалею, если мимо вас прошли эти рассуждения. [...]

Што тычыцца нацыянальнай ідэі, пра якую ты, Уладзімір, казаў учора на тэлебачанні, — выкажу сваё меркаванне. Как было бы хорошо и просто сегодня выйти и сказать: "Жыве Беларусь!" Суверенная, незалежная и так далее. И всё, ура! Но пойдёт ли народ за этой идеей? Не пойдёт. Испохабили хорошую и добрую идею. Сегодня стоит вопрос, как к этой идее вернуться, чтобы она,

выражаясь старым языком, овладела массами? Как это сделать? Мы уже подступались к этому вопросу несколько раз. Это очень больной вопрос для меня как главы государства. И я понял: наше общество не готово сегодня воспринять существующую национальную идею как флаг, который можно развернуть. А мы не готовы сегодня предложить такую идею, которая бы овладела обществом.

Мы трижды к этому подступались, мы учёных привлекали, работников культуры, разумных людей, и не только тех, которые, как ты говоришь, "возле власти болтаются", а людей, которые и подальше от власти. И мы ничего не выработали. Всё, что мне было положено на стол, это уже затёрто, "замызгана", как писатели говорят. Вот в чём проблема. И я был бы рад, если бы мне сегодня Союз писателей взял да и предложил концепцию идеи, которая действительно была бы воспринята народом»[6].

Між тым падчас гэтай сустрэчы Лукашэнка закрануў таксама пазіцыю «ЛіМа», у выніку чаго Някляеў, галоўны яго рэдактар, уступіў у спрэчку з Лукашэнкам, аднак у надрукаванай пасля стэнаграме гэты эпізод адсутнічае:

«*А. Г. Лукашенко:* Я особенно не давил эти годы. Но сегодня хочу сказать: государство будет поддерживать те средства массовой информации, которые будут проводить государственную политику. Я опять же не хочу к личностям привязывать эту проблему. Но если "ЛіМ" не может до сих пор определиться, как ему дальше жить, что писать, как реагировать на ситуацию в нашем государстве, заносит его куда-то в ту сторону, ну и пускай заносит. У нас оппозиционных журналов много. Есть не оппозиционные, а такие, знаете, ни шатко ни валко, кто-то из-за угла хочет посмотреть. Я не только о "ЛіМе" говорю, но и ему подобных. "ЛіМ", по-моему, мы дотируем, да? Ну так уже определитесь там где-нибудь с "Народной волей" или ещё там с какой газетой и — сотрудничайте. А мы будем поддерживать тех, кто поддерживает государство. [...]

*В. П. Некляев:* Нядаўна прыязджалі рускія пісьменнікі. [...] Я нагадаў Распуціну Валянціну адну размову, якая адбылась у нас з ім 22 гады таму, у 1975 годзе. У канцы размовы ён мне сказаў вось што: "Добрыя вы ўсе хлопцы — беларусы, толькі ў вас адно ёсць, каб кінулі вы гэту дурноту са сваёй уласнай нейкай мовай асабістай, са сваёй нацыяй, народам сваім і сказалі ўрэшце рэшт, што гэта дыялект рускай мовы, што гэта заходняе племя рускае, і ўсё было б у нас нармальна". Зараз я ў яго спытаў: "Валянцін Рыгоравіч, ты помніш тую размову, якая адбылася ў нас даўным даўно?" Ён кажа: "Гэтую размову я помню". Я пытаю: "Ты думаеш так, як думаў?" — "Не, я так не думаю, я, слава Богу, паразумнеў". Дык вось Распуцін, іркуцкі пісьменнік, слава Богу, паразумнеў, Аляксандр Рыгоравіч. А ў нас, на жаль, засталося вельмі шмат люду, які да гэтай пары, на жаль, так і думае. Не паразумнелі. І гэта адзіная пазіцыя, якая мяне даводзіць да вар'яцтва. Людзі, якія тут — ну, Распуцін тут толькі пакаштаваў гарэлкі і хлеба нашага, — а яны тут ядуць і п'юць — і вось мы — не народ, мы — не нацыя, мы — не мова. І гэта адзіная пазіцыя, супроць якой паўстае "ЛіМ" на сённяшні дзень, гэта адзінае, праз што "ЛіМ" мае дачыненне да палітыкі. [...]

Дык вось, Аляксандр Рыгоравіч, я бачу, што ёсць шмат пытанняў, якія да вас даносяцца аднабакова. Вось вы... антыдзяржаўная газета. Вось сядзіць Іван Пятровіч Шамякін, ён, можа, не лічыць, што гэта антыдзяржаўная газета. І яшчэ, я думаю, шмат людзей, якія...

*А. Г. Лукашенко:* Але "ЛіМ" — гэта дзяржаўная газета?

*В. П. Некляев:* Ну, так выходзіць.

*А. Г. Лукашенко:* Нет, ну выходит... Неужели не знает Некляев, что он пишет в "ЛіМе"? Я хорошо владею ситуацией.

*В. П. Некляев:* У "ЛіМе" цэлы год патрачаны на тое, каб ураўнаважыць якраз сітуацыю.

*А. Г. Лукашенко:* Владимир, как раз я не хочу на Вас это повесить, потому что в "ЛіМе" были похлеще хлопцы.

*В. П. Некляев:* [...] Калі некага з вашых памочнікаў не задавальняе тое, што я — галоўны рэдактар, надта ўжо не задавальняе, калі ласка, я магу напісаць заяву, бо там не такі ўжо тоўсты хлеб і тлустае масла. [...]

*А. Г. Лукашенко:* Я хочу, Владимир, в связи с этим сказать следующее. Спасибо за откровенность такую. Я абсолютно не хочу так реагировать на Вашу точку зрения. Вы имеете право её иметь, и слава Богу, что большое наше завоевание — говорить в любое время, а точнее, сказать то, что ты думаешь, там, где надо. Это большое дело. И никто не вправе отнять у человека это право. Это одно из завоеваний нашего времени. Пожалуй, самое главное. Поэтому я считаюсь с Вашей точкой зрения»[7].

Ужо пазней Някляеў распавядаў, з чым насамрэч, дзеля якой мэты ішоў на тую сустрэчу: «Я пришёл к Лукашенко с Радой СП. Под эту встречу мне реально обещали материальную поддержку (председатель союза должен об этом думать), возвращение имущества — Дома литератора и поликлиники и как следующий шаг — если не устранение Заметалина, то гарантия, что того отодвинут в иную сферу — в комитет по религиям, например. Но этого не случилось. А случилось то, что ничего не достигнув, попал в одну компанию со всеми этими... И тут уже началось давление с другой стороны. Я оказался ни там, ни там! Назад не было пути, все меня уже считали соратником президента. [...] ...я тогда полагал, что всё дело не в Лукашенко, а в Заметалине. Я думал, что именно его влиянием объясняется вся та вражеская политика, которая проводится в отношении национальной культуры. И решил, что смогу тов. Заметалина от тов. Лукашенко отодвинуть. [...] ...это не было бы глупостью, соблюдайся договорённости с другими людьми, которые мне если не поклялись, то, во всяком случае, дали твёрдое слово, что в этом деле будут вместе со мной. [...] Но когда дело дошло до дела (а они знали гораздо больше, чем знал на то время я), страх для них оказался сильнее исповедуемых принципов. [...] ...в решающий момент я остался один. А для общественного мнения меня уже приблизили к властным структурам или даже приняли в них. И это казалось всем настолько очевидным, что никто не удивлялся даже, когда мне предлагали эфир для заявления о своей лояльности открыто»[8].

Што ж тычыцца вынікаў сустрэчы Рады СП з Лукашэнкам, дык пра маёмасць саюза можна было забыцца. Хоць станоўчыя вынікі ўсё ж былі — Някляеў прыгадваў, што пасля той сустрэчы ўзаемаадносіны пісьменніцкай арганізацыі і ўлады паўсюль пачалі падавацца ледзь не сяброўскімі: «Мы быццам бы ва ўсім з уладай паразумеліся, па ўсіх пытаннях дамовіліся — і зараз разам, з вершамі і песнямі павядзём народ да чаргавой светлай будучыні... Рабілася гэта мэтанакіравана, іншым разам хітра, а часцяком і напралом. Напрыклад, у надрукаванай стэнаграме[9] згаданай сустрэчы было ці выпраўлена, ці выкраслена амаль усё, што тычылася праблем незалежнасці, самасвядомасці, самаразвіцця, наогул нацыянальный ідэі як асновы для станаўлення беларускай дзяржаўнасці. Аднак менавіта з гэтым пісьменнікі пайшлі на сустрэчу...»[10]

Рэальным жа вынікам той сустрэчы быў наступны шматабзацальны дакумент:

«ПРАТАКОЛ
даручэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь
Лукашэнкі А. Р., дадзеных на сустрэчы з
членамі Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў
5 жніўня 1998 г.

У мэтах далейшага развіцця нацыянальнай літаратуры і аказання дзяржаўнай падтрымкі творчай працы беларускіх пісьменнікаў даручыць:

1. Дзяржаўнаму камітэту па друку сумесна з Міністэрствам культуры, Саюзам беларускіх пісьменнікаў распрацаваць і ўнесці ў Савет міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 снежня 1998 г. комплексную праграму па стварэнню ўсіх неабходных умоў для захавання і развіцця нацыянальнага кнігавыдання і кнігараспаўсюджвання.

2. Аблвыканкамам, Мінскаму гарвыканкаму сумесна з Міністэрствам культуры, Міністэрствам адукацыі, Міністэрствам фінансаў прыняць меры па больш поўнаму камплектаванню дзяржаўных і школьных бібліятэк як кнігамі беларускіх пісьменнікаў, так і перыядычнымі беларускамоўнымі выданнямі, якія прапагандуюць агульнанацыянальную палітыку і патрабаванні нацыянальна-дзяржаўнага курсу, прадугледжваючы выдзяленне мэтавых сродкаў на камплектаванне бібліятэк.

3. Саюзу беларускіх пісьменнікаў разам з Міністэрствам культуры, Дзяржаўным камітэтам па друку, творчымі саюзамі рэспублікі да 1 студзеня 1999 г. распрацаваць праграму правядзення рэспубліканскіх грамадска значных літаратурных мерапрыемстваў і свят, уключаючы семінары маладых літаратараў, дні нараджэння выдатных беларускіх песняроў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча і іншых, з выдзяленнем на гэтыя мэты дадатковых сродкаў з дзяржаўнага бюджэту.

4. Мінскаму гарвыканкаму ў 1999 годзе прыняць рашэнне аб прысваенні адной з вуліц г. Мінска імя Максіма Танка.

5. Міністэрству адукацыі пры распрацоўцы школьных праграм на беларускай літаратуры штогод абмяркоўваць з Радай Саюза беларускіх пісьменнікаў школьныя праграмы і дапаўняць іх творамі сучасных беларускіх пісьменнікаў.

6. Дзяржаўнаму камітэту па друку, Міністэрству культуры разам з Саюзам беларускіх пісьменнікаў, Камітэтам па аўтарскіх і сумежных правах пры Міністэрстве юстыцыі па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў разгледзець пытанне аб павелічэнні мінімальных ставак аўтарскага ўзнагароджання за стварэнне і выданне твораў літаратуры і мастацтва і да 1 студзеня 1999 г. унесці прапановы ў Савет міністраў Рэспублікі Беларусь.

7. Дзяржаўнаму камітэту па друку:

выдаць у 1999 годзе двухтомнік выбраных твораў народнага паэта Беларусі Максіма Танка;

да 1 студзеня 1999 г. разгледзець пытанне аб адлічэннях Беларускаму літаратурнаму фонду ад аўтарскага ганарару за стварэнне і выданне твораў літаратуры і мастацтва для аказання матэрыяльнай падтрымкі літаратараў, медыцынскай дапамогі, дапамогі па старасці і пры неабходнасці ўнесці прапановы ў Савет міністраў Рэспублікі Беларусь;

ва ўстаноўленым парадку выдаць ліцэнзію на выдавецкую дзейнасці Беларускаму літаратурнаму фонду і забяспечыць яго дзяржзаказамі на выданне асобных падручнікаў і хрэстаматый па беларускай літаратуры.

8. Савету міністраў Рэспублікі Беларусь у 1998 годзе вырашыць пытанне аб выдзяленні 9,3 млрд. рублёў на капітальны рамонт і ўзнаўленне круглагадовай дзейнасці пісьменніцкага Дома творчасці “Іслач”.

9. Кіраўніцтву справамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь забяспечыць размяшчэнне структурных падраздзяленняў Саюза беларускіх пісьменнікаў у будынку па вул. Фрунзе, 5 пад поўную патрэбнасць з пагашэннем арэнды і камунальных паслуг ва ўстаноўленым парадку за кошт бюджэтных сродкаў.

10. Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі сумесна з Дзяржаўным камітэтам па друку, Саюзам беларускіх пісьменнікаў распрацаваць і зацвердзіць план мерапрыемстваў па прапагандзе лепшых твораў нацыянальнай літаратуры і іх аўтараў як у рэспубліцы, так і за яе межамі.

11. Кантроль за выкананнем даручэнняў гэтага пратакола ўскласці на Савет

міністраў Рэспублікі Беларусь (Замяталін У. П.) і Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (Пашкевіч І. І.).

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь *А. Лукашэнка*»[11].

У хуткім часе і сам Уладзімір Някляеў, спасылаючыся на гэтую сустрэчу з Лукашэнкам, звяртаўся з афіцыйным лістом да старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Грыгорыя Кісяля, дзе, у прыватнасці, указваў на тое, што «беларуская літаратура практычна знікае з тэлеэфіру. [...] Не застаецца ніводнай перадачы, якая прапагандавала б творчасць пісьменнікаў [...]. Не асвятляецца дзейнасць прафесійнага пісьменніцкага саюза, на экране не бачаць вядомых літаратараў, пісьменнікаў сярэдняга пакалення, маладых творцаў». Акцэнтуючы ўвагу на тым, што СБП «гатовы прапанаваць шэраг тэм, серыйных перадач, тэлечасопісаў, сюжэтаў», Някляеў заключаў: «...мы гатовы да самага плённага супрацоўніцтва з беларускім тэлебачаннем і радыё ў справе прапаганды лепшых дасягненняў айчыннай літаратуры»[12].

Што тычыцца асабістых узаемаадносінаў Уладзіміра Някляева з прадстаўнікамі ўлады, дык з кімсьці, можа, яны й маглі палепшыцца, але толькі не з Замяталіным, які ў хуткім часе даў падначаленаму яму старшыні Дзяржкамдруку М. Падгайнаму даручэнне: «Крыніцу» ў спіс перыядычных выданняў, якія маюць датацыю з бюджэту, не ўключаць. Хмары навіслі і над самім Някляевым: кантракт з ім як з галоўным рэдактарам скасоўваўся. «Коллектив почти на три месяца оставили без зарплаты вроде бы только из-за “многостаночника” Некляева, который не желает освобождать редакторское кресло. Вот пусть он уйдёт — и всё у вас станет хорошо: и редактор будет тот, которого захотите, и деньги, и бумага, и печатать вы на ней сможете всё, что пожелаете. Редакция — живые люди, поверили в эту заметалинскую сказку, потому что всё в ней вроде бы складно, да ещё обещано то, чего хочется»[13]. Але Някляеў — які перад тым пакінуў пасаду галоўнага рэдактара «ЛіМа» — аддаваць «Крыніцу» на расправу Замяталіну не пажадаў.

Адказваючы пазней на пытанне пра пасады галоўнага рэдактара ў «ЛіМе» і «Крыніцы», Някляеў скажа: «Дальбог, гэтыя пасады мяне ніколі не грэлі, можа апроч пасады галоўнага рэдактара “Крыніцы”. Вось мы рабілі такі часопіс — сабраліся людзі, якія хацелі працаваць разам і рабілі тое, што яны ўмелі рабіць лепш за ўсё. Гэта не так часта здараецца — гэта проста шчаслівы выпадак»[14].

## «БЛІЗ ЦАРА...»

Між тым штосьці з прагнозаў Васіля Быкава пачало збывацца: някляеўская «Прошча», якая выйшла ў 1996-м, напрыканцы 1998-га была ўганаравана Дзяржаўнай прэміяй. Разам з прадстаўленнем Камітэта па прэміях Лукашэнку нібыта было пададзена заключэнне, паводле якога Някляеў, атрымліваючы прэмію, быццам скарыстоўвае службовае становішча, але Лукашэнка тое заключэнне адкінуў як падкоп і данос ворагаў[15].

Праўладны публіцыст Яўген Росцікаў, прыгадваючы сустрэчу Рады СП з Лукашэнкам, пісаў пра гэтую прэмію Някляеву: «И они своего добились. Как уже не раз случалось в нашей истории — именно побеждённые продиктовали свои условия победителям. С президентом был заключён некий “протокол”, по которому потекли из бюджета многомиллиардные суммы на поддержку ничтожнейших писательских изданий, повалили гранты и госпремии, которые президент, вопреки комитету по премиям, стал назначать своим указом. И первым таким указом он распорядился выдать госпремию председателю этой писательской Рады, поэту-песеннику Владимиру Некляеву»[16].

Сам жа лаўрэат гаварыў:

«— Калі атрымліваў Дзяржпрэмію, разумеў, што гэта не проста прэмія — аўматычна я прымаў іх правілы гульні. Аднак я ўключыўся ў гэтую гульню з разлікам выйграць. Гэта былі наіўныя ўяўленні, бо калі прэмію далі, а ты яе ўзяў, значыць, яшчэ адна гірка лягла на іх шалі. Я, вядома, загуляўся, хоць цудоўна разумеў, што хай гэта і апэрэтачная дзяржава, аднак усё ж гэта рэальная ўлада з турмамі, мянтамі, КДБ... У самым пачатку майго ўзаемадзеяння з Лукашэнкам ён пластылінава паддаўся, зрабіў выгляд, што нешта кумекае ў тым, пра што яму гавару. А гаварыў я пра многае — пачынаючы з нацыянальнай ідэі... Гэта была, безумоўна, памылка, якую сёння трэба прызнаць. Бо калі няма пазітыўнага выніку, значыць, памылка.

— *Гаварылі з Лукашэнкам пра нацыянальную ідэю? І што ён у адказ?*

— Вядома, я не гаварыў так прама, што, маўляў, давай падымем сцяг нацыяльнай ідэі, — гаварыў пра тое, што, уласна кажучы, з'яўляецца стрыжнем краіны, народа. Гэта ж не хлеб і не трактары — гэта той прадукт, які не бачны, які выпрацоўваецца духоўна і найбольш каціруемы. Гэта перш за ўсё мастацтва, якое з'яўляецца духоўным жыццём любой нацыі. І найвялікшыя дывідэнды атрымлівае тая краіна, якая ўсяляк дапамагае развіццю мастацтва. І хай у яго гэтыя замарочкі з мовай, якія я ўжо быў не ў стане пераламіць, але ёсць жа проста культурны складнік...

— *Якія замарочкі з мовай?*

— Ну, вось што беларуская мова яму ну ніяк — хоць застрэль яго! — яна ўсё роўна адамрэ.

— *Ён так гаварыў?*

— Ну, а як, калі чалавек заяўляе, што ёсць толькі кітайская і руская мовы? А ўсе гэтыя скобелевы толькі ўводзілі яму ў вушы, што замарочкі з беларускай мовай — дарэмная трата высілкаў... Спачатку ён неяк рухаўся да таго, але, як паказала практыка, відаць, толькі рабіў выгляд, што рухаўся ў бок таго, пра што я яму гаварыў, таму што ў выніку ўсё аказалася бессэнсоўна, усё было перамелена ў труху... Аднак і Замяталін рухнуў, і Скобелеў, у якога яшчэ пры Замяталіне адабралі мандат, таму ў яго не стала доступу нават у адміністрацыю...

— *Які мандат?*

— Пропуск, які дазваляў у любы час прыходзіць не да Лукашэнкі, але ў яго адміністрацыю.

— *У Вас таксама быў такі пропуск?*

— Недзе на працягу паўгода»[17].

«Но — они меня тянули к себе. Я им был нужен. Я стал замечать — обоймы пошли. С теми, с кем я, извините, рядом в туалете не буду, с ними меня печатают. Уже адсорбируют, — рэзюмаваў Някляеў іншым разам. — Я понимал, для чего это делаю — для каких-то общих задач развития литературы, культуры, а тут замечать стал, что если сделаю ещё один шаг... В общем, остался один шаг. Там нет такого, что ты можешь возле них танцевать. Или ты с ними, или нет. Но они вынуждали с ними быть. Мыслили примерно так: надавали тебе всего, что ж ты ещё хочешь?»[18]

Пра блізкасць Някляева да ўлады ў тыя часы не казаў, бадай, толькі гультай. Казалі і пра тое, што Някляеў у адной лазні з прэзідэнтам парыцца, і пра тое, што разам з Лукашэнкам на адным самалёце ў Расію лятае. І калі наконт лазні пляткары ўсё ж наблыталі (пасля Някляеў пісаў, што сапраўды хадзіў у лазню разам з прэзідэнтам, але не з тым, якога ўсе мелі на ўвазе, — той «прэзідэнт» быў бізнесоўцам, у мінулым — баксёрам цяжкой вагі; «прэзідэнтам» клуба аматараў лёгкай пары яго абралі Някляеў з сябрамі, бо шточацвер хадзілі разам з ім у лазню[19]), дык пра самалёт было праўдай. Зрэшты, са Смаленску, дзе ў снежні 1998-га святкаваўся 80-гадовы юбілей БССР, на які і паляцелі тады паэт з прэзідэнтам, вяртаўся паэт усё ж адзін і — не самалётам...

«Псіхалагічна я ўжо дайшоў быў да мяжы трывання — і тая паездка стала для мяне калі не вырашальнай, дык блізкай да таго, — засведчыць ён. — На ўрачыстым сходзе Лукашэнка прамаўляў, як звычайна, доўга і пра тое самае. Еднасць, адзінства... Пасля тое ж, прачнуўшыся на сцэне, пражаваў спікер расійскай Думы Селязнёў. Але ўсіх пераплюнуў мітрапаліт Смаленскі і Калінінградскі Кірыл. Абвясціў, узняўшы рукі і ўзвёўшы вочы да неба, што ён адукаваны чалавек, і калі ёсць яшчэ ў залі адукаваныя людзі, дык разам з ім яны ведаюць: не было і няма ніякіх украінскіх і беларускіх народаў і моў, а было і будзе адзінае рускае дрэва, на якім усё ўкраінскае і беларускае — штучна прышчэпленыя, калі не здзічэлыя, парасткі. Якія засохнуць, з якіх лістота ападзе, і зашуміць дрэва адным народам на адзінай мове, як задумаў Бог...

Зала ўскочыла пляскаць, і ўстаў пляскаць на сцэне прэзідэнт Беларусі. Якой не было і няма... [...]

Сумёты, якія ў лавіну зрываюцца, паступова нарастаюць — і не сцвярджаю, што ўсё вырашылася імгненна, у той момант... Калі глядзеў наўкол: дзе я і з кім? І дзеля чаго?.. Нібы раней не бачыў, не разумеў... Але знаходзіліся апраўданні. А тут захліснула, як горла пятлёй, і не прадыхнуць апраўданнямі.

Не было для чаго мне тут быць.

Назад з Лукашэнкам на самалёце ягоным я не паляцеў. Пайшоў на вакзал, купіў білет на цягнік. Ехаў, колы тахкалі: так — не так, так — не так...

Галава адміністрацыі Міхаіл Мясніковіч пасля дапытваў: як гэта — не сесці ў прэзідэнцкі самалёт?..»[20]

Іншым разам Някляеў скажа: «І калі ён [мітрапаліт Кірыл. — *С. Ш.*.] гэтую дурату прагаварыў, падымаецца прэзыдэнт Беларусі і пачынае пляскаць у далоні. Чалавеку, які сказаў, што Беларусі — нямашака! Калі нямашака Беларусі, то скуль ты ўзяўся, беларускі прэзыдэнт?! Чаму ты стаіш і пляскаеш? Тут ужо сьвядомасьць не ўключаецца, гэта нешта інфэрнальнае, надсьвядомаснае, і з гэтым немагчыма справіцца... І якраз пасьля гэтага я на прэзыдэнцкі самалёт ужо ня сеў. У які самалёт сядаць, куды ляцець, у якую Беларусь — якой няма?! Дадому вярнуўся на цягніку»[21].

Хоць дзеля справядлівасці трэба яшчэ вярнуцца ў 1996 г., калі Някляеву споўнілася 50 гадоў, з чым і павіншаваў яго тады Лукашэнка:

«Беларускаму паэту
Някляеву У. П.

Шаноўны Уладзімір Пракопавіч!

Віншую Вас, вядомага беларускага паэта, з 50-годдзем з дня нараджэння.

Як прызнаны творца нацыянальнай паэзіі Вы шчодра аддаеце свой талент беларускаму народу, сілай мастацкага слова выхоўваеце ў падрастаючым пакаленні любоў і пашану да нашай Айчыны.

Жадаю Вам моцнага здароўя і творчага плёну. Няхай Ваша паэтычная зорка і надалей ярка гарыць на небасхіле беларускага мастацтва.

*А. Лукашэнка*

*9 ліпеня 1996 г.»*[22]

У гэтым віншаванні ў любой цывілізаванай краіне не было б нічога дзіўнага, але толькі не ў Беларусі, бо і тады, і пасля Лукашэнка віншаваў з юбілеем пераважна расійскіх балерын, актрыс ды акцёраў, у сваёй жа краіне калі некага й віншаваў, дык зрэдчас і — палітычна-выбіральна. Так, да прыкладу, Янку Брыля, Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна — між іншым, старэйшых за Някляева і да таго ж народных пісьменнікаў Беларусі — не павіншаваў ані разу, а Някляева

— калі ласка. А гэта таксама пра многае казала. Хоць, дарэчы, дасюль дакладна невядома, ці чытаў калі-небудзь Лукашэнка «признанного творца национальной поэзии». Усім расказваў, што чытаў, але падчас прыгаданай сустрэчы з Радай СП прызнаўся, што сучаснай літаратуры не ведае[23].

«Так, былі “добрыя адносіны з уладамі”... Ледзь ня званьне прыдворнага паэта... Што ўжывалася з багемнасьцю, са статусам, у якім заўсёды існавалі паэты пры двары, — ці то блазна, ці то штатнага блюзьнера, патэнцыйна небясьпечнага... Трохі свой сярод чужых, трохі чужы сярод сваіх...»[24]

Між тым дзеля ўсё той жа справядлівасці трэба таксама прыгадаць, што менавіта ў рэдагуемай Някляевым «Крыніцы» друкаваўся Зянон Пазьняк, які, асцерагаючыся фізічнага знішчэння, вымушаны быў у 1996 г. бегчы за мяжу, адкуль цяпер пісаў:

Вячэрнія промні
    на жоўтай траве,
Як і на Бацькаўшчыне.
Але гэта не Бацькаўшчына.

*2.09.1996. Нью-Ёрк*[25]

Гэта са старонак «Крыніцы» гаварыла пісьменніца Алена Васілевіч: «Прэзідэнт Украіны Кучма ў Канадзе — пры афіцыйным пратаколе, — пакуль не забяспечылі яму перакладчыка з яго роднае — украінскае! — мовы, на ч у ж о й мове не сказаў ні слова! Гонар нацыі.

У Беларусі — пасля п р э з і д э н ц к а г а рэферэндуму — жыхарства рэспублікі атрымала з а к о н н ы (?!) дазвол адмовіцца ад беларускае мовы. Мовы н а ц ы і!

І прэзідэнт рэспублікі і дагэтуль нават не здольны ўразумець, як ён перад усім цывілізаваным светам с а м с я б е... в ы с е к!

...Пра якую перспектыву можна весці гаворку пры такім лікбезаўскім узроўні дзяржаўнага “мыслення”?»[26]

І гэта зноў жа тут, у някляеўскай «Крыніцы», была прыдуманая рубрыка «Калі б я быў прэзідэнтам», у якой друкаваліся занадта ўжо свабодалюбівыя аўтары. Так, да прыкладу, дзядзька Васіль з хутара Ясенец заяўляў, што калі б быў прэзідэнтам (праўда, толькі Алімпійскага камітэта), дык загадаў бы: «Сканфіскаваць усе каталіцкія саборы і касцёлы (фарныя і няфарныя, катэдральныя і некатэдральныя), капліцы і бажніцы, могілкі і капішчы і аддаць іх у арэнду тым жа каталікам, — хай плацяць, калі правільна хрысціцца не навучыліся [...].

Тое самае — з пратэстантамі: хай сабе пратэстуюць, але ж не за так, не бясплатна [...].

Тое самае з басурманамі, з юдэямі: гэтым увогуле храмы не патрэбныя [...].

Праваслаўных не чапаць — яны права славяць, і вышэйшае нябеснае, і найвышэйшае — маё прэзідэнцкае [...]»[27].

У сваю чаргу Вольга Куртаніч пісала: «Быць прэзідэнтам — не хвароба, не стан душы, а простае **вызначэнне**, якое дае права на маналагічнасць быцця. Усё, што знаходзіцца за мяжой: я *прэзідэнт* — фікцыя, але ж і фікцыя павінна існаваць у атмасферы сімпатыі. А ўбіцца ў ласку неабходна хаця б з таго, каб падначаленыя грамадзяне не ўведалі ісціны, згодна з якой “галоўнай небяспекай для чалавецтва з’яўляецца не садыст, не забойца, а нармальны чалавек, надзелены незвычайнай уладай” (паводле Э. Фрома). Але ж надзеленым незвычайнай уладай цяжка захоўваць маральнае і псіхічнае здароўе. І калі б у краіне, дзе дагэтуль не існавала інстытута прэзідэнцтва, мне дасталася гэтая пасада (гэтая роля), жадаючы захаваць яе за сабой да скону жыцця, я б стала прэзідэнтам-дыктатарам.

А таму:

палічыла за неабходнасць праявіць унутраны, дагэтуль прыхаваны, садызм, каб пазбавіць масы народу праяваў прыналежнасці да *мне падобнага* (хіба прэзідэнт і народ павінны мець нешта агульнае?); і калі не ў маёй уладзе зрабіць **нас** цалкам адрознымі, а гэта значыць: я — жывая, яны — нежывыя, дык праз свае магчымасці максімальна набліжаюся да гэтай мэты: я — жывая, яны — не свабодныя, як бы і не жывыя... [...]

напачатку майго кіравання мне давялдзецца сутыкацца з цяжкасцямі: устаўлёваць кантроль дзяржавы над сродкамі масавай інфармацыі. Але імідж Таго, Хто Збіраецца (назаўжды) Кіраваць Масамі, — вымагае рашучых дзеянняў: я, сціплая, у эфіры; я, адкрытая і чэсная, — на экране; я, усё яшчэ сціплая, але рашучая, размаўляю... размаўляю... гутару, покуль не надыдзе эпоха безудзельнага маналога; я, навучаная слоўніку дыктатараў, моцная і заўжды правая! Апазіцыі ў сродках масавай інфармацыі больш неназіраецца... [...]»[28].

А калі б прэзідэнтам быў Яўген Гучок, ён, калі б «атрымаў жыццё па-за шлюбам сваёй маці — бакуном», «знайшоў бы свайго бацьку, прымірыў бы іх з маці і зрабіў бы іх палымянымі патрыётамі Беларусі». А калі б быў лысаваты, «ніколі не начэсваў бы валасоў на плех. Я проста хадзіў бы лысаваты, як, скажам, Сакрат ці Цэзар, і не хаваў бы сваёй прыроднай мясціны. Адным словам, і тут бы не хлусіў»[29].

...Між іншым, пазнаёміўся Някляеў з Лукашэнкам яшчэ тады, калі не тэлебачанне ехала да яго, прэзідэнта, а сам ён шукаў магчымасці, каб толькі яго запрасілі на тое тэлебачанне:

«З Аляксандрам Лукашэнкам (старшынём саўгасу[30]) і Зянонам Пазьняком (навукоўцам) я пазнаёміўся ў розны час, але ў адным месцы: на студыі тэлебачаньня, — прыгадваў Някляеў. — З Пазьняком — на праграме пра захаваньне старога Менску (пры будаўніцтве мэтро), з Лукашэнкам — на праграме пра вынікі Чарнобылю. [...]

У праграме з удзелам Пазьняка бралі ўдзел людзі казённыя (з гарвыканкаму, Саўміну), якія, як ні намагаўся я выправіць сытуацыю, Пазьняку амаль нічога не далі сказаць. І ён, адсунуўшы мікрафон, замаўчаў дэманстратыўна...

У праграме з удзелам Лукашэнкі таксама бралі ўдзел казённыя людзі (з Саўміну, з Акадэміі навук), якім, як ні намагаўся я выправіць сытуацыю, Лукашэнка амаль нічога ня даў сказаць. Захапіўшы мікрафон, ён гаварыў і гаварыў несупынна...

Пасьля праграмы пра вынікі Чарнобылю старшыня Дзяржтэлерадыё Генадзь Бураўкін сказаў мне: "Глядзі, каб гэтага *(ненарматыўная лексыка)* ані ў якай праграме болей не было, ён усё тэлебачаньне замудазвоніць..."

Неяк я напомніў пра тое Бураўкіну — ён запярэчыў: "Нешта ты блытаеш, не казаў я такога".

Магчыма, блытаю: ня ён казаў... Але ж нехта казаў... І не магу ўспомніць: хто гэта ўжо тады быў такі прадбачлівы?»[31]

Праз дзесяцігоддзе Някляеў паспрабаваў пераасэнсаваць тыя падзеі, удзельнікам якіх ён некалі быў, і, прыводзячы меркаванне Генадзя Бураўкіна, што ён, Някляеў, усё правільна рабіў, «спрабуючы некалі Лукашэнку на наш бок перацягнуць. Удала ці няўдала рабіў — гэта іншая справа, але правільна. Шкада, што не давёў усё да нейкага лагічнага канца», цяпер пісаў: «Думкі такія з'явіліся ў галаве Генадзя Мікалаевіча пасля таго, як Вітаўт Кіпель давёў яму, што зацятая канфрантацыя з уладай — не самае лепшае, а самае горшае з таго, што мы, літаратары, маглі зрабіць і зрабілі на шкоду Беларусі і беларушчыне. Васіль Быкаў, ён, я... Тую ж самую памылку дапусціў перад намі Зянон Пазняк, і гэта стала нібыта ўзорным стылем паводзін апазіцыі, а насамрэч — рамантычнай дуратой. Сапраўдная палітыка — гэта перш за ўсё гнуткая сістэма дамоўленасцяў і кампрамісаў»[32].

І адказваючы неяк на пытанне: «Ці не сорамна Вам за тое, што калісьці стаялі побач з Лукашэнкам і дапамагалі яму сваім аўтарытэтам?», Някляеў парыруе: «Калі я ў нечым і дапамагаў яму, дык хіба ў тым, каб ён стаў беларусам. Не надта, праўда, здолеў дапамагчы. Але я быў на той час, бадай, адзіным літаратарам, якога насамрэч ва ўладзе слухалі, і які мог рэальна на нешта ўплываць. Прынамсі, на прыняцце рашэнняў паводле парламенцкіх слуханняў па пытаннях нацыянальнай мовы і культуры, спыненне выкладання гісторыі Беларусі па-руску, напісанне беларускай прамовы Лукашэнкі (на жаль, першай і адзінай) у дзень незалежнасці»[33].

«Спачатку Лукашэнка хацеў зрабіць *сваім пісьменнікам* лейтэнанта Быкава, пасля *любімым пісьменнікам,* як аднойчы сказаў лейтэнант Быкаў, спрабаваў зрабіць радавога Някляева... Займеў урэшце генерала Чаргінца.

Што ж, усё, як мае быць. Па рангу»[34].

...Напрыканцы 2000-х гг. Някляеў распачне (дый так і не завершыць) працу над фантасмагарычнай аповесцю, адным з дзеючых персанажаў якой будзе прэзідэнт Алесь Лукашэнка. І хоць, друкуючы ў «Нашай Ніве» фрагмент з новага твора, Някляеў папярэджваў: «Заўвага: прыдуманыя аўтарам імёны пэрсанажаў аповесьці могуць выпадкова супадаць з імёнамі рэальных людзей», але прататыпічнасць была відавочная:

«Пазьняк біўся за тое, каб не было на версе ўлады чалавека, якога раздражняе ў Беларусі беларускае, на што і рабіў ён акцэнт на мінулых прэзыдэнцкіх выбарах — і зрабіў памылку. Чым больш распавядаў ён пра антынацыянальнае ў заядлым лідэры нацдэмаў, даводзіў, што той ня можа быць беларускім прэзыдэнтам, тым больш гэта выклікала цікавасьці да ягонага суперніка, дадавала яму папулярнасьці. Асабліва пасьля таго, як Лукашэнка на Буйніцкім полі пад Магілёвам, у літаральным сэнсе ў чыстым полі пад чыстым небам склікаў сход нацдэмаў, і людзей на тым полі было, як травы, і Пазьняк ганаравовым госьцем на партыйны зьезд зьявіўся, бо ня мог адмовіцца ад запрашэньня, інакш Лукашэнка не прамінуў бы зьвінаваціць яго ў непавазе да партыі, якая здабыла для Беларусі волю і незалежнасьць, і яны ўдвух, два кандыдаты ў прэзыдэнты, селі ў чыстым полі за стол, засланы бел-чырвона-белым, як сьцяг, абрусам, на якім чамусьці ляжала лапата, і подлы Лукашэнка ўстаў і нечакана спытаў ва ўсіх, ці даваць Пазьняку слова, калі, па-першае, усе неаднойчы чулі, што сьпікер Сойму пра яго, старшыню нацыянал-дэмакратычнай партыі, распавядае, а, па-другое, словы — пустое, калі няма за імі дзеяньняў, учынкаў... і тут Лукашэнка ветліва папрасіў ганаровага госьця падняцца, і двое бамбізаў, падобных на далакопаў, аднесьлі стол, які, аказалася, стаяў на дошках, што накрывалі яміну, магілу... і над той магілай Лукашэнка пачаў клясьціся ў любові да крэўнай зямлі, у сьвятой вернасьці Беларусі і яе народу, а калі, маўляў, хоць слова з таго, што выдумляе пра яго Пазьняк, праўда, дык ён, Алесь Лукашэнка, гатовы есьці зямлю!.. і вось, калі ласка, лапата, бо такога злыдня, якім Пазьняк яго малюе, такога ворага Беларусі жывым пакідаць нельга, ён бы ні за што не пакінуў!.. і, ткнуўшы ў рукі Пазьняку лапату, Лукашэнка скочыў у магілу, лёг там, тэлекамэра паказвала на ўсю краіну, як ён глядзеў, нібы замучаны сьвяты, у васільковыя беларускія нябёсы, а Пазьняк стаяў над ім з лапатай, вар'яцеючы, ня ведаючы, што рабіць: ня скідваць жа яму, хрысьціяніну, магільную зямлю на жывога чалавека...

"Твая праблема ў тым, — кінуўшы лапату, казаў ён самому сабе, — што ты археоляг: умееш толькі раскопваць, а закопваць — не". Але колькі разоў потым ён — дый ня ён адзін — пашкадаваў, што не закапаў!.. І колькі разоў пасьля той жа Лукашэнка пытаўся зьедліва: "Шкадуеш, што не закапаў?.. Шкадуеш! Толькі позна, позна..."

А ўсяго ж гэтага магло ня быць. Хоць ці мала чаго магло ня быць, а яно ёсьць»[35].

Узгадваючы праз чатыры гады незавершаную аповесць і прыведзены вышэй эпізод, Някляеў занатуе: «Эпізод прыдумаўся, але ён нібыта з іншага тэксту, не з той аповесці, якую хацеў напісаць, і цяпер не ведаю ні таго, што рабіць з гэтым эпізодам, ні таго, што рабіць з той аповесцю...

Хіба ўзяць у Пазняка лапату і закапаць?»[36]

*(Працяг будзе)*

---

[1] Паводле: Пісьмянкоў А. «Я там, дзе сам...» / гутарка з У. Някляевым // Літаратура і мастацтва. 2000. 17 лістап.

[2] Невыпадкова Лукашэнка засведчыў падчас сустрэчы, што ў яго атачэнні ёсць і такія, якія раілі яму: «Александр Григорьевич, вы не должны с ними встречаться, это ваши “ворагі”!» «Ну, якія ёсць, што ж зробіш? Можа, “ворагі”, а можа, і не», — рэзюмаваў Лукашэнка (паводле: Президент — писатели: диалог во имя Беларуси: стенограмма встречи А. Г. Лукашенко с членами Рады Союза белорусских писателей 5 августа 1998 г. // Советская Белоруссия. 1998. 16 сент.).

[3] Некляев В. Антиподы и эфиопы // Народная воля. 1999. 8 чэрв. Увогуле, адносіны паміж Лукашэнкам і непатапляльным Замяталіным здаюцца дзіўнаватымі, калі, напрыклад, узгадаць, што ў 1994 г. гаварыў Замяталін, у той час прэс-сакратар прэм’ер-міністра Рэспублікі Беларусь Вячаслава Кебіча, пра Лукашэнку, які быў тады кіраўніком часовай парламенцкай камісіі па барацьбе з карупцыяй: «...известный в Беларуси “правозащитник” Лукашенко, стремясь заполучить президентское кресло, не брезгует откровенно грязными методами: неприкрытой ложью, сплетнями и другими выходками [...]. Коррупция будет расцветать пышным цветом, если коррупционерами людей будет называть не суд, а Лукашенко и другие, подобные ему политики, безумствующие от желания получить властный портфель. Чем больше размер такого портфеля, тем больше степень безумства» (БЕЛИНФОРМ. В. Заметалин обвиняет А. Лукашенко // Вечерний Минск. 1994. 31 марта).

[4] Рэакцыя Лукашэнкі на выступленне Някляева, які гаварыў: «Для мяне праўда тое, што Расія — крэўная сястра, бо я па бацьку рускі і на Волзе жыве палова маёй радні» (Аўтарызаваны машынапіс. Арыгінал. Архіў Ул. Някляева).

[5] Між тым у адносінах да беларускага паэта Славаміра Адамовіча, аўтара верша «Убей президента!», была ўзбуджана крымінальная справа, у выніку чаго ён дзесяць месяцаў, з красавіка 1996 г. да лютага 1997 г., знаходзіўся пад арыштам, і толькі пасля быў адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе.

[6] Президент — писатели: диалог во имя Беларуси // Советская Белоруссия. 1998. 16 сент. Таксама надрукавана: Народная газета. 1998. 16 верас.

[7] Друкуецца паводле стэнаграмы. Архіў У. Някляева.

[8] Беляцкая М. Без вины виноватый В. Некляев // Свободные новости. 2001. 1—8 июня. У той час Някляеву нават прапаноўвалі, «чтобы с экрана говорил, какая хорошая власть, какие плохие демократы и как интеллигенция и писатели поддерживают власть!» (Тамсама).

[9] Сустрэча Лукашэнкі з сябрамі Рады СБП адбылася 5 жніўня 1998 г., яе скарочаная стэнаграма была надрукавана больш чым праз месяц. Друкаваць яе было вырашана таму, што «не все из тех, кто имеет отношение к литературе, белорусскому языку и культуре, должным образом информированы о ходе встречи и содержании разговоров писателей с Главой государства» (з уступнага слова да публікацыі).

[10] Коктыш М. Пустыя нябёсы Уладзіміра Някляева / інт. з У. Някляевым // Народная воля. 2000. 28 студз.

[11] Машынапіс на афіцыйным бланку прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, другі экзэмпляр (?). Подпіс — аўтограф. Архіў У. Някляева.

[12] Паводле ліста за № 9/1 ад 19 студз. 1999 г. Машынапіс на афіцыйным бланку Рады СБП. Подпіс — аўтограф. Арыгінал. Архіў У. Някляева.

[13] Некляев В. Антиподы и эфиопы // Народная воля. 1999. 8 чэрв.

[14] Мы і на волі нявольныя / інт. В. Гарадзейчык з У. Някляевым // Ніва (Беласток, Польшча). 1999. 15 жн.

[15] Паводле: Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў. С. 458—459.

[16] Ростиков Е. Ржавые перья // Завтра. 1999. № 15.

[17] З гутаркі аўтара кнігі з У. Някляевым. Люты 2001 г. Часткова надрукавана: Кто соскучился, кто ссучился... / инт. с В. Некляевым // Белорусская деловая газета. 2001. 27 февр.

[18] Шарай Н. Владимир Некляев: Поэт больше не пророк / инт. с В. Некляевым // Снплюс. Свободные новости плюс. 2003. 9—16 окт.

[19] Паводле: Караткевіч В. Уладзімер Някляеў: Я вельмі люблю Менск // Наша Ніва. 1999. 26 ліп.

[20] Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў. С. 458.

[21] Скобла М. Вольная студыя. С. 277—278.

[22] Ліст на афіцыйным бланку прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Машынапіс. Подпіс — аўтограф. Арыгінал. Архіў У. Някляева. Надрукавана: Белорусская нива. 1996. 16 июля.

[23] Паводле: Караткевіч В. Уладзімер Някляеў: Я вельмі люблю Менск // Наша Ніва. 1999. 26 ліп.

[24] Рублеўская Л. Маланка і пчала // Дзеяслоў. 2008. № 3 (34). С. 299.

[25] Зянон. «Вячэрнія промні...» // Крыніца. 1996. № 8. С. 36.

[26] Галубовіч Л. «Схіляюся над белаю старонкай...» / гутарка з А. Васілевіч // Крыніца. 1996. № 10. С. 9.

[27] Дзядзька Васіль. Калі б я быў прэзідэнтам // Крыніца. 1997. № 9. С. 110.

[28] Куртаніч В. Калі б я быў прэзідэнтам // Крыніца. 1997. № 10—11. С. 106, 107.

[29] Гучок Я. Калі б я быў прэзідэнтам // Крыніца. 1997. № 10—11. С. 111.

[30] Насамрэч — дырэктарам саўгасу.

[31] Някляеў У. Знакі прыпынку // Наша Ніва. 2006. 20 студз.

[32] Някляеў У. Знакі прыпынку. С. 171—172. Упершыню: Някляеў У. Знакі прыпынку // Наша Ніва. 2010. 24 сак.

[33] Паводле газеты «Праўда Някляева» без выходных дадзеных (2010).

[34] З цыкла «Знакі прыпынку». Друкуецца паводле электроннага носьбіту з архіва У. Някляева.

[35] Някляеў У. Дзень нямецкай арміі: урывак з аповесьці // Наша Ніва. 2008. 27 сак.

[36] Някляеў У. Знакі прыпынку. С. 107.

Юры Пацюпа, Вячаслаў Мартысюк



...каб тэкст
стаў народным,
ён павінен прайсці
гэтак званую
грамадскую цэнзуру...



# Праўда дзесьці побач*

***Пра атрыбуцыю і фальклярызацыю***

*Заканчэнне. Пачатак у №76.*

## САКРАМЕНТАЛЬНАЕ XIX СТАГОДДЗЕ

Аглядаючы вынікі атрыбуцыйнай практыкі нашых апанентаў, нельга не звярнуць увагі, што ўсе імкнуцца выявіць невядомыя творы менавіта XIX стагоддзя і ніяк не менш. Гэтым самым ускосна сцвярджаецца яго харызма, арэол запаветнай мары, недасягальнай жаданасці. Цэнтральнай жа фігурай, вянцом эпохі выступае, як мы пісалі, Францішак Багушэвіч. Мэта спакваля перарастае ў веру, што ледзь не кожны незнаёмы тэкст трапіў у вусны народа з рукапісаў, але ніяк не з друкаваных жаролаў, таму праца з друкамі і не вядзецца. Збіраюцца сведчанні землякоў, прыцягваюцца факты з біяграфіяў, робіцца г. зв. ідэйна-стылёвы аналіз тэкстаў – што хочаш, толькі не праца з друкаванай прадукцыяй. Хоць зразумела, што рукапіснае слова не можа

* З меркаванняў чыста палемічных так выйшла, што ў гэтага эсэ адзін апавядальнік: *Юры Пацюпа*, але два аўтары: *Юры Пацюпа* і *Вячаслаў Мартысюк*, таму аповед вядзецца то ад адной асобы, то ад дзвюх.

канкураваць з друкаваным, і паводле законаў імавернасці ў рукапіснага слова менш шанцаў застацца ў памяці, чым у слова друкаванага, бо ў яго менш чытачоў. Аднак І. Запрудскі друкуе тэкст, запісаны *«ў Мінску ў 1989 г. студэнткай І курса Вольгай Аркадзевай ад Зінаіды Іванаўны Зайцавай (1930 г. н.) з вёскі Загароддзе Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці»*[1] з верай, што *«некалі адшукаецца аўтар пакуль ананімнага твора»* і з яўнай устаноўкай на яго неапублікаванасць:

> *«Думаецца, што наўрад ці ён друкаваўся на старонках гумарыстычных выданняў»*[2].

Гэты твор пра шлюб ваўка і лісіцы толькі на першы пагляд здаецца «безнадзейным». Сапраўды, «загугліванне» радкоў нічога не дало, але аналіз мовы і кантэксту адразу вывеў на аўтара. На падставе папярэдніх вынікаў нельга не заўважыць простую заканамернасць: на тэрыторыі былой савецкай Беларусі фіксуюцца творы савецкіх аўтараў, а на землях заходняй Беларусі – творы заходнебеларускіх паэтаў. Бальшыня твораў у свой час публікавалася. І Мінск, і Бешанковічы ў 30-я гг. – савецкія землі. Аднак савецкія паэты не маглі ў такой вялікай колькасці ўжываць ненарматыўныя і нехарактэрныя для беларускай мовы формы: дзеясловы з постфіксам *-сь* – *грызлісь, мірылісь, пасварылісь, прыключылась*, кароткія прыметнікі – *вяліка, дзіка*, слова *даждацца*, а вось у XIX ст. і ў заходняй Беларусі – маглі. Затое не магло быць у XIX ст. ніякага *«хру-хру»*, калі ёсць беларускае *рох-рох*, гэта для сучаснага гараджаніна што *«хру»*, што *рох* – адна халера. Дый тое ж *прыключыцца* ні да чога не пасуе. Значыць, у аснове тэксту не беларуская мова, а ўкраінская, і тэкст трэба «ўкраінізаваць», а тады «загугліваць». На ўкраінскі след паказвае і злучнік *тай*, які з беларусаў ужываў толькі Савіч-Заблоцкі, і слова *жынка*, якое наагул не стаў бы **без патрэбы** ўжываць аніводзін паэт XIX ст., дый пазнейшай пары не стаў бы.

Пасля «ўкраінізацыі» тэксту Гугл адразу выдаў цэлы спіс адсылак. Як выявілася, верш належыць буйному ўкраінскаму паэту-гумарысту Паўлу Глазавому (1922–2004) і вельмі папулярны ва ўкраінскім кантэксце[3]. Шуканне больш аўтарытэтнага жарала для спасылкі выявіла яшчэ адну акалічнасць: байка Глазавога бытуе ў сеціве ў розных варыянтах і часта ананімна, яна стала элементам сеціўнага «фальклору»[4], і менавіта ў такім выглядзе асабліва цікавая для нас. Тут мы змясцілі дзве версіі для параўнання з беларускай. У кожнай з іх ёсць радкі, якія зближаюцца з беларускім тэкстам і ёсць якія аддаляюцца, але ніводная версія не была жаралом для беларускай, бо ні злучнік *тай*, ні гукаперайманне *хрю* ў іх не трапляецца. Не магло *тай* з'явіцца і на тутэйшым грунце (*хрю* ў наш час магло). Значыць, была яшчэ і, мабыць, не адна, рэдакцыя байкі.

| **Павло Глазовий «Вовча сімейка» (варыянт І)** | **Павло Глазовий «Вовча сімейка» (варыянт ІІ)** | **Беларуская версія** |
|---|---|---|
| Вовк женився на лисиці:<br>Гризлись, не мирились!<br>Дня такого не бувало,<br>Щоб не посварились!<br>Трохи згодом приключилось<br>Диво в них велике:<br>У лисички народилось<br>Поросятко дике!<br>Вовк лисицю заїдає –<br>Хоче докопатись:<br>«Звідкіля воно взялося?<br>Як це могло статись?» | Вовк женився на Лисиці,<br>Гризлись – не мирились.<br>Дня такого не бувало,<br>Щоб не посварились.<br>Приключилося недавно<br>Диво в них велике –<br>У Лисиці народилось<br>Поросятко дике.<br>Вовк Лисицю заїдає,<br>Хоче докопатись,<br>Звідкіля воно взялося,<br>Як могло так статись. | Воўк жаніўся на лісіцы,<br>Грызлісь, не мірылісь,<br>Дня такога не было,<br>Каб не пасварылісь.<br>А нядаўна прыключылась<br>Дзіва тай вяліка:<br>У лісіцы нарадзілась<br>Парасятка дзіка.<br>Воўк лісіцу заядае,<br>Хоча дапытацца:<br>– Адкуль «хру» ўзялося?<br>Як магло так стацца? |

| | | |
|---|---|---|
| «А це – ти, – лисиця каже,<br>Сам же й постарався::<br>Називав мене свинею,<br>То свого й діждався!»<br>Намотай собі на вуса,<br>Якщо маєш жінку:<br>Не сварися з нею часто,<br>Бо підсуне свинку! | А Лисиця йому й каже:<br>Сам же постарався,<br>Називав мене свинею<br>І свого діждався...<br>Намотай собі на вуса,<br>Якщо маєш жінку:<br>Не кажи «свиня» на неї,<br>Бо підкине свинку. | – А ты сам, – лісіца кажа, –<br>Сам і пастараўся,<br>Абзываў мяне свіннёю,<br>Ад таго й даждаўся!<br>Ты запомні харашэнька,<br>Калі маеш жынку,<br>Не сварыся з ёю часта,<br>Бо падсуне свінку. |

А вось што піша пра гэты тэкст І. Запрудскі:

*«Жанр быў вызначаны як жарт. Відавочна, гэта байка, напісаная найкаларытнейшай мовай. Некаторыя сінтаксічныя канструкцыі і граматычныя формы наводзяць на думку, што твор мог узнікнуць у той час, калі беларуская мова не была яшчэ літаратурна апрацаванай. Асаблівую ўвагу звяртае тая акалічнасць, што персанажамі выступаюць Воўк і Лісіца. Менавіта гэтыя ж героі фігуруюць і ў дайшоўшых да нас творах «Старшына», «Суд» і «Воўк і Лісіца» вядомага байкапісца і мемуарыста XIX ст. Альгерда Абуховіча»*[5].

Пра ваўка і лісіцу – ну вельмі пранікліва, хай даруе нам шаноўны аўтар, нешта ў духу інспектара Лейстрэда. Няўжо, калі цвяроза разважыць, для байкара характэрна зацыкліванца на тых самых персанажах? Толькі ў тым разе, калі ён стварае цыкл, што не часта здараецца. У астатніх выпадках кожны творца ўразнастайвае свой рэпертуар. Праўда, Глазавы якраз і напісаў цыкл баек пра ваўка і лісіцу[6], але ў Абуховіча і намёка няма на цыклізацыю, ён бы хутчэй шукаў новых герояў. Зрэшты, не будзем гаварыць за паэта, вернемся да атрыбуцыі. І. Запрудскі ідзе далей і лічыць, што гэтая байка аўтабіяграфічная (sic!):

*«Ён прызнаваўся, што ніколі не любіў сваёй другой палавіны і супольнае жыццё было нешчаслівым. <...> Пра карэктнасць і правамернасць паралеляў, якія напрошваюцца пры параўнанні зместу байкі «Воўк жаніўся на лісіцы...» з сямейнымі перыпетыямі А. Абуховіча, шырэй гаварыць не будзем. Аднак адзначым, што Абуховічава байка «Ваўкалак» мае відавочны аўтабіяграфічны характар»*[7].

Аўтабіяграфічная? Байка? Ну добра, хай сабе. Хоць як на нашу думку, аўтабіяграфізм – адзнака лірыкі. Будзем лічыць, што гэта нейкі новы павеў біяграфічнага метаду. Але, зноў жа, удумаемся: выходзіць, Альгерд Абуховіч абзываў сваю жонку свіннёю за тое, што не кахаў? Хай не абзываў, проста зняважліва ставіўся. І гэта на поўным сур'ёзе напісана пра шляхціча і паэта-дэмакрата? На якой падставе? Нейкая знявага памяці паэта, чыстая ілжа, і нават не смешна. Але і тут няма пра што спрачацца – факты ставяць кропку ў праблеме аўтарства. Адно заўважым, што такімі метадамі можна што хочаш давесці, і пра гэта варта пагаварыць асобна.

Адной з цэнтральных тэмаў кнігі І. Запрудскага ёсць праблема аўтара паэмы «Тарас на Парнасе»[8]. І. Запрудскі лічыць, што Г. Кісялёў паспяшаўся атрыбутаваць паэму як твор Канстанціна Вераніцына, а насамрэч імаверным аўтарам паэмы варта лічыць Ялегі Пранціша Вуля. Не будзем сцвярджаць, што мы фанатычныя прыхільнікі версіі Вераніцына і катэгарычна адмаўляем гіпотэзу Вуля, але прызна́емся, не так захоплена ўспрымаем апошнюю, як наш апанент. Лічым, што тут ёсць спакуса скамбінаваць генія на падставе аднаго добрага творцы і сучасных яму неатрыбутаваных твораў. Хто напісаў «Слова пра паход Ігараў»? Вядома ж, Кірыл Тураўскі, ён жа найярчэйшая постаць старажытнай Русі! А хто напісаў «Тараса на Парнасе»? Вядома, Паэт з вялікай літары... Версія пра

Тураўскага, трэба зацеміць, узятая чыста дзеля аналогіі і не мае дачынення да кнігі І. Запрудскага, а здагадка наконт Вуля не такая ўжо беспадстаўная. Нават Г. Кісялёў дапускаў суаўтарства Вераніцына і Вуля[9]. Цікава, што працуючы з найстарэйшай рэдакцыяй паэмы паводле рукапісаў А. Рыпінскага, мы заўважылі неадпаведнасці ў мове розных строф, але гэта мог быць і вынік неакуратнага перапісвання. Сур'ёзных падстаў для перагляду версіі Г. Кісялёва пакуль што няма. Калі каму не падабаецца імя *Вераніцын* на тытуле, няхай чытае яго так, як чытаецца імя *Шэкспір*, імя *Гамер*, найменне *Псеўда Дыянісій*, якія былі і будуць незалежна ад вынікаў атрыбутавання.

У свой час Г. Кісялёў добра папрацаваў і вылучыў гіпотэзы, вартыя даверу, якія менавіта дзеля іх вартасці перасягнулі свае абсягі, сталі легендай XIX ст. у самым пазітыўным сэнсе. Калі сюды прымяркоўваюцца даўнейшыя прыпісванні паэмы А. Вярыгу-Дарэўскаму, В. Дуніну-Марцінкевічу, то гэта не зусім карэктна, нельга на адну дошку ставіць вартую даверу гіпотэзу і яўна памылковае сцверджанне. Весці дазнанне можна спакайней, не біць, як той казаў, у хамут, не панікаваць, не ператасоўваць бясконца факты, усё вяртаючы да нуля. Вынікі Г. Кісялёва вельмі падобныя да праўды і менавіта таму маюць каштоўнасць. Ніхто не замінае сумнявацца ў аўтарстве «Тараса на Парнасе», як і «Пінскай шляхты», але сумнеў – не падстава, каб казаць: «Пінская шляхта» – ананімны твор. Так можна шмат што пакінуць без аўтара, асабліва ў XIX стагоддзі. Зрэшты, гульні філолагаў пакінем для філолагаў. У наш час лібералізму, постмадэрнізму і дэканструкцыі сярод інтэлектуалаў пашырылася мазахісцкая тэндэнцыя ўсё паддаваць сумневу, разбураць рэчы, здавалася б, неаспрэчныя. Не дзіва, што адносна свежая версія Кісялёва лёгка змятаецца яшчэ больш свежай, якая мае яшчэ менш шанцаў на давер, чым папярэдняя, як у той Зенонавай апорыі: Геркулес ніколі не дагоніць чарапаху.

Але нас цікавіць не аксіялогія постмадэрнізму, а тое, як І. Запрудскі атрыбутуе паэму, ці ёсць там хоць нейкая новая інфармацыя, якой не ўлічыў Г. Кісялёў. На жаль, уся аргументацыя наконт Вулевага аўтарства зводзіцца да таго, які гэта быў цудоўны чалавек і таленавіты творца. Ён проста не мог не быць аўтарам! А довад супраць Вераніцына такі: не пакінуў пасля сябе іншых літаратурных твораў. У гэтай гіпотэзе ёсць адзіная факталагічная зачэпка: і Вераніцын, і Вуль былі землякі, абодва вучыліся ў Горы-Горацкім земляробчым інстытуце. І ўсё, далей спрачацца няма сэнсу, бо іншых довадаў няма. Раздзел пра паэму густа насычаны вядомымі біяграфічнымі звесткамі пра Вуля і скупой інфармацыяй пра Вераніцына. Можна ўявіць, як гэта цікава для студэнтаў, якія слухаюць лекцыі пра паэтаў XIX ст. Але як гэта стамляе, калі хочаш знайсці хоць каліва свежых фактаў і пераканаўчыя довады. Калі гэта не пусканне пылу ў вочы, то што тады называць пусканнем пылу? Прынамсі, тут довады не больш пераканаўчыя, чым у прыпісванні байкі Глазавога Абуховічу. А калі аўтар лічыць, што этыкет навуковай працы вымагае падачы ўсебаковай інфармацыі, то дарма – этыкет навуковай працы вымагае дакладнасці ў аргументацыі і аптымальнасці ў падаванні звестак, чаго няма ў кнізе, пра якую таксама трэба сказаць пару слоў[10].

Кніга І. Запрудскага «Па дарозе на Парнас» даволі праблематычная ў жанравым плане. Так, зборнік артыкулаў, але якога парадку? Гэта відавочна не курс лекцыяў і не навукова-папулярная кніга. Даследаванне невядомых старонак з літаратуры XIX ст. (тым больш, што аўтар клянецца ў вернасці Факту)? Не, таксама нешта замінае, каб з гэтым азначэннем пагадзіцца. Рэч у тым, што ў кнізе І. Запрудскага практычна няма новых невядомых звестак з архіваў, да якіх мы прывыклі, чытаючы кнігі Г. Кісялёва, А. Мальдзіса, Я. Янушкевіча, М. Хаўстовіча. Мо перад намі тэарэтычнае даследаванне? Не падобна. Аўтар не пераглядае канцэпцыяў літаратурнага працэсу, не дае свежых версіяў старых паняткаў і не вынаходзіць новых. Значнае месца ў кнізе займае аналіз літаратурных твораў, які

не дае падстаў сумнявацца ў кваліфікацыі аўтара, але ён часцей за ўсё недарэчы. Гэта і ёсць тое, што мы называем філалагічным этыкетам. Казусы з атрыбуцыяй, якія мы разгледзелі, асабліва з байкай «Псеўда-Абуховіча», сведчаць, што такі разбор паэтычнага твору ні да чога не вядзе. Мы не сцвярджаем, быццам кніга не вартая, тым больш не ставім пад сумнеў прафесіяналізм аўтара. Тут шмат цікавых ідэй, але перад намі або незавершаны падручнік, або кабінетная спекуляцыя на вядомых фактах. Каб жа паспяховая!

Што значыць разбор твораў у кнізе І. Запрудскага – тая бясспрэчная і сама беспатрэбная мясціна? Гэта збольшага ідэйна-стылёвы аналіз (ноў-хаў савецкай гуманітарнай навукі), які пазіцыянаваўся ў свой час як новае слова насуперак «фармалізму», дасавецкаму, раннесавецкаму і замежнаму. Узнік ён у выніку ўзвышэння «зместу» над «формай». Нельга сказаць, што на гэтай дарозе не было поспехаў, але ахілесава пята метаду – суб'ектывізм, накшталт закону, што як дышла... Элементы гэтага аналізу вышэй мы знаходзілі і ў У. Содаля, і ў А. Мальдзіса, знаходзім іх і ў І. Запрудскага. Ці ёсць альтэрнатыва такому разбору? Мы лічым, што ёсць. Гэта канкрэтыка фактаў. Тое, што сцвярджае ў тэорыі І. Запрудскі, але не заўжды гэтаму следуе. Чаму? Бо каб бачыць факты, трэба мець оптыку, прыладу распазнавання. Але оптыка гэтая таксама мусіць узнікнуць на падставе фактаў і канкрэтыкі, а не брацца звонку ў гатовым выглядзе. І тут ужо не так важна, што аналізуецца, форма ці змест. Глыбокае разуменне эстэтыкі тэксту і аўтара, нетрывіяльнае бачанне верша і пільная ўвага да мовы – вось тры кіты атрыбуцыі. Тут простым завучваннем прыёмаў не абыдзешся. Школьным разборам верша – таксама. Да фактаў трэба ісці з фактамі. Дарэчы, калі б І. Запрудскі пільней угледзеўся ў змест байкі пра ваўка і лісіцу, то заўважыў бы, што гендэрная сітуацыя ў ёй занадта эгалітарная як для XIX ст. – факт, які можна было ўбачыць.

Між іншым, ёсць галіна беларускай філалагічнай навукі, якая стварыла найдакладнейшы інструментарый аналізу маўлення, як у гістарычным плане, так і ў сістэмным. Маюцца на ўвазе напрацоўкі таго кірунку мовазнаўства, які зазвычай называюць пурыстычным, але пурызм у ім не галоўнае. Да пурыстаў мы б хутчэй аднеслі кансерватараў савецкіх нормаў, а тут ідзецца пра захаванне традыцыі, тых асноў, без якіх беларуская мова не беларуская. Пурызм – гэта скрайнасць, звышнорма. А калі пазнанне мовы і ўсталяванне яе ўласнага ладу пурызм, то што тады будзем лічыць нормай? Асіміляцыю аж да поўнага рассычэння ў мове-суседцы? Дык вось, гэты кірунак, аказаны такімі мовазнаўцамі, як Ян Станкевіч, Фёдар Янкоўскі, Павел Сцяцко, такімі пісьменнікамі, як Кузьма Чорны, Максім Лужанін, Ян Скрыган, Антон Адамовіч, Анатоль Клышка доўгія гады аналізаваў у мове тыя згібы, пра якія гаворыцца: «дзе тонка, там і рвецца». Культура мовы розніцца ад граматыкі, як медыцына ад анатоміі – яе цікавяць паталогіі і спосабы іх лячэння. Гэты інструментарый, які фіксуе ў мове найменшыя адхіленні ад яе ўласнага ладу, можа быць паспяхова выкарыстаны і пры атрыбуцыі. На жаль, багаты досвед традыцыяналістаў не толькі не прымаецца ўсур'ёз, час ад часу ўчыняюцца спробы яго дыскрэдытацыі[11].

Але поўны арсенал моўных маркёраў даступны толькі спрактыкаваным філолагам. І не адразу ўдаецца авалодаць гэтым багаццем. Цяжка засвоіць дыферэнцыяцыю індывідуальных эстэтык, тэмаў, жанраў, стыляў, граматык і "варагам" – замежным беларусістам. Францішак Сяліцкі, польскі даследнік, які нарадзіўся і пэўны час жыў у Беларусі, таксама не ўнік памылкі. У сваіх фалькларыстычных працах ён часта звяртаўся да тэмы Віленшчыны, роднага яму мястэчка Даўгінава, дзе, між іншым, і зафіксаваў верш «Доля жабрака», які прыпісаў таксама Ф. Багушэвічу[12]. На гэты раз спляліся ў гордзіеў вузёл і тэма Багушэвіча, і Украіны, і Беларусі, бо той тэкст насамрэч – пераклад з украінскага байкара Л. Глібава (1827–1893)[13], зроблены М. Арлом[14]. З гэтай байкай быў звязаны непрыемны для перакладніка

эпізод: рэдакцыя «Нашай Нівы» падала яе як арыгінальны твор Арла, які пазней трывожыўся, каб яго не ўспрынялі за плагіятара[15]. З «Нашай Нівы» (ці аднаго з перадрукаў) байка і трапіла ў народ. Адметна, што ў аўтографе, паводле якога пераклад падаецца ў паэтавым зборнічку[16], маем скарочаны варыянт, а ў газеце быў змешчаны больш поўны. Фрагменты, якіх бракуе ў аўтографе, ніжэй, у другой калонцы табліцы, падаюцца ў квадратных дужках.

| **Леонід Глібов «Старець»** | **«Доля і жабрак», пераклад М. Арла** | **«Доля жабрака» з м. Даўгінава** |
|---|---|---|
| Ішов Старець по долині | Плёўся дзед паміж палямі | Плёўся дзед паміж палямі |
| З ламанцями у торбині; | Ў зрэбнай торбе з сухарамі. | ў зрэбнай торбе з сухарамі. |
| Кругом поле зеленіло, | Ўсюды поля зеляніла, – | Ўсюды поля зелянела, |
| Хлібороба веселило. | Хлебароба весяліла, | хлебароба весяліла, |
| – А у тебе, Старче сивий, | «Ў цябе толькі, дзеду сівы, | Ў цябе толькі, дзеду сівы, |
| Нема поля, нема ниви, – | Няма шчасця, няма нівы», – | няма шчасця, няма нівы. |
| Вітер тихо промовляє, | Вецер ціха прамаўляе, | <...> |
| Жалю серцю добавляє. | Жалю ў душу дабаўляе. | <...> |
| Скрізь безлюдно по дорозі; | Скрозь бязлюдна на дарозе, | Скрозь бязлюддзе на дарозе |
| Шумлять верби по облозі, | Стаяць вербы на аблозе, | вербы свішчуць на аблозе, |
| Вітер віє-виграває, | Вецер вые, выгрывае, – | Вецір выіць, выгрываіць, |
| Старець слізоньки ковтає. | Стары слёзанькі ўцірае, | дзядку слёзкі уціраіць, |
| Аж назустріч із-за жита | Аж насустрач з-па-за жыта | Аж насустрач з-па-за жыта |
| Вийшла Доля грошовита, | Выйшла Доля грашавіта. | вышла Доля грашавіта. |
| Любо-мило засміялась | Люба-міла засмяялась, | Люба, міла засмяялась, |
| І до його обізвалась: | Да старога абазвалась: | да старога адазвалась: |
| – Не плач, Старче, не журися, | «Стары не плач, не тужыся, | – Стары не плач, не тужыся, |
| Глянь на мене, звеселися; | На мяне глянь, звесяліся; | на мяне глянь, звесяліся, |
| Буде поле, буде хата, | Будзе поле, будзе хата, | Будуць коні і каровы, |
| Будуть коники-орлята, | Як у караля багата; | будзіць і кажушак новы, |
| І усякая худоба, | Будуць коні і каровы, | Будуць сені, будзіць хата, |
| І розкоші, і шаноба. | Будзе і кажушак новы, | як у караля багата, |
| Золотії бачиш гроші? | [Бачыш – грошы залатыя? | Бачыш – грошы залатыя, |
| Із старого міхоноші | Хоць на леты на старыя] | а на леты на старыя |
| Вони зроблять пана, дуку, | ● | ● |
| Проженуть від тебе муку, | ● | ● |
| Тобі добре в світі буде, | ● | ● |
| Біля тебе будуть люде | ● | ● |
| На кишеню поглядати, | Будуць ўсе цябе ўважаці, | Будуць цябе ўсе ўважаці, |
| Медом речі поливати; | Твайго розуму пытаці! | твайго розуму пытаці; |
| Пережив лиху годину – | Пеpажыў ты злу гадзіну, – | Пражыў ты злую гадзіну, |
| Наставляй мерщій торбину. – | Падстаўляй сваю тарбіну!» | падстаўляй сваю тарбіну! – |
| Кинувсь він... одна хвилина – | Жыва дзед заварушыўся, | Жыва дзед заварушыўся, |
| Настовбурчилась торбина; | З торбай к Долі прыхіліўся. | з торбай к Долі прыхіліўся. |
| Гроші сипляться, аж сяють, | Грошы сыплюцца, сіяюць, | Грошы сыплюцца, зіяюць, |
| Старцю серце звеселяють. | Дзедку сэрца звесяляюць. | дзядку сэрца звесяляюць. |
| – Буде, – Доля обізвалась, – | «Будзе! – Доля абазвалась, – | – Будзе, – Доля адазвалась, – |
| Щоб торбина не прорвалась, | Каб хоць торба не прарвалась, | каб хоць торба не парвалась, |
| Бо тоді вже, як прорветься, | Бо тады ўжо, як прарвецца, | Бо тады, як прарвецца, |
| Все пропало, все минеться. | Усё згіне, ўсё мінецца!» | усё згіне, ўсё мінецца! |
| – Ні, не бійся, Доле мила, – | «Не, не бойся, Доля міла, – | – Не, не бойся, Доля міла, – |
| Каже Старець. – Торба ціла; | Дзед тут кажа, – торба цэла, | дзед тут кажа, – торба цэла, |
| Помаленьку, потихеньку, | Паціхеньку, памаленьку | Паціхоньку, памаленьку, |
| Ще, голубонько, хоч жменьку... | Ўсып яшчэ, | ўсып яшчэ, галубка, жменьку! |
| Доля тихо засміялась... | галубка, жменьку!..» | Доля сціха засмяялась, |
| Торба тріск – і розірвалась... | Доля сціха засмяялась... | торба – трэсь! – і разарвалась! |
| Старець з ляку торбу в полу, | Торба трэсь – і разарвалась! – | Дзед тут з страху торбу ў полу, |
| Потім кинувся додолу, | Дзед тут з ляку торбу ў полу, | кінуўся хутчэй дадому, |
| Лап та лап – скрізь моріжочок, | Кінуўся хутчэй дадолу, | Цап-лап ловіць і маркоша, |
| А хоч би тобі щажочок... | Цап-лап ловіць і маркоша, | а яму хоць бы паўгроша. |
| | А каб хоць табе паўгроша... | |

| | | |
|---|---|---|
| – Доле ж моя, нене Доле!<br>Він голосить на все поле. –<br>Гроші мої, грошенята,<br>Де ви ділись, лебедята?<br>Ой головка моя бідна,<br>І голодна, і безрідна,<br>Тепер ляже в домовину<br>На порожнюю торбину!.. –<br>І поплівсь він по дорозі...<br>Шумлять верби на облозі,<br>Вітер віє, виграває,<br>Старець слізоньки ковтає.<br>Моя байка, добрі люде,<br>У пригоді, може, буде;<br>Я додам вам раду щиру:<br>І при щасті знайте міру. | «Доля ж мая, злая доля, –<br>Дзед завыў тут на ўсё поле...<br>[Грошы мае, грашаняты,<br>Гзе падзелісь, галубяты?]<br>Эх, галоўка ты нягодна,<br>І халодна і бязродна,<br>Цяпер ляжа ў дамавіну<br>На парожнюю тарбіну».<br>І паплёўся па дарозе...<br>Вербы шэпчуць на аблозе,<br>Вецер вее, выгрывае,<br>Дзедка слёзанькі ўціраe...<br>[Мая казка, добры людзі,<br>Вам ў прыгодзе можа будзе;<br>Я скажу вам праўду шчэру:<br>І пры шчасці знайце меру...] | – Эх ты, Доля, злая Доля! –<br>дзед завыў тут на ўсё поля –<br>Грошы мае, грашаняты,<br>гдзе падзелісь, галубяты?<br>Эх, галоўка ты бязродна,<br>і халодна і галодна,<br>Цяпер лажысь ў дамавіну<br>на парожную тарбіну!<br>І паплёўся па дарозе,<br>вербы свішчуць на аблозе,<br>Вецер свішча, выгрывае,<br>дзядку слёзкі уціраe.<br>Мая казка, добры людзі,<br>вам у прышласці, мо, будзе;<br>Я скажу вам праўду шчэру:<br>і пры шчасці знайце меру... |

Запіс чарговы раз сведчыць, што народная памяць часам можа быць вельмі ўчэпістай. Вусны тэкст амаль даслоўна перадае друкаваны, страціліся толькі два радкі і адбылася перастаноўка яшчэ двух радкоў, украінізм *ляк* быў заменены беларускім словам *страх*, архаічны прыметнік *парожні* – больш прадукцыйным у народнай мове *парожны* і г. д. Цяпер, спадзяемся, ні Багушэвіча, ні Арла ніхто не звінаваціць у плагіяце.

І ўсё ж, якой бы тонкай і дакладнай методыкай мы ні авалодалі, ніхто не можа даць гарантыі поспеху. Некалі П. Беркаў, разважаючы аб праблемах атрыбуцыі, мусіў прыйсці да мала суцяшальнай высновы:

> *«Выяўленне аўтара ананімнага і псеўданімнага твора датуль, пакуль не будуць знойдзеныя неаспрэчныя дакументальныя пацверджанні прыналежнасці яго меркаванай асобе, мусіць лічыцца рабочай гіпотэзай і годзе»*[17].

Літаратуразнаўца не чараўнік і не фокуснік, ён мае права і на памылку, калі гэта не дзіцячая памылка. Мы таксама не адмаўляемся ад гэтай прывілеі і не ўхіляемся ад небяспекі апынуцца ў тым жа становішчы, у якім апынуліся нашыя апаненты.

## ШМАТ ЧАГО ЁСЦЬ НА СВЕЦЕ…

Сярод публікацыяў неатрыбутаваных тэкстаў некаторыя нам падаліся больш цвёрдым арэшкам, чым папярэднія – гэта верш «Пастой, Пятух, куды пусціўся...» з кнігі І. Запрудскага і верш або пачатак гутаркі – «Паслухайце, што случылася ў Кутох...» з падборкі Л. Тарасюк. Нельга не пагадзіцца, што гэтыя творы сапраўды могуць сягаць XIX стагоддзя.

Наконт першага, знойдзенага ў лабараторыі беларускага фальклору і дыялекталогіі БДУ, І. Запрудскі паведамляе:

> *«Трапілася картка з вершам «Пастой, Пятух, куды пусціўся...» Яна была запісана (на жаль, нават не пазначана, кім і калі) ад Прашковіча Андрэя Паўлавіча (1907 г. н.), жыхара вёскі Варонічы Полацкага раёна»*[18].

Ён характарызуе верш у жанравым аспекце і прыводзіць паралель да тэксту:

> *«Бадай, гэта цікавы варыянт жартоўнага верша «Наварыла баба квасу». <...> Па форме гэта – гутарка. Жанр вельмі пашыраны ў літаратуры XIX ст. і малапрадуктыўны ў XX ст.»*[19].

І. Запрудскі слушна звяртае ўвагу на назвы адзення, *армяк* і *магерка*[20]. У

XX ст. яны практычна выйшлі з ужытку. Цікава, што армяк бытаваў у Расіі (слова татарскага паходжання), а магерка (з венгерскай мовы) – на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. У беларускай прасторы, можна сказаць, сустрэліся ўсход з захадам. Дыялектныя словы *апушыць*, *ноня*, *валака* (?), *штус* (відаць, 'штоф') дадаюць каларыту, але характарызуюць не аўтара, а месца запісу і нічым не спрыяюць атрыбуцыі, як і прозвішча *Бабоўскі* (Бабоўскія былі святары ў Гродне ў пачатку XX ст.). Аўтар публікацыі выдаў падрабязнае дасье аб месцы запісу, намякаючы на аўтарства Ф. Тапчэўскага:

> *«Гараны знаходзяцца ў нейкіх (*за нейкія. – *Ю. П., В. М.) 15 км ад родных для Тапчэўскага Рукшэніц. І яшчэ больш паказальна тое, што ад вёскі Варонічы, ад жыхара якой быў запісаны гэты твор, да Вухвішча яшчэ менш – каля 12 км. Ва ўсякім разе, гэта адзін невялікі рэгіён. Ад Вароніч да Гаранаў недзе 25 км. Верагодна, пра выключныя лекарскія здольнасці гаранскага знахара хутчэй маглі ведаць у Рукшэніцах, чым у Вухвішчы, якія знаходзяцца ў 40 км ад Гаранаў. Тапчэўскі мусіў выдатна ведаць усю гутую мясцовасць, і яго аўтарства можа быць цалкам верагодным. Дарэчы, В. Ластоўскі ў згаданым артыкуле прыпісваў яго пяру нейкі верш "Таспадыня"»*[21].

Як мы ўжо бачылі, месца запісу, геаграфічнае апрычэнне твора – штука падступная і можа злосна пажартаваць з даследніка, але тут, здаецца, варта павіншаваць І. Запрудскага з удачай. Які б канчатковы вынік нас ні чакаў, мы стаім на парозе надзвычай цікавай тэксталагічнай і біяграфічнай прыгоды. Знаходка вартая таго, каб прабачыць І. Запрудскаму пэўную паспешлівасць у іншых высновах. Запрашаем і чытача зазірнуць у лабірынт лёсаў і фактаў.

Запісаны на Полаччыне верш відавочна звязаны з нейкім невядомым тэкстам, які лёг у аснову польскамоўнай паэмы В. Газдавы-Рэвута «Жонка», што ў падзагалоўку пазначаны як «аповесць беларуская з гмінавага падання», аўтар зрабіў да твора прыпіску: «прысвячаю беларусам». У зносцы да паэмы цытуецца той беларускі верш, які, відаць, і стаў асноваю паэмы:

Наварыла беда квасу,
Памалюсь ка майму Спасу;
А вось ка мне сойдзіць з неба –
І дасць раду, і дасць хлеба.
Прыляціць галубком,
Прыташчыцца старычком;
Ад няго узнаю ці буду у Раю?[22]

Да гэтага ўрыўку В. Газдава-Рэвут дае такі каментар:

> *«Дзень Перамянення Госпада люд называе днём Св. Спаса. Ува ўсіх выпадках жыцця звяртаецца да яго з малітвамі і верыць да гэтай пары, што той Святы, перадусім патрон няшчасных, але безадказных ахвяр. Сходзіць з неба ў розных абліччах: голуба, старца і да т. п. і прыносіць суцяшэнне пры нягодах, вяшчуе калі-нікалі пра земную ці вечную будучыну»*[23].

У якасці эпіграфа да «Жонкі» даецца яшчэ адзін беларускамоўны ўрывак, відаць, з таго самага твора:

І ва сне, і наяву,
Бубніць Баба ў галаву;
Авось ангел прыляціць,
Мая Баба памаўчыць[24].

Пад тэкстам азначэнне: «zwrotka gminna», што трэба разумець як 'мясцовая страфа', 'мясцовы вершык'. Заўважым, у першым урыўку слова *беда*, не апіска ад *баба* (як скарэктаваў І. Запрудскі), бо разам з словам *biedak bieda* фігуруе ў тэксце Рэвутавай паэмы.

Мабыць, гэты самы, невядомы сёння твор, у аснове якога сюжэт пра кепскую жонку, спрычыніўся і да паэмы А. Рыпінскага «Нячысцік», хоць там, быццам бы, ідзецца пра іншае:

> *«Просты люд на Беларусі і амаль што па ўсёй Літве, там, дзе селянін не па-літоўску, але па-руску гаворыць, пяе на сваёй гаворцы нейкую смешную песню пра дзіўнага лгуна Мікіту, які, чынячы ўсё на ліхі бок, вырабляючы розныя штукі, недарэчнасці і жарты, нічога не хоча прызнаваць і заўсёды скідае віну на Бацьку»*[25].

У гэтым жа кантэксце варта звярнуць увагу і на загадкавы эпіграф да вершаванага апавядання «Злая жонка» з «Быліцаў, расказаў Навума» В. Дуніна-Марцінкевіча:

Добра жонка – дома рай!
Злая – з хаты цягу дай![26]

Як паведамляе М. Хаўстовіч, В. Газдаву-Рэвута на напісанне паэмы ў 1842 г. падахвоціў Р. Падбярэскі[27]. Менавіта Р. Падбярэскі і Я. Баршчэўскі зацікавілі яго беларусікай, а Рэвут, сваім парадкам, меў стычнасць у 1860-я гг. з Ф. Тапчэўскім. Гэтак вымалёўваецца простая лінія ад Баршчэўскага да Тапчэўскага, аналагічна, як ад Дуніна-Марцінкевіча да Ядвігіна Ш. Можна меркаваць, што Фэлька з Рукшэніц быў знаёмы з Рэвутавай паэмай, а можа, і з тым тэкстам, з якога браўся эпіграф. Без гэтых фактаў гіпотэза аўтарства Ф. Тапчэўскага выглядала б эфемернай, чарговым фантомам, а цяпер ёсць над чым задумацца.

Тое, што ў вусным абарачэнні тэкст істотна дэфармаваўся, ці, як пісаў В. Рагойша, «размагніціўся», бясспрэчна. І што ў ім дамінаваў харэічны лад, таксама не выклікае сумневаў. Сляды выточнага тэксту пазнаюцца праз памер, рыфмы, логіку рэчаў. Прыкладам, радок *Няма вясёласці ў вачах* раней гучаў няйначай – *Нет вясёласці ў вачах*, слова *нет* шырока ўжывалася яшчэ ў нашаніўскі перыяд. І тут была менавіта форма меснага склону *ў вачах*, а не *ў вачох*, што пацвярджае рыфма *ачах*. Радок *Змуліў ногі да касцей*, відаць, меў выгляд – *Змуліў ногі да касці*, бо да яго ёсць далей рыфма *найсці*. Слова *нуда* ў радку *Што і ў свіней нуда спадаіць* імаверна рыфмавалася з словам *вада* і таму стаяла ў канцы радка. Таксама мажліва, што семантычна невыразны радок *Што ноня вывернуў армяк*, мог чытацца гэтак: *Што не вывернуў армяк*. Харэічны памер падказвае: першае слова першага радка, бадай што, гучала не як *пастой*, а як *стой*. Перад апошнім чатырохрадкоўем адчуваецца семантычны разрыў, дзе магла быць яшчэ адна, а мо і не адна страфа. Першыя чатыры радкі з меншай доляй імавернасці таксама могуць быць рэшткамі, двух чатырохрадкоўяў, а не аднаго.

Улічыўшы гэтыя і іншыя моманты, мы паспрабавалі рэканструяваць пачатковы выгляд тэксту як рабочую мадэль для цэласнага аналізу твора. Тыя фрагменты рэканструкцыі, якія мы лічым зусім адвольнымі, узятыя ў квадратныя дужкі. Астатнія, больш ці менш імаверныя кан'ектуры, можна прасачыць паводле выточнага тэксту ў левай калонцы табліцы. Тэкст мадэлі не прэтэндуе ні на эстэтычны, ні на гістарычны статус – тут ёсць замены, якія нешта тлумачаць, але яўна не адносяцца да пратэксту. Прыкладам, замена *валака* → *пасма* папраўляе збой рытму, праясняе вобраз, але мы лічым, што *валака* бліжэй да праўды, гэта *ва́ленка* – тая самая магерка, аднакаранёвая з словамі *войлак*, *валяць*[28]. А як было насамрэч – *валка з'ехала* ці *валенка спаўзла* – невядома. Можна было б і выраз

*Як дасць дзень* інтэрпрэтаваць *Як дзісь дзень* ‘як сёння’, але мы не сталі гэтага рабіць – паланізм *дзісь* нехарактэрны для Полаччыны. Прозвішча *Зарыцкі* чыста ўмоўна папраўлена на *Зароўскі* дзеля рыфмы *Бабоўскі* і г. д. Як бачым, мадэль не больш чым мадэль і менавіта так яе трэба ўспрымаць – як эксперымент. Калі ўдасца знайсці аўтарскі тэкст, тады можна будзе ацаніць імавернасць нашай рэканструкцыі, наколькі такая наагул мажлівая.

| **Версія з в. Варонічы Полацкага р-на** | **Спроба рэканструкцыі** |
|---|---|
| – Пастой, Пятух, куды пусціўся,<br>Няго часу мала меў?<br>Што ноня вывернуў армяк<br>І магерку казырком назад адзеў. | – Стой, Пятух, куды пусціўся?<br>Няго часу мала меў,<br>[Што армяк перакруціўся]<br>І магерку ўзад адзеў? |
| ●<br>Валака з’ехала на вочы<br>І штус (?) за пазухай ляжыць,<br>А Пятух, як ашалеўшы,<br>Ён мяняць бяжыць. | [Пасма] з’ехала на вочы<br>Штос за пазухай ляжыць.<br>А Пятух, як ашалеўшы –<br>Ён мяняць яго бяжыць. |
| ●<br>– Летась, якраз на Спаса,<br>Дажывае ўжо год,<br>Напілася жонка квасу<br>І апушыў ёй жывот. | – Летась, во якраз на Спаса,<br>Дажывае ужо год,<br>Напілася жонка квасу<br>І апушыў ёй жывот. |
| ●<br>С цех пор бабка мая марнеіць,<br>А твар яе зусім ачах,<br>А жывот усё паўнеіць,<br>Няма вясёласці ў вачах. | С цех пор бабка ўсё марнеіць,<br>Твар яе зусім ачах,<br>А жывот усё паўнеіць,<br>Нет вясёласці ў вачах. |
| ●<br>Як дасць дзень – я ўсё ў паходцы,<br>Змуліў ногі да касцей,<br>І пот коціць па сарочцы,<br>Зёлак ніяк не мог найсці. | Як дасць дзень – я ўсё ў паходцы,<br>Змуліў ногі да касці,<br>І пот каціць па сарочцы,<br>Ніяк зёлак не найсці. |
| ●<br>Што там будзіць каштаваць –<br>Я гэтага не баюсь,<br>Але трэба жонку ратаваць.<br>●<br>● | [Гадаць нават не вазьмуся]<br>Што там будзіць каштаваць –<br>Я гэтага не баюся –<br>Трэба жонку ратаваць. |
| Летась жа мне той Зарыцкі,<br>Што гбаў мне абады,<br>Казаў, у Гаранах ёсць Бабоўскі,<br>Даець ад гэтага вады. | Казаў летась той [Зароўскі,]<br>Што ў мяне гбаў абады,<br>У Гаранах ёсць Бабоўскі,<br>Даець ад гэтага вады. |
| ●<br>Кажуць, вельмі памагае<br>Таго Бабоўскага вада,<br>Бо і такую моцнасць маець,<br>Што і ў свіней нуда спадаіць, | Кажуць, вельмі памагаець<br>Ад Бабоўскага вада,<br>Бо такую моцнасць маець,<br>Што з свіней спадзе нуда. |
| ●<br>А што ў бабкі – дык адразу<br>З жывата знімець заразу.<br>І сулю усем здаравюсенькім бываць,<br>І толькі болі на Спаса<br>Жонкі квасу не даваць. | А што ў бабкі – дык адразу,<br>[Толькі вып’е, як рукой]<br>З жывата знімець заразу,<br>[Верне радасць і спакой.]<br><br>.......................................<br>І сулю усем [без часу]<br>Здаравюсенькім бываць,<br>Толькі болі ўжо на Спаса<br>Жонкі квасу не даваць. |

Першую страфу, як мы пісалі, можна было б расцягнуць на дзве, бо для чатырохрадкоўя тут зашмат рыфмаў: *папаўся – ?*; *так – армяк* і *меў – адзеў*, але для ўзнаўлення васьмі радкоў бракуе матэрыялу. Першы варыянт першай страфы ў нашай рэканструкцыі выглядаў спачатку так:

– Стой, Пятух, куды ты так?
Няго часу мала меў?
Што не вывернуў армяк
І магерку ўзад адзеў.

Аднак тут парушаўся альтэрнанс, які далей нідзе не парушаецца, таму мы паправілі на той варыянт, які ў табліцы. З усяго відаць, што верш быў напісаны лёгкім харэем, можа, з нязначнымі анамаліямі. Істотна, што тут прасочваецца вытрыманы праз увесь верш альтэрнанс – чаргаванне жаночых і мужчынскіх клаўзул. Аўтар верша мог быць знаёмы з рускай артаметрыяй, або, прынамсі, засвоіў некаторыя рытмавыя стэрэатыпы рускай паэзіі, уплыў польскага вершавання значна меншы, калі наагул ёсць. Такім зграбным і лёгкім вершам у XIX ст. мала хто пісаў. Вонкава ён нагадвае «Двух д'яўлаў» К. Вераніцына, але паводле зместу бліжэй да «Нячысціка» А. Рыпінскага. Такую форму маглі тарнаваць і нашаніўцы, і заходнебеларускія паэты, але змест, карнавальная эстэтыка твора адсылае нас да XIX ст. Тут няма не толькі дыдактыкі, але нават сур'ёзнай праблемы, перад намі твор не рэлігійны і не антырэлігійны, і смех у ім – не гумар і не сатыра. Гэта ўсё, што можна пакуль што высветліць, прапаноўваць версію аўтарства мы лічым благім тонам, калі няма для таго важкіх падстаў. Аналіз паэтыкі павінен скіроўваць далейшыя шуканні, а не даваць гатовыя адказы, якія потым аказваюцца фікцыяй. Праўда, падстава тут ужо называлася, і даволі цікавая.

Пра разгледжаны верш І. Запрудскі апрача ўсяго іншага пісаў:

> *«На этапе станаўлення новай беларускай літаратуры «падзейнасць» была ледзь не жанравым атрыбутам большасці твораў роднага прыгожага пісьменства. Так, фармальна розныя «здарэнні» – у аснове зместу вершаў»*[29].

І з гэтым нельга не пагадзіцца. Прыватнае здарэнне ляжыць у аснове верша, зафіксаванага Л. Тарасюк у знаёмай нам вёсцы Чухны ад таго самага Івана Левановіча. Тут мы не падавалі ніякіх аўтарскіх версіяў, бо іх няма, і не рабілі рэканструкцыяў, бо тэкст, відаць, добра захаваўся, дзякуючы выдатнай памяці інфарматара, адно дазволілі сабе форму *ў Кутах* паправіць на *ў Кутох*, як вымагае рыфма, ні разу не парушаная праз увесь верш:

Паслухайце, што случылася ў Кутох,
Проста не дай бог.
Рафалка задумаў хлеў будаваць,
Бо не будзе дзе скацінкі дзяваць.
Павярнуў направа, налева
І павёў сыноў да хлева.
Давай падымаць бэльку.
Кажа, што будзе бутэлька.
– Пятрук вялікі, а ты, Антось, малы
Бярыце бэльку за калы.
А Пятрук як папхнуўся,
Кол як паслізнуўся,
Бэлька як уцярэбе
Ды Рафалку па лэбе.
Ляжыць Рафалка, трасе барадой,
Льюць яму ў вочы вадой.
Прынеслі ў хату, палажылі на ложку
І паляцелі па Петручка Трывожку.

Пакуль прышоў Трывожка Пятрук,
Дык у Рафала ні ног, ні рук.
Збіў бок і бандуру,
Добра, што не абдзёр скуру[30].

Эстэтыка і паэтыка твора сведчаць, што ён адносіцца да г. зв. трэцяй літаратуры, асноўныя характарыстыкі якой **інсітнасць** і **маргінальнасць**. У аснове тэксту ляжыць прыватнае здарэнне, сацыяльна малазначнае. Падзея, апісаная ў творы, безумоўна, няшчасце, але падаецца яна не ў трагічным, а ў камічным выглядзе, высокае і нізкае, агульнае і прыватнае для аўтара як бы не існуюць. Гэта той гумар, які першыя даследнікі беларускай літаратуры называлі сумнеўным, аднак сёння для нас ён мае асаблівую каштоўнасць як рэлікт былой эпохі, як экзотыка. Напісаны тэкст раёшным вершам, які часам называюць рыфмаванай прозай, але, здаецца, карэктней назваць «народным верлібрам» – не ў тэрміне справа[31]. У XIX ст. такім вершам пісалі некаторыя гутаркі. І паводле верша, і паводле эстэтыкі найбліжэйшы аналаг – гутарка «Жаніцьба Сапрона»:

Сабіраўся Халамей жаніць сына свайго Сапрона
І браць у нашага галавы дочку Гапона
Куліну
І ра́дзіўся з Сакам-братам,
Каго ўзяць за свата-хадата.
– Я думаю, Кузьму
За свата вазьму.
– Не, – кажэць, – бяры каго другога,
Бо ў Кузьмы каўтуноў нямнога[32].

Але гэта не адзіны выпадак. Верш «Гутаркі Ленкавіцкіх сялян» таксама блізкі да «Здарэння ў Кутох»:

– Здарова, кум Гаўрыла.
Чы здарова твая жонка міла?
І што ў вас чуваці,
І ці жывы ўсе ў Якіма хаце?[33]

Нават Кандрат Крапіва звяртаўся да падобнай формы, хоць у яго ўжо іншая танальнасць, іншая эстэтыка – не абышлося без Маякоўскага:

Зайшоў у тэатр раз і бачу я –
Нейкая морда сабачая
Сядзіць, выскаляецца ў ложы.
Валачашчая, думаю, можа,
Трэба прагнаць. Падыходжу я бліжай –
Бурчыць мой выжал[34].

Як і верш пра Пятуха, «Здарэнне ў Кутох» насычана мясцовымі словамі і рэаліямі. Назва *Куты* даволі пашыраная ў Беларусі, ёсць такая і ў Крэўскім сельсавеце Смаргонскага раёна (былая Крэўская гміна), блізу там, дзе і быў запісаны тэкст у 1980 г. Характэрнае слова *паляцець* 'пабегчы' (на Лідчыне і, відаць, на Смаргоншчыне слова *пабегчы* практычна не ўжываецца), паланізм *да хле́ва*, мясцовыя формы *уцярэбе, па лэбе*, прытым арганічна знітаваныя рыфмаю, ствараюць уражанне, што верш як узнік у гэтай мясцовасці, так і не пакідаў яе абсягаў. Вядома, ён мог і прытарнавацца да мясцовай гаворкі – а сляды выточнага тэксту ў раёшніку шукаць цяжэй, чым у харэі. Не дзіва, калі твор сягае XIX ст., але так мог напісаць і нейкі мясцовы аматар пагаварыць у рыфму. Хто ведае, а раптам, Іван Леванові́ч, які, ведама ж, любіў вершы, лёгка іх запамінаў, – і быў аўтарам гэтай гутаркі? Мы ж пра яго нічога не ведаем. Таму гадаць не выпадае, можна толькі акрэсліць імаверны

абсяг лакалізацыі ў часе: XIX – пачатак XX стст. Можа, гутарка знойдзецца некалі і ў друкаваным, больш поўным выглядзе.

Як той казаў, шмат чаго ёсць на свеце, чаго і не снілася нашым мудрагелям... Урэшце, мы і не абавязваліся атрыбутаваць усё дзе-колечы апублікаванае без аўтарства, тым больш, што маем намер вярнуцца да нашае тэмы. Як той казаў, не адзін Гаўрыла ў Полацку, В. Шукеловіч і І. Запрудскі, з якімі мы найбольш палемізавалі, могуць пераняць эстафету, атрыманую намі ад С. Запрудскага, і дарабіць чарнавую работу, якую не дарабілі мы.

## ПАДРАХУНКІ

Мы атрыбутавалі і часткова прааналізавалі некаторыя аўтарскія творы, запісаныя з вуснаў народу і апублікаваныя за апошнія сорак гадоў. Паступова пачынаюць праяўляцца пэўныя заканамернасці іх вуснага бытавання і фалькларызацыі. Праўда, апошнім словам, калі чытач заўважыў, мы амаль не карысталіся, і не выпадкова. Бо што такое фалькларызацыя? У чым яе сэнс? Тут дэфініцыя, як сказаў бы Карл Попер, не дапаможа. Найперш гэта працэс. Усё тое, з чым мы сутыкнуліся, усяго толькі пачатковы этап фалькларызацыі, які не абавязкова павінен дайсці да больш поўнай стадыі, тэкст можа быць неўзабаве забыты. Фальклор – не проста ўсё тое, што бытуе вусна. Ці можна лічыць фальклорам верш, які чалавек вывучыў у школе ці, скажам, з любові да паэзіі і запомніў на доўгія гады? Відаць, не. Каб тэкст стаў народным, ён павінен прайсці гэтак званую грамадскую цэнзуру – абкачацца, адшліфавацца не раўнуючы, як той каменьчык пры беразе мора. Фальклор існуе як сістэма жанраў, прывязаных да пэўных культурных інстытутаў, і не змяшчаецца ў абсягі мастацтва слова. Калі тэкст не адпавядае жанрам, актуальным у пэўны перыяд, ён не зможа рэтранслявацца і стаць фальклорным.

Практычна ўсе апісаныя тут вусныя тэксты смехавыя паводле зместу, у запісах пазначаліся як *байка*, радзей *жарт* (Коласаў верш «Беларусам» не з вусных запісаў). І гэта невыпадкова, хто назіраў за публічнымі выступамі пісьменнікаў, ведае, менавіта гумарыстычныя творы выклікаюць найбольшы водгук. Таму ўсё, што выклікала смех, і запаміналася. Але ці доўга яно магло перахоўвацца ў памяці, і ў якім выглядзе? Фальклорнай вершаванай байкі не існуе, ёсць празаічная байка, анекдот, ёсць жартоўныя песні, вершыкі-жарты, накшталт таго, які мы цытавалі, пра Антака. Дарэчы, вершы Ф. Тапчэўскага выконваліся як песні і ў такім выглядзе былі зафіксаваныя. Коласаў «Зяць» таксама бытаваў і ў дэкламацыйнай, і ў песеннай форме, менавіта як песню гэты верш зафіксаваў С. Панізнік у сябе на Мёршчыне. І ў той жа час у шмат якіх з разгледжаных тэкстаў пачала разбурацца вершаваная форма. Відаць, рана ці позна яны мусілі б зрэдукавацца да анекдота, вуснай байкі, ад якіх і паходзілі. (Праўда, байкай у шмат якіх рэгіёнах Беларусі называецца казка.) Таму фалькларызацыі ў поўным сэнсе гэтага слова тут і не было, адбыўся толькі першы яе этап – страта аўтарства, пайшлі змены ў форме, але што магло быць далей і ці магло – цяжка меркаваць.

Можна было заўважыць і тое, што шмат якія з неатрыбутаваных у свой час тэкстаў паходзяць з заходняй Беларусі. Твораў XIX ст., на што больш за ўсё спадзяваліся іх публікатары, няшмат, дый тыя пад пытаннем. Аднак у 20–30-я гг., калі пісаліся і ўваходзілі ў жыццё разгледжаныя вершы, яшчэ можна было сёе-тое запісаць, і запісвалася, з палетку XIX ст. Значыць, літаратурны тэкст у народнай памяці жыве нядоўга – два-тры пакаленні. Ёсць, безумоўна, і доўгажыхары, але яны таксама не вечныя. Далей адбываецца тое, пра што мы пісалі вышэй – уваходжанне ў адзін з жанраў ці забыццё. У літаратурным тэксце, нават калі ён бытуе вусна, ёсць так шмат аўтарскіх адзнакаў-зачэпак, якія схапляюцца інтуіцыяй, што мы адразу адрозніваем яго ад народных. Яны не ўсведамляюцца намі да канца, і ніводнае апісанне не змяшчае і малой долі гэтых адзнакаў. Вось,

прыкладам, урывак з тэксту XVIII ст. «Ваенны паход грыбоў», які прыпісваецца Дамініку Рудніцкаму, але мае паўфальклорны статус:

Расказаў князь баравік, сежучы пад сасною,
Усем грыбам ісці на вайну, усем ісці да бою.
Адказаў яму казляк: – Я хоць добры юнак,
Да самапала не маю, застануся ў гаю.
Адказалі апенкі: – Мы грыбы слабенькі,
Мы у полі не зраслі, да пры дзераве скіслі.
Адказалі ім рыжкі: – Мы не баравыя шышкі,
Нашто ж нам шышак насіці, калі не умеямося біці.
Адказалі лісічкі: – Не хочам той патычкі,
Ідзі ты сам, баравіку, стань за нас у шыку[35].

А вось верш, зафіксаваны намі ў в. Дамэйкі Лідскага р-на, які можа быць аднесены да дзіцячага фальклору:

Баравік-махавік заказаў усім лісіцам на вайну:
– Мы лісіцы – без спадніцы, мы не пойдзем на вайну!
Баравік-махавік заказаў усім апенкам на вайну:
– Мы апенкі – без сукенкі, мы не пойдзем на вайну!

Іх генетычная лучнасць відавочная, але і розніца каласальная. Таму нельга адназначна паставіцца да сцверджання І. Запрудскага:

*«Досыць інтэнсіўная фальклярызацыя беларускамоўных (і не толькі) аўтарскіх твораў на працягу ўсяго XIX ст. павінна быць прызнана рэальным працэсам у тагачасным культурным жыцці, наяўнасць якога пацвярджаецца далёка не адзінкавымі канкрэтнымі ды даволі імавернымі фактамі»*[36].

Ці павінна? Тыя факты, да якіх звяртаўся аўтар, або не пацвярджаюць ягонай думкі, або выклікаюць шмат спасцярог і сумневаў. Разгледжаныя намі тэксты адносяцца ў асноўным да пачатку XX ст. Яны сведчаць пра існаванне цэлага мацерыка медыяцыйнай[37], ці ініцыярнай паводле Р. Кавалёвай[38], субкультуры ў XIX ст. і ў заходняй Беларусі – пэўнай дыфузнай зоны, дзе кантактавалі фальклор і літаратура. Але гэта асобная тэма. Такая вялікая колькасць непазнаных заходнебеларускіх паэтаў паказвае і на тое, што мы маем нясплачаны доўг, які рана ці позна мусім сплаціць. Працей кажучы, мы проста не ведаем заходнебеларускай літаратуры, таму яна і ўспрымаецца як ананімная, таму і ахвотна фіксуецца.

З іншага боку, нельга не пагадзіцца з В. Рагойшам наконт дачыненняў фальклору і літаратуры, што *«гэта праблема вялікая і даволі складаная»*. Існуе *«трыадзінства: фальклор → пісьменнік → фальклор. Вось пра апошняе (пісьменнік → фальклор) чамусьці, як правіла, забываемся»*[39].

Амаль пра тое самае дбае і І. Запрудскі:

*«На жаль, фальклярысты ставяцца абыякава ці нават грэбліва да падобных тэкстаў, кваліфікуючы іх як псеўданародныя»*[40].

Наўрад... гэта, бадай што, перабольшанне – псеўданароднымі зазвычай называюцца няўдалыя пісьменніцкія стылізацыі або сведамыя падробкі пад фальклор. Дарэчы, хочацца запытацца нашых апанентаў, а ці маюць для іх каштоўнасць тэксты цяпер, калі яны атрыбутаваныя? Чаму В. Шукеловіч не змясціў у друку, а мо і не запісаў, пачуты верш Багушэвіча, як тое зрабіў В. Рагойша? Чаму І. Запрудскі, упікаючы фальклярыстаў за няўвагу да працэсу фальклярызацыі, скупаваў увагу на невядомых творах і лічы нічога не сказаў, як жа трансфармаваліся вядомыя? Відаць, вабіла сенсацыя, а не чарнавая кампаратывісцкая работа. Калі шчыра ставіць праблему дачыненняў гэтых дзвюх сфер, фальклору і літаратуры, то трэба крыху скарэктаваць

устаноўку. Так ці інакш, на фоне папулярных у нядаўныя часы даследаванняў пра ўплыў фальклору на літаратуру адваротны вектар яўна занядбаны.

На жаль, тут праблема не толькі ў занядбанні таго ці іншага вектару, але перадусім у карпарацыйнай замкнёнасці розных гуманітарных сфераў. Лінгвісты, пра што ходзяць анекдоты, неяк умудраюцца займацца моваю, маючы цьмянае ўяўленне аб літаратурным працэсе, а літаратуразнаўцы даўно забыліся нават школьную праграму і не задумваюцца, што тэксты, якія яны вывучаюць, маюць граматычную структуру. Нехта займаецца старажытным перыядам, нехта сучасным. Кожны ганарыцца сваёю дзялкаю і не цікавіцца суседняю, час ад часу здзіўляючыся, як гэта некаторыя яшчэ «займаюцца ўсім». Вершаваннем наагул ніхто не займаецца. Тым часам фалькларыстыка амаль выйшла з-пад апекі філалогіі, што само праз сябе не так і блага, бо ў поле зроку пачынае трапляць культурны кантэкст, рытуал, чалавек – тое, што ляжала па-за сферай філалогіі. Але фалькларыст, штодзённа маючы справу з тэкстамі, не мае права страціць кваліфікацыю літаратуразнаўцы і лінгвіста. Калі антыфілалагічныя настроі перамогуць, фалькларыстыка можа адарвацца ад магістральных кірункаў вывучэння слова, паўтараючы даўно пройдзеныя шляхі літаратуразнаўства і нават не здагадваючыся пра гэта.

Аднак вернемся да нашай тэмы, і канчаткова падрахуем зробленае. І. Запрудскі вылучыў два шляхі праточвання літаратурных твораў у народ: праз беспасярэднія дачыненні пісьменніка з атачэннем і праз публікацыю твораў[41]. І перавагу чамусьці аддаў якраз першаму спосабу, нібыта забыўшыся, што мы даўно жывем у пару масавай пісьменнасці:

> *«Найбольш інтэнсіўна гэты працэс павінен ісці праз вусную перадачу тэкстаў, напісаных аўтарамі, якія карысталіся павагай жыхароў і доўгі час жылі ў той або іншай мясцовасці»*[42].

Адсюль ужо выводзіцца рэкамендацыя для атрыбуцыі «геаграфічным» метадам:

> *«Арэал распаўсюджвання таго ці іншага верша павінен выразна «прыцягваць» да пэўнага рэгіёна, мясцовасці, населенага пункта, жыхары якога маглі знаёміцца з творам і вусна перадаваць яго сваякам, суседзям, знаёмым»*[43].

Відаць, І. Запрудскі толькі падагуліў тое, што практыкуецца даўно, бо «геаграфічны» метад яўна пераважае: *«Звернем таксама ўвагу на назву мясцовасці»* (А. Мальдзіс); *«Звярнуўшыся да карты, можна ўпэўніцца, што»* (І. Запрудскі)[44]. Не будзем зусім адпрэчваць такі спосаб, адно заўважым: ён можа **наводзіць** на праўду, але яшчэ нічога не **даводзіць**. А калі бярэцца за шчыры довад, то далей пачынаецца падтасоўванне фактаў, дзе спецыяльным філалагічным метадам (і то ў «мяккім рэжыме») адводзіцца дапаможная роля. Зрэшты, усе спецыяльныя метады – гэта толькі рацыяналізацыя досведу – моўнага, літаратурнага. Досведу можа шкодзіць тэндэнцыя, жаданне зрабіць сенсацыю. Чаму В. Рагойшу ўдалося карэктна падаць невядомы твор і амаль дакладна вызначыць месца яго публікацыі? Дапамог досвед шматгадовай працы з паэзіяй і стрыманасць у высновах. Прызнаемся, калі мы браліся за гэтую працу, то ведалі далёка не ўсе з неатрыбутаваных твораў. Дый не без ваганняў з'явілася ўсё тут напісанае. Ваганні выклікае адна акалічнасць: пад прыцэл крытыкі трапляюць людзі, якія стараюцца хоць нешта рабіць, а тым, каму ўсё роўна – анігадкі. Дык што ж, хіба маўчаць? Так можа дайсці да таго, што ў збор твораў Багушэвіча, скажам, у раздзел *Dubia*, нехта ўпіша запэўна Коласавы творы. Спадзяемся, што гэтая публікацыя не адаб'е ахвоту ад філалагічных загадак, а наадварот, толькі паддасць імпэту.

[1] Запрудскі, І. Па дарозе на Парнас. С. 79.
[2] Тамсама. С. 80.
[3] Гл.: Павло Глазовий: [Электронны рэсурс] // Рэжым доступу: http://gumoreska.org.ua/glazovij.html Дата доступу 24. 02. 2015 г.; Глазовий Павло Прокопович: [Электронны рэсурс].

[4] Гл.: Вовча сімейка: [Электронны рэсурс] // Рэжым доступу: http://blog.i.ua/search/?type=label&words=183979 Дата доступу 24. 02. 2015 г.; [Электронны рэсурс] // Рэжым доступу: http://otvet.mail.ru/question/33251208 Дата доступу 24. 02. 2015 г.; [Электронны рэсурс] // Рэжым доступу: http://blog.i.ua/community/2024/966122/. Дата доступу 24. 02. 2015 г.

[5] Запрудскі, І. Па дарозе на Парнас. С. 79.

[6] Глазовий П. Вовча біографія: [Электронны рэсурс] // Рэжым доступу: http://humour.ukrlife.org/v3.html. Дата доступу: 24. 02. 2015 г.

[7] Запрудскі, І. Па дарозе на Парнас. С. 79–80.

[8] Тамсама. С. 46–71.

[9] Кісялёў, Г. «Тарас на Парнасе» // Беларуская энцыклапедыя. Т. 15: Следавікі – Трыо. – Мінск: БелЭн, 2002. С. 435–436.

[10] Праблему атрыбуцыі «Тараса на Парнасе» мы зачапілі мімаходзь, гэта тэма асобнага даследавання, для якога пакуль што няма передумоў, мо І. Запрудскі гэтым і займецца, ведама, без пэўнай тэндэнцыі.

[11] Можна было б нагадаць яшчэ пра вершазнаўчы аспект, але гэта вымагае асобнай гутаркі.

[12] Sielicki, F. Legendy, przypowieści i opawiadania o zjawach na Wilejszczyźnie w okresie międzywojennym // Lud. 1893. T. LXVII. S. 252.

[13] Гл.: Байки (Глібов Леонід) : [Электронны рэсурс] // Рэжым доступу: http://javalibre.com.ua/java-book/book/2917173. Дата доступу: 24. 02. 2015 г.

[14] Гл.: Наша Ніва. 1911. 12 траўня; Арол, М. Лірнік: творы. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1991. С. 98–99.

[15] Арол, М. Лірнік. С. 175.

[16] Тамсама. С. 98–99.

[17] Берков, П. Об установлении авторства анонимных и псевдонимных произведений XVIII в. // Русская литература. 1958. № 2. С. 185. (Цыт. паводле Виноградов, В. В. Проблема авторства и теория стилей. – Москва: Гос. изд-во худ. лит. – 1961. С. 193.)

[18] Запрудскі, І. Па дарозе на Парнас. С. 77.

[19] Тамсама.

[20] Тамсама. С. 78.

[21] Тамсама. С. 79.

[22] Rocznik Literacki: pismo zbiorowe. Rok drugi. 1844. S. 155.

[23] Тамсама.

[24] Тамсама. S. 148.

[25] Хаўстовіч, М. Лонданскія выданні «Нячысціка» Аляксандра Рыпінскага // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта: навуковы зборнік. Вып. 7 / пад агульн. рэд. М. Хаўстовіча. -- Мінск: ВТАА «Права і эканоміка», 2006. С. 78.

[26] Дунін-Марцінкевіч, В. Творы / уклад., прадм. і камент. Я. Янушкевіча. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1984. С. 346.

[27] Хаўстовіч, М. Гісторыя беларускай літаратуры 30–40 гг. XIX ст.: дапаможнік для студэнтаў філал. спец. вышэйш. навуч. устаноў. – Мінск: БДУ, 2001. С. 91–92.

[28] Станкевіч Я. Беларуска-расійскі (Вялікалітоўска-расійскі) слоўнік. – Нью-Ёрк, [1990]. С. 1190.

[29] Тамсама. С. 78.

[30] Тарасюк, Л. У памяці народнай.

[31] Можна было б успомніць і эпічны верш украінскіх дум, ды не будзем запыняцца.

[32] Милостивый Осипъ, или Милости хочу, а не жертвы: быль (По «Бѣлорусскому сборнику» Романова). – Витебскъ: Губернская Типо-Литографія, 1896. С. 29–30

[33] Разговоръ Лѣнкавицких крестьянъ // ЦБАН Літвы. Ф. 21. Спр. 52. А. 10–12 адв. (Гл. таксама: Літаратура другой паловы XIX стагоддзя. У 2 ч. Ч. 1. – Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. С. 606–609.

[34] Крапіва, К. Збор твораў. Т. 1. С. 52.

[35] Мальдзіс, А. З літаратуразнаўчых вандраванняў: нарысы, эсэ, дзённікі. – Мінск. 1987. С. 67.

[36] Запрудскі, І. Па дарозе на Парнас. С. 74.

[37] Гл.: Жолковский А. К. Блуждающие сны и другие работы. – Москва: Наука: Издательская фирма «Восточная литература», 1994. С. 31–34.

[38] Ковалева Р. Феномен инициарного словесного творчества относительно устно-поэтического // Актуальныя праблемы тэорыі літаратуры: працы кафедры тэорыі літарутуры БДУ. Вып. 3. – Мінск: Права і эканоміка, 2014. С. 83–97.

[39] Рагойша, В. Пра фалькларызацыю літаратурных тэкстаў. С. 6.

[40] Запрудскі, І. Па дарозе на Парнас. С. 82.

[41] Тамсама. С. 74.–75

[42] Тамсама. С. 74.

[43] Тамсама. С.

[44] Мальдзіс, А. Вершы захаваліся ў Літве; Запрудскі, І. Па дарозе на Парнас. С. 77.

Міхась Скобла



…што ж гэта за садоўнік,
які ў давераны яму сад
кашамі носіць жукоў-караедаў?..

# Саркафагі страху

***З будучай кнігі***

*Працяг.*
*Пачатак у №76.*

## Мацак ад Дамашэвіча, або Нацыяналіст у кубе

Тою вясною, акурат перад Вялікаднем я атрымаў на пошце бандэроль з Гародні – ад Дануты Бічэль. Са шчыльнай пакоўкі вылузнуліся два асобнікі яе новай кнігі “Правінцыя святога Францішка”. Адзін я мусіў пакінуць сабе, а другі – адвезці Уладзіміру Дамашэвічу. Два дні датэлефаноўваўся і, пачуўшы нарэшце ў слухаўцы слабы голас, які нібы даносіўся з накрай-светнай далечы, зразумеў, што гэта якраз той выпадак, калі адклад не ідзе ў лад.

У дзверы званіў таксама доўга. Гаспадар кватэры выглядаў зблажэлым, рухаўся марудна, накульгваючы, праз кожныя тры крокі прыпыняючыся. З гадзіну мы прагаварылі, ён не хацеў адпускаць мяне, чамусьці павёў па ўсёй прасторнай, даўно не прыбіранай кватэры. На пісьмовым стале перабраў стосік запыленых кніг і нечакана ўзяўся расхвальваць раман-эсэ “Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае” Алега Лойкі.

Найдаўжэй мы прыпыніліся каля стэлажоў, на якіх, шчыльна пашыхтаваўшыся, стаялі сотні сшыткаў з узорамі велікодных пісанак. Калекцыя засталася пасля нябожчыцы-жонкі, якая ў мастацтве роспісу тых пісанак папросту не мела сабе роўных. Стварыла больш за 250 000 (!) непаўторных узораў – і ўсе ў беларускай традыцыі, у адпаведных колеравых гамах. Нейкі замежны музей хацеў набыць калекцыю, але мастачка не згадзілася. І вось пыляцца тыя пісанкі, не патрэбныя нікому...

У калідоры вісеў ці не пазалеташні насценны каляндар. “Дык цяпер жа і няма іх, беларускіх”, – неяк змірэнна прамовіў Уладзімір Максімавіч. Я паабяцаў неўзабаве прывезці – свежы, беларускі, паэтычна-міфалагічны – з Барадулінаым-Дамавіком, Бураўкіным-Баем, Вярцінскім-Жыжалем...

На развітанне Уладзімір Дамашэвіч прынёс з кухні і літаральна ўпіхнуў мне ў кішэню чырвонае яйка. Сказаў – традыцыя, валачобнае, і адмаўляцца нельга.

Паехаўшы назаўтра на Зэльвеншчыну, я тым Дамашэвічавым чырвоным яйкам на дзіва ўсім размалаціў біткі братоў, швагерак і пляменнікаў. Аказалася, Уладзімір Максімавіч узычыў мне сапраўднага мацака! Ажно шкада было яго на закусь пускаць...

Дамашэвіч і сам быў як той мацак. З выгляду далёка не асілак, сіла ягоная была не ў цягліцах, а ў душы. Здавалася, яго трымала і не дазваляла згінацца нейкая здаровая беларуская сэрцавіна. Міналі дзесяцігоддзі, а сэрцавіна тая ніякага шашалю не баялася, толькі мацнела.

Змагацца за беларушчыну Уладзімір Дамашэвіч вучыўся з маленства. Меў за прыклад роднага дзядзьку, якога польскія ўлады як “upartego Białorusina” кінулі ў турму. Савецкая ўлада ў 1939-м нібы выпусціла на волю, як аказалася – дужа кароткачасовую. Словам, дзядзька на ўласнай скуры спазнаў праклён міжваеннага часу: каб цябе дэфензіва пасадзіла, а НКВД вызваліла...

Пляменнік наўслед дзядзьку за беларушчыну ў турму і ГУЛаг, на шчасце, не трапіў, хоць цемрашалам прыўладным заўсёды гаварыў праўду ў вочы. Беларуская сэрцавіна не дазваляла шапкаваць і дзякаваць за клопат партыі, як тое рабілі аблаўрэачаныя калегі-пісьменнікі, паблісканючы з трыбунаў зоркамі герояў. Дамашэвіч лаўрэатам не быў. Ён быў упартым беларусам. Як дзядзька.

Беларуская сэрцавіна не давала яму зламацца ў гэтак званым Галоўліце, дзе ён бараніў ад цэнзуры аповесць Васіля Быкава “Жураўліны крык”. Рэдактар-абаронца – ці многа мы такіх ведаем? Ціхмяны, нешматслоўны і, здавалася, пастаўлены на месца Дамашэвіч вяртаўся з Галоўліта ў выдавецтва, падпісваў крамольную аповесць у друк і, не чакаючы, пакуль яна сустрэнецца з варштатам Скарыны, пісаў артыкул у падтрымку аўтара. Да канца сваіх дзён Быкаў успамінаў удзячным словам свайго рэдактара-абаронцу.

Беларуская сэрцавіна спружыніла ў ім напорнай сілай кожнага разу, калі хтосьці замахваўся на беларушчыну ці беларусаў, калі пад пагрозай апынаўся нацыянальны гонар. Так Уладзімір Дамашэвіч адным з першых выступіў у абарону моладзі, збітай “афганцамі” ў Траецкім прадмесці ў красавіку 1986-га. Увогуле, ён любіў маладых, апекаваўся імі. Быў заснавальнікам фонда дзеля іх падтрымкі, які ў няпросты час праіснаваў гадоў пяць і дапамог многім пачаткоўцам.

Беларуская сэрцавіна не давала яму адседжвацца ў зацішным кутку на пісьменніцкіх пленумах і з’ездах. Вострыя дамашэвічаўскія выступы перадрукоўваў нью-ёркскі “Беларус”, яны неаднойчы гучалі па радыё “Свабода”. На тых пісьменніцкіх форумах, як правіла, чыталіся даклады пра дасягненні, падлічвалася колькасць выдадзеных за пяцігодку “мнагатомных, мнагатонных і манатонных эпапей”. Выходзіў на трыбуну Уладзімір Дамашэвіч і ціхім голасам праўды заглушаў звон фанфараў.

Вось некалькі вытрымак з ягонага выступу на IX з’ездзе СП БССР у

1986 годзе: “На нашых вачах робяцца справы, за якія нас нашы нашчадкі праклянуць... Мы сваімі рукамі робім нацыянальную пустэльню... Мы без бою аддаем тое багацце, якое нашы продкі збіралі па каліўцу, па макулінцы, зберагалі ад чужынцаў, за якое паміралі сотнямі і тысячамі, за якое ішлі на катаргу і шыбеніцу”.

Тады яшчэ на пісьменніцкія з’езды прыходзіла ўлада – сакратары ЦК КПБ, міністры, і Дамашэвічу было да каго звяртацца. Ён і звяртаўся – сакратарам, відаць, аж млосна рабілася: “Калі я гавару дома, на рабоце, на вуліцы, у краме па-беларуску – мяне называюць нацыяналістам. Калі я хачу, каб на роднай мове гаварылі ўсе беларусы, што жывуць у рэспубліцы, то я – нацыяналіст у квадраце. А калі, Божа барані, я хачу, каб па-беларуску навучыліся гаварыць усе, хто прыехаў да нас і даўно жыве ў Беларусі, то я – нацыяналіст у кубе”.

Я добра памятаю, як “нацыяналіст у кубе” павярнуўся да прыцiхлага прэзідыума і закончыў свой выступ з цвёрдасцю Каліноўскага на лукішкаўскім эшафоце: “Калі за беларускую мову будуць запісваць у чаргу на расстрэл ці ў турму – запішыце мяне першым!” Не, усё ж нездарма ўлюбёным дэвізам Дамашэвіча быў паўстанцкі пароль: “Каго любіш? – Люблю Беларусь! – Дык узаемна”.

Зразумела, што цэкоўскія сакратары пасля такіх выступаў рабілі пэўныя “аргвывады”. Неяк я ў Нацыянальнай бібліятэцы зняў з паліцы свежы нумар “Маладосці” і натыкнуўся там на дзённікі Уладзіміра Дамашэвіча. Адзін з запісаў, датаваны жніўнем 1987 года, пачынаўся так: “Сёння занёс у выдавецтва “Мастацкая літаратура” раман, напісаны 18 гадоў таму”. Маецца на ўвазе “Камень з гары”, які ў выдавецтве праляжаў яшчэ два гады і праз два дзесяцігоддзі пасля напісання нарэшце выйшаў у свет. Падобнае дадрукарскае выпрабаванне часам (таксама дваццаць гадоў) выпала хіба раману “Леаніды не вернуцца да зямлі” Уладзіміра Караткевіча. Дарэчы, маладога і задзірыстага празаіка Караткевіча ставіў на крыло таксама Дамашэвіч і нават падказаў назву для яго першай кнігі – “Блакіт і золата дня”.

Сёння ўжо мала хто з мінчукоў згадае, як некалькі гадоў пасля адкрыцця сталічнага метро па-беларуску рабіліся абвесткі толькі на адной станцыі – імя Якуба Коласа. І як менавіта Уладзімір Дамашэвіч першым пачаў “біць у звона” – дамагацца поўнай беларусізацыі метрапалітэна. І дамогся.

Я часта сустракаў яго на незалежніцкіх мітынгах. У сваёй нязменнай берэтцы з Пагоняй ён звычайна стаяў дзе-небудзь збоку, ніколі не пяўся да мікрафона, не ўсчынаў дыскусій у натоўпе. Але па ягоным рашучым позірку было відно – ён па-ранейшаму гатовы за беларушчыну хоць у турму, хоць пад расстрэл. Бог не даў яму гэткіх выпрабаванняў, светлым вясновым днём забраў да сябе. Відаць, і ў той, неабмінальнай для ўсіх нас будучай Беларусі, нацыяналісты ў кубе таксама патрэбныя.

## Прафесар крылатай мовы

Фразеалогія – самая жывая галіна на дрэве мовазнаўства. Гэта вам не коскі з працяжнікамі расстаўляць, не жаночыя і мужчынскія прозвішчы на -а скланяць, не склады на фанемы дзяліць. А – бачыць і адчуваць, як мова смяецца, смуткуе, іранізуе, насміхаецца, жартуе, пагражае, кленічы насылае. У мудраслоўях – тысячагадовы досвед народу, як быццам дзясяткі пакаленняў адначасова прыселі на прызбе і з табой пра жыццё-быццё гутарку вядуць. Як тут не прыслухацца?

Іван Лепешаў больш за паўстагоддзя прыслухоўваўся да жывой мовы, учытваўся ў яе пісьмёны, прасейваў “адзінага слова дзеля тысячы тонаў слоўнай руды”. І пачутае, вычытанае, прасеянае – занатоўваў, кампанаваў у слоўнікі.

У сваёй гарадзенскай кватэры з гонарам паказваў мне рукапісную картатэку – каля 100 000 (!) картак. Кнігі чытаў з алоўкам, яго цікавіла ўжыванне таго ці іншага фразеалагізму ў розных кантэкстах. Мабыць, не было такога пісьменніка, у якога ён не адшукаў бы моўнай залацінкі. Ён мог не звяртаць увагі на рыхлы сюжэт, на безаблічнасць герояў, на прадказальнасць аўтарскай задумы. Ён заходзіў у кнігу, нібы ў пагудасты лес, і пускаў сваю думку як ганчака па следзе – у пошуках крылатых выразаў.

Сем тысячаў фразеалагізмаў зафіксавана і растлумачана ім. Тут Івану Лепешаву роўні не было. Яго слоўнікі часам крытыкавалі – за расійскія ўплывы і запазычанні. Памятаю, пра гэта мы неаднойчы гаварылі з яшчэ адным знаным мовазнаўцам з Гарадзенскага ўніверсітэта Паўлам Сцяцко, які прытрымліваўся больш радыкальных поглядаў у лексікаграфіі. Слоўнікі Сцяцко – гэта мова, якая прайшла праз своеасаблівы чысцец, і ў гэтым іх каштоўнасць. Слоўнікі Лепешава фіксуюць сучасны стан мовы – з усімі яе хваробамі і адхіленнямі ад нормы. Але насамрэч патрэбныя і тыя, і другія. Каб паставіць дыягназ, неабходна ведаць гісторыю захворвання.

Сваю галоўную працу – двухтамовы “Слоўнік фразеалагізмаў” (2008) Іван Лепешаў падараваў мне з такім аўтографам: “Шаноўнаму Міхасю Скоблу з найлепшымі пачуццямі падпісваю гэты словазбор, з якога, на жаль, цэнзары выкінулі 15 аўтараў (і вас у тым ліку)”.

Хто ж паддаў цэнзуры лепешаўскі слоўнік? Фактычна, цэнзар быў адзін – пыхлівы і графаманісты Г.П. – галоўны рэдактар дзяржаўнага выдавецтва, дзе той слоўнік меўся выйсці. Раней той рэдактар рэдагаваў камуністычную газету і да цэнзуравання матэрыялаў яму было не прывыкаць. Смела пішу “цэнзуравання”, бо і сам меў магчымасць пераканацца ў метадах працы Г.П.

У свой час для таго ж выдавецтва я склаў анталогію беларускай паэзіі, яна была запланаваная ў серыі “Школьная бібліятэка”. Прынёс на візу галоўнаму рэдактару. Той учытаўся ў змест... Праз імгненне я ўжо шкадаваў, што звязаўся з такімі выдаўцамі. З анталогіі вылятаілі паэты толькі за тое, што былі святарамі, выкасоўваліся вершы, прысвечаныя не тым падзеям і асобам. Агаломшаны, я спрабаваў штосьці адстаяць, кагосьці вярнуць – безвынікова. Службова-чыноўніцкая пыха (“я прызначаны на пасаду прэзідэнтам і павінен сачыць!”) біла цераз край, маіх аргументаў ніхто не слухаў.

Прафесара Лепешава таксама ніхто не паслухаў. Сабраны цягам паўстагоддзя вынікові слоўнік быў разгромлены тым самым Г.П. гэтак жа бесцырымонна, як і мая бяскрыўдная анталогія. Згледзеўшы ў іменным паказніку прозвішчы “нячэсных” пісьменнікаў, рэдактар-цэнзар распарадзіўся ачысціць слоўнік спачатку ад іх. Алесь Пашкевіч? Ён жа нелаяльны да ўлады Саюз пісьменнікаў узначальвае. Прэч. Аляксандр Лукашук? Ён жа на радыё “Свабода” працуе. Далоў. Святлана Алексіевіч? Яна ж па замежжах туляецца і на радзіму паклёпнічае. Выкінуць. Сяргей Дубавец – таксама свабодавец. Выкрасліць.

І выкрэсліваліся імёны з такімі ці падобнымі характарыстыкамі. Да пералічаных прадказальна дадаліся Ларыса Геніюш, Наталля Арсеннева, Масей Сяднёў, Уладзімір Някляеў, Сяргей Законнікаў, Уладзімір Арлоў, Сяргей Астраўцоў, Вінцэсь Мудроў, Барыс Пятровіч...

Аўтары выкасоўваліся, а цытаты з іхніх твораў часам заставаліся. Не акадэмічны слоўнік атрымліваўся, а зборнік ананімак.

Пасля расправы над пісьменнікамі рэдактар-цэнзар абрынуў свой гнеў на перыядычныя выданні. У выніку са спісу крыніцаў вылецелі часопіс “Дзеяслоў” і газеты “Наша ніва”, “Народная воля”, “Наша слова”, “Свабода”, беластоцкая “Ніва”.

Пасля экзекуцыі над перыёдыкамі настала чарга ўласна фразеалагізмаў. Тут ужо рэдактар-цэнзар разышоўся не на жарты. Не выкасоўваў – касіў. Размашыста

і пад корань. Усё, што нейкім чынам пасягала на ягонае камуняцкае мінулае. І зазеўралі ў жывой тканіне слоўніка новыя шматлікія лакуны.

“Архіпелаг ГУЛаг – канцэнтрацыйныя лагеры ў перыяд сталінскага таталітарызму”; “завезці да белых мядзведзяў – адправіць у канцлагеры на поўначы Расеі”; “чырвоны памешчык – старшыня калгасу як гаспадар з неабмежаванай уладай”; “кактэйль Молатава – бутэлька з гаручай сумессю”; “абкласці чырвонымі сцяжкамі – стварыць скрайне неспрыяльныя ўмовы для чыёй-небудзь дзейнасці”...

Кожны з нас безліч разоў чуў гэтыя ўстойлівыя выразы. Але іх па волі невука на пасадзе Г.П. няма ў слоўніку Лепешава. Ні выразаў, ні тлумачэнняў да іх, напісаных – трэба аддаць належнае аўтару – мовай простай і дакладнай.

Што відавочная ці прыхаваная антысавеччына асабліва раздражняла таварыша Г.П. – гэта я зразумець магу. Не магу ўцяміць, чым пільнавокі і чуйнавухі галоўны рэдактар (супрацоўнікі выдавецтва казалі – угалоўны) кіраваўся, калі выкідаў са слоўніка, напрыклад, такое чатырохрадкоўе Рыгора Барадуліна: “Няхай жыве народ / у думцы, згодзе, бунце – / яму замок на рот / павесіць не спрабуйце”? Як па мне – запамінальная, проста афарыстычная ілюстрацыя да вядомага фразеалагізма. І аўтар – народны паэт, які, як і належыць, доляй народу пераймаецца. А ўсё ж не пройдзе! Паэта ў слоўніку замянілі на другога. Каб змаглі, мабыць, і народ замянілі б.

Усяго са слоўніка галоўным-угалоўным рэдактарам ды яго памочнікамі было выкінута больш за паўтысячы (!) цытатаў. Дзясяткі і дзясяткі фразеалагізмаў засталіся без пацверджанняў. Скалечаны слоўнік выйшаў у свет, не прынёсшы аўтару заслужанай радасці. Якой там радасці – стаў несціхальным пажыццёвым болем аўтара. У дадатак выдавецтва падманула яго з ганарарам.

Магчыма, таварыш Г.П. у адносінах да Івана Лепешава дзейнічаў так брутальна, бо ведаў: пры ягонай любімай камуністычнай уладзе той пакаштаваў гулагаўскай баланды. Ці – з’ездзіў да белых мядзведзяў, як сам напісаў у сваім слоўніку. Гэта цемнаватая старонка ў жыццяпісе гарадзенскага прафесара. І асвятляць яе ён чамусьці не стараўся. Увогуле неяк не спалучаліся яны – Лепешаў і ГУЛаг. Нездарма ў даведніку Леаніда Маракова “Рэпрэсаваныя настаўнікі” персаналія “Іван Лепешаў” – нібы пра нейкага іншага Лепешава, які таксама нарадзіўся ў кастрычніку 1924 года ў вёсцы Іскозы на Дубровеншчыне, таксама працаваў настаўнікам у мястэчку Свіслач, таксама быў 9.8.1949 арыштаваны, 12.10.1949 асуджаны, 23.9.63 рэабілітаваны, чый “далейшы лёс невядомы”. Так нібыта і пазначана ў асабовай справе № 8034п, што зберагаецца ў архіве КДБ па Гарадзенскай вобласці.

Справа ляжала на паліцы, а былы гулагавец з “невядомым лёсам” штодня хадзіў міма таго архіва на працу – у Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Купалы.

Я паказваў Івану Якаўлевічу тую таямнічую персаналію. Ён адказаў, як і належала прафесару фразеалогіі, устойлівым выразам: “Бач, нават яны ў трох соснах заблукалі”. І было незразумела, хто заблукаў – Леанід Маракоў ці КДБ...

Іван Лепешаў працаваў, не адчуваючы гадоў за плячыма. За свае амаль дзевяноста толькі сорак два дні паспеў пабыць пенсіянерам. Марыў перавыдаць свой слоўнік – без цэнзурных скаротаў, з гулагаўскімі, праверанымі на ўласнай практыцы, фразеалагізмамі.

Падчас нашай апошняй сустрэчы скрушна ўздыхаў: “З беларушчынай горай было толькі за царызмам”. Уздыхаў і зноў схіляўся над сваёй статысячнай картатэкай, дзе апервалася крылатымі выразамі, каб таксама стаць крылатай, мова. Зрэшты, гэта не так і мала – зрабіць сваю мову крылатай. Каб – крылатая – і за чырвоныя сцяжкі, і з кіпцюроў белых мядзведзяў змагла вырвацца.

## Дудар, якога слухала неба

Па Беларусі найлепш падарожнічаць пад песні гурта “Камелот” – у гэтым я неаднойчы пераконваўся сам і пераконваў сваіх сяброў па вандроўках. Зрэшты, сяброў агітаваць доўга не даводзілася – звычайна пасля дзвюх-трох песняў яны дружна цікавіліся, дзе можна набыць камелотаўскі дыск. Як жа дарэчна гучалі тыя песні пад сценамі Мірскага, Наваградскага і Крэўскага замкаў, на беразе Свіцязі і Кромані, на бясконцых беларускіх бальшаках! Плэер ставіўся на паўтор, і неўзабаве чарговы экіпаж машыны баявой чатырма-пяццю галасамі заглушаў аўтадынамікі:

Хай паказыча нам горла
Каралеўскі напой!
Хай давядзе, што не ўмёрла
Наша справа з табой!
Весялей, браце мой,
Гэй, браце мой...

Песні для “Камелота” пісаў Зміцер Сідаровіч – мой даўні сябра, першы ў маім жыцці тэхнар з беларускім светапоглядам. Навіной пра ягоную раптоўную смерць у сорак восем гадоў я быў літаральна агаломшаны, вярнуўшыся з Украіны, з 200-годдзя Шаўчэнкі. У Кіеве мы са Змітром і пазнаёміліся – у яшчэ савецкім 1987-м. Тады таксама трываў травень, і каштаны на сонечным Хрышчацiку ўздымалі свае белыя свечкі.

Зміцер быў і жнец, і швец, і на дудзе грэц. Ён сапраўды належаў да рэдкага роду мультымастакоў. Ён пісаў вершы, прыдумваў мелодыі і выконваў уласныя песні. Ён граў на гітары і на дудзе. Ён мог навучыць вас танцаваць падыспань. Ён умеў адрозніць аўтэнтычны фальклор ад прафесійных падробак.

Можна было падумаць, што Зміцер закончыў Акадэмію мастацтваў (прычым адразу некалькі аддзяленняў), філфак універсітэта і харэаграфічную навучальню. А ён – выпускнік будаўнічага факультэта Політэхнічнага інстытута, дзе, дарэчы, дыплом абараняў па-беларуску. І было гэта амаль трыццаць гадоў таму, калі айчынная палітэхніка з роднай мовай амаль не зналася. А да інстытута Зміцер Сідаровіч, карэнны мінчук, закончыў 121-ю сталічную школу, звычайную, без “ухілаў”.

Ухіл быў у ім самім – любоў да беларускай старасвеччыны, да нацыянальнага меласу, да бардаўскай песні. І калі з менскіх сцэнаў загучаў гурт “Камелот”, творчым рухавіком якога стаў Зміцер, здалося – гэта пачуліся галасы сярэднявечных ваяроў, якія, ідучы на Грунвальд, прысядалі за стол у карчомцы дзе-небудзь пад Наваградкам ці Крэвам.

Я перакананы: нягледзячы на кароткі час свайго існавання (1991–1996), “Камелот” ужо застаўся ў гісторыі беларускай музычнай культуры. Песні з ягонага альбома “У краіне талераў” мне даводзілася чуць і на глухім лясным хутары пад Ракавам, і ў аўто на вуліцах Львова, і ў кватэры прафесара Варшаўскага ўніверсітэта. Мой сын Вячка, ледзь-ледзь навучыўшыся хадзіць, адважна пайшоў у скокі, як толькі пад акампанемент бубна пачуліся словы: “А дзе ж тыя ваяры, што са мной хадзілі ў Крым”...

Добра, што “Камелот” прагучаў своечасова. На світанку нашай незалежнасці былі патрэбныя якраз такія песні – ваярскія, мужныя, якія б выхоўвалі сапраўдных абаронцаў Айчыны. Нездарма ў шматспадзеўныя 20-я гады мінулага стагоддзя Янка Купала палічыў сваім абавязкам напісаць нізку ваяцкіх, маршавых песняў.

Шкада, што “Камелот” так хутка распаўся, бо наша адраджэнне зацягнулася, і патрэба ў духаўздымных песнях з акцэнтацыяй на айчынную гісторыю засталася.

Асабліва пераконваешся ў гэтым, калі трапляеш у Беларусі на чарговы рыцарскі фэст, дзе маладзёны ў даспехах размаўляюць па-расійску, на мове краіны, у якой тых рыцараў спакон вякоў не было.

“Камелот” распаўся, але Зміцер Сідаровіч і без сяброў-паплечнікаў не апусціў рукі. Ён ахвотна адгукаўся на прыяцельскія запросіны выступіць з камелотаўскім рэпертуарам. Сплаўляўся на байдарках па Вяллі, ехаў у падбеластоцкі Гарадок на “Басовішча”, у Крынічнае над Нёманам на Брылёўскія чытанні, у Зэльву на прэзентацыю новай кнігі Ларысы Геніюш, у Гарошкаў на песенны фестываль Анатоля Сыса, у Сынкавічы на фэст хрысціянскай паэзіі... І паўсюль з ім былі дуда і гітара.

У Крынічным я паказаў сябру цуд прыроды – ладнаватую бярозу, якая вырасла проста на дубовым пні. Стаяла як на пастаменце, нібы сімвалізуючы паяднаную красу і сілу. Зміцер агледзеў той “бярозадуб” з усіх бакоў і сур’ёзна заўважыў, што ў любой справе найгалоўнае – добры падмурак. Надзейным падмуркам для яго самога была гісторыя – пераважна Вялікае Княства, у якое ён, як аднойчы прызнаўся, згодны быў перасяліцца назаўжды. Зміцер пакінуў нам песні пра Бітву пад Воршай, пра славутага Тадэвуша Рэйтана, пра мрою ўсіх ліцвінскіх дзяўчатаў – пана Скіргайлу, песні, у якіх – рыцарская вернасць Радзіме і каханай, весялосць і кемлівасць нашых далёкіх продкаў, якія ведалі смак жыцця. Нездарма галоўным музычным інструментам для Змітра стала дуда, гісторыя якой на беларускіх землях налічвае больш за чатырыста гадоў.

О, пра дуду ён мог расказваць бясконца, быццам праводзіў экскурсію па старасвецкім музеі. Расказваў і паказваў, як дзейнічаюць усе тыя бурдоны і пішчыкі, з якой скуры вырабляецца мех, у чым адрозненне шатландскіх дудаў ад беларускіх. Памятаю, выступалі мы разам у Мазыры, у гімназіі. Без лішняга розгаласу... І розгаласу не было, пакуль Зміцер не ўзяў у рукі дуду. Праз пяць хвілінаў у актавую залу збеглася ўся гімназія ўлучна з кухаркамі са сталоўкі і рамонтнікамі-страхарамі, якія мянялі шыфер на даху. Усе тады пабачылі дуду, якая грала, упершыню. Не выключана, што дуда прыцягнула ўвагу і мясцовых ідэолагаў, чаго дырэктар гімназіі, непалахлівы ўвогуле чалавек, трохі асцерагаўся.

Дудар ад Бога, Зміцер Сідаровіч ахвотна браўся і за гітару. І як бард таксама ўмеў зацікавіць вучняў. Асабліва падабалася ім песня “Ясна панна мая”, якую Зміцер выконваў проста віртуозна. Рэч у тым, што прыпеў тае песні спяваўся скорагаворкай, і я заўсёды перажываў за сябра, каб не збіўся. Не збіўся ні разу. Юныя слухачы забываліся пра ўсё на свеце і здзіўляліся, як можна за дзесяць секундаў (я неяк захранаметраваў) так незвычайна прызнацца ў каханні. Вось як гучаў той прыпеў (косак адмыслова не стаўлю – выканаўца не дазваляў сабе ніводнай паўзы, як толькі паветра ў лёгкіх хапала):

Горы рассыплюцца ў порах
Сонца закрыецца чорным
Зоры сарвуцца з нябёсаў
Буду я голы і босы
Знікнуць гады як хвіліны
Рознае стане адзіным
Золатам зробіцца смецце
Ўсё памяняецца ў свеце
Толькі не знікае
Будзе ў сэрцы гэта песня
Наша зорка зноў заззяе
Наша сонца уваскрэсне!

Перачытваю адзіную кніжку Змітра Сідаровіча “Тры жалуды” (2007), якую выпала рэдагаваць. На ёй – сяброўскі размашысты аўтограф “за тытанічную

працу"... Праца не была тытанічнай. Бо як ты будзеш рэдагаваць песню, якую спяваюць, якая жыве ў народзе? Спеў не заўсёды падуладны законам граматыкі. Вершамі-песнямі з тае кніжкі можна прызнавацца ў каханні. З імі смялей выходзіць на плошчу і прыемна бавіць час у вясёлай сябрыне. Спяваючы іх, шмат хто лічыў Сідаровіча музыкам-прафесіяналам. А ён працаваў ва ўстанове, назву якой з першага разу і не вымавіш, – "Белпраектстальканструкцыя". Канструяваў рэтрансляцыйныя вежы. І пісаў рыцарскія балады.

Калі рыхтавалі тыя "Тры жалуды" да друку, я папрасіў аўтара даслаць як мага больш падрабязную біяграфію. Як зазвычай бывае – аўтар складае свой жыццяпіс, рэдактар рэдагуе і скарачае. Тым разам скарачаць нічога не давялося. Сябра даслаў "падрабязную біяграфію" ў такім выглядзе: "Зміцер Сідаровіч нарадзіўся ў 1965 годзе ў Менску. Дудар. Збірае фальклор". І ўсё. Нават сваю навуковую кандыдацкую ступень не палічыў патрэбным прыгадаць. Так у кніжцы і выйшла.

Апошнім часам ён жыў самотнікам. Сваю аднапакаёўку на дзевятнаццатым паверсе па вуліцы Каліноўскага аздобіў насценнымі камянямі, як старажытны замак. Па вечаровых позніх званках было зразумела, што самоты тае ён у любую хвіліну гатовы пазбавіцца. Дуда і гітара заўсёды былі пад рукой. Аднойчы я спытаўся, зірнуўшы з вакна на далёкую ўнізе вуліцу і блізкія хмары: каму ты тут граеш, калі застаешся надоўга адзін? І Зміцер без ценю ўсмешкі адказаў:

– Небу.

– І слухае?

– Гэта самы лепшы слухач...

Цяпер ён грацьме там. І калі мы, чарговым разам настрашаныя пра хуткі канец свету, раптам пачуем адкульсці звысоку зыкі арханёльскае трубы, то не спяшаймася ставіць апошнюю кропку. Магчыма, гэта гучыць для нас дуда Змітра Сідаровіча. Дудара, якога слухала і слухае неба.

## І адна ў полі – воін

Масквіч родам з-пад Ігумена (сённяшняга Чэрвеня) Аляксей Каўка аднойчы з горыччу прызнаўся, што за паўстагоддзя жыцця ў расійскай сталіцы ні разу не пачуў беларускага слова з вуснаў маскоўскіх пісьменнікаў. І згадаў – дзеля параўнання – учынак польскага паэта Ежы Путраманта, які неяк на літаратурнай вечарыне ў Варшаве, не заглядваючы ў паперку, прачытаў па-беларуску верш Максіма Танка "Спатканне". Гэта агульнапрынятая праява сяброўства і павагі – сказаць хоць пару словаў на мове сябра ці суседа. Дык вось – ні разу. За пяцьдзясят гадоў.

Мне ў гэтым сэнсе пашанцавала больш – падчас чацвёртага ці пятага прыезду ў Маскву (заўсёды – кароткачасовага) я мову пачуў. Ды якую мову – "Пагоню" Багдановіча! Ды ад каго – ад вядомага палітыка і знакамітай дысідэнткі Валерыі Навадворскай! Чытала яна з жудасным акцэнтам, але – "с чувством, с толком, с расстановкой". І ў гэтым быў кайф.

Была нядзеля, быў касцёл, дзе вянчаліся маладыя Янка Луцэвіч і Уладка Станкевічанка, быў помнік Купалу на Кутузаўскім праспекце – і тады, і цяпер афіцыйна не адкрыты. І мне захацелася атрымаць нейкі ўцямны адказ ад кагосьці з масквічоў – чаму ў вас Купала стаіць фактычна нелегалам? Калі ў Мінску помнік Пушкіну адкрывалі, на набярэжнай Свіслачы паўдня бутлі з шампанскім бухалі.

У маім нататніку знайшоўся толькі службовы тэлефон Навадворскай. Хто ж сядзецьме ў выходны дзень у офісе? Яна сядзела. "Пан Міхась, прыязджайце", – і назвала адрас. Трохі збянтэжаны такім зваротам (мяне так ніхто і ніколі не называў), я паехаў на Цвярскі бульвар, адлічыў ад помніка Пушкіну патрэбную колькасць крокаў і зайшоў у будынак без шыльдаў. Думалася пра канспірацыю, пра якую мусяць дбаць маскоўскія апазіцыянеры. Ахоўнік набраў унутраны нумар.

Шмат хто ў апошнія дні пісаў пра мажнасць Валерыі Іллінічны, пра тое, што ў яе балелі ногі. А тады, усяго за год да смерці, яна не сыходзіла па лесвіцы – збягала, узмахваючы рукамі, як гераіня адной з гайдаеўскіх кароткаметражных камедый студэнтка Ліда пасля паспяхова здадзенага іспыту. Прызнаюся – я тады міжволі залюбаваўся.

Прагаварылі мы тады гадзіны дзве – з дыктафонам і без, хоць маю суразмоўцу кожныя хвілінаў пятнаццаць тузалі па мабільніку, кудысьці клікалі. У гутарцы неяк вельмі натуральна і ўсплыла "Пагоня", якую Навадворская упэўнена называла беларускім нацыянальным гімнам, для іншых тэкстаў месца ў гэтым жанры яўна не пакідаючы. На падмацоўку кожнай сваёй тэзы яна з відавочным задавальненнем цытавала страфу ці дзве – і такім чынам прагучаў увесь верш.

Шкадуючы, што побач няма Аляксея Каўкі, я выказаў сумненне, што ў 50-я гады ў Баранавічах (радзіма Навадворскай) вывучалі ў школах "Пагоню". Валерыя Іллінічна іранічна зірнула праз тоўстыя шкельцы акуляраў: "А колькі сёння ў Баранавічах беларускіх школаў?" – "Ніводнай". – "Вы дарэмна думаеце, пан Міхась, што пасляваенныя камуністы былі большымі нацыяналістамі за сённяшніх лукашыстаў".

Між іншым, пасля выхаду тае перадачы ў эфір на радыё "Свабода" мне сёй-той казаў: Навадворская да дзевяці гадоў жыла ў Беларусі, у школе тут вучылася, таму і вершы са школьнай хрэстаматыі ведае... Дзевяць гадоў – гэта максімум другі клас. Хацеў бы я пабачыць таго настаўніка расійскамоўнай баранавіцкай школы (і ў пояс яму пакланіцца!), які ў 50-я гады ставіў "пяцёркі" другакласнікам за дэклямаванне "Пагоні"... Не, Багдановіч у навучальнай праграме Навадворскай яўна ўваходзіў у "пазакласнае чытанне", калі кнігу бяруць у рукі не для адзнакі, а для душы.

Пакінуўшы Баранавічы ў дзевяцігадовым узросце, Навадворская на ўсё жыццё захавала сантымент да рэдка чутай у маленстве беларускай мовы і Беларусі (асабліва – да Заходняй). Тады ж, падчас тае сустрэчы ў Маскве, яна прызналася, што зберагае дома мяшэчак з беларускай зямлёй...

Ведаючы пра яе абазнанасць у сусветнай літаратуры, я папрасіў назваць беларускіх пісьменнікаў, беларускія творы, якія вартыя прызнання ў цэлым свеце. Трохі падумаўшы, Валерыя Іллінічна назвала кнігу-помнік "Я з вогненнай вёскі" Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка, "Апошнюю пастараль" таго ж Адамовіча. Назвала і імя Васіля Быкава. "А якія творы?" – "Усе!" – прагучаў адказ.

Пра быкаўскіх герояў Петрака і Сцепаніду са "Знаку бяды" яна гаварыла, як вернік гаварыў бы пра апосталаў Пятра і Паўла. Хоць, як згадаць таго Петрака (у пташукоўскім фільме яго бліскуча сыграў Генадзь Гарбук), – звычайны хутаранец, якіх тысячы было ў Беларусі падчас вайны.

Так, Навадворская, як мала хто з сучаснікаў, ведала літаратуру. Усю – ад старажытных рымлянаў да паэтаў Срэбнага веку і савецкага графа Аляксея Талстога. За вокамгненныя дзве гадзіны я пачуў, як яна смакавала афарыстычныя радкі Барыса Чычыбабіна. Захаплялася апошнімі вершамі Мікалая Гумілёва і – асабліва – яго паводзінамі ў чэкісцкіх засценках перад расстрэлам. Іранізавала над Маякоўскім з яго вядомым: "Я хочу, чтоб к штыку приравняли перо". Гэта ад яе я ўпершыню пачуў працяг гэтых радкоў, што гучаў як пародыя: "С чугуном чтоб и с выделкой стали / о работе стихов на Политбюро / чтобы делал доклады Сталин". Пра Багдановіча, які для Навадворскай быў беларускім Срэбным векам у адной асобе, я ўжо згадваў. Паводле Валерыі Іллінічны, беларусы мусілі ў жыцці кіравацца "Пагоняй", там прапісана ўся наша нацыянальная ідэя.

На развітанне яна надпісала мне сваю кнігу "Паэты і цары": "Сябру Михасю Скобле от В. Новодворской. Живе Беларусь! 19.11.2012". Выйшла з расійскім акцэтам – як і цытаванне "Пагоні". Гэты амаль пяцісотстаронкавы том я параіў бы ў якасці падручніка ўсім студэнтам-філолагам. Навадворская таленавіта ўзняла на катурны сапраўды вартых творцаў, а пралікі іхнія бязлітасна зрэвізавала.

Прыкладам, паэму “Дванаццаць” Аляксандра Блока, разгадваючы якую пасівела не адно пакаленне ўніверсітэцкай прафесуры, рэвізор Навадворская назвала папросту “дзікім кактэйлем з бандыцкага шансону, урыўкаў з бальшавіцкіх дэкрэтаў і прафанацыі хрысціянства”. Не, званне *gonoris causa* за літаратуразнаўчыя дасягненні ёй у Расіі ніяк не свяціла. Хоць на лекцыі Навадворскай, пусці яе ў МГУ, студэнты, я ўпэўнены, збягаліся б натоўпамі.

Бескампраміснасць і непадкупнасць Велерыі Навадворскай у адстойванні ўвідочненай ёй ісціны праявіліся яшчэ ў той час, калі яна вучылася ў Маскоўскім інстытуце замежных моваў і рыхтавалася стаць перакладчыцай французскай літаратуры. Аднойчы, адклаўшы ўбок недаперакладзенага Камю, яна напісала антыкамуністычную ўлётку-верш, дзе быў рэфрэн: “Спасибо, партия, тебе”. Там дзячылася КПСС за рабства і дзвюхдушша, за хлусню і подлае маўчанне, за паходню на пражскай плошчы – меўся на ўвазе Ян Палах, які самаспаліўся, пратэстуючы супраць савецкай акупацыі ў 1968-м.

Аддзячаная партыя паспрабавала правучыць дысідэнтку псіхбальніцай. Не дапамагло. Паспрабавала Ляфортаўскай турмой. Безвынікова. Паспрабавала спакусіць падсалоджаным на Лубянцы хлебам эміграцыі. Але і гэта не ўдалося. І партыя змірылася. А апрануўшыся ў тогу дэмакратыі, ужо ў 1993-м, намервалася нейтралізаваць Навадворскую ордэнам. Яна ордэн не прыняла.

Дарэчы, я неяк спрабаваў высветліць, хто з беларускіх пісьменнікаў адмаўляўся ад дзяржаўных ордэнаў. І атрымалася, што такіх за ўсю савецкую гісторыю папросту не было. Ніводнага. Найбольшае, ад чаго ў нас адмаўляліся, – ганаровая грамата камсамола.

Пра неадкрыты помнік Купалу мы з Валерыяй Іллінічнай тады так і не пагаварылі. Купала ёй быў нецікавы. Каліноўскі – так: бясстрашны, самаахвярны, сапраўдны герой.

Згодна з яе перакананнямі выходзіла, што кожны палітык павінен быць гатовы ў любы момант узысці на эшафот. Наш Кастусь і Жанна д’Арк былі тут для Навадворскай яскравымі прыкладамі. Сама яна загінуць у супрацьстаянні з ворагам лічыла сваім абавязкам. Але – каб на барыкадах, каб смерць сустрэць тварам у твар. І, як заўсёды, падмацоўвала сваю думку вершаванымі радкамі, у гэтым выпадку – гумілёўскімі: “И умру я не на постели, / при нотариусе и враче”... Але смерць менш за ўсё клапоціцца пра геройства сваіх ахвяраў.

Адзін з паплечнікаў Валерыі Навадворскай параўнаў яе жыццёвыя прынцыпы з самурайскім кодэксам. Маўляў, памерці за радзіму – запаветная мара самурая.

Дзіўнае японскае слова “самурай”. Яно як бы складаецца з трох беларускіх. Сам у рай трапіў – вось і атрымаўся самурай...

Не ведаю, які кодэкс спраўдзіў у рабы Божай Валерыі апостал Пятро. Сумняваюся, што самурайскі. Мне здаецца, што яму было больш цікава паслухаць анёлаў-суправаджальнікаў, якія расказалі, як навапрыбылая да райскай брамы душа заўсёды слугавала свабодзе і супраціўлялася чалавеканенавісніцкім рэжымам. Як раба Божая Валерыя ўсім сваім жыццём аспрэчвала і ўрэшце аспрэчыла папулярны ў народзе выраз пра тое, што адзін у полі не наваюеш. Валерыя Навадворская даказала: і адна ў полі – воін, калі раці за спінай няма, а ворагу даваць адпор трэба.

## Віцебскі дыскамфорт князя Альгерда

Помніка князю Альгерду віцьбічы чакалі чатыры гады. І чакалі б яшчэ сорак чатыры, каб не “новая політычная сытуацыя”, як выказваўся самы хамелеоністы герой беларускай сцэны Мікіта Зносак. Вось жа ўмеў чалавек прыстасавацца – і да палякаў, і да немцаў, і да бальшавікоў, і да БНР. Праўда, трапляў часам у вартыя

жалю становішчы, калі гледачы ў зале не ведалі, плакаць ім ці смяяцца. Што ж, на тое яна і трагікамедыя – як вызначыў жанр сваіх "Тутэйшых" Янка Купала.

"Новую політычную сытуацыю" для кіраўніцтва Беларусі гэтым разам вызначылі падзеі ва Украіне. Азірнуўшыся вакол, яно неспадзявана пабачыла "русский мир", на абарону якога ў любы момант можа прыляцець расійскі дэсант. Гэта ж трэба – дваццаць гадоў будаваць "сильную и процветающую" Беларусь, якая па ўсіх прыкметах (найперш моўных) падыходзіць пад гэтае прыдуманае ў Крамлі вызначэнне. Ніякі Даль вам не растлумачыць, што такое гэты "русский мир". А на абывацельскім узроўні ўсё выглядае працей простага: гаворыш па-расійску – значыць, ты і ёсць "русский мир". Што тут галаву ламаць?

Быць часткай "русского мира", хай сабе і шасцігуберневай, кіраўніцтву Беларусі відавочна не хочацца. Як там наш мудры народ гаварыў у падобных выпадках? Як топішся, то і за саломку ўхопішся. Вось і пачало кіраўніцтва хапацца за ўсё, што адрознівацьме яго ад "русского мира". Мову беларускую раптам успомніла – і тут жа нават апазіцыянеры ў ладкі запляскалі: "Як хараша прамаўляе! гэта яго родная мова!" На Дзень перамогі георгіеўскія стужачкі забараніла, замест іх чыноўнікі чырвона-зялёныя банцікі пачапілі – маўляў, мы адрозныя ад "русского мира". Думаецца, што і новы пампезны Палац незалежнасці ў ландшафт ускраіны "русского мира" абсалютна не ўпісваецца. Беларускага там усё ж нямала – "на камні, жалезе і золаце". Ад слуцкага пояса ў зіхотным ад раскошы фае да Пагоні на прылеглай плошчы.

З тае самае оперы і новапаўсталы ў Віцебску конны помнік вялікаму князю Альгерду. Міндоўг у Навагрудку пачакае, Гедымін у Лідзе пачакае, сённяшняя "політычная сытуацыя" вымагае ўзняць на пастамент Альгерда! На Маскву трыма паходамі хадзіў? Хадзіў. Да Крамлёўскай брамы дзіду прысланяў? Прысланяў. Ад маскоўскіх баяраў выкуп на Паклоннай гары браў? Браў. Ах ты, князь наш геройскі, такі як трэба, сядай на бронзавага каня і пільна аглядай усходнюю мяжу, ці не паўзе падступны вораг абвяшчаць "Віцебскую народную рэспубліку". Мы табе і відушчага сокала на руку пасадзім – толькі ж не праваронь захопнікаў. Як заўважыш, дай знаць – змабілізаваны па трывозе БРСМ за ноч выкапае супрацьтанкавы роў ад Віцебска да Гомеля такой глыбіні і шырыні, што ўсе паўднёва-заходнія ўкраінскія губернатары пазайздросцяць...

Урэшце, ліха з ёю, з "політычнай сытуацыяй". Сітуацыя пераменіцца – помнік застанецца. І ў Віцебску застанецца, і ў Полацку, дзе князь Усяслаў Чарадзей з пастамента таксама не дужа міралюбна на ўсход паглядвае. Думаецца, і Міндоўг з Гедымінам свой час падгадаюць і асядлаюць бронзавых коней адпаведна ў Навагрудку і Лідзе. А раз пайшла ў нас такая тэндэнцыя – вялікіх князёў ушаноўваць, то трэба паклапаціцца, каб прыжыліся яны не толькі на нашых вуліцах і плошчах, але і ў школьных падручніках, у свядомасці людзей. Умоўна кажучы, каб пстрыкнуў я тэлекнопкай, а на экране – гістарычная рэканструкцыя, скажам, міцкевічаўскай балады "Тры Будрысы": "Маю клопат я пільны – наказалі мне з Вільні, / што ідуць ваяваць неўзабаве / Кейстут-князь з крыжакамі, а Альгерд – з маскалямі, / а Скіргайла на ляхаў зуб мае. / Я наказ вам цяпер дам: ты ідзі за Альгердам, / ён на Ноўгарад сілу абрыне...". Пстрыкнуў яшчэ раз, а на другім канале – мастацкая экранізацыя гістарычных раманаў Вольгі Іпатавай "Вяшчун Гедыміна" і "Альгердава дзіда".

Прыйдзе час – будзе і квас, не ўсё зараз – чую я галасы нацыянальных аптымістаў. Пагаджаюся. Каб уся Польшча прыйшла ў захапленне ад "Пана Тадэвуша" і "Пана Валадыеўскага", мусілі прамінуць дзесяцігоддзі і нарадзіцца Анджэй Вайда і Ежы Гофман. Здаецца, пакуль кінастудыя "Беларусьфільм" на маштабныя гістарычныя праекты і не замахваецца. Зрэшты, аднойчы замахнулася – на "Каласы пад сярпом тваім." Праўда, замах той далей сцэнарыя не пайшоў.

Прызнаюся, блукаць доўгімі і змрочнымі калідорамі “Беларусьфільма” ў мяне вялікай ахвоты няма. Школьныя падручнікі па гісторыі з гледзішча прысутнасці там вялікіх князёў пагартаем таксама хіба іншым разам. А тут і цяпер давайце зазірнем у гісторыю Віцебска. Без сумневу, жыццяпіс князя Альгерда – адна з яе яскравых старонак.

Мяркуючы па тым, як доўга і далікатна князя ўсаджвалі верхам, як нешта там шліфавалі і падкручвалі, сядзець яму на кані камфортна. Але ці камфортна князю ў горадзе Віцебску? Ці не абражае што яго княжацкую годнасць? Як жа не абражае? Вялікага князя, абаронцу і збіральніка беларускіх земляў гарадскія ўлады прапісалі на вуліцы... Суворава. Абаронцу – на вуліцы захопніка! Касінераў Касцюшкі з гарматаў расстрэльваць – вось і ўсе ягоныя ратныя подзвігі ў Беларусі. Як жа тут не абразіцца князю?

Падазраю, што па начах ён цішком з’язджае з пастамента і ў пошуках больш адпаведнага месца вандруе па Віцебску. Як той Медны коннік з аднайменнай пушкінскай паэмы. І тут я князю спачуваю. Бо вялікі князь Альгерд абавязкова заблукае ў хітраспляценнях гарадскіх вуліцаў з самай недарэчнай у Беларусі тапанімікай.

Мяркуйце самі – у Віцебску дзесяць вуліцаў (!) носяць імя Надзеі Крупскай, пяць – названыя ў гонар Якава Свярдлова (прычым ёсць вуліцы з парадкавымі нумарамі 10 і 11), чатыры вуліцы маюць імя Валерыя Чкалава, столькі ж дасталося Канстанціну Заслонаву, тром нададзена імя Мікалая Чарнышэўскага, яшчэ тром – Аўгуста Бебеля, дзвюм – Міхаіла Фрунзэ...

А заверне князь каня ў другі бок – патрапіць на пяць вуліцаў Сацыялістычных, тры Кастрычніцкія, чатыры Саўгасныя, тры Першамайскія, дзве Пралетарскія і рызыкуе закончыць свой шлях аж на васьмі (!) Клінічных.

Ці ж не вар’ятня? Тут не толькі ў князя, але і ў звычайнага таксіста галава закружыцца.

Назва вуліцы павінна хоць нешта гаварыць тым, хто на ёй жыве. Віцьбічы з вуліцаў Мопраўскіх (іх у горадзе дзве) наўрад ці ведаюць, што МОПР – даўно канулая ў лету “Международная организация помощи революционерам”.

А як вам такая раскладка – у Віцебску ажно чатырнаццаць (!) вуліцаў Лучосных, але адна вуліца – на двух актораў Яроменкаў (дарэчы, не чужых Віцебску, як пералічаныя вышэй дзеячы).

Прызнаюся, такога бязладдзя ў гарадской тапаніміцы я больш нідзе не сустракаў. У Віцебску дзясяткі вулічных найменняў шматкроць (па тры, чатыры, пяць, шэсць, сем разоў!) паўтараюцца. Гэта нейкі віцебскі феномен чыноўніцкай дурноты, ад якой старажытнаму гораду трэба патроху пазбаўляцца. Ну каму патрэбныя тры вуліцы Шавардзінаўскія, чатыры Азіна, пяць Лужаснянскіх, шэсць Палярных, сем Стадыённых, дзевяць Задарожных і дзесяць Лугавых?

Не ведаю, як называліся віцебскія вуліцы ў часы Альгерда, але думаю, што нават у XIV стагоддзі ў горадзе над Дзвіной з гэтым быў большы парадак.

Толькі ўдумайцеся: у Віцебску ажно дзесяць вуліцаў імя Крупскай і – адсутнасць вуліцы імя Васіля Быкава. За што такі гонар Крупскай, якая ў 20-я гады апантана чысціла бібліятэкі ад кніг Платона, Канта, Ляскова, Аксакава і Чукоўскага ды іншай “буржуазнай каламуці”? У горадзе пяць вуліцаў Свярдлова і – ніяк не ўшанаваны Рыгор Барадулін. Затое ўшанаваны Свярдлоў, які прымаў рашэнне аб расстрэле царскай сям’і, дзе былі непаўнагадовыя дзеці, які быў адным з ініцыятараў чырвонага тэрору. Навошта віцьбічам дзве вуліцы Фрунзэ, які тапіў у крыві масавыя сялянскія паўстанні ва Украіне і Самарскай губерні? Пераназавіце адну з іх у гонар паэта Генадзя Бураўкіна.

І Быкаў, і Барадулін, і Бураўкін – нараджэнцы віцебскай зямлі, яе гонар і слава. Пра быкаўскія Бычкі на Віцебшчыне ведае ўвесь свет. Барадулін навечна

падараваў сябе – Віцебшчыне. Песні Бураўкіна штолета лунаюць над Віцебскам падчас "Славянскіх базараў"... Дык чаму мясцовая ўлада і пальцам не паварушыць, каб хоць на паўадсотка выправіць тую тапанімічную бязглуздзіцу, якая сёння існуе ў горадзе? Некаму ж трэба пачынаць.

А можа, змены да лепшага прынясе ў Віцебск вялікі князь Альгерд? Няўжо ён не адолее Суворава? Не такі ўжо непераможны гэты расійскі генералісімус. Вунь у вёсцы Малыя Круговічы на Ганцаўшчыне сабраліся жыхары і пераназвалі вуліцу Суворава імем свайго земляка, паэта Віктара Гардзея. Прыжыццёва. А старыя вулічныя шыльды сабралі і спалілі. Каб і духу сувораўскага на ганцавіцкай зямлі не было.

Учынак мірных сялянаў варты перайманні па ўсёй Беларусі. А для ваяўнічага князя Альгерда прагнаць са сваёй зямлі акупанта – справа гонару.

## "Абы вольности уживати могли"

Для пільных беларускіх памежнікаў кніга – тавар кантрабандны. Як наркотык ці зброя. Паспрабуйце ў прысутнасці суворага чалавека ў пагонах прызнацца, што ўвозіце ў Беларусь кнігі – і вас будуць абшукваць доўга і настойліва. Магчыма, нават з чацвераногім памочнікам. Вам любы сабака з задавальненнем пацвердзіць, што свежавыдрукаваная кніга – вельмі пахучы прадукт, і знюхаць яе ў любым багажы, нават пад накрухмаленымі кашулямі вельмі проста.

Як пахне кніга, выдадзеная чатыры з чвэрцю стагоддзі таму, – мабыць, ніводны сабака, што служыць на мяжы, не ведае. Рэдка возяцца падобныя рарытэты з краіны ў краіну, таму практыкі ў сабак аніякай. На розны антыкварыят больш "настроеныя" рукі і вочы ў людзей. Вось жа і ў расійскіх памежнікаў, відаць, свярбелі рукі затрымаць на мяжы Статут ВКЛ, які нядаўна везлі з Масквы ў Мінск. Як-ніяк гісторыка-культурная каштоўнасць. Дзеля гэтага сучасным карацупам не трэба было дзяжурыць ночы напралёт – у СМІ нават быў абвешчаны дзень, калі той Статут павязуць. Але дзіва дзіўнае – каштоўнасць вывезці дазволілі, як быццам ехала яна не ў другую краіну, а куды-небудзь у Сыктыўкар ці ў Пензу.

Мала таго, дайце веры, старадрук на маскоўскім аўкцыёне быў куплены з дапамогай расійскай кампаніі "Альпары". Для братняй Беларусі нам грошай не шкада – патлумачыў яе прадстаўнік. Ну і азадачылі вы нас, рабяты – як любіла гаварыць мая школьная настаўніца беларускай мовы і літаратуры.

Стагоддзямі вывозілі, а цяпер нарэшце вяртаць пачалі? Дык, можа, і дзясятак-другі слуцкіх паясоў падкінеце? А то барысаўскія ткачыхі ў роспачы: з высокай трыбуны абвешчана: слуцкі пояс – у кожны дом, а ўзорных экзэмпляраў – няма. А можа, і Крыж Ефрасінні Полацкай па запасніках маскоўскіх музеяў пашукаеце? Бо дзе ж яму было падзецца з ахопленага ваеннай панікай Магілёва, як не на ўсход? А там, глядзіш, і мастацкія скарбы з сапегаўскага Дзярэчына, сканфіскаваныя пасля паўстання 1831 года, надумаеце вярнуць. Што праўда, паў-Эрмітажа падчысціць давядзецца...

Вось была б праява ісцінна братэрскай любові – пасля памятнага пуцінскага візіту ў Мінск – "на сваю зямлю", як прагучала ў прывітальным вернападданіцкім слове ад прымаўшага боку. Пасля Пуціна – і Статут прыбыў. Вось такія ў нас цяпер з Расіяй новыя статутныя адносіны.

Ці тут няма прычынна-следчай сувязі, проста – так усё супала? І ахвяраўскладанне на алтар братэрства ад кампаніі "Альпары", і згаворлівасць невядомага маскоўскага калекцыянера, і актыўнасць (нарэшце!) беларускіх мецэнатаў і грамадзянскай супольнасці ў справе вяртання на радзіму насамрэч каштоўнай музейнай рэчы?

Зрэшты, у любым выпадку мы пабагацелі, і цяпер Беларусь па колькасці

статутаў ВКЛ апынулася нароўні з Вялікабрытаніяй: у Лондане – адзін статут, і ў Магілёве – адзін. А ў Расіі гэтых статутаў – хоць у макулатуру здавай...

Але найбольш мяне пацешыла ў гэтых беларуска-расійскіх статутных адносінах пазіцыя літоўскіх гісторыкаў. Маўляў, Статут ВКЛ 1588 года для літоўцаў – не унікум... Калі для вас не унікум, то перадайце (прадайце, абмяняйце) беларусам, для якіх Статут гэты – найунікальнейшая рэч, якая па сваёй каштоўнасці можа зраўняцца хіба са Скарынаўскай Біблияй. Бо Статут і Біблія, напісаныя на старабеларускай мове, гэта ж проста кутнія камяні пад гмах нашай дзяржаўнасці. А пад што могуць літоўцы "падкласці" наш Статут? Гэта ж не Пагоня, не вершнік збройны на кані, якому хвост вышэй задраў, і паводле геральдычных законаў гэта ўжо зусім другі герб...

Неяк я зайшоў у кнігарню на праспекце Гедыміна ў Вільні і літаральна аслупянеў. Ля прылаўка, проста на падлозе, ляжаў цэлы штабель статутаў ВКЛ 1529 года! Выдадзеных яшчэ ў савецкай Літве, у супервокладках, на трох мовах – у арыгінале, па-расійску і па-літоўску, з навуковымі каментарамі. Яшчэ больш я разгубіўся, калі на кожным фаліянце згледзеў налепку – 1 літ. Думаючы, што тут мае месца нейкая памылка, я перапытаў пра кошт у прадавачкі. Не, памылкі не было. Факсімільнае перавыданне Статута 1529 года насамрэч каштавала 1 літ. Для параўнання – квіток на тралейбус у Вільні каштуе 2 літы.

Больш за дваццаць гадоў статуты тыя праляжалі на кніжным складзе, і вось ад іх нарэшце вырашылі пазбавіцца. Дзякуй Богу – цывілізаваным чынам, шляхам фактычна бясплатнай раздачы ўсім зацікаўленым. А маглі б парэзаць на макулатуру. Для іх – не унікум... Вось такія ў нас і з Літвой статутныя адносіны.

Гісторыкі кажуць, што канцлер Леў Сапега строга сачыў за выкананнем усіх патрабаванняў статута, які сам і распрацаваў. Як там у прадмове яго княжацкая міласць напісалі: "Яко Цыцеро поведил, иж естесмо невольниками прав для того, абысмы вольности уживати могли".

Дзвесце гадоў нашыя продкі былі "нявольнікамі законаў", і гэтая двухвяковая законапаслухмянасць – у крыві беларусаў. Таму ў РБ можна прыняць любы закон, і ён будзе выконвацца пераважнай большасцю насельніцтва. Адкуль, думаеце, у сённяшняй Беларусі малазразумелая народная любоў да найвышэйшай меры пакарання? Разгарніце Статут (мінскае факсімільнае перавыданне 1989 года): за здраду дзяржаўным інтарэсам, за забойства, за згвалтаванне, за падробку грошай, за наезды на гумны шляхецкія і г.д. – караць горлам...

Перавыдадзены ў Беларусі Статут 1588 года – наклад 10 000 (!) – немагчыма сёння набыць у букіністычных крамах. Зрэшты, адразу па выхадзе ў свет ён стаў бестселерам і быў раскуплены імгненна. Як вострасюжэтны раман ці якое іншае папулярнае чытво. Што само па сабе выглядае даволі загадкава.

Памятаю, прыканцы 90-х прыехаў у Беларусь князь Яўстах Севярын Сапега – з тых самых Сапегаў, якія і статуты выдавалі, і гетманамі польнымі ў ВКЛ былі, і з пакалення ў пакаленне змагаліся за незалежнасць свайго Краю. Князь прыехаў здалёку – з Кеніі, пераадолеўшы ў васьмідзесяцігадовым узросце пяць тысячаў кіламетраў. Прыехаў, маючы тры мары: пабыць у Ружанах і Дзярэчыне, дзе калісьці месціліся рэзідэнцыі ягоных продкаў; папаляваць у сваім Ружанскім лесе; займець у сваю фамільную бібліятэку Статут ВКЛ.

Збылася толькі першая мара князя – паездкі ў Ружаны і Дзярэчын мы з сябрамі яму арганізавалі. У Ружанскім лясніцтве госць з далёкай Афрыкі пачуў, што па дазвол на паляванне яму трэба звяртацца да самога прэзідэнта Беларусі... І Статут мы князю, нягледзячы на ўсе намаганні, на жаль, не знайшлі. Сам я яго тады не меў, а ўсе мае знаёмыя і сябры, якія мелі, расставацца са сваім кніжным скарбам не захацелі.

Яўстах Севярын Сапега асаблівых фанабэрый не меў і, здаецца, не пакрыў-

дзіўся, бо неўзабаве прыслаў з Найробі ўсім сваім спрыяльнікам па асобніку ўласнай мемуарнай кнігі. Калі б князь, які без сумневаў лічыў сябе грамадзянінам Вялікага Княства Літоўскага, дажыў да нашых дзён, я перакананы – ён таксама паўдзельнічаў бы ў акцыі вяртання арыгінальнага Статута ў Беларусь. Як тое зрабілі (апрача кампаніі “Альпары”) шматлікія беларусы, якія і ў XXI стагоддзі згодныя, як і іхнія далёкія продкі, быць “нявольнікамі законаў”, абы толькі “вольности уживати могли”.

## На якую трасцу нам трасянка?

Нядаўна знаёмы расійскамоўны пісьменнік звярнуўся да мяне з не зусім звычайнай просьбай. Зрэшты, просьба як просьба, але матывацыя... Карацей кажучы, знаёмец папрасіў перакласці на беларускую мову яго дзіцячую кнігу. А калі я запытаўся ў яго, навошта гэта табе, то пачуў адказ – хай для ўнукаў застанецца.

То бок, яшчэ даволі малайцаваты дзядуля, які ўсё жыццё гаварыў па-расійску, напісаў па-расійску дзясяткі два кніжак, у зрусіфікаванай амаль дарэшты Беларусі дзіўным чынам упэўнены, што ягоныя ўнукі будуць чытаць і размаўляць па-беларуску! Дзеля пацверджання свае ўпэўненасці калега нават гатовы раскашэліцца і ганарары ад маскоўскіх выданняў пусціць на сваю шыкоўна ілюстраваную беларускамоўную кнігу.

Прызнаюся – я быў уражаны, але не падаў выгляду. Маўляў, так і павінна быць. Толькі працытаваў свайму знаёмцу Купалу: “К свабодзе, роўнасці і знанню / мы працярэбім сабе след, / і будзе ўнукаў панаванне...” Я наўмысна “забыўся” апошні радок гэтага вядомага чатырохрадкоўя, бо дзед зусім не плакаў, а прыехаў на сустрэчу на даволі прэзентабельным аўто.

І ўсё ж дзіўнаватае адчуванне мяне тады доўга не пакідала. Далёка не аднадумцы ў дні сённяшнім, мы цалкам сыходзіліся ў бачанні беларускай будучыні. І ў той будучыні нам – рознамоўным і адрозным светапоглядна – аднолькава бачылася наша краіна. Беларускамоўная Беларусь. Умацаваная адзінай мовай.

І мне ўспомнілася, як алімпійская чэмпіёнка Надзея Астапчук (штурхальніца ядра) прызнавалася ў выкарыстанні незвычайнага стымулятара. Аказваецца, мае яна такую завядзёнку – перад самым выхадам у сектар для штурхання ў вузкім коле паразмаўляць па-беларуску. І – адразу адчувае прыліў энергіі. Вынік – залатыя і срэбныя мэдалі, якія не даюць спакою допінг-кантралёрам. Будзем спадзявацца, што хоць “моўны стымулятар” беларускай чэмпіёнкі не выкліча ў іх падазрэнняў.

Мова – гэта сіла. І для адной спартсменкі, і для шматмільённага народа. Як адолець сілу? Трэба яе аслабіць знутры. Так у стан непрыяцеля засылаецца спрактыкаваны лазутчык, які ўмее дэмаралізаваць варожае войска. Так пад кару здаровага дрэва запаўзае шашаль і пачынае яго тачыць – ад абалоні да сэрцавіны.

Шашаль беларускай мовы – трасянка. Здаўна яна існавала на маргінэсе грамадскага жыцця, не робячы ў ім надвор'я. Але апошнім часам статус трасянкі пачаў штучна падвышацца. З'явіліся высакалобыя разумнікі, якія абвесцілі трасянку самабытнай і цікавай моўнай з'явай, якая мае права на грамадскае жыццё. На трасянцы пачалі пісаць некаторыя маладыя паэты, і вось ужо разнеслася па краіне пагаласка пра першую трасяначную кніжку з пазнавальнай назвай “Пішчавыя лішкі”. Як ні дзіўна, у падтрымку трасянкі шматкроць выступаў і працягвае выступаць старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў (назвы ягоных інтэрв'ю – “Лупіце на трасянцы!”, “Нас спасает трасянка”). А апагеем навязвання грамадству трасянкі стаў апошні перапіс насельніцтва, падчас якога кіраўнік Беларусі заявіў на ўсю краіну, што размаўляе на трох мовах – па-расійску, па-беларуску і... на трасянцы. Пасля такога прызнання заканамерна было чакаць указа ці рэферэндума аб трох дзяржаўных мовах. Але не трэба будзіць ліха, хай спіць ціха.

Высакалобыя разумнікі тлумачаць, што трасянкі розных гатункаў распаўсюджаныя ва ўсім свеце, параўноўваюць беларускі варыянт з піджынам і суржыкам. Але піджын – з'ява зусім іншага парадку, ён узнікае ў экстрэмальнай сітуацыі, пры міжэтнічных кантактах (часам – канфліктах), калі з'яўляецца вострая неабходнасць паразумецца, каб не нарабіць яшчэ большай бяды. А суржык – гэта той самы шашаль, толькі точыць ён мову ўкраінскую. З трасянкай яны сапраўды – як блізняты, і паходжанне ў іх аднолькавае, і спосабы пранікнення.

Маладым паэтам хочацца вылучыцца, хочацца пазбегнуць падабенства з астатнімі. Усе пішуць па-беларуску? А я буду на трасянцы, да чаго вунь і старшыня ТБМ заклікае. І вось ужо фэйсбукі і твітары разносяць па свеце рыфмаванкі накшталт: "Жэншчына з вядром на галаве, вы каво удумалі пугаць ім? Мы ведзь вам за эпатаж не плацім, жэншчына з вядром на галаве". Смешна? Яшчэ як. Моладзь пасцябацца любіць. Але сцёб гэткі прыядаецца пасля першай жа порцыі. Што добра разумелі Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч у "Пінскай шляхце", Янка Купала ў "Тутэйшых", Ніл Гілевіч у "Родных дзецях", уводзячы трасянку ў тэкст невялічкімі дозамі, і то дзеля таго, каб паказаць у камічным святле сваіх герояў-прыстасаванцаў.

Аўтарытэтны гісторык Алег Трусаў мае, вядома, права выступаць у абарону трасянкі. Але, як на добры лад, ён мусіў бы спачатку сысці з пасады старшыні ТБМ. Бо што ж гэта за садоўнік, які ў давераны яму сад кашамі носіць жукоўкараедаў? Калісьці я публічна, у прысутнасці шаноўнага Алега Анатолевіча, прапанаваў пераназваць трасянку ў трусянку – у ягоны гонар. За асаблівыя, так бы мовіць, заслугі. І – не пачуў пярэчанняў. Відаць, спадабалася. Калі так – хай будзе трусянка. Прынамсі, будучым этымолагам не прыйдзецца ламаць галаву над паходжаннем слова, а то ў трасянцы нейкая трасца чуецца.

Калі пазіцыя старшыні ТБМ адносна трасянкі-трусянкі выглядае дзіўнавата, то пазіцыя "трохмоўнага" палітыка ясная як Божы дзень. "Трэцяя мова" патрэбная для размывання, для падточвання першай. Шашаль трасянкі падточыць мову беларускую, і тады "другая дзяржаўная" запануе ў Беларусі з усім уласцівым ёй размахам.

Трасянка – рэч далёка не бяскрыўдная, як некаму працягвае здавацца. Гэта з'ява пачварная, антыкультурная. Гэта – траянскі конь русіфікацыі, і ўцягваць яго на беларускі падворак небяспечна.

Беларусам трасянка далася ў знакі яшчэ на самым пачатку сталінскага тэрору. Не, на ёй "тройкі" не пісалі свае прысуды. Проста тагачасны сакратар моўнай камісіі Інбелкульта Язэп Воўк-Левановіч у 1929 годзе выступіў на моўнай канферэнцыі ў Акадэміі навук з яўна правакацыйнай прапановай – увесці ва ўжытак наступныя словаформы: "інцярэсы", "ліцература", "шчот", "случай", "фяўраль" ды інш. Пісьменнікі і мовазнаўцы пачалі пратэставаць супраць відавочнай бязглуздзіцы. Іх пратэсты адсочваліся ГПУ, і ў 1930-м усе нязгодныя з засмечваннем беларускай мовы апынуліся ў ГУЛагу. Следам за імі саслалі да белых мядзведзяў і Ваўка-Левановіча, адкуль ён, як і большасць ягоных калегаў, ужо не вярнуўся.

Беларуская мова перажыла многіх сваіх прытоеных незычліўцаў і зацятых ворагаў. Расійскага цара, які абвесціў яе па-за законам. Першага сакратара ЦК КПБ, які пісаў на яе даносы Сталіну. Маскоўскага генсека, якому яна перашкаджала рухацца да камунізму. Усіх перажыла. А паводле словаў Генадзя Бураўкіна, і "тых перажыве, хто з трасянкаю ў галаве".

І ўсё ж наймудрэй паступіла студэнтка-перапісчыца ў Драздах. Пачуўшы ад рэспандэнта пра трэцюю мову – трасянку, яна яе мужна праігнаравала і нават не пазначыла такое ўзніклае ў асобна ўзятай галаве "трохмоўе" ў апытальніку.

# Непрыдуманая літаратура / літаратура нон-фікшн у Беларусі – што гэта?

## *Круглы стол*

У студзені 2015 г. больш як трыццаці беларускім аўтарам і даследчыкам была скіраваная апытанка *"Непрыдуманая літаратура / літаратура нон-фікшн — што гэта"?*

Змест апытання быў наступны:

*"У заходняй традыцыі замацавалася дзяленне літаратуры на fiction і non-fiction, дзе ўсё, што не пабудавана на вобразах, прыдумцы, што не складае мастацкай літаратуры, адносіцца да non-fiction. Разам з тым, разуменне зместу паняцця non-fiction у розных краінах мае сваю спецыфіку, адлюстраваную ў тым ліку і ў тэрміналогіі. Прыкладам, энцыклапедыя "Брытаніка" выкарыстоўвае паняцце non-fictional prose, больш вузкае, чым агульны non-fiction.*

*Сёння ў свеце расце папулярнасць "немастацкай" літаратуры, аднак у Беларусі існуюць з ёй пэўныя праблемы. Адной з важных складовых частак асэнсавання тых праблемаў ёсць вызначэнне межаў і зместу самога паняцця. У сувязі з вышэй згаданым прапануем Вам паўдзельнічаць у апытанні, вынікі якога дапамогуць сфармуляваць спецыфіку разумення зместу і характарыстык літаратуры non-fiction у Беларусі.*

*1. Якой назве і чаму Вы аддаяце перавагу: кальцы з англійскай мовы – "нон-фікшн", беларускаму варыянту "непрыдуманая літаратура", рускаму — "дакументальная літаратура", польскаму — "літаратура факту", іншым варыянтам "дакументалістыка", "нефікцыйная літаратура" ці яшчэ якому?*

*2. Паводле якіх крытэраў можна адносіць творы да згаданага кірунку непрыдуманай літаратуры / літаратуры нон-фікшн?*

*3. Якія жанры літаратуры варта адносіць да згаданага кірунку, як бы ён ні называўся: дакументальная проза, гістарычная проза, літаратуразнаўства, мастацтва-*

*Матэрыял падрыхтавала Наталля ГАРДЗІЕНКА.*

*знаўства, мемуары, дзённікі, эпісталярыі, травелогі, інтэрв'ю, краязнаўчая літаратура, навукова-папулярная літаратура, навуковая літаратура, рэлігійная літаратура, публіцыстыка, кнігі на сацыяльныя тэмы, нешта яшчэ?"*

На пытанні былі атрыманыя адказы ад 16 асобаў (адказы прыводзяцца ніжэй), а абмеркаваць вынікі і саму сітуацыю беларускага нон-фікшну мы вырашылі з двума літаратурнымі крытыкамі Ганнай Кісліцынай і Ціханам Чарнякевічам.

**Наталля Гардзіенка:** *Па выніках праведзенага апытання можна заўважыць, наколькі адрозніваюцца ўяўленні пра непрыдуманую літаратуру / літаратуру нон-фікшн у беларускіх аўтараў. Таму найперш я хацела б папрасіць вас саміх адказаць на тыя ж пытанні адносна назвы і зместу паняцца непрыдуманай літаратуры / літаратуры нон-фікшн.*

**Ганна Кісліцына:** Разважаць на гэтую тэму можна бясконца, таму што яна сапраўды вострая.. Неяк мы з месца ў кар'ер сталі ўжываць слова нон-фікшн... Паспрабавала згадаць, калі пачала выкарыстоўваць гэты выраз, і зразумела, што літаральна пару гадоў таму. Але ж да гэтага мы нейкім словам абазначалі тую немастацкую літаратуру, якая была раней. Калі зазірнуць у кнігу "Жыццёвая праўда і мастацкае мысленне", то высвятляецца, што тэрмін "нон-фікшн" амаль цалкам супадае з паняццем "дакументальная літаратура". Нават цяжка сказаць, у чым розніца. У нашым Цэнтры даследавання беларускай культуры, мовы і літаратуры якраз схіляюцца да думкі, што "нон-фікшн" — гэта проста моднае найменне ўсё той жа "дакументальнай літаратуры". Бо дакументальны жанр — гэта паняцце, якое характарызуе разнастайныя тыпы літаратурных твораў, аб'яднаных агульнай дакументальнай асновай, гэта значыць, фактычнай праўдзівасцю і дакладнасцю жыццёвага матэрыялу, рэальнасцю падзеяў і асобаў, адсутнасцю выдуманага сюжэта, адвольных аўтарскіх меркаванняў і тлумачэнняў.

Аднак у вызначэння "дакументальная літаратура" ёсць праблема, звязаная з тым, што ў яе назву ўваходзіць слова "дакумент". А пад дакументам мы ўяўляем нейкае справаводства, канкрэтны лісцік паперы з лічбамі, інфармацыйны матэрыял. Але дакумент у літаратуразнаўстве мае іншае значэнне. Гэта акцэнтацыя ўвагі на матэрыяле, які адлюстроўвае рэальныя падзеі. Пад словам "дакумент" у літаратуразнаўстве разумеюць рэальны вобраз, не канкрэтныя лічбы, а праўдзівы вобраз. І гэта вельмі важна, бо звычайны чытач гэтага разумення не бачыць. Для яго дакументальная літаратура — гэта дакумент з архіва, нейкія лісты і г. д. Калі б была магчымасць выбіраць, то спынілася б на тэрміне "фактаграфічная літаратура". Апісваем факт — значыць ствараем "фактаграфічную літаратуру". Але, падазраю, што ніхто ў беларускім літаратуразнаўстве гэтае паняцце больш не ўжывае. З другога боку, калі хачу акрэсліць гэтую з'яву ў крытыцы, то, канечне, пішу "нон-фікшн", бо мая аўдыторыя мэтавая — людзі маладыя і разумеюць, пра што ідзе гаворка. Яны да гэтага слова прызвычаіліся, і мне так прасцей. Зноў жа, у слова "нон-фікшн" ёсць адценне нечага новага, сучаснага. Такім чынам праз гэтае вызначэнне я дадаю твору новую дадатковую вартасць, матывую на пакупку.

**Ціхан Чарнякевіч:** Вынікі апытання цікавыя. Выявілася, што для кожнага аўтара нон-фікшн — гэта нешта сваё і асабістае. Па-першае, проста фантастычная тэрміналагічная сінанімія атрымліваецца. Дзясятак, можа, тэрмінаў, якія тлумачыць павінны адну з'яву. Што гэта значыць? Гэта значыць, што людзі разумеюць пад нон-фікшнам нятоесныя рэчы. І таму ў мяне закралася такая думка, што беларускі нон-фікшн пакуль не выкрышталізаваўся і пакуль не мае таго зместу, які закладваецца ў гэтае паняцце на Захадзе, дзе той тэрмін пашыраны. То бок, сама літаратура нон-фікшн, якая існуе на Захадзе і якая існуе ў Беларусі — яна цалкам розная. На

Захадзе гэта нешта сфарміраванае. Тое, што я бачыў у Польшчы, Германіі, можна сказаць так вельмі сцісла, гэта папулярная культуралогія, папулярная гісторыя, біяграфістыка. Рэчы, напісаныя для ненавязліва асветніцкіх мэтаў і прыемнага баўлення часу. Гэта прыбытковая галіна англамоўнага, нямецкамоўнага кніжнага бізнесу. Мне здаецца, што трэба адштурхоўвацца менавіта ад паняцця кнігі і нон-фікшн як галіны кніжна-выдавецкага бізнесу, які сфармаваўся на Захадзе. Там ёсць акрэсленыя межы, і аўтар, які сядае пісаць кнігу нон-фікшн, іх ведае. Чалавек (навуковец, ці больш-менш абазнаны адмысловец) выбірае тэмку, звычайна даволі вузкую. Альгерд Бахарэвіч згадваў нядаўна ў калонцы, прыкладам, кнігу пра 1913 год, што выйшла, фактычна, да гадавіны Першай сусветнай вайны, стала вельмі папулярнай, прэміі сабрала, шалёныя наклады. Па змесце — аповед пра гэты 1913-ты год, як ён праявіўся ў Германіі, Францыі, Англіі і г.д. І тое самае пра гісторыю цыгарэтаў. Вось еўрапейскі стандарт кнігі нон-фікшн: 400-старонкавая кніжачка палутарным інтэрвалам, файная вокладка, з прагнозам на поспех. Курцоў мільёны; тых, хто ведае пра 100-гадовы юбілей – мільёны. Адпаведна, патэнцыйная аўдыторыя вельмі вялікая і выдавецтву забяспечаны навар, прынамсі ў нуль выйдуць. Калі ж мы звернемся да нашых родных сінявокіх прастораў, то атрымліваецца, што ў нас паняцце нон-фікшн зусім іншае. Наконт папулярнай культуралогіі і папулярнай гісторыі — ужо сумневы...

**Г. Кісліцына**: Ну чаму? А Дзеружынскі, Галдзенкоў, Тарас?

**Ц. Чарнякевіч**: Так, але я кажу пра беларускамоўную кніжку. Вядома, можна і трэба ўспомніць "свабодаўскія" кнігі. Але ж яны некамерцыйныя. Іх няма ў продажы, яны не гуляюць па правілах рынку... З-за адсутнасці галіны нон-фікшн у беларускім кнігавыдавецкім бізнесе ў нас пакуль цалкам размытае разуменне тэрміну гэтага. Няма ў нас гэтых стэлажоў з нон-фікшн у кнігарнях, як у Берліне ці Варшаве. Нават паліц – няма. Магчыма, і тэрмін гэты нам увогуле не прыклеіцца. Мы прывыклі, што вось ёсць гісторыя Тураўшчыны, асветнікі зямлі Шаркаўшчыны, такое радыкальна-рамантычнае краязнаўства, і гэта нейкая асобная літаратура, не гісторыя і не журналістыка, не рыба і не мяса, і як мы падобныя кнігі можам назваць нон-фікшн? Гэта ж зусім некамерцыйная, выдадзеная за свае грошы кніжка, напісаная, як Бог на душу пакладзе, без усялякіх падказак рэдактара і выдаўца. На Захадзе нават тыя ж навукоўцы, як, прыкладам, Жак Ле Гоф, стаіць у кнігарнях таксама у раздзеле нон-фікшн. Ёсць выключна тэарэтычныя работы, дзе спасылак мільён. А ёсць папулярныя кніжачкі, папулярная гісторыя грошай ці нешта гэткае. Яны адразу адмяжоўваюць, вось — навука, а вось — нон-фікшн, г. зн. — для народа. Нон-фікшн — гэта для народа. А у нас гэткага няма...

**Г. Кісліцына:** Я магу назваць дзве папулярныя кнігі, напісаныя ў жанры нон-фікшн, проста колішнія бестсэлеры: першая — гэта "Зямля пад белымі крыламі" Уладзіміра Караткевіча (памятаю, колькі яе было, я была маленькая і гэтая кніга была ледзь не ў кожнай хаце, дзе жылі інтэлігентныя людзі), а другая — гэта "Старажытная Беларусь" Міколы Ермаловіча. Неаднойчы ехала ў метро і бачыла, як на лаўках сядзелі людзі розных узроставых груп і чыталі гэтую кнігу. А гэта ж таксама не класічная гісторыя, а папулярная, дзе шмат прыгожых і карысных міфаў.

**Ц. Чарнякевіч:** Я думаю, тэрміналагічная сінанімія ад таго, што ў нас іншае напаўненне тэрміна. А таму і ў экспертаў у апытанні меркаванні разышліся, часам дыяметральна супрацьлеглa. Таму ледзь не кожны выдумляе свой тэрмін, а ў выніку атрымліваецца, што ў нас гэтая літаратура зусім іншая і падзелена на дзясятак галінаў, а на Захадзе яна адна — нон-фікшн.

**Г. Кісліцына:** Я была на Гётэборгскім кніжным кірмашы і заўважу, што там мастацкай літаратуры амаль не было. Вершаў практычна ніхто не чытаў, за рэдкім выняткам. Але ў адзін дзень бачыш: едуць па кірмашы інваліды-калясачнікі... Нехта напісаў пра інвалідаў-калясачнікаў кнігу нон-фікшн, і прыехала ў вазках мэтавая

група на прэзентацыю. Другі дзень – дзеці з сіндромам Даўна ідуць за ручку з маці, бо таксама адпаведная кніга выйшла... Трэці дзень — прасталыткі ідуць! Аказваецца нейкая грамадская дзяячка напісала кнігу пра іх жыццё і праблемы. На Захадзе гэта не проста модна, гэта трэнд. Але гэта не таму, што толькі нон-фікшн добра прадаецца. У іх проста кожная ніша, напэўна, вывучаецца і запаўняецца.

**Ц. Чарнякевіч:** Гэта кнігавыдавецкі бізнес дыктуе.

**Г. Кісліцына:** Але тут я не згодная. Літаратуразнаўцы сёння прыходзяць да высновы, што пасля Другой сусветнай вайны людзі ў прынцыпе перасталі верыць у міметычны характар літаратуры. Калі Асвенцім і жахі вайны не могуць быць адэкватна перададзеныя, то значыць, не мае літаратура здольнасці адэкватна адлюстроўваць рэчаіснасць. І ў выніку пісьменнікі ідуць або ў жанры, у якіх пішацца пра тое, чаго ў прынцыпе не можа быць, напрыклад, касмічныя кіберпанкаўскія дэтэктывы, фэнтэзі... Альбо кідаюцца ў іншую скрайнасць: звяртаюцца да нон-фікшну, бо чытач яшчэ троху верыць дакументу, рэальнасці, факту. Такім чынам, гэта працэс агульналітаратурны, і прычына яго — не толькі маркет... І ў нас, здаецца, тое самае адбываецца. Калі паглядзець на гісторыю беларускай літаратуры, то аказваецца, што пасля вайны быў магутны ўсплеск дакументальнай літаратуры. Нашыя літаратуразнаўцы вызначаюць, чым яна адрозніваецца ад папярэдняй, дзе таксама быў Максім Гарэцкі “На імперыялістычнай вайне” ды іншыя аўтары. Аказваецца, пасля Другой сусветнай вайны дакументальная літаратура вызначаецца большай інфармацыйнай насычанасцю. Больш лічбаў, больш дакументаў, не кажучы ўжо пра шматлікія ўспаміны ветэранаў... Успомнім пра феномен пасляваенных успамінаў! Менавіта Другая сусветная вайна нарадзіла і самыя вялікія творы жанру нон-фікшн: “Я з вогненнай вёскі” і “Блакадны дзённік”.

**Н. Гардзіенка:** *Калі звязваць тэрміналагічную сінанімію з розным разуменнем зместу паняцця “нон-фікшн”, то варта звярнуцца і да пытання крытэраў. На ваш погляд, паводле якіх крытэраў можна адносіць творы да гэтага кірунку? Што галоўнае ў дадзеным выпадку: наяўнасць дакумента, факта, ці ёсць нейкія яшчэ крытэры? І што лічыць фактам? Інтэрв'ю — ці гэта дакумент? Зборнікі інтэрв'ю адносяцца да літаратуры нон-фікшн? А падручнікі, энцыклапедыі, якія ў заходніх крамах таксама адносяць да раздзелу нон-фікшн?*

**Г. Кісліцына:** І калі пачынаем параўноўваць тое, што мы тут прыкладна ўяўляем пад нон-фікшнам, і, скажам, падручнік па хіміі, то лёгка знойдзем адрозненні. Чаго няма ў падручніку па хіміі? Там няма вобразаў. У дакументальнай літаратуры, як бы аўтар ні імкнуўся, які б дакумент канкрэтны не ўлічваў, на якія б лічбы не спасылаўся, ён ўсё роўна стварае вобраз, хаця б вобраз часу. Што адрознівае вобразы дакументальнай літаратуры ад вобразаў ўласна мастацкіх? Гэта іх дакладнасць. Тут аўтар спрабуе стварыць праўдзівы вобраз. Гэта бачна па дэталях. Ён імкнецца больш-менш гэтыя дэталі даваць праўдзівыя, сапраўдныя. Другое, што важна, — паслядоўнасць падзеяў. Літаратура нон-фікшн — лінейная. Хоць бываюць скрайнія выпадкі, але мы пра іх не будзем... Як правіла, хада падзеяў у творах нон-фікшн вымушана быць праўдзівай і адпавядаць рэальнай гісторыі. Акрамя таго, важныя яшчэ і высновы. Аўтар, які піша нон-фікшн, імкнецца да высвятлення ісціны. Ён наўмысна не стварае рэальнасць. Можа ён недзе памыляецца і нейкія падзеі былі іншыя. Але аўтар спрабуе стварыць адэкватную карціну і лічыць, што яго высновы правільныя, яны не патрабуюць дзесяці тлумачэнняў, як гэта бывае, напрыклад, у постмадэрнізме, калі адкрыты фінал і кожны трактуе, як хоча. Згадаць, напрыклад, у Балаханава з “Імем Грушы”: адзін фінал такі, другі такі. У нон-фікшне такое немагчыма. Высновы будуць заўсёды абсалютна канкрэтныя, і калі аўтар памыляецца, то гэта недахоп яго ведаў, але не імкненне падмануць чытача.

Мне здаецца, крытэры літаратуры нон-фікшн — вобразнасць спецыфічная, і канечне, межы дакладнасці. Вобраз дакладны, але межы заўсёды рухомыя. З другога боку, а дзе ў літаратуры нешта канкрэтнае? У мяне часта пытаюцца: “А скажыце дакладна: хто пісьменнік, а хто не пісьменнік? Павінна ж быць вызначэнне пісьменніка!” Не ведаю, як вызначыць... А, здавалася б, элементарная рэч. Ці пытанне: як адрозніць графаманію ад мастацкага твора? Ды ніяк! Справа густу! Літаратура ўся на гэтым трымаецца, і заўсёды гэтыя межы будуць рухомыя. Напэўна ў гэтым і сакрэт, і абаянне літаратуры, бо межы нам і не трэба, мы ж не матэматыкі. Навошта ўсё лічбай правяраць?

**Ц. Чарнякевіч:** Пра скрайнія выпадкі. Мне здаецца, што нашыя беларускія прыклады нон-фікшн — гэта ўсё якраз скрайнія выпадкі, памежныя сітуацыі. Той жа Адамовіч, і яго слаўная прадаўжальніца Алексіевіч... Як Адамовіч пісаў, “рабіць звышлітаратуру”, каб усё нутро пераварочвалася. Як гэта суаднесці з кнігай пра курыцельныя люлькі? У нас заўсёды трэба, каб лепш за ўсіх і глыбей за ўсіх залезці ў душы... І гэтая дыхатамічнасць: пісьменнік — непісьменнік, графаман — геній... Не люблю.

Наконт крытэраў. Мне здаецца, крытэрам мусіць быць канцэптуальнасць кнігі, яе зададзеная тэма, якая ў загалоўку ці падзагалоўку прапісаная, і аўтар яе павінен трымацца, як сляпы плоту, і весці, і разгортваць у папулярнай, даступнай, прыгожай форме. Вось у мяне ёсць на думцы напісаць пра 1927 год, 50 гісторыяў пра 1927 год, і нікуды ад яго не адхіляцца.

**Г. Кісліцына:** Мяне Ціхан навёў на такую думку. Праблема не ў тым, што мы хочам раскалупаць нешта вельмі глыбока. Праблема ў тым, што ў нас гісторыя такая, што куды ні калупні, там такое вылазіць, што дах зносіць... Вось давайце Леаніда Маракова згадаем, “Галоўная вуліца Мінска”. Там столькі чыста тэхнічных дакументаў... А чытаеш і разумееш – за кожным з іх страшная трагедыя для канкрэтнай сям’і.

Мы пішам пра тое, што нас хвалюе. Нам бы пра галоўнае сказаць! Гэта не нашыя славянскія хістанні не даюць нам рабіць “правільны” еўрапейскі нон-фікшн пра курыцельныя люлькі, а гісторыя наша, дзе дымяць коміны Хатыні.

**Ц. Чарнякевіч:** Не ведаю я, ці патрэбны нам гэты бясконцы трагізм у тым жа нон-фікшне. Мне было б цікава прачытаць пяць нетрагічных кніг пра пяць беларускіх заводаў, скажам. Ці пяць менскіх раёнаў. Нядаўна выйшла кніга Міхаіла Валодзіна пра Менск, але матэрыялу хапае на большае. Свабодных нішаў мора.

**Н. Гардзіенка:** *Такім чынам, атрымліваецца, што найбольш важна, як будзе пададзена гісторыя той жа фабрыкі тытунёвай, ці гісторыя нейкага машынабудаўнічага прадпрыемства, ці трактарнага завода. Усё залежыць ад аўтара, наколькі ён зможа цікава падабраць фактуру і падаць яе. Можна проста нарабіць здымкаў рабочых з завода, подпісы, падаць гісторыю, і гэта будзе нікому нецікава і нікому непатрэбна. Але ці не будзе гэта ўсё роўна нон-фікшн?*

**Ц. Чарнякевіч:** Калі пра вайну ўжо, то ўспомню, нядаўна глядзеў фільм, зняты па кнізе амерыканца, дзяды якога з Украіны, пераехалі ў Амерыку. Ён выдаў кнігу, па ёй знялі фільм з галоўным акцёрам “Уладара пярсцёнкаў” Элайджам Вудам, які прыязджаў і здымаўся ў фільме пра спаленую ўкраінскую вёску. Але таксама гэта не ўкраінцы напісалі, гэта напісаў амерыканец, які ведаў, што яго кнігу купяць, што правы на яе купяць і г.д. І ён атрымае свае ганарары. Чамусьці тубыльцам такія кнігі не ўдаюцца.

**Г. Кісліцына:** Думаю, гэта праблема прамоўшна, маркетынга... У нас у прынцыпе цяжка знайсці добрую беларускамоўную кнігу, асабліва калі аўтар мае выяўную грамадзянскую пазіцыю! А мы тут разважаем, што прадаецца ці не прадаецца... Ды якое ў нас права казаць, што нешта ідзе ці не ідзе, калі няма нармальнага кнігагандлю.

**Ц. Чарнякевіч:** Мне здаецца, што нават цяпер, у неспрыяльных для кнігі ўмовах, ёсць голад на аўтараў нон-фікшн. Юбілей завода, замка ці горада – чыноўнікі кідаюць грошы на выданне кнігі, гэта прапісана ў бюджэце. Звычайна выпускаюць фотаальбом, і добра яшчэ калі нармальнага фатографа запросяць... Пішуць экскурсаводы, пішуць краязнаўцы, і не прабіцца часта праз пятнаццаць старонак у тых кнігах, а там усяго трыццаць старонак тэксту, з трыма перакладамі ў дадатак. Гэта не нон-фікшн таксама, па-мойму. Пра тыя ж замкі і палацы нармальных кніг дагэтуль няма, хоць напісаць іх, здаецца, прасцей і танней, чым рэстаўрацыю зрабіць. І не пятнаццаці старонак яны заслугоўваюць. Мала аўтараў. Мала рэдактуры. Мала дысцыпліны ва ўсім працэсе. Калі аўтар нон-фікшна ў Германіі напіша нязграбны тэкст, то выдавецтва, скаванае дамовай, палепшыць тэкст. Бо яно зацікаўленае прадаць кнігу. У нас жа ёсць выдавец, які гатовы выдаць любую кнігу, без рэдагавання, абы толькі грошы даваў аўтар ці выканкам.

А яшчэ патрэбны не толькі “нацыянальна заклапочаны” нон-фікшн, але і кнігі пра папулярную гісторыю навукі, матэматыкі ці хіміі, ці праграмавання, пра што чамусьці ў Беларусі на беларускай мове не пішуць. Гэта такая агульная галіна, што можа быць і пра матэматыкаў, і пра біёлагаў, і пра хімікаў. Дзеці 14-гадовыя пачытаюць і іх запрэ і яны пачнуць рабіць адкрыцці. Так на Захадзе ўсё гэта і працуе. Гэта папулярызацыя навукі. У савецкі час такіх кніжачак было вельмі шмат. Я вось прачытаў у школе кнігу пра рухавікі, і дагэтуль памятаю прынцып унутранага згарання, хоць ніколі за стырно не сядаў. Я прачытаў калісьці кніжку пра шумераў і дагэтуль памятаю усіх вавілонцаў, ашурбаніпалаў і гэтак далей. Вось такі чыста асветніцкі пласт для беларускіх дзяцей цалкам адсутнічае.

**Г. Кісліцына:** Пакаленню нашых бацькоў пашанцавала — была мода на генетыку, біялогію. Пад моду выпускаліся кнігі пра расліны. Як гэта кніжка рабілася? Расказвалася пра нейкія расліны, як іх падразаць, садзіць, акучваць і г.д. І пры гэтым змяшчаліся шыкоўныя вершы пра прыроду, у якасці паэтычнай ілюстрацыі. Такім чынам прывіваўся і мастацкі густ. Мне і сёння цікава і камфортна з прадстаўнікамі гэтага пакалення, таму што адукаваныя людзі ў выніку атрымаліся. Яны і ў біялогіі ў выніку спецы, і ў літаратуры, і гэтая агульная цікавасць да прыроды, да ўсяго...

**Н. Гардзіенка:** *Мы падышлі да наступнага пытання. Калі паглядзець рэйтынгі кшталту лепшая нон-фікшн кніга па выдавецкіх сайтах амерыканскіх ці брытанскіх, то акрамя таго, што вызначаецца на першых пазіцыях нешта папулярнае навуковае, або кнігі на сучасныя сацыяльныя тэмы (пра мабільныя тэлефоны ці яшчэ штосьці), вялікі сегмент — гэта біяграфістыка, і травелогі (падарожныя нататкі). Гэтыя кнігі лічацца класічнымі для нон-фікшн у заходнім успрыманні. Якія жанры мы можам адносіць да нон-фікшна ў беларускім варыянце?*

**Г. Кісліцына:** Калі сыходзіць з таго, што нон-фікшн — гэта ўсё ж дакументальная літаратура, то тут усё вызначана. Быў такі выдатны даследчык – Леонцій Якаўлевіч Гаранін. Чалавек з вялікімі ведамі і філасофскім складам розуму. Займаўся дакументалістыкай і падрабязна апісаў гэтыя жанры: дыярыушы, дзённікі, мемуары, эпісталярыі, падарожныя нататкі, падарожныя нарысы, травелог, мастацка-дакументальная проза... Я дадала б літаратуразнаўчыя, гістарыяграфічныя, краязнаўчыя эсэ, навукова-папулярную літаратуру ў шырокім сэнсе і белетрызаваныя біяграфіі.

А яшчэ я дадала б да таго спісу жанр літаратуразнаўчых расследаванняў, дэтэктываў. Для мяне загадка, чаму, напрыклад, кніжка “Жылі-былі класікі” Генадзя Кісялёва не бестсэлер. Вельмі яе люблю і не раз перачытвала. Выдадзена добра, нашчадкі ёсць, каб раскручваць. Чаго не хапае кнізе? Не магу зразумець.

**Ц. Чарнякевіч:** У яе няма суседзяў. Няма чатырох паліц такіх жа кніг, да якіх падыходзіць пакупнік. Калі б яны былі, то і з Кісялёвым усё было б выдатна.

Пытанне, чаму яна не стала штуршком для іншых? Каб вось так класна іншыя гісторыкі пісалі?

**Г. Кісліцына:** Вось тут я магу адказаць... Гэта ж трэба сядзець у архівах! Ці паехаць у тую мясціну, дзе падзеі адбываліся. Зад падняць, ад кампа адарвацца! У нас цяпер пра літаратуру як пішуць? Залезлі ў Вікіпедыю, спісалі... Чаго ў сеціве няма, таго і не трэба! Сёння няма ахвочых корпацца ў архівах. Колькі там сядзіць чалавек? Два-тры чалавекі ў дзень. І кожны раз прыходзіш, адны і тыя ж. Няма ахвочых задарма спіну гнуць, а сур'ёзная праца аплочваецца горш, чым папсовы артыкул.

**Н. Гардзіенка:** *А чаму ж такія ахвочыя ёсць у Расіі? Паглядзіце, колькі апошнім часам выходзіць розных Дзмітрыеў Быкавых, якія даследуюць то Пастэрнака, то Маякоўскага. Там іншыя грошы? Так. Але тады праблема не толькі ў тым, што няма людзей, якія б рабілі, але і ў запатрабаванасці гэтай літаратуры на ўласнай беларускай мове і якая заснавана на ўласнай беларускай гісторыі, на беларускіх асобах. Можа быць у гэтым праблема?*

**Г. Кісліцына:** У нас любая навука не запатрабаваная. Любая беларускамоўная з'ява культуры незапатрабаваная... Я б сказала, у нас ёсць каму пісаць, у нас ёсць дакументы, архівы, нават архівісты ёсць – нейкія апошнія магікане. Але няма людзей, якія б казалі: "Ух ты, як гэта класна!" Няма дзеля каго высільвацца.

**Ц. Чарнякевіч:** Мне здаецца, што гэтая тэма страшэнна важная. Як пішуць, усе пры канцы 1980-х марылі пра беларускія дэтэктывы, ці эратычныя раманы, любоўныя і г.д. У выніку была суполка таварышаў пад кіраўніцтвам Глобуса, якая спрабавала ўзарваць рынак, але не пайшло. Расейцы завалілі сваім барахлом, і нашы сталі ім дапамагаць тэхнічна. Але я думаю, гэтая карта нон-фікшна, пра якую тады мала хто гаварыў, яна магла сыграць і сыграла б. Сыграў тады Ермаловіч, Сагановіч, Арлоў. Папулярная гісторыя на беларускай мове, добра выдадзеная, цікавая... Але гэтага мала, трэба было хоць штук сорак такіх кніг, каб справа зрушылася і далей пайшла па інэрцыі. Зразумела, узнікалі перашкоды. У Кісялёва — класны нон-фікшн, канечне. Але мэтавая аўдыторыя ад пачатку вельмі вузкая, ананімныя паэмы — крута, але мала каго чапляе. Беларусь гэтым не ахопіш. Ну так, у тым гарадку, дзе Вераніцын нарадзіўся, я думаю кніжку прачыталі...

**Г. Кісліцына:** Вось няпраўда. Ёсць іншая кніжка — "Смак беларушчыны". Калі чытала пра святкаваннне імянінаў Напалеона ў Менску, была проста расчулена. Уявіце: у нас у гонар Напалеона баль даюць, феерверкі, у Менску! Уся інтэлігенцыя радуецца, святкуе. Вось дакументы, усё перапісана, колькі на салют пайшло, колькі на бал, колькі музыкаў стаяла... Чытала і думала: каб я валодала ведамі Кісялёва, то кожны артыкул асобнай кніжачкай выдавала б... Як, дарэчы, і "Відымусы" Лявона Юрэвіча. Неверагодная кніга! Гэта ж кожны эпізод варты адмысловай публікацыі! Чытаецца на адным дыханні! А пабудавана на архіўных матэрыялах і дакументах.

**Ц. Чарнякевіч:** Так, не зборнік артыкулаў, а вось адну, другую, трэцюю праблемную кнігу выдаць...

**Н. Гардзіенка:** *Хачу згадаць, што ў адным з адказаў на апытанку было, што ў прынцыпе ў Беларусі няма праблем з літаратурай нон-фікшн, а ёсць праблемы з мастацкай літаратурай. Можа быць крыху спынімся на тым, а ў чым спецыфіка беларускага нон-фікшну? Што такое беларускі нон-фікшн на сённяшні момант? Зараз ёсць у нас Прэмія Аляксандра і Марыі Стагановічаў. 50 кніг былі вылучаныя. Ці нейкую адметнасць можна сфармуляваць для нас?*

**Ц. Чарнякевіч:** Мне здаецца, што спіс даволі паказальны. Тым больш, што гэты спіс — кнігі за 5 гадоў мінулых. 50 кніг за 5 гадоў, ёсць пра што задумацца. Для мяне ўвогуле беларускі нон-фікшн у 9 выпадках з 10 — гэта штосьці такое тонкае, шэрае, нечытэльнае, правінцыйнае. Прычым з вокладкамі, ад якіх плакаць

хочацца. З вельмі малымі тыражамі. Без рэдактуры. З аўтарамі, якія не думаюць пра рэальнага чытача і пакупніка. Мне здаецца, што нон-фікшна ў еўрапейскім разуменні ў нас вельмі мала. Мала біяграфій, мала травелогаў, мала папулярнай гісторыі навукі, культуры. Папсовай гісторыі Беларусі, раздробленай на мікрагісторыі. І з гэтым у нас велізарныя праблемы і прагалы відавочныя. Спадзяюся, што яны будуць запаўняцца.

**Г. Кісліцына:** А я скажу – усё наадварот! Калі паглядзець, якімі кніжкамі беларусы прадстаўлены ў свеце, то высветліцца, што вядомыя мы якраз праз нон-фікшн. Раней гэта былі кнігі Алеся Адамовіча і Святланы Алексіевіч. Сёння прыгадваецца папулярная “Краіна Беларусь” Уладзімера Арлова, якую купляюць замежнікам у падарунак. Раней такой падарункавай кнігай была “Зямля пад белымі крыламі” Уладзіміра Караткевіча. Хіба ж не шэдэўр беларускай літаратуры “На імперыялістычнай вайне” Максіма Гарэцкага? Хіба не класіка “Мундштук і папка” Янкі Брыля. А гэта ж таксама – нон-фікшн... Ці прыгожыя гэтыя выданні? Так! Яны ўсе вельмі густоўна выдадзеныя. Той жа “Смак беларушчыны” аформлены цудоўна. Тое, што іх не купляюць — гэта праблема маркетынгаў, гэта праблема кнігагандлю, а не якасці.

**Ц. Чарнякевіч:** Зусім відавочна, што беларусам сёння вельмі патрэбная тэарэтычная кніга пра аб’ём і змест паняцця нон-фікшн, і ў нас, і на Захадзе...

Вось такая адбылася гутарка, падчас якой пытанняў было агучана хіба болей, як дадзена адказаў. Але пацяшае сам факт: значыць, ёсць пра што разважаць, значыць, непрыдуманая літаратура, нон-фікшн — гэтая папялушка беларускай літаратуры — існуе. А вось якая яе чакае будучыня — залежыць у тым ліку і ад нас.

## Адказы на пытанні:

**Валянцін Акудовіч**

1. Нон-фікшн

2. Асабіста для мяне літаратура “нон-фікшн” мае досыць лакальны дыскурс, які арганізуецца праз злучэнне журналісцкага расследвання і мастацкага спосабу яго выяўлення (раманная структура, вобразнасць, высокая мера аўтарскай суб’ектыўнасці, паэтычныя тропы, псіхалагізм, філасафізм і г.д.). Прыкладам, кнігі Рышарда Капусцінскага, “Я з вогненнай вёскі...” Адамовіча, Брыля, Калесніка, кнігі Святланы Алексіевіч, “След матылька” Аляксандра Лукашука...

3. Усё пералічанае вышэй (як і шмат што не пералічанае) даўным даўно займела ў нашым пісьменстве сваю ўстойлівую жанравую нішу і я не зусім разумею, навошта нам усё гэтае стракатае мноства абагульняць нейкай адной універсаліяй, прынамсі, пакуль яно не патрапляе ў метафізічную развагу. А калі ў нейкім выпадку гэтага патрабуе кантакт з замежным літаратурным асяродкам, які мае зусім іншую традыцыю, дык куды працей кожную такую сітуацыю развязваць паасобку, чым дзеля дапасавання да абстрактнага кагосьці трушчыць уласную традыцыю (сваю сістэму разрозненняў).

**Алесь Аркуш**

1. Асабіста я карыстаюся наступнымі тэрмінамі — non-fiction і непрыдуманая літаратура.

2. Мне асабіста падаецца, што гэтыя тэрміны азначаюць менавіта мастацкую прозу, пабудаваную на рэальных фактах. Бо для іншых жанраў ёсць іншыя тэрміны — публіцыстыка, эсэістыка, мемуарыстыка, гістарычная проза і г.д.

3. Лічу, варта адносіць толькі мастацкую прозу, пабудаваную на рэальных фактах і рэальных персанажах. Інакш будзе поўная блытаніна. Класічны твор гэтага жанру: Аляксандр Лукашук "След матылька".

**Вольга Бабкова**

1. Вагаюся паміж тэрмінамі "літаратура факту" і "непрыдуманая літаратура". Першы — гучыць больш канкрэтна і навукова, другі — больш літаратурна (што мяне не палохае). Да тэрміну "нон-фікшн" мы прызвычаіліся і адразу разумеем, пра што гаворка, але хочацца ўжываць сваё. (Іншая справа, што і факт, і дакумент, і ўспамін... могуць несці ў сабе пэўную недакладнасць).

2. Адным з істотных крытэраў непрыдуманай літаратуры/літаратуры нон-фікшн ёсць выкарыстанне пісьмовага матэрыялу (дакументаў, запісаў гутаркі, успамінаў...) з якога гучыць голас (галасы) канкрэтных людзей. Аўтар тут мусіць заставацца ў ценю. Аднак ягоная задача — наданне дакументальнаму матэрыялу мастацкага эфекту.

3. Найперш дакументальная проза, мемуары, дзённікі, эпістолярыі, інтэрв'ю (...) ды іншыя жанры, у якіх у аснове ляжыць "жывая гісторыя" людзей самага рознага культурнага і сацыяльнага статусу. І ў тым ліку тых, якія не пакідаюць пасля сябе дакументаў, так званай "маўклівай большасці" (па словах гісторыкаў-аналістаў).

**Альгерд Бахарэвіч**

1. Я карыстаюся тэрмінам "нон-фікшн". Найперш — праз ягоную зручнасць і фанетычную выразнасць. Іншыя варыянты падаюцца мне або занадта груваcткімі і сухімі (як, напрыклад, "дакументальная літаратура"), або не зусім дакладнымі (тэрмін "непрыдуманая літаратура" не ўлічвае ўсіх магчымасцяў аўтара як творцы, бо аўтар можа прыдумаць непрыдуманае, як гэта, скажам, зрабіў Рабэрта Баланьё, што стварыў даведнік "Нацы-літаратура ў Лацінскай Амерыцы": небелетрыстычныя біяграфіі няісных пісьменнікаў). Ад назвы "нефікцыйная літаратура" патыхае інфекцыйным шпіталем.

Назва "нон-фікшн" агульнапрынятая ў свеце і мне здаецца, мы не мусім баяцца замежных тэрмінаў, яны дапамогуць нам хутчэй зрабіцца часткай сусветнага літаратурнага працэсу. Такое вызначэнне, як "нон-фікшн", дае больш свабоды. А гэта важна, калі ўлічыць, што самая цікавая літаратура ў свеце даўно ўжо ствараецца на мяжы розных жанраў: ледзьве не ў кожным рамане ёсць элементы нон-фікшн, а творы нон-фікшн пачасту пішуцца так, што раманіст пазайздросціў бы. Ды і сярод самой літаратуры нон-фікшн ёсць, здаецца, свае разнавіднасці — такія, як creative non-fiction, ці я памыляюся?

Дарэчы, сучасная нямецкая назва для такога кшталту кніг, "Sachbücher", таксама спрэчная, бо раней яна выкарыстоўвалася для так званай навукова-папулярнай літаратуры і не ахоплівае цяпер усю разнастайнасць жанравых адценняў. Кнігу пра гісторыю люлек для курэння, напісаную надзвычай паэтычнай мовай, можна хутчэй аднесці да гістарычнага рамана — але ў бібліятэках і кнігарнях яна будзе стаяць у раздзеле навукова-папулярных кніг... І пры гэтым яна не ёсць ні першым, ні другім.

2. Напэўна, асноўныя крытэры тут такія — 1) нейкая ўмоўная праўдзівасць твора (адпаведнасць агульнапрынятым фактам; аўтар не стварае новай рэальнасці), 2) аўтар, не абавязкова ў прамой форме, але займаецца адукацыяй чытача, нон-фікшн ніколі не ствараецца для забавы 3) адна і абавязковая наяўнасць больш-менш акрэсленай мэтавай аўдыторыі, загадзя падрыхтаванай да ўспрымання такіх тэкстаў.

Белетрыстыка — чароўны падман чытача, на які ён добраахвотна пагаджаецца;

задавальненне ад белетрыстыкі — перш за ўсё эстэтычнае; патэнцыйны чытач белетрыстыкі — кожны чалавек, які ўмее чытаць. Чытач нон-фікшн мусіць хаця б трохі “валодаць тэмай” і цікавіцца праблемай, якую закранае такая літаратура.

3. Мабыць, я выкрасліў бы з прапанаванага спісу “навуковую літаратуру” і “публіцыстыку”. Першую, бо яна патрабуе ад чытача больш грунтоўных ведаў, чым можа патрабаваць літаратура, і для яе стварэння не патрабуецца творчы пачатак. Яна загнаная ў межы строгага стылю. Публіцыстыка выпадае са спісу, бо яна, на мой погляд, бліжэйшая да журналістыкі, чым да літаратуры. Для таго, каб звацца літаратурай, яна занадта злабадзённая і здольная састарэць яшчэ да таго, як кніжка пабачыць свет.

Зрэшты, абсалютнай упэўненасці ў слушнасці такога падыходу ў мяне няма. Галоўнае, у што я веру — у тое, што ў будучыні межы паміж жанрамі, межы паміж нон-фікшн і “прыдуманай літаратурай” пачнуць яшчэ больш размывацца, і мы яшчэ пабачым, як вызначэнне жанраў і формаў папросту страціць сэнс.

**Ала Брадзіхіна**

1. Па сутнасці, я карыстаюся амаль усімі гэтымі тэрмінамі, але ўкладваю ў іх розную семантыку. Самым шырокім уяўляецца паняцце нон-фікшн / non-fiction, або непрыдуманая літаратура, якая ўключае “літаратуру факта” ў самым прамым сэнсе (слоўнікі, даведнікі, навукова-папулярныя публікацыі, артыкулы, альманахі, журналістыка, статуты, тэзаўрусы, травелогі, кулінарныя кнігі і інш.), і мастацкія творы на дакументальнай аснове з рознай ступенню эстэтычнай апрацоўкі дакумента.

2. Паводле наяўнасці дакументальнай (фактычнай) асновы. Прычым адзначаная вышэй ступень эстэтычнай апрацоўкі факта або разнастайныя спосабы ўзаемадзеяння мастацкага і немастацкага пачатку ўжо даўно маюць у заходнім літаратуразнаўстве ўласныя найменні (creative non-fiction, semi-fiction і да т.п.).

3. У розных плынях нон-фікшн уласная жанравая сістэма. Скажам, другая плынь нон-фікшн (гл. пыт. №1) уключае аўтабіяграфічную (дзённікі, споведзь, мемуары і да т.п.) і дакументальна-мастацкую прозу (фрагментарная проза дакументальнага характару, белетрызаваныя біяграфіі і да т.п.).

**Сяргей Дубавец**

Думаю, у тэрміне не павінна быць адмоўя «не-». Няма жадання пісаць літаратуру немастацкую або недакументальную. Наш час настолькі зблізіў гэтыя два колішнія паняткі (мастацкая і дакументальная), амаль да зліцця. Кніга Лойкі пра Купалу — чыстая выдумка. «Чужая бацькаўшчына» Адамчыка — праўдзівы дакумент таго жыцця. Калі дзяліць, магчыма, варта паспрабаваць рабіць гэта не гарызантальна, а вертыкальна: на прыгожае пісьменства і дапаможную літаратуру. Бо тэксты, начыста пазбаўленыя фактуры, як і тэксты, пазбаўленыя вобразу (эстэтызацыі) — гэта толькі напрацоўкі, але не завершаныя творы. Тое ж збольшага адлюстроўваецца і ў жанрах. Рэцэнзія, энцыклапедычны артыкул, публікацыя чыіхсьці лістоў, дзённікаў — усё гэта выконвае дапаможную функцыю для літаратурнага працэсу, кніжнага рынку, напісання новых твораў. Крытэр — несамадастатковасць тэксту ў сацыяльным полі. Такі тэкст — для чагосьці, а не сам па сабе. Калі рэжа слых тэрмін «дапаможная», можам называць як «прыкладной». Можна таксама ўтварыць пару — белавая і чарнавая літаратура.

**Аляксандр Лукашук**

1. Любому прыметніку, калі ёсць назоўнік літаратура.

2. Дакументальная літаратура — гэта тое, што знаходзіцца паміж дакументам і аўтарам. Яна мае справу з пустатой як матэрыялам і лініяй гарызонту як задачай — гэтаксама, як і “фікшн”. Калі Томас Ман забіраў рукапіс “Ёсіфа і яго братоў” у сваёй мюнхенскай машыністкі, тая сказала — нарэшце ведаем, як гэта ўсё было насамрэч.

Але... Мне падабаецца крытэр навукі — паўтаральнасць эксперымента і яго вынікаў. Іншымі словамі, калі б за нейкае даследванне браўся іншы аўтар, дык вынік павінен быў бы быць больш-менш аднолькавы (калі адкінуць ідэалогію і эпітэты). Праўда, з літаратурай няясна нават, што лічыць вынікам, бо гэта субстанцыя, якая ажывае ў свядомасці кожнага чытача па свойму. Асцярожна скажу так: павінен быць эфект машыны часу, калі ствараецца новая рэальнасць, у якой дзейнічаюць усе законы вядомай нам рэальнасці. Калі чытач верыць у створаную рэальнасць, можа да пэўнай ступені праверыць і нават паглыбіць некаторыя яе аспекты сам, і нават калі пойдзе па іншых вуліцах апісанага вамі горада, гэта будзе той самы горад.

3. Пад літаратурай я маю на ўвазе пэўную мінімальную якасць створанай з дапамогай словаў новай рэальнасці. Калі гэты крытэр ёсць, дык да гэтага спісу можна дадаць біяграфіі, навуковую фантастыку (многія тэксты 19-20-га стагоддзяў аказаліся сёння дакладнымі дакументальнымі творамі). Але насамрэч справа горш, бо гэта тэрыторыя філасофіі. Ужо некалькі дзесяцігоддзяў у Амерыцы і Вялікабрытаніі ідзе спрэчка пра тое, што насамрэч усе пішуць толькі дакументальную літаратуру, што любы раман пабудаваны на фактах, нават калі гэта факты суб’ектыўнага жыцця аўтара. Паняцце рэальнасці хутка пашыраецца ў розных мастацтвах – кіно самы яскравы прыклад. Адной з бліжэйшых кампутарных сэнсацый стане, хутчэй за ўсё, індывідуальная віртуальная рэальнасць – надзяваеш шлем і апынаешся ў “Матрыцы”, і ўсе фізічныя пачуцці – слыху, паху, зроку, дотыку, цяпла, смагі, голаду, вестыбулярнага апарату, мускульнай нагрузкі, перамяшчэння ў прасторы і наступных паводзінаў, эмоцый, думак і г.д. — нічым не адрозніваюцца ад “сапраўдных”. Паспяховыя прататыпы ў Сіліконавай даліне ўжо выпрабоўваюць.

А ў Беларусі яны даўно ўжо выпрабаваныя і называюцца літаратура, у тым ліку дакументальная.

**Ян Максімюк**

1. Тэрмін “нявыдуманая літаратура” гучыць для мяне дзіўнавата і не вельмі каб адэкватна для таго, што ён мае сабою пакрываць. Нават пішучы кнігу пра загадкі ў матэматыцы або біялогіі — значыць, пра нешта, што існавала да нас і чаго мы самі не выдумалі — мы прыдумваем усё астатняе: і стыль, і абсяг матэрыялу, і глыбіню пранікнення ў тэму... То бок насамрэч мы прыдумваем літаратуру на аснове нявыдуманай тэмы. Больш адэкватнай у гэтым сэнсе мне падаецца тэрміналагічная калька “нефікцыйная літаратура”.

2. Жанравы крытэр трэба спалучыць з суб’ектыўным крытэрам “літаратурнасці” ў раскрыцці тэмы. Прыкладам, добрую кнігу па літаратуразнаўстве магчыма напісаць толькі дзеля таго, каб атрымаць навуковую ступень ва ўніверсітэце. Але такая добрая ці нават выдатная — у акадэмічным сэнсе — кніга неабавязкова з’яўляецца і кнігай “нон-фікшн”. Дзеля гэтага яшчэ трэба, каб аўтар, захоўваючы да пэўнай меры строгасць акадэмічнага падыходу, уклаў у кнігу і нейкую шырэйшым чытачам долю літаратурнага таленту, уяўлення, вынаходлівасці і даходлівасці. Гэтага нельга змерыць нейкім канкрэтным літаратуразнаўчым тэрмометрам, таму я кажу пра суб’ектыўнасць у вызначэнні гэтага тыпу літаратуры.

3. Я б адназначна ўключыў “гістарычную прозу” ў “мастацкую літаратуру”,

незалежна ад таго, наколькі слушна аўтар адлюстраваў гістарычныя падзеі. Рэч у тым, што "вернасць гістарычным падзеям" — паняцце вельмі расплывістае і, можна сказаць, "літаратурнае" па сваёй натуры. Гісторыя — гэта не тое, што адбываецца насамрэч, а хутчэй тое, як мы гэта бачым і колькі з гэтага разумеем :)

"Навуковую літаратуру" трэба было б адназначна выключыць з "нефікцыйнай літаратуры" — ні падручнікі, ні тым больш зборнікі арыгінальных даследаванняў або асобныя даследаванні ў любых галінах навукі не з'яўляюцца "нон-фікшн" па вызначэнні. "Навуковыя" кніжкі, якія пішуцца для шырэйшага кола чытачоў, належаць да жанру папулярна-навуковай літаратуры.

Усе іншыя пералічаныя вамі жанры, як мне здаецца, могуць быць залічаныя да "нефікцыйнай літаратуры", калі канкрэтныя здзяйсненні будуць адначасова адпавядаць згаданаму мною ў пункце 2 крытэру "літаратурнасці".

Я б дадаў да вашага пераліку літаратуры "нон-фікшн" яшчэ жанр эсэ (эсэістыку).

**Марыя Мартысевіч**

[**Н. Г.:** Сёння ў свеце расце папулярнасць "немастацкай" літаратуры, аднак у Беларусі існуюць з ёй пэўныя праблемы. Адной з важных складовых частак асэнсавання тых праблемаў ёсць вызначэнне межаў і зместу самога паняцця. У сувязі з вышэй згаданым прапануем Вам паўдзельнічаць у апытанні, вынікі якога дапамогуць сфармуляваць спецыфіку разумення зместу і характарыстык літаратуры *non-fiction* у Беларусі].

Хачу зрэагаваць ужо на гэта. Не бачу абсалютна ніякіх праблем з літаратурай нон-фікшн у Беларусі. Гэта поўная лухта так казаць. Па-першае, нават калі не ўключаць у беларускую літаратуру Святлану Алексіевіч — адну з флагманаў нон-фікшну ў свеце — былі прэцэдэнты такіх кніг у беларускай савецкай літаратуры. "Я з вогненнай вёскі..." Па-другое, 1990-я — прайшлі пад знакам гістарычнай прозы, якая збольшага была немастацкай: Уладзімір Арлоў, Вітаўт Чаропка і г.д. Па-трэцяе, дзякуючы часопісам "АРХЭ", "Фрагменты" і "Крыніца", назіраўся росквіт жанру эсэістыкі, многія эсэ пачатку 2000-х сталі праграмнымі — напрыклад, "Слоўнік свабоды". Па-чацвёртае, у серыі "Бібліятэка свабоды" дагэтуль выходзіць безліч кніжак, і сярод іх амаль няма паэтычных і мастацкіх – гэта хутчэй выключэнне, РС выдае бібліятэку нон-фікшну. Па-пятае... Я б сказала, што ў нас акурат праблемы з мастацкай прозай на гэтым фоне. Неяк так.

Ніколі не чула тэрміну "непрыдуманная літаратура". Чыста інтуітыўна ён мне здаецца а) абражаючым усю іншую літаратуру б) недакладным, бо літаратура — гэта ў любым выпадку штучны канструкт, што б ні бралася за аснову. Апроч таго, існуюць некаторыя літаратурныя плыні, напрыклад, натуралізм ці рэалізм, творы ў якіх маюць значна больш агульнага з рэчаіснасцю, чым некаторыя ўзоры нон-фікшну. Большасць аўтараў так ці іначай апісваюць свой досвед — іншае пытанне, у якой форме яны гэта выкладаюць. Значна больш трапным — па аналогіі з дакументальным кіно — мне ўяўляецца тэрмін "дакументальная літаратура".

Асабіста я звычайна аперую тэрмінам нон-фікшн. Напрыклад, мне падабаецца сцвярджаць, што я ствараю паэзію ў жанры нон-фікшн. І сапраўды — як быць з творамі, дзе апісаныя рэальныя падзеі, толькі ў слупок і ў рыфму? Такія калонкі, напрыклад, піша расійскі паэт Дзмітры Быкаў.

(Дарэчы, чыста між намі — "нон-фікшн" — гэта не калька, а англіцызм, запазычанне. Калька акурат — "непрыдуманая літаратура".)

2. Я думаю, адзін з крытэраў — аўтарскі намер. Калі аўтар дэкларуе намер апісаць кавалак жыцця, як яно ёсць (было) — то гэта будзе нон-фікшн. Тады ён непазбежна будзе звяртацца да дакументаў, фактаў, інтэрв'ю ды іншых крыніцаў, істотна абмежаваўшы або ўвогуле выключыўшы фантазію. Па-другое — што, я

думаю, найбольш актуальна для кніжнага рынку — “нон-фікшн” — гэта ўсё-ткі разнавіднасць белетрыстыкі паводле метаду. Няважна, забягаючы наперад, у якім жанры напісана кніга, галоўнае, каб яна была складнай і чытэльнай.

3. Тут з гледзішча літаратуразнаўства ў вас “смешаліс в кучу коні, люді”. Так, нон-фікшн, здаецца, даволі блізкі “навукова-папулярнай літаратуры” — паводле функцыі. Тэрміны “гістарычная проза”, “літаратуразнаўства” і “мастацтвазнаўства”, “краязнаўства”, “рэлігійная літаратура” вызначаюць усяго толькі матэрыял, тэмы, з якімі працуе аўтар. Усё астатняе — гэта жанры. Жанр — гэта ўтылітарная катэгорыя, ты проста бярэш тую форму, якая найлепей надаецца для падачы канкрэтнага матэрыялу і раскрыцця канкрэтнай тэмы. Будзе гэта дзённік, або мемуары, або эпісталярый, або інтэрв’ю, або дарожныя нататкі... Канечне ж, пералічаныя тут жанры больш асацыююцца з літаратурай нон-фікшн, бо добра для яе надаюцца. Але вядомыя і геніяльныя падробкі — эпісталярны раман, напрыклад. Вельмі часта жанр вызначаецца абставінамі. З іншага боку, бываюць і дакументальныя раманы, пры тым, што раман — жанр, як бы вы сказалі, “прыдуманнай літаратуры”. Так ці інакш, я выключыла б адсюль навуковую літаратуру ў любых яе праявах.

**Дзяніс Марціновіч**

1. Асабіста мне найбольш блізкі варыянт “нон-фікшн”. Але апошнім часам неаднаразова сутыкаўся з сітуацыяй, калі гэты тэрмін даводзіцца тлумачыць. Таму калі выбіраць тэрмін для агульнага карыстання, я сумясціў бы рускі тэрмін і кальку з англійскай: “дакументальная літаратура” (“нон-фікшн”). Маючы на ўвазе, што ў перспектыве ад рускага тэрміну можна будзе адмовіцца (у выніку палітыкі асветніцтва) і застанецца толькі другая частка. Калі шчыра, беларускі варыянт мне не вельмі падабаецца. Бо нават дакумент (тыя ж самыя ўспаміны) можна прыдумаць. Таму непрыдуманай літаратуры не бывае. І мастацкая, і дакументальная літаратура ў нечым з’яўляюцца прыдуманай.

2. Да літаратуры нон-фікшн я аднёсіў бы творы, якія 1) напісаныя на аснове дакументаў, 2) напісаныя на аснове ўспамінаў аўтара (або людзей, чые успаміны ён запісваў). Пры гэтым у такіх творах павінны выкарыстоўвацца дакументы або звесткі, якія прыводзяцца ва ўспамінах, павінны пацвярджацца пэўнымі дакументамі.

3. <u>Без пытанняў</u> — дакументальная проза, мемуары, дзённікі, эпісталярыі, травелогі, навукова-папулярная літаратура (з заўвагай, што не ўсе кнігі, якія так пазначаны, з’яўляюцца навукова-папулярнымі).

<u>З агаворкамі</u> (тут цяжка сфармуляваць, але паспрабую):

Публіцыстыка — калі яна напісаная з апорай на дакументы.

Інтэрв’ю — калі яны з’яўляюцца часткай нейкай цэласнай кнігі або калі ўся кніга пабудавана праз інтэрв’ю. Іначай гэта журналістыка.

Літаратуразнаўства, мастацтвазнаўства, рэлігійная літаратура (можа, і краязнаўства) — калі ідзе гаворка пра біяграфію пэўнай асобы, гісторыю стварэння пэўнага твора, мастацкай суполкі і г.д. Прычым павінен існаваць нейкі сюжэт, што набліжае творы, напісаныя ў гэтых жанрах, да літаратуры. А таксама абавязковая чытэльнасць і навукова-папулярны стыль. Калі сюжэту няма, стыль навуковы — дык гэта не дакументальная літаратура, а навука.

<u>Не варта адносіць:</u>

Гістарычная проза — гэта мастацкая літаратура

Навуковая літаратура — гэта навука

Кнігі на сацыяльныя тэмы — занадта шырокае азначэнне, трэба больш канкрэтны прыклад.

**Зміцер Мацвейчык**

1. Аддаю перавагу двум тэрмінам "непрыдуманая літаратура" або "нефікцыйная літаратура". (Чаму двум? Бо яны для мяне, толькі адзін — даслоўны беларускі пераклад, другі — калькаваны з лацінскім коранем; і розніца паміж імі нават калі і ёсць, дык я яе не бачу). Хаця любы з вышэй прапанаваных тэрмінаў таксама будзе акрэсліваць наш кірунак, але пры гэтым з'яўляцца аднолькава недасканалым. Напрыклад, тыя ж выдзеленыя мной тэрміны сэнсава ўключаюць паняцце "навуковая літаратура", хаця, канечне, навуковыя творы сюды ніякім чынам адносіцца не павінны — гэта абсалютна асобны кірунак. Прапанаваць жа які-небудзь больш дасканалы варыянт я наўрад ці змагу.

2. Крытэраў у нашым выпадку я бачу два:

1) наяўнасць ці адсутнасць выдумкі аўтара. Калі ў тэкст унесены асабістыя фантазіі аўтара – мастацкая літаратура, нават калі гэтыя фантазіі на тэму рэальных падзеяў, персаналіяў, месцаў і г.д.; калі тэкст базуецца на дакументальных (вельмі шырока разумеючы ў гэтым выпадку паняцце дакумента) крыніцах – нефікцыйная літаратура. Гэта не пазбаўляе аўтара асабістай інтэрпрэтацыі крыніцы, але і інтэпрэтацыя павінна базавацца на нейкіх агульнапрынятых, як мінімум, прынцыпах (логіка, паслядоўнасць, прычына-вынік (акцыя-рэакцыя, выклік-адказ) і інш.).

2) арыентацыя на шырокае кола спажыўцоў. Гэта выключае з паняцця ўсе навуковыя творы і заснаваную на іх падставе навучальную літаратуру.

3. Адносяцца цалкам паводле свайго сэнсавага напаўнення — дакументальная проза, травелогі, навукова-папулярная літаратура, публіцыстыка.

Адносяцца, але з пэўнымі агаворкамі — мемуары, дзённікі, эпісталярыі, інтэрв'ю. З аднаго боку — гэта хутчэй і ёсць тыя крыніцы, на падставе якіх ствараюцца нефікцыйныя творы, але з другога кожны з гэтых жанраў можа разглядацца як нефікцыйны (апісальны), крыніца якога — гістарычная рэчаіснасць (ізноў жа — у самым шырокім сэнсе). Аднак нават дакладную мяжу паміж жоўтым і зялёным паставіць дастаткова цяжка, улічваючы сэнсавую блізкасць некаторых жанраў (напрыклад, інтэрв'ю і публіцыстыка).

Іншыя з прыведзеных у пытанні — не адносяцца, прычым кожны па вельмі адрозных прычынах.

**Алесь Пашкевіч**

1. "Непрыдуманая літаратура".

2. Думаецца, паводле ўсяго комплексу жанрава-стылёвых і праблемна-тэматычных адметнасцяў. Урэшце, і ў плане паэтыкі, паджанраў. Аб тым, канечне ж, каб выказацца напоўніцу, трэба пісаць асобную навуковую працу... Калі тэзісна: гэта той від празаічнай (слоўнай) творчасці, які ляжыць у плоскасці перадачы-адлюстравання рэальнасці, явы, факталогіі і што пазбаўлена аўтарскай выдумкі (дадумкі), адвольнасці, што выяўляецца ў жанравым спектры, падкрэсленым ніжэй (гл. пункт 3)...

3. Дакументальная проза, мемуары-ўспаміны, дзённікі, аўтарскія гутаркі-маналогі, краязнаўчая літаратура, навукова-папулярная літаратура, нарысістыка.

**Ала Петрушкевіч**

*1-2. Мастацка-дакументальная літаратура*

Калі гэта літаратура як мастацтва слова, яна мусіць быць пабудаваная па законах вобразнасці. Нельга блытаць паняцці літаратура ў шырокім і вузкім значэннях. У шырокім — гэта ўсё, што напісана. Мы — пісьменнікі, творцы. Наш Саюз — арганізацыя творчая. Незразумела, чаму ў ім з'явіліся людзі, якія

займаюцца навукай. Перш, чым заяўляць пра сябе як пра пісьменніка, неабходна вывучыць элементарныя рэчы. Хоць бы з падручніка па літаратуразнаўстве. Тэрмін *“мастацка-дакументальная літаратура”* адлюстроўвае сутнасць паняцця: рэальны, дакументальны факт, перададзены праз мастацкае ўспрыняцце. Але нельга навязаць нейкую адну назву. Розныя творцы, як і розныя літаратуразнаўцы, будуць выкарыстоўваць розныя тэрміны.

3. Да мастацка-дакументальнай літаратуры лагічна адносіць: дакументальную прозу, з літаратуразнаўства толькі адзін раздзел — *літаратурную крытыку,* мемуары, дзённікі, эпісталярый, травелогі. Пералічанае тут (у Вашым трэцім пункце) сабрана невядома па якім прынцыпе. Тут і назвы навуковых дысцыплінаў (літаратуразнаўства, мастацтвазнаўства), навуковыя ці публіцыстычныя жанры, якія ствараюцца па зусім іншых прынцыпах. Што да гістарычнай прозы, то недарэчна “вырываць” яе з мастацкай літаратуры, ці падмяняць гісторыяй як навукай.

**Уладзімір Сіўчыкаў**

З дзяленнем літаратуры на fiction і non-fiction сутыкнуўся як літаратар і выдавец напачатку 90-х гадоў.

1. Таму прызвычаены да калькі з англійскай мовы — “non-fiction / нон-фікшн”. Не люблю, калі мову нашу без патрэбы засмечваюць іншамоўнымі словамі, але беларускаму варыянту “непрыдуманая літаратура” яшчэ трэба прыжыцца як след. Прымаю, хоць і ў меншай ступені, і разумею рускі тэрмін “дакументальная літаратура”, гэтаксама як і польскі — “літаратура факту”.

2. Тэрмін гаворыць сам за сябе. Аднак і тут ёсць выключэнні. Напрыклад, дзённікам давяраю больш, чым мемуарам: бывае, аўтара падводзіць памяць, а бывае і так, што ён падае сябе і свае ўчынкі ў белым святле дый ачарняе непрыяцеляў.

3. Жанры літаратуры, якія варта адносіць да згаданага кірунку, як бы ён ні называўся: дакументальная проза, мемуары, дзённікі, эпісталярыі, травелогі, эсэ, краязнаўчая літаратура, навукова-папулярная літаратура, публіцыстыка, кнігі на сацыяльныя тэмы... Часам мяжу вызначае ступень мастацкасці тэксту і мэтавая аўдыторыя: літаратуразнаўства, мастацтвазнаўства, навуковая літаратура могуць быць займальнымі, чытэльнымі, а таксама ў форме падручнікаў і пад. Гістарычную прозу Тарасава і Сагановіча трэба ставіць на розныя паліцы, таксама як інтэрв’ю, узятыя Адамовічам, Брылём, Калеснікам і ўчарашнім выпускніком журфака.

**Аляксандр Фядута**

1. Я воспитан на терминологии русского формализма, представители которого еще в 1920-е годы ввели термин “литература факта”. Им я и пользуюсь. Он, с моей точки зрения, шире, чем “документалистика”. Что касается термина “непридуманная литература”, то считайте, что я впервые узнал о его существовании из данной анкеты. Я с ним не согласен, поскольку всякая литература пропущена через фантазию автора, то есть — “придумана”.

2. “Литература факта”, с моей точки зрения, это, прежде всего, “эго-литература”: дневники, письма, травелоги, мемуары, художественно обработанные с установкой на читательскую рецепцию. Я не могу отнести сюда исследования — например, биографистику, исторические исследования и т.д. Это вызвало полемику с Михасем Скоблой, который попросил меня принять участие в книжном рейтинге Радыё Свабода — и отнес к нон-фикшн всю “нехудожественную литературу”. Но, например, воспоминания Зоськи Верас — однозначно “литература факта”, поскольку ориентированы на широкую читательскую аудиторию, а ее же письма — факт истории литературы, но жанровая природа этих текстов иная, они

адресованы не *urbi et orbi*, а конкретному адресату с конкретной биографией. То есть, это эго-документ, но не литература.

Так же не будет являться литературой, например, исследование французского ученого Жоржа Бордонова о Мольере, но будет являться литературой (фикшн) роман Булгакова «Жизнь господина де Мольера» — пусть даже это роман с документальной основой. Все зависит от рецептивной установки, которую закладывает автор в свой текст.

3. Что такое “документальная проза”? То, что делает Светлана Алексиевич? Да, стоит, несмотря на то, что степень художественной обработки очень высока. Историческая проза — нет, даже если в повести или романе нет ни одного вымышленного персонажа. Литературоведение — нет, это, скорее, к критике лучше отнести. Мемуары, дневники, травелоги, краеведческие эссе — можно. Письма — лишь в случае художественной обработки. Публицистика, какой бы она ни была, — это журналистика, а не литература (Семен Букчин сейчас бы задал мне вопрос о Власе Дорошевиче и о Гиляровском). Интервью — тоже не литература. Искусствоведение, литературоведение, биографистика — это наука. Хотя, разумеется, биографический роман, повторюсь, в духе Моруа будет романом. Но это субъективно.

**Ганна Янкута**

1. Паколькі блытаніна з тэрмінамі сапраўды вельмі вялікая — іх у свеце існуе безліч, — я аддаю перавагу тэрміну нон-фікшн. І таму, што ён ужо трывала замацаваўся ў свеце, і таму, што ў адрозненне ад Польшчы, дзе гэты жанр развіўся настолькі, што ўжо трывала замацаваўся ў літаратуры, выпрацаваў свае каноны, а таму лагічна атрымаў сваю назву, у нас пакуль што такой літаратуры мала, і калі мы хочам яе развіваць, нам дакладна, прынамсі першы час, варта арыентавацца на замежныя ўзоры. Думаю, у працэсе развіцця жанру назва нон-фікшн альбо замацуецца, альбо незаўважна заменіцца нейкім беларускім адпаведнікам. Выраз “непрыдуманая літаратура” ні пра што прыватна мне не гаворыць, але, магчыма, гэта таму, што я займаюся замежнай літаратурай. “Дакументальная літаратура” ці “дакументалістыка”, а таксама “літаратурная журналістыка” (апошняе вызначэнне, па маім досведзе, цалкам адпавядае польскай “літаратуры факту”), як на мяне, адносяцца да розных праяваў нон-фікшн.

2. Адказу на гэтае пытанне пакуль няма ні ў кога, здаецца, розныя ангельскамоўныя крыніцы па-рознаму вызначаюць той жа нон-фікшн. Як на мяне, з гледзішча літаратуры найперш цікавы так званы “літаратурны нон-фікшн” ці “літаратурная журналістыка”, нешта сярэдняе паміж эсэ і рэпартажам, жанр, у якім з палякаў актыўна працуе, напрыклад, Малгажата Шэйнэрт. У такім жанры адчуваецца прысутнасць аўтара.

3. Зноў жа, розныя крыніцы падаюць самую розную інфармацыю і ўключаюць самыя розныя жанры. У шырокім сэнсе нон-фікшн, як на мяне, уключае ўсё, згаданае Вамі, хіба што за выключэннем рэлігійнай літаратуры. Але зноў жа, з гледзішча “чыстай літаратуры” цікавы менавіта “літаратурны нон-фікшн”. Скажам, інтэрв’ю на якім-небудзь сайце навінаў — гэта адно, а зборнік інтэрв’ю з рускімі перакладчыкамі “По-русски с любовью” Калашнікавай — гэта зусім іншае.

згадкі

Славамір Адамовіч



...і тады, у 1995-м, ведалі пра непазбежнасць вайны і рыхтаваліся да яе – практычна, тэарэтычна і стратэгічна...

# Мая Украіна

*Задумаў напісаць эсэ "Мая Украіна". Але й кухню ў сваім беларускім доме дарабляць трэба – выправіўся па крамах, каб дакупіць сяго-таго.*

*Заязджаю ў раён мар'інагорскага ваенгарадка, прымыкаю ровар і прастую да невялічкай прыватнай крамкі будматэрыялаў. У дзвярах – маладая круглатварая дзяўчына адрываецца ад свайго занятку ці то прадавачкі, ці то пакупніцы і яшчэ здалёку вітаецца. Я злёгку дзіўлюся, таксама кажу "дзень добры", заходжу і пачынаю шукаць патрэбныя мне плінтусы ды лакі...*

*І толькі праз некалькі хвілінаў усведамляю, што з пляскатага экрану сучаснага TV над прылаўкам гучыць не астабрыдлы хрып расейскай папсы, а лёгкі мелас украінскай. А ў правым верхнім куточку прастакутніка відаць два жоўта-блакітныя словы: Адзіная Украіна. У гэты момант я і ўзгадваю, што з прычыны свайго неўтаймоўнага "тэмпрэмант" яшчэ раніцай прычапіў да лацкана чорнай курткі побач з бел-чырвона-белай стрычкай пашытую цешчай блакітна-жоўтую...*

Мар'іна Горка, 21 сакавіка 2014

### Эпісодыя першая:

*пасля Сталіна; хто даў народу "хлеба і блінкоў"; хрушчоўская "адліга"; на замену савецкім рабам – савецкія вольнанаёмныя.*

У сакавіку 1953 года не стала Іосіфа Джугашвілі (Сталіна) – шматгадовага начальніка СССР, фактычна дыктатара, які ў часы свайго кіравання разгарнуў нечуваныя ў свеце, планетарнага маштабу рэпрэсіі супраць сваіх жа ўласных грамадзянаў.

З 1953 па 1955 гады Савецкім Саюзам кіравалі палітычныя "тройкі", так званыя трыумвіраты, у першы з якіх уваходзілі рэальныя арганізатары постсталінскай улады Малянкоў, Берыя і Хрушчоў. Аднак па невялікім часе з гэтага трыумвірату Хрушчоў вычляняе Берыю, змяшчаючы апошняга пад варту. Паралельна і адначасова ішлі арышты людзей, верных "грузіну ў пенснэ".

Толькі пасля разгрому групы Берыі новае кіраўніцтва СССР нарэшце звяртае ўвагу на ўласна эканамічныя праблемы, і перш за ўсё ў сельскай гаспадарцы.

Рэформы ў эканоміцы, фактычным ініцыятарам якіх быў Хрушчоў, публічна агучыў Георгій Малянкоў на жнівеньскай сесіі Вярхоўнага Савета СССР таго ж 1953-га года. Ягоная заява пра тое, што ўрад СССР вырашыўануляваць запазычанасць асабістых гаспадарак сялян-аднаасобнікаў, калгаснікаў і рабочых саўгасаў, а таксама знізіць нормы натуральных паставак і ў два разы зменшыць падатак на зямельныя надзелы зрабіла вялікае ўражанне. Якраз тады і з'явілася знакамітае народнае выслоўе пра тое, што Малянкоў даў хлеба і блінкоў". Яшчэ ў пачатку 70-х я, вучань Камароўскай пачатковай школкі, чуў яго ад маёй роднай бабулі – аднаасобніцы, Грасільды Адамовіч. Аднак, паўтару яшчэ раз, блінкі народу ў форме зніжэння падаткаў ды іншых сацыяльна-эканамічных свабодаў рэальна пачаў выпякаць Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, якога вераснёўскі 1953 года Пленум ЦК КПСС абраў Першым сакратаром ЦК кампартыі СССР.

Можна лічыць, што прыкладна з гэтага часу і пачаў выспяваць Хрушчоў як кіраўнік-рэфарматар і палітык-рэабілітатар, які ініцыяваў працэс рэабілітацыі ахвяраў сталінскага тэрору. Справа гэтая, аднак жа, ішла марудна і выбарачна – перш за ўсё вызвалялі і рэабілітоўвалі родных і сваякоў тых, што прыйшоў да ўлады пасля смерці Сталіна. Неўзабаве ў многіх савецкіх турмах і лагерах пачаліся хваляванні зняволеных па 58-м артыкуле. Успыхнулі паўстанні ў лагерах Варкуты і Нарыльска, якія, што праўда, былі жорстка спыненыя, сотні зняволеных загінулі.

Найбольш маштабныя хваляванні пракаціліся па казахстанскіх лагерах, сярод якіх самым вядомым стала Кенгірскае паўстанне, якое цягнулася больш за месяц, але ўрэшце рэшт таксама было задушана.

Рабілася відавочным, што праблему лагераў трэба вырашаць як найхутчэй. Рашэнне задачы аказалася элементарным – лагеры трэба было проста закрываць, а "зэкаў" адпускаць па дамах (вядома, калі такія яшчэ чакалі іх на волі). Так і адбылося – да канца 50-х сталінская сістэма лагераў (ГУЛАГ) перастала існаваць як самастойная эканамічная адзінка, заснаваная на выкарыстанні бясплатнай і фактычна рабскай рабочай сілы. На змену лагернаму дахадзягу, забранаму па 58-м, прыйшоў поўны энтузіязму і надзеі новы савецкі работнік – вольнанаёмны.

### Эпісодыя другая:

*Украінскі леспрамгас у лясах лагернай Архангельшчыны; беларуска і ўкраінец – каханне на ўсё жыццё; прапасці і знайсціся.*

Сярод вольнанаёмных аказалася і мая будучая маці – Юзэфа Паўлаўна Чантарыцкая, якая ў 1959-м, у свае 24 гады, паехала на заробкі ў няблізкі Анежскі раён Архангельскай вобласці РСФСР. Там, на станцыі Унежма, пасля закрыцця

лагера для зняволеных, разгарнула свае лесанарыхтоўчыя работы адна з многіх леса-прамысловых украінскіх гаспадарак (леспрамгасаў), якая валіла і адпраўляла лес на будоўлі і шахты савецкай Украіны, перш за ўсё ўсходняй, бязлесай...

Праз год ці два да маладой Юзэфкі Чантарыцкай падцягнуліся: ейны кавалер Генюсь Адамовіч, мой будучы бацька; а таксама і мая будучая хросная і заадно стрыечная сястра Чэся Ляшковіч.

Чэська працавала ў сталоўцы для рабочых і зарабляла тым самым рабочы стаж як аргумент для атрымання даведкі, на падставе якой ёй потым і выдадуць пашпарт. Родная беларуская ўлада, якую ўвасабляў будслаўскі сельсавет, у пачатку 60-х поўнагадовай беларусцы Чаславе такую даведку не выдавала...

Тым часам, працэсы ішлі: спелы страявы лес Архангельскай Русі ішоў ва Украіну, на яго месцы паўставаў маладняк і дзесьці побач дагнівалі лагерныя баракі і костачкі невядомых пакутнікаў па 58-м артыкуле.

У сакавіку 1962-га, у самы, як той казаў, разгар Хрушчоўскай палітычна-эканамічнай “адлігі” нарадзіўся я.

Адгэтуль пачынаецца прыватная гісторыя маіх дачыненняў з Украінай як з Краінай, Ідэяй і Людзьмі.

Дзесьці ў чэрвені таго ж года мяне, трохмесячнага, павезлі ў Беларусь на адведкі і каб пахрысціць. Будслаўскі касцёл ордэну Бернардынаў аказаўся закрыты, таму паехалі да ксяндза ў Даўгінава.

Даўгінаўскі храм ці то яшчэ, ці то ўжо, але дзейнічаў, і мяне ў ім пахрысцілі ў каталікі. Пры гэтым падчас абраду я нахабна абсікаў ксяндзова ўбранне. А яшчэ праз нейкі час Бог за нешта разгневаецца на Даўгінаўскі касцёл і яго служкаў і будзе насылаць на яго і на іх сваю Боскую кару ў выглядзе рабаўнікоў і душагубаў: некалькі разоў з адчыненага храму вынесуць каштоўныя абразы й абрадавае начынне, а падчас апошняга нападу ў 90-я гады 20 ст. святара бандыты проста зарэжуць.

...Пазнаёміўшы з бабай Грасяй і пахрысціўшы павезлі мяне любыя мае тата і дзве мамы назад на сцюдзёную рускую Поўнач.

Па невялікім часе мая новаспечаная хросная ліцвінка Чэся знаёміцца з украінскім рабочым Віктарам Рудэнкам, гадоў на 9 старэйшым за яе. Як потым казала мама Юзя, каханне пляменніцы Чэсі да старэйшага за яе ўкраінца Віктара разгарэлася не на жарт. Прыйшлося цётцы Юзі ўгаворваць пляменніцу вярнуцца ў Беларусь і там пашукаць свайго, беларуса, калі ўжо так захацелася замуж. Але хросная мая настойвала на сваім: яна кахае Віктара і будзе з ім так ці інакш.

У 1964-м нашая Часлава Юльянаўна вярнулася ў Беларусь разам з намі – маімі бацькамі і мною двухгадовым. А праз паўгода прыехаў на нашую Будслаўшчыну і ўкраінец Віктар, ажаніўся з нашай Чаславаю і павёз яе да сябе на радзіму – у Сумскую вобласць Украіны. Гэта быў першы выпадак у маёй пакудзельнай радні, калі жанчына пабралася шлюбам не са сваім, тутэйшым.

Беглі гады. Хросная Чэся рэгулярна дасылала пісьмы і паштоўкі з дому нумар 15, што і сёння стаіць на вуліцы імя Льва Талстога ў невялікім украінскім гарадку Белаполле.

Разы два на год яна прыводзіла свайго Віктара з дзецьмі да бацькоў у вёску Дзямідкі Вілейскага раёна Мінскай вобласці. Тады ў хаце бабы Гені і дзеда Юлюся запаноўваў дзіўны фанетыка-лексічны мікст беларускай, украінскай і рускай моваў. Але дамінаваў усё ж украінскі мелас – відаць, найперш таму, што мясцовыя самі гаварылі мала, а больш слухалі сваіх украінскіх гасцей.

З кожным новым прыездам хросная ўсё больш свабодна гаварыла па-ўкраінску і ўсё менш ёй удавалася руская, якой яна нахапалася ў рабочай сталоўцы станцыі Унежма.

Часлава Рудэнка нарадзіла Украіне трох грамадзянаў: дачок Наталлю і Люд-

мілу і сына Сяргея. Сын жыве ў Белаполлі і наведвае матку, якая па смерці мужа Віктара засталася адна ў вялікім доме з прыбудовамі на 20 сотках агароду. Дарэчы, на гэтым самым участку пахаваны свёкар Чаславы Мікола, якога тут жа, каля ўласнае хаты, і забілі савецкія чэкісты падчас паваеннай зачысткі ўкраінскага нацыянальнага супраціву...

Старэйшая донька Наталля таксама нарадзіла двух дачок, дачку й сына нарадзіла і меншая, Людміла. Меншанькая ўдалася такой прыгажунькай, такой лялечкай, што ўся нашая беларуская радня нацешыцца не магла. Усе нашыя бабкі, дзяды, дзядзькі й цёткі вохкалі й ціскалі дзеўчанё напераменку, а баба Геня й цётка Юзя адчувалі сябе ну проста грэшніцамі, бо некалі ж не захацелі аддаваць Чэську за таго рыжабровага хахла, які, як выйшла, падарыў ім такі цуд пекнаты...

Мінуў час, і Людку таксама прыйшлося аддаць замуж – ледзь толькі ёй споўнілася васямнаццаць. Прыгажунька нашая нарадзіла спачатку дачушку. Потым сыночка. Вучыцца і працаваць па маладосці неяк і не давялося – ейны прыкладны ва ўсіх сэнсах муж забяспечваў сямейны дабрабыт.

Дзеткі падрасталі, а Людчына прыгажосць толькі пышнела і налівалася сокамі жыцця яшчэ болей. Каб забяспечыць сям'ю і сваю прыгажуню-жонку муж часта не стыкаўся дома, прападаючы на рабоце. Унучка Людачка з праўнучкай усё часцей стада прыязджаць у госці да Бабы Гені, усё даўжэйшымі рабіліся яе гасцяванні...

І аднойчы нашая пякнюха Людачка разам з дачкою-падлеткам прапала...

Тады перастаў ужо існаваць СССР, у сталіцах Украіны і Беларусі абралі свае нацыянальныя ўрады і ўзнялі над дзяржаўнымі будынкамі нацыянальныя сцягі, а нашая Людачка з дачушкаю так і не аб'явіліся, не вярнуліся ні да мамы Чэсі ва Украіну, ні да бабы Гені ў Беларусь. Ішлі гады, мянялася ўлада ва Украіне і перастала змяняцца ў Беларусі, а Людачкі з дачушкай як і не было на свеце. Гора бацькоў і блізкай радні было невымоўным. Куды толькі ні пісалі, дзе толькі ні шукалі – нідзе ніхто не чуў і не бачыў. Нават у вядомую расейскую тэлеперадачу "Жди меня" звярталіся. Але не дапамаглі і там – Людачка з дзіцём прапала з канцамі. Надзея ўбачыць дачку і ўнучку жывымі слабла і раставала нават у збалелай матчынай душы. Сама некалі яснавокая і русавалосая ліцвінка Часлава ў свае пяцьдзясят змарнела і выглядала сямідзесяцігадовай бабуляй.

Дачка не знаходзілася, не аб'яўлялася. Але рос на руках у сваёй ліцвіна-беларускай бабы родам аднекуль з-за Менску беларуска-ўкраінскі ўнук Сярожык. Пакуль шукалі яго маму Люду, ён вырас і стаў юнаком. Вось яму ўжо сямнаццаць, ён прыгожы з твару, як яго беларуская бабуля Часлава. І такі ж статны, як ягоны ўкраіснкі дзед Віктар. Сярожа адчувае сябе мужчынам, яго ўжо даўно цікавяць дзяўчаты і маладыя жанчыны. Іх нямала ў правінцыйным украінскім Белаполлі, але тут з'явіўся інтэрнэт, а ў ім столько сайтаў "знаёмстваў" там столькі адзінокіх прыгажунь!.. Юнак адкрывае акаўнты на рускамоўных парталах і гартае, гартае па сотні і тысячы анкетаў, з дапамогай якіх беларускі, украінкі, расіянкі спадзяюцца знайсці сваіх "сапраўдных мужчын з гумарам"...

І вось аднойчы. Перабіраючы электронныя фота невядомых жанчын, на адным з расейскіх сайтаў "знакомств", маладому чалавеку раптам паласнула па вачах нябачным лязом брытвы, і маладое сэрца шухнула ў пяты – ён пазнаў на фотаздымку сваю маці, пякнюху Людачку Рудэнка!..

Потым былі доўгія месяцы электроннай перапіскі, з якой сын даведаўся, што мама жыве ў Маскве на кватэры ў сяброўкі, што з яго старэйшай сястрой усё добра, і яна жыве разам з мамай...

Мінула трынаццаць гадоў з таго часу, як прапалі з жыцця беларуска-ўкраінскай сям'і любімыя дачка і ўнучка. Трынаццаць доўгіх гадоў няўцешна плакалі бабуля і матка, перажывалі і нудзіліся дзед Юлюсь і бацька Віктар... Калі ж дачка з унучкай нарэшце вярнуліся на Украіну, слёзаў ужо не было – ні слёзаў гора, ні

слёзаў радасці. Той, хто верыў у бога, падзякавалі богу. Хто верыў у лёс – моўчкі аддзячылі лёсу. І ўсе разам выслухалі Людчыну гісторыю знікнення.

І толькі сын ведаў, што яго мама працавала ў Маскве прастытуткай.

...Усё гэта было потым, пасля, значна пазней, можна сказаць, у цікавыя і няўрымслівыя часы краху савецкай імперыі і паўставання на яе абломках новых, свабодных ад духоўнай немарасці, страху і тэрору нцаыянальных рэспублік – Беларусі і Украіны. А ў 1975-м мая хросная Чэся Рудэнка пісала мне, шасцікласніку: “Здравствуй, сыночек Славик!!! Поздоровляю тебя с днём рождения! Желаю тебе хорошего здоровья, счастья в твоей судьбе и хорошей учёбы. Приезжай к нам в гости. Нашей Людочке уже пять лет!”

**Эпісодыя трэцяя:**

*Развітанне з Балтыкай, цягнік “Рыга-Сімферопаль”; сухапутны матрос чарнаморскага флоту; Крым, в/ч 22838; сяброўка Ніна і любачка Галя; 30 дзён гарнізоннай гаўптвахты; развітальныя пісьмы; незабыўная Наталі.*

У 1980-м я пайшоў служыць у савецкую армію. Лёс бярог ад Афганістану – трапіў у “вучэбку” горада Піянерск Калінінградскай вобласці, на колішнія прускія землі. За пяць месяцаў зрабілі з мяне авіямеханіка палубных верталётаў (“изделие ДБ”), і выправілі на флот. Пакольki нас, выпускнікоў вучэбнага падраздзялення, пасадзілі на цывільны цягнік “Рыга-Сімферопаль”, мы, свежаспечаная матрасня з літарай “Ф” на сініх пагонах крыху ажылі: калі цягнік ідзе да Сімферопалю, то значыць служыць мы будзем на Чорнаморскім флоце, хай сабе і тры гады, але ж не на Паўночным і не на Ціхаакіянскім, а ў цёплых водах.

І вось, значыцца, чухае наш цягнічок і праз двое сутак спыняецца дзесьці ў Крымскіх стэпах. Камандзіры камандуюць пад’ём. Выгружаемся. Але не ўсе – некалькі ўзводаў. Хтосьці кажа, што тут блізка дача Брэжнева, пэўна, у ахову пашлюць...

Была там дзе тая дача ці не, я так і не спраўдзіў. А на самай справе трапілі мы, чалавек пятнаццаць, на авіябазу ЧФ... Не, не так, не на авіябазу – на авіябазах павінна быць авіятэхніка – а на звычайныя авіяцыйныя склады з ангарамі, напоўненымі адпаведнымі запчасткамі. Гэтыя склады мы і абслугоўвалі ўсе васямнаццаць месяцаў тэрміновай службы. Так-так, мне яшчэ раз пашанцавала, і служыў я не 3 гады, а ўсяго 2 (пра Афган, пра тое, што ў гэты самы час мае аднагодкі ўжо гінуць у афганскіх гарах, я тады толкам не ведаў і не ўсведамляў).

(...)

Нашая вайсковая частка ў сутнасці сваёй да чарнаморскага флота, да вайскова-ваеннай службы, як на цяперашні мой розум, дачыненне мела ўскоснае. З такім жа поспехам у ёй маглі працаваць вольнанаёмныя крымчане. Бо што такое была в/ч 22838 у 1981-м годзе? Таварная база – ні больш, ні менш. Служба 30 чалавек тэрміновай і 10 афіцэраў і прапаршчыкаў палягала ў прыёме і адгрузцы тавару ў баявыя часткі і на караблі чарнаморскага флота. На складах нашай в/ч захоўваліся фюзеляжы і маторы, колы і прапелеры савецкіх палубных верталётаў і самалётаў, усіх гэтых К-25-х, “сушак” і “мігаў”. Мы, матрасня, толькі і рабілі, што нашыя складскія ангары перыядычна разгружалі і загружалі таварам вайскова-ваеннага прызначэння. Час ад часу рабілі мы гэта “па трывозе”, ці, як сказалі б цывільныя, у аўральным парадку. В/ч, на якую працавала ўсяго 40 чалавек у форме, проста асуджана была быць “сям’ёю”. “Сям’я” мела свайго “бацю” – падпалкоўніка В. Палякова, той свайго намесніка ў званні маёра, і “свайго” палітрука ў чыне капітана. Зрэшты, апошні адпаведна “палітычнай” пасадзе мусіў

быць сам па сабе, усё ж нампаліт. Аднак гэтая акалічнасць – наяўнасць у часці намесніка начальніка па палітычнай рабоце – не перашкаджала нам, шараговым старшынам і матросам, у перапынках паміж прыёмам-выдачай вайсковага тавару дружна працаваць на ўзвядзенні двухпавярховага дамка нашага начальніка часці. Будавалі дамок з традыцыйнага для Крыму будаўнічага матэрыялу – натуральнага жоўтага пясчаніка, дакладней, ракушачніка, які рэзалі на гатовыя будаўнічыя блокі проста ў кар'ерах.

Трэцім відам дзейнасці ў нашай в/ч 22838 была... паша. Не, вы не смейцеся, я ж вам ужо крыху растлумачыў: служылі мы хоць і мініяцюрнай, але адной дружнай сям'ёй. І служба нашая была ў параўнанні са службай на караблях, падлодках і ў Афгане – службай у Бога пад пахай, ці, як сказалі б арыштанты, блатная. А калі так, то як у сапраўдных блатных, у нас і свая гаспадарка павінна быць. Вось яна і была: статак авечак у галоў сорак (па авечцы на кожнага члена "сям'і") і свінняў штук дваццаць. Пра курэй не памятаю, здаецца, не было. Увогуле, за гаспадаркай прыглядвала вольнанаёмніца Ніна, аднак на лета начальнік часці адсылаў каго-небудзь з матросаў ёй на дапамогу, звычайна – пасвіць авечак. Гэта быў самы найблатнейшы занятак у часці, а найперш таму, што Ніна была ўдава.

Лета 81-га службу я адслужыў пасвячы авечак і платанічна ўздыхаючы па Ніне. Памятаю, як упершыню я ўбачыў яе... Ды дзе там! – не яе, а ейную... ейнае белае-белае сцягно, якое прыцiскалася да конскага боку, бо за нейкім чортам яна гарцавала вярхом на жарабцы па тэрыторыі нашай базы. Зрэшты, можа гэта і не жарабец быў, можа гэта фантазія нясе мяне на скрыдлах успамінаў, а тая Ніна проста карміла сенам авечак, і ейны халацік неабачліва задзёрся ўгару, і я заўважыў гэты д'яблаў афронт, і маё сэрца тут жа ёкнула і боўтнула ўніз, а чортаў кiёк падскочыў дагары і стаў у мяне ў горле колам; я забыўся пра службу, пра разгрузку, пагрузку і халера яго ведае што яшчэ, чым я тады быў заняты, і глядзеў, глядзеў на ўсе вочы на тое белае сцягно маладой русавалосай жанчыны, як быццам я глядзеў у глыбіні самога раю! Не, тады, маладыя людзі, як, бадай, і цяпер для мяне гэта было не проста адно асобна ўзятае сцягно як частка фігуры невядомай жанчыны, – гэта было лягно, ляжка, ляжно і стараславянскае ложэсна, да якога я ўжо імкнуўся ў думках і, даімчаўшы, улегваўся на той белай ляжцы, легаваўся і вылегваўся на ёй да страты памяці і самога майго зусім маладога жыцця...

Тым часам, як гэта ні банальна, гаспадыня бялюткага сцягна была жанчынай гадоў 30 з хвосцікам, удавой, як ужо казалася, мела двух малых сыноў і ўбогі дамок тут жа, на тэрыторыі нашай райскай в/ч 22838...

Выпраўляючыся пасвіць сваіх баранчыкаў пасля сняданку і ранішняй праверкі ротным, я мог вяртацца ў казарму не раней, як на вячэрнюю праверку, г.зн. да адбою ў 10 гадзінаў вечара. Гэта значыць, што цягам дня пры добрым надвор'і і маім спрыце я не адзін раз мог палюбавацца магнетычным бялюткім сцягном Ніны. Ейным эфірным каленцам і практычна ідэальнай формы лытачкай!..

Вы пытаеце, чаму я распавядаю пра адно сцягно і адну ікраножную мышцу аб'екта сваіх уздыханняў? А вы што думаеце, калі б у тае Ніны адна нага была аднятая па крыж ("таз". – *С. А.*), то я ўжо не так летуценна глядзеў бы на ейнае адно бялюткае сцягно? Не, нашая дарагая зорная будучыня, роўна наадварот, на ейную сапраўды адну ножку, я глядзеў бы з яшчэ большым імпэтам і ахапленнем, бо ў такім разе маё ўражанне прыгожай і жывой часткай цела процілеглага полу ўзмацнілася б пачуццём жалю, шкадаваннем і жаданнем зрабіць для гаспадыні адзінай ножкі нешта такое, што хоць бы на імгненне кампенсавала ёй факт калецтва... Памятайце, што пярліна вырастае толькі ў сапсаванай ракаўцы, а найвышэйшы градус любові ўзнікае на разрыве і там, дзе ёсць тонкае парушэнне нормы: радзімка над верхняю губой ці дзе-небудзь за вушкам; бліскучыя вішнёвыя

вочы на правільных формаў тварыку, адно з якіх глядзіць не проста, а крыху ўбок, вадліва (“с изъяном”, паводле Ластоўскага. – *С. А.*). Вось чаму я пра белую ножку Ніны ў адзіночным ліку – бо дастаткова, бо рэч не ў колькасці, а ў якасці (белая) і ў змесце (жаночая).

Не памятаю, як доўга я любаваўся ейным сцягном здалёку, але з лагічнай неўнікнёнасцю мусіў надысці той момант, калі Ніціну ляжачку я стаў назіраць зблізку. Зайшоўшы аднойчы да яе на госці, каб пазнаёміцца бліжэй, я пачаў завісаць у сціплым жаночым катушку штодня аж да вячэры, а бывала і прапускаючы вячэрні прыём ежы.

Я зараз давяду Вам крамольную, неверагодную рэч: я з Нінаю ні разу не пераспаў і нават не прыткнуўся ззаду ў цесным праёме паміж печчу, якая палілася данбаскім вуглём, і лавай з вядром пітной вады. Замест каб любіцца, каб даваць жанчыне патрэбнае ёй і браць ад яе неабходнае мне, я працягваў любавацца ейнымі формамі і толькі візуальна даследваў таўшчыню валасянога покрыва на адкрытых участках цела самотнай жанчыны; я глядзеў з ёю савецкі чорна-белы тэлевізар, каштаваў ейную сціплую вячэру разам з ейнымі сынамі; няньчыў ейных малых, аднаму з якіх было пяць, а другому паўгода-год; слухаў Ніціны расповеды пра загінулага мужа-шафёра, але, як сапраўдны вычварэнец-садыст, я мучыў яе сваім не-хаценнем ейнага такога блізкага трыццацігадовага цела правільных формаў, сярэдняй шчыльнасці і з тварам прыемнай пекнаты.

Слухайце, мы нават не цалаваліся з ёю! І выглядае на тое, што яна таксама была праз меру маральная і нерашучая, як і я. А ў выніку, а ў выніку мы абое грашылі, ды яшчэ як! Грашылі тым, што адкідалі, не бралі, пагарджалі шанцам быць разам у пасцелі, целам у целе... Не, не буду, не буду дзяліць з жанчынаю свой грэх... Ведаю, яна чакала, а я не ўзяў. Мой грэх, перад Прыродаю, Лёсам і Богам...

Грашыў бо яшчэ і таму, што работу, якую я не жадаў ці, хутчэй, быў маральна не гатовы рабіць з вольнаю для гэтага жанчынай, я рабіў сам з сабою ў нашай ротнай лазні. Месца там было зручнае, за печчу-кацельняй, дзе качагарыла Вера Собінава, пульхная жанчынка гадоў пад пяцьдзясят. Дык гэтая лазніца свае апранахі сямейныя прала ў нашай лазні ды там і сушыла. Ну а ў мяне пасля шасцідзённых уздыханняў па Ніціных сцёгнах на сёмы дзень маладое начынне ірвалася і прагла вызвалення...

У панядзелак, прыгнаўшы з пашы нашых ротных авечак, я пераступаў парог Нінчынага бараку як самы нявінны з нябесных анёлаў; як той, хто прыняў суботні абрад цялеснага вызвалення і з новымі сіламі гатовы да выпрабавання сябе пажадлівымі спакусамі юрлівага нячысціка.

Не памятаю, як доўга трывожыў і распаляў я беланогую Ніну сваімі ў яе гасцяваннямі без пацалункаў і пасцельных любошчаў, але ўрэшце рэшт за пустое марнаванне часу я быў пакараны.

Аднойчы – а было гэта на другі год службы, пад канец лета 1982-га года – мы з Нінай заседзеліся ды загледзеліся савецкай інфармацыйнай тэлеперадачай “Время”, якая пачыналася а 9-й вечара і завяршалася праз паўгадзіны. Ну, тое ды сёе, пасля навінаў – нейкае кіно, дзеці ўлегліся, праз адчыненыя вокны заплывае сухое і цёплае крымскае паветра, а побач уздымаюцца пад халацікам і пахнуць жанчынай і жаданнем Ніціны грудзі...

І я задрамаў. Разбудзіў мяне гучны шэпт пасыльнага:

– Товарищ старший матрос Адамович! Приказано срочно прибыть в расположение роты.

А трэба заўважыць, што па другім годзе крымскай службы складана не расслабіцца, згубіць, як той казаў, пільнасць і падвесці наш дружны калектыў, які, як ужо было напісана вышэй, не проста ўсесаюзная сходка прадстаўнікоў рабочых і

працоўнага сялянства, а – сям'я. А сям'ю нельга падводзіць. А я пачаў, па-малому пачаў: раз, другі... Мічманка падставіў перад нампалітам, рота дружна кінулася ўдаваць, што шукае мяне, хоць усе ведалі, дзе я завісаю.

Па ўсім я атрымаў трое сутак гарнізоннай гаўптвахты, якія разрасліся да трыццаці, бо як толькі вяртаўся з "губы", ротны перад строем абвяшчаў мне новыя "суткі" і мяне цягам дня ізноў адвозілі пад узброенай аховай у гарнізонную гаўптвахту, якая стаяла тады ў пасёлку Гвардзейскі.

Пасля трыццацідзённай адсідкі ротны нарэшце пакінуў мяне ў спакоі, але адпачынку я ўжо не пабачыў. Лычку старшага матроса з маіх пагонаў таксама знялі – нявартьі.

Пад канец зімы 1983-га Ніна даслала мне адзіны свой ліст, у якім ні словам не згадвае нашыя прысядкі за ейным гасцінным, але бедным на прысмакі, сталом.

Паралельна раману з удавіцай развіваўся іншы, яшчэ больш платанічны, яшчэ больш грэшны і безвыніковы ў канцы свету.

Я пазнаёміўся з ёю ў клубе нашай часці, на танцах, якія мы ладзілі кожныя суботы й нядзелі. Ніхто з нас, матросаў і старшын тэрміновай службы, не хадзіў у звальненне за тэрыторыю часці. Магазінчык з ласункамі ў нас быў свой, а дзяўчаты з пасёлку самі ішлі да нас. прыходзілі і вельмі адмысловыя экземпляры, так што мы баяліся з імі размінуцца. Таму й сядзелі дома, ходзячы на рэпетыцыі хто ў зводны хор матросаў, афіцэраў ды іхніх жонак, а хто і ў наш мясцовы вакальна-інструментальны ансамбль "Надёжные крылья".

Як бы тое ні было, але мы пазнаёміліся. Мы былі пара: абое невысокага росту, абое чарнявыя, толькі ў маёй Галі Юрчак вочы як тыя мокрыя чарэшні, а ў мяне – шэра-зялёныя. Мне вясною 81-га было дзевятнаццаць, Галіне – сямнаццаць, выпускніца сярэдняй школы.

Галя прыходзіла кожныя выходныя. З такой нагоды я адпусціў вусы, і гэта быў адзіны перыяд у маім жыцці, калі я іх насіў...

Адзінае прыстойнае месца, дзе можна было прайсціся з любімай дзяўчынай – кавалак заасфальтаванай дарогі ад КПП часці да казармы, перад якой адбываліся штодзённыя ранішнія і вячэрнія праверкі і страявыя заняткі.

Па гэтым кавалку мы з Галяй і дэфіліравалі, то сплятаючы рукі, то расплятаючы, гаворачы пра вясну, лета, восень, мой блізкі дэмбель і Галіны планы паступіць у сельскагаспадарчы тэхнікум.

Галя была абсалютным дублем, двайніком Ісачэнкавай Лолы, майго школьнага платанічнага захаплення. Але калі на Лолу я толькі глядзеў і любаваўся ёю, то з Галінай я сабе дазваляў большае, ды што там большае – невераемнае! фантастычнае! Мы з Галінай падабаліся адно аднаму, з нецярпеннем чакалі кожнай новай суботы, калі яна праходзіла праз КПП часці яшчэ задоўга да пачатку клубнага канцэрту і танцаў, і крочыла насустрач мне. Павітаўшыся, мы ішлі ў засень шаўкавічнага дрэва і пачыналі цалавацца. Працэс цалавання быў настолькі дзіўным, новым і свежым, што мне тады нічога большага і не жадалася. Я і цяпер прыпамінаю асаблівы водар дзявочага дыхання, невялікі, але такі мабільны дзявочы рот з несупынным язычком у ім, які Галіна старалася прапхнуць кудысьці глыбака ў мяне, быццам хацела дастаць ім да маёй душы, накалоць на яго маю істоту, як на шампур...

У суботу й нядзелю пасля адбою ў мяне неяк асабліва сохлі вусны; я нават кубак з вадою ставіў побач з сабою на тумбачку, каб ноччу, прачнуўшыся ад фантастычных сненняў, спаганяць смагу, так і не спагнаную дзённымі пацалункамі.

Нашыя з Галінаю спатканні ціха сышлі на нішто пасля майго вяртання з гарнізоннай "губы". На першае пасля адсідкі спатканне я прыйшоў лысы і без сваіх пярэстых вусоў пад носам. Аднак Галіна і знаку не падала, што здзівілася. Пасля трыццацідзённага перапынку мы з новай сілай спляліся ў абдымках і пацалунках. І тут я адчуў нейкі новы імпэт, нейкую незнаёмую мне раней гарачку

ў Галіных рухах і руках. Яна парывалася цалавацца, цалавала ўжо не проста з юначай цікаўнасцю і жаданнем пазнаваць новае, а з мэтаю завяршыць нашы пацалункі працэсам абсалютна новага спазнання, з выхадам на нейкі новы вопыт...

На наступны дзень, у апошнюю нядзелю жніўня 1982-га, я быў свабодны ад службовых абавязкаў, і мы ізноў спаткаліся з Галінай. Калі нам нарэшце абрыдла фланіраваць па асфальце перад казармай, я заўважыў каманднa-вайсковую палатку, якая стаяла недалёка ад ротных будынкаў. У ёй мы і схаваліся.

У брызентавым намёце стаялі жалезныя ложкі з "сеткай-рабіцай", але без матрацаў. Былі нават стол і табурэткі...

Мы ізноў кінуліся цалавацца, ізноў я адчуў у Галіных абдымках нейкую халерычную нецярплівасць, гарачнасць, дзяўчына няйначай падавала мне нейкія знакі сваімі парывістымі рухамі і зацяжнымі пацалункамі, нібы, як з той цукеркі-падушачкі, яна хацела высмактаць з мяне ўсю мядова-павідлавую начынку.

Надыходзіў момант ісціны, кульмінацыя і развязка нашых трохмесячных платанічных любошчаў. Раптам я гэта зразумеў і адчуў, што ў напоўненай пахам старога брызенту палатцы я сёння нічога не змагу. Я не гатовы! Я проста не ўмею гэта рабіць з дзяўчынай! Калі б я мог, я зрабіў бы гэта з Нінай, сталай і вопытнай жанчынай, яшчэ год назад... У гэты момант у мяне захаладзела ў грудзях, ногі зрабіліся ватнымі і апусцела ў міжножжы, і намоклі вочы. Працягваючы цалавацца, Галіна адчула мае слёзы і стала ўглядацца ў мяне ў паўзмроку палаткі. Зразумеўшы, што я плачу, яна доўга супакойвала мяне, прыцiскаючы і расцалоўваючы мой твар. Ейныя рухі сталі спакойнымі і нават вялымі. Яна зразумела, што большага ад мяне чакаць нявартa.

...Развіталіся мы ўжо як сцямнела. Шалёна стракаталі жніўеньскія цыкады...

Вясною 1983-га на беларускі хутар Казіміраўка прыйшло пісьмо:

"Здравствуй, Славик.

Получила твое письмо и поняла, что если не отвечу – поступлю не очень хорошо.

Говорила тебе всегда правду, говорила о том, что парни мне быстро надоедают, что больше месяца ни с кем не встречаюсь, ты конечно это помнишь.

Но вот (пусть это будет не в обиду написано, мы останемся навсегда друзьями) уже пять месяцев встречаюсь с пареньком, познакомилась с ним во время сдачи экзаменов в техникум, сама не понимаю, как уже 5 месяцев, а он становится все ближе и дороже, без него не могу, через час уже хочу видеть, слышать его. Понимаю, Славик, что больно читать эти строки тебе, но я нашла то, что мне не хватало того, кто взял меня в руки и вывернул все плохое наружу и полюбил такую какая есть.

Помню твои слёзы, ты очень хороший парнишка, ты найдешь еще лучше меня, у тебя будет счастье, поверь мне и прошу тебя не делай большую трагедию из-за какой-то там незнакомой девушки.

Приезжать ко мне наверное не надо, да и переписываться, не знаю, смогу ли я писать тебе, давай только поздравлять друг друга со всеми праздниками, хорошо, люблю получать поздравления.

(...)

Славик, если будешь в наших краях и будет тебе не в моготу, заходи в гости, буду рада, ведь с вашей в/ч мног связано самых счастливых летних дней, дней уходящего детства и проходящей юности.

Не обижайся, если что не так написано, как могла, извини за все.

До свидания. С ув. Галина".

Успамінаючы Ніну і Галю, як не ўспомніць наша ротнае дзіва – Наталі...

Наталі была дачкою адказнага за мехдвор часці мічмана Карзюкова. На момант, калі мы, невялікая група выпускнікоў авіяцыйнай в/ч 40790 Калінінградскай

вобласці пераступілі парожак КПП в/ч 22838 Крымскага ўзбярэжжа, Наталі было ўсяго шаснаццаць.

Мы пачулі пра яе ў першы ж дзень нашага з'яўлення ў новым падраздзяленні. Старaслужачыя, таямніча ўсміхаючыся, настойліва раілі нам абавязкова пазнаёміцца з Наталі.

І мы знаёміліся. Наталі, ледзь толькі халодны зімовы вецер змяняўся на цёплы летні брыз, выходзіла на аператыўны прастор – яна цэлымі днямі круцілася на нашай спортпляцоўцы, якую было добра відаць з вокнаў казармы. У Наталі была настолькі дасканалая фігура, што любое мадэльнае агенцтва, любы начальнік, якому па штаце неабходна сакратарка, узялі б яе на работу. Яшчэ не ведаючы, як выглядае з твару тая стройнюткая дзяўчынка, што прагульваецца паміж спартыўнымі снарадамі і час ад часу ныpцуе ў драўляную будыніну пажарнай званіцы, мы, навапрыбылыя "карасі" (матросы першага паўгода службы. – *С. А.*), ужо завочна як адзін закахаліся ў дзіўную фею в/ч. На другі дзень пасля прыбыцця ў часць, вечарам, пасля вольнай гадзіны, адведзенай матросам для асабістых патрэбаў мыцця, падгонкі форменнага адзення і пісання лістоў старшына другой стацці Маргулёў сабраў нас, навапрыбылых, у ротнай альтанцы і правёў інструктаж. "Бачыце, – казаў ён нам з сур'ёзным выразам твару, – дзяўчына гуляе без апекі, відаць, ёй сумна, а яна, між іншым, – дачка нашага начмехдвара Карзюкова Наталі. І калі яна сёння вечарам паскардзіцца бацьку на нашую да яе няўвагу, то заўтра пасля разводу мы ўсёй ротай выправімся чысціць мехдвор і перабіраць рухавік нашага "Уралу". Пагэтаму, таварышы "карасі", мы павінны паказаць феі нашай часці самую шчырую джэнтльменскую павагу і ўвагу. Хадзіць натоўпам да яе не трэба. Будзеце па чарзе. Расказваць, што там у вас і як пройдзе, таксама не варта. Ніякіх плётак і абгавораў! Гэта ваша з ёю асабістая справа. Матрос Адамовіч, вам першаму даецца права аказаць увагу нашай Наталі. І глядзіце там, без фокусаў, інакш рухавік будзеце разбіраць аднаасобна".

...І я з энтузіязмам неафіта пачыкільгаў на спортпляцоўку – знаёміцца з фігурыстай Наталі.

Пакуль я клыпаў, аддзіраючы свае новенькія кірзавыя прагары (слэнгавае, чаравікі. – *С. А.*) ад ліпкай, як клей, крымскай глебы, дзяўчынка пакінула спортснарад "конь", на якім сядзела сапраўднай вершніцай, і нырнула ў пажарную званіцу, застаючыся там і не збіраючыся выходзіць.

Я зайшоў следам.

У дашчаным стаяку быў паўзмрок, у нос шыбануў казытлівы водар ужо знаёмых духоў "Шахерезада", і я паплыў на яго і прызыўны дзявочы голас "Иди сюда".

"Я Наталі", – сказала Наталі, хапаючы мяне адной рукой за плячо, а другой за патыліцу і нахіляючы з намерам пацалаваць. "Во ё!" – паспеў я падумаць чамусьці па-беларуску і паддаўся дзявочым рукам. Далей не думалася нічога, мы цалаваліся, і толькі было чуваць, як шаргоча аб дзявочую куртачку мая новая роба і вырываецца з нашых іртоў маладое $CO^2$.

...Калі праз нейкі час мы выграбліся з драўлянай вышкі пажарнікаў, ужо амаль змяркалася, але я ўсё ж убачыў твар маёй партнёркі і зноў нема выгукнуў у сабе, ужо па-руску: " – Ну ёпт!"

Дзяўчына была фенаменальна непрыгожая, з такім тварам ёй трэба было быць фенаменальна разумнай. Але выглядала на тое, што, памятаючы пра сваю дасканалую фігуру, дзяўчына паспрабуе быць фенаменальна даступнай...

Між тым, я не доўга перажываў з той нагоды, што хвіліну таму так натхнёна цалаваўся з непрыгожай. Вярнуўшыся ў роту, я ўжо сам таямніча ўсміхаўся і сам натхняў сваіх гадкоў на перамогі ў эратычных гульнях з Наталі.

На вячэрнім прыёме ежы ў ротнай сталоўцы старшына другой стацці Маргулёў аддаў мне кружочак свайго "дэмбельскага" масла.

### Эпісодыя чацвёртая. Вандроўка ў Карпаты

Пасля вяртання са службы ў Крыме я цэлыя восем гадоў займаўся выключна сваімі беларускімі справамі. І толькі ў 1990-м зноў здарылася нагода наведаць Украіну. А перад тым выпадкова сустрэўся са сваім земляком, ураджэнцам Будслава Валерам Пчолкам, з якім мы хадзілі ў 70-х у Будслаўскую сярэднюю школу. Нашае паўночна-заходняе ліцвіна-крывіцкае зямляцтва і новае Беларускае Адраджэнне канца 80-х – пачатку 90-х на нейкі час звялі нашыя дарогі ў адну.

У другой палове 80-х зямляк мой Валера працаваў інструктарам у Барысаўскім турклубе. Першая нашая з ім вандроўка на роварах па тады яшчэ савецкай Літве адбылася ў 89-м пад нашымі бел-чырвона-белымі сцягамі... Праз год, у 90-м, пад гэтымі ж палотнішчамі мы разам з групай моладзі выправіліся ў роварную вандроўку па ўкраінскіх Карпатах.

Паколькі мы мусілі ісці ў прымежных землях СССР, Барысаўскі занальны турклуб зрабіў запыт начальніку райаддзела унутраных спраў Ленінскага райвыканкаму Менска з просьбай дазволіць мне знаходжанне ў памежнай зоне з 28 красавіка па 9 мая 1990 года.

Дазвол быў дадзены, і мы выправіліся. Лішне казаць, што роварны тур беларусаў пад сваімі нацыянальнымі бел-чырвона-белымі сцягамі па тэрыторыі "бандэраўскай" Івана-Франкоўскай вобласці праходзіў у надзвычай прыязнай і сяброўскай атмасферы. Угледзеўшы, што падарожнікі ідуць пад сцягамі несавецкіх колераў, мясцовыя людзі пастаянна спынялі нас і пыталіся, чые ж гэта такія прыгожыя прапары. Самі "бандэраўскія" гарады на той час (май 1990-га) ужо жылі пад сваімі жоўта-блакітнымі, вернутымі на вільчыкі і флагштокі будынкаў мясцовай улады.

Падчас вандроўкі па Літве ў 89-м мы ўжо крыху прывыклі былі да архітэктурных дзівосаў Вільні і Коўны, фактычна ніякага не савецкага летувіскага люду, асабліва калі раўняць з нашым менскім народам... Аднак атмасфера заходнеўкраінскіх гарадоў здалася нам, беларускім велатурыстам, яшчэ больш антысавецкай, праўкраінскай да дробязяў і проста нацыяналістычнай. Паўсюль на будынках адміністрацыяў гайдаліся жоўта-блакітныя прапары – сімвалы ўкраінскай Украіны...

На цэнтральных плошчах Львова, Івана-Франкоўска месцічы ўступалі з намі з размовы на грамадска-палітычныя тэмы, шчыра цікавіліся, як там у нас, у Беларусі, ідзе перабудова і ці збіраемся мы адасабляцца ад СССР. У адным закарпацкім сяле нас частавалі пахучым ліставым тытунём і так натрактавалі тамтэйшым віном, што далей па маршруце мы рухацца больш не маглі і мусілі стаць на прывал...

Вандроўка ва Украіну 1990-га года ўмацавала нашыя з Валерам інтуітыўныя здагадкі пра тое, што СССР завяршае сваё існаванне па факце, а ў хуткім часе савецкая агламерацыя народаў перастане існаваць і юрыдычна.

<...>

### Эпісодыя пятая:

*Крым, Еўпаторыя і беларусачка Валянціна.*

У 1993-м я яшчэ працаваў у профільным выданні "Настаўніцкая газета" і адпачынак дастаў якраз у сярэдзіне лета. Пакуль дэпутаты апазіцыі ў Вярхоўным Савеце напаўнялі рэальным зместам законаў пусты мех пад назваю "Рэспубліка Беларусь", я ўзяў пуцёўку ў адзін з Крымскіх санаторыяў і 19-га ліпеня сеў у хуткі цягнік "Мінск – Сімферопаль". З сабою захапіў не абы-што, а тоўсты фаліянт Шпенглерава "Канца Еўропы" ў перакладзе на расейскую.

"20 ліпеня, у аўторак, я ўжо еду мінскім цягніком да Сімферопалю. Стаім на ст. Губараўка Паўднёвай чыгункі. Наперадзе – Прыдняпроўская. Нічога цікавага...

Насупраць мяне ўкраінка са Шчорсаў, што за Гомелем. Гаворацць па-украінску па дарагоўлю на Украіне. Падключаюцца іншыя пасажыры, скардзяцца на палітычныя змены. Сталага веку беларуска едзе ў крымскі Джанкой, недалёка ад якога я служыў.

Праязджаем Чарнігаўшчыну: сасновыя лясы, але ўжо сустракаюцца пасевы кукурузы. Як сказала яшчэ адна суседка па вагоне, Украіна – сланечнік ды кукуруза.

А вось і яшчэ пякнейшыя ландшафты. Ужо ля Харкава... Харкаў. На будынку нейкай прыстанцыйнай забягалаўкі надпіс "Новая Баварыя". Добра, што не "новае Бутава".

21 ліпеня, серада. Восьмая раніцы. Сяджу на вакзале станцыі Острякова. Хутчэй бы да месца дацеляпацца.

Бадзяга насупраць храпе, яму ад сілы сорак пяць... Дзве німфетачкі загарэлыя – пасядзелі да зніклі (праглынуў паўшклянкі ўласнае сліны)...

22-га, чацвер. Нарэшце прызямліўся ў пансіянаце "Сонечная даліна". Дабіраўся на таксі праз нейкае Чарнаморскае...

Вечар. Не паспелі пасяліць, як перасяляюць, з 504-га ў 408-ы пакой да нейкага зямляка з Менску. Пузанкаваты, гадоў сарака.

Пасля вячэры глядзеў амерыканскі баявік "Сценка на сценку". Такая непрыхаваная дрэнь, слухай, мікрафоны ў кадр улазілі!

Мора? Мора таксама дрэнь – салёнае, поўна медузаў; увесь бераг завалены шпрыцамі, прэзерватывамі і пластыкам... Побач з пансіянатам – дашчэнту разрабаваная і запушчаная вайсковая частка. Праўда, адзін-два чалавечкі ў падобнай да вайсковай форме там паказваліся.

24 ліпеня, субота. Лазіў па берагавых катакомбах, уздымаўся на скалы. Прыгожа, але прысутнасць сабе падобных напружвае. Увесь бераг у чалавечых экскрэментах, "водар" яшчэ той. Поўна чамусьці каларадскіх жукоў. І вады салёнай не баяцца. І чаму яны тут, у гэтым ракушачным стэпе?..

Тут, на камянях, пазнаёміўся з зямлячкай Наталляй. Уся такая вастранькая, худзенькая і, відаць, з характарам.

Сёння з раніцай прыйшла навіна: Расея робіць абмен грашовых купюраў узору 1961 – 1992 гадоў. Ізноў "рабункі мужыкоў".

26 ліпеня. Панядзелак. Ноч, палова на другую. Сусед, які сёння раніцай ад'язджае, ятрыць у фае кабетку, якой з учарашняга вечару "не спалось". Стогне без сораму на ўвесь паверх. Цікава, ці дасць яна мне?

...Зачынаецца дзень. Сусед адваліў. Многа думаю і мала пішу. Нейкі халадок у целе і адчуванне бездапаможнасці, бо няма ў кішэні грошай столькі, каб не думаць пра іх...

Вечар. Згарэў! Спаліўся ўшчэнт пад крымскім сонцам. Цела пакрылася пухірамі, якія лопаюцца, і скура злазіць шматкамі. Чытаю Рамэна Гары, ягоны раман "La promesse de l'aube". Запісваю вартыя ўвагі словы: remember our forgotten men (памятаць нашых забытых).

Аўторак, 27-га. За столікам у сталоўцы – новыя суседзі, мама з дзвюма дачушкамі. Старэйшая, такая булачка, усё пазірае на мяне. Маладое, чыстае і здаровае. Як гэта добра!.. Такія б вочкі ды маёй дачушцы. Дачка... яна стала б маёй спадчынніцай.

28-га, у сераду, у галоўным корпусе пансіянату ледзь не атрымаў па мордзе ад нейкіх рэкецірскага выгляду калдыроў. З гэтай нагоды ўвесь вечар думаў пра зброю і будаваў планы помсты...

30 ліпеня, пятніца. Дачка і маці Страшэўскія сварацца з-за мяне. Пазнаёміўся з імі на днях, пазычыў у іх дзесяць штук украінскіх купонаў. Учора ж быў са старэйшай, Валяй, на моры. Дачка падышла пазней.

На другі дзень, 31 ліпеня. Спаў і загараў па чарзе. Глядзеў па тэлевізары перадачу пра расейскую заставу ў Таджыкістане.

2 жніўня, панядзелак. Учора беларуска Валя прызнавалася, што я падабаюся ёй. Самой сорак два, дачцэ Наталлі сямнаццаць, у Беларусі – муж...

Сёння я не адкруціўся і мусіў узяць яе, даць ёй тое, чаго яна так прагла...”

## Эпісодыя шостая:

*Кіеў, канферэнцыя “рэфарматараў”;*
*Львоў, канферэнцыя нацыяналістаў.*

“12 студзеня 1995-га, чацвер. Еду сёння ў Кіеў на тры дні (студэнцкая паліт-канферэнцыя на падачку фонда Сораса. Атрымаў аж 50 амерыканскіх даляраў, з якіх 35 спадзяюся ашчадзіць, бо на транспартныя расходы пайшло каля 15 баксаў.

13 студзеня, пятніца. Кіеў. Дом прафсаюзаў. Разам са студэнтам А. Міхалевічам і яшчэ адным чалавечкам з Беларусі бярэм удзел у Кангрэсе маладых рэфарматараў Цэнтральна-Усходняй Еўропы.

Кіеў брудны, у падрэжымным Менску куды чысцей...

Вярталіся ў Беларусь цягніком №106 “Кіеў-Менск”.

На згаданай канферэнцыі пазнаёміўся я сярод іншага з кіраўніком аддзела знешняй дакументацыі Львоўскага абласнога аддзела УНА Панасам Бідам. Нейкі час мы вялі з ім перапіску, абменьваліся прэсай, што да стратэгіі і тактыкі нашых нацыянальных рухаў. Ужо ў сакавіку 95-га я атрымаў з Львова два пакеты з матэрыяламі прапагандысцкага характару.

“Шаноўны спадар Славамір! Мы надсылаем Вам некалькі нумароў нашае прэсы, з якіх Вы можаце скласці ўяўленне пра нашую арганізацыю УНА – УНСО.

Мы будзем вельмі ўдзячныя, калі вы дашліцё нам дзе-якія матэрыялы І-га з’езду Беларускіх нацыяналістаў, які, на жаль, не адбыўся, а таксама больш дэталёвую інфармацыю пра Вашую арганізацыю “Правы рэванш” (праграма, статут, узоры ўлётак і прэсы).

Акрамя вышэйзгаданага, на нашу думку, было б правільным арганізаваць пастаянны інфармацыйны абмен паміж нашымі палітычнымі рухамі, які ўключаў бы ў сябе абмен прэсаю, літаратурай, інфармацыйнымі паведамленнямі пра дзейнасць нацыяналістаў Беларусі і Украіны (...).

Слава Нацыі! Смерць ворагам!

Галоўны рэферэнт Аддзела знешняй дакументацыі УНА-УНСО Панас Біда”.

1 сакавіка 1995-га мой украінскі таварыш піша мне ізноў:

“Шаноўны спадар Славамір!

Як і абяцаў, так і дасылаю Вам нашу прэсу, якая выйшла за апошнія два месяцы. Інтэрв’ю, дасланае Вамі, цяпер знаходзіцца ў працэсе стылістычнай апрацоўкі і я спадзяюся, што ў наступных нумарах “Голасу нацыі” яно будзе надрукавана.

Сітуацыя ўва Украіне даволі нявызначаная. Негледзячы на тое, што наша арганізацыя – Украінская Нацыянальная Асамблея – ужо зарэгістраваная на рэспубліканскім узроўні, у рэгіёнах для нашай палітычнай дзейнасці робяцца шалёныя перашкоды. Так за няпоўныя два месяцы 1995-га года тры нашы актывісты былі забітыя, каля 20 сяброў арганізацыі арыштаваны, у большасці нашых рэгіянальных офісаў праведзены вобшукі. Але мы не здаёмся. Цяпер з нашага боку вядзецца актыўная работа ў Чачні, што дае вынікі. Працаваць нялёгка і калі-нікалі ўпадаеш у паняверку, але, як казаў Шарль дэ Голь, “мы прайгралі бітву, але не прайгралі вайну”. А ўся вайна яшчэ наперадзе і невядома дзе яна закончыцца – ці ў Маскве, ці ў Вашынгтоне.

Як там становішча ў Беларусі? Што Вы плануеце ў найбліжэйшы час? Ці збіраецеся выдаваць газету? Чакаю Вашага адказу. Слава Нацыі!!! Смерць ворагам! Панас Біда”.

У лісце ад 17 мая 1995 г. Панас Біда запрашае наведаць Львоў і прыняць удзел у чарговай грамадска-палітычнай канферэнцыі, задае і адказвае на пытанні.

“Шаноўны спадар Славамір! Дасылаю Вам асобнікі нашых газет, якія выйшлі з часу, калі была адпраўлены апошняя бандэроль, а таксама газету суполкі беларусаў Галіччыны. Думаю, яны Вас зацікавяць. Вельмі ўдзячны за дасланыя нумары газеты “За Волю!” (...). Інтэрв’ю, пра якое гаварылася ў папярэдніх лістах, ўжо надрукавана і Вы яго зможаце знайсці ў адным з нумароў “Голасу Нацыі”. Як там сітуацыя ў Беларусі пасля рэферэндуму? Якія акцыі плануеце ў найбліжэйшы час? Якія ўзаеміны паміж “Правым рэфаншам” і БПС? (...). 7 чэрвеня УНА – УНСО ў Львове арганізоўвае канферэнцыю “Тэарэтычныя праблемы ўкраінскай геапалітыкі”, на якую запрашаю і Вас. Спадзяюся пагаварыць пра гэта па тэлефоне. (...).

P.S. Ужо ў другі раз на наш офіс быў зроблены збройны напад і таму мы цяпер не маем пастаяннага адрасу. Пісаць мне можна непасрэдна на дом”.

Такім чынам, галоўнай падзеяй чэрвеня 95-га была паездка ў Львоў і ўдзел у канферэнцыі. Звярнемся да дзённіка:

“5 чэрвеня, панядзелак. (...) Вечар. Ноччу пайду на вакзал, каб раніцай патрапіць на цягнік “Санкт-Пецярбург – Львоў” (...).

6 чэрвеня (аўторак). Гадзіна ночы. На “новым” вакзале, эскалатар якога не працуе з дня ўводу ў эксплуатацыю. (...). Другая гадзіна дня. У цягніку. Украінскія памежнікі правяраюць. Гэта Удрыцк. Нашы мытню знялі. Нашым ужо ўсё да фені...

Раніцай было холадна, сіфоніла ў вакно. 21:00, стаім. За гадзіну мусім быць у Львове. Вагоны такія ж дабітыя, як і ў нас...”.

Навукова-практычная канферэнцыя “Новыя напрамкі ўкраінскай геапалітыкі” праходзіла ў будынку Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, называнага “Львоўская палітэхніка”.

Арганізатарамі выступілі: палітычная партыя УНА, грамадскае аб’яднанне УНСО, вайскова-патрыятычны клуб “Вітрила”, рэдакцыя тыднёвіка “Голас Нацыі”, напукова-публіцыстычны часопіс “Нацыяналіст”, Студэнцкі камітэт УНА.

Тэмы, якія абмяркоўваліся на канферэнцыі: 1) украінскі нацыяналізм як вызначальнік сферы ўкраінскіх інтарэсаў; 2) нацыянальна-вызвольная барацьба паняволеных народаў у сферы ўкраінскай геапалітыкі; 3) еўразійская прастора – прыродныя абсягі ўкраінскай геапалітыкі; 4) панславізм як кансалідуючая дактрына найбліжэйшай перспектывы еўразійскай прасторы.

Да ўдзелу ў канферэнцыі былі запрошаныя такія асобы, як:

- Зміцер Карчынскі, провіднік УНА – УНСО;
- Андрэй Шкіль, кіраўнік (голова) Львоўскага абласнога камітэта УНА, галоўны рэдактар часопіса “Нацыяналіст” (вёў канферэнцыю);
- Аляксей Халецкі, выкладчык філасофіі;
- Слаўка Арцёменка, палітолаг;
- Аляксандар Каваленка, гал. рэд. газеты “Замкова Гора”;
- Эдуард Шуфрыч, кіраўнік Закарпацкага аблкама УНА;
- Панас Біда, кіраўнік аддзела знешняй дакументацыі Львоўскага аблкама УНА;
- Валянцін Мароз, гісторык і палітолаг.

Несумненна, што на канферэнцыі абмяркоўвалі якраз заяўленыя тэмы; гаспадары давалі слова гасцям, а ўсе разам рабілі сур’ёзныя выразы твару. Да пачатку вайны на ўсходзе Украіны заставалася 19 гадоў. Аднак, што важна сабе зацеміць, дарагія мае чытачы, сапраўдныя ўкраінцы – і перш за ўсё ўкраінскія нацыяналісты! – і тады, у 1995-м, ведалі пра непазбежнасць вайны і рыхтаваліся да яе – практычна, тэарэтычна і стратэгічна...

Але давайце зноў зазірнем у мае запісы тых дзён, памятаючы пра тое, што сапраўдны дзённік – гэта жывая кніга эмоцыяў.

Такім чынам, 7 чэрвеня 1995, серада, Львоў, дзень канферэнцыі. Сяджу ў першых шэрагах і тэзісна запісваю:

“Анатоль Лупініс, арыштаваны (А. Лупініс, адзін з заснавальнікаў УНА-УНСО, пры саветах адсядзеў 23 гады, павінен быў адкрываць канферэнцыю, але напярэдадні трапіў пад арышт расейскіх спецслужбаў (паводле газеты “Голос Нації”) – *С. А.*) з размовы з Панасам Бідам. Паводле яго, Дастаеўскі – украінец. Барацьба за асобы мінулага. Украіна – славянская прабацькаўшчына. Аляксей Халецкі: Украіна як дыктатура культуры. Фундаменталізм. Дзеянні малых сіл. Падрыхтоўка нацыянальнай рэвалюцыі. (...) Сённяшнія лозунгі УНА-УНСО: даеш інтэрнацыянал пакрыўджаных! Палігамная сям’я! Выхаванне дзяцей дзяржаваю. Калі беларусы самі не пазбегнуць уплыву маскалёў, украінцы будуць вымушаныя ўвесці ў Беларусь танкі. Украінская фартэцыя “Троя”.

8 чэрвеня, чацвер. Львоў, 12 г. дня. Насупраць на лаўках сядзяць: тры дзяўчыны (свецяць лыткамі-сцёгнамі і бясконца глядзяцца ў люстэрачкі) і два падлеткі (перманентна грызуць пазногці). Я пакінуў штаб УНСО а палове на дзясятую (хлопцы ўсталі і пайшлі)... (далей ідуць мае абурэнні неналежным, на маю думку, прыёмам гасцей. – *С. А.*).

Учора вечарам пасля канферэнцыі выпілі бут. гарэлкі з маім новым знаёмым – Юрам з Вялейкі. Вучыцца ён у Івана-Франкоўскім тэалагічным інстытуце, уступіў там у рэгіянальную каманду УНСО, сябра БПС. Упіўся хутка. Яшчэ прыйшлося наліваць гаспадарам. Пажэрлі (...) нашу кілбасу і салянку (купленыя, праўда, у іхняй краме). Не, блін, такія “прыёмы” ў Львове мне не падабаюцца. І ўвогуле – няма лепш як дома.

18:00. Вечар. У цягніку «Львоў – СПб”. Насупраць – стары м(...)к, ён “тоже белорус”. Жарэ, п(...)а, яйкі, памідоры, варанае мяса. Відаць, выпіў, бо язык развязваецца. П(...)ць пра развaленую “страну”. Маўляў, далі б зараз аўтаматы, яны б “навелі порядок”. Падлы, калі яны передохнуць, гэтыя сав. трупы, мля!”

Такім сумным візуальным малюнкам завяршалася маё падарожжа ў бандэраўскі Львоў. Трэба было думаць, на што жыць у Беларусі пасля звальнення з пасады стыльрэдактара ў “Настаўніцкай газеце”. Рэжым набіраў абароты і бязлітасна зачышчаў прастору Беларусі ад беларускіх патрыётаў. Першай катастрафічнай акцыяй “зачысткі” стаў рэферэндум пра наданне рускай мове статуса дзяржаўнай, праведзены 14 мая.

Хацелася беларускай Беларусі і яды. І так хацелася, што пад канец года я напішу свой самы актуальны верш, а неўзабаве сяду за краты...

## Эпісодыя сёмая:

*Голас украінскай нацыі.*

Пра рост і развіццё ўкраінскага нацыяналізму я дазнаваўся непасрэдна з украінскіх перыядычных выданняў, як, напрыклад: “Голас нацыі”, “Украінскія гарызонты” (газеты), усеўкраінскі глянцавы тыднёвік “Палітыка і культура”, альбо “ПіК”, часопіс “Нацыяналіст”.

Гэтыя перыёдыкі засылалі мне поштаю мае новыя ўкраінскія таварышы і сябры.

Украінскія нацыяналісты даволі жыва адгукнуліся на мае спробы стварыць у 1994-м групу прамога дзеяння “Правы рэванш” і спробу ў тым жа годзе правесці Першы з’езд беларускіх нацыяналістаў у Віцебску.

Выданне Украінскай Нацыянальнай Асамблеі газета “Украінскія гарызонты” на сваёй першае старонцы паведамляла: “26-27 лістапада (1994 г. – *С. А.*) у Віцебску мусіў адбыцца з’езд беларускіх нацыяналістаў. Арганізатарам з’езду выступіла новастворaная група “Правы рэванш”, удзельнічалі прадстаўнікі Беларускага народнага фронту і аб’яднання вайскоўцаў, нядаўна забароненага антынародным

мінскім рэжымам. Дэлегаты з'езду з нецярпеннем чакалі прыезду прадстаўнікоў УНА-УНСО.

Арышты арганізатараў пачаліся яшчэ напярэдадні з'езду, які, тым не менш, адкрыўся, але праз паўгадзіны быў у поўным складзе арыштаваны беларускім ОМОНам.

Прадстаўнікі УНА-УНСО, кіруючыся аператыўнай інфармацыяй і ўласным досведам, здабытым у шэрагах сваёй арганізацыі, змаглі пазбегнуць арыштаў і абсеклі за сабою "хвасты". Дзякуючы ім падзеі ў Віцебску сталі вядомыя шырокай грамадскасці. УНА-УНСО і надалей мае актывізаваць экспарт рэвалюцыі да братняй Беларусі".

А вось як пра тую ж самую падзею паведамляў львоўскі тыднёвік "Голас Нацыі" пад рэдактарствам Андрэя Шкіла (№ 10, 1995): "У Віцебску міліцыя брутальна разагнала мітынг і дэманстрацыю нацыяналістаў, якія праходзілі пад лозунгамі "Беларусь альбо нішто!", "Незалежнасць альбо рабства?". Міліцыя спачатку паклала на глебу, а потым волакам зацягнула ў машыны некалькі чалавек, якія трымалі нацыянальныя сцягі Беларусі ды разагнала калону дэманстрантаў".

Варта заўважыць, маладыя людзі, што ўдзел беларуса Жызнеўскага ў кіеўскім Майдане канца 2013-га – пачатку 2014-га не ёсць прыватным выпадкам гэтай самай украінскай рэвалюцыі. Яшчэ 20 гадоў назад, у вірлівыя 30-я, многія беларусы наладжвалі шчыльныя кантакты з украінскімі нацыяналістычнымі арганізацыямі, набіраючыся практычнага вопыту нацыянальнай работы.

У артыкуле "Пра становішча ў Беларусі" сябра УНСО і БПС, адначасова, нехта пад псеўданімам "Капелан" ("Голас Нацыі", №18 за 1995 г.) паведамляў: "Калі нацыяналістычны рух у Беларусі напаткае параза, найбольш баявыя актывісты маюць намер перайсці ў УНСО, каб хоць там мець магчымасць ваяваць з маскалём на роўных". І ў самым канцы артыкула "Капелан" заклікае: "Украінцы! Не дапусціце ворага ў свой тыл! Свабода Беларусі – свабода Украіны!"

Як бачым, напісана без малога 20 гадоў таму назад, але як ніколі гэты заклік актуальны менавіта сёння.

Актуальнымі застаюцца і многія тэмы і праблемы, якія ставілі і разглядалі ў сваіх выданнях украінскія нацыяналісты 90-х. Адна з іх – тэма нацыянальная рэвалюцыі і непазбежнасць вайны з Масквой.

Акрамя ўкраінскіх нацыяналістаў, у 90-х гадах 20 ст. я завязаў і падтрымліваў кантакты з сучаснымі ўкраінскімі літаратарамі, сярод якіх паэт і перакладчык Максім Стрыха; паэт Уладзімір Цыбулька (такі сабе ўкраінскі Анатоль Сыс); паэт, празаік ды перакладчык Сяргей Жадан; паэт, крытык, драматург і рэдактар штомесячніка "Украінскі засеў" Ігар Бондар-Цярэшчанка. З апошнім нашае беларускае Таварыства вольных літаратараў наладзіла асабліва плённыя ўзаеміны: Ігар з камандаю творцаў прыязджаў у Беларусь, мы – да яго ў Харкаў, дзе чыталі вершы і рвалі на публіцы гітарныя струны.

15 снежня 1999 года Ігар даслаў мне пісьмо наступнага зместу: "Здароў быў, дружа Славамір! Ад слаўных часоў "украінскага дэсанту" у Беларусь мы не ліступемся. Хаця сякія-такія чуткі пра "культурнае" жыццё ў Менску да нас даходзяць. Зрэшты, якое там, як я разумею, жыццё...

Успомніць твой адрас мне падказаў быў матэрыял пра "Плавільшчыкаў расы" з-пад пяра нашага Максіма Стрыхі, надрукаваны ў дужа прэзентабельнай ды паважнай "Крытыцы", якую рэдагуе Мікола Рабчук. Думаю, гэтую рэцэнзію з даўгімі цытатамі, прыхільным стаўленнем да аўтара і "ўсёй праўдай" пры яго ты, ясная рэч, не бачыў. Як толькі высніцца, што твой "сурганаўскі" адрас той самы, дашлю ўсю гэтую справу. Разам. Дарэчы, з сваёй новай кніжкай "Фібруарій". Ці выслаў я табе папярэднюю "Уласкаву"? Яна выйшла яшчэ ў часы "Украінскага засеву", які ўжо блізка два гады як не выходзіць.

М. Стрыха падае твой адрас у Менску проста ў артыкуле, бо, маўляў, ты сам яго змяшчаеш ва ўласнай кніжцы. Значыць, жывеш у тым самым інтэрнаце, у якім мы былі з Цыбулькам і Жаданам? Цяпер у нас многае змянілася. Цыбулька "зрабіў кар'еру" падчас выбарчай кампаніі. Жадан выбіўся з ад'ютантаў-казачкоў і час ад часу робіць тыя ці іншыя мастацкія акцыі ў Харкаве і Кіеве. Разам з ім выдаем скандальны і "жахліва папулярны" андэграўдны часопіс "Гігіена". Сам я вырабіўся ў "культавага крытыка", якога вымушаныя цярпець як афіцыйныя "саюзапісьменнікаўскія" выданні, гэтак і папсовыя. Пішу публіцыстыку, радыёп'есы, артыкулы па мастацтве. Даўно ўжо закончыў свой маскоўскі Літаратурны інстытут – другі па ліку, бо першым быў, калі памятаеш, Харкаўскі будаўнічы (архітэктура). Але бог з ім.

Нядаўна ў Львове выйшла ўсеўкраінская анталогія "Пазадзясятнікі" (насуперак "васьмідзясятнікам", "дзевяцьдзясятнікам" і да таго падобнага). Туды патрапілі тыя, хто ніколі ні ў якія анталогіі-зборнікі не трапляў, будуючы сваю паэтычную Украіну на ўласным маргінэсе: І. Бондар-Терещенко, Ол. Гордон, Павло Вольвач, Іг. Павлюк, Вас. Слапчук, Степан Процюк: Харкаў-Львоў-Запарожжа-Луцк-Ів.-Франкоўск. Пры нагодзе, Бог дасць, вышлю.

Спадзяюся ўбачыць тваю кніжку. Прапаную таксама зрабіць інтэрв'ю для аднядаўна папулярнага панукраінскага часопіса "ПіК" ("Палітыка і Культура"), з якім я супрацоўнічаю. Свае пытанні з часам дашлю. Па-сяброўску – І. Бондар-Цярэшчанка (подпіс).

P.S. Што там робяць А. Аркуш, Ю. Гумянюк, К. Камоцкая, транслагісты Мінскевіч з таварышчамі? Увогуле, як там "Таварыства вольных літаратараў"? У нас рэкламуюць ваш часопіс "Arche".

І сапраўды, роўна праз месяц, 15 студзеня 2000 года, мой украінскі таварыш і сябра Ігар Бондар-Цярэшчанка дасылае свой новы ліст з пытаннямі для запланавага ім інтэрв'ю.

"Вітаю, дружа Славамір! З уваходзінамі ў новае стагоддзе-міленіюм, з цудоўнай кніжкай і з тым, што мы яшчэ жывыя!

Ад шчырага сэрца дзякую за "Плавільшчыкаў" і ўвогуле за пісьмо. Кніжка, прызнацца, не расчаравала, прачыталася, што называецца, на адным уздыху. Хацеў бы з часам нешта зрабіць пра яе ў нашай прэсе. Ужо ж пісаў, здаецца, пра водгук на яе ў "Крытыцы" нашага М. Стрыхі, але так і не зразумеў, ці бачылі вы яго. Калі не, то магу даслаць альбо копію, альбо ўвесь часопіс. Рэч у тым, што на вокладцы часопіса вынесеная назва: "Максім Стрыха: Паэт з Лукашэнкалэнду", хоць сам артыкул называецца "Паэт з краіны па-за эпохамі і дыскурсамі". (...)

Уласную зацікаўленасць Вашым краем (і даўнюю!) выявіў у пытаннях да інтэрв'ю. Ясная рэч, што дзе-кольвек яны выглядаюць па-дурному, прамоўленыя вуснамі вядомага "ўкраінскага фашыста", на якога мінулым летам быў напісаны і ледзь не надрукаваны ў "Літаратурнай Украіне" некралог (маўляў, забілі і выкінулі з вакна, спачуваем). Але звярніце ўвагу, ашто "ПіК" – часопіс камерцыйны. Адзіны, дарэчы, які поруч з расейскімі "Итоги" ды "Огонек" прабіўся да камерцыйных прылаўкаў. Было б цудоўна, калі б Вы ў ім з'явіліся. (...)

З надзеяй і сяброўскім прывітаннем,

І. Бондар-Цярэшчанка (подпіс)"

На пытанні для інтэрв'ю я адказаў даволі аператыўна, і ўжо ў нумары 6-м украінскага тыднёвіка "Палітыка і Культура" ад 18-24 лютага 2000 года размова са мною была прапанаваная шматмільённаму ўкраінскаму чытачу. Гэта быў камерцыйны часопіс, які пачаў выходзіць у 1999-м годзе, і на момант выхаду інтэрв'ю тыраж "ПіКу" складаў 10.000 асобнікаў.

Інтэрв'ю са мной, якому Ігар даў сапраўды таварыскую і адначасова пагрозлівую

назву “Сябравы скіviцы”, я тут цытаваць не буду. А вось некалькіх актуальных артыкулаў, змешчаных у тым жа самым 6-м нумары “ПіКу” дадаць варта.

Яны быццам сёння напісаны, а не 14 гадоў назад. Вось, напрыклад, часопіс знаёміць сваіх чытачоў з кіеўскім прафесарам Георгіем Пачапцовым, які на 2000 год выдаў аж чатыры кнігі пра тактыку і стратэгію інфармацыйных войнаў. Як запэўнівае “ПіК”, работы прафесара Пачапцова вельмі грунтоўныя і абапіраюцца на шырокую даследчыцкую базу. Ад сябе дадам, што ў сёняшняй Украіне гэты аўтар павінен быць актуальны і чытаны як ніякі іншы.

Артыкул “Украіна не для ўкраінцаў” чытаецца са слязьмі на вачах. У ім адлюстраваная і фактычна анансаваная ўся сёняшняя драма з адарванне Крымскай паўвыспы ад Украіны.

Вось тое рэальнае становішча справаў, якое папярэднічала сёлетняй расійскай анэксіі ўкраінскага Крыму (цытую без дадатковых каментароў):

“Хоць прэса пераконвае, што эпоха страху даўно прайшла, у Крыме людзі дагэтуль баяцца аддаваць дзяцей ва ўкраінскія школы. Ды асабліва і няма куды”.

“Каб адкрыць новыя ўкраінскія класы, даводзілася звяртацца па дапамогу да прэсы, радыё, ТБ, міністраў асветы Крыму і Украіны, Вярхоўнай Рады”.

“Сёння (2000 год. – *С. А.*) з чатырох украінскіх школаў, якія ёсць у Крыме, дзве – у памяшканнях дзіцячых садкоў”.

“Украінская школа (у Прыморскім) атрымала ад дзяржавы ўсяго... дзве скрыні крэйды”.

“Вучань 11-га класа сімферопальскай гімназіі ў інтэрв’ю крымскаму ТБ заявіў: “За эту державу я никогда не отдал бы свою жизнь, за Россию – да!”

19-20 красавіка 2001 года ў Харкаве ў межах фестывалю “Свет кнігі – 2001” Асацыяцыя ўкраінскіх пісьменнікаў правяла міжнародную літаратурую акцыю “Паэзія нумар адзін”. Ад Беларусі ў міжнародным свяце паэзіі ўзялі ўдзел паэты Алесь Аркуш (Козік) і два, якія на “-іч” – Хадановіч і Адамовіч. З музыкантаў былі Ганна і Лявон Вольскія, Зміцер Хартановіч, Сяргей Канановіч, Слава Плюшчаў ды Алег Каранькоў. Тады яны выступалі як рок-гурт “Zet”.

Памятаю, вяртаючыся цягніком з Харкава, ужывалі многа алкаголю ды смалілі ў тамбуры цыгаркі. Як заўсёды, асцярожны з алкаголем быў Аркуш і, здаецца, зусім не ўжываў Хадановіч. Больш за тое, потым гэты апошні дзесьці папікаў нас п’янствам...

Па выніках міжнароднай літаратурнай акцыі нашыя ўкраінскія таварышы выдалі зборнік тэкстаў “Паэзія №1”, які адкрываўся маім вершам “амерыканскага перыяду” “Кожнага нешта грэе...” у перакладзе на ўкраінскую Сяргея Жадана.

Не памятаю ўсіх акалічнасцяў майго знаёмства з харкаўчанінам Ігарам Бондарам-Цярэшчанкам, а ў сваіх дзённіках я пакуль гэтага моманту не адшукаў, але ў далёкім цяпер 1994-м мы з ім ужо абменьваліся сваімі творчымі набыткамі. А калі быць дакладным, дык нашае Таварыства вольных літаратараў, прэзентацыя якога для ўкраінскіх чытачоў і адбылася ў чацвёртым нумары выдаванага ў Харкаве часопіса нацыянальная інтэлігенцыі “Украінський засів”. У перакладах Васіля Баравога на ўкраінскую ў выданні былі змешчаны вершы Юры Гуменюка, Лявона Вольскага, Леры Сом, мой верш “Хларафілавы бунт” і невялікая п’еса Алеся Аркуша “Арабскае пытанне”.

І зноў не магу не прывесці некалькі актуальных цытат з артыкула Уладзіміра Камоніка “Гульня ў прыжмуркі скончылася” змешчанага ў тым жы – чацвёртым – нумары “Украінскага засіву”:

“Як і чакалася, Расея ў сваёй палітычнай гульні з Украінаю не здолела выцягнуць на агляд ніводнай новай карты. Усё тыя ж старасвецкія, вядомыя з пятроўскіх часоў, “казырныя” карты “разудалой” імперыі: сілавы ціск, грубы шантаж, пагрозы “бойняю”... (...)

У Харкаве дэмарш маскоўскіх шавіністаў знайшоў спрыяльны грунт сярод г. зв. расейскамоўнага “населенія”... (...)

...у іхнім асяродку піка папулярнасці дасягнуў тэрмін “двухмоўнасці”, які, ясная рэч, тлумачыцца на карысць расейскай. Тых жа, хто не падтрымлівае ці стараецца супраціўляцца, яны абвінавачваюць, вусна і пісьмова, у “нацыяналізме”, “фашызме” і да таго падобным”.

У такіх вось зусім неспрыяльных умовах праходзілі беларуска-ўкраінскія творчыя кантакты і проста сяброўскія ўзаеміны ў вірлівыя 90-я. Яшчэ больш значным, актуальным і проста жыццёва неабходным з’яўляецца беларуска-ўкраінскае ўзаемазеянне ў нашыя дні – цяпер, у снежні 2014 г., калі Украіна аказвае ўзброены супраціў подлай маскоўская экспансіі на ўкраінскім Данбасе...

### Эпісодыя восьмая:

*1998-ты – “аксамітны” сезон у кастрычніцка-ўкраінскай Ялце; 2012-ты – адпачынак на Азоўскім моры; 2014-ы: канец Майдану і пачатак расейска-ўкраінскай вайны; “свой”.*

У 1998-м я даволі актыўна друкаваўся ў Дубаўцовай “Нашай Ніве” і лічыўся яе няштатным карэспандэнтам з адпаведным пасведчаннем у кішэні. Здаецца, у тым жа годзе я, як незалежны журналіст, ужо быў сябрам Беларускай Асацыяцыі журналістаў (БАЖ) і ці не па накіраванні гэтага таварыства паехалі мы з небезвядомым Зміцерам Бартосікам у Ялту, на семінар па правах нацыянальных меншасцяў. У першы семінарскі дзень я бегла занатаваў у дзённіку:

“6 кастрычніка (аўторак).

Ялта, Паўднёвы Бераг. Побач нейкі Шандар з Венгрыі. Семінар па правах нацыянальных меншасцяў. На грошы ЦРУ, як кажа З. Б., з якім мы тут семінарыйствуем, седзячы ў гатэлі “Россія” Паўднёвага Берагу Крыма і слухаючы разважанні тутэйшых грамадзян журналістаў. Цёпла, нават горача. Мора сінее, параплавы, белыя чайкі... Па абедзе збіраемся з Бартосікам да Максіма Багдановіча...

7 кастрычніка (аўторак). Па абедзе сяджу на семінары. Паўднём знайшлі з Бартосікам магілу Багдановіча на цэнтральных гарадскіх могілках. Выхадзілі чатыры клады (Лівадыйскія старыя). Помнік сціплы, сінім намаляваны, зорка... Мы нічога не рабілі: выпівалі з нагоды, нават не курылі – проста адпачывалі пасля інтэнсіўных пошукаў. Проста не верылася, што наш Багдановіч так далёка ад нас...”.

У суботу, 10-га кастрычніка 1999-га, я ўжо быў у Менску, у гадзіну ночы. І з сумам узгадваў Ялту, Крым, начныя кастрычніцкія купанні ў Чорным моры і маладую жанчыну, а як жа, з якою мы так галантна танцавалі на чарнаморскім беразе пад нейкую ўжо няпомную музыку, але памяталася толькі тое, як тады было добра, і жанчына была як з 50-х, і я такі з тых самых 50-х, у доўгім зялёным паліто і шыракаполым зялёным жа капелюшы; і ўжо ў маім самотным інтэрнацкім пакойчыку ў беларускім Менску я ўспамінаў нявідную мне больш Тому з Сімферопаля, якая прыбегла мяне праводзіць, і прынесла дзве піва ды тры піражкі з бульбай-капустай; але ўсё скончылася, а я запомніў толькі Томчыны піражкі і яшчэ нейкую Алену Голуб, якая зачапіла...

“2012-ты, 19 ліпеня, чацвер. Цягнік №486, Мінск-Феадосія”. Стаім на беларуска-украінскай мяжы. Праверка дакументаў. Нашыя пашпарты правярае памежніца Таццяна Мельнік... Мы з жонкай і двума ейнымі сынамі, маімі пасынкамі, едзем у пасёлак Кірылаўка на беразе Азоўскага мора. Спадзяемся пабоўтацца ў вадаёме і загарэць. Сіноптыкі абяцаюць добрае надвор’е. пад’язджаем да ўкраінскага боку мяжы...

Вечар, 20:18. Запарожжа, апошні прыпынак перад Мелітопалем.

26 ліпеня, чацвер. Нават у адпачынку няма калі весці дзённік – заняты адпачываннем... Звадзілі дзяцей у Кірылаўскі дэльфінарый, потым я, апрануты па-святочнаму ў бялюткую вышыванку Валі Якімовічыхі, вышытую свастычнымі крыжыкамі, пайшоў у цэнтр мястэчка, шукаючы цікавай натуры і сюжэтаў, для майго чорнага вялізнага фотаапарата. Блукаў нейкі час безвынікова, пакуль не падышоў да будынка пасялковага выканкама, у якім і аддзяленне тутэйшай міліцыі. Нехта з маладзёнаў, якія таўкліся на прыступках, заўважыўшы мае маніпуляцыі з лічбавым аўтаматам, запрасіў у будынак. Запрасіў і забыўся пра мяне, а я зайшоў. У калідоры аддзелу міліцыі стандартныя для такіх стэндаў шыльды, на шыльдах нязменныя абвесткі "Іх шукае міліцыя". Здымаць не было чаго, і я выйшаў. У аднаго з маладых людзей заўважыў "макарава" у рыжай, пацёртай кабуры яшчэ савецкіх часоў, якая вытыркалася з-пад летняй кашулі навыпуск. Маладзён усміхнуўся і спытаў па-расейску, але з акцэнтам, ці не са Львова я. "Не, кажу, не са Львова, а з Менска, з Беларусі". Грамадзянін з пісталетам здзівіўся і далей не стаў распытваць...

28 ліпеня. Субота. 23:38. Апошнія дні адпачынку не спыняецца вецер з мора. На вуліцы раве музыка з розных курортных забягалавак. Візуальная прысутнасць украінскага – мінімальная, сям-там прадаюць сцяжкі жоўтага і блакітнага колераў. Каля вялікага карусельнага кола стаяць тры высачэзныя пачапы, на якіх лунаюць тры сцягі: украінскі жоўта-блакітны, сучасны расейскі трыкалор і чамусьці чырвоны савецкі сцяг з сярпом і молатам няіснага ўжо два дзясяткі гадоў СССР... Сувенірная прадукцыя скрозь па-расейску, так што калі набыць, то спадкаемцы гэтых сувеніраў будуць доўга шукаць, у якой жа краіне адпачываў іхні продак. Адна прадавачка паспрабавала растлумачыць, чаму па-расейску. Таму, маўляў, што сувенірную драбязу кітайцы робяць, а яны толькі вялікі-магучы і разумеюць...

Вечарам Алена купіла вялікую дубовую біту, не сувенірную, а цалкам рэальную. Пасля любасных шчыраванняў адбылося ганаровае ўручэнне "мужчынскай цацкі" з пажаданнем, каб ніколі не прыйшлося яе ўжываць "у мэтах самаабароны".

Дарэчы, за два тыдні, адпачынку я так і не пабачыў на людных пляжах і начных дыскатэках ні боек, ні самых прымітыўных сварак. Пры тым, што што ўсе скрозь лапаталі па-расейску, а міліцыі ў форме не было ў прынцыпе.

31-шы дзень ліпеня быў апошнім днём нашага вылежвання пад украінскім сонцам. Надвячоркам схадзілі з жонкай і пасынкам на ліман. Назбіраў жанчыне ў дарогу нейкіх сініх кветачак і тутэйшага азоўскага палыну, які так тонка-горка пахне...

1-га жніўня маршрутам "База адпачынку "Беларусь" – Кірылаўка – Мелітопаль" адбылі на Радзіму. У маім заплечніку прыемна цяжэла дубовая ўкраінская біта-булава.

На чыгуначным вакзале Мелітопаля міліцэйскія патрулі папярэджвалі сваіх вулічных гандляроў пра магчымыя праверкі. На другім баку прывакзальнай плошчы кідаўся вялізны постэр-плакат з выявай апошняга расейскага цара...

2014-ты, люты-сакавік.

Калі ў лістападзе 2013-га ў Кіеве запалаў Майдан і мае сябры па фэйсбуку пачалі горача абмяркоўваць украінскую рэвалюцыю, я абураўся і заклікаў суайчыннікаў не лезці бяздумна ў чужыя справы, а накіраваць сваю энергію на вырашэнне сваіх унутраных беларускіх пытанняў. Аднак настаў 2014-ты, у Кіеве майдан працягваў стаяць і патрабаваў сыходу ў адстаўку свайго крымінал-прэзідэнта Віктара Януковіча. Дзясяткі, калі не сотні беларусаў прынялі ўдзел у Майдане як нацыянальнай украінскай рэвалюцыі.

Цягам студзеня-лютага 2014-га ад куляў абаронцаў рэжыму Януковіча загінулі дзесяткі ўдзельнікаў кіеўскага Еўрамайдану. Загінуў і наш малады беларус, сябра

УНА-УНСО Міхал Жызнеўскі. І вось тады я мусіў змяніць сваё стаўленне да беларускай ажытацыі ўкраінскім Майданам, бо стала відавочным тое, што перамога нацыянальнай рэвалюцыі ва Украіне можа даць новы імпульс нашаму змаганню з рэжымам уласнага крамлёўскага падбрэхіча...

З другога па чацвёртага сакавіка я разам з грамадскім актывістам Макаевым і рэжысёрам-дакументалістам Вольгай Мікалайчык пры падтрымцы творчага аб'яднання "Брама-фільм" наведалі паўсталы Кіеў. Наш прыезд супаў з пачаткам анэксіі крамлёўцамі ўкраінскага Крыма. Па цэнтральных магістралях Кіева, абганяючы нашае таксі, рухаліся баявыя машыны пяхоты і бронетранспарцёры армейскай разведкі. На выездзе з Кіева выстаўляліся блок-пасты добраахвотнікаў "Правага сектару" – баявога крыла Еўрамайдану.

Нашая група адзначыла саракавіны па смерці Міхала Жызнеўскага непасрэдна на месцы страты, у самым цэнтры Кіева, дзе адбываліся крывавыя сутычкі майданаўцаў з душагубамі міліцэйскага падраздзелу "Беркут". У памінальным мітынгу і шэсці бралі ўдзел і кіеўскія сябры Жызнеўскага. У штабе Майдану нас пераконвалі, што гатовы прыняць беларусаў да ўдзелу ў барацьбе супраць расейскага экспансіяналізму.

Не думаў я, што дажыву да часу, калі можна будзе запісацца добраахвотнікам на расейска-ўкраінскую вайну...

8 кастрычніка 2014 года, на сваёй сядзібе ў Мар'інай Горцы. Надвечар пайшоў па лазовыя пруты ў кустоўе, што каля Новага рынку – на плот. З сабой прыхапіў скрутак шпагату ды сякеру.

Па дарозе заманулася мне ў крамку з нетутэйшай назваю "Ахматар". Заходжу, прыхінаю сякеру да лядоўні з півасікам ды на ўсялякі выпадак, з прысмехам у голасе, кажу прадавачцы, каб не баялася. А тая ў адказ: "А я і не баюсь. Я жэ знаю, што вы свой. Я жэ слышу, што вы всегла по-нашэму"...

І высняецца далей, што ўжо трэці год – а якраз столькі часу я жыву ў Мар'інай Горцы – чарнявая прадавачка сярэдняга веку лічыць мяне сваім земляком, украінцам! Я мужна пракаўтнуў гэтую неспадзеўку, не стаў даказваць адваротнае і выслухаў жанчыну (ой як часта трэба чалавека толькі выслухаць).

З выслуханага даведаўся, што кабета яшчэ ў 1987-м прыехала разам з мужам-ваенным сюды, у Беларусь. Муж (дарэчы, беларус) закончыў Львоўскае камандна-штабное... З таго часу яна сярод нас. Сын і дачка. Сама 1970-га года нараджэння. Радня была з Чаркашчыны...

Сёння, 9-га, я ізноў завітаў у краму і, устаўляючы дзе-нідзе ўкраінскія словы, ненавязліва пачаў гаварыць на ўчарашнюю тэму, перапыненую кліентамі... Пачуў, што дзед ейны працаваў ва ўрадзе УССР і ўжо не раз перавярнуўся ў труне з-за тых падзей, якія цяпер адбываюцца ва Украіне...

На Данбасе, дзякуй Богу, у яе нікога няма, і яна ну ніяк не разумее, як можна разбураць тое, сваё, што так цяжка будавалася іхнімі дзядамі й бацькамі...

На рэшту размовы я ўзяў бутэльку "брэст-літоўскага" малака, чакушку гарэліцы "Sobieski" і бохан слуцкага хлеба ды выйшаў, пажадаўшы зямлячцы здароўя. Перад брамай ва ўласны двор дастаў учора прыкуплены пачак тутэйшых цыгарэтаў "Фэст", уставіў адну ў зубы і з ярасцю, вартай сапраўднага курца, высмаліў яе за пяць зацяжак.

*Лістапад-снежань 2014, Беларусь, Мар'іна Горка.*

Сяргей Казак



...і сёння шматлікая беларуская эміграцыя,
раскіданая па розных канцах свету,
упарта працягвае барацьбу
за сваю дзяржаўную незалежнасць...

# «Тут ёсць і жыве Беларусь!»

## *Беларуская прысутнасць на старонках украінскіх эмігранцкіх выданняў*

***Украінцы заўсёды былі не абыякавыя да жыцця беларусаў. Старажытныя культурныя і чалавечыя сувязі звязваюць Украіну і Беларусь. Нават апынуўшыся ў эміграцыі, украінскія інтэлектуалы цікавіліся беларускімі праблемамі. У артыкуле кіеўскага даследчыка Сяргея Казака аналізуецца беларуская тэма ў эміграцыйнай газеце «Українські вісті».***

У часе Другой сусветнай вайны за межамі СССР апынуліся мільёны былых савецкіх грамадзянаў. Пераважная большасць з іх не хацела зноў вяртацца пад савецкі рэжым. Прадбачачы гэта, урад СССР яшчэ да вайны пачаў шырокую падрыхтоўку да прымусовай рэпатрыяцыі сваіх былых грамадзян. У прыватнасці, у Тэгеране (у 1943-м) і Ялце (у 1945-м) ён дамогся ад саюзнікаў адпаведных пастановаў, якія і сталі асновай прымусовай рэпатрыяцыі 1945-1946 гг. Гэта была вельмі трагічная старонка ў гісторыі эміграцыі (у прыватнасці,

*Пераклад з украінскай Валера СТРАЛКО.*


Українські вісті

1000 число

UKRAINISCHE NACHRICHTEN · UKRAINIAN NEWS

Ціна 80 пф.

ПІВТИЖНЕВИК ПОЛІТИКИ, ЕКОНОМІКИ, КУЛЬТУРИ І ГРОМАДСЬКОГО ЖИТТЯ

Рік видання XII. ч. 14 (1000) ВИХОДИТЬ у НЕДІЛЮ й ЧЕТВЕР Четвер 23. лютого 1956 р.

## Ювілей „Українських вістей“ -- 1000 чисел -- це лише частина наших осягів закордоном

### Українська з-підсовєтська еміґрація цим числом манифестує свою живучість і непослабну волю в осягненні завітної мети свого народу — відновлення Української Держави

### В дальшу путь

### ВО УНРади вітає Ювілята

З НАГОДИ 1000-ГО ЧИСЛА «УКРАЇНСЬКИХ ВІСТЕЙ» РЕДАКЦІЇ І ВИДАВНИЦТВУ ЦЬОГО ЧАСОПИСУ, ЩО ТАК ТВЕРДО СТОЇТЬ НА СТІЙЦІ УКРАЇНСЬКИХ ІНТЕРЕСІВ, СЕРДЕШНІ ПОЗДОРОВЛЕННЯ І НАЙКРАЩІ ПОБАЖАННЯ!

ЦЕНТРАЛЬНИЙ КОМІТЕТ УКРАЇНСЬКОЇ РЕВОЛЮЦІЙНО-ДЕМОКРАТИЧНОЇ ПАРТІЇ

18. лютого 1956 р.

*Тытульная старонка тыднёвіка «Українські вісті».*

украінскай і беларускай), якая, як і наогул тэма ўзаемаадносінаў палітычнай эміграцыі народаў былога СССР, да гэтага часу застаецца маладаследаванай, а значыць, і не знайшла свайго належнага асвятлення як ва Украіне, так і ў Беларусі.

Гісторыю і праблематыку як украінскай, так і беларускай эміграцыі па зразумелых прычынах вельмі актыўна даследуюць у абедзвюх краінах толькі на працягу апошніх дваццаці гадоў. Разам з тым, нягледзячы на існаванне шматлікіх працаў, якія тычацца многіх аспектаў жыцця ўкраінцаў і беларусаў у розных краінах пасля Другой сусветнай вайны, яшчэ застаецца нямала «белых плямаў». Да адной з найбольш недаследаваных належыць тэма ўзаемаадносінаў беларускай і ўкраінскай эміграцыі ўвогуле, а тэма беларускай прысутнасці на старонках украінскіх эміграцыйных выданняў, у прыватнасці.

Мэта артыкула – на прыкладзе газеты «Українські вісті» (далей – «УВ») зрабіць першыя крокі ў вывучэнні беларускай тэматыкі на старонках украінскай замежнай прэсы. Аб’ектам даследавання сталі артыкулы газеты «УВ», якая з гэтага агляду з’яўляецца найбольш рэпрэзентатыўнай, паколькі з усіх украінскіх перыядычных выданняў, заснаваных у Заходняй Еўропе пасля Другой сусветнай вайны, праіснавала найдаўжэй – аж 55 гадоў (1945, Германія – 2000, ЗША) і ўтрымлівае на сваіх старонках не толькі больш падрабязна гісторыю падзей украінскай эміграцыі, але і шэраг матэрыялаў па гісторыі і дзейнасці беларускай эміграцыі (падзеі ў жыцці беларускай грамады, імёны дзеячаў беларускай эміграцыі, агульныя ўкраінска-беларускія мерапрыемствы і г.д.) [1].

У выніку Другой сусветнай вайны сотні тысяч украінцаў і беларусаў апынуліся ў розных гарадах Заходняй Еўропы. Значная частка беларускай і ўкраінскай эміграцый была засяроджаная ў Баварыі. Там, у прыдунайскім горадзе Новы Ульм, 19 лістапада 1945 года выйшаў першы нумар газеты «Українські вісті», гісторыя якой пачалася ў «цяжкіх і найнепрыгляднейшых умовах бадзяжніцтва, без сродкаў і фінансавых магчымасцяў, толькі за кошт каласальнага напружання волі і пяра бяздомных выгнаннікаў і за кошт падтрымкі чытачоў, такіх жа выгнаннікаў» [2].

18 нумароў газеты выдадзена цыкластылявым спосабам. У сакавіку 1946 года «цыкластылявы перыяд» у гісторыі выдання скончыўся, і 4 красавіка «УВ» выйшлі друкам. Выдаўцом газеты спачатку быў Саюз украінскіх пісьменнікаў і журналістаў у Ульме, а з 46-га нумара (22 лістапада) 1946 года – Саюз украінскіх журналістаў у Ульме. У 1978-м годзе рэдакцыя газеты, якая пераадолела шматлікія цяжкасці за сваю 33-гадовую гісторыю знаходжання ў Германіі, у прыватнасці, у гады станаўлення (1945-1949), была перанесеная на амерыканскі кантынент (Дэтройт, ЗША), дзе ў той час засяродзілася асноўная частка падпісчыкаў газеты, а такім чынам, і яе матэрыяльная база.

За час 55-гадовай гісторыі газеты яе галоўнымі рэдактарамі былі дзесяць чалавек: Павел Маляр (1945-1946), Іван Баграны (1946-1947 і 1956-1962), Юры Дывныч (1948-1949), Міхаіл Васкабійнык (1949-1950), Андрэй Рамашка (Васіль

Кубрык) (1950-1954), Віталь Бендэр (1954-1956), Андрэй Глынін (1962-1974), Фёдар Гаенка (1974-1978), Міхаіл Смык (1978-1994), Сяргей Казак (1994-2000) [3].

Характэрна, што ініцыятыва стварэння газеты належала асяроддзю ўкраінцаў з усходніх і цэнтральных украінскіх земляў, колу тых ідэалагічна блізкіх людзей, якія, аб'яднаныя досведам сумеснага падсавецкага мінулага, імкнуліся да яднання і ў сучасных ім умовах палітычнай эміграцыі, у прыватнасці вакол ідэі незалежнай Украіны [4].

Да такога ж аб'яднання – вакол ідэі незалежнасці сваёй дзяржавы – імкнулася, хоць і меншая за ўкраінскую, але таксама актыўная беларуская эміграцыйная абшчына. Таму не выпадкова, што, улічваючы агульнасць інтарэсаў дзвюх эміграцый, газета «УВ» адрознівалася пастаяннай увагай да беларускай тэматыкі. Гэта пацвярджаюць, у прыватнасці, такія, знойдзеныя аўтарам гэтага артыкула матэрыялы газеты «УВ» за першыя пасляваенныя гады: «Беларусы арганізуюцца» (2 ліпеня 1950), «Беларусы ў Англіі» (28 снежня 1950), «Свята незалежнасці Беларусі» (30 сакавіка 1950), «Беларускі Дзяржаўны Цэнтр па супрацоўніцтву паняволеных Расеяй народаў» (гутарка з Прэзідэнтам Беларускай Народнай Рэспублікі Міколам Абрамчыкам) (6-9 сакавіка 1952 г.), «Прывітанне» [з угодкамі БНР] (30 сакавіка 1950 г.), «Тут ёсць і жыве Беларусь» (5 кастрычніка 1958 г.), «Неацэнныя скарбы беларускай культуры» (4 чэрвеня 1959 г.), «З жыцця беларусаў у Бельгіі» (16 красавіка 1950 г.), «Памяці Янкі Купалы» (вечар у Аўстраліі) (10 жніўня 1952 г.), «Украінска-беларускі вечар» (Аўстралія) (5 лістапада 1953 г.), «Гарыць Шыпшына» (агляд двух першых нумароў часопіса беларускай літаратуры на чужыне) (11 кастрычніка 1946 г.), «Дружба» (аб стварэнні ў Мюнхене Беларуска-Украінскага міжстудэнцкага камітэта супрацоўніцтва) (11 кастрычніка 1946 г.), паведамленне аб атрыманні выдавецкай ліцэнзіі штотыднёвікам «Беларускае слова» (Міхельсдорф, Баварыя) (13 сакавіка 1949 г.), «Брацкае прывітанне беларусам!» (віншаванні з гадавінай БНР) (31 сакавіка 1949 г.) і інш.

Гэтыя і іншыя матэрыялы розных жанраў (паведамленні, нататкі, інтэрв'ю, рэпартажы, справаздачы, рэцэнзіі, пераклады літаратурных твораў) у першыя два дзесяцігоддзі пасля Другой сусветнай вайны раскрываюць змест беларускай прысутнасці ў свеце дзякуючы асвятленню такіх падзеяў і тэмаў: гісторыя стварэння і святкавання ўгодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі, якая была прызнаная больш чым дзесяццю краінамі свету, у прыватнасці Украінскай Народнай Рэспублікай [5]; значэнне даты 25 Сакавіка 1918 года ў гісторыі беларускага народа і яе святкавання сярод беларускіх суполак у эміграцыі; гісторыя і дзейнасць Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, якая пасля падзення дзяржаўнасці апынулася ў эміграцыі, дзе працягвала сваё змаганне за незалежную Беларусь; беларускі вызваленчы рух, у прыватнасці, падчас Другой сусветнай вайны; супрацоўніцтва замежнага ўрада БНР з Украінскім Дзяржаўным Цэнтрам; жыццё Беларускай аўтакефальнай і Беларускай рыма-каталіцкай цэркваў; плынь арганізаванага беларускага быцця спачатку ў Германіі, а затым – за акіянам; маладзёжны беларускі рух па-за Беларуссю; стварэнне Беларуска-Украінскага міжстудэнцкага камітэта (БУМК) і іншыя.

Змест значнай часткі гэтых матэрыялаў «УВ» паказвае на палітычную сутнасць беларускай эміграцыі, у прыватнасці, адзначаючы, што «і сёння шматлікая беларуская эміграцыя, раскіданая па розных канцах свету, упарта працягвае барацьбу за сваю дзяржаўную незалежнасць, усебакова развіваючы, зараз ужо ў эміграцыйных умовах, сваё грамадскае, палітычнае і культурна-мастацкае жыццё» [6]. Працяг гэтай тэмы знаходзім і ў артыкуле аб Другім з'ездзе беларусаў Канады. Характэрна, што гэтая падзея адбылася ў памяшканні Украінскага народнага дома і разгледзела такія важныя пытанні жыцця беларускай абшчыны ў Паўночнай Амерыцы, як «Сітуацыя беларусаў у Канадзе» і «Вызваленчы рух Беларусі». Падсумоўваючы працу з'езда, арганізаванага беларусамі Канады, украінская газета

адзначала, што мерапрыемствы беларускай эміграцыі сведчылі, што абшчына гэтая «салідарызавалася з народам сваёй краіны за вызваленне» [7].

Газета ўкраінскай эміграцыі сістэматычна друкавала прывітанні і звароты ў адрас беларускага народа з нагоды гадавін БНР накшталт гэтага: «Рэдакцыя «Українських вістей» сардэчна віншуе брацкі беларускі народ, які ў гэты дзень святкуе гадавіну сваёй дзяржаўнай незалежнасці. Няхай жыве Вольная і Незалежная Дзяржава Вольнага беларускага народа» [8].

Каштоўныя падрабязнасці пра існаванне беларускай палітычнай эміграцыі дадаюць нам у прыватнасці матэрыялы аб стварэнні Беларускага міжпартыйнага каардынацыйнага камітэта, які аб'яднаў Сялянска-рабочую партыю вызвалення Беларусі, Беларускую незалежніцкую партыю, Беларускую народную партыю і Беларускую сялянскую суполку. Адначасова ў адным з паведамленняў «УВ» аналізуюць уступленне Украіны і Беларусі ў члены ААН як «з пункту гледжання знешнепалітычнага прававога значэння гэтага факту, так і асабліва з пункту гледжання вызначэння сапраўдных прычынаў, якія прымусілі СССР пайсці на гэты цяжкі для яго крок», падкрэсліваючы, што «супярэчлівае гістарычнае развіццё» вылучыла Украіну і Беларусь на міжнародную арэну як асобныя нацыі, як асобныя дзяржавы, «сталі побач тэарэтычна і юрыдычна роўных сабе 50-ці краін свету». Украінскае выданне інфармуе і аб сустрэчы прэзідэнта ЗША Р. Ніксана з беларускімі патрыётамі, што таксама сведчыць пра тое месца, якое займала беларуская грамада ў ЗША ў той час.

Паказальнай адносна «беларускай тэмы» на старонках «УВ» стаў артыкул «Тут ёсць і жыве Беларусь» (5 кастрычніка 1958 г.), які ахоплівае такія тэматычныя блокі: аповед пра III канвенцыю беларусаў Паўночнай Амерыкі, пасвячэнне кафедральнага сабора і беларускага народнага дома ў Нью-Ёрку, гадавы з'езд беларускай моладзі, веча пратэсту супраць прыгнёту Беларусі. Аўтар гэтага артыкула вядомы ўкраінскі публіцыст Міхаіл Васкабійнык, у прыватнасці, адзначае, што «пасляваенная», «новая» беларуская эміграцыя, якая прайшла праз пакутніцкі шлях падсавецкага жыцця, праз войны і праз чысткі беларускіх нацыянальных прыкметаў, ведае сапраўдную цану арганізаванаму беларускаму нацыянальнаму жыццю. Яна стварыла тут паўсюль свае нацыянальныя ячэйкі, сваю нацыянальную Царкву, навуковыя і маладзёжныя арганізацыі, свае мастацкія гурткі, свае паважаныя пазіцыі ў міжнацыянальных установах і арганізацыях».

Аб увазе ўкраінскай газеты да беларускага жыцця ў эміграцыі і да фактаў беларускай гісторыі сведчыць таксама матэрыял «Брацкае прывітанне беларусам» (3 красавіка 1949 г.). Так, віншуючы з 31-й гадавінай абвяшчэння Беларусі вольнай і незалежнай дзяржавай, рэдакцыя «УВ» выказала «ўсім беларусам і іх палітычным і грамадскім арганізацыям брацкія пажаданні мужна і нястомна крочыць шляхам канчатковага завяршэння гістарычных рашэнняў, вынесеных Радай БНР 25 сакавіка 1918 г. у сваёй нацыянальнай сталіцы Менску», і далей аўтар украінскага выдання выказвае веру, «што ахвяры, шчодра складзеныя беларускім народам на алтар сваёй радзімы, не прападуць дарма» і «ў вялікай агульнай барацьбе за нацыянальныя дзяржавы атрымаюць новыя велічныя перамогі».

Дзякуючы матэрыялам «УВ» на беларускую тэматыку, акрамя ўжо згаданых, мы можам атрымаць сёння звесткі аб такіх падзеях у грамадска-палітычным, рэлігійным і культурным жыцці беларусаў у розных краінах свету пасля Другой сусветнай вайны: гісторыю стварэння прыходаў Беларускай аўтакефальнай царквы (у прыватнасці, у Дэтройце, Кліўлендзе, Нью-Бронсвіку, Нью-Ёрку, Чыкага і іншых гарадах), адкрыццё ў Брадфордзе (Англія) Беларускай рымска-каталіцкай парафіі, да якой, паводле інфармацыі ўкраінскай газеты, належалі «беларускія ваенныя эмігранты»; заснаванне беларускай каталіцкай студэнцкай арганізацыі «Руна» ў Лондане, якая займалася «брацкай дапамогай каталіцкім студэнтам беларускай нацыянальнасці ў Англіі»; украінска-беларускі вечар у аўстралійскім Мельбурне.

Дарэчы, пра гэтую падзею, якая адбылася 17 кастрычніка 1959 года на аўстралійскім кантыненце, украінскае эміграцыйнае выданне інфармуе асабліва падрабязна. Бо гэта быў «першы ўкраінска-беларускі вечар дружбы», на якім падкрэслена «важнае значэнне супрацоўніцтва двух братніх народаў, што іх аб'ядноўвае адна мэта – вызваленне Украіны і Беларусі ад прыгнёту маскоўскіх імперыялістаў-недзялімцаў». У слове перад шматлікімі прысутнымі Старшыня беларускай суполкі ў Мельбурне спадар Скабей на «гістарычных фактах даказаў вагу адзінства нашых народаў у барацьбе супраць захопнікаў». Удзельнікі вечара, у прыватнасці, успаміналі аб сустрэчах беларусаў і ўкраінцаў на катаржных работах па будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала [9].

У цэлым матэрыялы беларускай тэматыкі ў газеце «УВ» можна класіфікаваць па наступных асноўных групах: 1) Матэрыялы пра *беларускія замежныя арганізацыі*: Беларуская Нацыянальная Рада, беларускія палітычныя партыі, Беларускі Інстытут навукі і мастацтва, Навуковае таварыства імя Францішка Скарыны, беларускія суботнія школы для дзяцей, Студэнцкае аб'яднанне, Саюз беларускай моладзі, мастацкія гурткі і ансамблі песні і танца (Кліўленд, Нью-Ёрк, Дэтройт і да т.п.); 2) Матэрыялы, якія змяшчаюць звесткі пра *асобы, так бы мовіць, «персанальны склад»* беларускай эміграцыі: рэдактар газеты «Беларускі эмігрант» К. Акула, праф. В. Жук-Грышкевіч, кіраўнік танцавальнага беларускага ансамбля Валянціна Пашкевіч, спявак Павел Чопчыц, вядомая дэкламатарка Раіса Жураўская, святар Г. Матуліс, прэзідэнт БНР Мікалай Абрамчык, прадстаўнік Беларускай Нацыянальнай Рады Чабатарэвіч, прафесар, аўтар англамоўнай фундаментальнай працы па гісторыі беларускай літаратуры савецкага перыяду Антон Адамовіч, старшыня Саюза беларусаў у Бельгіі Янка Жытко, кіраўнік беларускага хору ў Бельгіі Цвірко і інш.; 3) Матэрыялы, якія змяшчаюць *звесткі пра беларускія замежныя часопісы і радыёпраграмы* «Бацькаўшчына» (орган БНР), беларуская рэдакцыя радыё «Вызваленне» (пасля – «Свабода»), «Беларускае слова» (Міхельсдорф, Баварыя), «Беларускі эмігрант» (Канада), «Апошнія Звесткі» (Англія), часопіс беларускай секцыі пры Інстытуце саветазнаўства ў ЗША, літаратурны часопіс «Шыпшына» і да т.п.).

Са старонак украінскай газеты можам даведацца і пра тое, што беларуская замежная прэса таксама сістэматычна друкавала матэрыялы на ўкраінскую тэматыку. Пацвярджэннем гэтага з'яўляецца, у прыватнасці, перадрукоўка ў нумары 16 ад 1 сакавіка 1956 года інфармацыі з беларускага эміграцыйнага часопіса «Бацькаўшчына», які адзначыў юбілейны нумар «УВ» такой нататкай: «19 лютага 1956 года выходзіць тысячны нумар вядомай украінскай газеты «Українські вісті», якая з'яўляецца ў Германіі двойчы на тыдзень. Выданне тысячнага нумара газеты нават на радзіме, ва ўмовах заняволенага народа, з'яўляецца немалым дасягненнем, а ва ўмовах эміграцыйных – гэта факт першараднай важнасці».

Прысутнасць беларускай тэмы прасочваецца на працягу ўсяго існавання газеты «УВ» і асабліва ў першыя два дзесяцігоддзі пасля вайны. Даволі шырокая і геаграфія гарадоў і мясцовасцяў беларускіх падзеяў, пра якія распавядаюць матэрыялы «УВ»: гаворка ідзе пра жыццё беларусаў мінімум у пяці краінах (Аўстраліі, Бельгіі, Германіі, Канадзе і ЗША) на трох кантынентах. У прыватнасці, выданне утрымлівае паведамленні аб грамадска-палітычнай і культурнай актыўнасці беларусаў у такіх гарадах як Дэтройт, Кліўленд, Лондан, Мельбурн, Нью-Бронсвік, Нью-Ёрк, Таронта, Чыкага і г.д.

Асаблівае месца займаюць матэрыялы, якія паказваюць глыбіню культурных узаемаадносінаў украінскага і беларускага народаў. Сярод іншых матэрыялаў на гэтую тэму прыцягвае ўвагу аповед пра манументальную працу «Люд беларускі» Міхаіла Федароўскага, пяты том якой выйшаў у Варшаве ў 1958 г. (на прыкладзе тэкстаў гэтай працы, у прыватнасці, даследавана тэма ўзаемаўплываў ва ўкраінскім і

беларускім фальклоры). Сістэматычна «УВ» друкуюць мастацкія творы беларускіх пісьменнікаў у перакладзе на ўкраінскую. Прычым тычыцца гэта твораў як тых аўтараў, якія знаходзіліся на чужыне (у прыватнасці, паэта Масея Сяднёва ў перакладзе Леаніда Палтавы), так і беларускіх пісьменнікаў-класікаў (Янкі Купалы, Максіма Багдановіча і інш.).

Як бачым, тэматычны спектр беларускага жыцця ў эміграцыйным выданні «УВ» досыць шырокі. Гаворка ідзе пра матэрыялы грамадска-палітычнай, рэлігійнай і культурніцкай праблематыкі, якія раскрываюць шэраг малавядомых і зусім невядомых падзеяў і фактаў і такім чынам служаць крыніцай для цэласнага вывучэння як беларускай праблематыкі, так і ўзаемаадносінаў усяе падсавецкай эміграцыі. Знаходжанне на чужыне стала агульным лёсам для эмігрантаў – выхадцаў з былога Савецкага Саюза, у прыватнасці, для ўкраінцаў і беларусаў. Гэтыя «знакі агульнага лёсу», ярка акрэсленыя ў газеце «УВ», у прыватнасці, на прыкладзе газетных матэрыялаў беларускай тэматыкі, якія мы разгледзелі, сведчаць і пра адзінства «агульнага фронту палітычнай эміграцыі народаў былога Саюза па барацьбе за сваю незалежнасць і самавызначэнне народаў, сусветнае права жыць незалежнымі краінамі ў прыязнасці і дружбе» [10]. Такі аналіз патрэбен нам не толькі з пункту гледжання больш поўнага вывучэння гісторыка-культурнага кантэксту ў адносінах украінцаў і беларусаў, але і для таго, каб з улікам досведу супрацоўніцтва двух эміграцый выбудаваць фармат цывілізаваных адносінаў паміж нашымі народамі ў сучасных умовах. Апошнія падзеі ва Усходняй Еўропе толькі пацвярджаюць актуальнасць і надзённасць такой задачы.

Асаблівасці існавання беларускай грамады ў свеце, падрабязнасці гісторыі стварэння беларускіх грамадска-палітычных арганізацый, цэркваў, часопісаў, перадумовы іх з'яўлення, імёны актыўных дзеячаў беларускай эміграцыі (дыяспары) і звесткі пра іх, хроніка падзеяў беларускага жыцця ў свеце, гісторыя беларускага маладзёжнага руху на чужыне – гэтыя і іншыя важныя падрабязнасці на старонках украінскага эміграцыйнага выдання раскрываюць нам складнікі таго, выпрабаванага на беларускую нацыянальную моц часам і абставінамі падмурка, дзякуючы якому беларуская эміграцыя таксама паказала прыклад самаарганізацыі ў складаных умовах пасляваеннага часу – той прыклад, які з'яўляецца вельмі актуальным і цяпер, калі ўлічваць праблемы станаўлення грамадзянскіх таварыстваў як у Беларусі, так і ва Украіне.

Бібліяграфія:

1. «Українські вісті» в Європі й Америці (1945-2000) : бібліогр. покажч. змісту газ. «Українські вісті»: у 2 т. / упоряд. С. Козак. – К. : Літературна Україна, Ярославів Вал, 2010 . – Т. 1: 194501967. – 2010. – 592 с.; Т. 2: 1968-2000. – 2010. – 558 с.

2. Багряний Іван. *Великий іспит* // Українські вісті. – 1950. – 14 трав.

3. Українська еміграція: Сторінками газети «Українські вісті» / упоряд. С. Козак. – К.: Літ. Україна, 2014. – 474 с.

4. Преса УРДП та її працівники / [О. Коновал, А. Глинін], підп. : О. К., А. Г. // Українська революційно-демократична партія (УРДП-УДРП) : зб. матер. і докум. / упоряд. О. Коновал. – Чикаго-Київ : Фундація ім. Івана Багряного, 1997. – С. 209-213.

5. Лебедзева В. *Дыпламатычная Місія БНР у перамовах з Украінай (1918 р.)* – kamunikat.fontel.net/www/czasopisy/bzh/15/15art_lebiedzieva.htm // Беларускі Гістарычны Зборнік. № 15. Беласток, 1999.

6. Свято незалежності Білорусі // Українські вісті. – 1950. – 30 берез.

7. Білоруси організовуються // Українські вісті. – 1950. – 2 липн.

8. Привітання // Українські вісті. – 1950. – 30 берез.

9. Українсько-білоруський вечір // Українські вісті. – 1953. – 5 листоп.

10. Воскобійник Михайло. *Тут йость і живе Бєларусь!* // Українські вісті. – 1958. – 5 жовт.

*г. Кіеў*

Ірына Шаўлякова



...ніколі не бярэ ў рукі кнігу –

траціна насельніцтва...

# Любіць Зеўса: сацыялогія літаратуры як "прываротная сіла"

Кожны першы беларус, які лічыць сябе культурным чалавекам, з усіх відаў мастацтва найлепш разбіраецца ў літаратуры. У сучаснай беларускай – пагатоў.

Усё проста: найноўшая беларуская літаратура з сярэдзіны 1990-х гадоў перажывае рэпутацыйны крызіс, які ў інфармацыйнай прасторы сярэдзіны 2010-х толькі умацоўваецца праз тыражаванне набору сацыякультурных стэрэатыпаў. Абмежаванасць складнікаў гэтага набору ("яна панылая – вясковa-ваенная", "яна ніякая", "яе няма") дазваляе любому культурнаму чалавеку пры неабходнасці (напрыклад, падчас апытанняў, якія ладзяцца медыямі на вуліцах) упэўнена выказаць экспертнае меркаванне пра сучаснасць і нават будучыню роднай мастацкай славеснасці.

Гатоўнасць простага культурнага чалавека быць экспертам па ўсім на свеце пры чынным удзеле сучасных медыя афармляецца ў стратэгію спажывання культуры. Вонкава гэта стратэгія разгортваецца па сцэнарыі "кожны суслік у полі аграном"; сутнасна яна выкарыстоўвае механізмы міфалагічнага мыслення.

Строга кажучы, самая дзейсная зброя супраць міфа – іншы міф, толькі міф гэты мусіць быць добра спраектаваны і належным чынам выбудаваны.

Аматараў разважаць пра тое, як беларуская літаратура дайшла да такога стану, сёння нашмат больш, чым ахвочых гаварыць пра тое, "што трэба рабіць, каб сучасную беларускую літаратуру лепш ведалі і больш любілі чытачы?" *(*пра тое пытаўся А. Бадак на старонках "Полымя"*)*. Дык вось адзін з канкрэтных адказаў на гэтае пытанне, на нашую думку, варта адшукаць у прасторы сацыялогіі літаратуры.

*

Стан сацыялогіі літаратуры як сферы гуманітарнага доследу напачатку XXI стагоддзя можна вызначыць як стан задоўжанай легітымацыі, своеасаблівага тэарэтычнага станаўлення і практычнага ўсталёўвання. Гэта тычыцца не толькі беларускага гуманітарнага дыскурсу, але сацыялагічных даследаванняў літаратуры наогул.

У межах еўрапейскай традыцыі даследчыкі адрозніваюць *"«літаратурную сацыялогію» як частку літаратуразнаўства, што займаецца непасрэдна літаратурным тэкстам з сацыялагічнага пункта гледжання, і «сацыялогію літаратуры» як частку сацыялогіі, што выкарыстоўвае сацыялагічныя метады пры вывучэнні кніжнага рынку, распаўсюджвання літаратуры, поспеху ў публікі"* (Чарноўская М.С.). У абсягах амерыканскай традыцыі цікавасць да эмпірычнага аналізу пераважвае цікавасць да тэарэтычных штудый: вывучаюцца адпаведныя *"арганізацыі і рынкі, а таксама густы, перавагі і чытацкія практыкі ў пэўных сацыяльных групах"* (Дубін Б. В.). Аднак незалежна ад таго, трактуецца сацыялогія літаратуры як цалкам самастойная сфера доследаў, як частка ўласна сацыялогіі ці як гібрыдны феномен, што паўстае на скрыжаванні сацыялогіі і літаратуразнаўства, звычайна вылучаюцца тры асноўныя вектары даследчых інтарэсаў:

– літаратура як аб'ект уласна літаратурнай вытворчасці (аспект тэкстатворчасці),

– літаратура як аб'ект спажывання (сацыяльна-эканамічны кантэкст),

– вывучэнне чытацкіх практык (чытання як эстэтычнага і камунікатыўнага феномена).

Перспектывы беларускага прыгожага пісьменства ў сувязі з тэндэнцыямі развіцця інфармацыйнага (постіндустрыяльнага) грамадства абмяркоўваюцца ў беларускай літаратурнай прасторы з пачатку 2000-х гг.

Асноўныя праблемы, на якія ў апошняе дзесяцігоддзе скіравана ўвага літаратурнай і калялітаратурнай грамадскасці (пісьменнікаў, крытыкаў, журналістаў, выдаўцоў, чытачоў-блогераў), а таксама даследчыцкай супольнасці (літаратуразнаўцаў, філосафаў, сацыёлагаў, гісторыкаў, культуролагаў), можна ўмоўна згрупаваць у тры блокі:

– зніжэнне інтарэсу да беларускай літаратуры з боку чытацкай аўдыторыі,

– вызначэнне крытэрыяў, паводле якіх можна адрозніць літаратуру высокамастацкую ад масавай (так званага масліту),

– несфарміраванасць інфраструктуры, якая здолела б забяспечыць эфектыўнае функцыянаванне і развіццё сучаснай беларускай літаратуры як своеасаблівай сацыякультурнай вытворчасці (адсутнасць інстытута літаратурных агентаў, адпаведных маркетынгавых стратэгій, дзейсных механізмаў папулярызацыі найноўшай мастацкай славеснасці і г.д.).

Згаданыя абмеркаванні доўгі час мелі характар стыхійных унутрылітаратурных дыскусій і ў сярэдзіне 2010-х гадоў вызначаюцца герметычнасцю.

*

Вядомы расійскі літаратуразнаўца, сацыёлаг, перакладчык Барыс Дубін (1946-2014) меркаваў, што *"сучасная культура, у тым ліку літаратура, – у перманентным «крызісе», гэта плата за адсутнасць анталагічных «каранёў», у*

*пэўным сэнсе – за суб'ектыўнасць як за асноватворны кампанент культуры. Тут варта лепш гаварыць не пра крызіс, але аб праблематычнасці".*

Нельга сказаць, што сістэмны тэарэтычны пошук у галіне беларускай сацыялогіі літаратуры ў постсавецкі час згарнуўся: ён проста не разгортваўся як самастойная сфера доследу. У айчынны дыскурс праблематыка сацыялагічных доследаў літаратуры экспартавалася з еўрапейскай традыцыі еўрапейскімі даследчыкамі. Так, найбольш паслядоўныя захады па знаёмстве беларускай выкладчыцкай і студэнцкай супольнасці з працамі вядомага французскага сацыёлага Поля Бурдзьё (1930-2002) і асабліва з яго канцэпцыяй "поля літаратуры" звязаны з лекцыйнай і навуковай дзейнасцю прафесара Ольдэнбургскага ўніверсітэта імя Карла фон Асецкі (Германія) Гун-Брыт Колер.

Перспектывы разгортвання арыгінальных (уласна беларускіх) тэарэтычных доследаў праблематыкі сацыялогіі літаратуры, на наш погляд, звязаныя з вырашэннем надзённых (у нечым нават прагматычных, утылітарных) задач, якія ставіць перад нацыянальным мастацтвам слова сама неабходнасць (вы)жыць у інфармацыйным грамадстве. Дазволім сабе падаць гэтыя задачы ў выглядзе анатаванага пераліку найбольш прадуктыўных, як нам падаецца, напрамкаў пошуку.

1. Беларуская літаратура XXI стагоддзя як сацыяльны факт. Сацыяльная экспертыза літаратурна-мастацкіх тэкстаў (мэтавая скіраванасць, удзельнікі, механізмы і працэдуры арганізацыі, інструменты ацэнкі, індыкатары (крытэрыі) якасці, перспектывы выкарыстання вынікаў і г.д.).

2. Чытач як галоўны інтэрпрэтатар і спажывец сучаснай беларускай літаратуры: мадэльныя доследы ў адзінстве апісання сацыякультурных характарыстык і мастацка-эстэтычных інтарэсаў (беларускі чытач і чытач беларускай літаратуры; "мэтавая" і "рэальная" чытацкая аўдыторыя беларускай літаратуры (класічнай і сучаснай) і інш.).

3. Сацыяльнае быццё літаратурных жанраў: вывучэнне жанравай дынамікі сучаснай беларускай літаратуры ў аспекце ўзаемадзеяння сацыялагічнага (уплыў фактараў сацыяльнага, культурнага, эканамічнага, палітычнага кшталту) і ўласналітаратурнага развіцця.

4. Сацыяльная фенаменалогія масавай беларускай літаратуры (праблематыка "адсутнага феномена", спецыфіка сацыяльнага тэмпераменту сучасных беларускіх пісьменнікаў розных пакаленняў як умова (не)ўзнікнення беларускага масліту і г. д.).

5. "Адукацыйнае вымярэнне" нацыянальнай літаратуры: суадносіны нацыянальнай класікі і сучаснага літаратурнага канону, школьны "пантэон" класічных і сучасных аўтараў (твораў), літаратурная самаадукацыя дарослых у Беларусі: стан і перспектывы.

6. Сацыялогія літаратурнага поспеху: беларускі кантэкст (актуальнасць праблематыкі бестселера, камерцыйнага поспеху для найноўшай беларускай літаратурнай прасторы; партрэт паспяховага аўтара і г.д.).

Сярод асноўных трэндаў развіцця сучаснай сацыялогіі літаратуры (у іх ліку сацыялогія літаратурнай вытворчасці, сацыялогія літаратурнага поля, сацыялогія рэцэпцыі, сацыялогія аўтарскага права і інш.) найбольш актуальным для беларускага дыскурсу з'яўляецца сацыялагічнае вывучэнне рэцэпцыі (успрымання) нацыянальнай літаратуры айчынным чытачом.

Надзвычай каштоўным з'яўляецца, на нашую думку, вопыт вывучэння сацыяльнага жыцця літаратурных жанраў. Асаблівую ўвагу замежных даследчыкаў у гэтым сэнсе прыцягвае раман – і як рынкавы прадукт, і як сацыяльны факт. Так, у працах Б. Дубіна аналіз сацыялагічнай паэтыкі расійскага рамана-баевіка, вопыт сацыялагічнага прачытання расійскіх гісторыка-патрыятычных раманаў 1990-х гадоў падсумоўваюцца высновамі сацыяльна-эканамічнага, гісторыка-культурнага, грамадска-палітычнага кшталту. Шэраг метадалагічных ідэй і канцэптуальных высноў Б. Дубіна выводзяць нас на нераспрацаваны пакуль сегмент даследаванняў,

дзе саюз беларускага літаратуразнаўства з сацыялогіяй літаратуры мог бы быць найбольш плённым: ідэалогія жанра як антрапалогія літаратуры.

Яшчэ адзін кірунак развіцця айчыннай сацыялогіі літаратуры можа быць звязаны з актыўным выкарыстаннем вынікаў сацыялагічных доследаў для вырашэння праблем літаратурнай адукацыі. У іх шэрагу адно з цэнтральных месцаў сёння належыць праблеме адбору зместу адукацыі (мастацкіх твораў, іншых тэкстаў, прызначаных для чытання, вывучэння, абмеркавання і г.д.).

У 1980-х – 1990-х гадах у амерыканскім акадэмічным асяродку разгарнулася сапраўдная *"культурная вайна за канон"* (Гронас. М.). У дачыненні да літаратуразнаўчай праблематыкі ключавое пытанне артыкулявалася наступным чынам: якім павінен быць спіс для абавязковага чытання ў вышэйшай школе? У гэтым кантэксце паняцце літаратурнай "класікі" выцясняецца паняццем "канона", які і яго абаронцы, і праціўнікі разумеюць як *"цэльны наратыў, што* ўяўляе нейкі абагулены дамінуючы светапогляд, сістэму каштоўнасцей – адрозніваюцца пра гэтым толькі ацэнкі" (Гронас, М.). Апанентаў хваляваў перадусім практычны эфект ад перагляду ўніверсітэцкіх праграмаў, прычым *"мітусня вакол спісаў абавязковага чытання і часопісныя войны абудзілі цікавасць да тэарэтычных аспектаў утварэння і функцыянавання канонаў / класікі... Так з'явілася новая дысцыпліна – Canon Theory"* (Гронас. М.).

У сацыякультурнай прасторы Беларусі 2000-х і асабліва 2010-х гадоў увага не толькі даследчыцкай, педагагічнай супольнасцей, але і грамадскасці (бацькоўскай, журналісцкай, пісьменніцкай, блогерскай) канцэнтруецца перадусім на змесце школьнай літаратурнай адукацыі. Ключавое пытанне ў нас гучыць наступным чынам: якія творы варта сёння вывучаць беларускім школьнікам? Зрэшты, грамадскія дыскусіі падобнага кшталту, як правіла, разгортваюцца як "вытворчасць пытанняў". Хаця на іх матэрыяле можна праводзіць рознаўзроўневы аналіз (у тым ліку сацыялагічны), яны амаль ніколі не падсумоўваюцца сістэмнымі адказамі альбо рашэннямі.

Для нацыянальнай літаратурнай адукацыі надзвычай цікавымі, на наш погляд, могуць аказацца напрацоўкі прадстаўнікоў аксіялагічнага кірунку, што сфармаваўся ў межах згаданай тэорыі канону. Напрыклад, Ч. Альціеры прапануе разглядаць канон як "культурную граматыку, матрыцу этычных альтэрнатыў", што спрыяе выпрацоўцы каштоўнасцей і арыентацыі сярод каштоўнасных сістэм, якія супернічаюць: *"Крытэрый кананічнасці твора – адпаведнасць двум асноўным функцыям канона: навучальнай і нарматыўнай. Канон навучае ці нават трэніруе, прадстаўляючы адмысловы этычны палігон, спектр учынкаў і наступстваў, магчымасцей выбару"* (Гронас. М.). Менавіта спалучэнне этычнага і эстэтычнага падыходаў да разумення канона ў працах "аксіялагістаў" (В. Немаяну, Ч. Альціеры, А. Кука, Г. Блума, Э. Гомбрыха) магло б быць карысным падчас асэнсавання шляхоў развіцця беларускай літаратурнай адукацыі ў сітуацыі выспявання сур'ёзных сацыякультурных зрухаў. Адначасова і для літаратуразнаўчых доследаў немалую цікавасць могуць уяўляць вынікі сацыялагічных даследаванняў, якія выяўляюць складаную залежнасць сацыяльнай структуры літаратуры ад рэформ у адукацыі (Гудкоў. Л.).

*

Практычны вопыт у галіне сацыялогіі літаратуры ў беларускай гуманітарнай прасторы 2000-х гадоў назапашваўся дзякуючы ініцыятыўным праектам, скіраваным пераважна на вывучэнне чытацкіх інтарэсаў (тэматычных, жанравых, моўных) альбо карыстальніцкіх прыярытэтаў (зварот да друкаваных, электронных, аўдыякніг). Прычым ажыццяўляліся падобныя даследаванні найчасцей або ў межах дзейнасці бібліятэк, альбо ў кантэксце "стыхійнай медыясацыялогіі". У другім выпадку размова ідзе пра інтэрнэт-апытанні, тэле- ці (радзей) радыёінтэрв'ю. Падобныя акцыі, як правіла, кароткатэрміновыя, лакальныя у аспекце мэт, найпрасцейшыя у сэнсе інструментарыя, просталінейныя ў плане аналізу вынікаў.

Іншы падыход рэалізуецца ў даследаваннях, якія праводзіліся лабараторыяй

аксіяметрычных даследаванняў “Новак” па замовах грамадскага аб’яднання “Саюз беларускіх пісьменнікаў”, кампаніі “Будзьма беларусамі!” Так, у 2011 годзе (напярэдадні Года кнігі) даследаваліся колькасныя і якасныя (тэматычныя, жанравыя) аспекты чытання беларусаў; у чэрвені 2014 года ажыццяўлялася даследаванне практыкі чытання і літаратурных зацікаўленасцяў беларусаў. На падставе даступных звестак пра метады даследаванняў, выбаркі, на якіх яны праводзяцца, спосабы прадстаўлення вынікаў і інш. можна меркаваць, што згаданыя доследы застаюцца ці не адзінкавымі прыкладамі ўласна сацыялагічнага вывучэння чытацкіх практык у найноўшай сацыякультурнай прасторы Беларусі. Адпаведна, уяўленне пра дынаміку асобных працэсаў, што вызначаюць спецыфіку “літаратурнага поля” пачатку XXI стагоддзя, можна скласці толькі на падставе гэтых жа адзінкавых праектаў.

Напрыклад, паводле апытання 2011 года *“ніколі не бярэ ў рукі кнігу – траціна насельніцтва* (вылучана намі. – *І. Ш.*) (33,7%)” (электронны рэсурс: “Заўтра тваёй краіны”). У межах даследавання культуры чытання ў 2014 годзе метадам тэлефоннага інтэрв’ю ЛАД “Новак” апытала  “1000 рэспандэнтаў розных узростаў і з розных рэгіёнаў пражывання. Выявілася, што мастацкую літаратуру адзін раз у месяц чытаюць каля 57,9% беларусаў. *Колькасць рэспандэнтаў, якія ў прынцыпе не чытаюць кніг – ні мастацкіх, ні навукова-папулярных ці дакументальных, – складае каля 19%* (вылучана намі. – *І. Ш.*)”. Пры гэтым на пытанне пра мову, на якой рэспандэнты чытаюць мастацкую літаратуру, 99,4% апытаных назвалі рускую, 27,7% – рускую і беларускую мовы; на пытанне “Літаратуры на якой мове Вы аддаяце перавагу?” 93,7% адказалі “На рускай”, 5% – “На беларускай мове”. Што тычыцца жанравых трэндаў, то “калі ў 2011 годзе апытаныя сярод жанраў выбіралі найбольш дэтэктывы, жаночыя раманы і фантастыку, то ў 2014 годзе папулярнасць набірае класічная літаратура і кнігі па гісторыі”. Варта звярнуць увагу на тое, што для абмеркавання вынікаў гэтага сацыялагічнага даследавання ў кастрычніку 2014 г. былі запрошаныя прадстаўнікі розных інстытуцыянальных структур – “суб’ектаў”, дзейнасцю якіх цікавіцца сацыялогія літаратуры (*“У мерапрыемстве ўзялі ўдзел прадстаўнікі Нацыянальнага інстытута адукацыі, ААТ “Белкніга”, Інстытута журналістыкі БДУ, пісьменнікі, выдаўцы і грамадскія дзеячы”).*

У іншых краінах на постсавецкай прасторы праекты па вывучэнні чытацкіх практык ладзяцца больш сістэмна. Напрыклад, дзякуючы апытанням Усерасійскага цэнтра вывучэння грамадскага меркавання (ВЦИОМ) ёсць магчымасць прасачыць колькасныя змены ў чытанні кніг за апошнія дваццаць год, з 1992-га да 2011-га: так, колькасныя змены ў структуры дарослага чытання складаюць 5,4 кніг у месяц (у 1990-х гадах) супраць 3,9 кніг (у 2011 годзе). Па выніках даследавання дзіцячага чытання, праведзенага Расійскай акадэміяй адукацыі, у параўнанні з 1970-мі гадамі сучасныя дзеці чытаюць у 4 разы менш.

Такім чынам, перспектывы практычнай сацыялогіі літаратуры ў беларускай прасторы, на наш погляд, звязаны з ажыццяўленнем не толькі сістэмных эмпірычных доследаў, але і доўгатэрміновых нацыянальных праграм, скіраваных на падтрымку літаратуры як сацыяльнага феномена.

*

Нашая спроба адказаць на пытанне пра найкарацейшы шлях беларускай літаратуры да сэрца роднага чытача наўрад ці задаволіць простага культурнага эксперта. Для спецыяліста па “ўсім” падобны шлях бесперспектыўны, бо не дае шанцаў разважаць пра ўсё, пры гэтым ні ўва што не заглыбляючыся.

Зрэшты, мы можам з дапамогай Арыстоцеля прапанаваць больш лаканічны адказ на пытанне “што трэба рабіць, каб сучасную беларускую літаратуру лепш ведалі і больш любілі чытачы?”: “Дзіўна было б, калі б нехта любіў Зеўса” *(Маўляў, вас не будзе, а ён быў, ёсць, будзе пан-гаспадар па-над усім, хоць вы яго любіце, хоць не любіце).*

Леанід Галубовіч



...гэтая "чорная" проза небеспадстаўна змушае чытача суперажываць (спачуваць, любіць) жыццё нават у яго такіх негатыўных, а падчас і гідлівых праявах....

# Сляды ў сумётах

***Рэцэнзія на кнігу Таццяны Барысік***

***Таццяна Барысік. Жанчына і леапард. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 132 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 56).***

*І засумуецца патомак,*
*Калі дазнаецца аб нас,*
*Што нейкі з нас, хоць быў не зломак,*
*А плечы гнуў у крук не раз;*
*Не йшоў з адкрытымі вачыма*
*У свет і сцежкі не праставў,*
*А ўсёй магчмасці магчымай*
*Таптаў сляды, сябе таптаў.*

(Янка Купала. "І прыйдзе", 1926)

Калі проза жыцця амаль сіметрычна супадае з прозай літаратурнай, – то тут адназначна нешта не так. Аднак як і ва ўсіх іншых правілах, у літаратурных таксама ёсць свае выключэнні. І гэткім выключэннем з'яўляецца творчасць сучаснай беларускай пісьменніцы Таццяны Барысік, кніжка




якой “Жанчына і леапард” выйшла ў выдавецтве “Кнігазбор” (“Кнігарня пісьменніка”) у другой палове 2014 года.

Вядома, здараецца і так, што мастацкая праўда цьмянее перад неверагоднай праўдай чалавечага жыцця. І яшчэ больш рэдкая з’ява, калі пісьменнік ахвяруе высокім (*мастацкім)* дзеля нізкага (*рэчаіснага)*, каб адкрыць вочы “сляпым” на сутнасць быцця. Як гэта для сябе вызначыла сама пісьменніца: “Мая кніга — як праца фатографа судмедэкспэртызы. Кожны можа зірнуць на нешта, але ня кожны выглядзіць важныя дэталі”. Хоць наўпрост такія ацэначныя крытэрыі ў дачыненні да творчасці Т. Барысік не зусім падыходзяць. Бо мастацкі складнік яе прозы не настолькі выпуклы і заўважны, як, скажам, наратарскі (бытапісальны), але, загнаны ў падтэкст, ён правакуе чытача на роздум і пэўныя высновы.

*“Любіў шофер учыцельніцу. А яна за яго замуж ісці не хацела. Казала, шофер саляркаю смярдзіць. Дык ён узяў нож – ды ў жывот дзеўцы. Памерла не зразу. Шчэ да самых варотаў бегла. У фартуху свае вантробы несла...”* – *вось такія паданні, мала падобныя да фальклору са школьных падручнікаў, штовечар чуліся на вясковай вуліцы. На лаўках сядзелі, абгаворвалі адна адну глухаватыя бабулькі”.* Гэта пачатак аповеда “Маленства пад горку кацілася”, які, на мой погляд, выдае пэўны сакрэт творчасці пісьменніцы. Вельмі ж блізкая “па канцэпцыі” да гэтых “паданняў” і ўся (сюжэтна немудрагелістая) стылістыка аповедаў Т. Барысік.

У працэсе чытання кніжкі мне давялося спраўдзіць некаторы свой досвед як у нашай, так і ў расейскай літаратуры. Найперш падалося, што такая проза, такое аўтарскае самабытнае пісьмо цяпер вельмі рэдкае, і ўсё ж яно не можа паўстаць на пустым месцы... Таму на нейкі час я занурыўся ў творы Мрыя, Мудрова, Ахроменкі, Тэфі, Зошчанкі... І напэўна, пры вялікім жаданні, нешта з творчасці гэтых вядомых пісьменнікаў можна было б “прыпісаць” да скарыстаных “літаратурных рэцэптаў” Т. Барысік. Падалося, што гэткі яе стыль пісьма ёсць своеасаблівым сімбіёзам стыляў згаданых літаратараў (асабліва што тычыцца аповедаў М. Зошчанкі, аб’яднаных цыкламі, і параўнальна блізкіх з падыходамі нашага аўтара, асабліва ў такіх тэкстах як “Шлях з літаратуры” і “Каханне ў нашым кусце”)...

Дарэчным падаўся мне і вось гэты фрагмент з прадмовы М. Зошчанкі да яго “Голубой книги”: *“Вось ужо пятнаццаць гадоў мы, па сіле сваіх магчымасцяў, пішам смешныя і дасціпныя сачыненні і сваім смехам развясельваем многіх грамадзян, якія жадаюць бачыць у нашых радках менавіта тое, што яны жадаюць бачыць, а не штонебудзь сур’ёзнае, павучальнае ці тое, што назаляе іх жыццю. І мы, верагодна з-за сваёй маладушнасці, бясконца радыя і задаволеныя такімі акалічнасцямі”.*

На пачатку чытання аповедаў Т. Барысік падаецца, што некаторыя ўчынкі, падзеі ды вобразы герояў аўтарам адчувальна ўтрыруюцца дзеля прыдання агульнага іранічнага ці саркастычнага падтэкставага сэнсу. Што ўсё напісанае адбываецца нераўнуючы як у своеасаблівай “сацыяльна-лепразорнай” беларускай зоне. Але пры далейшым знаёмстве з творамі мікіціш, што пісьменніца наўмысна падае нам рэалістычны (рэальны) зрэз правінцыйнай постсавецкай калгаснай вёскі, дзе ўжо немагчымыя аніякія аля-лукашэнкаўскія аграгарадкі, – бо тут адбываецца не тое што заняпад, а, можна сказаць, распад савецкай “арганікі жыцця”. Хоць мне, як былому вясковаму чалавеку, здаецца, што *заходняя* Беларусь, дзе я жыў і цяпер бываю, усё ж, у параўнанні з *усходняй,* пра якую піша Барысік, мае больш прыстойны выгляд і ясней акрэсленыя перспектывы. Але гэта так, мая ўласная

паждадная прывязка да прыцягальнага выбару нацыянальнага беларускага шляху ў будучыні...

Словам, Т. Барысік у сваіх тэкстах распавядае пра выміранне вёскі і смерць нацыянальнага беларускага чалавека. У яе няма ні правых, ні левых, ні белых, ні чырвоных... Ёсць сам *імярэк,* як ён ёсць у яго бясконцых надзённых дзеях і ўчынках на фоне яго падсвядомасных інстынктаў, паколькі свядомасны яго стрыжань парушаны альбо амаль знішчаны ці дэградаваны...

Вось лаканічны сюжэт аднаго з лепшых апаведаў "Вянок цыбулі": у старой вясковай жанчыны Адэлькі памірае муж, якога быццам бы забіў сын, каторы таксама неўзабаве засіліўся, нібыта з адчування віны і пераживання здзейсненага... Гэтак кажуць вясковыя бабы, якія часта перагаворваюць тое. Адэлька ведае тыя перагаворы, яны ёй назолелі, таму яна перастае звяртаць на іх увагу, і ў рэшце рэшт, канчаткова *адзіночыцца* ад суседак і вяскоўцаў, лакалізуючы ўвесь свой боль унутры сябе. І ўсё ж аднойчы не вытрымлівае "ўласнага душэўнага астрогу" і новых нагавораў жанчын, нечакана даючы ім водпаведзь, маўляў, і ў вас тое ж самае, чаму ж вы пра сваё гора не бядуеце і людзям не распавядаеце?! Адсутны пры гэтым аўтар на тым і закругляе сэнс аповеда, звёўшы пачаткі і канцы, паставіўшы ўсіх гэтых людзей у адзін "калаварот": няма абсалютна святых і няма абсалютна грэшных, а ёсць такія, як ёсць – усякія... Толькі спагады і паразумення – вось чаго ім бракуе. Гэта адзін з найбольш цэльных, характарных (і характэрных для сучаснай беларускай правінцыі) апоьведаў: жанчына вяжа вянок цыбулі, нібыта ўласнае жыццё з яго горкіх праяў, успрымаючы ў ім усё – добрае і кепскае – як непазбежнае наканаванне, з якім трэба змірыцца і жыць... А ўсе іншыя – сацыяльныя, ідэйныя і маральныя – высновы пакідаюцца на чытацкае ўспрыманне. Разважаючы над аповедам, пранікаешся адчуваннем вельмі добрага (падрабязнага) амаль дасканалага ведання правінцыйнага жыцця пісьменніцай (не як сузіральніцы, а як *суўдзельніцы*).

Агулам жа ў творах Т. Барысік па сутнасці няма станоўчых герояў і аўтарскай маралізацыі. Як і ў згаданым намі апавяданні. Бадай, адзінае выключэнне заўважана мной у апоьведзе "Перамагчы палтэргейст": *"Самым брыдкім было ўсведамленне таго, што я і такія, як я, дапамаглі яму* (апісанаму бязладдзю жыцця – *Л.Г.*) *адбыцца".*

Вонкава святочны і падспудна грэшна-гнятлівы тон задае аўтар апавяданню "На Каляды". Вось па майстэрску выпісаны для такой саркастычнай прозы лірычны фрагмент: *"Чорнаю хусткай апусцілася на зямлю калядная ноч. Дзікія слівы цягнулі ўвышкі свае каравыя лапы. На небе ўзышлі зоры-зарніцы божыя памочніцы. Пад адзіным на дзве вёскі ліхтаром ззяла мільёнамі бітых шкельцаў снежная неруш. Белы дол стаіўся ў чаканні цуду. Паўсюднае бязлюддзе і цішыня аж да звону ў вушах зрабіліся звыклымі і даўно нікога не насцярожвалі.Напачатку дваццаць першага стагоддзя, ідучы след у след, таптала каляіну на бальшаку, што яднаў Лужок і Засценак, калядная чарада".*

А як запамінальна і ярка выяўлены вобразы калядоўшчыкаў: *"жвавы дробненькі Андрэй Казачок", "ссохлая ў трэску кабета гадоў пяцідзесяці, жыхарка Лужкоў Валя Чацвяртушка", і ўвогуле "вяскоўцаў засталося, як той казаў, паўтары калекі, хто глухі, хто сляпы, хто п'яны"...* І насамрэч – быццам з фільмаў Хічкока: *"Пакрысе звялася яе сямеечка: памерла ад інсульту маці, атруціўся палёным спіртам бацька, п'яны брат засіліўся ў хляве на бэльцы, за ўгон мапеда патрапіў на хімію сын, дадому так і не вярнуўся, пайшоў недзе ў прымы. З усёй іхняе вялікае кодлы застаўся толькі мужык".*

Здавалася б, просты расповед простага чалавека пра звычайныя, з яго боку погляду, рэчы. А на самай справе гэта, аказваецца, схаваная аўтарская правакацыя на заганны лад жыцця ягоных герояў у нашым небеззаганным часе...

А вось характары некаторых герояў: *"Сцяпан Данілавіч застаўся ў вёсцы пасля вольнага пасялення. Працавіты, чулы, уважлівы чалавек. Калі бывае цвярозы, з ахвотаю корпаецца ў градах, ходзіць у калгас на палявыя работы".* ("Жадаю вам"). Якая рызыкоўная антытэза: працавіты-чулы-уважлівы і рэдка калі цвярозы! Менавіта ад такіх мастацкіх тропаў у чытача і выкрасаюцца іскры сарказму. Альбо: *"У сям'і пануе каханне, узаемапаразуменне ды згода. А калі паб'юцца ці нажамі парэжуцца – ну з кім не бывае? – дык ужо назаўтра пахмеляцца, паміраццa і шпацыруюць па вуліцы ў абдымачку. Маці, бацька й меншыя дзеці разам у будні і святы. У дзень палучкі ідуць у кантору. Потым у краму – па віно і цукеркі"* ("Жадаю вам"). Яшчэ: *" Бач ты, п'юць, б'юцца, зімой пад плотам валяюцца, дзеці расхрыстаныя і мурзатыя. І ніякая трасса не бярэ гэтых недаробкаў! Добра, што не бярэ. Сам Бог ахоўвае іх шчасце й здаровейка. Бо менавіта на такіх людзях і трымаецца наша вёска"* ("Жадаю вам").

Але зрэдку сустракаюцца і такія эпізоды, якія выклікаюць спагаду і вінаватасць: *"Лаўка толькі адна, месцаў не хапае. А бабулькі, дзядкі нібы з абразоў пасыходзілі: вочы сумныя, жыццё ў целе ледзь ліпіць, стаяць на кіёчкі абапёршыся, абяцаныя крупы чакаюць – гарох, грэчку, проса"*("Дзень напаўжывога чалавека", гэтак у самім назове аповеда абыгрываецца сапраўдная назва "дня пажылога чалавека"). Пры ўсім заўважна вымалёўваецца пісьменніцай і крэн гендэрнай праблемы беларускай правінцыі: жанчыны і тут ужо (на спрадвечнай тэрыторыі захавання духоўных і культурных нацыянальных традыцый) не саступаюць мужчынам у вульгарным стылі паводзін і амаральнасці... Падзенне ўладнага аўтарытэту мужчын супадае з падзеннем жаночых нораваў (і наадварот). Асабліва ярка гэта выпісана ў аповедах "На Каляды" і "Перамагаючы палтэргейст".

Раз-пораз паўстае пытанне: адкуль усе гэтыя пакалечаныя дзяржаўнай уладай і ўласным лёсам людзі, якіх, не шкадуючы горычы і прыхоўваючы спагаду, апісвае пісьменніца? У апавяданні "Тэлегісторыя" яна наўпрост адказвае на гэтае пытанне, што гэта *"не лепразорый і не зона чалавечага адчужэння"*, а ўсе гэтыя героі, як і *"пыльным мехам пацопаная"* Тамара, жывуць *"у вёсцы Каменка не важна якога раёна. У кожным раёне ёсць свая Каменка"*.

Усё ў лепшых аповедах Т. Барысік разлічана на падтэкставае і падсвядомаснае разуменне чытачом сутнасці *адкрытага* і ***выкрытага*** пісьменніцай. Самы балючы наш, гнойны і найбольш небяспечны аспект *безжыццёвага існавання* людзей глыбокай беларускай правінцыі, дзе: *"...за гэтыя дзесяць-дванаццаць, не варта падлічваць колькі, гадоў жыццё застыла, нічога ў ім не змянілася, за выключэннем дробных дэталяў у біяграфіях некаторых жыхароў нашага райцэнтра, акалічнасцяў, амаль незаўважных староннему воку"*.

Па вялікім рахунку, гэтая "чорная" проза небеспадстаўна змушае чытача суперажываць (спачуваць, любіць) жыццё нават у яго такіх негатыўных, а падчас і гідлівых праявах. Прымаць гэта не як дадзенасць і асуджанасць, а як пераасэнсаванне і выбаўленне з яго шляхам расплаты і пакутаў. Дзеля будучага. Бо яно ўсё ж, пэўным чынам, і наша з вамі жыццё. Беларускае. І магчыма, гэта і ёсць самай значнай і станоўчай высновай ад прачытання саркастычна-іранічных аповедаў кнігі Т. Барысік. Гэткі своеасаблівы гіпертрафаваны стыль сацрэалізму, які, бадай, можна было б назваць і *постсацрэалізмам*.

Ад першай асобы напісаны па сутнасці толькі адзін – першы – аповед ("Па наезджанай каляіне"); ён як бы ўступны і прыхавана аўтабіяграфічны. Аднак стыль напісання не дае ўсумніцца, што самакрытычнасць ды іронія ў характары пісьменніцы непарушныя. І ў гэтым яна не адыходзіць ад вядомай тэзы: любы мастацкі тэкст павінен выяўляць чалавека, і найперш самога аўтара.

Напрыканцы хацеў бы зрабіць колькі суб'ектыўных заўваг. Не, не насыпаць солі на хвост, а як старэйшы і больш вопытны літаратар, засцерагчы маладзейшую

пісьменніцу ад відавочных памылак у далейшым. Скажам, кідаюцца ў вока аднатыпныя стылёвыя пачаткі некаторых апаведаў. Вось адна пара з прафесійным ухілам: *"У аўтобусе смярдзела саляркай"* ("Жанчына і леапард") і *"Любіў шофер учыцельніцу"* ("Маленства пад горку кацілася"). А вось цэлы квартэт з часавай залежнасцю: *"І надышоў вечар"* ("Навіны тыдня"), *"Дзень хіліўся да вечара"* ("Вянок цыбулі"), *"Чорнай хусткай апусцілася на зямлю калядная* ноч*"* ("На Каляды"), *"Дзевяць гадзін на Беларусі", -- як* заўжды знянацку, гаўкнула радыё*"* ("Хроніка маладосці"). Нічога заганнага як бы ў гэтым няма, апроч візуальна заўважнай чытачу звужанасці і стэрэатыпнасці мастацкага і стылёвага падыходу. Адчувальна аскетычная і аўтаномная мова тэкстаў, дзе аўтар з'яўляецца найперш *носьбітам* і *карыстальнікам*, а не ***творцам***, які развівае і нешта ў яе прыўносіць. Хоць, трэба адзначыць, што і наяўная мова апаведаў, як і мясцовая гаворка герояў, вельмі каларытная, не зважаючы на дамінаванне *трасянкі*. З такім малааб'ёмным моўным слоўнікам прытрымлівацца такога адметнага стылю не надта каму ўдаецца. Праўда, можна дапусціць, што пакуль малафарматныя творы Т. Барысік і не патрабуюць большага моўнага запасу, але ў далейшай літаратурнай працы ёй усё ж давядзецца яго дапрацоўваць і пашыраць. Часам сустракаецца памылковы досвед, як вось у гэтым месцы: *"...хто ж яшчэ здатны дзябнуць конаўку брагі, з запаленай папяроскай у зубах залезці на тэлеграфны слуп, падрамантаваць ліхтар і гэткім жа чынам спусціцца долу, не выкінуўшы з зубоў папяроскі?"* Па-першае, на тэлеграфных слупах не манціруюць электрычных ліхтароў, па-другое, якім гэта *"гэткім жа чынам спусціцца долу"*?

Няпэўнай мне падалася і назва кніжкі – "Жанчына і леапард"... Ну ніяк не адпавядае яна зместу выдання, не зважаючы нават на аднайменны апавед. Відаць, аўтар, а мо выдавец, хацелі прыцягнуць увагу чытача кідкай і нечаканай для нашай літаратуры назвай. Але, як па мне, то больш адпаведным, і, можа, не менш "прадажным" быў бы назоў "Перамагаючы палтэргейст" (таксама з аднайменнага апавядання). Зрэшты, ёсць як ёсць.

Усе гэтыя хібы нязначныя і ніяк не перакрэсліваюць майго станоўчага і прыязнага стаўлення да гэтай кніжкі і яе аўтара. Лічу, што ў сваім жанры гэта адзін з лепшых зборнікаў прозы апошняга часу. Таццяна Барысік – пісьменніца адметная і таленавітая, але адчуваецца, што ёй ужо цесна ў межах свайго літаратурнага амплуа. Змест яе жыцця патрабуе творчага развіцця, паглыблення і пашырэння мастацкага свету. Таму хацелася б пажадаць ёй духоўнага росту і далейшага літаратурнага поспеху. А наастатак працытую тое, што найбольш уражліва адклалася пасля прачытання: *"Вяртацца дадому і не ўбачыць на сваім шляху ніводнага следу, апроч уласнага, пакінутага табою па дарозе ўпрочкі, што гэта: праклён ці дабраслаўленне? Невядома. Толькі пражыць такое наканавана не кожнаму"*.

Як напамін суайчыннікам-беларусам.

# З'яўленне інфанты

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Мікола Волкаў. Артылерыя Нясвіжскага замка. — Мінск: А.М. Янушкевіч, 2015. — 188 с.: іл.**

У кнізе на аснове дэтальнага вывучэння разнастайных крыніц разгледжана гісторыя фарміравання і развіцця артылерыі Нясвіжскага замка ў XVI-XVIII стст. Аўтар апісвае ролю артылерыйскага ўзбраення ў сістэме абароны старажытнай радзівілаўскай фартэцыі, звяртае ўвагу на пытанні абслугоўвання і забеспячэння артылерыі амуніцыяй і боепрыпасамі, арганізацыі і функцыянавання спецыяльных вайсковых падраздзяленняў, а таксама прасочвае лёс нясвіжскіх гармат у XIX-XX стст. Багаты ілюстратыўны матэрыял дэманструе гісторыю артылерыі Нясвіжскага замка і ўнікальнае аздабленне яго гармат.

Гэтая кніга будзе цікавая не толькі спецыялістам-зброязнаўцам, але і ўсім аматарам гісторыі вайсковай справы і ваеннага мастацтва. Упершыню на падставе глыбокага вывучэння разнастайных крыніц чытач атрымлівае цудоўную магчымасць адкрыць для сябе новую старонку гісторыі Нясвіжскага замка і славутага роду Радзівілаў.




**Людміла Рублеўская. З'яўленне Інфанты. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 112 с. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 16).**

У калекцыі «дзеяслоўскай» бібліятэчкі – новая кніга. У зборнік Людмілы Рублеўскай увайшлі вершы, а таксама іранічныя мемуары «Бестыярый майго савецкага дзяцінства». Філасофія, інтэлектуальнасць, шлях ад пафасу да горкай усмешкі і незнішчальны нацыянальны рамантызм — тое, што знаходзіцца ў цэнтры ўвагі аўтаркі і яе чытачоў. У выданні сабраныя, як паведамляе анатацыя «гістарычныя вершы-міфы пра Беларусь старасвецкую і рыцарскую, умоўныя вершы-"дакументы" пра Беларусь інсургенцкую, расстраляную... І рэаліі Беларусі сённяшняй, фантасмагарычныя і трагедыйныя, калі часам ратуе толькі іронія».

*Гэтак марыць, плавіць зоры ў талер,*
*Палюбіць уласнае рыззё,*
*Каб спазнаць, што Беларусь — не Алеф*
*Для сусвету, і не ўсё жыццё.*
*Толькі міф. Прыгожы і прыўкрасны.*
*Як жыццё, мне трэба гэты міф.*
*І таму выходзім мы на пляцы,*
*Быццам карабель ідзе на рыф.*

**Андрэй Хадановіч. Нататкі таткі. / Ілюстрацыі, дызайн і мастацкае афармленне Наталія Кійко. — Менск: Медыял, 2015. — 80 с. Надрукавана ў Літве.**




«Нататкі таткі», безумоўна, – з'ява ў беларускай дзіцячай паэзіі. Цудоўна ілюстраваная (варта адзначыць выдатную працу мастачкі Наталлі Кійко), з дасціпнымі й запамінальнымі вершамі, яна ўжо прыйшлася даспадобы маленькім беларусам і іх бацькам.

Андрэй Хадановіч так анасаваў сваю першую кнігу для дзяцей: «На ўсе поры году і на ўсе нагоды. Пра катанне на каньках і на ровары. Пра першага верасня і першы паход у школу. Пра суворы рэжым дзіцячага жыцця ды розныя складанасці выхавання... «Нататкі таткі» пісаліся пяць гадоў. Зразумела, музай-натхняльніцай была і ёсць дачка Алена. Аленка падрастала – і здараліся новыя і новыя нагоды нешта зарыфмаваць. Такія сабе вершы на ўсе выпадкі жыцця».

*У мяне бацькі — звяры!*
*Абуджаюць на зары,*
*Кожны ранак чысціць зубы*
*Прымушаюць, душагубы!*
*На сняданак — пяць хвілін,*
*І ляцім у школу, блін!*
*«Адстаеш! Хутчэй! Рэжым!» —*
*За аўтобусам бяжым.*
*Бах! На дзвюх каленках — вавы...*
*Вось такі рэжым, крывавы!..*

**Аляксей Шэін. Сем камянёў. – Мінск: Пазітыў-цэнтр, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»). – 416 с.**




Доўгачаканы раман-казка пра прыгоды ў чарадзейнай краіне Эферыі, напісаны грамадскім дзеячам, заснавальнікам моўных курсаў і татам траіх сыноў Аляксеем Шэіным, пабачыў свет. У адным з інтэрв'ю аўтар прызнаецца, што яшчэ з дзяцінства марыў стаць пісьменнікам, і падчас працы арыентаваўся на класіку фэнтэзійнага жанру – «Хронікі Нарніі» Клайва Льюіса і «Уладара пярсцёнкаў» Джона Толкіена.

*— Увогуле, кніга пра тры рэчы — каханне, веру і свабоду. Галоўнага героя завуць Ясь, ён падлетак. Ясь трапляе ў чароўную краіну Эферыю, дзе змагаецца за жыццё сваёй невылечна хворай сяброўкі Міркі. Выпадкова Ясь даведваецца, што ў Эферыі калісьці была крыніца жывой вады. Сюжэт пабудаваны вакол пошукаў жывой вады — трэба знайсці сем камянёў, якія падкажуць, дзе схаваная крыніца. Акрамя таго, краіну Эферыю захапіў самазванец, які кіруе народам несправядліва. Галоўны герой паралельна змагаецца і за тое, каб вярнуць свабоду ў краіну Эферыю,* — расказвае Аляксей Шэін.

Густоўнае і стылістычна выверанае афармленне вокладкі кнігі, а таксама малюнкі ў тэксце належаць мастаку Раману Суставу, для якога гэта быў першы досвед працы над менавіта беларускамоўнай кнігай.

